ББК 81.2 Бел-4
Э 93
808.26-321.4

Укладальнікі:
Г. А. Цыхун: Не — Ня, В. У. Мартынаў: Об — Ош,
Р. М. Малько: Па — Пар, І. І. Лучыц-Федарэц: Пас — Пая

Рэдактар
д-р філал. навук В. У. Мартынаў

Рэцэнзенты:
канд. філал. навук Л. Ц. Выгонная,
канд. філал. навук А. С. Сакалоўская

**Этымалагічны** слоўнік беларускай мовы. Т. 8. Н—П /
Э 93 Уклад. Г. А. Цыхун і інш.; Рэд. В. У. Мартынаў.— Мн.: Навука і тэхніка, 1993.— 270 с.
ISBN 5-343-00962-Х.

Восьмы том слоўніка ўключае этымалагічны аналіз беларускай літаратурнай і дыялектнай лексікі на літары Н—П. Будуецца на тых жа прынцыпах, што і папярэднія тамы. Вялікая ўвага ўдзяляецца лінгвагеаграфіі слоў, словаўтварэнню, семантычным зрухам.

Разлічаны на лінгвістаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў, этнографаў і ўсіх, хто цікавіцца сувязямі беларускай мовы з іншымі славянскімі і неславянскімі мовамі.

Э $\frac{4602030000-108}{М316(03)-93}$ 110—92

ББК 81.2 Бел-4

ISBN 5-343-00962-Х



# Н

**Не́марач**$_1$ 'слабасць' (Касп.). Відаць, нельга аддзяляць ад гродз. *на́марач* 'дурман, одум' (гл.), утворанага ад *маро́чыць, маро́ка; не-* можа мець узмацняльны характар, параўн. рус. *неу́валень* 'цяльпук' паралельнае да *у́валень* 'тс' (СРНГ), або з'явілася пад уплывам сіноніма *не́мач.*

**Не́марач**$_2$ 'бездань' (Сцяшк. Сл.). Вытворнае ад *мо́рак* 'змрок' (гл.), параўн. палеск. *мо́рочне* 'нізкае, топкае балота' (*моро́чне болото,* гл. Талстой, Геогр., 187: «*Морочне болото* следует, вероятно, этимологизировать как 'мрачное, темное болото'... Наименование болота по признаку цвета — довольно распространенное явление в славянской географической терминологии»), з іншай ступенню вакалізму *немярэч, не́мярэча* (гл.) з *не-,* якое мае ўзмацняльны характар.

**Немарэ́ч** 'непраходныя месцы, нетры' (Гарэц.), *немарэ́ча* 'гушчар лесу' (Сцяшк. Сл.). Гл. *немярэча* 'тс'.

* **Немаўга́д,** *немоўга́д, немоўга́доў, немоўга́ду, немоўга́ды* 'невядома, немаведама' (ТС). Выходная форма, відаць, *немоўгаду,* якая можа ўзыходзіць да спалучэння *нема* (гл. *няма*) і *ўгаду* (гл. *гада́ць*), зафіксаванага на Тураўшчыне, параўн. *нема весці* 'немаведама' (ТС), брэсц. *нывгадь* 'тс' (Сл. Брэс.).

**Немаўля** 'малое дзіця' (ТСБМ), іншыя формы, адзначаныя ў мастацкай літаратуры: *немаўляшка* (Багдановіч), *немаўлёнак* 'дзіця, якое знаходзіцца яшчэ ў лоне мацеры, не радзілася на свет' (Лужанін), *немаўлятка* і пад., гл. Рапановіч, Лекс. і грам., 26—27. Адсутнасць слова ў народных гаворках сведчыць пра запазычанне, параўн. польск. *niemowlę*, укр. *немовля́* 'дзіця, што яшчэ не гаворыць' (Грынч.), якія маглі быць непасрэднымі крыніцамі запазычання (асабліва апошняе). Ст.-бел. *немовя* 'грудное дзіця' (пачатак XVII ст.), паводле Булыкі (Лекс. запазыч.), са ст.-польск. *niemowlę*, хутчэй *niemowię*, што ў сваю чаргу запазычана з чэшскай, параўн. заўвагу Урбанчыка адносна польск. *niemowiątko*, якое ўпершыню з'явілася ў перакладзе Бібліі (ZPSS, 8, 460). Гл. таксама Фасмер, ZfSlPh, 12, 120; Вінцэнц, Slavica Hierosolimitana, 7, 245—252; Брукнер, 360.

**Не́мач** 'слабасць, бяссілле, хвароба' (Нас., Касп., Грыг., Гарэц., Чуд., Яруш., Пятк. 2, Жд. 2, Янк. Мат., ТС, Сцяшк.), 'хвароба, ліха' (чавус., Нар. сл.), 'слабасць, перашкода' (дзярж., Нар. сл.), *pietač* 'нейкая пошасная хвароба была

за прыгонам' (Варл.), *нéмач* 'д'ябал, чорт' (Сл. ПЗБ), укр. *нéміч* 'хвароба, слабасць', рус. *нéмочь* 'хвароба', польск. *niemoc* 'хвароба, бяссілле', чэш., славац. *nemoc* 'тс', луж. *njemoc / njamoc* 'тс', славен. *nemôč* 'слабасць', серб.-харв. *нѐмоћ*, мак. *немоќ, немош* 'слабасць, хвароба', балг. *немощ*. Прасл. **nemoktь*, да **mogti*, гл. *магчы*.

**Нéмец**$_1$ 'нямко, нямы чалавек' (ТС), *нéмяц* 'глухі, глуханямы' (Мал.), *нéміц* 'вельмі маўклівы' (міёр., З нар. сл.), рус. *нéмец* 'нямы чалавек; чалавек, які невыразна, незразумела гаворыць', славен. *némec* 'нямко', серб.-харв. дыял. *немьц* «онај ко је нем, без моћи говора» (СДЗб., 29, 147), балг. *нéмец* 'нямы чалавек'. Прасл. **němьcь*, утворана ад *němъ*, гл. *нямы*.

**Нéмец**$_2$ 'немец' (ТСБМ, ТС), *нéмяц* 'тс' (Мал., Жд. 1, Цых.), укр. *німець*, рус. *нéмец*, польск. *Niemiec*, чэш. *Němec*, славац. *Nemec*, в.-луж. *Němc*, н.-луж. *Nimc*, славен. *Némec*, серб.-харв. *Нéмац*, мак. *Немец*, балг. *нéмец*. Прасл. тэрмін, фіксуецца ў візантыйскі перыяд (1088) як Νεμίτζοι. Паходжанне этноніма застаецца канчаткова нявысветленым, найбольш верагодныя дзве версіі. Згодна з першай версіяй, ад *немец*$_1$ (гл.) з развіццём семантыкі 'чалавек, што гаворыць няясна, невыразна' да 'чужаземец' (з канкрэтызацыяй 'немец'), гл. Брукнер, 360; Фасмер, 3, 62; Шустар-Шэўц, 13, 998; Мартынаў, Лекс. взаим., 102—104 і інш. Паводле другой версіі, што ўзыходзіць да Шафарыка, з кельцкай назвы германскага племені *Nemetes*, адзначанай рымскімі аўтарамі, што звязваецца з кельц. *nemet* 'свяшчэнны, знатны', гл. Шахматаў. К вопросу о древн. слав.-кельт. отношениях. Казань, 1912, 37. Аднак абедзве версіі сустракаюць пярэчанні, параўн. Ковалев Г. Ф. Общеславянский этноним *немец*. Мат. по русско-слав. языкознанию. Воронеж, 1977, 41—45. Форма *Нéмцы* 'Германія' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *Немци*: оутечеть оу Немци и Пр8сы (XVII ст., Карскі, 2—3, 329) з польск. *Niemcy* 'тс', звычайна *Нямéччына (Немеччына)* (Нас.).

**Нéмец**$_3$ 'гульня' (Бяльк.), 'пасаж у гульні' (ТС), *нéмчык* 'тс' (ТС). Няясна, хутчэй за ўсё да *нéмец*$_2$, аднак матывацыя застаецца нявысветленай.

* **Нéмістам**, *нэ́мыстом* 'знарок, наўмысна' (пін., Нар. лекс.). Няясна.

**Нéмка**$_1$ 'нямая жанчына' (Сл. ПЗБ, Сцяшк., Федар., Бяльк., ТС), укр. *німка*, рус. *нéмка*, польск. *niemka*. Да **němъ*, гл. *нямы́*.

**Нéмка**$_2$ 'немка' (ТСБМ), укр. *німка*, рус. *нéмка*, польск. *Niemka*, чэш. *Němka*, славац. *Nemka*. Паўночнаславянскае ўтварэнне ад **němъ* (гл. нямы́), паралельнае да *немец*$_2$.

**Немтурá** 'немцы (зневаж.)' (ТС). Гл. *нямтýр*.

**Немчугáн** 'немец (зневаж.)' (ТС). Да *немец*$_2$ з экспрэсіўнай



суфіксацыяй, параўн. *зладзюгáн* (ад *злодзей*), *ваўчугáн* (ад *воўк*) і пад.

**Немчурá** 'немцы (зневаж.)' (Янк. БП). Гл. *нямчýр*.

**Нéмы**: *нéмы гóлас* 'страшны, ненатуральны голас, падобны на голас нямога чалавека' (Некр.), *нéмы* 'страшны, замагільны' (але *нямы́* 'нямы чалавек', там жа), 'роспачны, дзікі': *немым голосом крычыць* (Сл. ПЗБ), *немы́м гóлосом, немýм дýхом* 'страшна, дзіка (крычаць, раўці і пад.)' (ТС). Семантычная інавацыя, якую тлумачыць Некрашэвіч: ад *нямы́* 'пазбаўлены здольнасці гаварыць' (Некр., 227), у шэрагу гаворак утварыліся акцэнталагічныя амонімы на яе базе.

**Нéмыря** 'жах, немарасць, страх' (Бяльк.), што адпавядала б літаратурнай форме **нéмара*. Па форме і семантыцы зближаецца з *нéмарасць* (гл.), варыянт *нё́марась*; здзіўляе падабенства са славен. *nemârje* 'неасцярожнасць, няўвага', *nemâra* 'магчыма' і асабліва *kakor nemarâst* 'нешта гнюснае' (параўн. *uroki in vsa taka nemarast*), якое Бязлай (2, 219) лічыць роднасным да прасл. **mara*, гл. *марá* 'прывід, страшыдла, здань; нешта брыдкае', што ставіць пад сумненне балтыйскую этымалогію бел. *нéмарасць*.

**Немярэ́ча** *(німярэча)* 'непраходнае балота' (Яруш.), *нéмярэч (немеречь)* 'непраходнае месца ў лесе; балоцістае месца сярод лесу, заваленае ламаччам' (Нас.), *нéмерача, нéміріч, німярэ́ч, німярэ́чча* 'непралазныя зараслі ў лесе' (Бяльк.), *німярэ́ч* 'нетры' (Яруш.), *немарэ́ча* 'гушчар лесу' (Сцяшк. Сл.). Этымалагічна звязана з *мярэ́ча* 'непраходнае балота, багна; нетры' (гл.), з якім можа выступаць як сінонім, параўн. *нимяреча, мяреча* 'балота' (Максимов, Смол.); для этымалогіі слова паказальна смал. *немерéчча* 'непраходнае месца ў лесе' і 'дрэннае надвор'е' (Дабр.), што дазваляе звязаць яго з *мóрак* 'змрок' з іншай ступенню вакалізму (Талстой, Геогр., 187—188), параўн. *немарач* (гл.). Пачатковае *не-* тлумачыцца як паказчык адмоўнай прыкметы (Талстой, там жа) або як словаўтваральны элемент ці «пусты» прэфікс, параўн. рус. *нéклен* 'чарнаклён' і пад. (Фасмер, 3, 60; 2, 447).

**Ненавíдзець** 'мець антыпатыю да каго-небудзь ці чаго-небудзь' (Яруш., Пятк., БРС, ТСБМ). Агульнаславянскае ўтварэнне ад *naviděti*, гл. *навідзець, навіды*, параўн. укр. *ненáвидіти*, рус. *ненавúдеть*, польск. *nienawidzieć*, чэш. *nenávidět*, славац. *nenávidieť*, славен. арх. *nenavídeti*, серб.-харв. *ненáвидети*, макед. *ненавиди*, балг. *ненавúждам* (Міклашыч, 390; Фасмер, 3, 63, Бязлай, 2, 220).

**Ненавíдны** 'ненавісны' (Янк. 1, ТС), 'змрочны, пануры' (ТС), 'агідны, брыдкі' (бяроз., Шатал.), укр. *ненавúдний* 'ненавісны', рус. *ненавидный* 'нядобразычлівы, злы', польск. *nienawidny* 'ненавісны', чэш. *nenáviděny* 'тс', славен. *nenáviden*,

серб.-харв. *ненавидан* 'зайздросны; пра таго, хто ненавідзіць', ст.-слав. **ненавидѣньнъ** 'ненавісны'. Ад *ненавідзець* (гл.).

**Ненаві́сны** 'змрочны, насуплены' (ТС), 'які выклікае пагарду, агіду або выражае нянавісць' (ТСБМ). Ад *нянавісць*.

**Ненае́да** 'ненажэра, заўсёды галодны, ненае́дак, ненаедны чалавек' (Яўс.), *ненае́днік* 'прагнюка, злыдзень' (Янк. 2), *ненаедны* 'ненасытны; прагны' (Янк. 2, ТС). Да *е́сці* (гл.), параўн. Сендравіц, ЭИРЯ, 9, 225—227.

**Ненажэ́рны** 'ненасытны, прагны' (Касп.), *нінажо́ра* 'абжора' (шчуч., З нар. сл.). Да *жэ́рці* (гл.).

**Ненайгра́ны** 'неаплоднены (пра яйцо)' (ТС). Да *ігра́ць* 'спарвацца (пра птушак)'.

**Ненапа́мкі** *(нінапамкі)* 'няўцям' (Сцяц.). Гл. *напамкі*.

**Ненаро́кам** 'незнарок; жартам' (Нас.), 'праўда, на самай справе; незнарок' (дзярж., З нар. сл.), 'незнарок, выпадкова' (в.-дзв., Шатал., Сцяц.), ст.-бел. *ненарокъ* 'незнарок' (Гарб.). Гл. *наракам, нарок*.

**Ненасло́ў** *(нінасло́ў)* 'няўрокам, каб не зрачы' (Бяльк.). Відаць, з **не-на-слов* (гл. *слова*) як *не-на-рок*, гл. *ненарокам*.

**Ненаўцёй,** *нінаўцёй* 'нечакана' (Бяльк.). Рус. дыял. *ненавтей* 'нечакана, незнарок'. Другая частка (пасля адмоўя *не-*) звязана з *-цеяць*, гл. *зацеяць, зацей,* паралельным да *-цяваць*, параўн. *выцяваць* 'выдумляць' (Нас.), што суадносяць з *таіць* (Гараеў, 114; Ілліч-Світыч, ВЯ, 1959, 7—8), рус. наўг. *неначай* 'нечакана, незнарок; раптоўна' (ад *чаяти* 'чакаць') тлумачыць семантыку зыходнага дзеяслова. Устаўка *ў* як у выпадку *нацянькі, наўцянькі* 'нацянькі, проста' (Бяльк.), гл. *наў-*. Параўн. *няўцейкам*.

**Не́нашта** 'чагосьці' (калінк., З нар. сл.). З+ *не-на-што*, параўн. *нашто́* 'для чаго', зыходная семантыка 'невядома для чаго', г. зн. 'нечага', параўн. *не́павошта* 'без прычыны, невядома для чаго' (Нас.).

**Не́ндза** 'клопат, турботы' (ТС). Гл. *нэ́ндза* 'тс'.

***Не́нька**₁, *нэ́нька* 'калыска' (Сл. Брэс.), 'калыска (толькі вісячая)' (брэсц., Нар. лекс.), параўн. таксама *ня́нька* 'вісячая калыска' (кобр., ДАБМ), укр. валын. *нэ́нька, ня́нька, на́нька* 'калыска', апошняе знаходзіць дакладную адпаведнасць у балг. *на́нкъ* 'тс'. Тыповае ўтварэнне на базе дзіцячай мовы, як сведчыць балг. *нана* 'спаць (пра дзіця)', макед. *нани-нани* 'выклічнік пры калыханні дзіцяці' і пад., гл. Грыцэнка, Ареальне вар. лекс., Київ, 1989, 207.

**Не́нька**₂ *(нэнька?)* 'рыбалоўная рухомая пастка з адным адкрытым заходам (звычайна лазовая)' (палеск., Крыв.). Відаць, да папярэдняга слова, што тлумачыцца падабенствам рэалій (форма, матэрыял пляцення і пад.), параўн. *калыска* 'кломля, рыбалоўная рухомая пастка з адкрытым заходам для лоўлі рыбы ўдваіх на неглыбокіх месцах' (там жа).



**Не́нькі** *(ненький)* 'нейкі' (Бяльк.). Вынік прыпадабнення *j>н'*.

**Не́павадзь** (*nie̋pavadź*) 'нясмелы, нецямкі, убоісты' (Варл.). Відаць, да *паво́дзіць* (сябе) 'трымацца, весці сябе', параўн. рус. *непово́дный* 'непрылюдны, няўжыўчывы, нявэтлівы; непаслушны, упарты'.

**Не́пагадзь** 'непагода' (Касп., Сл. ПЗБ, Бяльк.). Да *паго́да* (гл.).

**Не́падабень** 'пра непрыгожую, неахайную асобу' (жлоб., Жыв. сл.). Да *падо́бны* 'уласцівы, прыстойны', параўн. *нпадобны* 'брыдкі, неахайны' (там жа), 'непрыстойны, неўласцівы; неверагодны' (Нас., Яруш.), усё да *падаба́ць* 'любіць, мець прыхільнасць' (гл.). З іншым значэннем *непадо́бны* 'які не мае падабенства да каго-небудзь ці чаго-небудзь' (Гарэц., ТСБМ), развіццё семантыкі зыходнага *падобны* ад 'падыходзячы' да 'маючы падабенства'. Іншае развіццё значэння дэманструе хойн. *непадобнасць (нэпадобнасць)*: *«возьми ад е́тага чалавека нэпадобнасць, каторая дадзяна доўгими рука́ми»* (Полес. этнолингвист. сб., 100), параўн. польск. *niepodobność, niepodobieństwo*, адно са значэнняў якога 'злосць, непрыстойнасць, нягоднасць' тлумачыцца праз стадыю 'рэч немагчымая, непадобная да праўды' (Варш. сл.), адкуль і ст.-бел. *неподобность, неподобенство* 'немагчымасць, неймавернасць; немагчымая, непраўдападобная рэч' (пач. XVI ст., КГС).

**Непадле́глы** 'незалежны' (БРС, ТСБМ), *непадле́гласць* 'незалежнасць, самастойнасць' (там жа), *неподле́глый* 'незалежны, свабодны; непадуладны, непадначалены' (пач. XVI ст., КГС). Хутчэй за ўсё запазычана з польск. *niepodległy, niepodległość* 'тс' як юрыдычны тэрмін, чым тлумачыцца адсутнасць у гаворках, параўн. дыял. *подлега́ць* 'падыходзіць', *подле́гці* 'падкаціцца, падлашчыцца' (ТС) і інш.

**Непадчу́жду** *(ніпадчу́жду)* 'недарэчы, кепска, не на карысць' (Бяльк.). Няясна; незвычайная фанетыка (спалучэнне *жд*< *dj?) прымушае бачыць у аснове ст.-слав. **чюждъ**, гл. *чужы*, аднак пры гэтым цяжка вытлумачыць семантыку.

**Непазбы́ўны** 'якога цяжка пазбыцца' (Нас.), *непазбы́ўна* (Гарэц.). Да *пазбыцца* 'вызваліцца ад каго- ці чаго-небудзь'.

**Непазо́рны** *(непазо́рный)* 'непрыглядны, непрывабны' (Яруш.). Гл. *пазо́рны (позо́рный)* 'прыгожы на выгляд' (Нас.).

**Непака́заны** 'неймаверна вялікі' (мядз., Жыв. сл.). Незвычайную семантыку тлумачыць зафіксаванае Насовічам *непока́заный* 'неадпаведны, недазволены', г. зн. 'які нельга нават паказваць' з пераносам значэння 'які нельга нават сабе ўявіць'.

**Непака́йна** *(ніпыка́йна)* 'без споведзі' (Бяльк.). Да *пака́яцца, ка́яцца* (гл.).

**Непакаля́ны** *(непокаля́ны)* 'незабруджаны, незапэцканы' (Арх. ТС). Да *пакаліць* 'забрудзіць, запэцкаць; вымазаць'. Меркаванне Булыкі (Лекс. запазыч., 134) пра запазычанне ст.-бел. *непокаляный (непокаланный, непоколяный)* 'незаплямлены; бязгрэшны' (1598) са ст.-польск. *niepokalany* 'тс' грунтуецца, відавочна, на прыналежнасці да царкоўнай тэрміналогіі (параўн. *niepokalane zaczęcie* 'бязгрэшнае зачацце' Брукнер, 214), аднясенні да польск. *kał* 'бруд, гразь' і акцэнталагічных асаблівасцях слова, што, аднак, нельга лічыць дастаткова доказным: зыходны дзеяслоў *калíць (кaля́ць)* 'мазаць, пэцкаць' (гл.), з якога выводзіцца значэнне старабеларускага слова, мае праславянскі характар, а шырокае ўжыванне дзеяслова *пакалíць (пакаля́ць)* у народнай мове, у тым ліку і ў архаічных палескіх гаворках, якія дэманструюць значную ўстойлівасць у адносінах да польскіх запазычанняў, не дае падстаў прыняць выказанае меркаванне.

***Непалéтак,** *нэполíток* 'неўраджай, няўрод' (брэсц., Нар. лекс.). Відаць, да *палéтак* (гл.), аднак матывацыя застаецца нявысветленай.

**Непамысло́та** 'непрыемнасць' (Сцяшк.), сюды ж *niepamysnaść, nipatysłaść* 'неспакой, устурбаванасць' (Варл.), *непамы́снасць, непамы́сносць* 'непрыемнасць' (Сл. ПЗБ). Утворана ад *непамы́слны* 'неадпаведны думцы, намеру, жаданню' (Нас.), што, відаць, магло быць запазычана з польск. *niepomyślny* 'няўдалы, неспрыяльны' (гл. Сл. ПЗБ); пра гэта сведчыць перш за ўсё фанетыка і лінгвагеаграфія — словы фіксуюцца пераважна на захадзе беларускай моўнай тэрыторыі; адзінкавае рус. кастрам. *непомы́сленный* 'такі, які не падабаецца, не па душы' можна разглядаць як самастойнае ўтварэнне са спалучэння **не по мысли* 'не так, як думалася, меркавалася, хацелася'. Параўн. *наймысля, наймысна* (гл.).

**Непанёмісты** 'някемлівы' (Касп.). Мясцовае ўтварэнне ад *панімáць* 'разумець, кеміць'.

**Нéпапуч** 'не горш': *Баюсь, каб не здарылася непапуч таго, як у мяне* (Касп.), *непапу́шч (непопущъ)* 'тс' (Нас.), *непапушчы* 'быццам як, прыкладна так як' (Юрч. Фраз. 2). Апошнія варыянты слова дазваляюць звязаць яго з *папу́шчыць*, што ў сваю чаргу да *пу́шчыць (пущиць)* 'рабіцца горш, прыходзіць у горшы стан' (Нас.), гл. *пу́шча* 'горш'.

**Нéпасць** 'нечаканасць', у выразе: *з нéпасці* — нечакана (Сл. ПЗБ). Няясна, магчыма, да *пасць, пáдаць* 'падаць, нечакана з'яўляцца', параўн. фразеалагізм *ні села, ні пала* 'знянацку, нечакана, не раздумваючы'.

**Непахарэ́мны** 'хваравіты і капрызны' (Сл. ПЗБ). Няясна; каранёвы элемент нагадвае польск. *chory* 'хворы', аднак словаўтваральная структура застаецца нявысветленай.



**Неперальí̆кі** 'безвыходны стан' (Касп.), 'неспакой, трывога, пагроза' (Варл.), 'не на жарт' (Шат.), *неперэ́ліўкі, непярэ́ліўкі* 'дрэнь справы, бяда будзе' (Янк. 1, ТС), ст.-бел. *непереливки* 'не жарты, сур'ёзная справа' (пач. XVI ст., КГС). Меркаванне Шатэрніка пра запазычанне з польск. *nie przelewki* 'тс' не зусім абгрунтаванае, паколькі патрабуе дапушчэння фанетычнай адаптацыі слова ў беларускай мове. Хутчэй можна разглядаць як уласна беларускае ўтварэнне на базе фразеалагізма *піва не пераліўкі* 'пра цяжкае становішча, калі няма часу на разважанні', параўн. у скарочаным выглядзе *не перэліўкі* 'не паласа, нічога добрага не чакай' (ТС); ад *пераліць*, гл. *ліць*.

**Нéпладзь** 'бясплодная жывёліна': *кобыла неплодзь* (Нас.). Згодна з Карскім (2—3, 41), рэдкі архаізм, дзе захавалася аснова на *-ĭ-*.

**Нéпрас** 'нягоднік': *непрас, ні мáцер, ні бáцька не послухае* (ТС). Няясна; магчыма, да *прасіць, прасіцца* 'пытацца (згоды)' або ад польск. *niefrasobliwy* 'легкадумны, бесклапотны' пры *fras* 'клопат, смутак' (<ням. *fressen* 'з'ядаць, грызці; перан. перажываць', гл. Слаўскі, 1, 237) з натуральнай субстытуцыяй у народных гаворках (параўн. *пасоля*<*фасоля*), аднак шляхі з'яўлення слова на беларускай глебе застаюцца ў апошнім выпадку нявысветленымі.

**Непрасцёвы** 'злапамятны' (Сцяшк. Сл.). З *не* і *прасціць* 'выбачыць' (гл.), г. зн. 'які не выбачае'.

**Непрыéмны** 'антыпатычны, прыкры' (БРС, ТСБМ). Запазычана з польск. *nieprzyjemny* 'тс', пра што ўскосна сведчыць незафіксаванасць слова ў дыялектных слоўніках. Спецыяльна пра беларускае слова гл. Унбегаун, RES, 1929, 1—2, 19.

**Непрылю́дны** 'нелюдзімы' (міёр., Нар. сл.), *няпрылю́дны* 'тс' (Сл. ПЗБ), *нэпрылю́дны* 'непрыемны, няветлівы, дзікілівы' (Полес. этнолингв. сб., 10), *непрылю́дак* 'маўклівы, дзікаваты чалавек' (мядз., Нар. сл.), 'нелюдзень' (Жд. 1). Можа разглядацца як недакладная беларуска-сербахарвацкая ізалекса, параўн. серб.-харв. *неуљудан човек*, якому адпавядае зах.-палеск. *нэпрылюдна людына* (Талстыя, Полес. этнолингв. сб., 10), што, аднак, не дае падстаў для рэканструкцыі адпаведнага праславянскага слова. Хутчэй за ўсё, самастойнае ўтварэнне на базе спалучэння *пры людзе*>*прылюдна*, як рус. *при народе*>*принародно* 'яўна, на вачах у людзей', якое магло ўзнікаць у розныя перыяды ў асобных славянскіх мовах, параўн. дакладны адпаведнік славен. *nepriljuden* 'маўклівы, няветлівы, нелюдзімы'.

**Непрыто́мны** 'які страціў прытомнасць, знаходзіцца ў бяспамяцтве' (Нас., Нік. Оч., Касп., Варл., Сл. ПЗБ, БРС, ТСБМ), 'які не кантралюе свае паводзіны' (ТС). Ад *прыто́мны* (гл.).

**Непрыту́жны** 'лёгкі, які лёгка пераносіцца': *Непрытужная зіма була, лёхкая* (ТС). Да *прыту́жны* 'заўзяты, шчыры' (гл.).

**Непрыты́ка** 'недатыка' (Мядзв.), параўн. рэдкае ўкр. *непритúка* 'беспрытульны, валацуга' (Грынч.). Мясцовае ўтварэнне на аснове дзеяслова *прытыка́цца* 'дакранацца' (гл. *тыкаць*) па шырока вядомай мадэлі слоў тыпу *недаты́ка, незачэ́па*, рус. *недотро́га* і г. д.

**Непрыя́зны** 'непрыхільны' (БРС, ТСБМ). Гл. *прыя́зны*.

**Непрыя́цель** 'вораг' (Нас., Гарэц., Мал., Сл. ПЗБ, ТСБМ). Гл. *прыя́цель*.

**Непутны́** 'разбэшчаны, непаслухмяны' (Яўс.), *непутны́й* 'малапутны, бесталковы' (Бяльк., Янк. Мат.), *не́пуць* 'бязладны чалавек, шалапут' (Мат. Маг.), *непуцьцё* 'шалапутны, распусны, бяспутны чалавек' (мсцісл., З нар. сл.), 'недарэчнасць' (Бяльк.). Да *пу́тны* (гл.), шлях семантычнага развіцця дэманструе тураўск. *не́пуць* 'распусціца, бездараж' і 'бесталковы чалавек' (ТС).

**Не́пша** 'прымесь (у просе)': *Насееў проса, змалацій — адна непша* (Ян.). Відаць, цікавы архаізм (прасл. **ne-pьx-ja?*); да **pьxati* 'таўчы', г. зн. 'тое, што не таўчэцца', параўн. *пшано, пшаніца* (гл.).

**Не́раб** 'гультай, лодар' (Сцяшк.). З *не* і *рабіць* (гл.) пры дапамозе т. зв. нулявой суфіксацыі.

**Не́радзь** 'неўраджай, неўрадлівы год, недарод' (Сцяшк.; любан., Жыв. сл.; слаўг., Нар. сл.), *не́родзь* 'тс' (ТС). Сюды ж *не́радзь* (*nieradź*) 'дробныя ягады; заморкі, няўдалая гародніна' (Жд. 1; в.-дзв., Шатал., Арх. Фед., ТС), 'што-небудзь дробнае, невялікага памеру, росту' (Сл. ПЗБ), 'машкара' (свісл., карэл., Сл. ПЗБ), *ня́радзь (ня́рацъ)* 'тс' (зэльв., Сл. ПЗБ). З *не* і *радзіць* (гл.). Меркаванні пра запазычанне часткі пералічаных слоў са значэннем 'машкара', 'што-небудзь дробнае, невялікага памеру, росту' з літ. *neręčia* 'нікчэмнасць, нечысць (пра мух), ненасытны чалавек, пераборлівае ў ядзе парася' (гл. Сл. ПЗБ) не пераконвае, пакольқі значэнне 'машкара' добра выводзіцца са значэння, 'нешта дробнае, малое, дрэннае', што ў сваю чаргу з 'якое не ўрадзілася'.

**Неразгара́ка** 'нязграбная, няўмелая асоба' (кап., Жыв. сл.). Відаць, утворана ад *разкара́ка* ці *раскірэ́ка* 'нязграбная асоба, клышаногі чалавек' (гл.) пры дапамозе ўзмацняльнага *не-*, якое было далучана пасля дээтымалагізацыі зыходнага слова; пераход *к*>*г* у інтэрвакальным становішчы, як у дыялектным *стаган*<*стакан* і інш.

**Не́рам** *(не́ром)*, у фразеалагізме *не́ром лежа́ць* 'моцна жадаць'. Няясна; павінна выводзіцца з незафіксаванага *нер*, магчыма, *нерх*? (гл.).



**Не́рамасць**, *нермасць* 'турбота' (Сл. ПЗБ). Запазычанне з літ. *nērimastis* 'трывога, турбота', параўн. таксама *немарасць*, гл. Грынавяцкене і інш., LKK, 16, 184; Яна ж, 22, 193; Лаўчутэ, Балтизмы, 70.

**Не́раст** 'нераставанне' (Яруш., Сцяшк., Шат., Сл. ПЗБ, ТСБМ), тое ж *не́рас, на́раст, но́раст, нэ́раст* (Сл. ПЗБ; полац., З нар. сл., Касп.), *не́раст* 'час нераставання' (Гарэц.), *не́рэс, не́рэст* 'нераст, нерасцілішча' (ТС); сюды ж *нераставáць, нараставáць* 'адкладваць ікру' (Шат., Сл. ПЗБ), *нерэсціцца* 'тс' (ТС), укр. *не́ресть* 'нераставанне', рус. *нерест, нерост, нерс, норост, нересть* 'тс', *нереститься, не́рститься, норости́ться* 'нераставаць', польск. *mrzost, mrzoszczyć się*, каш. *nërx*, н.-луж. *nerch*, в.-луж. *ńerk*, ст.-чэш. *neřest*, славац. *neres(ť)*, славен. *mrêst, drêst, mrestiti se, drêstiti se*, серб.-харв. *мре̑ст, мре́стити се*, балг. *мрест, мре́стя се*, мак. *мрести се*. Прасл. **nerstъ, nerstiti (sę)*, роднаснае літ. *ne͂ršti*, лат. *ne̊rst* 'адкладваць ікру', з чаргаваннем галосных, літ. *na͂ršas* 'ікра', лат. *nársts* 'нераставанне, спарванне', што дае падставы для рэканструкцыі асновы **nors-* (Зубаты, 1, 2, 108—109; Фасмер, 3, 65; Махэк, 396; Бязлай, 2, 200; Шустар-Шэўц, 13, 996). Гл. таксама Атрэмбскі, Slavia, 19. 74—75; Голамб, Палянскі, Slavia, 29, 528; Атрэмбскі, WSl, 10, 273—274. Варбат (ОЛА, 1975, 129—140) прапануе гіпотэзу аб роднасці балтаславянскага **ners-* (<і.-е. *ners-*, насуперак Міклашыч, 213; Буга, 2, 504, з **nerk-*), рус. *не́ршиться* 'нераставаць' і *но́рохтиться* 'мець намер, жаданне да чагонебудзь; спрабаваць, рабіць спробу што-небудзь зрабіць'. Гл. таксама Шаў, Slavia, 49, 208—214; SP (Brno) 25, 332—237; Лаўчутэ, Балтизмы, 146 («сумніцельны балтызм»). Паводле Бязлая (2, 200), семантыка слоў з асновай **ners-*, **nors-* у славянскіх мовах служыць для абазначэння апладнення ў рыб, жаб і птушак; у гэтай сувязі выклікае цікавасць значэнне тур. *не́рэс* 'гон': *Грыб у ве́рэс, заец на не́рэс* (ТС).

**Не́рат** 'рыбалоўная прылада з лазовых дубцоў або сеткі' (Нас., Гарэц., Маш.; быx., Рам.; бабр., Шн., Анік., Бяльк., Шат., Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'рыбалоўнае начынне звычайна з лазовых пруткоў у выглядзе доўгага кошыка з лейкападобнай адтулінай і без крылляў' (Яшкін, З жыцця, 128), 'жак без крылляў' (Дэмб.), *нерат* альбо *норат* 'спецыяльнае рыбалоўнае прыстасаванне, звязанае з шнуркоў з гнутымі драўлянымі рабрынамі ўсярэдзіне, з адтулінай спераду, што звужаецца ў адну кропку' (Мядзв.), *не́рэт, неро́та* 'рыбалоўная стаўная пастка з адным глухім заходам (з нітак або лазовая)' (Крыв.), *няро́та* 'тс' (Сержп. Грам., 51), *неро́та* 'сплеценая з лазы снасць на ўюноў' (ТС), *не́рат* 'спецыяльная сетка для лоўлі рыбы і птушак' (Шат.), *но́рат* 'рыбалоўная прылада' (полац., Шн.), 'від рыбалоўнай прылады; вераўчаная сетка браць сена ў

дарогу' (Касп.), *нáрат, нарот, нярот, нóрат* 'тс' (Сл. ПЗБ), *нератоk* 'вяровачны мяшок для сена каню ў дарогу' (Сцяшк. Сл.), укр. *нéрет* 'від рыбалоўнай сеткі', рус. *нéрот, неред, нерёд, нереда, нерёда, нерёто, нóрот* 'тс'. Звязваюць з літ. *nérti* 'вязаць, плесці', *nerinỹs* 'вяроўка, сетка', лат. *nors̃ts* 'від сеткі' (параўн. Буга, 2, 503; Бязлай, 2, 227), пра што сведчыць і семантыка беларускіх слоў, у тым ліку 'прыстасаванне для сушкі снапоў' (Нар. сельскагасп. тэхн. беларусаў. Мн., 1974, 60); параўн. *цéнято* 'рыбалоўная сетка' (**tęti* 'вязаць'); у сувязі з гэтым, відаць, больш аддаленая сувязь з укр. *нéрти, нру* 'даваць нырца', рус., ц.-слав. *поньрѣти, поньру* 'апускацца ў ваду' і пад., гл. Фасмер, 3, 65, хаця ў літ. *nérti* аб'яднаны абодва значэнні: 'вязаць' і 'даваць нырца'. Гл. таксама Варбат, ОЛА, 1975, 132—136.

**Нераўнýючы** 'надта падобны, але не можна параўнаць' (Варл.). Засцерагальны выраз, які адлюстроўвае рэшткі ахоўнай магіі: непажаданае прыроўніванне каго-небудзь ці чаго-небудзь добрага да горшага магло прынесці шкоду першаму. Да *рóўны* 'аднолькавы', *раўняць* 'параўноўваць' (гл.), параўн. *нероўны* 'няроўны, неаднолькавы' (ТС), *нерáўны* 'неаднолькавы' (Сл. ПЗБ) і пад. Гл. таксама *нераўнавáць* 'не приравнивать', *нераўнýючы (неровнуючи)* 'не параўноўваючы, не прымяняючы': *«Неровнуючи часу,* говорится в предосторожностях худых последствий от воспоминания о каком-либо несчастном случае: *Неровнуючи часу, перегнувся так, да й ўпавъ у колодзезь»* (Нас.). Параўн. рус. *неровен час* 'тс'.

**Нерв,** *нэрв* звычайна мн. *нéрвы, нэ́рвы* 'нервы' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *нéрва* 'тс' (Янк. 1), *нéрванный* 'нярвовы' (Юрч.); сюды ж *нэрвавáцца* 'перажываць' (Сл. ПЗБ), *нéрвенік* 'дзіванна скіпетрападобная, Verbascum thapsiforme Schrad.' (Бейл.). Запазычана праз рус. *нерв* або польск. *nerw* з заходнееўрапейскіх моў (<ням. *Nerw*, франц. *nerf*, што з лац. *nervus* 'жыла, мускул, нерв'), гл. Фасмер, 3, 64; назва расліны ўтворана паводле прадуктыўнай мадэлі па тыпу *сярдзéчнік* 'зелле ад сэрца', *нéрвенік* 'зелле ад нерваў' і пад. Форма ж. р. другасная, узнікла з мэтай пазбегнуць неўласцівага беларускай народнай мове спалучэння *-рв* у канцы слова.

**Нéруш** 'глухое месца ў лесе, да якога цяжка дайсці' (Сцяшк.). Ад *не* і *рухаць* 'кранаць, варушыць', параўн. *нярýшаны (нерушеный)* 'цэлы, некрануты' (Нас.), *нерýханы* 'неараны' (Сл. ПЗБ), *неворýшэны* 'некрануты', *нéворуш* 'бязлюднае месца' (ТС).

**Нерх** 'лёгкая неўраджайная зямля' (ТС), *нерховáты* 'неўраджайны, лёгкі (аб зямлі)' (ТС). Няясна; магчыма, звязана з польск. дыял. *nierzch* 'нераст, ікра', што адлюстроўвае знешняе



падабенства, параўн.: *«Земля — нерх, бі чэ́рві ее поточылі. Вона бі чорна, але неплóтна»* (ТС), тады ўсё да *нераст* (гл.), якое можа мець значэнне 'ікра ў рыб, жаб' і інш. У сувязі з апошнім параўн. укр. *нерость, нерість* 'усё зямное (акрамя вады), што не расце і што не створана штучна: зямля, каменні, металы, г. зн. наогул мінералы' (Грынч., да *рости* 'расці'), што дапускае змяшэнне з *нересть* 'апладненне ў рыб, змей; сварка' (там жа). Ва ўсякім разе здзіўляе поўная ідэнтычнасць слова з рэканструкцыяй прасл. **nerьchъ* $\leqslant$ *nerĭs-os* 'нераст, ікра' (Шустар-Шэўц, 13, 996), магчыма, першаснае значэнне грунтуецца на ўяўленні пра ікру земнаводных ці чарвякоў. Гл. *няршы́ць*.

**Нéрымасць** 'турбота' (Сл. ПЗБ). Гл. *нéрамасць*.

***Несалóдны,** *несолóдны* 'несалёны, маласалёны' (ТС). Гл. *солóдны* 'салёны'.

**Несамавіты** 'непрыгожы, няважны; нястрыманы' (Гарэц.), 'несамастойны, непрыгожы; не маючы унутранай годнасці' (Касп., Шат.), 'няякасны' (Сл. ПЗБ), *несамовіты* 'неразумны, дурнаваты' (ТС), *nisamavity* 'не зусім добры' (Варл.), укр. *несамовúтий* 'раз'юшаны, сам не свой; у вышэйшай ступені моцны', рус. пск. *несамовúтый* 'непрыгожы, нязграбны', польск. *niesamowity* 'які мае зносіны з д'яблам; сам не свой' (з укр., Варш. сл.). Утворана пры дапамозе адмоўя *не* ад менш ужывальнага *самавіты* (гл.); развіццё «адмоўнай» семантыкі звязана з канкрэтызацыяй выходнага значэння, якое мае агульны (аморфны) характар, параўн. у Насовіча: *самовитый* 'настоящий, самый лучший', у сваю чаргу «адмоўная» семантыка магла ўплываць на значэнне выходнага слова, параўн. *самовіты* 'разумны' (ТС).

**Не сáма то** (*ni sáma to*) 'не надта добра' (Варл.). Да *сáмы* (гл.) у градацыйным значэнні.

***Несатварэ́нны,** *несотворэнны* ў выразе: *несотворэнная сіла* 'пра незлічоную колькасць' (ТС). Відаць, царкоўнаславізм (параўн. ст.-слав. **несътворенъ** 'няствораны, няўчынены', **несътворенк** 'невыкананне'), з развіццём семантыкі ад 'неіснуючы, нерэальны' да 'які цяжка сабе ўявіць'. Аднак асноўная фармальная прыкмета запазычання — прэфікс *-со* (замест *-с*; параўн. звычайнае *стварыць*) у тураўскай гаворцы можа мець мясцовае паходжанне (*сокоўзнуцца* 'паслізнуцца' і пад.), што ўскладняе канчатковае рашэнне пытання.

**Нéсіл** 'бяссілле' (Касп.), *нясіл (несúл)* 'бяссільны, нядужы' (Нас.). Да *сіла* (гл.).

**Нéскалькі,** *нескулько* 'некалькі; некаторы (час)' (Сл. ПЗБ), *нéсколько* 'некалькі' (ТС), *нéскылькі* 'тс' (Бяльк.), рус. *несколько, нéскольки* 'некалькі; шмат; нямнога'. Утворана пры дапамозе прэфікса *не-* (прасл. **nĕ-*) і займенніка *скольki*

(усх.-слав. прэфіксальнае ўтварэнне ад прасл. *koliko* 'колькі'), гл. ESSJ SG, 2, 479.

**Не́скуль** 'аднекуль, невядома адкуль' (ТС). Прыставачнае ўтварэнне (прасл. **nĕ-*) ад *скуль* 'адкуль' (гл.).

**Неслабо́дна** *(неслобо́дна)* 'цяжарная' (ТС). Эўфемізм на базе прыметніка *слободны* 'свабодны, незаняты', параўн. *неслобо́дный* 'незаняты; несамастойны, падуладны; звязаны' (Нас.), *нявольная* 'цяжарная' (Касп.) і пад.

**Не́слух** 'непаслухмяны' (Нас., Бяльк., Касп.), 'непаслухмяныя дзеці' (Варл.), сюды ж *не́слуш* 'непаслухмяны' (Нас.), укр. *не́слух* 'тс', рус. *не́слуш* 'тс'. Усх.-слав. утварэнне ад *не слухаць (слушать)*, гл.

**Не́смак** 'непрыемны смак у роце' (Сл. ПЗБ), 'нясмачная страва' (Сцяшк. Сл., Жд. 2), *не́смач* 'тс' (слон., Жыв. сл., ТС), *не́смаш* 'тс' (Сцяц.), укр. *не́смак* 'непрыемны смак; нясмачная страва', польск. *niestmak* 'адсутнасць апетыту; непрыемны смак; безгустоўшчына; прыкрасць, непрыемнасць'. Да *смак, смашны* (гл.); частка названых слоў з канцовымі *-к* і *-ч*, відаць, запазычана з польскай мовы.

**Не́смысел** 'неразумны, неразважлівы': *Ены обыдва несмысли* (Нас.), рус. пск., смал. *не́смысел* 'дурны, бесталковы' маюць фармальныя паралелі ў славен. *nesmisel* 'глупства, лухта, бязглуздзіца', серб.-харв. *нѐсмисао* 'тс'. Відаць, самастойныя ўтварэнні ад дзеясловаў тыпу *смысліць* 'разумець' (славен. *smisliti*, серб.-харв. *смѝслити* 'тс').

**Несмяртэ́льнік** 'старасцень, Senecio vernalis' (брэсц., Кіс.; паст., Сл. ПЗБ). З польск. *nieśmiertelnik* 'назвы розных кветак, якія захоўваюць свой знешні выгляд пры высыханні', параўн. рус. *бессмертник;* запазычанне вызначаецца паводле фанетычнага крытэрыю (спалучэнне *-тэ-*), параўн. *несмярцельны (несмертельный)* 'бессмяротны; несмяротны' (Нас.).

**Неспадзе́ўкі** 'нечакана' (Гарэц., Некр.; докш., Янк. Мат.), 'нечаканы выпадак' (Варл.), сюды ж *неспадзёва* 'нечаканасць' (Сцяшк.), *неспадзяванне (несподзеванне)* 'тс' (Нас.). Вытворнае ад *не спадзявацца* 'не мець надзеі, не чакаць'; іншы варыянт асновы ў *неспадзе́янне (несподзѣенне)* 'нечаканасць', *неспадзе́яцца (несподзѣицьца)* 'не чакаць, не мець надзеі' (Нас.), *неспадзейна* 'нечакана' (Касп.). Параўн. *неўспадзеўкі* (гл.).

**Неспата́чыць** *(неспота́чиць)* 'не ўгледзець, не заўважыць пры пільным назіранні', *неспата́чны (неспотачный)* 'цяжка заўважальны ці знаходны' (Нас.). Гл. *спата́чыць*.

**Неспато́льна** 'надта, вельмі' (Сцяшк.). Відаць, да *пато́ля* 'непрыемнасць, скруха' (гл.), як *стра́шна* 'вельмі, многа' ад *страх* і пад.

**Не́спун** 'свавольнік, гарэза' (ТС). Літаратурная форма была б **не́спын* (дыялектны пераход *ы>у* тыпу *пул* 'пыл' і пад.), ад *спыніцца* 'затрымацца, супакоіцца' (гл.).



**Нестрыва́лы** 'нястраўны': *Нестрывалае нешта зьеў* (Касп.). Відаць, да *стравіць* 'ператравіць (пра страўнік)', гл. *стра́ва*, ці не пад уплывам *стрыва́ць* 'сцярпець' (гл. *трываць*)?

**Нестыка́цца** 'бываць вельмі рэдка' (Гарэц.), 'не быць, рэдка паяўляецца' (драг., З нар. сл.), *не стыка́цца* 'не бываць': *Два дні дома не стыкалася* (ТС). Звычайна адносяць да *стыка́цца* (гл.), адно са значэнняў якога 'быць, знаходзіцца': *Я мала стыкаюся дома* (лід., Сл. ПЗБ), параўн. таксама яшчэ ст.-слав. **стъкати** *(stъkati)* 'melden' (Саднік-Айцэтмюлер, Handwört.).

**Несубо́жны** *(несубо́жный)* 'бязбожны; празмерна вялікі' (Нас.). Да *бог*, гл. *субо́жны* 'маючы бога ў сэрцы'; значэнне 'завялікі, празмерны' ва ўтварэннях з адмоўем тыпу *несхадзімы, несусветны* і пад. развілося на базе значэння 'незвычайны, які выходзіць за межы вядомага, агульнапрынятага і г. д.'

**Несувіру́тны**: «Для ўзмацнення адмоўнай якасці да слоў *гультай, абібок, лодыр* дадаюцца прыметнікі *несусветны, несувірутны* (неверагодны, якога не бачыў свет)» (ушац., Пан. дыс.), параўн. *невіру́тны* 'неверагодны' (докш., Янк. Мат.). Гл. *вяру́тны* 'сапраўдны', *і* на месцы *я* звязана з дыялектным вымаўленнем ці з ад'ідэацыяй да *вір*, параўн. *вірутнік* («*як з віру*», Пан. дыс., 220).

**Несуво́рна** *(нісуворна)* 'не ў згодзе' (лід., Сл. бел. нар. фраз., 126). Пры незафіксаванай зыходнай форме без адмоўя, хутчэй за ўсё, да *суворыць* 'звязаць (у пару)' (Сл. ПЗБ), параўн. чэш. *nesvorně* 'незгуртавана, нядружна' пры *svorný* 'дружны', гл. *шворка, шворань* і пад.

**Несудо́бны** 'нязручны' (Куч.), хутчэй 'несвоечасовы, непажаданы', параўн.: *От уплюнуўся дождзь несудобны, ідзе да ідзе* (там жа), 'надта вялікі, страшны': *Вецер несудобны дуне, круціць, бурыць!* (ТС), параўн. рус. *несудобный* 'нязручны', Відаць, да *даба́* 'час; пара'; іншая думка адносна рус. *судобить, судобь* (ад *судьба*), гл. Трубачоў у Фасмера, 3, 796. Не выключаецца таксама ўплыў з боку *несудо́мны* (гл.).

**Несудо́мны**, *несудомы* 'надта вялікі, страшны' (ТС); *несудо́мны лес*=вялікі, непраходны лес, нетра; *несудомны мароз*=вялікі, траскучы мароз (мазыр., ул. зап.). Відаць, да *суд* (гл.), параўн. рус. *несуди́мый* 'вельмі моцны, перавышаючы звычайную меру', *не судо́м (божиим)* 'вельмі моцна, у вельмі вялікай колькасці' (Дзяул. сл.), *несудо́м крича́ть* 'крычаць вельмі моцна' (паўд.-рус., СРНГ), што тлумачыцца зыходным значэннем 'які не падлягае абмеркаванню ці асуджэнню' (Даль), г. зн. 'надзвычайны'. Аднак для названых слоў нельга выключыць і іншыя версіі ці па меншай меры ўплыў біблейскага

імені ўласнага *Садом*, якое пачало ўжывацца як апелятыў, параўн. *судом* 'нешта нядобрае, непрыемнае': *Судом ее возьмі, дзе вона дзелася, тая шапка!* (ТС), параўн. *садомія (содомія)* 'вялікае злоўжыванне; моцная разбэшчанасць' (Нас.) і інш., гл. Някрасава, Диалект. иссл. по рус. яз. М., 1977, 247—250; іншая версія ад **sǫdoma* (паводле Ліуканен, Отглаг. сущ., 131<*sǫdǫbma* ад *sъ-dǫbiti* 'акачанець'), параўн. укр. *судóма* 'міжвольнае скарачэнне мускулаў (ад болю, холаду, пры некаторых захворваннях і г. д.), сутарга'; тады адмоўе ў *несудомны* можа выконваць функцыю табу; адносна семантычнай мадэлі параўн. *халéрны, пранцаваты* і пад. як экспрэсіўная адмоўная характарыстыка ў адносінах да нежывых прадметаў (*халерны холад* і пад.). Для спалучэнняў тыпу *гушча несудомая* можна дапусціць народна-этымалагічнае збліжэнне з *сыйці, сходзіць (гушча несы(й)домая?)*; параўн. *несходзімы* 'непраходны; вялікі (пра лес)' (ТС).

**Несулáдны** 'нясхладны' (Сл. ПЗБ). Гл. *сулáдзіць, сулáдны.*

**Несурáз** *(нисуразъ)* 'непрыгожы' (Мікуцкі, Шестой отч.), 'агідны' (Анім.), рус. *несуразый* 'непрыгожы; недарэчны', *несуражий* 'непрыгожы, нялоўкі'. Рускія словы, суадносныя з *суразый, суражый* 'прыгожы', тлумачаць як вытворныя ад слав. *razъ* (гл. *раз*), гл. Трубачоў, Зб. Романскаму, 141; Фасмер, 3, 806 і інш. Беларускае слова можна суаднесці з *сурóжыцца* 'скасавурыцца' (Сл. ПЗБ), для якога не выключана сувязь з *рóжа* (гл.).

**Несусвéтны** *(нісусветны)* 'надта вядомы, якіх мала ёсць на свеце' (бялын., Янк. Мат.), *несусвéтнік* 'нялюдскі, нядобры (пра чалавека) (Янк. 3), *несусвéціца* 'мана' (там жа), *несусвéцце* 'недарэчнасць, бязглуздзіца' (Юрч.), рус. *несусветный* 'нязвычны; лоўкі'. Гл. *сусвет, свет;* зыходная семантыка — 'якога свет не бачыў'.

**Несхадзíмы** *(несходзімы)* 'вельмі вялікі, які цяжка абысці, непраходны' (ТС), 'бясконцы' (Сцяшк. Сл.), параўн. рус. *несходúмый* 'непраходны'. Да *хадзіць, схадзіць* 'абысці'.

**Нéсці** 'несці, дастаўляць і інш.; несці яйкі' (БРС, ТСБМ, Сл. ПЗБ, Бяльк.), а таксама *несць, нясці* (Бяльк., Сл. ПЗБ), *несці* (ТС); укр. *нéсти*, рус. *нéсти*, польск. *nieść*, чэш. *nésti*, славац. *niesť*, в.-луж. *njesć*, н.-луж. *njasć*, славен. *nesti*, серб.-харв. *нéсти*, балг. *несá*, макед. *несé* 'несці яйкі'. Прасл. **nesti*, роднаснае літ. *nẽšti*, лат. *nest* 'несці' і інш., гл. Фасмер, 3, 67; Шустар-Шэўц, 13, 1014; Махэк₂ (396) і Бязлай (2, 220) адрозніваюць аманімічныя формы са значэннем 'несці, дастаўляць і пад.' ад формаў са значэннем 'несці яйкі'; апошнія разглядаюцца як збліжаныя на базе народнай этымалогіі з **nesti* 'несці, дастаўляць' утварэнні ад прасл. **nersti* (гл. *нераст*), якое мела значэнне, акрамя 'нерасціцца', таксама



'пладзіцца, несці яйкі (пра птушак)'. Малаверагодна, паколькі апошняе значэнне добра выводзіцца з 'дастаўляць', параўн. *нéсьціся* 'імчацца; нясціся (пра курэй)' (Касп.).

**Нéсыць** 'ненаеднасць, прагнасць' (Сцяшк., Юрч.), 'прагны (пра чалавека)' (Шат.). Да *сыты*, параўн. *ненаéда, ненаéжа* 'тс'.

**Несяджáлы** *(nisidžały)* 'рупны, старанны' (Варл.). Відаць, са спалучэння *не сядзець* 'дзейнічаць, рабіць'.

**Нет** 'няма; не' (Сл. ПЗБ, ТС, Пятк.), ст.-бел. *нѣтъ* 'тс' (Полацкая грамата 1399 г.), рус. *нет* 'тс', укр. дыял. *ніт* 'тс', славац. дыял. *niet* 'тс', балг. дыял. *нет* 'не' (Спис. на Бълг. ак. на науките. Кл. ист.-филол., кн. 8. София, 1914, 99). Зафіксаваную ў Біблії Скарыны і ў Евангеллі Цяпінскага (1580) форму *нѣтъ* Карскі (2—3, 7, 260) выводзіць з *не+jе+тоу* (гл. *не, ёсць, тут*); параўн. у апошняга ў паралельных тэкстах: ст.-бел. *ничого нетъ*, ст.-слав. **ничегожѣ есть** (гл. таксама Сабалеўскі, Лекции, 249; Праабражэнскі, 1, 596; Фасмер, 3, 67); меркаванні адносна рус. і ўкр. *нет/ніт*: з *ne-je-tъ* (Шлякаў, РФВ, 21, 230—232) або з *ně-tu* (дзе *ně<něstь*, Міклашыч, 3, 320; Зубаты I, 2, 410), параўн. *нéту* 'няма' (Нас.), рус. дыял. *нету* 'няма'; выказваецца думка, што абедзве зыходныя формы (з часціцай *tъ* і прыслоўем *tu*) былі аўтаномныя, што не выключала іх далейшае збліжэнне (ESSJ SG, 2, 483). Балг. *нет* 'не' хутчэй за ўсё паралельнае да дыял. *ет* 'ёсць', якое лічаць вытворным ад *е* 'тс' з *-т* пад уплывам канчаткаў 3-й ас. адз. л. дзеясловаў тыпу *хóдит, мислит* і пад. (БЕР, 1, 512). Гл. таксама Львоў, РР, 1968, 3, 65.

***Неталíвіць**, *нытылівыты* 'не ведаць, не разумець' (Сл. Брэс.). Няясна.

**Нетварэ́нна** 'безліч, вельмі многа': *Уюноў там було нетворэнно* (ТС). Гл. *несатварэ́нны.*

**Нéтка** 'бядняк' (Нас., Касп.). Да *нет* (гл.), параўн.: *Ён у нашым сяле такі нетка, што не з чым у прут* [-млын] *паехаць* (там жа) і рус. *нéтка* 'пра што-небудзь адсутнае'.

**Нéткуль** 'неадкуль, аднекуль' (Нас., Бяльк., Юрч.), *нéткуль, нéткуле, нéткуля* 'аднекуль, знекуль' (ТС). З *не* і *адкуль* (гл.). З сінкопай (пропускам *а*), пра што сведчыць апостраф у некаторых запісах, параўн. *не'ткуль* 'тс' (Шат.); менш верагодна — з *нет* (гл.) і *адкуль.*

**Нéтра**₁ 'цяжкадаступнае месца ў багністым балоце, трушчобы' (парыц., Янк. Мат.), 'непраходныя зараслі на балоце' (ТС), 'поле, якое ніколі не апрацоўвалася' (Жд. 1), *нéтры* 'густыя зараслі' (Гарэц.), *niétry* 'niedostępne chrapy, porośnięte łozą, trzciną, olchą i wszelakim wiszem' (Маш.), *hustýje łózy, nìetry, hrùzkije bałota* (Пятк. 2), паводле Карскага (Труды, 479), «только полесское»; беласт. *ńétra, nétra* 'не-

праходная багна, непраходнае месца; зараслі, гушчар, непраходнае месца ў лесе' (Лапіч, Term. geogr., 123), укр. *нéтра, нéтрі* 'непраходныя зараслі, лес; захалусце, трушчоба', рус. *нéтря* 'запаведны гай, запаведнік' (паўдн., зах., Даль), параўн. таксама: «В Мярэчах попадаются именно те непроходимые местности, где гибнут заблудившиеся люди, и которые носят название «нетры» (смал., Максимов, Живая Россия, 3, 444). Найбольш верагодныя версіі: з *не* і **ter-* (гл. *церці*), параўн. рус. *трогать* 'рухаць, кранаць' і зафіксаванае на Беларусі значэнне 'поле, якое ніколі не апрацоўвалася' (параўн. *нéруш, нéваруш* і пад.), гл. Фасмер, 3, 69; або з *не* і *церабіць* 'вырубаць, вычышчаць хмызняк, рыхтаваць участак пад поле і пад.' з зыходным значэннем 'месца, дзе нельга церабіць лес' або 'месца, дзе не цярэбяць лес', гл. Талстой, Геогр., 180, а таксама Лапіч, Term. geogr., 123 (прыводзяцца формы *trepeza / trebeza* 'гушчар, зараслі', да *церабіць*). Сумніцельна вывядзенне смал. *нетра* 'дрыгва' з літ. *nendrė̃* 'чарот', параўн. Буга, 1. 412; Лаўчутэ, Балтизмы, 146, паводле Ільінскага (Працы кл. філал., 1, 235),— гэта словы роднасныя; збліжэнне апошнім (там жа) смал. *нéтра* з грэч. νῆτρον 'самапрадка' адмаўляецца Фасмерам (3, 69). Гл. таксама Пятлёва, ОЛА-72, 212 (<*ne-tьга), Гаўлава, Slavia, 40, 82. Літаратурнае *нетры* 'зямныя глыбіні, паклады, радовішчы' (Гарэц., Яруш., ТСБМ) на аснове значэння 'багна' пад уплывам рус. *нéдра* 'унутранасці зямлі'.

**Нéтра**$_2$ 'машкара' (Сл. ПЗБ), 'незлічоная колькасць' (жлоб., Нар. сл.), 'вош' (Шатал.), *нэ́тра* 'напасць, неадчэпны чалавек' (драг., Нар. лекс., З нар. сл., Сл. Брэс.). Няясна; магчыма, паралельнае да *нетра*$_1$ (з *не* і *церці* 'кранаць, чапаць'), параўн. рус. *нетря* 'недатыка' (паўдн., зах., Даль). Менш верагодна з літ. *netyrà* 'нячысты дух (аб жывёле)' (Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1969, 4, 129). Збліжэнне Клімчука з серб.-харв. дыял. *нàтрчица* 'задзірака, хуліган' (З нар. сл., 145) адхіляецца Запрудскім (Серб.-хорв.-бел. яз. соответствия. АКД, Мн., 1989, 8).

**Нéтруд** 'вялікае непраходнае балота' і мікратапонім *Нетруд* (мазыр., БММ, 38). З *не* і *труд* 'работа і інш.' (гл.)? Параўн. *нетра*$_1$.

**Нéтувіч** 'неабадранае ці нястоўчанае зерне ў крупах' (слаўг., Нар. сл.). Гл. *нетуўч* 'тс'.

**Нéтусны** 'непрывабны' (Касп.). Няясна; магчыма, да *нет* 'няма' (гл.), параўн. рус. раз. *нéтуся* 'няма, не', алан. *нéтушка* 'нікчэмны чалавек'. Наўрад ці з *нятýс(к)ны* 'нияркі' (гл.).

**Нéтуўч** 'неабадранае ці нястоўчанае зерне ў крупах' (слаўг., Нар. сл.). З **не-тоўч*, да *таўчы*.

**Нéтуці** 'няма' (Касп., в.-дзв., расон., шум., Сл. ПЗБ), рус. *нетути, нетуть* 'тс'. Да *нет (нету), -ці (-ти, -ть)*, першапачаткова форма dat. ethicus 2-й ас. адз. л. асабовага займенніка (Фасмер, 3, 67).



**Нéтшта** 'вельмі многа, мноства' (Шат., Жд. 1), *нéтшто* 'многа' (Жд. 1). Відаць, з *нет* (гл.) і *што*, параўн. *до нет, на нет* 'пра вышэйшую ступень чаго-небудзь' (ТС).

**Нéук** 'гультай, невуч' (Нас.). Паводле Кюнэ (Poln. 81), з польск. *nieuk* 'тс', гл. *невук*.

**Неўвірýтны** 'несусветны' (Макарэвіч, Полымя, 1980, 8), 'няўлоўны, хітры, лоўкі' (Яўс.). Гл. *невірутны*.

**Нéўгалаў** *(неўгылый)* 'не сваім голасам' (Бяльк.), *неўгóлоў* 'абыякава, нецікава' (ТС). Да *галава*, параўн. народны выраз *не браць у галаву* 'не турбавацца, не клапаціцца', аднак першае з адзначаных значэнняў застаецца нявытлумачаным (збліжэнне з *галаць, галакаць* 'крычаць'?).

**Неўгамонна** 'безперастанна': *zub balić nieйhamònna* (Пятк. 2). Параўн. выраз *угамону няма* 'няма супыну', гл. *угамон*.

**Неўжадóбу** 'без жадання' (Варл.). Да *жадаць, жадоба*.

***Нéўжыткі**, *нывжыткэ* 'пясчаная зямля, непрыдатная для апрацоўкі' (драг., Сл. Брэс.). Гл. *ужытак, ужываць*.

**Неўзабáве** 'у хуткім часе; не затрымліваючыся' (Гарэц., Касп.), *неўзабáві (неўзабави)* 'хутка, без затрымкі; незадоўга' (Нас.), *піўzabávia* 'у хуткім часе' (Варл.), *неўзабáўкі* 'без затрымкі'. Прыназоўнікавае словазлучэнне з м. скл. (Карскі, 2—3, 76) назоўніка *забава, забаўка* 'прамаруджванне, замаруджванне' (Нас.).

**Неўзамéткі** 'непрыкметна, незаўважальна' (Касп., Сл. ПЗБ), *неўзамéтку* 'тс' (Нас., ТС), *неўзамéтцы*, незаўважальна, непрыкметна' (ТС). З прыназоўнікавых словазлучэнняў *не ў заметкі* і пад. (ускосны склон назоўніка).

**Неўкавы́рны** 'незгаворлівы; флегматык' (Касп.), 'нявет-лівы, непаслухмяны' (Ян.), 'капрызны, свавольны' (Сцяшк. Сл.), *неўкавырный* 'неўгамонны; якога нічым нельга крануць, упарты' (Нас.), 'упіра; той, якім нельга ўкіраваць' (Бяльк.), 'капрызны' (Юрч.), *ніўкавырный* 'упірлівы, цяжкі для выхавання або для кіравання' (мсціcл., З нар. сл.), рус. *неуковы́рный* 'няўклюдны, нялоўкі, непаваротлівы; непрыгожы, несімпатычны; неўгамонны; незгаворлівы'. Гл. *укавырны*.

**Нéўкач**, *нéўкача* 'калісьці, даўным-даўно' (Сл. Брэс.), *нéўкоч, нéўкоча* 'калісьці; калі-небудзь; у хуткім часе' (ТС), 'калісьці, даўным-даўно' (лунін., Жыв. сл.), *нёкоч* 'некалі, калісьці, даўней' (пін., Нар. лекс.). Відаць, можа быць збліжана са славен. *nekoč* 'аднойчы, некалі, калісьці', што з *ne* (адмоўе) і *ko* 'калі' (<*kъ*, гл. k), *č* — узмацняльная партыкула, адпавядае бел. *ч(чы)*, параўн. *гэтачы, колечы* і інш. (Карскі, 2—3, 71; ESSJ SG, 2, 305—306). Спецыфічная беларуска-

славенская паралель можа служыць падставай для рэканструкцыі праславянскага дыялектызма (*пе-къ-čь?). Сярод беларускіх слоў больш ранняй формай трэба лічыць форму без устаўнога *ў*.

**Неўлаго́дня** 'не ў ладах; не ў гуморы' (Юрч.). Гл. *лаго́дны.*

***Не́ўма**₁, *нэ́вма* 'няўмека' (столін., Нар. лекс.). Лакальнае ўтварэнне ад *не умець,* параўн. *не́раб* і пад.

**Неўма**₂, звычайна ў спалучэннях *неўма што (шчо)* 'абы-што', *не́ўма дзе* 'немаведама дзе, далёка', *не́ўма як, не́ўма які* 'вельмі' (Ян.), *не́ўма як* 'неахайна; не так, як патрэбна, звыш меры' (калінк., З нар. сл.), *не́ўма колькі* 'вельмі доўга, многа'. Магчыма, алегра-форма ад *немаведама* (гл.).

**Неўмаве́рны** 'які не верыць, не спагадае' (навагр., З нар. сл.), *неўмоверны* 'неспагадлівы' (ТС). Утворана на базе фразеалагізма *не ймаць ве́ры* 'не верыць, не даваць веры' (ТС), непасрэдным утварэннем ад якога з'яўляецца літаратурнае *неймаве́рны* 'неверагодны'; фармальная дэфармацыя (*й*>*ў*) у выніку дээтымалагізацыі. Гл. *імаць.*

**Неўмі́ру́шчы** 'неўміручы' (Жд. 2, Сл. ПЗБ), *niŭmirúšču* «ў хворага няма адзнакаў набліжэння смерці» (Варл.), 'несмяротэльны; даўгавечны; здаровы' (Нас.). Паводле Карскага (2—3, 276), такога тыпу прыметнікі маглі ўзнікнуць пад уплывам адпаведных царкоўнаславянскіх дзеепрыметнікаў на *-щий* на базе ўласных утварэнняў на *-чы*, параўн. *неўміручы,* на *-щий* на базе ўласных утварэнняў на *-чы*, параўн. *неўміручы,* або пад уплывам прыметнікаў на *-шчы* (параўн. віц. *злющий, краснущий),* паходжанне якіх застаецца нявысветленым (<*skj ці *stj?), параўн. Карскі, 2—3, 46).

**Неўнара́й**: *«Поўнач» не раз у ім схову шукала, «Захад» знаў сілу яго неўнарай»* (Купала). Вынікаючае з кантэксту значэнне 'на справе, не на словах' дазваляе звязаць слова з *нара́іць, ра́іць* (гл.). Няясна.

***Не́ўнік**, *нэвникъ* 'малы гаршчок' (пін., Мат. сев.-малорус., 2, 17). Няясна.

**Неўпрыця́м** 'невядома, няўцям' (Сцяшк., Варл.), *неўпрыцямку* 'не ў памяці' (бешан., Нар. сл.). Гл. *цяміць*, параўн. *неўцямкі* 'тс' (ТС).

**Не́ўра** 'няўмека' (ельск., Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, утварэнне з коранем *-ўр-* (<і.-е. *uer-*), параўн. *неўваротлівы* 'непаваротлівы' (Мат. Гом.). Гл. *вярцець*, параўн. *аўра́ць, на́ўра* (гл.), або адпрыметнікавы назоўнік ад *неўра́тны* 'несумленны, бессаромны' (ТС), гл. *няўратны.*

**Неўспадзе́ўкі** 'неспадзявана, раптам' (Касп., Янк. 3, Варл.). Гл. *неспадзеўкі.*

**Неўстаёнцы** 'не ўстаяць, рупець (кудысьці)' (Сцяц.). Выразны паланізм, зыходная форма *nieustającu* 'пастаянны, бесперапынны'.



**Неўтахто́ліць** *(nieŭtachtólić)* 'не задаволіць' (Арх. Федар.). Гл. *тахтоліць.*

**Нех** 'няхай' (Сл. ПЗБ). Паланізм (<*niech* 'тс').

**Нехамя́жы** 'нехлямяжы, неахайны' (Сл. ПЗБ), *нехамя́жына* 'неахайны чалавек' (Касп.). Няясна; відаць, звязана з *нехлямяжы* 'тс'.

**Нехармў́зный** 'нехлямяжы, непрыгожы' (Юрч.), *нехормў́зны* 'вельмі непрыгожы, непрывабны' (ТС). Няясна. Магчыма, ад *хо́рма,* 'форма', параўн. *нехорматны* 'неахайны, неакуратны' (ТС), з экспрэсіўнай суфіксацыяй, параўн. *нехору́зны* 'вельмі непрыгожы', рус. *нехо́льный* і *нехолю́зный* 'неахайны' і пад.

* **Нехарма́тны,** *нехорма́тны, нехормў́тны* 'вельмі непрыгожы, непрывабны', *нехормў́цье* 'непрыгожасць, непрывабнасць (таксама і пра чалавека)' (ТС). Ад *хо́рма* 'форма', гл. *харма́тны* 'спрытны, прыгожы'.

**Нехваты́жны** 'непаважаны' (ТС). Утворана ад *хватыга*< польск. *fatyga* 'паслуга, ласка; турбота'.

**Нехлюшча́віна** *(ніхлюшчавіна)* 'непаваротлівы, нязкладны' (Касп.). Няясна (да *хлюст* 'франт'?).

* **Нехля,** *нэ́хля* 'неахайная жанчына' (брэс., Нар. лекс.). Відаць экспрэсіўная форма ад *няхлю́я,* 'тс' ці пад., утвораная паводле мадэлі *коця* (<*кот, коцік*) і інш.

**Нехлямя́жы** 'неахайны, брудны, апушчаны' (Сержп. Грам.; навагр., Нар. сл.), 'неакуратны, няскладны, няўдалы, абы-які' (Сл. ПЗБ), 'непаваротлівы, няздольны' (Бяльк.), *нехлям'я́жы* 'несамавіты, непрывабны' (ТС). Хутчэй за ўсё балтызм або прыметнік, утвораны ў беларускай мове на базе балтыйскага слова, пра што сведчаць геаграфія і фанетычныя варыянты з чаргаваннем *к/х: ніклямяжы, ніклімажы* (глыб., брасл., Сл. ПЗБ), параўн. літ. *klemšinti, klemšioti* 'няўклюдны ісці'. Не выключана таксама, што ў аснове народнае ўтварэнне тыпу ⁺*хлямяга,* параўн. *ніклямяга* 'няўклюда' *ніхлямяга* 'няўдалы чалавек' (Сл. ПЗБ), ад гукапераймальных *хлямаць* 'гучна есці', *хлэ́маць* 'няўклюдна ісці' і пад-; у абодвух выпадках *не-* мае ўзмацняльны характар, параўн. магіл. *ха́лепа/неха́лепа* 'дрэннае надвор'е'.

**Не́хрысць** 'нехрышчоны' (Нас., Шат., Мат. Гом.), *не́хрысь* 'лаянкавая назва кожнага нехрысціяніна' (Мядзв.), *не́хрысцік* 'паганец' (ТС). Да *хрысціць* (гл.).

**Не́хта** 'хтосьці' (Нас., Грыг., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), *не́хтачка, не́хтачкі* (Янк. 3, Яўс.), ст.-бел. *нѣхто, нехто* (Карскі, 2—3, 91). Утворана пры дапамозе адмоўя *не-(нѣ)* ад *хто* (гл.), да якога можа далучыцца памяншальна-ласкальны суфікс *-чка/-чкі* (Карскі, 2—3, 54).

**Нехупа́вы** 'непрыглядны, несамавіты' (жлоб., Жыв. сл.), 'нясмелы, сарамяжлівы' (Мат. Гом.). Гл. *хупа́вы.*

**Нехуца́вы** 'неакуратны, нехлямяжы' (Бяльк., Юрч.), 'нязграбны, неакуратны' (Яўс.), *нехаца́вы* 'несамавіты' (Касп.). Няясна; магчыма, звязана з *некуца́вы* (гл.).

**Не́цепка,** паводле апісання: «изба без топки печи, находящаяся чрез сени часто без печи, хотя и с приготовленным фундаментом для неё, служащая отчасти кладовою, а отчасти (летней порою) спальнею, так как здесь меньше мух и блох» (Нік., Очерки, 1, 103). З *+не-цепл-ка,* вытворнае ад *цепліць* 'ацяпляць, паліць'.

**Не́ці:** *нецямі не адбудзеш* («ссылка на неимение», Гарэц.), параўн. рус. *нети* 'дваране, якія не нясуць дзяржаўнай службы': *пробыл в нетех.* Да *нет* 'няма', гл. Фасмер, 3, 68; сюды ж, паводле Карскага (2—3, 77), адносіцца і мін. *нець* 'невядома'.

**Нецікавы** 'нецікавы; слабы, малавартасны (ужываецца з назоўнікамі, якія абазначаюць назвы сельскагаспадарчых гароднінных культур або назвы хатніх жывёл)' (Янк. 1), 'непрыгожы' (Сл. ПЗБ), 'не вельмі добры; непрацаздольны' (Мат. Гом.), 'неахайны, неакуратны' (Ян.), 'з аслабленымі разумовымі здольнасцямі' (ТС), *нецікавая трава* 'непрыгодная на корм' (Жд. 1). Гл. *ціка́вы* (у розных значэннях).

**Не́цікі** *(не́цеки)* 'нечаканасць': *«Въ нецĕкахъ спужався. Ты усе нецĕками подходзишъ»* (Нас.), *нецĕкомъ* 'нечакана, неспадзявана' (там жа). Меркаванне пра зыходнае **неціваk*<**ne-čev-ъk* 'беспамяцтва' (ад **čъvati, čujo,* паводле Мяркулавай, Этимология-1977, 91), гл. *зне́цікі,* здаецца недастаткова пераканальным, параўн. думку Карскага (2—3, 69—70) пра адсутнасць формы на *-къ,* якая дала б магчымасць вытлумачыць віц. *з(с) нетцийку* 'ненарокам'. Можна параўнаць з польск. *wnet, wnetki,* у XVI ст. *hnet, hnetki* 'хутка, раптоўна', якое Брукнер (627) выводзіць праз чэш. *hnet* з **inъgъdъ,* гл. таксама Махэк$_2$, 213. Не выключана таксама мясцовае ўтварэнне ад *цік* 'памяць' (параўн. слонім. *na cik* 'на памяць': *tabie na cik nie prychodzić* Арх. Федар.), што добра ўзгадняецца з іншымі падобнымі ўтварэннямі са значэннем 'беспамяцтва' тыпу *нячывіль* (гл.), рус. *нецевенье* і інш. (параўн. Мяркулава, Этимология-1977, 90); тады зыходная форма была б *+нецік* або *+неціка.* Відаць, не маюць да разгледжаных слоў непасрэдных адносін балг. *нетеки / нетики* 'ніж, чым', пра якія пісала Ажахоўска (Prace Lingwistyczne, 32, 247—253:<*тикъ/тик'е* 'толькі').

**Не́цяг** 'вераценнік вялікі' (пін., Веснік БДУ, 1981, 1, 26), *нэ́цяг* 'балотная птушка зуй' (Дразд.), *не́цег* 'кулік' (брагін., Мат. Гом.). Відаць, адлюстроўвае характэрныя звычкі ці паводзіны птушкі (параўн., Антропаў, Веснік БДУ, 1981, 1, 26), параўн. *цяга* ў мове паляўнічых і пад., або характарызуе яе, параўн. укр. *нетяга* 'бедны, бядняк', рус. *нетя́га* 'слабасць, недастатковая цяга паветра (у печы)', ст.-рус. *нетягъ* 'лянівы, гультаяваты' (да *тягнути* 'нести повинности', гл. Варбот, Словообр., 68—69) і пад. Да *цягнуць* (гл.), параўн. няяснае ц.-слав. **нетѧгъ** (ESSJ SG, 2, 447) і *сло́нка* 'вальдшнеп' з роднасным літ. *slinkas* 'лянівы' (Голуб — Копечны, 339).



**Не́ча** 'няма чаго' (Бяльк.), *нечê* 'тс' (Нас.), рус. *неча* 'тс'. З *не́чага* 'тс' з выпадзеннем *г: нечаа*>*неча,* параўн. *ча*<*чаго́* (Карскі, 2—3, 84).

**Не́часць** 'нечасанае ільняное валакно' (Касп.), *не́чысь* 'кужаль, вычасаны лён' (бялын., Янк. Мат.), 'абадраны лён; палатно з абадранага лёну' (круп., Нар. сл.), 'кужэльнае палатно' (Сл. ПЗБ). Да *часаць* (лён).

**Не́чвіць** 'пражора' (Шат.). Паводле Мяркулавай (Этимология-1977, 91), з **ne-čьv-etь* (<*čьvati, čujo,* гл. *чуць*), аднак пры гэтым прапануецца ўдакладніць значэнне слова, што не мае падстаў (выраз *есьць ік ня ў сібе* характарызуе пражорлівасць). Больш верагодна сувязь з фармальна блізкім *нечвіда* 'непрыгожая, неакуратная ці неахайная жанчына' (**нечвідзь* як *жмодзь* 'пражора' і пад.). Гл. *нячвіда.*

**Не́шка** 'чырвоная шурпатая буйная бульба' (Жд. 2). Няясна.

***Нечапа́йка,** *нечэпа́йка* 'бальзамін (садовая кветка)' (ТС). Ад *не* і *чапаць,* параўн. ілюстрацыю: *Нечэпайку як поворушыш, то пахне* (там жа).

**Нешмана́ць** 'не звяртаць увагі; не слухацца' (Некр.), *nieszmanajka* 'адчайны чалавек' (Пятк.). Гл. *шманаць.*

**Не́шпар** 'вячэрня ў каталікоў' (Гарэц., Касп., Шат.), *нешпо́р* 'вячэрні час; вячэрня' (Нас.). З польск. *nieszpor* 'вячэрняя служба ў каталікоў', што ўзыходзіць да лац. *vesper* 'вечар', магчыма, праз н.-ням. *Vesper* (Кюнэ, Poln., 81).

**Не́шта** 'штосьці' (Гарэц., Касп., Шат.), *нѣшта* 'тс' (Грыг., Нас.), *не́шта* 'нешта; чамусьці' (Янк. 1, Сл. ПЗБ; докш., Янк. Мат.), *не́што* 'тс' (Сл. ПЗБ), *не́шчо* 'штосьці; чамусьці; неяк, як-небудзь' (ТС), памянш. *не́штачка* (Некр., Янк. 3). З *не-(нѣ-)* і *што (шчо),* гл.

**Нё**$_1$ 'няўжо' (Колас). Скарочанае з *няўжо́,* гл. Шуба, Прысл. 167; іншыя формы: *нёш* (вілейск., Нар. сл.)<*няўжо ж, нё'ж* 'тс' (Шат.), *нё-ж не* 'няўжо ж не, а як жа' (Гарэц.).

**Нё**$_2$ 'но (выгук, якім паганяюць каня ці вала)' (ТС), укр. *ньо* 'тс'. Палаталізаваны дыялектны варыянт выклічніка *но* (гл.), цікавую паралель уяўляе *ня* 'выгук, якім падклікаюць сабаку' (ТС) пры звычайным *на.* Параўн. таксама чэш. дыял. *pě* 'выгук, якім паганяюць цяглавых жывёлін' (параўн. ESSJ SG, 2, 502).

**Нёню** 'не хачу (у размове з дзецьмі)' (ТС). Т. зв. дзіцячае слова, створанае шляхам рэдуплікацыі адмоўя *не,* пераходу *е*>*ё* пад націскам, афармлення канца слова па тыпу дзеяслоўнай формы 1-й ас. адз. л. з экспрэсіўным змякчэннем апошняга зычнага.

**Нёха** 'неахайны чалавек' (лунін., Шатал.). Відаць, дэфармаванае ў экспрэсіўных мэтах слова тыпу тураўск. *нехлюя* 'тс' з усячэннем канца слова і пераходам *е*>*ё* ў выніку пераносу націску.

**Ні** — адмоўная часціца і структурны элемент у складзе займеннікаў, прыслоўяў і злучнікаў, укр. *ни, ні,* рус. *ни,* польск. *ni,* чэш. *ni,* славац. *ni,* н.-луж. *ni,* в-луж. *ni,* славен. *ni,* серб.-харв. *ни,* балг. *ни,* макед. *ни.* Прасл. **ni,* роднаснае літ. *neĩ,* 'ні, чым, ніж', лат. *nei, ni* 'ні' (Буга, 1, 462; Шустар-Шэўц, 13, 1001), ст.-лац. *nei/ni* і пад. (Фасмер, 3, 71; ESSJ SG, 2, 486). У народных гаворках нярэдка змешваецца з *не* (гл.).

**Нíбы** 'быццам, як бы' (Нас., Касп., Сл. ПЗБ), *нібы́* 'быццам, нібы' (Бяльк.), *нібу* 'як быццам, нібы' (ТС), укр. *ніби,* польск. *niby.* З *ні* ў параўнальнай функцыі і *бы* (гл.), што функцыянальна адпавядае рус. *как бы,* чэш. *jakoby* і пад. (ESSJ SG, 2, 488). Больш частая форма *нібыта, нібытта* выводзіцца Карскім непасрэдна з дзеяслоўнай формы *быць* у спалучэнні з адмоўем і часціцай (Карскі, 2—3, 85; 1, 245), у карысць чаго можа сведчыць і магіл. *нібы́ццам* 'быццам' (Бяльк., Ян.), калі гэта не вынік кантамінацыі (*нібы*×*быццам*).

**Нібына́мкі** 'няважна, пляваць' (Некр.). Паводле Карскага (2—3, 69), утворана пры дапамозе суфікса *-кі,* аднак зыходная аснова няясная: *нібы нам?,* параўн. *нібы што* 'няважна, абыякава', *нам нібы што*=нам усёроўна. Малаверагоднай сувязь з польск. *bynajmniej* 'па меншай меры, ва ўсякім выпадку', параўн. *бынаймней, бынамней* 'калі б, чуць-чуць; без патрэбы; чуць не' (Нас.), якую, аднак, нельга не прыняць пад увагу, калі дапусціць пераробку канца слова як у *няўпамкі* (гл.), тады з +*ні бынамней* 'нічуць'.

**Нібы́та** 'быццам' (Нас., Касп., Янк. 1), *нібы́тта* 'тс' (Мат. Маг.; мсцісл., З нар. сл.). Гл. *нібы.*

**Нібяды́** 'добра' (Жд. 2). Спалучэнне адмоўя з т. зв. родным клічу назоўніка *бяда,* параўн. *такое бяды* (Карскі, 2—3, 410).

**Ні́ва** 'участак зямлі, ралля' (Яруш., Чуд., Шат., Касп.), 'участак зямлі аднаго гаспадара' (Сцяшк.), 'вялікі ўчастак ворнай зямлі, прызначаны цалкам для адной культуры' (ТС), 'палетак' (Сл. ПЗБ). *ніва, нива* 'невялікае поле сярод лесу' (Сл. Брэс.), *ні́ўка* 'невялікая палоска раллі' (Нас., Яруш., Бяльк.), 'невялікае поле, звычайна сярод лесу' (ТС), укр. *ни́ва* 'узаранае поле', рус. *ни́ва* 'вырабленае і выпаленае пад раллю месца; поле на такім месцы; участак зямлі сярод лесу; засеянае поле, сенажаць', польск. *niwa* 'поле, ралля; навіна; поле сярод лесу', чэш. *niva* 'поле, ніва, луг', славац. *niva* 'тс', н.-луж. *niwa* 'ралля, поле, ніва', славен. *njiva* 'поле, ралля', серб.-харв. *њи̏ва* 'тс', балг. *нива* 'тс', макед. *нива* 'поле, ралля, луг'. Прасл. **niva,* збліжаюць з грэч. νειός 'поле, луг', што



ўзыходзіць да і.-е. **nei̯-* 'унізе, наніз'; сюды ж літ. *neivóti* 'паніжаць', лат. *nīeva* 'паніжэнне' (Фасмер, 3, 72; Фрэнкель, 479; Бязлай, 2, 225; Шустар-Шэўц, 13, 1005). Іншыя версіі грунтуюцца на зыходнай семантыцы 'навіна' (Махэк₂, 400) або 'край, руб' (Ваян, RES, 22, 191).

**Ніва́дзіць:** *нівáдзіць табе* 'так табе і трэба' (навагр., З нар. сл.; стаўбц., Нар. сл.). Відаць, да *ва́дзіць* (гл.), аднак семантычная матывацыя няясная ('не шкодзіць'?).

**Нівéсць** 'невядома' (Шат.), *нівісь* 'тс' (Нас.), *нівíсь* 'тс' (Бяльк.), *нíвясь* 'тс' (Мат. Гом.), *нівесь як* 'невядома як' (Яруш.), *нíвісь куды* 'невядома куды' (Грыг.), *нівісь адкуль* 'раптам' (Грыг.), *нівéць дзе* 'невядома дзе' (слон., Жыв. сл.). Паводле Карскага (2—3, 254, 260), у аснове — скарочаная форма 3-й ас. дзеяслова *вѣмь* (гл. *ведаць*), параўн. рус. *невесть* 'тс'.

**Нíвеч** (*ни́вичь*) 'нішто, нікчэмнасць': *въ нивичь пошло* (Нас.), укр. *нéвіч* 'тс', *нíвець* 'тс': *пішло в нівець.* Відаць, запазычана з польск. арх. *niwecz* 'у нішто', звычайна *wniwecz, wniwec* 'тс', што са спалучэння **ni vъ čь* літаральна 'ні ў вошта' (**čь* — старая форма наз. він. скл., гл. *што*); пра запазычанне сведчыць незвычайная вакалізацыя прыназоўніка **vъ,* параўн. у ст.-бел. *в ни ве што* (з паўтарэннем прыназоўніка) побач *ни в што* (XV ст., Карскі, 2—3, 215), а таксама ўкраінская форма з «мазурэннем» (*ц* замест *ч*). Параўн. Брукнер, 364; Махэк₂, 399; ESSJ SG, 2, 489. Гл. таксама *нявéчыць.*

**Нівéчыць** 'калечыць' (Нас.). Гл. *нявечыць.*

**Нівэ́зь** (*ни-вэзь*) 'ніяк нельга': *Ни-вэзь нечимъ помочь* (Нас.). Фармальна падобнае да *нівесь* 'невядома' (гл. *нівесць*), аднак семантыка пярэчыць такому дапушчэнню, другая частка прыпамінае польск. *weź* 'вазьмі', што магло б сведчыць пра запазычанне.

**Нівя́нка** 'кветка, падобная да рамонку' (Мат. Гом.), відаць, *нівя́нік,* рус. *нивя́ник* 'Leucanthemum DC' (Кіс.). Да *ніва* (гл.), ці да *вянуць,* параўн. балг. *невя́н,* серб.-харв. *нѐвен* 'календула'.

**Нівяру́шкі** 'вясеннія апенькі' (Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка, з літ. *voverùškos* 'лісічкі', параўн. *вавярушкі, авярушкі* 'вясеннія апенькі'. Магчыма, увядзенне адмоўя для дыферэнцыяцыі (параўн. рус. *клён/неклён* і пад.).

**Ніга́дкі** 'бесклапотна, ні аб чым не думаючы' (Бяльк.), 'добра' (Ян.), 'хоць бы што, нядоўга думаючы' (ТС), *ні гадкі* 'як ні ў чым не бывала, як з гусі вада' (Шат.). Гл. *гадка* 'размова', г. зн. 'без доўгіх размоў'.

**Нігане́бітны** 'паслухмяны, памяркоўны; нягрэблівы' (Янк. 1). Да *га́ньбіць* (гл. *ганьба*), у аснове семантыкі выраз *не даваць ганьбы* 'не мець заганы'. Параўн. *ганьбітны* 'дэфектны' (Сл. ЦРБ).

**Ніґаць** 'заглядваць, выглядваць' (мін., ул. інф.). Гл. *нікаць.*

**Ніґды** 'ніколі' (навагр., З нар. сл.; Сцяц., Сл. ПЗБ), *нігды* 'тс' (Жд. 1, Сцяшк., Сл. Брэс.), *ніґда* 'тс' (брасл., Сл. ПЗБ), *неґдэ, ныґды* 'тс' (драг., Нар. словатв.), *ныґдэ* 'тс' (камян., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *никгды (нигды, никды)* з 1392 г. Хутчэй за ўсё даўняе запазычанне з польск. *nigdy,* пра што сведчыць графічнае адлюстраванне выбуховага *г*, ст.-бел. *кг* ці *ґ*: *никгды, нигды* (Карскі, 2—3, 370; параўн. таксама Жураўскі, SOr, 10, 40; Булыка, Лекс. запазыч., 157). Меркаванні Шубы (Прысл., 60) пра самастойнае развіццё *никогды>никгды* здаецца менш верагодным, параўн., аднак, гродз. *нігады́* 'ніколі', якое можна вывесці з *ніго́д* 'ніколі' (гл.), што адкрывае шлях трансфармацыі *нігады>нігды.*

**Нігілю́зны** 'непрыгожы, неахайны' (жлоб., Жыв. сл.). Няясна.

**Ніго́д** 'ніколі, ні адзін год' (Жд. 2). Са спалучэння *ні год* (гл.).

**Ніда** 'вашынае яйцо, гніда' (Дразд.). Да *гні́да* 'тс'; цікавая паралель — архаічнае в.-луж. *nida* 'тс'. Адносна спрашчэння спалучэнняў *гн>н* ва ўсходнеславянскіх мовах гл. Філін, Происх., 282, 351.

**Нідарэ́йша** 'нязграбны чалавек' (гродз., Сл. ПЗБ). Няясна; відаць, аднолькавага паходжання з *недара́йда* (гл.). Субстытуцыя суфіксаў *-айда//-эйша* сведчыць пра магчымае балтыйскае паходжанне (вытворнае ад *ne* 'не' і *darýti* 'тварыць, утвараць', параўн бел. *пачва́ра,* польск. *potwór* і пад.).

**Нідбіць** 'знемагаць, чахнуць' (Нас.). Няясна; відаць, звязана з *ны́дзіць* 'маркоціцца, ныць; знемагаць, чахнуць' (ТС), магчыма, ад **ныдзьба* 'маркота' і пад. Гл. таксама *ны́двіць.*

**Ніж** 'чым, як' (слонім., Нар. словатв., ТС), *нэж* 'тс' (Сл. Брэс.), ст.-бел. *нижъ, нижь* 'тс', укр. *ніж* 'тс', польск. *niż* 'тс', чэш., славац. *než*, н.-луж., *niž* 'тс', в.-луж. *niež* 'тс'. Скарочаны варыянт **neže (ne+že)*, параўн. ст.-слав. **неже** (Махэк$_2$, 398; ESSJ SG, 2, 459), адносна бел і ўкр. форм з *-i-* выказваецца меркаванне пра запазычанне з польскай мовы (ESSJ SG, 2, 456; Карскі, 1, 198), аднак тут магчыма адмоўе *ні,* якое, паводле Карскага (1, 187), «у беларускай змешваецца з *не*», што дазваляе рэканструяваць зыходнае **niže (ni+že),* параўн. ESSJ SG, 2, 456. Ст.-бел. *нижли, нижьли, нижели* (XVI ст.), сучаснае *ніжлі* 'чым, як' (Нас.) (**ne-že-li* або **ni-že-li*), разглядаецца як паланізм (Карскі, 1, 187, 198).

**Ніжапе́рніца** *бат.* 'агатка' (Мат. Гом.), *ніжы́парніца* 'гусялапка' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Відаць, сапсаванае *міжперсціца* 'тс' (Кіс.), што суадносіцца з *міжыпарніца* 'ланцэталісты трыпутнік' і 'апрэласць' і *мізіперніца* 'захворванне пальцаў на руках', што тлумачыць і *ніжыпарніца* 'прэласць', г. зн. 'хвароба' і 'сродак яе лячэння'. Параўн. рус. *нижипарщица* 'нарыў, панарыцый', *нижеперсица* 'тс', што дэманструе шляхі дээтымалагізацыі (ад'ідэацыя да *парыць, перыць, пяро?*).



**Ніжнік** 'валет (у картах)' (Нас., Бяльк.), укр. *ни́жник* 'тс', польск. *niżnik* 'тс'. Відаць, да *ніжні,* г. зн. 'які знаходзіцца ў паслядоўнасці буйных картаў на самым нізе'.

**Ні́жы** 'таксама' (Пал.). Няясна, магчыма, тое ж, што і *ніж* (гл.).

**Ніз** 'ніз, ніжняя частка' (Яруш.), 'ніз; падлога' (Касп.), 'ніз; даліна' (ТС), 'нізіна; падол' (Сл. ПЗБ), 'ніжняя частка; падол' (Мат. Гом.), укр. *низ* 'ніз, нізкае месца', рус. *низ* 'нізіна', польск. дыял. *niz* 'нізіна', чэш., славац. *niz* 'ніз, уніз', славен. *niz* 'уніз', серб.-харв. *ни̑з, низ* 'нізіна; уніз', макед, *низ* 'уніз; па; праз', балг. *низ*. Прасл. **nizъ* 'уніз' з і.-е. **ni-*, **nei-* 'ніз', параўн. ст.-інд. *ni-* 'уніз', ст.-перс. *niy* 'тс', ст.-в.-ням. *nidar* 'тс' і пад.; канцавое *-z-* можа быць аналагічным адпаведнаму элементу ў **vъz-* 'уз-', *prězъ* 'праз' і інш. (Фасмер, 3, 73; Махэк$_2$, 400; Бязлай, 2, 224; ESSJ SG, 1, 131).

**Ніза́ць** 'нанізваць' (Гарэц., Яруш.), 'нанізваць, сцябаць' (Нас.), 'нанізваць, бадаць' (Сл. ПЗБ), 'нанізваць, наколваць' (ТС), сюды ж, відаць, і кобр. *ныза́ты* 'штурхаць' (Жыв. сл.), укр. *низа́ти* 'нанізваць', рус. *низа́ть* 'нанізваць; бадаць; біць, сцябаць', польск. *nizać* 'нанізваць, навязваць', н.-луж. *nizaś* 'тс', славен. *nizati* 'тс', серб.-харв. *ни́зати* 'тс', макед. *ниже* 'тс', балг. *ни́жа* 'тс'. Прасл. **nizati* 'пратыкаць, працінаць', суадноснае з **nьziti* (параўн. рус. *вонзить, пронзить* і інш., а таксама *нож,* гл.), што ўзыходзіць да і.-е. **neĝh-* 'працінаць, калоць', параўн. с.-ірл. *ness* 'рана' (Фасмер, 3, 73; Шустар-Шэўц, 13, 1005; Бязлай, 2, 224).

**Нізбіна** *(нізьбіна)* 'нізіна' (рэч., Нар. сл.). Магчыма, ад незафіксаванага **нізьба* 'нізкае месца, нізіна' або кантамінацыя *нізіна×лажбіна.*

**Нізва́ння** 'ніколькі' (Касп.), *ні званьня* 'зусім нічога, нічуць' (Шат.). Скарочанае з выразу *ні звання не засталося* (пра абсалютнае знікненне), дзе *званне* 'назва, найменне'.

**Нізве́сна** 'невядома' (Ян.). З рус. *неизвестно* 'тс'.

**Нізвіня́ць** 'прабачаць' (Грыг.). Дэфармаванне рус. *извинять* 'тс'.

**Нізі́перніца** 'гусялапка', *нізі́пернік* 'тс' (Сл. ПЗБ), *нізі́пірсьніца* 'тс' (Бяльк.), *нізыпі́рніца* 'тс' (Сл. ПЗБ), *нізіперснік, нізіперсніца* 'трыпутнік' (Кіс.). Разам з *нізі́пірсніца* 'нарыў' (Сл. ПЗБ) узыходзіць да *між(ы)перс(т)ніца* 'расліна (трыпутнік, гусялапка і інш.)' і 'хвароба (нарыў, прэласць паміж пальцаў)' (гл.).

**Ні́зкі** 'невысокі' (Яруш., ТС), *нізкі́* 'невысокі; нізінны; дрэнны па якасці' (Сл. ПЗБ), укр. *низьки́й* 'невысокі', рус. *низкий*

'тс', польск. *nizki* 'тс', чэш. *nízký* 'тс', славац. *nízky* 'тс', в.-луж., н.-луж. *niski* 'тс', славен. *nízek* 'тс', серб.-харв. *нйзак* 'тс', макед. *низок* 'тс', балг. *нйсък* 'тс' (<*низък*), *низък* 'нізкі (у маральных адносінах)'. Прасл. **nizъkъ*, вытворнае ад **nizъ*, гл. *ніз*. Прыватнае значэнне 'блізарукі', параўн. *нізкі на вочы* (Сцяц., Жд. 1, Ян., ТС), *ызкий на гочы* (Клім.), параўн. укр. *низький на очі*, рус. *низкий на глазы*, літ. *žetių akių* развілося, відаць, на базе 'той, які нізка схіляецца (каб разглядзець нешта)'.

**Нізнýць** 'парнуць вострым прадметам; раптоўна зашыцца' (ТС), 'ударыць' (Ян.). Гл. *нізаць*.

**Нікара́пла** 'няўклюда' (Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка, зыходная форма літ. *kerẽpla* 'нязграбная істота'; *ні* (<*не?*) мае, відаць, узмацняльнае значэнне.

**Нíкаць** 'хавацца ў кутках, схіляць галаву' (Нас.), 'шукаючы, заглядваць усюды' (круп., Нар. сл.; Касп.), 'выглядваць; хадзіць сюды-туды' (Мат. Гом., Ян.), 'прыглядацца' (Сл. ПЗБ), 'сланяцца па кутках, хадзіць без мэты' (Шатал.), 'заглядаць, куды не просяць' (Янк. 3), 'соўдацца без справы' (Пал.), сюды ж *нік* 'зірк' (Янк. 3), укр. *ника́ти* 'хадзіць, бадзяцца, соўдацца, усюды заглядваючы', рус. *ни́кать* 'даваць нырца; хадзіць без справы, без мэты', славен. *níkati* 'адмаўляць; нахіляцца'. Прасл. **nikati* з першапачатковым значэннем 'схіляць галаву да зямлі, нахіляцца' (Махэк₂, 399), роднаснае літ. *nýkti* 'слабець, панікаць', прус. *neikaut* 'бадзяцца, соўдацца' і інш. Мяркуецца, што трэба адрозніваць разгледжанае **nikati*₁ ад *nikati*₂, прадстаўленага ў дзеясловах тыпу *ýнікаць*, рус. *проникать* і пад., роднаснага літ. *įnikti* 'горача ўзяцца за штонебудзь' (Фасмер, 3, 74; Махэк₂, 399; Бязлай, 2, 223).

**Нікбіць** 'губіць, нішчыць; ужываць на зло' (Нас.). Няясна; зыходным здаецца назоўнік ⁺*нікба* 'знішчэнне, згуба' ад *нікнуць* 'знікаць, гінуць' (гл.).

**Нікв**á 'топкае балота, дрыгва' (ТС). Вытворнае ад *нікнуць* 'гінуць, знікаць' (гл.) паводле тыповай для назваў балот словаўтваральнай мадэлі, параўн. *маква, багва* і пад., сэнс — 'гіблае балота'.

**Нíкель.** Запазычана праз ням. *Nickel* са швед. *kopparnickel, nickel* ад імя ўласнага *Nikolaus*, першапачаткова 'гном, падземны дух' (Фасмер, 3, 74).

**Нікі** злуч. 'ні', звыч. пры параўнанні: *н'ик'и табойу дз'еўчыну ўз'аў* (параўн. *ні табою*=лепш за цябе...) (бераст., Сцяшк. Сл.). Хутчэй за ўсё з **niti*, параўн. славен. *niti*, серб.-харв. *нити*, макед. *нити* 'ні', што ў сваю чаргу ўяўляюць спалучэнне **ni* у параўнальнай функцыі з узмацняльнай часціцай **ti*, якая можа выступаць ў такіх спалучэннях і ў іншых варыянтах, параўн. балг. *нито* 'ні', ст.-чэш. *nit'* 'тс' і інш. (ESSJ SG, 2,



499—500). Пераход *т'*>*к'* у беларускіх гаворках звязваюць з ятвяжскім субстратам (Атрэмбскі, Gramatyka, 1, 357). Гл. таксама Цыхун, БЛ, 28, 64—65.

**Нíкнуць** 'знікаць, гінуць' (Сл. ПЗБ), 'знікаць, схіляцца ўніз' (Нас., Гарэц.), 'нікнуць, вянуць' (Яруш.), сюды ж *ніклы* 'паніклы' (Гарэц.), 'кволы' (Сл. ПЗБ). Формы зак. трывання да **nikati*₂ (гл. *нікаць*), у значэнні якіх магчыма кантамінацыя з **nikati*₁ (гл. *знікаць*), параўн. *нікнýць* 'заглянуць' (ТС).

**Нікóлі** 'ніколі, ні ў якім выпадку' (Нас., ТС, Пятк., Касп.), укр. *нікóли*, славац., чэш. *nikoli*, н.-луж. *nikul, nikula*, в.-луж. *nikoli, nykoly*. Адмоўная часціца *ні* з займеннікавым прыслоўем *калі* (<**koli*, Махэк₂, 399; ESSJ SG, 2, 356).

**Нікольнік** 'лешч, які нерасціцца ў сярэдзіне мая' (Жук.). Ад *Нікола* 'царкоўнае свята ў гонар святога Міколы-цудатворца'.

**Нікс** 'серна-кіслы цынк' (Нас.). Запазычана праз польск. *niks* 'цынкавая мазь' з ням. *Nichts*, назвы, утворанай ад грэч.-лац. *onychitis* шляхам жартаўлівага збліжэння з *nicht(s)* 'нічога' (Варш. сл., 391; Махэк₂, 399).

**Нíкпачын,** *нікпочы́н* 'нядаўна, толькі што' (жытк., Мат. Гом.; ТС). Цёмнае слова; другая частка асацыіруецца з *пачынаць*, параўн., напрыклад, *пачынак* 'пачатак' (Мат. Гом.), або спалучэннем ⁺*па чыне*, г. зн. 'пасля дзеі (падзеі, акта)', гл. *чын*.

**Нікуды́шні,** *нікуды́шны* 'нікчэмны, непрыдатны, нездатны' (Касп., Сцяц., Сл. ПЗБ; драг., Нар. лекс.; Ян.; петрык., Мат. Гом.), *нікудычны* 'слабы, стары' (Ян.). Прыметнік, утвораны на базе словазлучэння *нікуды не варты* шляхам адсячэння яго часткі і афармлення канца слова суфіксам *-шн (-чн)*, параўн. *заўтрашні, ранішні* і пад. Меркаванні пра запазычанасць з рус. *никудышний* (Сл. ПЗБ), здаецца, не маюць падстаў.

**Нікчэ́мны,** *нікчóмны* 'нікуды не варты, непрыдатны' (Нас., Касп., Сл. ПЗБ, ТС). Прыметнік, утвораны на базе словазлучэння тыпу *ні к чаму не варты*, параўн. *нікчóму* 'ні да чога, без патрэбы' (ТС). Меркаванні пра запазычанасць з польск. *nikczemny* 'благі, подлы' (Сл. ПЗБ), што паходзіць ад *nikczemu* (Брукнер, 359), здаюцца неабавязковымі, паколькі ў народных гаворках магчымы пераход *о*>*э* пад націскам, параўн. *штонікі* і *штэнікі*. Параўн. таксама чэш. *ničemny*<*ničemu* (*nepaučený*), Махэк₂, 399.

**Нільжа́** 'нельга, няма магчымасці' (Мал.). Гл. *нéльга*.

**Нім** 'перш чым, пакуль' (Федар., Чачот), укр. *нім* 'тс', польск. *nim* 'тс'. Паводле Карскага (2—3, 84), паходзіць з ускоснай склонавай формы займенніка **jь* (гл. *ён*); таксама аднosна польскага злучніка гл. Брукнер (204, 364). Апошні разглядаецца і як вынік кантамінацыі: *nim*<*niž*×*im* (ESSJ SG, 2, 498 з адпаведнай літ-рай). Нягледзячы на фіксацыю яшчэ

ў Бярынды, бел. *нім* хутчэй за ўсё запазычана з польскай, параўн. Булахаў, Развіццё, 27, а таксама Карплюк, Paralele w rozwoju słownictwa języków słowiańskich. Wrocław etc., 1989, 161—170. Няяснага паходжання мін. *нім* 'як бы, быццам' (Сл. ЦРБ), фармальна ідэнтычнае разгледжанаму раней (кантамінацыя *нібы*×*быццам?*).

**Німазна́ць** 'вельмі' (Ян.). Гл. *немаведзь*, з заменай другой часткі сінанімічным *знаць* (гл.).

**Німала́ду** 'без прычыны, немаведама за што' (Некр.), 'невядома' (Янк. 1). Відаць, з *няма ладу*, параўн. *ніўлад* 'не так, як трэба' (Сл. ПЗБ). Гл. *лад*.

**Німама́та** 'громка (вельмі)' (Мат. Гом.). Хутчэй за ўсё з +*няма мата*, дзе *мат* 'голас' (гл.), што можа трактавацца як 'так моцна, што не хапае голасу', параўн. *нямым голасам крычаць* 'страшэнна, роспачна крычаць'. Не выключана і іншая версія на базе зыходнага выразу +*нямы мат* як *нямы голас*. Ва ўсякім выпадку магчыма кантамінацыя абодвух выразаў.

**Ніназі́дны** 'непрыгожы, непрыглядны' (жлоб., Жыв. сл.). Відаць, *ненавідны* (гл. *ненавідзець*) з тыповым фанетычным пераходам *не*>*ні* або змяшэннем адмоўных часціц *не* і *ні* (Карскі, 2—3, 450). Аднак семантыка дапускае другаснае збліжэнне з *від* 'выгляд; твар', параўн. выраз *на від* 'на выгляд, тварам' (+*ні на від?*).

**Ні́ня** 'зараз' (гродз., Сл. ПЗБ; Цых., Хрэст. дыял.), *ніні* 'тс' (беласт., Сл. ПЗБ), *ніняка, нінека* 'сёння' (гродз., Шн. 3; Сцяшк. Сл.), укр. *ни́ні* 'тс', рус. *ни́ня, но́не* 'зараз, сёння', *ныне* 'сёлета; нядаўна', польск. арх. *ninie* 'зараз, цяпер', каш. *ninia* 'тс', палаб. *nină* 'тс', чэш. *nyní* 'тс', славен. дыял. *nen, njan* 'тс', серб.-харв. арх. *нине* 'тс', балг. дыял. *ни̏не* 'тс', ст.-слав. **нине** 'тс'. Прасл. **nyně*, варыянт **nъně*, адпавядае літ. *nunai* 'цяпер, зараз', роднаснае ст.-інд. *nūnam* 'тс', грэч. νυνί і пад., узыходзіць да і.-е. *nū/nu* з факультатыўным насавым *n*, што звязваюць з асновай у **neu-os* 'новы', прасл. *novъ* (ESSJ SG, 2, 508; Махэк₂, 403; Фасмер, 3, 91; Бязлай, 2, 224; Брукнер, 364; Pycek, Slavia, 55, 2, 165). Адносна рэдкіх бел. *ніне, ніна* выказваецца меркаванне пра іх кніжнае, царкоўнае паходжанне ў адрозненне ад распаўсюджанага ст.-бел. *нине* (1387 г.), для якога дапускаецца польскі ці чэшскі ўплыў (Карскі, 1, 236). Шуба (Прыслоўе, 184) мяркуе, што дыялектныя формы — запазычанне з рус. *ныне*. Праблему складае *і* на месцы *ы* ў бел. і ст.-бел. словах (Карскі, 1, 236), што можа тлумачыцца асіміляцыяй (ESSJ SG, 2, 508), а таксама канчатак *-я*, дзе магчымы ўплыў дзеепрыслоўяў (Карскі, 1, 214).

**Ніпро́шта** (*нипро́што*) 'як быццам; быццам бы не' (Нас., Грыг.), параўн.: *Нипрошто ён тутъ бывъ* і тлумачэнне Насовіча: «Как бы его не было здесь». З *ні* (адмоўе) і *прошта* 'быццам' (гл.).



**Ніссялю́ба** 'неахвотна' (жлоб., Мат. Гом.). Няясна; апошняя частка суадносіцца з *любіць* (гл.).

**Ністо́жыць** 'знішчаць' (ТС). Відаць, з +*ніштожыць* з распадабненнем зычных, што ў сваю чаргу з *нішто* (гл.), г. зн. 'пературараць у нішто', аднак больш верагодна, што зыходнай формай было ст.-слав. **ничьтоже** 'нічога', адкуль і рус. дыял. *ничтожить* (КЭСРЯ, 465).

**Ні́сякава** (*ні́сяково*) 'ніякавата, няёмка' (ТС). З *ні сяк*, параўн. *ні так, ні сяк* 'ні так, ні гэдак', гл. *сякаво* 'так сабе, абы-як' (Нас.).

**Ніт**₁, звычайна ў мн. *ніты́, ніто́* 'ніцяныя петлі ў ткацкім станку для падымання нітак асновы' (Нас., Касп., Шат., Сл. ПЗБ, ТС, Сцяшк., Бяльк.; мсцісл., Жыв. сл.; браг., Нар. сл.; Дразд.; полац., Хрэст. дыял.; Уладз., Грыг., Гарэц.; Воўк-Лев., Татарк.; Маш.), *нитык* 'тс' (драг., Жыв. сл.), укр. *ниті́* 'тс', рус. *нит, ниты́, нито* 'тс', польск. *nit, nica* 'тс', серб.-харв. *ни̏ти* 'тс', балг. дыял. *ни́ти* 'тс'. Прасл. **nitъ*, роднаснае літ. *nýtis, nýtys* 'тс', лат. *nītes, nītis* 'тс', звязанае з **nitь* (гл. *нітка*). Параўн. *нічальніцы*.

**Ніт**₂, мн. *ніты́* 'заклёпка' (Нас., Бяльк.). Запазычанне праз польск. *nit* 'тс' з ням. *Niet* 'тс'.

**Нітава́ць** 'злучаць, склёпваць' (Нас., Др., Грыг.), ст.-бел. *нитовати* (1498 г.) 'тс'. Запазычанне з ням. *nieten* 'тс' праз польскую мову, параўн. ст.-польск. *nitować* (Кюнэ, 81; Булыка, Лекс. запазыч., 93).

**Нітве́дама** 'немаведама' (мядз., Нар. словатв.). Відаць, з *нет* (гл.) і *ведама* (гл. *ведаць*); пачатак слова — вынік кантамінацыі *нет-*×*ні-*>*ніт*.

**Ні́тка** 'прадзіва, нітка' (Бяльк., Яруш.; мсцісл., Жыв. сл., Сл. ПЗБ, ТС), рэдка *ніць* 'тс' (Яруш.), *ніткі* мн. 'прадзіва' (Бесар.), параўн. укр. *нить, ни́тка*, рус. *нить, ни́тка*, польск. *nić, nitka*, чэш. *nit*, славац. *niť*, в.-луж. *nić, nitka*, н.-луж. *niś, nitka*, палаб. *nait*, славен. *nit, nîtka*, серб.-харв. *ни̑т*, макед. дыял. *нитка*. Да прасл. **nitь*, роднаснае літ. *nýtis* 'аснова'; усё ўзыходзіць да і.-е. кораня *pēi-* 'прасці', г. зн. 'прадзіва' (Фасмер, 3, 76; Махэк₂, 399; Бязлай, 2, 224; Шустар-Шэўц, 13, 1001). Значэнне 'нізка', параўн. *нітка грыбоў* (Сл. ПЗБ, Шатал.; Мат. Гом., ТС), хутчэй за ўсё вынік пераасэнсавання дээтымалагізаванай назвы *нізка*.

**Ні́тра** 'парашок для мыцця бялізны' (Сл. ПЗБ). Ад лац. *nitrum* 'сода'.

**Нітубі́ч** 'бяссмертнік' (ваўк., Сл. ПЗБ), *нитýнiч* 'цмен пясчаны, Helichrysum arenarium' (гродз., Кіс.), *нятубіц* 'пералёт мнагалісты, Anthyllis polyphylla' (гродз., Кіс.). Цёмнае слова. Мяркуецца, што зыходнай была апошняя форма, якую можна разглядаць як табуізаваную назву расліны, што ўжывалася для

лячэння ці чаравання: +*не-ту-быць,* літаральна 'якой тут няма', параўн. аналагічныя назвы: славац. *neto* 'нейкая расліна', польск. *nietota* 'дзераза' (Махэк₂, 397; Брукнер, 361—362: «bo roślin czarowniczych nie nazywa się po imieniu») і асабліва *nieturośla* 'myrosma' (Варш. сл.). Параўн. *нятупнік* (гл.).

**Ніты,** *нітава́нне* 'рвота, ваніты' (Нас., Гарэц.). Ад *ваніты, ванітаванне* (гл. *ванітаваць*) шляхам адсячэння пачатковага *в*, успрынятага як незаканамерная пратэза, пасля адпадзення пачатковага *а* па мадэлі, спецыфічнай для гаворак усходу Беларусі, параўн. *граном*<*аграном* і пад.

**Ні́ўка**₁ 'памянш. ад *ніва*' (Нас., Бяльк., ТС), 'агароджанае месца для жывёлы ў полі' (ДАБМ, камент. 785). Гл. *ніва.*

**Ні́ўка**₂ 'пырнік паўзучы, Agropyron repens' (маг., Кіс.). Відаць, да *ніва*; матывацыя тлумачыцца, магчыма, тым, што прарасшы на полі пырнік прыпамінае засеяны ўчастак.

**Ніўпа́мкі** 'не ў памяці' (Некр.; калінк., З нар. сл.). Паводле Карскага (2—3, 69), адназоўнікавае прыслоўе з суфіксам *-кі*, далучаным непасрэдна да кораня *пам-*, гл. *памяць, помніць,* параўн. *ніўцям, неўпрыцямкі* (да *цяміць*) і пад.

**Ні́хвець** 'недамагаць, чэзнуць', *ні́хневаць* 'тс' (ТС). Няясна; магчыма, утворана ад дзеяслова *хве́яцца (хвѣицьца)* 'хістацца' (Нас.), польск. *chwiać* 'згібаць, хістаць', укр. *хві́яти* 'нахіляць, гойдаць' і пад., *ні-* ў гэтым выпадку мела б узмацняльны характар, чым і тлумачыцца яго націскны характар. Відаць, выпадковае падабенства да балг. дыял. *нехве́лам* 'недамагаць, хварэць', *не́хвель* 'хвароба, слабасць' (Гераў), якое лічыцца грэцызмам.

**Ніхто́** 'ніхто, ніводзін чалавек' (Нас., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), укр. *ніхто́*, рус. *никто́*, польск. *nikt*, арх. *nikto*, чэш. *nikdo*, славац. *nikto*, в.-луж. *nichtó*, н.-луж. *nicht*, славен. *níkdo*, серб.-харв. *нйко,* макед. *нико,* балг. *ни́кой*. Прасл. **nikъto*, спалучэнне адмоўя *ni-* і займенніка **kъto* (гл. *хто*).

**Ні́храць** *(ні́хрэць)* 'недамагаць, чэзнуць' (ТС), *ні́хрыты* 'чахнуць, сохнуць' (брэсц., Нар. лекс.). Няясна; магчыма, у аснове дзеяслоў тыпу рус. *хрять* 'цягнуцца марудна і з цяжкасцю', суадносны з польск. *ochrzęły* 'чэзлы' і пад. (параўн. Фасмер, 4, 281); у такім выпадку *ні-* мае ўзмацняльны характар, чым, магчыма, тлумачыцца і націск на ім. Нявысветленыя адносіны да балг. дыял. *нехаре́іа* 'марнець, чахнуць, чаўрэць', з якім суадносіцца *не́хар* (Стойчев, СбНУ, XXXI, 306), *не́хрь, не́хър* 'лянота, гультайства', *нехри́в* 'лянівы, вялы' (Гераў), параўн. радоп. *харе́е* 'спрыяе'.

**Ніц**₁ 'ніцма, тварам да зямлі' (Нас., Гарэц., Бяльк., Пятк., Шат., Сл. ПЗБ), укр. *ниць*, рус. *ниц, ничь,* ст.-чэш. *nic,* славен. *nic,* серб.-харв. *ниц,* параўн. ст.-слав. **паде ниць.** Прасл. **nicь* параўноўваюць з лат. *nīca* 'мясцовасць уніз па рацэ', ст.-інд. *nīcas* 'нізкі', *nīcāt, nīcāiş* 'унізе', ст.-в.-ням. *nidar* 'уніз', што выводзіцца з асновы і.-е. *nĭ-* 'уніз' (Фасмер, 3, 76; Махэк₂, 399; Бязлай, 2, 222).



**Ніц**₂ 'спод, левы бок тканіны ці адзежы' (Нас.), рус. *ничь* 'тс', польск. *nice* 'левы бок тканіны', славац. *níce* 'тс' (<польск., Махэк₂, 399), серб.-харв. *нице* 'навыварат'. Гл. *ніц*₁.

**Ніц**₃ 'нічога' (Сл. ПЗБ, Сцяц., Шатал.), ст.-бел. *ницъ* (1501)<ст.-польск. *nic* (Булыка, Лекс. запазыч., 200).

**Ніцава́ць** 'пераварочваць, перашываць адзежу ўсярэдзіну добрым бокам' (Нас., Гарэц., Грыг.). Да *ніц*₂ (гл.); паводле Цвяткова (Працы кл. філал., 1, 75), «*ц* у гэтым слове не з'яўляецца заходнеславянскай асаблівасцю: беларускае і расійскае *ниц* паходзяць з кораня *ник*»; насуперак Кюнэ, 81 (<польск. *nicować* 'тс'), Баханькоў, Весці АН БССР, 1981, 1, 120 (недакладная калька з рус. *лицевать*).

**Ніцака́** 'ніц, тварам уніз' (Ян.). Тое, што і *ніц*₁ (гл.) з «пустой» часціцай *-ка,* якая не дадае «ніякага асаблівага адцення» (Карскі, 2—3, 68).

**Ніцалаза́** 'вярба размарыналістая, Salix rozmarinifolia L.' (мін., Кіс.; Шат.), *ніц-лаза́, ні́цая лаза* 'нізкарослая вярба з тонкімі галінкамі і дробнымі лістамі' (Др., Бяльк.), *ніцлаза́* 'жаўтазель фарбавальны, Genista tinctoria L.' (гродз., Кіс.), *ні́цая лаза́* 'лазаніца, Naumburgia thyrsiflora Keich.' (сураж., Касп.), *ні́цыя ло́зы,* фалькл. (мін., Шн.), параўн. рус. зах. *ницелоз* 'Salix repens L.' (Даль), укр. *ницелоз* 'тс' (Грынч.). Да *ніцы* (гл.), да семантыкі параўн. *ніцы (ницый)* 'які нізка расце (аб кустах лазы)' (пін., Доўн.-Зап., Жен. доля, 56), *ні́цая* 'плакучая (бяроза)' (Пал., 33).

**Ні́цам** 'ніц, тварам уніз' (Сл. ПЗБ, Бяльк.), параўн. балг. радоп. *ни́цом* 'тс', серб.-харв. *nicem* 'тс'. Паводле Карскага (2—3, 75), аналагічнае ўтварэнне да адназоўнікавых прыслоўяў, узнікшых з формы тв. скл.

**Ніце́ць** 'рабіцца тонкім і кволым (пра расліны)' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'вырастаць тонкай і доўгай (пра націну агародных культур' (полац., Нар. лекс.), 'расці у парасткі' (Сцяшк. Сл.). Ад *ніць* (гл. *нітка*).

**Ніці́кі** 'ніты, частка кроснаў, з дапамогай якіх утвараецца зеў у аснове' (валож., Жыв. сл.). Памянш. да *ніт*₁ (гл.), *ніты́.*

**Ні́ціць** 'рабіць кабылкі ў нітах' (браг., Нар. сл.), 'вязаць петлі ніта, рабіць ніт' (Уладз.), *ні́ціць ніт* 'нацягваць ніткі ў ніце' (ТС), *ні́ціць* 'сукаць ніткі' (мсцісл., Жыв. сл.), *ні́цііца («ніт ні́цііца»)* 'блытацца, пераціраецца' (ТС), укр. *нитити* 'нацягваць ніткі ў ніце', рус. *ни́тить* 'рабіць петли для ніта', серб.-харв. *nȉtiti* 'распраўляць ніці ў ткацкім станку'. Паводле Запрудскага (АКД, 15), праславянскі дэнамінатыў на *-iti* ад **nitь* (гл. *нітка*).

**Ніцкі** 'нелюдзімы' (слуц., Сл. ПЗБ). Ад *ніцы* 'змрочны, пануры', утворана, магчыма, пад уплывам *нялюцкі (нялюдскі)*.

**Ніцма** 'ніц, тварам уніз' (Кліх, Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ, ТС), 'стрымгалоў' (Шат.). Да *ніц*$_1$ (гл.), прыслоўе ўтворана пры дапамозе суфікса *-ма*, па паходжанню — назоўнікавы канчатак тв. скл. падв. л. (Карскі, 2—3, 67). Шуба (Прыслоўе, 58) бачыць ў ім кантамінацыю формы *ніцам* (гл.) з канчаткам тв. скл. і дзеясловаў на *-ма* (тыпу *лéжма*).

**Ніцóта** 'звышмодная ў адзенні і ў сваіх паводзінах жанчына' (міёр., З нар. сл.). З адмоўя *ні (-не)* і *цнота* 'сціпласць, неразбэшчанасць' (гл.); відаць, мясцовае ўтварэнне на базе польск., *niecnota* 'нікчэмнік, гультай, нахабнік'.

**Ніцы** 'нізкі, паніклы (звычайна пра дрэва)' (Сл. ПЗБ, Касп.), 'апушчаны ўніз' (Сцяшк. Сл.), 'скрытны, пануры' (Касп., Бяльк.), 'скрытны; хітры, няшчыры' (Нас.), 'змрочны, пануры' (ТС), 'подлы, ганебны' (Ян.), 'пахмурны, непагодлівы' (Сл. ПЗБ, ТС), укр. *ниций* 'подлы, нізкі, пошлы', рус. *ницый* 'нізкі, паніклы; подлы'. Параўн. ц.-слав. *ниць*, прыслоўе 'ніц, ніцма' і прыметнік 'пахілены ўперад', усё да _*nicь_ (гл. *ніц*$_1$). Спробы вывесці значэнне 'пахмурны, хмурны' са значэння літ. *nykýs* 'хмурны' (Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1972, 1, 80) неперакананальныя, бо указанае значэнне натуральна выводзіцца са значэння 'навіслы, змрочны', фармальна ж беларускае слова не можа быць запазычаннем з літоўскай.

**Ніць** 'прадзіва' (Яруш.). Гл. *нітка*.

**Ніцюк** 'німала' (Нас.). Да *цюк* (выклічнік), гл. *цюкаць* 'стукаць'.

**Ніця́нікі** 'лапці, зробленыя з нітак' (дзятл., Сл. ПЗБ), *ніця́нькі* 'тс' (навагр., Жыв. сл.). Ад *ніця́ны* 'зроблены з нітак', гл. *ніць*.

**Нічавéй** 'старасцень вясенні, Senecio vernalis L.' (віц., Кіс.). Няясна; магчыма, кантамінацыя дзвюх народных назваў расліны: *нічуйвецер*×*сухавея*>*нічавей*, гл. *нячуй-вецер*.

***Нічагéза** (*нічогéза*) 'злая жанчына': *Той то вельмі добрэзны, а вона нічогеза* (ТС). Ад *нічогі* 'дрэнны, злы', экспрэсіўны суфікс *-еза*, параўн. *малёнезя* 'немаўля' (Карскі, 2—3, 31).

***Нічагóта** (*нічогýотэ*) 'нікчэмнасць' (беласт., Сл. ПЗБ). Ад *нічогі* 'дрэнны, нікчэмны', суфікс *-ота*.

**Нічальніцы** 'ніты, частка кроснаў, з дапамогай якіх утвараецца зеў у аснове' (Кліх; валож., навагр., Жыв. сл.; свісл., воран., Шатал.; Сцяц., Жд. 1, Сцяшк.; карэл., Янк. Мат., Сл. ПЗБ), сюды ж *нічаніцы* (талач., Шатал.; Бес., Уладз.; вільн., беласт., Сл. ПЗБ), укр. *ничельниця, ничениця* 'тс', рус. *ничальница, нительница, ничелки, нúченицы* 'тс', польск. *niczelnica*, *nicielnica* 'тс', славац. *nitel'nice* 'тс', серб.-харв. дыял. *nȉčalnica, ničanice* 'частка ткацкага стану' (HDZb., 3, 140), балг. *нищелки* 'тс'. Згодна з Махэкам$_2$ (399), зыходнай формай быў прыметнік _*nitelj-ьnъ_, дзе *-tel-* адпавядае суфіксу, што абазначаў дзеяча, які далучаецца да кораня _*ni-_ (<і.-е. *nei-* 'весці'), формы без *-l-* у выніку народнаэтымалагічнага збліжэння з _*nitь_ 'прадзіва, нітка'. Сумніцельна; наяўнасць амаль паўсямесна паралельных форм без *-l-*, якія выводзяцца з _*nitьnь_ 'ніцяны', параўн. віц. *ніцініца, нічаніца* 'тоўстая нітка (для нітоў)' (Касп.), сведчыць аб другасным характары названых форм з *-l-*. Гл. заўвагі Слаўскага (Slavica: Wybr. studia. Wrocław etc., 1989, 134) адносна інавацыйнага характару балг. *нúщелки*, а таксама рус. *нúчальные (ничáльные) доски* 'дзве паралельныя дошчачкі з ніцянымі петлямі, у якія прапускаюцца ніткі асновы', што сведчыць пра аддзеяслоўнае паходжанне форм з *-l-*, відаць, ад *ніціць* (_*nititi_): рус. *ничальные доски*>*ничальницы*. Інавацыйнае паходжанне названых форм тлумачыцца, відаць, зменамі ў тэхналогіі працэсу — ужываннем спецыяльных прыстасаванняў (дошчачак замест вяровачак і пад.).



**Нічкам** (*нічком*) 'ніц, тварам уніз' (ТС), рус. *ничкóм* 'тс', серб.-харв. *ни̑чке̄* 'тс', макед. *ничко, ничком* 'тс', балг. *нúчком* 'тс'. Да *нікаць* (_*nikati_$_1$); на базе значэння 'схіляць галаву, нахіляцца', параўн. серб.-харв. *ни̑ком* 'тварам уніз', збліжана з *ніц*$_1$ (_*nicь_), *ніцком*, 'ніц, тварам уніз' (ТС), параўн. *ніцам* (гл.). Такога ж паходжання *нічма* 'тс' (Нас.), суадноснае з *ніцма* (гл.). Гл. Фасмер, 3, 76.

**Нічкóм** 'моўчкі': *Я ня ныю, сяджу нічком* (люб., Сл. ПЗБ). Ад *нішкам* 'тс' пад уплывам *нічкóм, нічкам* 'тварам уніз', або ў выніку разпадабнення *-шк->-чк-*, параўн. таксама ўкр. *нúшком* 'уніз тварам'.

**Нічóга** 'нічога; нядрэнна; абы-як' (Нас., Сл. ПЗБ, Касп.), 'нічога, нішто сабе' (Ян.), *нычóго* 'дрэнна, нічога' (Клім.), *нічагó* 'нічога, так сабе' (Бяльк.), *нічóго* 'нічога' (Сцяшк.), укр. *нічóго* 'нічога', рус. *ничегó* 'нічога; зусім; так сабе', польск. рэдка *niczego* 'нічога; зусім', чэш. *ničeho* 'нічога', славац. *ničoho* 'тс', в.-луж. *ničeho, ničoho* 'тс', серб.-харв. *nȉčega* 'тс'. Пераважна паўн.-слав. утварэнне з _*ni_ (адмоўе) і _*čego_ (пытальны займеннік), гл. *што*. Экспрэсіўныя дэрываты: *нічóгачка, нічóгачкі* (Яўс., Нас.), *нічагýсі* ($^{+}$*ні-чаго-сі*, гл. *сёй*), *нічогýсенькі* (ТС), *нічагýсенька, нічагусенькі, нічагéнькі* (Нас., Касп., Ян.), *нічагýські* (Сл. ПЗБ), *нічагуткі* ($^{+}$*ні-чаго-т-кі*, Бяльк.), *нычогутько* ($^{+}$*ні-чого-ти-ко*, гл. *той*, Клім.), *нічагéнечкі* (Мат. Маг.). Развіццё семантыкі ад нейтральнага 'нічога' да рознай градацыі адмоўных значэнняў на падставе спалучэнняў *нічога дрэннага, нічога асаблівага* 'так сабе, нядрэнна', да *нічога добрага* 'абы-як, дрэнна'.

**Нічо́гі** 'нядрэнны; дрэнны; слабы здароўем' (Сл. ПЗБ), 'слабы, малавартасны (пра неадушаўлёныя прадметы), слабы здароўем (пра чалавека, жывёлу)' (Янк. 1), 'дрэнны, кепскі, паганы, шкодны, шкадлівы; непрыдатны, няўдалы, благі, нікуды не варты; слабы, кволы' (ТС), 'нікчэмны' (Сцяшк. Сл.), 'прыгожы; слабы здароўем; нікудышны' (Мат. Гом.), *нычо́гы, нычо́гый* 'дрэнны, кепскі' (бяроз., Шатал.), *нічо́гій* 'дрэнны, нікчэмны' (Доўн.-Зап. ПП), укр. *нічогий* 'кепскаваты; ніштаваты'. Прыметнік ад *нічо́га* (гл.), семантыка пераважна адмоўнага плану на аснове ўсяго спектра значэнняў зыходнага слова, параўн. таксама вытворнае *нічого́ўка* 'вельмі дрэнны чалавек' (ТС).

**Ні́ша** 'выемка ў сцяне' (ТСБМ). З ням. *Nische* 'тс', відаць, праз. рус. *ни́ша* 'тс'.

**Ні́шкам** 'цішком; употай' (Сл. ПЗБ), 'без шуму, ціха' (дзярж., З нар. сл.), *нішком* 'моўчкі' (Мат. Гом., Маш.), 'без гуку, ціха, шэптам; употай, незаўважальна; знянацку, нечакана' (ТС), *ны́шком* 'ціха, моўчкі' (Клім.; пін., Жыв. сл.), дэрываты — *ні́шка* 'цішком, спадцішка' (ТС), *ні́шкі* 'тс' (Мат. Гом.), *ні́шачком* 'без шуму, ціха' (дзярж., З нар. сл.), *нішчачком* 'крадучыся' (ст.-дарож., Нар. сл.), *нішчачком* 'моўчкі' (Сл. ПЗБ), укр. *нишком* 'ціха, употай, шэптам', рус. *ни́шком, нишко́м* 'паціху, моўчкі, патаемна; схіляючыся да зямлі, уніз'. Відаць, аднаго паходжання з *нішкнуць* (гл.); для слоў са значэннем 'употай, незаўважальна, знянацку; крадучыся' не выключаны ўплыў *ні́чкам* 'нахіліўшыся тварам уніз', параўн. таксама балг. дыял. *ни́ша се* 'прыгнуўшыся, каб ніхто не бачыў; ісці прыгнуўшыся' і *нішковаць* 'падкрадвацца, цікаваць спадцішка' (ТС).

**Нішкара́дзіна** 'няўклюда' (лід., Сл. ПЗБ). Відаць, да *шкараць (<шкарадзь?)*, 'дрэнь, брыда', *шкаратны (<шкарадны)* 'брыдкі, агідны'; *ні (не?)* мае ўзмацняльны характар.

**Нішкарэ́йда** 'няўклюда' (ваўк., Сл. ПЗБ). Да *шка́раць (шкарадзь)* 'дрэнь, брыда' з рэдкім суфіксам *-эйда*.

**Нішкну́ць** 'маўчаць' (Ян.), *ні чхні, ні шкні* 'загад маўчаць' (лоеў., Полымя, 1978, 5, 255), укр. *ни́шкнути* 'маўчаць', рус. *нишкну́ть, ничкну́ть, ничхну́ть, ни́шнуть* 'тс'. Цёмнае слова, несумненна звязанае з *нішкам*, 'цішком, моўчкі' (гл.). Паводле Фасмера (3, 77), з *ні* і *шы́каць*; у такім выпадку формы з *-чх-* — вынік народнаэтымалагічнага збліжэння з *чыха́ць, чхаць*, параўн. *чхну́ць* 'чыхнуць': *Сядзі і ні чхні, каб цябе ніхто і ні чуў!* (Бяльк.), а формы з *-чк-*, магчыма, з *чыкаць* 'цікаць' (Бяльк.).

**Ніштава́ты** 'нядрэнны, добры' (Бір. дыс.). Гл. *нішто́*.

**Нішто́** 'нішто; абы-як; не шкодзіць' (Нас.), 'нядрэнна' (Сл. ПЗБ), 'нішто' (Касп., Бяльк.), 'нядрэнны, нядрэнна' (докш., Янк. Мат.; Янк. 1), 'нічога сабе, нішто' (Гарэц.),



*нішчо́* 'нішто, ні адно; нічога, так сабе; нядрэнна, добра; нічога страшнага, хоць бы што; нядрэнны, неблагі; немалы' (ТС), 'нічога, нішто' (Мат. Гом.), укр. *ніщо́* 'нішто, няма чаго', рус. *ничто́* 'нічога; добра, нядрэнна', польск. *nic* 'нічога, ані трошкі', чэш. *nic* 'нічога', славац. *nič*, в.-луж. *ničo*, н.-луж. *nico*, славен. *nìč*, серб.-харв. *ни̏шта*, макед. *ништо*, балг. *нищо*. Прасл. *ni-čь(to), параўн. авест. *naēčit* 'нішто' (ESSJ SG, 2, 488—490; Фасмер, 3, 76; Махэк$_2$, 398; Бязлай, 2, 222; Шустар-Шэўц, 13, 1001). Адносна семантыкі гл. *нічога*.

**Нішча́ць** 'худзець' (Сл. ПЗБ). Няясна, магчыма, звязана з *нішчэць (нищѣць)* 'бяднець, даходзіць да галечы' (Нас.), што ў сваю чаргу з *нішчы* 'бедны, жабрак' (Сл. ПЗБ, Бяльк.), ст.-бел. *нищий* 'тс' (XVI ст.; Карскі, 1, 391), якое ўзыходзіць да прасл. *nīstį-, роднаснага ст.-інд. *niṣṭyaḥ* 'чужы, нетутэйшы' (Фасмер, 3, 77). Адносна семантыкі параўн. рус. *нищий* 'жабрак'; 'сухарлявы, хударлявы', *ху́до-бе́дно* 'больш-менш, таксяк' і інш. Гл. *нішчыць*.

**Нішчы́мны** 'посны, без тлушчу, без закрасы' (Касп., Шат., Некр., Сцяшк., Янк. 1, Вешт., Сл. ПЗБ), 'пусты, парожні; посны; без нічога, з пустымі рукамі; дрэнны, слабы' (ТС, Ян., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *нішчы́мный (нисчи́мный)* 'пусты, звараны без закрасы' (Нас., Бяльк.), сюды ж *нішчы́мніца* 'адсутнасць тлушчу, посніца' (Бяльк., Касп., Мат. Гом., Янк. 1—2; бых., Янк. Мат.), 'посная ежа' (Яруш., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), 'нясмачная ежа' (Нас.), *нішчымно́та* 'пустата, нястача' (ТС), *нішчы́мнік (нисчи́мникъ)* 'бядняк, які харчуецца ўсухамятку' (Нас.). Ад спалучэння *ні з чым* 'без нічога', параўн. прыслоўе ў Насовіча з этымалагічным напісаннем: *нисчи́мъ* 'бедна, мізэрна; з пустымі рукамі': *Нисчимь всегды ядзим...; Нисчимъ жонку взявъ* (Нас.).

**Ні́шчыць** 'даводзіць да галечы' (Нас.), 'знішчаць, зніштажаць, губіць, спусташаць, прымяншаць' (Гарэц.), 'спусташаць' (Яруш.), 'знішчаць' (Шат., Бяльк.), *нішчыцца* 'гінуць, прападаць' (ТС), укр. *нищити* 'спусташаць, знішчаць', польск. *niszczyć* 'ператвараць у нішто, марнаваць, знішчаць, спусташаць'. Выводзяць з прасл. *nistį- (гл. *нішчэ́ць*) (Брукнер, 364; Фасмер, 3, 77), што ўзыходзіць да *ničьto, гл. *нішто* (ESSJ SG, 2, 489).

**Нішчэ́та** 'бесталкоўшчына, пустэча (пра чалавека)' (ТС), параўн. польск. дыял. *niszczota* 'знішчальнік, марнатравец', *niszczotny* 'убогі, бедны'. Гл. *нішчыць*.

**Нія́к** 'ніякім чынам' (Нас., Шат., Бяльк., ТС), 'нікольki' (гродз., Сл. ПЗБ), укр. *нія́к* 'ніякім чынам', рус. бранск. *ния́к* 'тс', польск. дыял. *nijak* 'тс', чэш., славац. *nijak* 'тс'. Са спалучэння *ni (адмоўе) і *jakъ (гл. *як*), новатвор, узнікшы пасля выцяснення *kakъ (ESSJ SG, 2, 491).

**Нія́кі** 'ніякі, ні адзін, ніводны' (Нас., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, Ян., ТС), 'дрэнны, благі, нягодны' (Ян., ТС; полац., Нар. лекс.;

бешанк., Нар. сл.), 'худы, хваравіты' (Мат. Гом.), 'хворы' (ТС, Сл. ПЗБ), 'неразумны; слабы, кволы; невялікі' (Сл. ПЗБ), сюды ж *ніяка* 'дрэнна' (Сл. ПЗБ), 'цяжка' (Сцяшк. Сл.), *ніякаваты* 'слабаваты, нікуды не варты' (ТС), *ніякава́ты* 'маларослы' (Мат. Гом.), *ніяку́сенькі* 'ніякі' (Сцяшк. Сл.), *ніякаве́ць* 'бянтэжыцца' (там жа), укр. *нія́кий* 'ніякі', рус. бранск. *ния́кій* 'тс', польск. *nijaki* 'ніякі; няпэўны, невыразны, слабы, мізэрны', чэш., славац. *nijaký* 'няпэўны, невыразны'. Вытворнае ад *ніяк* (гл.), адносна развіцця семантыкі да 'дрэнны, нікуды не варты' параўн. *нічогі* (гл.), развіццё спецыфічнага значэння 'слабы, кволы', магчыма, з'яўляецца паралельным да серб.-харв. *nȅjāk* 'слабы, кволы, слабасільны' ад *jâk* 'моцны, магутны', агульнага па паходжанню з паўн.-слав. **jakъ* 'які' (ESSJ SG, 2, 237, 491; Скок, 1, 702).

**Но**$_1$ 'так, але' (саліг., Нар. словатв.), 'але, ну': *Но, дарма,— дзед кажэ,— быле хлеб* (рэч., Бел. каз. эпас, 111), 'ды' (ТС), параўн. укр. *но* 'тс', рус. *но* 'так, але, ну', польск. *no* 'тс', чэш. *no* 'тс', славац. *no* 'тс', в.-луж. *no* 'тс', н.-луж. *no* 'тс', славен. *no* 'тс', серб.-харв. *но* 'тс'. Мяркуецца, што гэта самастойны наватвор на той самай фармальнай базе, што і прасл. **nъ* (параўн. рус. *но* 'але') і **nǫ/no* (гл. *ну*) (ESSJ SG, 2, 500—502), гл. таксама наст. слова.

**Но**$_2$ 'а ну ж, ж, жа': *Ідзі но воды прынесі!* (ТС), *-но* 'жа,= рус. *-ка*' (палес., Сцепанец, Крест. свадьба, 163), укр. *-но* 'тс', рус. *-но* 'жа', польск. *no* 'тс', славен. *no* 'тс'. Постпазіцыйная ўзмацняльная часціца таго ж паходжання, што і *но*$_1$ (гл.); сюды ж, відаць, і серб.-харв. *-no*, што адзначаў яшчэ Равінскі (Черног., 529), у выразах *како-но, koje-no, koju-no* і пад., што суадносіцца з другой часткай у *ажно́* (гл.) і пад. (ESSJ SG, 2, 501; 1, 322—323; Махэк$_2$, 400).

**Но**$_3$ 'толькі, адно': *Хай но начнуць косіць, то дождж будзе* (ТС), 'быццам, як' (ТС). Магчыма, з *одно́, онно́* 'толькі' (ТС), гл. *адзін*, аднак не выключана сувязь з узмацняльным *но*$_2$.

**Но**$_4$ — выклічнік, якім падганяюць каня: *Ён на коня: но! но!* (рэч., Бел. каз. эпас, 95), 'пагрозны або панукаючы крык на каня' (Дразд., ТС), *но́-о!* 'тс' (мсцісл., З нар. сл.), *но́-но́* 'тс' (в.-дзв., Шатал.), сюды таксама *нэ́* 'пануканне' (Касп.), *ну* 'тс' (Янк. 3), *нё* 'тс' (ТС), укр. *но, ньо,* 'тс', рус. *но* 'тс', польск. *no* 'тс', чэш. дыял. *no, ně* 'тс', славац. дыял. *no, ne* 'тс'. Таго ж паходжання, што і *но*$_1$ (ESSJ SG, 2, 502); параўн. таксама мсцісл. *нок* 'пра пануканне каня' (Нар. лекс.), што, відаць, паходзіць ад дзеяслова *нокаць* 'падганяць каня крыкам «но!»'

**Но́вы** 'новы' (Сл. ПЗБ), *но́вый* 'тс' (Бяльк.). *но́ву* 'тс' (ТС). Сюды ж *наві́на́* 'нешта новае, раней невядомае; новаўзаранае поле', *но́віна* 'новаўзаранае поле' (Шатал., Сл. ПЗБ), *но́вінка* 'свежавытканае палатно' (Касп.), *наві́к* 'новы, прыезджы



чалавек' (Сцяшк.), экспрэсіўныя ўтварэнні *навю́сенькі, навю́танькі* (Нас.), *нову́ські* (Сл. ПЗБ), *нову́сенькі* (ТС), *но́вынавю́сенькі* (Цых., параўн. балг. дыял. *нов-новиша́т* і пад.). Укр. *новий* 'тс', рус. *но́вый* 'тс', польск. *nowy* 'тс', чэш., славац. *novy* 'тс', в.-, н.-луж. *nowy* 'тс', славен. *nòv* 'тс', серб.-харв. *нôв* 'тс', макед. *нов* 'тс', балг. *нов* 'тс'. Прасл. **novъ-jь,* роднаснае літ. *naũjas* 'тс' грэч. νέος, лац. *novus*, гоц. *niujis*, ст.-в.-ням. *niuwi* (Фасмер, 3, 78; Бязлай, 2, 228; Шустар-Шэўц, 14, 1023). Значэнне *но́вы* 'малады' (пра месяц, гл. *маладзік*), зафіксаванае на Гродзеншчыне, звязана праз польск. *nowy (miesiąc)* з вялікім еўрапейскім арэалам, параўн. ням. *Neumond,* англ. *new moon,* фр. *nouvelle lune,* лац. *luna nova* і пад. (Машынскі, Atlas, 1, к. 5). Меркаванні пра сувязь *новы* 'малады' са слав. **nyti* 'быць аслабленым, слабым' непераканальныя (гл. там жа), паколькі значэнні 'новы' і 'малады' першапачаткова прысутнічалі ў семантыцы і.-е. **neu̯o-*, што звязваюць з і.-е. **sneu-* 'гнуць, звязваць, круціць' (Макоўскі, Мир сл. и знач., 137—138).

**Но́гаць** 'ногаць, пазногаць, пазур' (Яруш., Шат., Бяльк., Пятк., 2; Сцяшк., Сл. ПЗБ), *но́гыць* 'тс' (Грыг.), *но́гоць* 'тс' (ТС), *но́каць, но́хаць, нёхаць* 'тс' (Сл. ПЗБ, Шатал.), *но́гець* 'тс' (Шатал.), укр. *ні́готь,* рус. *но́готь,* польск. арх. *nogieć, nokieć,* чэш. *nehet,* славац. *necht,* в.-луж. *nochć,* н.-луж. *nokś,* славен. *nôht, nohet,* серб.-харв. *нȍкат,* макед. *нокот,* балг. *нокът.* Прасл. **nogъtь* (і **nokъtь*) 'тс', роднаснае літ. *nagùtis* 'пазногаць, пазур', усх.-літ. *nâgutė* 'косць', ст.-прус. *nagutis* 'пазногаць' і пад.; звязана з *нага,* гл. (Фасмер, 3, 80; Матэк$_2$, 394; Бязлай, 2, 226; Шустар-Шэўц, 14, 1019).

**Но́гель** 'цвік' (Мат. Гом.). Гл. *нагель.*

**Но́гцам** 'нагой, выспяткам' (Некр.). Відаць, з *но́сцам* 'тс' (гл.), збліжанае з *нага.*

**Но́даць** 'псаваць' (Касп.), 'абнеслаўляць' (Інстр. 3). Тыповы прастамоўны «займеннікавы» дзеяслоў з шырокай, звычайна адмоўнай ці непрыстойнай семантыкай (своеасаблівы эўфемізм), параўн. чэш. *ondat,* луж. *wonozyć, wonoześ,* славен. *onegati,* серб.-харв. *ȍндати,* балг. *онодя, оножддам* (таксама і *нодя*) ад прасл. **onъda,* займеннікавага прыслоўя, што ўзыходзіць да **onъ,* гл. *ён* (Махэк$_2$, 414; ESSJ SG, 2, 532).

**Но́ды,** *но́гды* 'іншы раз, днямі' (Сл. ПЗБ, Грыг.), 'часамі, выпадкам' (Сл. Брэс., Бяльк.; мсцісл., З нар. сл.), 'калі' і 'хіба': *Ноды ён прыйдзе?* (Касп.). З прасл. **onъdy* або **ono gъdy,* гл. *анагды́сь* (ESSJ SG, 2, 526, 534).

**Нож** 'нож, рэжучая прылада' (Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *нуо́ж* 'тс' (Бес.), *ныж* 'тс' (Сл. ПЗБ), *ніж* 'тс' (Дразд.), *ніż* 'сашнік плуга' (Тарн.), укр. *ніж,* рус. *нож,* польск. *nóż,* чэш. *nůž,* славац. *nôž,* в.-луж. *nóž,* н.-луж. *nož,* славен. *nòž,* серб.-

харв. *нôж,* макед., балг. *нож.* Прасл. **nožь*, звязана з *занóза, нізáць* (гл.).

**Нóжніца** 'похва для нажа' (ТС). Утворана шляхам семантычнай кандэнсацыі, параўн. «разгорнутую» назву — *ножóва хатка* 'тс' (ТС).

**Нóжны,** *нуóжны, нóжні* 'нажніцы, звычайна вялікія' (Касп., Сл. ПЗБ, Гарэц., Дэмб., ТС, Мат. Гом., Сержп. Грам., Шатал., Сцяшк.; нясвіж., Нар. словатв., Сл. ЦРБ, Ян.), *нóжна* 'тс' (шчуч., Сл. ПЗБ; навагр., Нар. сл., Сцяшк.), сюды ж *нóжніцы* 'тс' (Яруш., Бес., Др.-Падб., Сл. ПЗБ, ТС), *нóжынкі* 'тс' (Шат.), *нóжанцы* (Сл. ПЗБ), укр. *нóжні, нóжниці* 'тс', рус. *нóжны, нóжни, нóжницы* 'тс', славац., чэш. *nožnice* 'тс', н.-луж. дыял. *nožnice* 'тс', балг. *нóжници* 'тс'. Вытворныя ад *нож,* гл. *нажніцы.*

**Нóздра** 'адтуліна ў носе' (ТС), *нóуздра, ныздра* 'тс' (пін., Дразд.), *ыздрá* 'тс' (Бяльк.), *нуоздры* мн. (Бес.), *нóздры* 'тс' (Сл. ПЗБ), 'поры' (лях., Сл. ПЗБ; іўеўск., Нар. словатв.), *ноздры́* 'праходы для агню з печы ў горн', укр. *ніздря́,* рус. *ноздря́,* польск., чэш., славац. *nozdra,* славен. *nôzdrva,* серб.-харв. *нȍздра, нȍздрва,* макед., балг. *ноздра.* Прасл. **nozdri pl.*; паводле Шаўра (ESSJ, пробны сшытак, 48), па прычыне рознага заканчэння форм *nom. sg.* у асобных славянскіх мовах, яны ўзніклі як другасныя; роднаснае літ. *nasraĩ,* дыял. *nastraĩ* 'морда, ноздры', с.-н.-ням. *noster* 'ноздра'. Рэканструкцыя прасл. **nozdьra* (гл. Фасмер, 3, 81, з літ-рай) звязвае слова *нос* і *драць.*

**Ной** — узмацняльная часціца: *Ной гэты год у лесі ягад многазна!* (стаўб., Сл. ЦРБ). Няясна, магчыма, *ну і* 'але ж' > *ну й* > *ной.*

**Нóйды** 'мабыць' (Мат. Гом., Мат. Маг.), 'часамі, выпадкам' (Бяльк.). Гл. *нóды.*

**Нолé** 'ну, але' (Сцяшк.), 'так, ага' (Сл. ЦРБ). Гл. *налé* 'тс'.

**Нóна** 'многа, шмат' — «дзіцячае» слова (Клім.). Утворана шляхам спрашчэння зыходнага слова *(м)но(го)* і падваення складоў, параўн. *нёню* 'не хачу' (гл.), славен. *pôna* 'баба' і пад.

**Нóнічы,** *нóньчы* 'сёлета' (Сл. ПЗБ), 'сёлета; сягоння, цяпер' (бешанк., Нар. сл.), сюды ж таксама *нонечны* 'сяголетні' (Сл. ПЗБ). Магчыма, запазычанне з рус. *нóньче* 'тс' (праз мову мясцовых жыхароў-старавераў), аднак суфікс *-ч-ы,* адзначаны, паводле Шубы (Прыслоўе, 63), у *нонячы* 'тс' побач з *заўтрачы, сённечы* і пад., ставіць пад сумненне такую магчымасць. Хутчэй за ўсё, мясцовае ўтварэнне ад *нóні* 'тс' (<прасл. **nъně*), варыянт *ніні, ніня* (гл.) (Фасмер, 3, 82).

**Нóпік** 'нецямлівы чалавек': *Нопік ты, нічога ня ведыіш* (Бяльк.). Няясна.

**Нор** 'птушка, што нырае' (Касп.), таксама *нур* («вадзяная птушка нур», Дразд.). Гл. *нырэ́ц* 'тс', параўн. *норáць* 'ныраць, даваць нырца' (ТС).



**Нóраст** 'нераст' (Касп.; полац., 3 нар. сл.; мядз., Сл. ЦРБ; брасл., Сл. ПЗБ), 'ікра (рыб, жаб)' (брасл., Сл. ПЗБ), рус. *нóрост, нóрос, нóрость* 'нераст; ікра рыб ці жаб'. Звязваюць з рус. *норохти́ться* 'збірацца што-небудзь зрабіць, хацець, мець намер; храбрыцца, збіраючыся на якую-небудзь справу; спяшацца', якое дакладна адпавядае літ. *narštýtis* 'нераставаць', сюды ж польск. *narościć* 'апладняць (пра курэй)', серб.-харв. *narȁšćati se* 'спарвацца (пра курэй)', што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **norstъ* (гл. *нораў*), якое можна супаставіць з літ. *norẽti* 'хацець, прагнуць' і з прасл. **norvъ* (гл. *нораў*). Звязана чаргаваннем з **nerstъ,* гл. *нераст* (Фасмер, 3, 84). Параўн. таксама: Атрэмбскі, WSl, 10, 273—274; Варбат, ОЛА, 1975, 134—136; Шаўр, Slavia, 49, 208—214; SP, 25, 33—37.

**Нóрат** 'від рыбалоўнай сеткі' (Касп.; в.-дзв., паст., Сл. ПЗБ; мядз., Сл. ЦРБ, полац., Шн. 2), 'плеценая з нітак сетка для сена, пяхцер' (Касп.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *норотъ* 'верша', рус. *норот* 'верша'. Гл. *нерат.*

**Нóраў** 'характар; упарты характар з капрызамі' (Нас., Яруш., Шат., Бяльк.), 'звычай' (Нас.), *нóроў* 'нораў, звычка' (ТС), *нарóў* 'тс' (Ян.), 'нораў, натурлівасць' (ТС), ст.-бел. *норовы* (1562, Карскі, 1, 249), укр. *нóров* 'характар; прыхамаць, капрызы', рус. *нóров, нáров* 'характар; жаданне; прыступ да справы', славац., чэш. *mrav* 'характар, звычка; звычай', ст.-чэш. *nrav* 'тс', славен. *nrȃv* 'звычка, характар', серб.-харв. *нáрав* 'тс', макед. *нарав* 'тс', балг. *нърáв,* дыял. *нарáвие* 'тс', ц.-слав. *нравъ.* Прасл. **norvъ,* роднаснае літ. *nóras* 'воля, жаданне', *norẽti* 'хацець', грэч. νωρεῖ 'моц, сіла'; таго ж паходжання ст.-інд. *nar-* 'мужчына', авест. *nar* 'тс' і пад. (Фасмер, 3, 84; Бязлай, 2, 229).

***Нóраччу,** *норэччу* 'настойліва, заўзята' (ТС). Няясна; зыходны назоўнік **нóрэч* 'ахвота; настойлівасць, заўзятасць' быў бы блізкі да літ. *norẽti* 'жадаць, хацець', *norẽtis* 'хацецца', *nóras* 'жаданне, ахвота', параўн. таксама *nóriai* 'ахвотна'. Ці не сюды ж і славен. *noreti* 'дурэць, губляць галаву, захапляцца' і асабліва *norčav* 'бойкі, гарэзлівы', якія Бязлай (2, 227) выводзіць з ням. (баварска-аўстрыйскага) *Narr,* дыял. *nǫr* 'дурны'?

**Нóрка**₁ 'драпежны пушны звярок' (ТСБМ). Відаць, запазычана з рус. *нóрка* 'тс', што з фін, *nirkka* 'ласка', эст. *nirk* 'тс' (Трубачоў у Фасмера, 2, 83, гл. таксама Вахрас, Virittäjä, 79, 102—110). Гл. таксама *нарыца* 'тс'.

**Нóрка**₂, *нары́ца* 'назва рухавай, непаседлівай асобы' (пух., Жыв. сл.). Гл. *нарыца,* параўн. тлумачэнне: «на чалавека так кажуць, які вельмі пранорлівы» (там жа).

**Нóрма** ў розных значэннях (ТСБМ), у тым ліку 'участак калгаснага поля, які выдзяляецца для апрацоўкі аднаму чалавеку' (слуц., Нар. словатв.), 'зямельны надзел — 5 дзесяцін' (ветк., Яшк.). Запазычана праз рус. *норма* ці польск. *norma* з ням. *Norm* ці франц. *norme* (<лац. *norma*).

**Норт** 'цячэнне; паглыбленне, вір на павароце ракі' (Сл. ПЗБ), 'паўвостраў, які ўтварае рака, мяняючы напрамак свайго цячэння' (карэл., З нар. сл.), 'неглыбокае месца ў рэчцы, дно якога ў карчах' (навагр., Нар. лекс.), 'спакойная частка ракі ў вілейскіх плытагонаў' (ЈР, 64, 31), 'калена ў рацэ' (астрав., ул. інф.), 'фарватар ракі; месца, якое агібае рака' (гродз., Яшк.), *нýорт* 'глыбокае месца на павароце ракі' (беласт., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *нуртъ* 'цячэнне' (1603). Запазычанне з польск. *nort, nurt* 'цячэнне, стрыжань, быстрак у рацэ', дыял. *nort, nord, nórt* 'куток, канец, край, узлесак', ст.-польск. *nurt, nurta* 'яма, пячора і пад.' (Булыка. Лекс. запазыч., 138; Бяднарчук, ЈР, 64, 31—32), пра што сведчыць у першую чаргу лінгвагеаграфія. Аднак славен. *Nart, Narte* 'назвы правалаў', якія Бязлай звязвае з польск. *nort,* што суадносіцца з літ. *nàrtas* 'кут, вугал' (Бязлай, 2, 215), дае падставы лічыць беларускія словы даўнімі ўтварэннямі ад прасл. **nor-* (**ner-*, **nьr*), гл. *нарá, панýры* (параўн. Брукнер, 366).

**Нóрчык** 'нырэц' (пін., Нар. лекс.). Гл. *нор, нырэц.*

**Нос**₁ 'нос, дзюба, завостраная частка прадмета' (Бяльк., Шатал., Сл. ПЗБ, Сл. ЦРБ, ТС), укр. *ніс* 'тс', рус. *нос,* польск., чэш., славац., н.-луж. *nos* 'тс', в.-луж. *nós,* славен. *nós* 'тс', серб.-харв. *нôс* 'тс', макед., балг. *нос* 'тс'. Прасл. **nosъ*: адпавядае літ. *nósis,* лат. *nãss,* ст.-прус. *nozy,* ст.-інд. nāsā, лац. *nāsus,* ст.-в.-ням. *nasa* (Фасмер, 3, 84; Бязлай, 2, 228; Шустар-Шэўц, 14, 1022). У аснове матывацыі сувязь з 'рэзаць' (>'выступаць'), параўн. асец. *nos* 'шрам', суадносіцца з *нож, заноза* (Макоўскі, Мир слов и значений, 139).

**Нос**₂, звычайна ў спалучэннях: *на нóсе* 'вельмі скора, у самы блізкі час' (Сл. ЦРБ), *на носý* 'пра хуткае з'яўленне': *Ужэ весна на носý* (ТС). Магчыма, першапачаткова аддзеяслоўны назоўнік ад *насіць* 'быць цяжарным', параўн. тураўск.: *У ее ўжэ трое дзецей і чэцвёртое на носý* (ТС), брасл. *носная* 'цяжарная' (Сл. ПЗБ), рус. *носить* 'нараджаць', *носы* 'перыяд цяжарнасці' і пад. Развіццё значэння ад 'напярэдадні родаў' (параўн. рус. *на сносях*) да 'вельмі хутка, вельмі блізка', магчыма, у выніку народнаэтымалагічнага збліжэння з *нос*₁.

**Нóсаль** 'насач, насаты чалавек' (Сцяц., Сцяшк. Сл.; шчуч., Сл. ПЗБ; Янк. 1; мазыр., Мат. Гом.), укр. *нoсáль* 'жук-даўганосік; малаток з доўгім канцом', польск. дыял. *nosal, nochal* 'чалавек з доўгім носам', чэш. *nosál,* славац. *nosál, nochál* 'тс'. Суфіксальнае ўтварэнне ад *нос*₁; аднак незвычайны націск на



корані, параўн. *насáр, насáч* і пад., а таксама ўкраінскі адпаведнік схіляюць да думкі пра запазычанне з польскай мовы. Параўн. таксама *кавáль, маскáль* і інш. утварэнні з суфіксам *-аль,* якія трактуецца як запазычаны (Карскі, 2—3, 25).

**Нóсікі** 'бульба з лушпайкамі, пасоленая, варыцца з цыбулькай ці кропам' (валож., Сл. ЦРБ). Відаць, да *нос*₁ (гл.), параўн. *нóсік* 'частка бульбіны (з вочкамі)' (Мат. Гом.). Выходная семантыка — 'выступаючая частка', што можа сведчыць пра ўзнаўленне першаснай матывацыі назоўніка *нос*₁ — 'рэзаць', параўн. *рэзáнікі* 'звараная неабіраная бульба, парэзаная напалам' (ТС).

**Нóскі** 'які доўга носіцца' (бялын., Янк. Мат., ТС), і *носкí* (ТС). Аддзеяслоўны назоўнік ад *насіць,* параўн. *хóдкі* 'хадавы' і пад.; аманімічнае ўтварэнне ад *насіць, несці* (яйкі) — *нóскі* 'нясучы (пра курэй)', якое Аткупшчыкоў (Сравн.-типол. исследования слав. яз. и литератур. Л., 1983, 62) лічыць дакладным адпаведнікам літ. *našus* 'прадуктыўны'.

**Нóсніца** 'насоўка' (Сл. ЦРБ). Мясцовае ўтварэнне ад *нос,* параўн. *аднóснік* 'тс' (Сл. ЦРБ, <*ад носа;* параўн. *ад галавы (парашкі)* і пад.).

**Нóсцам** 'нагой, выспяткам' (Некр. і Байк.; калінк., З нар. сл.; жытк., Мат. Гом., ТС), *нóссам* 'нагою, наском бота' (Янк. 1), *носцá: даць носцá* 'даць выспятка' (ТС). Відаць, ад ⁺*носец* 'насок (бота)', памянш. да *нос* (гл.), параўн. укр. *«вдарив його носаком»* (Грынч.); формы тыпу *нóсцык* 'выспятак' (Ян.), *нóсцакам, насцакóм* 'выспяткам' (Мат. Гом.) другасныя, параўн. таксама народнаэтымалагічныя ўтварэнні: *нóгца: даць ногца* (Некр. і Байк., да *нага*).

**Нóсчы** 'сквапна' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, на базе спалучэння, што выражае інтэнсіўнасць дзеяння, тыпу ⁺*носчы насіць* (да *насіць*), параўн. наст. слова.

**Нóсьма:** *нóсьма насіць* 'насіць бесперастанку' (пух., З нар. сл.). Прыслоўе «інтэнсіўнага дзеяння» ад *насіць,* аналагічнае да *бегма бегчы, лежма ляжаць* і пад. (адносна апошніх гл. Карскі, 2—3, 67).

**Нóта** 'нота, гук' (Яруш., ТСБМ), 'голас' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *нота* 'нота, гук' (1580). Даўняе запазычанне праз ст.-польск. *nota* (XVI ст.) з лац. *nōta* 'знак' (Булыка, Лекс. запазыч., 166) або непасрэдна з с.-лац. *nota* 'нотны знак', параўн. *натаваць* 'памячаць, адзначаць', *нататка* 'заметка' і пад. (ад лац. *notare* 'адзначаць, запісваць').

**Нóтны** 'занудлівы, патрабавальны' (мін., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), 'капрызны' (жлоб., Мат. Гом.). Параўн. рус. *нотный* 'адукаваны, разумны, хітры; патрабавальны, капрызны; важны; нудны, надаедлівы', чэш. *notný* 'належны; акуратны, прыстойны, значны', першапачаткова, паводле Махэка₂

(402), у мове музыкаў і спевакоў 'па нотах, паводле нот' (гл. *нота*).

**Ноў$_1$** 'маладзік' (ваўк., Сл. ПЗБ). Паводле Машынскага (Atlas, 1, к. 5), вынік экспансіі з захаду ўтварэнняў з 'новы' (пра месяц) на тэрыторыю з матывацыяй 'малады', параўн. польск. *now, nowy miesiąc, księżyc na nowiu*, чэш. *nov (měsic), měsic na nově*, ням. *Neumond*, англ. *new moon*, франц. *nouvelle lune*, лац. *luna nova* і пад. Рус. *месяц на нови* (Даль, без указ. месца) і зафіксаванае ў слоўніку Жэляхоўскага укр. *нів* знаходзяцца на перыферыі гэтай інавацыі, аднак параўн. рус. арх. *нова* 'маладзік' (СРНГ). Па паходжанню кароткі прыметнік (**novъ*<**novъ měsęcь*) або адпрыметнікавы назоўнік (**novь*), гл. *новы*.

**Ноў$_2$**, *(новь)* 'час з'яўлення новага хлеба, новы хлеб' (Нас.), *от нова до нóва* 'круглы год, ад старога да новага ўраджаю' (ТС), рус. *новь* 'новы ўраджай; нешта новае, якое толькі што з'явілася'. Да *новы* (**novъ*), параўн. *навіна́* 'новы ўраджай, першы ўраджай'.

**Ноў$_3$** 'новаўзаранае поле, цаліна' (Яшк.), сюды ж *ноўка* 'тс' (Бяльк.), рус. *новь* 'тс'. Да *новы* 'новаўзараны', параўн. *навіна́* 'новаўзаранае поле'.

**Но́ўды**, *но́ўда* 'часам, выпадкам' (Бяльк., Мат. Маг.), *но́ўды* 'можа, магчыма' (Яўс.). Гл. *нойды*.

**Но́ўза** 'соты, не занятыя мёдам, але прыгодныя' (Шат.). Гл. *на́ўза*.

**Но́халь** 'пра чалавека з вялікім носам' (докш., Янк. Мат.), польск. дыял. *nochal* 'насаты чалавек; лыч', славац. *nochál* 'насаты чалавек'. Да *нос*, з экспрэсіўнай заменай *с* на *х*, паводле Брукнера (366), «zwykłe zgrubienie», параўн. *но́саль* (гл.).

**Но́хар** 'чалавек з вялікім носам' (ТС). Да *нос*, з экспрэсіўнай заменай *с* на *х*. Параўн. *но́сар, наса́р* (гл.).

**Но́хцам** 'нагой, выспяткам' (кап., Жыв. сл.). Да *носцам* (гл.) з ад'ідэацыяй да *нага*, параўн. *но́гцам* 'тс'; чаргаванне *х-г* гл. у *нохаць*<*ногаць*.

**Но́ца** 'адгоннае слова на каня' (Мядзв.), '=рус. *нуте*': *Ноца ў поле* (Касп.). Ад *но* (гл.)+*ца* (узмацняльная часціца, па паходжанню, відаць, форма він. скл. энклітычнага займенніка, параўн. рус. *-те* у той жа функцыі).

**Ноч** 'ноч, частка сутак' (Бяльк., Шат., Сл. ПЗБ, ТС), укр. *ніч*, рус. *ночь*, польск., чэш., славац., н.-луж. *noc*, в.-луж. *nóc*, славен. *nóč*, серб.-харв. *нôħ*, макед. *ноќ*, балг. *нощ*. Прасл. **noktь*, роднаснае літ. *naktis*, лат. *nakts*, ст.-прус. *naktin* (він. скл. адз. л.), ст.-інд. *nák, náktis* 'ночы', лац. *nox, noctis* (він. скл.), грэч. *νύξ* 'ноч', гоц. *nahts* (Фасмер, 3, 87; Махэк$_2$, 401; Бязлай, 2, 227). У аснове матывацыі значэнне 'гнуць, сцягваць', параўн. лац. *nox* пры *necto* 'сцягваць, звязваць', што



дало значэнне 'закрываць (святло)' (Макоўскі, Мир слов и знач., 139), параўн. *сутон* 'тонкі лядок на вадзе' і 'змрок' (ТС).

**Но́чай** 'ноччу' (паст., смарг., Сл. ПЗБ), *но́чай, но́чый* 'тс' (валож., віл., Сл. ЦРБ), *начо́й* 'тс' (астрав., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *нощею* 'тс' (XVI ст.), параўн. рус. дыял. (тамб., пск., разан., цвяр.) *но́чей, ночёй* 'тс', ст.-рус. *нощей* (Слова пра паход Ігаравы), славен. *nocój* 'тс'. Для вывядзення з творн. скл. адз. л. трэба было б дапусціць наяўнасць зыходнай формы ж. р. **noča*, паралельнай да **nočь*, параўн. нармальнае для апошняга ўтварэнне *ноччу* (**nočьjǫ*); форма *nocoj* разглядаецца як заходнеславянскі рэлікт **nočǫ* (творн. скл. адз. л.) у славенскай мове ў першую чаргу з-за наяўнасці зычнага *c* (Шывіц-Дулар, SR, 30, 415—418; Бязлай, 2, 226). Згодна з Карскім (2—3, 176), група *-ьj-* магла змяніцца ў *-ej-*, што дало канчатак творн. скл. *-ейу* па аналогіі канчаткаў асноў на -ja: *начо́ю, но́чаю* з далейшай зменай на *но́чай, начо́й*.

**Но́чы** 'ноччу' (чэрв., Нар. лекс.; Сл. ПЗБ), *но́ччы* 'тс' (віл., Сл. ЦРБ). Паводле Карскага (2—3, 76), çеннен. *но́ччи*<*пóč-čй*<*пóčči* (гл. *ноччу, ноч*), параўн. таксама *ноччы* і *ноччу* (Бяльк.), рус. дыял. *но́чи* 'тс' і пад.

**Но́чвы** 'начоўкі' (Яруш., Гарэц., Шат., Касп., Бяльк., Кліх, Сл. ПЗБ, Маш., Янк. 1, ТС; палеск., З нар. сл.), сюды ж *но́чаў* 'вялікія начоўкі' (петрык., З нар. сл.), укр. *но́чви* 'карыта мыць бялізну', рус. *но́чвы, но́чви* 'начоўкі', польск. *niecki, niecka* 'тс', чэш. *necky* 'тс', в.-луж. *mjecki* 'тс', н.-луж. *njacki* 'тс', славен. *nečve, nečkê* 'тс', серб.-харв. *на̏ħве* 'карыта для замешвання цеста', макед. *нокви* 'тс', балг. *но́щви, нѐщки* 'тс'. Прасл. **nьktjy*, род. скл. *nьktjъve*, звязваюць з грэч. *νίζω* 'мыю', ст.-інд. *nẽnēkti* 'сцірае', ст.-ірл. *nigid* 'мые'; мяркуецца, што першапачаткова значыла 'карыта для мыцця', пазней 'карыта для замешвання цеста' (Фасмер, 3, 86; Махэк$_2$, 393; Бязлай, 2, 218).

**Но́чка** 'назва птушкі': *Чо́рная птушка, лета́е вечэром, розбура́е гнёзда* (Куч.), *ну́чка* 'кажан' (Сіг.), *ню́чка* 'тс' (брэсц., Нар. лекс.), сюды ж *нуочка* 'начны матыль' (Ніва, 1979, 4 лістап.). Да *ноч*, параўн. славац. *nocka* 'начны матыль', балг. *нощно пиле* 'кажан' і пад. Параўн. *начніца* (гл.).

**Но́ша$_1$** 'вязка, клунак' (Яруш., Сл. ПЗБ, ТС), памянш. *но́шка*, а таксама *ны́шка, нэ́шка* 'тс' (Некр., Жд. 1, Клім.; бялын., Янк. Мат.; Сл. ПЗБ), ст.-бел. *ноша, ношка* 'мера сена, травы' (Скурат, Меры, 123), параўн. рус. *ноша, ношка* 'тс', чэш. *nůše* 'тс', славац. *noša* 'тс' і пад. Ад *нясці, насіць* (<**nos-ja*), параўн. Фасмер, 3, 87; Махэк$_2$, 403, першапачаткова 'тое, што можна панесці'.

**Но́ша$_2$** 'яечнікі ў курыцы' (Ян.), *но́ша: у старо́е гусі но́ша з'яўляецца каля ног* (Бір. дыс.), сюды ж, магчыма, *но́ша* 'пухлі-

на, гузак, грыжа' (ТС), параўн. рус. *нóша* 'цяжарнасць', польск. *nosza* 'тс'. Да *насіць, нясці* (гл.), у тым ліку 'нясці яйкі', параўн.: *Як удар куру па спіне, дак у ее тая нóша паб'еецца і еечкі патруцца* (Ян.).

**Нóшта** 'ноша, вязка, клунак' (Гарэц.; брасл., шчуч., даўгаўп., ігнал., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў названага слоўніка, з літ. *naštà* 'тс' (аддзеяслоўны назоўнік ад *nèšti* 'нясці').

**Нóшы** 'насілкі; жэрдкі, на якіх носяць копы сена' (Жд. 2, Сл. ПЗБ, Ян., ТС), 'насілкі для пераноскі нябожчыкаў' (ТС), 'прыстасаванне, на якім носяць вёдры' (ДАБМ). Да *насіць, нясці* (гл.), параўн. *насілы*.

**Ну** — часціца ўзмацняльная (Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), 'так, але' (Некр., Сл. ПЗБ; мядз., чэрв., Жыв. сл.; ТС), укр. *ну*, рус. *ну*, польск. *nu*, чэш. *nu*, в.- і н.-луж. *nu*, славен. *nu*, серб.-харв. *нŷ*. Прасл. **nu/*nǫ*, этымалагічна блізкія прасл. **na* (гл. *на*), **no* (гл. *но*), **nъ* і інш., усе ўзыходзяць да ўказальнага **ono-/*eno-* (Махэк₂, 402; Бязлай, 2, 229; 2, 507, з літ-рай).

**Нугрыцí** 'назойліва прасіць» (івац., Нар. сл.). Няясна, магчыма, ад *ну* (гл.).

**Нуд** 'халера, зараза, нуда' (слонім., Нар. словатв.; Сл. ЦРБ), 'нуда; моташнасць' (драг., Нар. словатв.), 'сум, маркота' (Чэрн.), 'неахайнасць' (Нік., Очерки), *нудзь* 'нуда, журба, маркота' (ТС), укр. *нуд* 'нуда; млоснасць', рус. *нуд* 'кароста'. Аддзеяслоўны назоўнік ад *нудзіць* (гл.); першапачатковае значэнне захавалася, відаць у *нýддзе* 'прымус' (Нас.), параўн. *нуддзю* 'прымусам, гвалтам' (там жа), з якіх натуральным шляхам маглі ўзнікнуць формы *нуд, нудзь*, параўн. *хлуд* і *хлуддзе, пóскудзь* і *пóскуддзе* і пад.

**Нудá**₁ 'нячыстасць на целе і на галаве; бядота, голад; сум, нудота' (Нас.), 'нудота, сум; моташнасць' (Бяльк., Гарэц., Шат., Сл. ПЗБ), 'маркота; бядота' (Касп.), 'сум, гора; галеча' (Яруш.), 'маркота, сум, хандра' (Мал.), 'маркота; вошы' (Пятк. 2), 'хвароба раслін' (Сцяшк.), 'галеча, нястача' (Нік. Очерки), 'моташнасць' (ТС), *нýджа* 'моташнасць; сум, маркота' (Клім.), 'нудны чалавек' (ТС), укр. *нудá* 'маркота, сум; моташнасць', рус. *нудá* 'прымус; надаедлівасць; сум, маркота; спёка; насякомыя (камары, машкара і інш.); кароста, нячыстасць на целе; цяжкае становішча, турбота, голад', польск. *nuda* 'маркота; нудота; сум; вошы; нудны чалавек', славен. *nûdo, nüda* 'заробак, плата', серб.-харв. кайк. *nuda* 'тс'. Вытворнае ад **nuditi* (гл. *нудзіць*), насуперак Фасмеру (3, 88: *нудить* ад *нуда*), як *хада* ад *хадзіць* і пад.

**Нудá**₂ 'так, але' (карэл., Нар. лекс.). Відаць, запазычана з рус. прастамоўн. *ну дá* 'тс'<*ну* (гл.) і *да* 'так'.

**Нýдачка** *(нýдычка)* 'ягада касцянка' (Бяльк.). Відаць, ад *нýдзіць* 'выклікаць моташнасць, цягнуць на ваніты'; параўн. *нýднікі* (гл.).



**Нýдзіць** 'прымушаць' (Гарэц.), 'прымушаць; сумаваць; муціць' (Нас.), 'цягнуць на ваніты, ныць' (ТС), 'муціць; ныць, балець' (Сл. ПЗБ), 'муціць, пазываць на ванітаванне' (Бяльк.), 'занядбаць цела; цягнуць на ваніты' (Нік., Очерки), *нудзіць* 'цягнуць на ваніты' (Касп., Шат.), *нýдыты* 'цягнуць на ваніты; сумаваць, маркоціць' (Клім.), *нýдзяці* 'сумаваць, маркоціцца' (Чэрн.), укр. *нýдити* 'мучыць, таміць; прымушаць; наводзіць сум; цягнуць на ваніты', рус. *нудúть* 'прымушаць; турбаваць; мучыць; сумаваць; цягнуць на ваніты', польск. *nudzić* 'не вясяліць; ныць; марудзіць; маркоціць; муціць', чэш. *nuditi* 'наводзіць нуду, маркоту', славац. *nudit'* 'тс', славен. *nuditi* 'прымушаць, прапанаваць, даваць', серб.-харв. *нŷдити* 'прапанаваць; частаваць', макед. *нуди* 'тс', балг. *нудя* 'прымушаць'. Прасл. **nuditi,* паводле Махэка₂ (402), мела першапачатковае значэнне 'рабіць націск, прымушаць, прыгнятаць'; параўн. таксама Фасмер, 3, 88 (**nuditi*<**nuda*); Бязлай, 2, 229; Слаўскі, SOr, 18, 265; Жураўлёў, Этимология-1967, 112.

**Нудзьбá** 'нудота' (зэльв., Жыв. сл.). Аддзеяслоўны назоўнік ад *нудзіць* (гл.), параўн. *хадзьба* ад *хадзіць* і пад.

**Нýдзьгá** 'нуда, смутак' (Гарэц., Багд.), 'стан пчалы без узятка' (Мат. Гом.). Аддзеяслоўны назоўнік ад *нýдзіць* (гл.), параўн. ст.-бел. *ноудога: родичи ба ноудоги и немоци не имѣла* (1489 г., гл. Карскі, 2—3, 33), укр. *нудьгá* 'нуда, смутак; нудны чалавек', рус. *нудьгá, нудгá* 'маркота; моташнасць; сверб ад укусаў насякомых; галеча, нястача'.

**Нýдкі:** *нýдкая каша* 'несалоджаная каша' (Вешт.). Відаць, ад *нуд* 'моташнасць' (гл.), параўн. укр. *нудкúй* 'сумны; прыкры; моташны' (<**nud-ъkъ*).

**Нýднік** 'бядняк, бедалага; надаедлівы чалавек'. Ад *нýдны* (гл.).

**Нýднікі** 'дзікі вінаград (Vitis L.)' (Сл. ЦРБ). Ад *нýдны* 'выклікаючы моташнасць', параўн. *нýдачка* 'ягада касцянка' (гл.).

**Нýдны** 'надаедлівы; нецікавы; бедны' (Нас.), 'сумны; які наганяе нуду' (Сл. ПЗБ), 'які выклікае моташнасць, ад якога цягне на ваніты' (ТС), 'нясмачны, брыдкі' (Ян.). Ад *нуд, нудá* (гл.).

**Нýжа** 'недахоп харчоў; патрэба' (Нас.), 'галеча' (Яруш.), 'сум' (пін., Сл. ПЗБ), 'мухі (наогул насякомыя)' (Ян.; Мат. Гом.), 'шасціножкі (камары, мошкі, сляпні, авады, зыкі, мухі)': *Улетку нужа тавар заедае* (Некр.), сюды ж таксама *нюжа* 'галеча; рой мошак' (Сержп., Грам.), укр. *нýжа* 'вошы; мухі', рус. *нýжá* 'галеча, беднасць; неабходнасць; прымус; сверб', польск. *nędza* 'галеча, бяда', чэш. *nouze* 'тс', славац. *núdza* 'тс', в.- і н.-луж. *nuza* 'тс', славен. *núja* 'неабходнасць, патрэба', серб.-харв. *нŷжда* 'тс', макед. *нужда* 'тс', балг. *нужда* 'тс',

ст.-слав. **ноужда** 'тс'. Прасл. **nudja* 'патрэба, неабходнасць' ад **nuditi*, гл. *нýдзіць* (Махэк₂, 402; Бязлай, 2, 230); паводле Фасмера (3, 88), роднаснае *нуда, нудить*. Зубаты (I, 1, 312) выводзіць значэнне слова з 'мучыць, турбаваць, прыгнятаць' і далей 'прымушаць', чым і тлумачыцца ўвесь спектр значэнняў, блізкіх значэнню слова *бяда*. Змякчэнне *н* мае, відаць, экспрэсіўны характар. Сюды ж таксама *нýжнай мужык* 'бедны мужык' (Анім.).

**Нýжаць** 'есці': *Навару Сцяпану чаго, а сама сала нужаю* (чачэр., Мат. Гом.). Няясна; магчыма, ад *нужа* (гл.), семантычна трансфармацыя ад 'патрэба' да 'ўжываць' (=рус. 'потребляць').

**Нуждá** 'нястача, беднасць' (Сл. ПЗБ), 'патрэба, неабходнасць' (Бяльк.), 'бяда, гора, журба' (ТС, Ян.), *nuždá* 'вошы': *jak zapárysz płáccie haràczym szczótkam, to zhinie ŭsiàkaja nuždá — i woszy, i hnìdy*, Пятк., 2, 110. Па фанетычных прыкметах (*-жд-*<**-dj-*), запазычана з ц.-слав., параўн. ст.-слав. **ноужда** 'неабходнасць, прымус'; развіццё семантыкі на базе устойлівых словазлучэнняў: *jehó nuždá zajéła* („o bardzo zawszawionych osobnikach", Пятк., там жа), *з нужды́ нападáюць вóшы* (ТС). Сюды ж *нуждáць* 'прымушаць' (Нас.), 'вымагаць' (Бяльк.). Параўн. Фасмер, 3, 88; Слаўскі, SOr, 18, 265.

**Нуздáць** 'цугляць, трымаць у строгасці', 'вуздаць, кілзаць' (Бяльк.), 'звязваць звенні плыта' (беразін., З нар. сл.), сюды ж *нуздó* 'вуздэчка' (Ян.), *нýзды, нуздакí* 'вяроўкі, звітыя з бярозавых або лазовых вітак ці гужбы для звязкі паасобных звенняў у цэлы плыт' (расон., беразін., барыс., З нар. сл.), укр. *нуздáти* 'цугляць, надзяваць вуздэчку', *нуздá* 'вуздэчка', рус. *нуздáть* 'тс'. Ад *за-нуздаць* 'зацугляць' (<⁺*за-уздать, н* устаўное, Карскі, 1, 325), гл. *вузда;* выходзячы з плытагонных тэрмінаў, не выключана паходжанне ад *навуз* 'навязка', параўн. рус. *науз* 'частка конскай збруі' з другасным збліжэннем да *вузда* (*науз*<*нуз-*×*узда*).

**Нýздзечка** 'вуздэчка для язды вярхом, лепшай якасці, з цуглямі' (Маш.), параўн. укр. *нуздечка* 'тс'. Ад *вуздзéчка* (гл. *вуздэчка*) пад уплывам *зануздаць* 'зацугляць' (гл. *нуздаць*), іншы варыянт замены: *муздзечкі* (Шн. 1), *замуздаць* (там жа), паводле Карскага (1, 324), па тыпу *Мікалай, Мікіта* (рус. *Николай, Никита*), параўн. таксама *пастронкі* // *пастромкі*.

**Нулé**, *нулí* — сцвярджальная часціца (Жд. 2, Сл. ЦРБ), *нýле* 'тс' (карэл., Янк. Мат.), тое ж *налé, нолé* (гл.). З *ну* і *але*.

**Нуль** (БРС, ТСБМ), укр. *нуль*, рус. арх. *нуль*. Запазычана праз нямецкае *Null* з іт. *nulla* 'нішто, нічога'<лац. *nullus* 'ніякі'<*ne ullus* 'ні адзін' (Фасмер, 3, 81; Бязлай, 2, 230).



**Нум** 'ну, давайце': *нум-те-тка, братцы, думати* (гом., Рам. 1), *нумо: нумо думати, гадати, де нам, сестра, мати узяти* (там жа), укр. *нум, нýмо* 'тс'. З *нý* (гл.), узмоцненага часціцай *-м(о)*, таго ж паходжання, што і ў *быццам* (параўн. *бытта*), гл. ESSJ SG, 2, 507; 1, 321. Будзіловіч (Грам. особенности малорус. говора в Гродн. губ., рук.) супастаўляў *нумо* з дзеяслоўным канчаткам у *дáймо* (пабуджальная форма).

**Нýмар** (Яруш., ТСБМ), *нумíр* (Бяльк.). Запазычана праз польск. *numer*, ням. *Nummer* з лац. *numerus*, першапачаткова са значэннем 'удзел, лік', параўн. Кюнэ, Poln. 81. Праз рус. *нóмер* запазычана магіл. *нóмір* (гл. *нымірá*, Бяльк.), спец. пра рус. слова гл. Сандлер, ЭИРЯ, 3, 20—26. Лац. *numerus* звязваюць з грэч. νέμω 'дзялю', ст.-в.-ням. *nēman* 'узяць' (Вальдэ — Гофман, 253, 538).

**Нунёж** 'няўжо ж' (Мат. Маг.). З *ну няўжо ж*.

**Нурá₁** 'маркота; знясіленне' (Нас., Касп.), *нýра* 'знясіленне' (Яруш., Гарэц.), *нуря́* 'мучэнне' (Бяльк.), *нуры́ць* 'марыць, мардаваць; падаць тварам на зямлю', *нуры́цца* 'маркоціцца, мардавацца' (Нас.), параўн. рус. *нýра* 'маўклівы, пануры чалавек' (пск., цвяр.), *нýрить* 'прымушаць; знясільваць, мучыць; маркоціцца, бедаваць; гнаць, паганяць', польск. *nurzyć* 'апускаць (у ваду)', у тым ліку *nurzyć oczy w ziemie* 'быць панурым, апускаць галаву'. Параўноўваюць са ст.-слав. **изноурити** 'грабіць, нападаць', **изноурение** 'здабыча', аднак семантычная сувязь застаецца няяснай; больш блізкае балг. дыял. *нюрим* 'заўсёды маўчаць, нават калі пытаюць', што адпавядае літ. *niũroti* 'глядзець з-пад ілба, панура стаяць'. Звязана чаргаваннем з **noriti*, гл. *нор, нурэц, нырáць, пануры*. Змякчэнне можа мець экспрэсіўны характар. Да семантыкі параўн. фразеалагізм *як у ваду апушчаны* 'сумны, маркотны, маўклівы'.

**Нýра₂** 'ніцма' (Сцяшк. Сл.). Відаць, да *нур!* — выклічнік, што імітуе раптоўнае заглыбленне ў ваду, параўн. рус. *нуром* 'уніз, уперад галавой упасць'. Гл. папярэдняе слова і *нуры́ць* 'падаць уніз тварам'.

**Нýрачка** 'невялікі кавалачак хлеба' (Жд. 2, Сл. ЦРБ). Няясна.

**Нурóк** 'нырок, ныранне' (Яруш.), 'від дзікай качкі' (Сцяшк.), *нюрóк* 'нырок, ныранне' (Сл. ПЗБ), *нуркóм* 'нырцом' (Сл. ПЗБ), укр. *нурок* 'дзікая качка; нырок', рус. *нурóк* 'выбоіна на дарозе', польск. *nurek* 'нырок; нырэц; пануры чалавек'. Гл. *нырок*.

**Нýртам**, *нýрта* 'ніцма' (Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ). Відаць, да *нуры́ць* 'падаць уніз тварам' пад уплывам *норт, нурт* 'глыбіня, вір' (гл.); сюды ж *нуртавáць* 'ныраць, даваць нырца' (Сцяшк. Сл.).

**Нурэ́іна** 'нелюдзімы, непрыязны флегматычны чалавек'

(Жд. 1, Сл. ЦРБ). Відаць, балтызм, аформлены суфіксам *-іна,* параўн. польск. дыял. *niur* 'пануры, маламоўны чалавек' (беларуска-польска-літоўскае пагранічча) <літ. *niū̃ra* 'пануры чалавек' (Лаўчутэ, Балтизмы, 81).

**Нурэ́ц** 'нырэц' (карэл., Нар. лекс.), 'скачок у ваду' (Яруш., Сл. ПЗБ), 'той, хто нырае' (Сл. ПЗБ), 'вадаплаўная птушка' (Сл. ЦРБ), укр. *нуре́ць* 'тс', макед. *нурец* 'тс'. Гл. *нырэц.*

**Нут** 'гэбель выбіраць пазы' (Сл. ЦРБ). Запазычана праз польск. *nut, nuthubel* 'гэбель для выразання пазоў' з ням. *Nut(e),* скарочана ад *Nuthobel* 'тс'.

**Ну́тка** 'ну, давай' (Нас.), *ну́ткала* 'калі падахвочваюць да падняцця цяжару' (Чачот), рус. *нутко* 'ну, давай'. З *ну* (гл.) і ўзмацняльнай падвойнай часціцы *-tk-*, якая можа адлюстроўваць кантамінацыю ўзмацняльных партыкул **-to* (параўн. серб.-харв. *ну̏то* 'тс') і **-ka* (параўн. рус. *ну́ка* 'тс') (ESSJ SG, 1, 331), або непасрэдна з ⁺*нуте* (гл. *нуце*) і *-ka* (параўн. *тутака, тамака*), што павінна было адбыцца яшчэ да пераходу *т'*>*ц* у беларускай мове. Не выключаны ўплыў дзеяслоўных канчаткаў, пры якім *-т* адпавядае адз. л. *-це* — мн., а *-ла* — форме прошлага часу, параўн. славен. *nut* (адз. л.), 'бач', *nuta* (падв. л.), *nute* (мн. л.).

**Нутра́к** 'парсюк або жарабец з адным яйцом (другое выразана)' (Цых.), 'нутрэц' (беласт., Сл. ПЗБ), 'непакладаны кабан' (Бесар.), параўн. укр. *нутряк* 'тс', чэш. *ňutrák* 'тс', славац. *znutrák, vnútrák* 'тс', серб.-харв. *ну̏трак* 'тс', балг. *вътра́к, вотрак* 'тс'. Гл. *нутро́.* Іншы словаўтваральны варыянт назвы вядомы на астатняй беларускай тэрыторыі, параўн. *нутрэ́ц* (астрав., ашм., віл., Сл. ПЗБ; Бяльк.; ДАБМ, камент., 884), *нутрэ́ц, нытрэ́ц* 'конь, кабан напаўпакладаны або з прыроднай анамаліяй' (ТС), мае працяг у рус. *нутре́ц* 'тс', што дае падставы выказаць меркаванне пра заходнеславянскае паходжанне першай назвы, якая, магчыма, звязана з вандроўнымі спецыялістамі па пакладанню, параўн. гродз. *вэ́нѓер* 'кастратар'. Гл. Махэк₂, 403.

**Ну́трашчы** 'вантробы' (Мат. Гом.). Да *нутро́* (гл.).

**Нутро́** 'вантробы, унутранасці' (Нас., Гарэц., Пятк. 2, Касп.), 'сярэдзіна, унутраная частка' (Сцяшк., ТС), *нутрэ́* 'тс' (ТС), *нутрё* 'унутранасці' (Грыг.), *нутра́, нутры́,* мн. 'тс' (Сл. ПЗБ), укр. *нутро́* 'тс', рус. *нутро́, нутра́, нутрё, нутрь* 'тс'. Са старога прыставачнага ўтварэння **vъn-ǫtrь* 'усярэдзіну', што было пераасэнсавана, як **vъ-nǫtrь* (Фасмер, 3, 90), гл. *уну́тр.* Параўн. яшчэ ст.-бел. *н8трь моѧ переменилосѧ, ноутръ моѧ, нүтрь мои, оу нүтри моє*[м] (Псалтыр XVI ст., гл. Карскі, 2—3, 17), чэш. *nitro* 'унутранасць, нутро', славац. *vnútro* 'тс' — новыя назоўнікі на базе пераасэнсаванай часткі **-nǫtrь* (Махэк₂, 696). Звяртаюць увагу на паралельнае грэч. ἔντερα, мн. л. 'унутранасці, вантробы', ст.-інд. *antrám* 'тс', літ. *į̃ščios* 'тс' (Бязлай, 2, 228 і інш.). Сюды ж таксама *ну́троносць* 'тс' (ТС, магчыма, пад уплывам рус. *внутренность*), *нутраны́, нутрэнны́* 'выняты з нутра' (Сл. ПЗБ, Сцяшк.), *нутро́ны* 'унутраны' (Сл. ЦРБ).



**Ну́трыя** 'вадзяны пацук' (ТСБМ). Запазычанне, відаць, праз рус. *ну́трия* 'тс' з ісп. *nutria* 'выдра' (<лац. *lutra* 'выдра'), перанос назвы адбыўся на тэрыторыі Чылі (Махэк₂, 403).

**Ну́ты** 'прапілаваныя праёмы ў дошках дзвярэй, куды заганяецца шпона або пояс' (Сцяшк.). Запазычанне праз польск. *nut* 'паз у драўніне, у які заходзіць адпаведны выступ', *nuty,* мн. л. з ням. *Nut(e)* 'тс'.

**Ну́це** 'ну, давайце': *núcie chłopcy próbować* (Пятк. 2), *ну́це* і *ну́цё* 'выклічнік, які ўжываецца пры паганянні валоў' (Кліх), *ну́цетка* 'ну, нутка' (Нас.), укр., рус. *ну́те* 'тс', серб.-харв. *ну̏те, ну̏ти* 'ну; бач', славен. *nuti, nute* 'бач'. З **nu/nǫ* (гл. *ну*) і часціцы **-te (*-tě, *-ti),* якую часам спрабуюць звязаць з канчаткам 2-й асобы мн. л. загад. ладу (ESSJ SG, 1, 329; 2, 506; Фасмер, 3, 88). Параўн. *ну́тка* (гл.).

**Ну́цер** 'конь, кабан напаўпакладаны або з прыроднай анамаліяй' (ТС). Відаць, утворана шляхам адваротнай дэрывацыі з *нутрэ́ц* 'тс'; менш верагодна захаванне першаснай формы, суадноснай, напр., са славен. *noter* 'унутр', рус. *ну́терь* 'сярэдзіна, вантробы' і пад. Гл. *нутро́.*

**Ну́ціць** 'ціха спяваць' (Сцяшк. Сл.; стаўб., Сл. бел. нар. фраз.). Запазычана з польск. *nucić* 'тс' (ад *nuta* 'нота').

**Ну́шкаць** *(ну́шкъць)* 'панукаць, падганяць' (міёр., Нар. сл.), 'прымушаць' (віл., Сл. ПЗБ). Ад *ну ж* (<**nu* і **že*), гл. *ж, жа.*

**Ну́шпарыць** 'вышукоўваць, дазнавацца' (Сцяшк. Сл.). Гл. *нышпарыць.*

**-нь,** пастпазіцыйная партыкула, якая далучаецца да займеннікаў тыпу *штонь* 'што-небудзь', *хтонь* 'хто-небудзь', прыслоўяў тыпу *калінь* 'калі-небудзь' і пад., вядома яшчэ ст.-бел. *штонь* (1387), *какійньколи* (якія калі) (1432). Паводле Карскага (1, 323), можа выводзіцца з займенніка **(j)ь* (ст.-слав. **иже**, параўн. він. скл. ***нь**) або з'яўляецца вынікам скарачэння *не* ці *ні,* параўн. ст.-бел. *штонь есть дохода;* паводле Копечнага (ESSJ SG, 1, 323), звязана з займеннікам **onъ* (гл. *ён*).

**Ны** 'выгук, якім падганяюць коней' (ТС). Да *но* 'тс' з экспрэсіўнай дэфармацыяй вакалізму.

**Ны́ґа** 'нешта малое, фіга' (ТС). Відаць, запазычана з польск. *nyga* 'рэшта, рэштка' (*Dać komu wypić nygę*= to, co pozostało w kieliszku), што ў сваю чаргу з ням. *Neige* 'рэшткі пітва', параўн. Варш. сл., 3, 428.

**Ны́гаць** 'сланяцца, совацца' (стаўб., Жыв. сл.), *ны́ґаць* 'заглядваць, соваць нос' (стаўб., Нар. сл.), 'шукаць' (віл.,

Нар. сл.), *ныгаць* 'есці спяшаючыся, не сядаючы за стол' (чэрв., Сл. ЦРБ), 'перабіраць пры ядзе' (Сцяц.). Відаць, «звонкі» варыянт *ныкаць* 'хадзіць, швэндаць', гл. таксама *нікаць*.

**Ныдвіць** 'знемагаць, чахнуць' (Нас., Яруш., Гарэц.). Утварэнне, аналагічнае да *нідбіць* (гл.), відаць, праз назоўнік +*ныдвá* ад *ныдзіць* (гл.), параўн. *маквá* ад *мокнуць* і пад. Нельга выключаць таксама ўплыў літ. *nudvė̃sti* 'здохнуць, здыхаць'.

**Ныдзгаць** 'есці без апетыту, перабіраючы' (слонім., Нар. лекс.; Сцяшк. Сл.), *ныдзьгаць* 'нудзець' (пух., З нар. сл.). Відаць, да *ныдзіць* (гл.) як другаснае ўтварэнне ад назоўніка +*ныдзьга (ныдзга)*, параўн. *нудзьгá* ад *нудзíць* і пад.

**Ныдзіць** 'цягнуць на ваніты; ныць, балець' (Сл. ПЗБ), 'маркоціцца, ныць, знемагаць ад нуды; чахнуць; затыхацца (пра рыбу)' (ТС), 'капрызіць' (Сцяшк. Сл.), укр. *ни́діти* 'гібець, знемагаць, маркоціцца', рус. дан. *ныдить* 'бурчаць, быць незадаволеным'. Звязана чаргаваннем з *нудзіць* (гл.), параўн. *нýдкі* (гл.) і *ныдкі* 'нясмашны' (Сцешк. Сл.), рус. *ны́дно* 'нудна' і пад. Семантыка дэманструе ўплыў *ныць* (гл.), параўн. яшчэ ў Зізанія: *оуны́лѝ... зны́дѣлы́*.

**Ныднік** 'скнара, скупы' (Нас., Бяльк.). Да *ны́дзіць* (гл.).

**Нызгры** 'пыса' (глыб., Сл. ПЗБ). Відаць, да *нóздры* (гл.), параўн. славац. дыял. *nozgry* 'ноздры'; паводле Брукнера (367), першапачатковае значэнне 'храпа', параўн. і літ. *nasraĩ* 'пашча звера'.

**Ныкаць**$_1$ 'схіляць часта галаву, як гэта робяць качкі; заглядваць у розныя месцы, як бы шукаючы нешта; ухіляцца ад працы пры дапамозе розных хітрыкаў' (Нас.), 'заглядваць ва ўсе куткі, шукаючы што-небудзь ці каго-небудзь' (чавус., Нар. сл.), 'хадзіць, швэндаць' (Яўс.). Гл. *нікаць*.

**Ныкаць**$_2$ 'плакаць, ныць' (Мат. Маг.). Ад *хны́каць* 'тс', відаць, пад уплывам *ныць*.

**Нынекавых** 'сёння' (астрав., Сцяшк. Сл.). Да *ніня* 'сёння' (гл.), ускладненага партыкуламі і канчаткам *-ых*, які належаў форме род. скл. мн. л. (Карскі, 2—3, 67): *ніне-ка-ва*>*нінекавых* як *учорых* 'учора' (Мат. Маг.); *ы* пасля *н* сведчыць, магчыма, аб захаванні архаічнай формы *ныне* (звычайна ў беларускіх гаворках *ы*>*і*, гл. Карскі, 1, 236) або аб уплыве рускай мовы, параўн., аднак, *нынéйшы (нынѣйший)* 'цяперашні, сённяшні' (Нас.).

**Ныпрыць** 'цікаваць': *ныпрыць, па сялі ходзячы, дзе які дымок угледзець* (карэл., Марц.). Магчыма, балтызм, параўн. літ. *nýprioti*, суадноснае з *niprinti* 'калупацца; карпатліва працаваць' і пад.

**Нырáць** 'даваць нырца' (Яруш., ТСБМ), зак. тр. *нырнýць* (Яруш., ТСБМ, Сл. ПЗБ), укр. *ниряти*, *нирнути*, рус. *нырять*, *нырнуть*, серб.-харв. *пó-нирати* 'знікаць, цячы пад зямлёй', балг. *ни́рна* 'даваць нырца'. Выводзіцца з прасл. **nyr-*, падоўжанай асновы на базе **nъr-*, што ўзнікла аслабленнем ступені **nor-*, параўн. тураўск. *норáць* 'тс'; іншыя варыянты асновы дэманструюць розныя ступені чаргавання: **nьr-*, **ner-*, **nir-*, **nar-*, **nur-* (Махэк$_2$, 401; Бязлай, 2, 227), паводле Фасмера (3, 92), дастаткова старажытныя, гл. *нуры́ць* 'падаць тварам на зямлю', *панýры*, славац. *ponárat'* 'заглыбляцца', славен. *pondreti* 'нырнуць, схавацца' і пад. Прасл. **nerti, nьrǫ*, ст.-слав. **изнрѣти, изньрѫ** 'вынырнуць' параўноўваюць з літ. *nérti, neriù* 'утапіць, заглыбіць', лат. *nirt, nirstu* і г. д.



**Нырка**$_1$, часцей *ныркі* мн., рус. 'почки' (Нас., Касп., Пятк. 2, Сл. ПЗБ, Дразд., ТС), ст.-бел. *нырка* 'тс' (пач. XVII ст.). Запазычана з польск. *nerka, nyrka* 'тс' (пач. XVI ст.)<ст.-в.-ням. *niero*, ням. *Niere* 'тс' (Кюнэ, Poln. 81; Булыка, Лекс. запазыч., 128); новае запазычанне *нэркі* (Сл. ПЗБ).

**Нырка**$_2$ 'нырэц, від качкі' (Нас., Янк. 3). Гл. *нырэц*.

**Ныркаць** 'даваць нырца; падглядваць' (Касп.), 'пазіраць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *ныркнуць* 'нырнуць' (Мат. Гом.). Ад *нырок* 'скачок у ваду', *ныркóм* 'нырцом', гл. *нырáць*. Магчымы ўплыў з боку *зіркаць* 'кідаць погляд'.

**Нырыць** 'заглядваць, шукаючы нешта' (калінк., Арх. ГУ), рус. *ны́рить* 'выглядваць, вышукваць, вывіжоўваць; лезці не ў сваю справу'. Гл. *нырáць, праны́ра*.

**Нырэ́ц**, *нырец* 'скачок у ваду' (Бяльк., ТСБМ), 'від качкі' (Грыг., Гарэц.), *нырэ́ц, норэ́ц* 'скачок у ваду; балотная птушка, чомга' (ТС), *нырэц, нурэ́ц* 'вадзяная птушка нур' (Дразд.), сюды ж *нырок-чубацік* 'чэрнець чубатая' (Інстр. 2). Ад *нырáць*, гл. таксама *нор, нурок, нырка*$_2$.

**Ныхляць** 'марнець, чахнуць' (ляхав., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка параўноўваюць з літ. *nykla* 'той, хто марны'; параўн. таксама *ніхвець, ніхраць* 'марнець, чэзнуць' (гл.).

**Ныхрáццю** 'прымусам, гвалтам' (віц., Мат.). Няясна; можна звязаць з рус. *ны́хрить* 'настойліва шукаць што-небудзь; лезці ўсюды; даведвацца хітрасцю', што, аднак, выклікае пэўныя семантычныя цяжкасці.

**Ныхтарыць** 'капацца, шукаць' (Сцяшк. Сл.). Відаць, звязана з *нюхаць* (гл.), параўн. *нюхцéць* 'нюхаючы, вышукоўваць што-небудзь' (Некр.), а таксама рус. *ны́хорить* 'выглядваць, вышукваць', *ных-ных* 'слова, якім падманьваюць сабак'.

**Ныцкаць** 'наракаць' (мядз., Сл. ПЗБ). Відаць, да *ныць* (гл.).

**Ныць** 'тупа балець; надакучліва гаварыць, скардзіцца; марнець, чахнуць' (Сл. ПЗБ, ТС), 'нудзіцца, знемагаць' (Нас., Яруш., Гарэц., Пятк. 2), 'усмажвацца (пра грыбы)', укр. *ни́ти*, рус. *ныть*, польск. дыял. *nyć*, чэш. *nýti*, славац. *nyt'*. Чаргуецца з чэш. *unaviti* 'умарыць', гл. *навец*, параўн. **baviti*:

*_byti_, на падставе чаго рэканструюецца прасл. *_nyti_ 'знемагаць, нудзіцца', *_naviti_ 'стамляць' (узыходзіць да і.-е. гнязда *_nau-/*nəu-/*nū-_), параўн. літ. _nõvyti_ 'мучыць, марыць, прыгнятаць', лат. _nãvêt, nãvît_ 'стаміць', ст.-прус. _nowis_ 'пень', гоц. _naus_ 'нябошчык', ст.-ісл. _nár_ 'тс' і пад (Фасмер, 3, 92; Бязлай, 2, 216; Варбат, Этимология-1973, 31).

**Нышпарыць**, _нýшпарыць_ 'шукаць чаго-небудзь; вышукоўваць, дазнавацца' (Касп., Сцяшк. Сл.), укр. _нúшпорити_ 'шнарыць, шукаць', рус. _нышпарить_ 'крыючыся, выглядваць, вышукваць што-небудзь'. Гл. _шнúпарыць_.

**Нэ** 'но, пайшоў (паганянне каня)' (Бяльк., Гарэц., Касп.), рус. варонеж., пск. _нэ_ 'тс'. Відаць, экспрэсіўна дэфармаванае _но_ 'тс'.

**Нэ́бнуць** 'ударыць, стукнуць' (вілейск., Нар. сл.). Няясна. Параўн. _нэ́мнуць_ 'тс', гл. _нэмаць_.

**Нэ́ґер** 'негр' (гродз., Сл. ПЗБ). Запазычанне беларускалітоўскай кантактнай зоны: фанетычны воблік слова дапускае ўплыў на зыходную форму _негр_ (гл.) літ. _négras_ 'тс' і _negẽras_ 'нядобры, дрэнны'.

**Нэ́маць** 'красці, паціху браць', _нэ́мнуць_ 'украсці, пацiху ўзяць' (Нас.). Паводле Насовіча, запазычана з ням. _nehmen_ 'браць', згодна з пазнейшым удакладненнем Карскага, праз яўр. (ідыш). Відаць, сюды ж гродз. _нэ́мнуць_ 'прапасці' (Сцяшк. Сл.), праз стадыю _нэ́мнуты (нэмнутый)_ 'украдзены' (Нас.), г. зн. 'прапаўшы'.

**Нэ́ндза** 'нуда; ныцік; пераборлівы ў ядзе' (Сл. ПЗБ, Цых.), 'худы, знясілены чалавек' (камян., Жыв. сл.), _нэ́нджа_ 'пераборлівы ў ядзе' (Сл. ПЗБ), _нэ́нза_ 'нуда, ныцік, плакса' (Сл. ПЗБ), _нэ́нда_ 'нуда' (Сл. ЦРБ), _нéнза_ 'клопат, турботы' (ТС), ст.-бел. _нендза, надза, недза_ (1580 г.). Запазычана са ст.-польск. _nędza_ 'беднасць; нядоля; бядняк' (Булыка, Лекс. запазыч., 78); магчыма, шматразовае запазычанне ў больш позні час і семантычны ўплыў з боку _нудá_ (гл.). Сюды ж _нэ́ндзны_ 'дробны' (Сл. ПЗБ), _нэ́нзны_ 'дрэнны, мізэрны' (Крыў. Дзіс.) (польск. _nędzny_ 'варты жалю, убогі, мізэрны'), _нэ́нзлы_ 'пераборлівы', _нэндзлы_ 'плаксівы' (Сл. ПЗБ, Сл. ЦРБ), _нэ́ндзіцца_ 'капрызіць' (Сл. ПЗБ).

**Нэ́нька** 'калыска (толькі вісячая)' (брэсц., Нар. лекс.). Гл. _нéнька_ 'тс'.

**Нэ́раць** 'машкара' (Весці АН БССР, 1969, 4, 129). Гл. _нерадзь_.

**Ню́жа** 'бяда, галеча; рой мошак' (Сержп. Грам.). Гл. _нýжа_, змякчэнне _н_ мае экспрэсіўны характар.

**Нюні**, у выразе _распусціць нюні_ 'расплакацца' (Сл. ПЗБ), _нюнькі_ 'плач': _«Нюнькі справив»_ (Нас.), рус. _нюни_ 'губы, слёзы; слюні, смаркачы', _нюнькать_ 'плакаць', чэш. _ňuňat_ 'плакаць (у размове з дзецьмі)'. Гукапераймальнае (Фасмер, 3, 92; Махэк$_2$, 402).



**Нюнька** 'мордачка (у крата)' (брэсц., Нар. лекс.), відаць, сюды ж рус. _нюни_ 'губы'. Магчыма, адносіцца да «дзіцячых» слоў тыпу _цюця, цюцька_ 'сабака, сабачка' і пад. або т. зв. спешчаная форма да _нюшка_ 'мыса' (ад _нюхаць_).

**Нюнькі** 'самыя раннія вясеннія кветкі, жоўценькія, што растуць у балоцістым месцы' (Нас.), 'лотаць балотная, Caltha palustris L.' (Кіс.), 'асака' (Бяльк., Мат. Гом.), укр. _нюнки_ 'расліна Sparganium simplex L. ці Sparganium ramosum L.', рус. _нюньки_ 'расліны Ptarmica vulgaris DC., Sparganium ramosum L., Festuca fluitans, асака Carex L.; расліна накшталт явару; корань чароту', славен. _njûnje, njûne, njûnke, nunke_ 'расліны Crokus і Colchicum autumnale'. Відаць, гукапераймальнае, бо некаторыя з гэтых раслін выкарыстоўваюцца ў якасці пішчалак, параўн. рус. смал. _нюня, нюнька_ 'пішчалка з явару', славен. _nunovje_ 'кара, з якой робяць пішчалкі', _nuna, núnika_ 'від пішчалкі', балг. _нунунка_ 'расліна Papaver rhoeas', _нунавец_ 'расліна Asphodelus albus', чэш. _ňuňuška_ 'расліна Carolina acaulis', параўн. Бязлай, 2, 230. Спроба Бязлая (2, 230; Eseji, 151; Baltistica, 2, 17) вывесці славенскія назвы раслін на падставе славен. _očun_ 'Crokus, Colchicum' < *_ot-jun_, г. зн. 'зноў малады', і тым самым _nûnka_ — след старой балта-славянскай кантамінацыі паміж літ. _jáunas_ 'малады' і _nauns_ 'новы', здаюцца менш пераканальнымі. Параўн. _нюні, нюня_ (гл.).

**Нюня** 'негаваркі чалавек' (Сл. ПЗБ), 'маўклівы, скаваны ў рухах чалавек' (міёр., З нар. сл.), 'сугней (у размове з дзецьмі)' (ТС), 'плакса' (Яўс.), _нюнька_ 'тс' (Сл. ПЗБ), 'не надта разумны' (полац., Нар. лекс.), укр. _нюня_ 'плакса', _нюня́вий_ 'плаксівы', рус. _нюня_ 'разява, мямля, сугней; плаксівая жанчына', _нюня, нюнька_ 'лялька, пішчалка з явару' (смал.), польск. _niunia, niuńka_ 'мямля, разява; недацэпа на выгляд', чэш. _ňuma_ (<_ňuňa_) 'тс'. Гукапераймальнае, параўн. _нюні_ (гл.) і іншыя т. зв. дзіцячыя словы (Махэк$_2$, 402).

**Нюро́к** 'нырок, нырэц': _даць нюрка_ (варон., Сл. ПЗБ). Гл. _нурок;_ змякчэнне пачатковага _н_, магчыма, пад уплывам літ. _niùrkteléti_ 'нырнуць' і пад.

**Нюрча́ць** 'бурчаць' (брасл., Сл. ПЗБ). Магчыма, кантактная кантамінацыя _бурчаць_ × літ. _niurnéti_ 'тс'.

**Нюхаўка** 'нос, вялікі нос' (Касп.; в.-дзвін., Шатал., Сцяшк.; навагр., Жыв. сл.; клец., Нар. лекс.; астрав., Сл. ПЗБ; лаг., Сл. ЦРБ). Іранічнае ўтварэнне ад _нюхаць_ (гл.).

**Нюхаць** 'успрымаць пах; высочваць, шукаць' (Бяльк., ТСБМ, ТС, Сл. ПЗБ), _нюшыты_ 'тс' (камян., Сл. ПЗБ), укр. _нюхати_, рус. _нюхать_, польск. _niuchać_, чэш. _ňuchati_, славац.

_ňuchat'_, в.-луж. _nuchać,_ н.-луж. _nuchaś,_ славен. _njuhati,_ серб.-харв. _њўшити,_ аддзеяслоўны назоўнік _њух,_ балг. дыял. _нюам, нюшкам._ Прасл. _*njuchati,_ паводле Махэка$_2$ (402),— вынік экспрэсіўнага змякчэння _*nuchati,_ што мае ў аснове гукаперайманне (параўн. рус. _нýхрить_ 'мурлыкаць (пра ката)' і 'нюхаць, вынюхваць, шукаць'), якое можа быць звязана з і.-е. _*neu-(k)s-_, _*sneu-_ 'нюхаць, фыркаць', параўн. гоц. _bi-niuhsjan_ 'высочваць', нарв. _nuska_ 'шукаць', 'пах', ст.-ісл. _nysa_ 'нюхаць' і пад. (Коген, Запіскі, 238; Бязлай, 2, 225). Тлумачаць таксама як вынік перараскладання прыставачных утварэнняў з _*ǫxati_ (ст.-слав. **жхати,** польск. _wąchać: *sъn-ǫchati_ (Фасмер, 3, 93), параўн. _знюхацца_ (Карскі, 1, 325), _*vъn-ǫchati_ (Скок, 3, 615), параўн. _унюхацца_ і пад. Гл. таксама Рыкаў, БЕ, 37, 472—474.

**Нюхкацца** экспр. 'мець намер' (нясвіж., Сл. ПЗБ). Няясна.

**Нюхмарка** экспр. 'нос' (маладз., Сл. ЦРБ), параўн. рус. _нюхмырить_ 'шморгаць носам', _нюхмыра_ 'пра чалавека, што шморгае носам'. Ад _нюхаць_ з няяснай экспрэсіўнай суфіксацыяй.

**Нюхцéць** 'нюхаючы, вышукоўваць што-небудзь' (Некр., Сл. ПЗБ), рус. _нюхтить_ 'нюхаць, вынюхваць, вышукваць', славац. _ňuchtit'_ 'тс'. Да _нюхаць_ (гл.) з інтэнсіўным _-т-,_ параўн. _дыхаць_ і _дыхцéць, пыхаць_ і _пыхцéць_ і г. д.

**Нюшка** 'мыса': _у каровы баліць нюшка_ (талач., Шатал.). Ад _нюхаць, нюшкаць_ (гл.), параўн. рус. _нюх_ 'нос', польск. дыял. _nich, niucha_ 'пыса розных жывёл, за выключэннем каровы', а таксама _czuj, czyjo_ 'пыса сабакі ці ката' (да _czuć_ 'чуць, адчуваць').

**Нюшкаць** 'нюхаць' (Сл. ПЗБ), укр. _нюшкувáти_ 'тс'. Да _нюхаць_ з суфіксальным узмацняльным _-к-_.

**Нюшóк** 'невялікая колькасць, якую можна ўзяць у тры пальцы' (Нас.), 'шчопці' (Нік., Няч.; Касп.), 'малая колькасць' (расон., Шатал.), _нюшóк, нючóк_ 'драбок' (Сл. ПЗБ), _нішóк_ 'тс' (астрав., вусн. паведамл.). Памянш. ад _нюх_ 'невялікая колькасць расцёртага рэчыва, якую можна пацягнуць носам' (Нас.), да _нюхаць,_ у прыватнасці 'нюхаць тытунь'.

**Нюшчыць** 'муркаць' (брасл., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка, з літ. _niáuksėti_ 'тс'.

**Ня**$_1$, _ня-ня_ 'выгукі, якімі падзываюць сабаку' (ТС), _ня-ня-ня_ 'падзыўныя для кароў' (ДАБМ, камент. 895), укр. _ня, ня-ня_ 'падкліканне сабакі'. Відаць, «спешчаны» варыянт да _на, на-на_ 'тс' (гл.), параўн., аднак, балг. дыял. _не̏-не̏_ 'падзыўныя для каровы ці вала'.

**Ня**$_2$ 'не; хіба' (Касп.), 'не; няўжо': _ня ты ня ведыіш_ (Бяльк.). З _не (не-)_ у выніку якання і адсячэння другой часткі ў _нявó, нягó_ 'тс', параўн. смал. _ня_ 'тс': _ня у вас нет?_ (СРНГ), маг. _ня не,_ якое Карскі (2—3, 83) тлумачыць па-руску 'ужели нет?'



**Нябáвам** _(niebawam)_ 'праз некаторы час' (Пятк. 2). Да _бавіць_ (гл.), утворана пры дапамозе суф. _-ам,_ па паходжанні — канчатак творн. скл. м. р.

**Нябéґлы** _(небеґлы)_ 'нерызыкоўны' (лельч., Нар. лекс.). Відаць, да _нягéглы_ (гл.) з народнаэтымалагічным збліжэннем да _бéгчы, бéглы._ Параўн. таксама _нягебны_ 'нягеглы, няўдалы' (ТС).

**Нябéскі** 'нябесны; блакітны, падобны колерам да светлаблакітнага неба' (Нас.), _нябéскі, нябéсны_ 'уласцівы небу' (Яруш.), _нябéскі, небéскі_ 'блакітны' (Грыг., Сл. ПЗБ, Сл. ЦРБ), ст.-бел. _небеский_ (1518 г.) 'нябесны; блакітны' укр. _небéський_ 'нябесны', польск. _niebieski_ 'нябесны; блакітны', чэш. _nebeský_ 'нябесны', в.-луж. _njebjeski_ 'тс', н.-луж. _njebjaski_ 'тс', славен. _nebeški, nebeski_ 'нябесны, цудоўны', серб.-харв. _нѐбески_ 'нябесны', балг. дыял. _небéски_ 'тс'. Відаць, самастойнае ўтварэнне ад _нябёсы,_ гл. _неба;_ значэнне 'блакітны' — арэальная інавацыя з цэнтрам на польскай моўнай тэрыторыі (параўн. яшчэ ст.-чэш. _nebeský_ 'блакітны'), паводле Брукнера (359), з XV ст., якая распаўсюдзілася і на Беларусі. У сувязі з гэтым наўрад ці мае падставы сцвярджэнне аб запазычанні ст.-бел. _небеский_ са ст.-польск. _niebieski_ (Булыка, Лекс. запазыч., 185), параўн. іншыя формы: _небескы птах, нб҃скы цр҃ь_ (XVI ст., Карскі, 2—3, 229).

**Нябóга** 'небарака, бедалага, няшчасны' (Шпіл., Мядзв., Яруш., Булг., Бяльк.), _нэбóга_ 'тс' (беласт., Сл. ПЗБ), _нябóга_ — звычайна ў звароце 'прыяцель, голуб, даражэнькі, шаноўны' (Нас., Мал., Касп.), _нябóга, небóга, нібóга_ 'пляменніца' (парыц., Янк. Мат.; пухав., Сл. ЦРБ; Сцяшк., Янк. 1, Чуд.; ст.-дар., Нар. сл.; петрык., Шатал.; браг., рэч., Мат. Гом.; мазыр., З нар. сл.; Сл. Брэс., ТС), _нябожа_ 'тс' (хойн., Шатал.), сюды ж _небóж,_ мн. _небожáта_ 'ласкавы зварот да малых, маладзейшых з боку старэйшых' (Федар., Пятк., ТС), _нябóж, небож_ 'тс' (ст.-дар., Нар. сл.), 'пляменнік' (Сл. ПЗБ, Сл. ЦРБ, Чуд., Мат. Маг., парыц., Янк. Мат.; Янк. 1, Ян.; браг., Мат. Гом.; лельч., Нар. лекс.; мазыр., хойн., Шатал.), _нябóг_ 'тс' (петрык., Шатал.), _нібог, нібож_ — у іранічным звароце 'шаноўны, даражэнькі' (Нас.), _небажá_ — пагрозлівы зварот да няпоўналетніх (Нас.), _нябóгая_ 'нявестка' (пруж., Сл. Брэс.), укр. _небóга_ 'пляменніца; небарака, галубка', _небíж_ 'пляменнік; небарака, бядак', _небожá_ 'пляменнік, пляменніца' , _небожата_ 'мілыя, родныя, галубкі', польск. _nieboga_ 'бедная, няшчасная жанчына; нябошчыца', _niebożе_ 'небарак, бядак', славен. _nebore_ (<_*nebože_) 'тс'; у іншых славянскіх мовах пераважна ў форме прыметнікаў параўн. рус. _небогий_ 'бедны', чэш. _nebohý_ 'бедны, убогі, мізэрны', славац. _neboh, nebohý_ 'памерлы', в.-луж. _njebohi_ 'памерлы, блажэнны', н.-луж. _njabogi_ 'тс', серб.-харв. _нѐбог,_ дыял. _nebȍh_

’убогі, бедны’. Прасл. *ne-bogъ, дзе другая частка *bogъ ’доля, частка’, параўн. *багаты* (гл.); тыпалагічная паралель — *нядоля* ’няўдалы, няздатны (пра чалавека)’ (Сцяшк.), першасная матывацыя, магчыма, у пруж. *нябóгая* ’нявестка’, г. зн. ’якая не мае сваёй долі, часткі (багацця)’, аналагічна *убóга* ’нявестка’ ад *убогі* ’бедны, няшчасны; абяздолены’ (гл.). Усходнеславянскае значэнне ’пляменніца’, відаць, адлюстроўвае нейкую старажытную маёмасную непаўнацэннасць дачкі брата або сястры ў старым патрыярхальным ладзе. Гл. Махэк₂, 393; Курашкевіч, JP, 37, 119 і інш.; Бенвяніст, Зб. Якабсону, 1, 201; Трубачоў, Этимология-1965, 27; Іванаў, Тапароў, Слав. языкозн., 8, 236; Слаўскі, Зб. Геаргіеву, 388.

**Нябóжчык** *(нябóшчык, небóшчык, нібошчык)* ’памёрлы чалавек’ (Нас., Гарэц., Грыг., Некр., Мал., Булг., Мядзв., Чуд., Касп., Пятк., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *niebójszczyk* ’тс’ (Маш.), укр. *небí(ó)жчик* ’памерлы чалавек; небарака’, польск. *nieboszczyk* ’памерлы чалавек’, чэш. *nebožtík* ’тс’. Арэальная славянская інавацыя ад *nebogъ (гл. *нябога*); паводле Махэка₂ (393), «нябожчык той, хто ўжо не мае сваёй долі на гэтым свеце», параўн. славац. *neboh, nebohý* ’памерлы’, в.-луж. *njebohi* ’памерлы, блажэнны’, н.-луж. *njabogi* ’тс’. Цэнтр гэтай інавацыі хутчэй за ўсё быў на чэшскай моўнай тэрыторыі, параўн. ст.-чэш. *nebožec, nebožčík, nebožtik* ’тс’, на беларускую тэрыторыю яна распаўсюдзілася праз польскую. Параўн. Курашкевіч, JP, 37, 119 і інш.

**Нябóсь** ’ня бойся; ага’ (Нас.), *нябэ́сь* ’тс’ (Сл. ПЗБ), *niboś* ’тс’ (Федар.). З *ня бойсь* (гл. *баяцца*), дзе спалучэнне «*jś* без падтрымкі наступнага галоснага змянілася ў *śś* — *ś*» (Карскі, 1, 230), дапускаецца таксама ўплыў злучніка *бо* (там жа, 304).

**Нябы́т** ’нябыццё’ (Яруш.), *нябыццё* ’адсутнасць’ (Гарэц.). Гл. *быць*, параўн. таксама *небуліца* ’небыццё’ (ТС).

**Нявáла** экспр. ’гультай’ (воран., Сл. ПЗБ). З літ. *nẽvala* ’неахайны, апушчаны чалавек’ (Грынавяцкене, LKK, 22, 193).

**Нявéга** ’нявётлівы чалавек’ (круп., Макар.). Зыходнай магла быць форма тыпу рус. *невéжа* ’цёмны, неадукаваны чалавек’ (<*ne-vedja, гл. *ведаць*), тады канец слова перароблены ў выніку экспрэсіўнай дэпалаталізацыі з мэтай «агрублення», параўн. *Сярога* і *Сярожа*.

***Нявéглас** ’гарэза’ (браг., Мат. Гом.), *невéглас* ’пагібель, смерць’ (ТС). Укр. *невíглас* ’недасведчаны, неасвечаны; язычнік’, рус. *невéглас* ’тс’ узыходзяць да ст.-рус. *невѣглас, невѣголос*, ст.-слав. **невѣгласъ** ’тс’, якое Львоў (Этимология-1972, 103—106) лічыць маравізмам, параўн. таксама чэш. *věhlas* ’вядомасць; розум, асцярожнасць’, узнікшыя як пераклад ням. *Weissager, Unweissager* (Львоў, Этимология-1979, 62). Складанае слова, дзе першая частка ўяўляе форму з адмоўем 3 ас.



адз. л. дзеяслова *věděti ’знаць, ведаць’, параўн. макед. *невéгде* ’невядома дзе, нідзе’, *невéкој* ’невядома хто, нехта’, *невéшто* ’невядома што, немаведама што’ і г. д., а другая — назоўнік *glasъ ’голас’, тут у значэнні ’голас божы’, гл. Фасмер, 1, 283; Махэк₂, 681. Структурная паралель: ц.-слав. *неявѣръ*, славен. *nejęveren* <*ne-ję-věr-, параўн. фразеалагічнае спалучэнне *не ймаць веры* ’не верыць, не даваць веры’ (ТС, 1, 112). У тураўскай гаворцы слова запазычана з ц.-слав., хутчэй за ўсё вусным шляхам, пра што сведчаць змены ў семантыцы (табуізаванае ўжыванне: *прыдзе той невéглас да скáжэ — ходзі!*), магчыма, пад уплывам тураўск. *загласіцца* ’прапасці, згінуць’, параўн. брагін. *зґаласіцца* ’абяссілець, доўга плачучы, галосячы’ (З нар. сл.). У такім выпадку на семантыку царкоўнаславянізма *невеглас* паўплывала народнае *галасіць* ’моцна плакаць’, параўн. рус. *убивáться* ’тс’. Малаверагодны ўплыў з боку літ. *víglas* ’жывы, рухавы’, з адмоўем было б ’нежывы’, нягледзячы на гістарычна засведчаныя кантакты з балтыйскім насельніцтвам на Тураўшчыне (яцвяжскія перасяленні і г. д.), аднак блізкасць значэння беларускага і літоўскага слоў прымушае браць яго пад увагу для вытлумачэння магчымых семантычных змен тураўскага слова. Да значэння ’гарэза’, параўн. *недавярак* ’тс’.

**Нявéдама** *(невѣдомо)* ’невядóма’ (Нас., Гарэц.). Параўн. *невядома* ’без ведання, тайна’ (Нас.). Да *ведаць*, гл. *вядома*.

**Невéльміся** *(нівельміся)* ’не асабліва, не вельмі ж’ (Сцяц.). З *не+вельмі+ся* (гл.).

**Нявéрнік** ’недаверлівы чалавек; від гульні ў карты’ (Некр.), *нявéрка* ’тс’ (ТС). Вытворнае ад *не верыць, нявéрны*, параўн. *нявéра* ’недаверлівы чалавек’ (Ян.).

**Нявéрхавата** *(невéрховато)* ’нявыгадна, нядобра’ (Нас.). Відаць, да *верх* ’завяршэнне, заканчэнне чаго-небудзь’, што першапачаткова адносілася да завяршэння стога, параўн. ілюстрацыю са слоўніка: *Дзело кончено, да неверховато вышло.*

***Нявéсна**, *нэвéсна: Которую засваталі, то нэвесна* (бяроз., Сл. ПЗБ). Магчыма, лакальны архаізм, калі ўлічыць балг. дыял. *весна са* ’з’явіцца, паказацца’: *Не веснá са нито един пат* (Сб. за народни умотворения, 38, 105; паводле БЕР, 1, 137, ад *вест*, гл. *весць, ведаць*). Не выключана кантамінацыя *нявéста×нявéхна* (гл.).

**Нявéста** ’дзяўчына, якая збіраецца пайсці замуж; жанчына ў час вяселля’ (Бяльк., Сл. ПЗБ, Пятк. 2), ’акрамя звычайнага значэння наогул, таксама нестарая жанчына’ (Нас.), ’нявестка, жонка сына ў адносінах да яго бацькоў’ (Сл. ПЗБ; гродз., З нар. сл.), *невíста* ’тс’ (Булг.), *нявéстка* ’тс’ (Бяльк., Сцяшк., Касп., Сл. ПЗБ), *невéстка, нэвіестка* ’тс’ (Маш., ТС, Бесар.), укр. *невíста* ’жонка’, *невíстка* ’жонка сына’, рус. *невéста* ’нявеста,

маладая, замужняя жанчына ў першы год пасля вяселля', *нявéстка* 'жонка сына', польск. *niewiasta* 'жанчына', чэш. *nevěsta* 'нявеста, нявестка', славац. *nevesta* 'тс', в.-, н.-луж. *njewjesta* 'нявеста, дзяўчына ў час вяселля', славен. *nevésta* 'тс', серб.-харв. *нѐвјеста* 'нявеста, нявестка', макед. *невеста* 'нявеста (у дзень вяселля); маладзіца; нявестка', балг. *невя́ста* 'нявеста, маладзіца'. Прасл. *nevěsta 'нявеста, дзяўчына на выданні', найбольш верагодная версія: з *ne і *vědati (гл. *вéдаць*), г. зн. 'невядомая', што лічыцца табуізаванай назвай (<і.-е. *neu̯oidta 'тс'), або да *vesti (гл. *вадзіць весці*) (<і.-е. *neu̯ou̯edta з і.-е. *neu- 'новы'+*u̯ed (-h), 'вясці, браць замуж'), гл. Фасмер, 3, 54—55 (з літ-рай). Паводле Ю. Сцяпанава (Revue roumaine de linguistique, 20, 1975, 417—419), вынік кантамінацыі названых слоў. Параўн. таксама Ондруш, Slavica Slovaca, 20, 1975; Шаўр, Přibuz., 17, 60; Макоўскі, Мир слов и знач., 137; Жалезнікер, Studien zum i.-g. Wortschatz. Innsbruck, 1987, 245—248. Гл. таксама *нявесна, нявехна*.

**Нявéхна** 'нявеста, маладзіца' (Гарэц., Анік., Мал.), 'нявестка, жонка сына' (Нас., Федар., Кліх, гом., Шн.; Жд. 1, Сл. ЦРБ, ТС, Ян.), *невíхна* 'тс' (Маш.), укр. *невíхна* 'тс', рус. *невéхна* 'тс'. Відаць, да *нявеста* (гл.); канец слова зменены пад уплывам слоў на *-хна*, параўн. *цётухна, матухна*, параўн. заўвагу Насовіча: *Невѣхна... Тоже, что Невѣстухна»*. Менш верагодна з *нявéсна* (гл.), параўн. балг. дыял. *невёхчи, невёхчо* 'зварот да нявесты' (радоп., БД, 2) з чаргаваннем *с/х*.

**Нявéчыць** 'калечыць, рабіць недзеяздольным, псаваць' (ТСБМ), *нявéчыць* 'біць, калечыць; абражаць, зневажаць' (Ян.), *нівечыць (нивичиць)* 'ператвараць у нішто, ужываць на зло' (Нас.), укр. *нівечити* 'псаваць, зніштажаць, ператвараць у нішто; мучыць, здзекавацца, жорстка абыходзіцца', польск. *niweczyć* 'ператвараць у нішто, нішчыць, разбураць', славац. *nivočit'* 'тс'. Зыходная форма *vъ ni-vъ-čь- > +*у ні ва што* (ператварыцца), сучаснае *ў нішто*, параўн. ст.-бел. *в ни ве што* побач *ни в што* (XV ст., Карскі, 2—3, 215), у Насовіча: *въ нивичъ пошло*, гл. *нівеч*. Літаратурная форма з *ня-*, відаць, пад уплывам народнаэтымалагічнага збліжэння з *не век, нявечна* і пад., параўн. таксама ўкр. *нéвіч* 'нішто'.

**Нявíдны** 'невінаваты' (Сл. ЦРБ). З *нявінны* 'тс' (да *віна*) у выніку распадабнення.

**Нявíсны** 'сляпы' (Сл. ПЗБ), рус. *невисной, невишной* 'тс', польск. дыял. *niewisny, niewistny* 'тс'. Паводле Мяркулавай (Этимология-1977, 90), ад прасл. дыял. *vistьnъjь, вытворнага ад *vistь 'зрок', сюды ж *невіснéць* 'пацямнець (пра вочы)' (Нас.) (да *videti, гл. *відзець*); звязана з *vistъ, *věstъ 'сапраўдны' (да *věděti, гл. *ведаць*), параўн. *нівісь (невѣсь, невѣсть)* 'невядома' (Нас.), укр. *невістний* 'невядомы', в.-, н.-луж. *njewěsty* 'тс', ст.-слав. **невѣстъ** і інш.



**Нявó** 'няўжо' (Бяльк.), *нявóж* 'тс' (Мат. Гом.), рус. *невó, неóж, невóж* 'тс' (пск., наўг., калуж., маск.). Відаць, з *няўжо* (магчымы шлях дэманструюць рус. дыял. *неуж, неож, невож*, гл. ESSJ SG, 2, 473—474), аднак нельга выключыць і самастойнае развіццё эмфатычнага *не* (*ně) +*во* 'так', літаральна 'ці не так', параўн. *не вот* 'няўжо': *Не вотъ это правда!* (Нас.).

**Нявóгледдзю** 'без аглядкі, з усіх сіл' (Крыў. Дзіс.). З *не* і +*огледзь*, ад *глядзець* (гл.).

**Нявóльна** 'нельга, няможна' (Нас., Сл. ЦРБ, Сл. ПЗБ), *нэвóльно* 'тс' (Сл. Брэс.). Відаць, з польск. *nie wolno* 'тс'; наадварот, магіл. *нявольна* 'мімавольна' (Бяльк.), хутчэй за ўсё з рус. *невольно* 'тс'.

**Нявóля** 'няволя, плен' (Яруш., Ян.), 'прымус' (Нас., ТС), 'прыгон, услужэнне' (ТС), 'цяжарнасць' (Ян.). Да *воля;* да апошняга значэння гл. таксама *нявольная* 'цяжарная', параўн. *несвабодная* 'тс', ст.-слав. **непраздна** 'тс'.

**Нявóтта** 'не вельмі' (Бяльк.). З +*не-вот-то*, параўн. *не вот* 'не вельмі': *Не вотъ ты мнѣ потребенъ* (Нас.). Гл. *нявó*.

**Нявóшта** *(невóшто)* 'нічога, жыве абы-як' (Нас.), сюды ж таксама *няўвошта* («Энеіда навыварат»). З *не*+*ва (ўва) -што*, параўн. ст.-бел. *ни в што* 'у нішто' і *нівошта* 'нічога': *Яму нівошта!* (Бяльк.).

**Нявы́валака** 'слабахарактарны, вялы чалавек' (Мядзв.), 'нязграбны, гультаяваты чалавек' (Мат. Маг.), 'не надта разумны' (полац., Нар. лекс.), 'маруда' (ушац., Нар. сл.), 'абыякавы да ўсяго' (Жд. 2); рус. *невы́волока* 'нялоўкі, непаваротлівы, тоўсты чалавек; неахайны чалавек'. Да *валачыцца*, параўн. ілюстрацыю да слова: *Валачэцца, вох, і нявывалака ш* (Мат. Гом.), першаснае значэнне, відаць, у 'дамасед' (Касп.).

**Няґéґлы** 'кволы, слабы; несамавіты' (Касп.; Жд. 2; бялын., Янк. Мат.; Крыў. Дзіс.), *нягéглый* 'нездаровы, слабы' (Бяльк.), *ніґéґлы* 'няўдалы, непаваротлівы' (Цых., Сл. ПЗБ), сюды ж *няґéґа* 'чалавек слабага здароўя', *няґéґлік* 'няздара, няўмека' (Сл. ЦРБ), 'нямоглы, няўдалы, хворы чалавек' (Янк. 3), *нягéгляццё* 'нягеглае стварэнне' (Юрч. Фраз. 1). Няясна. Існуе некалькі версій, якія не здаюцца дастаткова пераканальнымі. Талстой (Бел.-укр. ізал., 78) звязвае беларускія словы з укр. валын. *ґéґи* 'ногі', балг. *гéга* 'палка', макед. *гега* 'доўгая пастухова палка' і асабліва *гегав* 'крываногі, кульгавы', *гегало* 'кульгавы, апушчаны чалавек; замухрышка', *гега (се)* 'хадзіць кульгаючы, хістаючыся' з семантычным развіццём 'хістацца' — 'хадулі' — 'палка', 'хто хістаецца' — 'кульгавы' — 'замухрышка' і ўзмацняльным *ні-(не-)*, што ўрэшце ўзводзіцца да імітацыйнага (гука- і рухапераймальнага) кораня *geg-, *gig-, *gog-, параўн. *нягога* (гл.). Мартынаў (пісьмова) збліжае з балг. *як* 'моцны, здаровы', варыянт *ягк* (Гераў)<прасл.

*jagъkъ, суадноснае з літ. *jegús* 'моцны, магутны', рус. *неяглый* 'вялы', на падставе чаго рэканструюецца **геглы*<**еглы* 'здаровы, моцны' — *l*-авы дзеепрыметнік ад балт.-слав. **jagti* (≤літ. *jègti* 'быць у стане, магчы'), што малаверагодна. Можна дапусціць сувязь з балтызмам *ğéğa* 'крэмень' (гл.), што з'яўляецца сімвалам моцнага, трывалага (параўн. *моцны, як крэмень*), адкуль *няг̌е́г̌а* з процілеглым значэннем, аднак гэтаму пярэчыць вузкая тэрыторыя распаўсюджання зыходнага слова (Гродзеншчына, усходняя Беласточчына). Калі ўлічыць фанетычна і семантычна блізкія формы тыпу *няге́длы* 'недаразвіты, слабы' (Мат. Маг.), *няге́длый* 'нягеглы, нездаровы, слабы', *ныге́длый* 'нікчэмны' (Сл. Брэс.) і асабліва *неге́лда* 'няўдаліца' (Сцяшк. Сл.), то названыя словы можна вывесці з дзеясловаў тыпу *г̌е́лдаць* 'хутка есці, глытаць' (гл.), *г̌елдава́ць* 'разумець' (КСТ), параўн. таксама *не́галда* 'няўдалы, слабасільны, кволы', якое лічыцца праблематычным балтызмам (гл.). Тураўскае *неге́бны* 'нягеглы, няўдалы' можна звязаць з *г̌ебнуць, г̌ег̌нуць* 'загінуць, памерці' (гл.), пры гэтым *не* мела б экспрэсіўна-ўзмацняльны характар, параўн. гродз. *геблы* 'дрэнны, шкодны' (Сцяшк. Сл.).

**Нягі́дны** 'дрэнны, шкодны' (Касп.), 'чорт, нячысцік': «*Нябожчыца Міхасіха бачыла нягіднага*» (Гарэцкі), сюды ж *нягіднік* 'нягоднік' (Касп.). Украінізм? Параўн. укр. *негі́дний* 'нярварты, паганы, агідны, брыдкі', *негі́днік* 'нягоднік', аднак геаграфія слова пярэчыць такому дапушчэнню. Відаць, кантамінацыя *нягодны* і *агідны* (гл. *агіда, гідзіць*).

***Нягі́пта,** *негі́пта* 'непраходнае, гіблае месца ў балоце; нешта непрыемнае, цяжкае; няздольны, няварты чалавек' (ТС). Да геаграфічнай назвы *Егіпет*, якая ў біблейскай традыцыі стала агульнай назвай для абазначэння беспрасветнай цемры, у тым ліку і ў духоўным плане, гл. глосу ў Скарыны: *Егіпет* — «темности». Параўн. таксама *егі́пта* 'ліха' (<грэч., Мовазнаўства, 1973, 5, 60).

**Нягó** 'няўжо' (Бяльк., Яўс., Крыў., Дзіс.), *нягó, нягóж, нягóш* 'тс' (Касп., Сл. ПЗБ, Сл. ЦРБ), параўн. таксама *няўгó* 'тс' (гл.). Паводле Карскага (2—3, 83), таго ж паходжання, што *няўжó* (гл.), рус. *неужели* 'тс'; *(ў)го* замест *ўжо*, відаць, адлюстроўвае старажытную варыянтнасць часціц *-*go* і *-*že*, параўн. прасл. **nego/neže*, ESSJ SG, 2, 455; гл. таксама *ужэ́, угэ́, уге́*, 'ужо' (ТС). Меркаванне пра запазычанне бел. *нягó, няўгó* з літ. *niaugù* 'тс' (Грынавяцкене і інш., Baltistica, III (1) Priedas, 72) у святле сказанага вышэй здаецца недастаткова абгрунтаваным, хутчэй мела месца арэальная падтрымка пры захаванні архаізма.

***Нягóга,** *нэгóга* 'няўклюда' (брэсц., Нар. сл.). Відаць, да *гога* 'прыгожы, харошы', напэўна іранічнае ўтварэнне паводле



мадэлі т. зв. дзіцячых слоў, параўн. польск. *gogo* 'моднік, аферыст' (<франц. *gogo* 'наіўны чалавек', Слаўскі, 1, 309).

**Нягóда** 'непагода, непагадзь' (Чач., Некр.; слонім., Арх. Бяльк.; петрык., Шатал.), *негóда, нэгóда* 'тс' (ТС, Сл. Брэс.), 'непагадзь; бяда, няшчасце' (Бяльк.), 'дрэннае надвор'е; нязгода' (Гарэц.), 'дрэннае надвор'е; дрэнны настрой' (Сл. ПЗБ), 'няшчасце, няўдача' (Яруш.), укр. *негóда* 'дрэннае надвор'е, непагадзь', рус. *негода* 'дрэннае надвор'е; дрэнны чалавек', чэш. *nehoda* 'дрэннае надвор'е; няшчасны выпадак', славац. *nehoda* 'няшчасце', славен. *negóda* 'няшчасце, няшчасны выпадак; штосьці непрыемнае', серб.-харв. *нѐгода* 'няшчасце'. Да **godъ* (гл.) з першасным значэннем 'падыходзячы, спрыяльны час'. Распаўсюджанне тыпалагічнай мадэлі паводле матэрыялаў Лінгвістычнага атласа Еўропы гл.: Іанеска-Руксандою, Revue roumaine de linguistique, 28, 253—262. Параўн. *пагода*.

**Нягóж** 'а як жа, так, напэўна' (віц., Хрэст. дыял.), сюды ж *анягóж* 'так', *аня́-ж* 'а як жа' (віц., Мат.). Гл. *нягó*, семантыку добра тлумачыць *нягó-не* 'тс' (Др.-Падб.).

**Нядба́йла** 'гультай, бестурботны чалавек' (Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *нядба́йлік* 'тс' (Янк. 1, ТС), *нядба́йнік* 'тс' (лунін., Шатал.; Мат. Гом.), *нядба́йліца* 'тс' (Сцяшк.), *нядба́ліца* 'тс' (бялын., Янк. Мат.; Гарэц., Сл. ПЗБ), *нядба́йніца* (лунін., Шатал., Мат. Гом.), *нядба́йліска* 'тс' (Сцяц.). Да *дбаць* (гл.).

**Нядзе́б,** *няйдзеб* 'замест таго, каб': *Ня(й)дзеб касіць хапацца, ты па грыбах шлындаеш* (Гарэц.). З *ня-дзе-б* (гл.), параўн. *нейдзе* 'дзесьці; відаць', *няўчом, няўком* і пад.

**Нядзе́ля** 'нядзеля, рус. воскресение' (Нас., Гарэц., Булг.), 'нядзеля; тыдзень' (Яруш., Грыг., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), 'тыдзень' (Бяльк., Касп.), укр. *неділя* 'нядзеля', рус. *неделя* 'тыдзень', польск. *niedziela* 'нядзеля', чэш. *neděle* 'нядзеля; тыдзень', славац. *nedel'a* 'тс', палаб. *nidel'ɛ* 'тс', в.-луж. *njedźela* 'тс', н.-луж. *nježela* 'тс', славен. *nedélja* 'тс', серб.-харв. *нѐдеља* 'тс', макед. *недела* 'тс', балг. *неделя* 'тс', ст.-слав. **недѣлꙗ** 'тс'. Прасл. **nedělja*, лічыцца калькай з лац. *feria*, сярод значэнняў якога 'свята; вольны ад работы дзень'; менш верагоднай крыніцай з'яўляецца грэч. ἄπρακτος (ἡμέρα) са значэннямі 'бязмэтны; які праводзіцца ў бяздзеянні, нерабочы' (Фасмер, 3, 57); паводле Львова (Зб. Нахцігалю, 186—187), ст.-слав. **недѣлꙗ** магло з'явіцца і ўвайсці ў славянскія кнігі ў Маравіі са значэннем 'стан нядзеяння', дзе другая частка ***дѣлꙗ** як у слове **дрѣводѣлꙗ** 'цясляр' і пад. (гл. *дзеля*). Перанос назвы з дня тыдня, ад якога вялі адлік, на адрэзак часу пасля гэтага дня: 'нядзеля'—'тыдзень', параўн. рус. арх. *ле́то* 'год'<*ле́то* 'лета'. Гл. таксама Дурнаво, RÉS, 6, 107; Матушэўскі, Słowiański tydzień. Łódź, 1978; Сямчынскі, Семант. інтэрф. мов. Київ,

1974, 178; Ферлюга-Пятроніа, Živa antika, 34, 1—2; 43—48. Сюды ж *нядзе́льнікаваць* 'адпачываць, па-святочнаму прыбірацца' (Сцяшк. Сл.).

**Нядзьвач** 'мядзведзь' (Шаўцоў, Полымя, 1971, 10, 220). Відаць, з польск. *niedźwiedź* 'тс', параўн. таксама *niedźur'èdź* 'тс' (Федар. 1, 195).

**Нядо́брае** 'нечысць, нячысцікі' (Мат. Гом.), параўн. укр. *недобрий* 'чорт'. Табуізаваная назва, створаная з мэтай засцярогі; параўн. *нячы́сты* 'тс'. Сюды ж *нядо́брыцца* 'нездаровіцца, нядужыцца' (жлоб., Жыв. сл.). Гл. *добры,* параўн. у прамым значэнні *нядо́бра* 'няўдобіца' (Сл. ЦРБ).

**Нядо́віча** *(недо́віча)* 'не так даўно, нядаўна' (Бяльк.). Гл. *надо́вечы* 'тс', пачатак слова заменены пад уплывам *нядаўна.*

**Нядо́імка** 'недаплата' (Бяльк.). Да *іма́ць* 'браць' па тыпу *недаробка* 'нясконачаная справа', параўн. з іншым дзеясловам *недабо́р* 'недаплата' (ад *браць,* Нас.).

**Нядо́кратка** 'сарамлівая' (Сцяшк. Сл.). Да *кратаць* 'кранаць, рухаць' па тыпу *недаты́ка* 'незачэпа', рус. *недотрога* 'тс'.

**Нядо́ля** 'няшчасце, няўдача' (Нас., Яруш.), 'няўдалы чалавек' (Гарэц., Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'ненадзейнае, нямоцнае на трываласць што' (Сл. ЦРБ). Да *доля* (гл.).

**Нядо́са** *(недоса)* 'недастаткова' (Нас.). Ад *дос, досыць* (гл.).

**Нядо́шлы** 'кволы, слабы, хваравіты' (стаўб., З нар. сл., Крыў. Дзіс.), *недо́шлы* 'тс' (Сл. ПЗБ, ТС), *нідо́шлы, нідэшлы* 'тс' (дзярж., Нар. сл.), *нядýшлы* 'тс' (Мат. Гом.), *нядэшлы* 'благі, мізэрны' (Сцяшк. Сл.). Выходнае значэнне, відаць, у беласт. *нэдо́шлы* 'які хацеў стаць кім-небудзь, але не стаў' (Сл. ПЗБ), што, паводле аўтараў слоўніка, з польск. *niedoszły* 'былы кандыдат на якое-небудзь месца'; аднак для большасці формаў нельга выключыць самастойнае развіццё ад *не дайсці,* адно са значэнняў *дайсці* 'памерці, зачахнуць', г. зн. 'той, хто блізкі да смерці, але яшчэ не дайшоў да яе', параўн. *недо́йда* 'дахадзяга' (Сл. ПЗБ), магчымы ўплыў прыметніка *до́хлы* (гл. *дохнуць*) ці дзеяпрыметніка ад *нядýжыць* 'хварэць' (гл. *нядуга*).

**Нядýга** *(nieduha)* 'хвароба, слабасць' (Федар., Маш., ТС). Сюды ж *нядýжыць* 'хварэць' (Нас.), *недýговаты* 'тс' (Булг.), *нэдýгі* 'нядужы, слабы' (беласт., Сл. ПЗБ), *нядýжы, недýжы* 'слабы, хваравіты' (Нас., Сцяшк., Янк. 1, ТС, Сл. ПЗБ), *нядýжны, недýжны* 'тс' (Бяльк, Булг.), укр. *недýга* 'хвароба, слабасць', рус. *не́дуга, не́дуг* 'тс', кашуб. *ńedåga* 'тс', чэш., славац. *neduh, neduha* 'тс', славен. дыял. *nedôžje* 'тс', макед. *недуг* 'хвароба; фізічны недахоп', балг. *недъ́г, недъ́га, недýг, недýга* 'тс'. Суадносяць з чэш., славац. *duh* 'добрае адчуванне, удача', кашуб. *dåga* 'моц, сіла', ст.-польск. *dążyć* 'перамагаць', рус. *не в дугý* 'нічога не разумець' (Фасмер, 3, 59; Бязлай, 2, 218),



што дае падставы, нягледзячы на фармальныя цяжкасці, узвесці да прасл. *dǫgъ 'сіла, моц'; магчыма, тут адбылося змяшэнне асноў *dǫg- і *dug- (гл. *дужы*), пра што сведчыць паралелізм формаў з -ǫ- і -u- (Слаўскі, 1, 142; Папоўска-Таборска, Szkice z Kaszubszczyzny, Gdańsk, 1987, 24), што, аднак, ставіцца пад сумненне (Трубачоў, Эт. сл., 5, 100)). Паводле Махэка$_2$, 394, *nedǫgъ<*nedolǫgъ, гл. *недалягаць, недалужны.*

**Нязбе́дны** *(незбедный)* 'паганы' (Карскі, Труды, 312), ст.-бел. *незбедный* 'подлы, нізкі' (XV ст.) з польск. *niezbedny* 'паганы, няўклюдны' (Карскі, там жа), ст.-польск. *niesbedny* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 134). Апошняе з чэш. *nezbedný* 'гарэзны' ад прасл. *bъděti, *buditi (Брукнер, 363), гл. *будзіць, узбуджаць,* або з *ne-sъ-będ-ьnъ 'нявытрыманы, нястрыманы', дзе -będ- суадносіцца з ням. *binden* 'вязаць, путаць' (Махэк$_2$, 398).

**Нязбо́жны** 'бязбожны, неміласэрны' (Нас.). Ад *збо́жны* 'міласэрны', параўн. польск. *zbożny* 'набожны, багабаязны', чэш. *zbožný* 'набожны, пабожны' і іншыя формы, што ўзыходзяць да прасл. *sъbogъ (гл. *збожжа*).

**Нязбы́тна** 'неажыццявіма' (Касп.). Да *збыцца* 'ажыццявіцца'; няма падстаў бачыць у ім запазычанне ці паўкальку з польск. *niezbyty, niezbędny* 'якога цяжка пазбыцца, пазбегнуць' (Кюнэ, Poln., 81) па семантычных меркаваннях.

**Нязґа́рны** *(незґа́рны)* 'непрыгожы' (ТС). Да *ґа́рны* 'добры, прыемны, прыгожы' (гл.), пачатак слова прадстаўляе комплекс *няз-<не+з,* відаць, пад уплывам словазлучэнняў тыпу *не з горшых,* гл. *нязго́ршы* і пад.

**Нязго́дны** 'непатрэбны, лішні; непрыгодны па стану здароўя, выбракаваны' (Сл. ПЗБ). Да *го́дны* 'прыдатны, прыгодны', з пачатковым комплексам *няз-* (<*не+з*), параўн. *нязго́ршы, нязґарны* і пад. Аднак не выключана непасрэднае ўтварэнне ад *зго́дны* 'прыдатны для ўжывання' (Нас.).

**Нязго́ршы** 'някепскі' (Сцяц., Касп.), 'належны, добры' (Сцяшк. Сл.), сюды ж *нязго́рш (нізгорш)* 'нядрэнна' (Сцяшк. Сл.; мін., Жыв. сл., Сл. ЦРБ). Да *горш(ы),* пачатковы комплекс *няз-<не+з* са спалучэння *не з горшых* 'не самы дрэнны', параўн. тлумачэнне Каспяровіча 'не из худших' (там жа). Магчыма, таксама непасрэднае ўтварэнне ад *зго́ршыць* 'разбэсціць, сапсаваць маральна', *зго́ршаны* 'разбэшчаны' (Нас.).

**Нязгра́ба** 'няўдалы чалавек' (кап., Нар. словатв.), *нязгрэ́ба* 'няўдалы, няспрытны' (Сцяшк.). Відаць, другаснае ўтварэнне ад *нязгра́бны* 'нястройны, няўклюдны' (Касп., Бяльк.), 'неахайны; няўклюдны, нястройны; неасцярожны' (Нас.), *незгра́бны* 'непрыгожы' (Сл. ПЗБ), 'тоўсты, непаваротлівы' (ТС), ад *зграбны* 'стройны' (гл.), што лічыцца паланізмам (ад *grabic,* Брукнер, 155); унутраная форма — 'прыгладжаны, прычасаны,

3. Зак. 157

ахайны', параўн. *згрэ́баць* 'зграбаць' (ТС). Параўн., аднак, серб.-харв. *незграпно* 'нязграбна', што магло б паставіць пад сумненне названую этымалогію, параўн. *несграбно* 'нястройна, непрыемна, без усякага парадку' (Мядз.). Сюды ж *нязграбнік* 'няўклюдны чалавек' (Янк. 3), *незграбо́цё* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *незграбэ́йла (нізграбэйла)* 'тс' (брасл., Сл. ПЗБ), паводле аўтараў слоўніка, з літ. *nezgrabáila* 'тс', што можна прыняць толькі з улікам словаўтварэння.

**Нязѓра́да** *(незѓра́да)* 'няўмека, няўклюда' (ТС), *нязгрэ́да* 'няўдаліца' (клец., Нар. лекс.). Відаць, адваротны дэрыват ад *незѓра́дны, незѓрэ́дны* 'нехлямежы, нязграбны' — фанетычна змененае *незѓрабны?* Магчыма, зыходная аснова захавалася ў беласт. *zhrèjdać* 'сапсаваць справу, зрабіць што-небудзь паспешна, абы-як', якое Смулкова (Балт.-слав. иссл.-1980. М., 1981, 209) лічыць балтызмам.

**Нязгра́я** *(незграя), нізграя* 'няраха' (Нас., Яруш.), 'неакуратны чалавек' (Юрч.), *незѓрэ́я* 'няўклюда; нязграба; нехлямяжы, непрыгожы чалавек' (ТС). Відаць, адваротны дэрыват ад *нязграйный (нізграйный)* 'нязграбны' (Бяльк.), *незѓрайны, незѓрэйны* 'нехлямяжы, нязграбны' (ТС), што да *згра́йны* 'зграбны' (Бяльк.)<польск. *zgrány* 'дапасаваны' (да *grać* 'іграць'), параўн. *згра́я* (гл.). Гл. таксама *нязѓра́да*.

**Нязда́ра** *(незда́ра)* 'няздольны да працы; нязграбны' (Цых., Сл. ПЗБ, Сцяшк.), 'бяздарны' (Яруш.). Да *здарыцца* 'удацца' (Нас.), параўн. *не́ўдаль* 'няўдаліца', *нязда́тны* 'няздольны' і пад.

**Нязі́пер** 'званочак балонскі, Campanula bononiensis L.' (Кіс.). Відаць, ад *нізіпернік, нізіперніца* 'гусялапка' (гл.) па падабенству лекавых уласцівасцей.

**Нязла́гада** *(нізла́гада, незла́гада)* 'нязгода, сварка, неспакой' (дзярж., Нар. сл., Мат. Гом.). Магчыма, кантамінацыя *нязгода×лагода* (гл.).

**Нязмо́га** 'бяссілле' (Гарэц., Касп., Бяльк.), *незмага́ (незмога́, нізмыга́)* 'тс' (Нас., Грыг., Бяльк.). Ад *змо́га* (гл.), *змага́* 'сіла, магчымасць' (Нас.).

**Нязы́м** *(незым)* выкл. 'не чапай, не руш; хай, няхай', злуч. 'дапусцім' (Нас.). Параўн. рус. *незы́м, незыма́й* 'хай, няхай', што ўказвае на зыходнае *зама́ть*, бел. *займа́ць* 'рухаць' (Нас.), гл. *і́маць*.

**Няйма́ць** *(ня ймаць)* 'не мець, не браць (веры)' (Гарэц., Др.-Падб.). Да *і́маць* (гл.), параўн. *няймаверны* 'неспагадлівы' (Сл. ЦРБ). Сюды ж *нейма́цца* 'не шчасціць, не шанцаваць' (ТС).

**Някдэ́ба** 'няўмека' (гом., Нар. словатв.). Магчыма, звязана са словазлучэннем **не къ добѣ* 'не па часе, не да рэчы' (гл. *даба*) з другасным пераходам *а>э* пад націскам. Параўн., аднак, укр. *некле́ба* 'няўмека' (апіска *д* замест *л?*).



***Някéча**, *ныкэ́ча* 'неахайная жанчына' (Сл. Брэс.). Няясна.

**Някле́пісты** 'няскладны, нязграбны' (Сцяшк.). Гл. *нясклёпісты*.

**Ня́ко** 'неяк' (Хрэст. дыял.), *ня́кось* 'тс' (Клім., драг.; Сл. Брэс.), *ня́кся* 'тс' (іван., Сл. Брэс.). З *не-як-о(сь)* ці *не-як-ся*, гл. *не, як, ся*, параўн. *не́кося, не́кось* 'тс' (ТС)<*не-ек* (<*як*)*-о-ся(сь)*.

**Някры́тая** 'яўная бяда, бачная небяспека' (Нас.). Тубуізаваная назва, параўн. *нялёгкая, нячыстая* і пад.

**Някшчо́нік** *(някщо́ник)* 'зняважлівая назва яўрэя, часам цыгана' (Нік. Очерки). Ад *ксці́ць* 'хрысціць' (гл.).

**Няле́тка** 'малалетні' (Гарэц.). Ад *ня-летні*, параўн. *летні* 'стары' (гл. *лета*).

**Нялёгкая** *(нілёхкая)* 'нячыстая сіла' (кіраўск., Нар. сл.), 'непераадоленая, шкодная сіла; злы лёс, д'ябальская сіла' (Нас.). Табуізацыя на базе *нялёгкі* 'які цяжка перанесці' (Нас.), гл. *лёгкі;* параўн. *нячыстая<нячыстая сіла, някрытая* 'тс' і пад.

**Нялю́дскі**, *нялюдзкі, нелюцкі* 'дрэнны, кепскі; няўдалы; нелюдзімы; бесчалавечны' (Сл. ПЗБ, Сцяшк., Сл. ЦРБ, ТС, Мат. Маг., Касп., Нас.), *нелю́дны* 'непрыгожы' (Сл. Брэсц.), *нелюдзя́шчы* 'няздатны, хворы' (Ян.), сюды ж *нялю́дзьдзя* 'вылюдак, не падобны да людзей' (мсцісл., З нар. сл.). Гл. *людскі*, параўн. *няўлюдны* (гл.).

**Ням**, *ням-ням* 'есці (у размове з дзецьмі)' (ТС), *ня́маць* 'тс' (Юрч. НВС), *ня́маць, ня́мняць* 'тс' (ТС). *ням, нямачкі, ня́мы* 'пабуджэнне дзіцяці да яды' (мсцісл., Нар. лекс.). Гукапераймальнае, параўн. рус. *ням-ням*, што перадае шум жавання (у дзіцячай мове), адкуль *нямкать* 'есці, жаваць' (Фасмер, 3, 94), параўн. *ня́мкаць* 'жаваць (пра бяззубага)' (ТС), *(г)амкаць* 'есці' ад *(г)ам* і пад.

**Няма́** 'няма, рус. нет' (Нас., Мал., Гарэц., Касп., Шат., Сл. ПЗБ, Сл. ЦРБ), *нема́* 'тс' (ТС, Сл. ПЗБ, Ян.), *німа́* 'тс' (Яруш., Касп., Кліх, Бяльк., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *нима, нема* (XVI ст., Карскі, 2—3, 77), укр. *нема(е)*, польск. *nie ma*, чэш. дыял. *níma*, славац. *néma, níma*, в.-луж. *nima*, серб.-харв. *нема*, макед. *нема*, балг. *ня́ма*. Форма 3 ас. адз. л. ад **ne* (адмоўе) і **jьmětі* (гл. *мець*); сцяжэнне адбылося самастойна ў асобных славянскіх мовах, параўн. ст.-слав. **не имамь** (інф. **не имѣти**), балг. *нямам*, серб.-харв. *нêмāм (нéмати)*, славен. *nímam, némam (nímati)* і пад., гл. Карскі, 2—3, 77; Дурыданаў, Зб. Мірчаву, 1979, 156; таксама як і страта прэдыкатыўнасці, параўн. бел. дыял. *нема семянó* (Карскі, 2—3, 369). Няма падстаў насуперак Кюнэ (Poln., 81) разглядаць бел. *няма* як паланізм, параўн. несцягнутую дзеяслоўную форму ў *немаека* 'няма, нямашака' (ТС), *нымайка* 'тс' (Сл. Брэс.). Пра адносную ста-

ражытнасць бел. *няма* сведчаць спалучэнні тыпу *няма-дзе, няма-калі, няма-каго* (Гарэц.), што адпавядаюць рус. *негде, некогда, некого* і пад. (Карскі, 2—3, 451), параўн. таксама спецыфічную паралель балг. дыял. *не ми е кóли* 'мне няма калі, няма часу', серб.-харв. дыял. *немам кȍлjе* 'тс' (БЕ, 1978, 6, 525).

**Нямáль** 'амаль' (Нас., ТС), *нымáль* 'тс' (столін., Нар. лекс.), а таксама 'верагодна, відаць, здаецца': *немаль пан прiѣхавъ* (Нас.), ст.-бел. *немаль (немалъ)* 'амаль' (1595) — лічыцца запазычаннем з польск. *niemal* (Кюнэ, Poln., 81; Булыка, Запазыч., 216; Лекс. запазыч., 200; Жураўскі, SOr, 1961, 7, 40); паводле Карскага (2—3, 74), *немаль* 'верагодна' утворана ад назоўніка ў наз.-він. скл. адз. л. Махэк₂ (395) выводзіць ст.-чэш. *nemál(e)*.са спалучэння *malo ne*, параўн. *màlnie* 'амаль, чуць' (Пятк. 2, 132) з адваротным парадкам элементаў. Параўн. *мáлна* (гл.).

**Нямáш** 'няма' (Нас., Касп., Гарэц., Сцяш.), *немáш* 'тс' (ТС), *нíмаш* 'тс' (Грыг., Касп., Бяльк., Сцяшк., Нік. Очерки, Сл. ПЗБ), сюды ж *нямáшака (немáшака, нямашка, нíмашака, немáшэка, немашыка, нямашыка)* 'тс' (Нас., Гарэц., Касп., Шат., Мал.; мазыр., Шн. 2, Яруш., Гарэц., Сцяшк., Янк. 1, Яўс., Жд. 1, Сл. ПЗБ, ТС, Мат. Маг., Сл. Брэс., Мат. Гом.), *нямашацька, нямашытка, нямашачка* 'тс' (Грыг., Бяльк., Нік. Очерки, Мат. Маг., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *немашъ (нимашъ)* 'тс' (XVI ст.). Паводле Карскага (2—3, 77; 369), форма 2 ас. адз. л. ад *мець* (<*не маеш* з кантракцыяй), аднак з большай верагоднасцю трактуецца як паланізм (<*nie masz* 'тс', параўн. Карскі, 2—3, 254; Кюнэ, Poln., 81; Булыка, Лекс. запазыч., 200), чаму ўсё ж пярэчыць надзвычай шырокае распаўсюджанне па ўсёй Беларусі. Грунтуючыся на прыслоўях *тамашака, дармашака,* суадносных з *нямáшака* (*-ка* т. зв. пусты суфікс), Шуба (Прысл., 63) выводзіць *-ш-* з часціцы *ж* (гл.), што ў словах *нямаш, тамаш, дармаш* перастала ўспрымацца як часціца, параўн. *немаж часу* (мазыр., Мат.). Паводле Карскага (2—3, 69), формы *алешака, дармашака* ўтвораны пад уплывам *нямаш, нямашака.* Паходжанне канцавога зычнага (*-sz* ці *ż*) дыскутавалася і ў польскай мове, параўн. Хмелёвец, PJ, 1921, 123—126. Цікавая абагульненая форма *nimaš (jo sym nimaš, tyź nimaš, un nimaš)* сустракаецца на польска-чэшскім пагранiччы (JP, 44, 41), якая разглядаецца як кантактны («этычны») варыянт да *nima* (ESSJ SG, 2, 109). Няясна. На распаўсюджанне беларускага слова магло паўплываць літ. *nėmàž* 'нiмала, нiколькі, нічуць' (ад *mãžas* 'малы, маленькі', *mažaĩ* 'мала').

**Нямкíня,** *немкíня,* 'немка, нямая жанчына' (Сл. ПЗБ). Старажытнае вытворнае на **-ynі* параўн. укр. *нiмкéня,* балг. *немкúня* 'немка'; магло ўзнікнуць на мясцовай глебе ад *немка* 'немка, нямая жанчына', *нямкó* 'нямы чалавек' (Сл. ПЗБ). Гл. *немец, нямы.*



**Нямнíшча** 'старое рэчышча (Нёмана)' (стаўб., Сл. ЦРБ): *ні ва ўсякум нямнішчы адзінакава рыба водзіцца* (карэл., Нар. словатв.). Ад назвы ракі Нёман, параўн. аналагічнае *бужыско* (ад Буг, беласт.).

**Нямнуць** *(нямнаць)* 'ударыць, гнянуць' (Крыў. Дзіс.). Відаць, гукапераймальнае, параўн. *нэ́мнуць* 'тс'.

**Нямóглы** 'слабы, хваравіты' (Сл. ПЗБ, Сцяшк.). Архаізм, параўн. ст.-чэш. *nemohlý* 'тс', да *магчы* (Махэк₂, 395), параўн. *немагчы́* 'недамагаць', *нíмагушчы* 'слабы' (Сл. ПЗБ).

**Нямтýр** 'нямы чалавек' (Нас.), 'нямы, маўклівы' (Касп., жлоб., Нар. словатв.), 'глуханямы або глухі чалавек' (Юрч. НВС). Згодна з Карскім (2—3, 31), утворана суфіксам *-тур* ад *нямы* (гл.), параўн. аналагічнае ўкр. *нiмтур,* балг. дыял. *нéмтур* 'маўклівы'. Пад уплывам зыходнага слова са значэннем 'нямы чалавек', экспрэсіўнае *немтурá* 'немцы' (ТС), сінанімічнае *немцурá* 'тс' (там жа).

**Нямýні,** *немýні* 'апенькі' (Сл. ПЗБ). З літ. *nemùnės* 'тс' (Грынавяцкене, LKK, 22, 193).

**Нямчýр** 'маламоўны; немец' (Сцяц.), 'маўклівы або нямы чалавек' (Сл. ЦРБ, Сцяшк. Сл.; мiёр., З нар. сл.; Крыў. Дзіс.), *немчур* 'маўчун' (Мат. Гом.), Экспрэсіўнае ўтварэнне з суфіксам *-ур* ад *нямко* 'нямы чалавек' ці *нéмец* (гл.), параўн. *немцурá* экспр. 'немцы', *немчурáкі* 'тс' (ТС). Параўн. аналагічнае экспрэсіўнае ўтварэнне славен. *nemčur* 'германафіл'.

**Нямы́** і *нéмы* 'пазбаўлены здольнасці гаварыць' (Нас., Яруш., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), часам *нямы́* 'тс', але *нéмы* 'страшны, замагільны' (Некр.), параўн., аднак, *равé нямы́м голасам* (Багд. 63), *нéмы, немý* 'няздольны гаварыць; знямелы, нерухомы', *немы́м гóласам (духом)* 'страшна, дзіка' (ТС), укр. *нiмúй* 'нямы, безгалосы', рус. *немóй,* польск. *niemy,* чэш. *němý,* славац. *nemý,* в.- і н.-луж. *němy,* славен. *nêm,* серб.-харв. *нêм,* макед. *нем,* балг. *ням.* Выводзяць на аснове дысіміляцыі з першапачатковага **mětъ* 'які заікаецца, невыразна гаворыць', што суадносіцца з лат. *mēms* 'нямы', *mẹmulis* 'заіка', хец. *memaḫḫi* 'гавару', параўн. таксама ням. *mummeln* 'заікацца', швед. *mimra* 'варухаць губамі' і пад. (Фасмер, 3, 63; Бязлай, 2, 219); у аснове — гукаперайманне, як і ў славац. *memtať*, чэш. *mumlati,* польск. *momotać* 'невыразна гаварыць, бурчаць і пад.' (Махэк₂, 395). Значэнне 'дзікі, замагільны (голас)' выводзіцца з 'незразумелы, неартыкуляваны'. Малаверагодна вывядзенне рус. *немой* ад кораня **nem-* 'гнуць', што звязваецца з рэлігійнымі дзеяннямі, адкуль лац. *nemus* 'святы гай', грэч. νεμος 'гай, лес' і пад. (Макоўскі, Мир сл. и знач., 134). Гл. таксама Улашын, ZfSlPh, 6, 368—372.

***Нянáджана,** *ненáджэно* 'нечакана, неспадзявана' (ТС), *нынáджано* 'тс' (драг. Клім.), *ненáжано* 'знянацку' (пін., Жыв.

сл.), *нэнáжэно* 'незнарок, неспадзеўкі, нечакана' (пін., Нар. лекс.), *ненажено* 'нечакана' (лельч., Нар. лекс.), сюды ж *ненáджэны* 'нечаканы, неспадзяваны' (ТС), *нынáджаный* 'тс' (Клім.). Да *наджа* 'надзея, спадзяванне, *нáжа* 'тс' (гл.).

**Нянáсьце** 'нягода, дрэннае надвор'е' (Бяльк.), *нянасце* 'тс' (Ян.). Відаць, з рус. *ненастье* (ад *наст* 'моцная ледзяная скарынка на снезе', Міклашыч, 211; Фасмер, 3, 63).

***Нянáўмех,** *ненáўмех* 'не да таго, не ў галаве' (ТС). Гл. *наўмé*.

**Нянáцкі** 'нечакана, раптоўна' (Нас.). Гл. *знянацку*.

**Нянáчы** *(нінáчы)* 'не інакш' (Касп.). Гл. *нача*.

**Ня́нё** (дзіц.) 'мяса' (Клім.), *ня́ня* 'тс' (Сл. ЦРБ). Тыповае «дзіцячае» слова няяснага, магчыма, гукапераймальнага паходжання, параўн. рус. *ня́ня* 'грудзі', марыйск. *ńäńä* 'хлеб', што можа быць звязана з *ням-ням* 'есці' (гл. Фасмер, 3, 94).

**Ня́нька**₁ 'нянька, што даглядае дзяцей' (Нас., Яруш., Пятк., Сл. ПЗБ, ТС), укр. *ня́ньо* 'бацька', *ня́ня, ня́нька* 'нянька', рус. *ня́ня, ня́нька* 'тс', а таксама 'старэйшая сястра', польск. *niania, niańka* 'нянька', *nana, nanka* 'тс' і 'маці', чэш. *ňapo, ňaňka* 'бацька', дыял. (мар.) *ńáпа* 'нянька', славац. *nano, ňaňa* 'цётка', в.-луж. *nan* 'бацька', серб.-харв. *нáна, нéна* 'маці', балг. *нéня* 'сястра маці', *нéни* 'зварот малодшага да старэйшага'. Тыповае «дзіцячае» слова, узнікшае шляхам падваення складоў *(мама, тата* і пад.); «дыфузная» семантыка можа сведчыць пра самастойнае развіццё падобных слоў у асобных славянскіх мовах. Параўн. Фасмер, 3, 94; Махэк₂, 389; Шустар-Шэўц, 13, 987.

**Ня́нька**₂ 'калыска' (кобр., ДАБМ, камент. 813). Гл. *нењка*.

**Ня́нька**₃ 'нанка, кітайка (від матэрыі)' (Нас.). Відаць, запазычана з рус. *нáнка* 'тс', што ў сваю чаргу з франц. *nankin* або ням. *Nanking* ад назвы горада ў Кітаі (Праабражэнскі, 592; Фасмер, 3, 41). Змякчэнне зычных цяжка вытлумачыць.

**Ня́ньчыць** 'плакацца, канькаць' (слонім., Нар. словатв.), сюды ж, відаць, рус. наўг. *ня́ньчить,* вытлумачанае незразумелым «велидовать» (СРНГ). Магчыма, гукапераймальнае, параўн. *ня́ўкаць* 'мяўкаць' і пад., або ў выніку семантычнага развіцця *ня́нчыць, ня́ньчыць* 'даглядаць, нянчыцца' (Яруш., ТС), 'песціць' (Сл. ПЗБ), звязанага з *нянька*₁ або *нянька*₂ (гл.).

**Няпóрны** *(нінóрны)* 'несвоечасовы, дачасны' (карэл., Шатал.; мін., Жыв. сл.; зэльв., Сл. ПЗБ). Ад спалучэння *не парá* або *не ў пару* (гл. *парá*), параўн. таксама *неўпóрны* 'тс' (Сл. ПЗБ), *нéўпору* 'несвоечасова' (ТС).

**Няпóшлы** 'слабы, кволы' (Крыў. Дзіс., ушач., Пан. дыс.). Да *пóшлы* 'дужы, моцны'.

**Няпýшч** *(непушчъ)* 'накшталт, падобна, як': *непушчъ твойго коня* (Нас.). Няясна; магчыма, ад *пýшчы* 'горш' (параўн. *непапушч, непапушчы,* гл.), аднак цяжка вытлумачыць семан-



тыку. Або ўзыходзіць да ц.-слав. *непщевать* 'меркаваць', ст.-слав. **непьштевати** (параўн. ц.-слав. *непьщь*), для якога Фасмер (3, 64) узнаўляе першаснае значэнне 'не чакаць, не быць упэўненым', роднаснае лац. *putāre* 'лічыць, меркаваць', што бліжэй па значэнню да беларускага слова. Гл. таксама *непапушч*.

**Няпэ́ўны** 'недабраякасны (пра насенне)' (Сл. ЦРБ), 'ненадзейны, нявызначаны' (Касп.), *няпéўны (непевный)* 'неверагодны, ненадзейны' (Нас., Юрч. НВС), *няпеўны, ніпéўны* 'няякасны (пра расліны і насенне); слабасільны (пра дзіця)' (Мат. Гом.), *ніпеўны* 'кволы, хвараваты, слабы; нядобры, няўдалы' (магіл., Нар. словатв.; глус., парыц., Янк. Мат.). Як і літаратурная *няпэ́ўны* 'нявызначаны, неакрэслены, ненадзейны' (ТСБМ), ад *пэ́ўны* (гл.). Фантастычна Фёдарава (Вопросы диалектологии и истории языка. Душанбе, 1984, 91) — з комі *нюп* 'пакаты, нізкі (пра плечы)', *нюпусьны* 'спасці (пра бакі), падвесці (жывот)'.

**Нярáд** *(нерядъ)* 'беспарадак; нязгода', дэрываты — *нярáдна, нярáднасць, нярáдны* (Нас.). Вытворнае ад *рад* (<**rędъ*) (гл.), магчыма, праславянскага паходжання, параўн. рус. (смал., перм.) *неря́д* 'беспарадак', польск. *nierząd* 'беспарадак, анархія; бяспраўе; распуста', чэш. *neřád* 'смецце, дрэнь', в.-луж. *njerjad* 'тс', н.-луж. *njeřěd* 'тс', славен. *nered* 'беспарадак, разладжанне', серб.-харв. *нѐрêд* 'тс', макед. *неред* 'тс', балг. *нерéд* 'тс' (**ne-rędъ?*, параўн. Махэк₂, 396; Шустар-Шэўц, 14, 1014).

**Нярáха** 'неахайны чалавек' (астрав., ул. інф.), *нерáха* 'няўклюда, неахайны чалавек' (Ян., ТС), *нірáха, нірэ́ха* 'неахайны чалавек' (Сл. ПЗБ), а таксама *нярáхлівы, нірáхлівы* 'неахайны' (Сл. ЦРБ, Сл. ПЗБ), *нерахавáты* 'неахайны, некультурны' (ТС), рус. *неря́ха* 'неахайны чалавек; няўмелы, дурны чалавек', н.-луж. *njeřěch* 'беспарадак, смецце', 'неахайны чалавек', *njeřěšny* 'бесталковы; нячысты'. Лічыцца вытворным ад прасл. дыял. **rěchъ,* экспрэсіўнага ўтварэння ад **rędъ* (гл. *рад*), параўн. н.-луж. *rěch* 'парадак; чысціня', рус. *ря́ха* 'франціха', *ря́хаться* 'выстройвацца, прыбірацца', *нарядный* 'прыбраны' і пад. (Шустар-Шэўц, 14, 1014; Фасмер, 3, 66). Дапушчэнне балтыйскага паходжання (Смулкова, Лекс. балтызмы, 39) не мае падстаў, гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 146. Значэнне 'няўклюда' можа быць звязана з *рáхацца* 'поркацца' (ТС).

***Няродня**, *нырíдня* 'падчарыца' (брэсц., Нар. лекс.). Да *рóдны, радня́* (гл.), параўн. ст.-рус. *несын* 'пасынак, народны сын', *недочка* 'падчарыца'.

***Нярóзнак**, *нырóзнак* 'нязд атны чалавек' (Сл. Брэс.). Відаць, да *знак, знаць* (гл.), параўн. укр. *нерóззнака* 'недасведчаны, нязнайка', польск. *nierozeznany* 'недасведчаны, не-

паінфармаваны' і пад. Сюды ж, відаць, і ганчарны тэрмін *нэрóзнак* 'сярэдні гаршчок' (Вярэн.), г. зн. 'нявызначаных памераў (паміж вялікім і малым)'. Параўн. таксама *няўрознак* (гл.).

**Нярóт** 'нерат, верша' (Сл. ПЗБ, Янк. 1, Мат. Гом.), *нерóта* 'тс' (ТС). Гл. *нерат*.

**Нярши́ць** 'нераставаць' (Крыв.). Відаць, вытворнае ад прасл. **nerьchъ* 'нераст', параўн. рус. *нёрс* 'тс', *нёршиться* 'нераставаць', н.-луж. *nerk* 'нераст' і пад. (Шустар-Шэўц, 13, 996). Лаўчутэ выказвае меркаванне пра запазычанне з літ. *neršti, neršiù* 'нераставаць' (Проблемы этнич. истории балтов. Тез. конф. Рига, 1985, 184), што цяжка давесці перш за ўсё па лінгвагеаграфічных прычынах. Гл. *нéраст, нераставаць, нерх*.

**Нярэ́па** 'гультай' (Сцяшк. Сл.). Запазычана з літ. *nerẽpa* 'абжора'.

**Нярэ́шка** 'прылада для лоўлі рыбы': *Йак л'ешчы н'ерэсц'ацца, стаўл'айуц' н'ерэшкі* (Куч.), *нярэ́жка* 'рыбалоўная снасць (сеткавы мяшок, прымацаваны да двух шастоў), лавілі там, дзе нераставала рыба' (Помнікі гіст. і культ. Беларусі, 1974, 4, 55). Відаць, з *+нерест-ка* з ад'ідэацыяй да *мярэ́жка, мярэжа* (гл.).

***Нясе,** *нысэ́* 'быццам', *нэсéбе* 'як бы, быццам' (Сл. Брэс.). З *+не-се*, дзе *се* ўзыходзіць да дэйктычнай часціцы **se* з асноўным значэннем 'бач' (ESSJ SG, 2, 595), гл. *се*; у *+не-се-б(е)* апошняя частка з *бо*, параўн. *сыба* 'няўжо' (Сл. Брэс.), укр. *себто* 'менавіта' (<*се-бо-то*) і інш.

**Нясклёпа** 'няўмелая асоба' (Юрч., НВС), *нясклёпістый* 'непаваротлівы' (полац., Нар. лекс.), *нясклёпісты* 'няскладны, нязграбны' (Крыў. Дзіс.). Няясна, магчыма, ад *кляпáць* (гл.), *клёпка* (гл.).

**Нясла́ва** 'ганьба, абясслаўленне' (Нас.; мін., Шн. 2), *нíслава* 'тс' (Федар.), укр. *неслава*, польск. *niesława* 'тс'. Арэальны наватвор, гл. *слава*.

**Нястáча** 'недахоп, адсутнасць чаго-небудзь' (ТСБМ), *нястáтак (нестатокъ)* 'тс' (Нас., Сл. ПЗБ), *нестáтачны (нестаточный)* 'недастатковы; нязбыўны' (Нас.). Да *стачыць* 'быць дастатковым', *статак* (гл.).

**Нястóчнік** *(несточникъ)* 'не майстар, няўмелы' (Нас.). Паводле Насовіча (там жа), звязана з рус. *точь-в-точь;* гл. *стóчнік*.

**Нястрáўнасць** 'дрэннае страваванне' (Гарэц., ТСБМ, Сл. ПЗБ), *нестраўнось* 'тс' (Мядзв.), *нястроўнасць* 'тс' (Сл. ЦРБ). Да *стрáва, страўнасць* (гл.); магчыма, запазычана з польск. *niestrawność* 'тс'.

**Нестрóпцяо** 'няўмека' (клец., Нар. лекс.). Да *троп* (гл.), параўн. *збіцца з тропу* 'памыліцца', *biaz rostrapu й hałavie* 'неразбітны' (Варл.).

**Нясты́днік** 'сараматнік' (чэрв., Нар. лекс.). Відаць, са спалучэння *не стыдна* 'не сорамна'; *не* ў гэтым выпадку можа быць субстытутам прыстаўкі *бяс-*, параўн. *нясты́жы (нестыжій)* 'бессаромны' (Нас.).



**Нясцí** 'несці' (Сл. ПЗБ), *несцí* 'тс' (ТС). Гл. *нéсці*.

***Нятó,** *нетó* 'не толькі, не столькі': *У печóры нето ракі, і язі седзяць* (ТС), 'не тое, што': *uchapiŭ sztych da nietò paszoŭ, da pròsta pabièh* (Пятк. 2), параўн. мар.-славац. *ne to,* славац. *nie to* 'не гаворачы ўжо; не тое, каб', рус. *не то* 'хаця б', *не то что* 'тс', серб.-харв. *нетоль* 'тс'. З *не* і *то* (гл.).

**Нятóтуды** 'куды там': *Нетóтуды! и в тэй бок не глядиць* (Нас.). Сюды ж *нітóтуды* 'ніяк' (Нас.). З *+не-то-туды*, гл. *нято, туды*. Параўн., аднак, польск. **nie-to-tu* 'няпраўда'. Пра мяркуемае польск. **nie-to-tu* гл. Атрэмбскі (SOr, 13, 21—25), ESSJ SG, 2, 490.

**Нятóўпіцца** 'не змяшчацца': *Як падзялілі бацькаву палоску, дык і барана нятоўпіцца* (лаг., Сл. бел. нар. фраз.), Гл. рэдкае *тóўпіцца*.

**Нятры́м** *(нетрúмъ)* 'не руш': *Не тримъ мойго;* 'хай, няхай': *Не тримъ говóриць* (Нас.). Паводле Насовіча (там жа), ад *трымаць* (гл.).

**Нятýбіц** 'пералёт мнагалісты, Anthyllis polyphylla W. et K.' (гродз., Кіс.). Відаць, аднаго паходжання з *нітýбіч* (гл.); магчыма, «зашыфраваная» назва тыпу польск. *toieść* 'Ninceto-xicum', *toieść wielki* 'Lysimachia': *не-ту-быць?*, параўн. *тубылец* і пад. Будзішэўска (SOr, 39, 3—4, 273) ідэнтыфікуе з *nietupicz* 'тс' (Федар.), які, паводле Федароўскага, асвячаюць на спаса і «ў час навальніцы кідаюць у спецыяльна распалены агонь» з мэтай засцерагчыся ад маланкі, што дае падставы выводзіць з *не тупаць* 'не стукаць (пра пярун)' альбо са спалучэння **не ту(т) біць* 'не сюды біць' (засцерагальная формула). Гл. наступае слова.

**Нятýпнік** 'старасцень вясенні, Senetio vernalis W. et K.' (віц., Кіс.), *nietupnik* 'тс' (гродз., Ажэшка). Ад *тупаць, тýптаць* 'таптацца, хадзіць'? Магчыма, 'расліна, якая не мнецца', гл. іншыя назвы — *несмяртэльнік, сухавея*. Фармальнае падабенства да папярэдняга слова, гл. *нятубіц* (іншая назва — *бяссмертнік*), дазваляе выдзеліць элемент *туб-*, няяснага паходжання, прадстаўлены і ў *тубачнік* 'крапінец чубаты' (Сл. ПЗБ). Паводле Будзішэўскай (SOr, 39, 3—4, 273), таго ж паходжання, што і *нятубіц* (гл.).

**Нятýскны** 'нябляклы, яркі' (А. Салавей). Да *туск* 'туман, цемра', параўн. чэш. *netusk* 'расходнік', ням. *Immergrün* 'тс' ('заўсёды зялёны').

**Няўвошта**: *Хлапец няўвошта ўкрасіў* (Энеіда навыварат). Гл. *нявошта*.

**Няўгáдніна** *(нейгадніна)* 'нешта недарэчнае' (свісл., Сл.

ПЗБ), сюды ж *неўгаднік* 'абманшчык' (там жа), *нывгадь* 'немаведама' (Сл. Брэс.). Да *ўгадаць, гадаць* (гл.).

**Няўгó** *(неўгó)* 'няўжо; хіба' (Нас.), 'няўжо' (Бяльк.), *няўгó-ш* 'вядома, безумоўна' (Воўк-Лев., Татарк.), *неўгэ́* 'няўжо' (ТС). Паводле Карскага (2—3, 83), таго ж паходжання, што і рус. *неужели* 'няўжо', дзе *-го* непалатальны варыянт да **že*, гл. *ж, жа* (ESSJ SG, 1, 335). Меркаванне пра запазычанне з літ. *niaugù* 'няўжо' (Грынавяцкене — Мацкевіч, Baltistica, III (1) Priedas, 1989, 72) спрэчнае, паколькі чаргаванне *-go/-že* вядома шмат якім славянскім мовам (ESSJ SG, 1, 310), параўн. таксама *ўгэ/ужэ* 'ужо' (ТС); пад балтыйскім уплывам магла адбыцца манафтангізацыя спалучэння *-яў->-я-*, гл. *нягó* 'няўжо'. Параўн. *няўжó* (гл.).

**Няўгóйны** 'няўцешны' (Сцяшк. Сл.). Да *гаіць* (гл.).

**Няўдóба** 'участак, непрыгодны для апрацоўкі' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл., Шатал., Сл. ЦРБ, Мат. Маг., Мат. Гом.), *няўдоб, няўдобшчына, няўдóбішча* 'тс' (Сцяшк.), *няўдóбіца* 'тс' (Сл. ПЗБ, Сл. ЦРБ, Яўс.), *няўдобніца, няўдобшчына* 'тс' (Сл. ЦРБ), *няўдобія* 'тс' (Сл. ПЗБ), *няўдобства* 'тс' (Мат. Гом.). Да *удоба, даба* (гл.).

**Няўжó** *(не ўжо, неўжо)* 'няўжо, хіба' (Нас., Мядзв., Гарэц., Яруш., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), *неўжэ́* 'тс' (Пятк., ТС, Ян.), сюды ж *няўжó ж (не ўжо-жъ)* 'хіба, няўжо; а як жа' (Нас.), *няўжож* 'няўжо' (Яруш.), *неўжож* 'тс' (Мядзв.), *неўжэ ж* 'няўжо; так, ага, а як жа' (ТС), *нывжэж* 'а як жа' (брэсц., Нар. лекс.), укр. *невже* 'няўжо', рус. дыял. *невжо, неуж* 'тс'. З *не* і *ўжо* (**(j)uže*), параўн. рус. *уж не плачет ли он?* (ESSJ SG, 2, 473; Фасмер, 3, 69). Параўн. *няўго, няго* (гл.).

***Няўзгóда,** *неўзгóда* 'няшчасце, непрыемнае здарэнне' (ТС), рус. *невзгода* 'тс'. Ад незафіксаванага $^+$*узгóда,* параўн. рус. дыял. *взгода* 'міласць, мір' (да *год,* гл.), у беларускай мове звычайна *згода* 'тс'. Па лінгвагеаграфічных прычынах малаверагодна запазычанне з рускай мовы.

**Няўздóлець** 'хварэць; быць не ў стане, не змагчы' (Гарэц., Сержп., Шат., Касп., Сл. ПЗБ), *няўздóліць* 'быць нездаровым' (Грыг., Нас.), *неўздалéць* 'хварэць, быць не ў стане' (Нас.), сюды ж *неўздалéка, неўздаля́ка* 'слабасільны' (Касп., Панюціч, Лексіка, 82), *няўздóлы* 'фізічна слабы, нядужы' (Панюціч, там жа). Да рэдкага *ўздóлець* 'змагчы, быць у сілах' (Нас.). З прэфіксам *уз- (*vъz-)*, часцей выступае варыянт *здóлець* (гл.), параўн. *нездалéка* (гл.).

**Няўзнáкі** 'непрыкметна' (Сцяшк.), *неўзнакí* 'тс' (Варл.), *няўзнáч* 'часам; ціха, непрыкметна; няўцям', *няўзнáчку* 'непрыкметна' (Нас.), *неўзнацéйку* 'нечакана' (Касп.). Да *знак, знаць* (гл.).

**Няўзóра** *(неўзора)* 'нелюдзь', *неўзóрысты* 'нелюдзімы'



(Ян.), *няўзоркі (невзоркій)* 'які мае суровы погляд; слепаваты; неадукаваны', *няўзорысты (невзористый)* 'змрочны; непрыгожы', *няўзорыца (невзорица)* 'чалавек з непрыемным поглядам' (Нас.). Да *ўзірацца, зóрыць* (гл.), параўн. *нéўзгляд* 'пануры чалавек, які не глядзіць у вочы' (ТС).

**Ня́ўкаць** 'мяўкаць' (Сл. ПЗБ; пін., Шатал.; Мат. Маг.); укр. *ня́вкати* 'мяўкаць; крычаць (пра саву)', рус. *ня́вкать, ня́вгать* 'мяўкаць; плакаць, хныкаць', славен. *njâvkati* 'мяўкаць', серб.-харв. *њаўкати, крњаўкати* 'тс'. Гукапераймальнае, роднаснае літ. *niaũkti, kniaũkti* 'тс'. Выходнае *няў* разглядаецца як даўні дублет *мяў* (Бязлай, 2, 225), гл. *мяўкаць, курмяўкаць* (апошняе беспадстаўна разглядаецца як балтызм, параўн. прыведзеную вышэй паўднёваславянскую паралель), *ня́ўчыць*.

**Няўклю́да**, *няўхлю́да* 'няўдалы чалавек' (Сл. ПЗБ), *нéўклюдзь* 'недарэка' (слаўг., Нар. словатв.), *няўклю́дны* 'непрыгожы, непрывабны' (Яўс.), *неўклюдны* 'няскладны, няспрытны' (ТС), *няўклюдня* 'мізэрнасць, непрывабнасць, няўтульнасць' (Яўс.), рус. *неуклю́д* 'няскладны, няспрытны чалавек', *неуклюдный, неуклюжий* 'непаваротлівы'. Да прасл. **kl'udъ*, прэфіксальныя ўтварэнні прадстаўлены ў рус. *уклюжий* 'лоўкі, спрытны', чэш. *ukliditi* 'давесці да ладу' і пад. Паводле Трубачова (Эт. сл., 10, 55), застаюцца нявысветленымі суадносіны форм **kl'udъ, *skl'ud-, *xl'ud-*, параўн. *схлюдны* (гл.). Не адпавядае рэчаіснасці таксама сцверджанне (там жа) аб адсутнасці адпаведных формаў у паўднёваславянскіх мовах, параўн. балг. дыял. *неоклюжав* 'нялоўкі' (р-н г. Трын), якое Добраў (Старинни бълг. думи. София, 1987, 86) суадносіць з рус. *неуклюжий* 'тс'. Гл. таксама Кузняцова, РР, 1977, 2, 82—86; Фасмер, 3, 69. Ці не паўплывала на семантыку беларускага слова літ. *kliūdýti* 'чапляць за што-небудзь, перашкаджаць', а таксама 'пападаць' (параўн. *неўпапад* 'не дарэчы')?

**Няўкóм** *(невкомъ)* 'быццам, хіба ж' (Нас.), 'нездарма; няўжо' (Касп.), 'знячэўку, знянацку' (Мат. Маг.), *ня-ў-ком жа* 'аднак жа не, чаму ж не' (Гарэц.), рус. смал. *невкóм* 'аднак'. Паралельнае да *няўчом* (гл.) займеннікавае ўтварэнне ад *хто* (гл.); праблему складае высвятленне шляхоў семантычнага развіцця.

**Няўлóмак** 'здаровы чалавек, здаравяк' (Сл. ЦРБ, Сцяшк. Сл., Юрч. НВС), 'здаровы чалавек, які прыкідваецца слабым' (Сцяшк.), 'чалавек, які можа што-небудзь зрабіць, але не хоча' (Нар. сл.), польск. *nieułomek* 'чалавек без фізічных недахопаў, моцны, вялікі, вялізны'. Магчыма, ад прыметніка *няўломкій* 'няздольны прывучыцца да працы', што ў сваю чаргу ад *уламáць* 'прывучаць', параўн.: *Скоціна неуломкая, ни якъ уломаць не можно въ сосе* (Нас.); другасна зблíжаная да *улóмак (уломокъ)* 'абломак' (Нас.), што звязана з *улóманый*

'зламаны', *уло́мный* 'здольны прывучыцца да працы; які мае фізічны недахоп'; параўн. укр. *уломок* 'абломак, кавалак; слабы, хваравіты чалавек'.

**Няўлю́дны,** *неўлюдны* 'нелюдзімы' (Ян.), *няўлюддзе (неўлюдзьдзя, невлюддзе)* 'нелюдзь, нікчэмнасць' (Юрч. НВС, Нас., Бяльк.), *не́ўледдзе* 'нелюдзім' (Сл. ПЗБ), мае паралелі ў іншых славянскіх мовах: чэш. *nevlídný* 'няветлы', славен. *nevljuden* 'тс', серб.-харв. *неўљудан* 'тс'. Да *улюдны* 'прыстойны, варты' (ТС), *улю́ддзе (влюддзе)* 'чалавек, чалавечына' (Нас.) і пад., усё да *люд* (гл.); славянскія паралелі маюць, відаць, самастойнае паходжанне, параўн. серб.-харв. *ўљудан* 'ветлівы', *уљу́дити се* 'стаць ветлівым, набыць прыстойнасць' і пад.

**Няўмы́сля** *(невмы́сля, няўмысьля)* 'незнарок' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Юрч. НВС), *няўмыслі* 'тс' (Грыг., Бяльк.), *няўмы́сня* 'тс' (Сцяшк. Сл.). Паводле Шубы (Прыслоўе, 115), у выніку адпадзення прыстаўкі з *ненаўмысля* 'тс', гл. *наўмысля.*

**Няўпа́мкі** *(піейратkі)* 'не ў памяці, неўздагад' (Пятк. 2), *неўпамяткі* 'тс' (ТС). Да *па́мяць* (гл.), *-кі* можа разглядацца як прыслоўны суфікс, які можа далучацца непасрэдна да кораня (Карскі, 2—3, 69).

**Няўра́тны** *(неўра́тны)* 'несумленны, бессаромны' (ТС). Няясна, магчыма, да *рата* 'умоўная сума, плата; чарговая павіннасць' (гл.); можа быць супастаўлена з *розвора́тны* 'бязладны' (ТС), што, відаць, ад ц.-слав. *розвратити* 'разбэсціць'.

**Няўро́кам**: *nie uròkam albo nie ŭròkam kàżuczy* (Пятк. 2), *не урокам сказаць* (Нас.), *няўрокам сказана* (полац., Нар. лекс.) — гаворыцца, калі што-небудзь хваляць; сюды ж таксама *няўрошны: каб коройки моло́шны, а тиляти няўрошны* (Рам.) — якога цяжка ўракці; параўн. славац. *neúrekom* 'каб не зракці', *neúročnу* 'прыгожы, здаровы, добра выглядаючы', укр. *невро́чливий, неврі́кливий* 'які не хварэе ад урокаў', рус. *неуро́чливый* 'тс'. Да *урок, урокі* (гл.); паводле Махэка$_2$ (397), існавала вера, што дрэнныя людзі, калдуны, маглі нашкодзіць, хвалячы.

**Няўро́ма** 'неахайны чалавек' (Сцяшк. Сл., Юрч. НВС). Няясна.

**Няўро́чны** *(няурочный)* 'незвычайны' (Яруш.). Гл. *уро́чны,* сярод значэнняў якога 'схільны да ўрокаў' (гл. *няўрокам)* і 'пэўны, дамоўлены, вызначаны' (гл. *рэкнуць, рэкці).*

**Няўру́чна** 'нязручна' (віц., Нар. лекс.), *няўру́чный* 'нязручны' (бешанк., Нар. сл.), параўн. рус. *неуручно, неуручный* 'тс'. Да *рука́,* параўн. *нязручна* (гл.).

**Няўры́мст** *(піŭrymst)* 'нецярплівы' (Арх. Федар.), *няўрымста, няўры́мсцік* 'тс' (Янк. 3, Сл. ЦРБ). *няўры́мсьлівы* 'неспакойны, настойлівы' (парыц., Янк. Мат.), *няўры́мсціць* 'не ўцярпець' (Грыг.). Да *ўры́мсціць* (гл.).



**Няўстро́паць** *(неўстропаць)* 'не ўгледзець, не заўважыць'. Гл. *устропаць.*

**Няўстру́й** 'непаседлівы, нецерпялівы, няўрымслівы чалавек' (міёр., З нар. сл.; Сл. ПЗБ; Сл. ЦРБ), 'весялун', *няўстру́йны* 'неспакойны' (Сцяшк. Сл.), параўн. укр. *невструйливий, невстрійливий* 'непаседлівы, гарэзны', рус. *неустро́йный, неустро́ица* 'неспакойны, буйны чалавек' (арх., СРНГ). Няясна; магчыма, звязана з лат. *stràjuš* 'хуткі, імклівы', літ. *sraũjas* 'тс', гл. *струмень. Не-(ня-)* у гэтым выпадку мае ўзмацняльны характар.

**Няўсці́вы** 'бессаромны' (Ян.). Няясна. Сапсаванае *няўчці́вы* (гл. *учці́вы)?*

**Няўта́рты** 'не вельмі кемлівы, не вельмі здольны' (Марц.). Відаць, запазычана з польск. *nieutarty* 'неабцёрты, дзікі, нястрыманы' (што да *trzeć* 'церці').

**Няўце́йкам** *(невце́йком)* 'нечакана; ненарокам' (Нас.), 'ненарошна, выпадкова' (Грыг.). Ад *няўце́іць* 'не паспяваць' (Нас.), паводле Насовіча (там жа), ад «неўжывальн. *це́іць* 'чакаць, мець надзею', што выступае толькі ў саставе складаных дзеясловаў». Гл. *зацей.*

**Няўця́м** *(ніўцям)* 'незразумела, не ў галаве' (Сл. ПЗБ, КСП), *неўцямкі́* 'тс' (ТС), сюды ж *няўцямна* 'бессэнсоўна' (Сцяшк. Сл.), *неўпрыцям (не въ прицямъ)* 'незаўважальна; не прыпамінаецца' (Нас.). Да *уця́міць, ця́міць* (гл.).

**Няўчо́м** *(не въ чомъ)* 'ах як; вось чаму; вось табе (і)' (Нас.), 'нездарма' (Баршчэўскі, Шляхціц Завальня), *неўчо́м* 'нездарма, то-та ж' (ТС), параўн. польск. *niewczym, niewczymci* 'тс'. Першаснае спалучэнне, раскрытае Насовічам, што было заменена пазней спалучэннем *у нечым* (гл. *нешта*), польск. *w nieczym* 'у чымсьці', далей 'не ўпустую', 'нездарма' (Брукнер, 362). Карскі (2—3, 453) цытуе народныя песні з формамі *учом: учо́м ты ни цвила? у чом замуж ни йшла?,* якія дэманструюць першаснае спалучэнне; у тым жа значэнні 'чаму', гл. *чом: чом ты, каваль, ни куеш* (там жа). Параўн. *няўком.*

***Няўчы́ць,** *нявчыты* 'мяўкаць' (зах.-палес., ДАБМ, к. 301). Ад мясцовага *мняўчы́ць (мнявчыты)*<*мяўчыць* 'тс', суадноснага з дзеясловам кратнага спосабу дзеяння *мня́ўкаць,* падобна да *я́ўкаць* 'тс'<*м'я́ўкаць* з мясцовай фанетыкай, гл. *мя́ўкаць* (Крывіцкі, Рэгіян. традыцыі ва ўсх.-слав. мовах, літ. і фальклоры. Тэз. дакл. II Рэсп. канф. Гомель, 1980, 24). Параўн., аднак, і *ня́ўкаті* 'тс' (пін., Шатал.), укр. *нявча́ти* 'мяўкаць', *ня́вкати* 'мяўкаць; крычаць (пра саву)' і пад. Гукаперайманні, для якіх характэрна значная гукавая варыянтнасць у розных мовах, параўн. укр. *няв* 'мяў', балг. *джаф* 'гаў' і пад.

**Няха́й** *(нĕха́й)* 'хай; насмешлівая назва таго, хто любіць адкладваць справу ці выконвае яе нестаранна' (Нас.), *няхай, нехай, ніхай, нэхай* 'хай' (Гарэц., Грыг., Булг., Бяльк., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *нехай* 'тс' (1342 г.), укр. *нехай* 'тс', рус. *нехай* 'тс', польск *niechaj*, часцей *niech* 'тс', чэш., славац. дыял. *nech* 'тс' і 'каб', в.-, н.-луж. *njech* 'хай', славен. *naj* (<*nehaj*) 'тс', серб.-харв. *не хај* (для выражэння забароны, гл. Івіч, Радови Научног Друштва Босне и Херцеговине, књ. Х. Оделење ист.-филол. наука, 4. Сараево, 1958, 28), макед. *нека* 'хай', балг. *нека* 'тс'. Беларускае слова лічыцца запазычаннем з польскай (Кюнэ, Poln., 81; Мова бел. пісьм., 227), што, аднак, пры шырокім распаўсюджанні ў слав. мовах здаецца праблематычным. Карскі (2—3, 85, 96) лічыў бел. *няхай, хай* формамі загаднага ладу ад *хаяць* (гл.), гл. таксама дзеяслоў з адмоўем *няхаць, няхаіць* 'адкладваць справу з-за гультайства ці нядбальства' (Нас.). Падобным чынам выводзяцца адпаведныя формы і ў іншых слав. мовах (Фасмер, 3, 70; Махэк$_2$, 394; Бязлай, 1, 190; Шустар-Шэўц, 13, 1010 і інш.). Адносна гісторыі беларускага слова гл. таксама Карскі, 2—3, 269, 378.

**Ня́хацца** *(няхацьца)* 'нянчыцца, займацца чым-небудзь дзеля забавы; мець любоўныя дачыненні', *ня́ханне* 'забава з чым-небудзь; маруднае выкананне чаго-небудзь' (Нас.). Відаць, «спешчаная» форма ад *ня́нчыцца* (гл.).

**Ня́хаць** 'бегаць у пошуках спажывы'. Няясна; магчыма, звязана з *я́хаць (яхыць)* 'брахаць (пра сабаку, які праследуе здабычу)', гл. Параўн. таксама *нах-нах!* 'падзыўныя воклічы для сабакі' (мсцісл., З нар. сл.), якое разглядаецца як фанетычнае перайманне голасу сабакі, што праследуе звера (Гура, Этнолингвистика текста. Семиотика малых форм фольклора, I. Тез. и предв. мат-лы к симп. М., 1988, 107); у такім выпадку змякчэнне можа мець экспрэсіўны характар, параўн. *ня-ня* 'тс' (гл.), рус. *нех-нех* 'словы, якімі падклікаюць сабак'.

**Няха́ць,** *няхаіць* 'адкладваць справу з-за гультайства ці нядбальства' (Нас.), укр. *нехáти* 'не рухаць', *нехáяти* 'не дбаць; ігнараваць што-небудзь', рус. *нехáти* 'пакідаць, пушчаць', польск. *niechać* 'дапускаць, дазваляць; не рухаць, пакідаць у спакоі, не звяртаць увагі', чэш. *nechati* 'тс', славац. *nechat'* 'тс', в.-луж. *njechać*, н.-луж. *njechaś* 'не цікавіцца, не мець жадання', палаб. *nechat* 'пушчаць', славен. *nêhati* 'перастаць, пусціць', серб.-харв. *не хȁјати* 'не звяртаць увагі, не клапаціцца', балг. *нехая* 'не турбавацца, не клапаціцца'. Прасл. **nechajati/*nechati*, утворанае ад **chajati/*chati*, этымалагічна не зусім яснага, параўн. Бязлай, 1, 190; Шустар-Шэўц, 13, 1010; Фасмер, 3, 70; Махэк$_2$, 394. Параўн. *хаяць* (гл.).

**Няхві́ля** 'бура, навальніца': *«Поднялась да лихая нехвиля, човнокъ да затопила»* (слуц., Шн. 3), *няхвáля* 'навальніца' (Марц.). Да *хвіля* 'бура' (гл.), *не* тут мае ўзмацняльны характар; форма з *-а-* пад уплывам *хвáля* (гл.) ці *навáла* 'навальніца'. Іншаславянскія паралелі: чэш. *nechvile* 'непагода', славен. *neurje* 'непагода, бура, навальніца' (ад *ura* 'час'); параўн. таксама ням. *Wetter* 'пагода' і 'бура, навальніца', *Unwetter* 'бура, навальніца' і пад.



***Няхлю́жы,** *ныхлюжый* 'дрэнны, кепскі' (брэсц., Нар. лекс.), *ніўхалюжый* 'няўклюйны, нехлямяжы' (Бяльк.). Гл. *няўклюда;* чаргаванне *-к-/-х-* можа мець экспрэсіўны характар, параўн. *нях́люда* 'няўклюда' (Сцяшк. Сл.), формы з дадатковай вакалізацыяй, магчыма, пад уплывам *халь* 'дрэнь'.

**Няхлю́й,** *няхлюя* 'неахайны, нехлямяжы чалавек' (Нас., Гарэц., Бяльк., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ДСП, слуц., Жыв. сл.), 'непаваротлівы' (Грыг.), *нехлюй, нехлю́я* 'неакуратны чалавек' (ТС), *нэхлюя, ныхлюя* 'неахайная жанчына' (брэсц., Нар. лекс.), сюды ж *няўхлюй, няўхлюя* 'неахайны чалавек' (Бяльк., Мат. Гом.), укр. *нехлю́я* 'тс', рус. дан. *нехлю́й* 'непаваротлівы чалавек', польск. *niechluj*, *niechluja* 'неахайны чалавек'. Відаць, ад *няхлюйны* 'неахайны, неакуратны', паралельнага да *няхлюдны* 'тс' (Сцяш. Сл.), параўн. таксама польск. *niechlujny* 'тс'<<**niechludźny*, ад *chlud* (Варш. сл., 3, 263), гл. *схлюдны*, што, магчыма, сведчыць пра запазычанне (Кюнэ, Poln., 81). Характэрна наяўнасць паралельных форм з *-к-*: *няўклюй* 'неахайны, непаваротлівы чалавек' (астрав., ул. інф.), *няўклюйны* 'неахайны' (там жа), што могуць разглядацца як вытворныя ад **klud* (гл. *няўклюда*). Няясныя адносіны да ст.-чэш. *nechla* 'пачвара' (Гебаўэр, Sl. stč.).

**Няхо́та** 'неахвота, нежаданне' (Жд. 2, Яўс., Юрч., Мат. Гом.). Ад *не хацець* (гл.), параўн. *няхоццю* 'без ахвоты' (Юрч. НВС).

**Няхо́ха** *(нехоха)* 'чалавек, абыякавы да ўсяго' (Ян.). Няясна, магчыма, экспрэсіўнае ўтварэнне ад *не хацець*, параўн. ілюстрацыю да слова: *«Ён у нас нехоха такі, не хоча нічога делаць»* (там жа); паралель: *дáха* 'тое, што дае': *Бацькова рука не браха, а даха* (ТС, пад *рука*).

**Няхэ́цкі** 'неблагі, нядрэнны' (смарг., Нар. словатв.). Гл. *хвэцкі* 'спрытны, харошы'.

**Няцёса** 'нявет лівы, недалікатны чалавек' (Грыг.). З *не* і *цясаць* (гл.), параўн. рус. *неотёсанный* 'грубы, некультурны'.

***Няце́ча,** *нытэча* 'густыя зараслі ў лесе, нетры' (Клім.), параўн. укр. *нéтеч, нетéча* 'стаячая вада, балота', польск. *niecięcz, niecięcza* 'тс', серб.-харв. *нѐтека* 'тс'. Паводле Талстога (Геогр., 181), з *ne-tek-ja*, гл. *цячы*.

**Ня́цца** 'узяцца, схапіцца; пачаць засвойваць' (Гарэц.), *няцьца* 'стукнуцца; узяцца, схапіцца; набрацца розуму, зразумець, ахапіць розумам' (Нас.), *нятысь* 'тс', *нялося* 'дасталася' (Булг.). Гл. *няць*.

**Няць** 'браць; узяць, схапіць; верыць; зразумець, навучыцца, засвоіць' (Гарэц.), 'стукнуць; крануць' (Нас.), 'узяць (з намаганнем)' (Яруш.), 'браць' (Сержп.), 'есці' (полац., Нар. лекс.). Да прасл. **jęti*, гл. *яць, узяць; н-* мае прыставачны характар, параўн. таксама прыставачнае *и-* у ст.-бел. *инялъ, не инѧли* (XVI ст.)=ст.-слав. **ѩлъ** (Карскі, 1, 264; 325), паходзіць ад некаторых прыназоўнікаў (**vъn-, *sъń-* і пад., Фасмер, 3, 95).

***Нячві́да,** *нечві́да* 'непрыгожая жанчына або дзяўчына' (ТС), *нычвэ́да* 'нікчэмнасць' (Клім.), сюды ж *нечві́дны* 'непрыгожы' (ТС), укр. *нічви́дний* 'тс'. Магчыма, зыходную форму дэманструе *нічуві́дны* 'неверагодны, нечуваны, рэдкі' (Крыў. Дзіс.), што ўзыходзіць да *чуць, чуваць* (гл.); відаць, не звязана з *чві́дкі* 'шустры, бойкі' (ТС), што ўзыходзяць да *швыдкі* (гл.).

**Нячуйве́цер** 'цмен пясчаны, Helichrysum arenarium (L.)' (гродз., Кіс.), *нічу́йвецер* 'старасцень вясенні, Senecio vernalis W. et K.' (брэсц., Федар.), параўн. укр. *нечуй-вітер* 'расліны Hieratium Filosella, Bellis perennis і інш.'. Магчыма, табуізаваная назва («каб яе вецер не пачуў?»), што выклікана лекавымі ўласцівасцямі раслін, параўн. польск. *powietrzne ziele* (ад *powietrze* 'паветра; пошасць'), паралельнае да *suchotne ziele* 'гарлянка'. Аднак не выключана, што тут маюцца на ўвазе некаторыя фізічныя ўласцівасці раслін, параўн. *чуй-вецер* 'цмен' (валож., ТЗб. "84), *узвей-ве́цер (взвѣй-вѣцеръ)* 'ветрагон' (Нас.), *сухавейка* 'цмен' (гродз. Кіс.) і пад. Гл. *чуць, вецер;* параўн. *нічавей* (гл.).

**Нячы́віль** 'напасць, нечаканая бяда' (Нас.) 'напасць; стан раздражнення' (міёр., Нар. сл.), *не́чывіль* 'нечаканасць' (Касп.), у спалучэнні з *нячы́вілі* 'ад нечаканасці' (Нас. Сб.), *зьнячывілі* 'у непрытомнасці, не памятаючы' (Бяльк.), параўн. укр. *нечéвля, нечéв'я* 'нішто; нікчэмнасць', рус. *нечи́вель* 'непрытомнасць, беспамяцтва'. Паводле Мяркулавай (Этимология-77, 91), прасл. дыял. **nečevelь<*čevelь* 'прытомнасць, памяць', што ад **čьvati, čujǫ*, паралельнае да *čuti, čujǫ,* гл. *чуць*; мяркуецца, што зыходны дзеяслоў захаваўся ў *чо́віць* 'рус. бдеть' (<*čevěti* або **čeviti*), гл. Не мае падстаў этымалогія Насовіча (<«не чья воля», гл. Нас. 338).

**Нячы́м** 'ніж, чым': *Лепш жонка першая, нячым тая другая* (Рам.), укр. *нічи́м* 'нічога, не бяда', рус. *нечем (не чем)*. З *не* і *чым* (параўнальны злучнік); паводле Булахоўскага (Курс, 11, 340), *не* ўказвае на адмоўнасць таго, што ўтрымліваецца ў другім члене параўнання, што дэманструе і бел. дыял. *бяжыт скарей, чем не конь.* Паводле Карскага (2—3, 491), з *ніж* (гл.) і *чым (неж-чым* «нежели чим»), што пацвярджаецца цытатай з пісьма Пушкіна: *Вам обязан я больше нежели чем жизнью* (Булахоўскі, Рус. яз. XIX в., 407). Козыраў



(Семант. яз. единиц, 67) не выключае абодвух шляхоў развіцця.

**Нячы́сцік** 'чорт, злы дух' (Гарэц., Мядзв., БелСЭ), 'стрыманае найменне чорта; зневажальная назва нехрысціян' (Нік., Оч.), *нечысцік* 'д'ябал' (ТС). Ад табуізаванай назвы *нячы́сты* 'нячысты дух, чорт'<'злы, разбэшчаны; несумленны' (Нас.), параўн. *не́чысць* 'нечысць, погань, навала' (ТС).

***Нячэ́ўны,** *нечэ́ўны* 'нікуды не варты, заняпалы' (ТС). Магчыма, звязана з *нячы́віль* (гл.), што дае падставы для рэканструкцыі дыял. **ne-čevenъ*, гл. *чо́віць*.

**Ня́шы** 'каромысел' (Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (LKK, 22, 193), з літ. *nẽšiai* 'тс'.

# О

**О́бат** (**вобат*) 'вобад' (Воўк.-Лев., Татарк.) да *вобад* (гл.).

**О́бель** *(*вобель)* 'зусім, цалкам' (Горб.) ад **воб-вель* да *вялікі* (гл.), як *вобмаль* (гл. *малы.*).

**О́бліг** 'пісьмовая абавязацельства, вексель' (Нас.). Ст.-бел. *обликгъ, облигъ* 'тс' з польск. *oblig* (Булыка, Запазыч., 220).

**О́бнаж** (**вобнаж*) 'узятак на лапках пчалы' (Нар. сл.). Прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне ад *нага: *об-ног-ь*, як *вобач* (гл.) 'у баку'<**об-бок-ь*.

**О́б'ядзь** (**воб'ядзь*) 'плюшнік' (Сл. ПЗБ). Магчыма, народна-этымалагічнае тлумачэнне супадае тут (figura etymologica) з навуковым. Пар. *«Об'ядзь была міз дарогу, каровы аб'ядаліся»* (Сл. ПЗБ, 3, 254). Да *аб-есці*, гл. *абед*.

**О́глух** *(воглух)* 'дурань' (Шпіл.) да *глухі* (гл.). Значэнні 'глухі', 'дурны' звязаны паміж сабой (параўн. роднаснае літ. *glũšas* 'глухі' і 'дурны' (Атрэмбскі, LP, 1, 131; LP, 7, 313). Фармальна да **o-gluš-iti* або з *ŭ*-пратэзай і ўстаўным *о* (Мартынаў, Этимология-1984, 129—130). Гл. *ёлуп*.

**Ого́**, *огого́* 'выказ здзіўлення' (выклічнік) (ТСБМ, Нас., Бяльк., Янк.). Укр. *ого, огого,* рус. *ого, огого.* Паралелі з іншых славянскіх моў ненадзейныя (пар. Слаўскі, 1, 23). Згодна з Праабражэнскім, 2, да *а-а.* Рудніцкі, які прыводзіць у якасці паралеляў ст.-грэч. і літ. *aá*, тлумачыць усходнеславянскія словы як такія, што ўзніклі ў выніку падаўжэння *а* з прыдыханнем інтэрвакальнай пазіцыі, параўноўвае іх з *егé, ігí, угу́* (пар. ESSJ SG, 2, 41).

**О́дум** (**водум*) 'задуменне' (ТСБМ, Нас., Сцяшк.) да *адумацца* 'надумацца, прыйсці да думкі' (ТС, 248). Гл. *дума.*

**О́йдзе ọ** 'тут' (Бір.) да *óдзе* 'тс' (Сцяшк. МГ)<**от-дзе*

'вось дзе'. Нерэгулярны пераход тыпу *айчына*<ст.-бел. *отчина*. Гл. *от*.

**Окліна** 'глыбокае месца на балоце' (Сл. Брэс.). Параўн. рус. смал. *óклины* 'багна на месцы былых азёр' (Мат. СОС). Перыферыйны характар гэтага слова для асноўнай беларускай тэрыторыі сведчыць аб яго старажытнасці: *óкліна*<**óкніна (вóкніна)* у выніку дысіміляцыі *н-н*>*л-н*. У сваю чаргу **óкніна (вокніна)* утворана ад *акно*, як *зыбіна* ад *зыб* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 42, дзе *зыбіна* — аддзеяслоўнае ўтварэнне). Гл. *акнó₂* 'глыбокае месца ў балотных крыніцах і азёрах' і *вокнішча* 'акно ў балоце'.

**Окрент** 'карабель', ст.-бел. *окрутъ, окрентъ* 'тс', запазычана з польск. *okręt* (Булыка, Запазыч., 225).

**Он** 'вунь' (Ян., ТС, Кліх). Гл. *вонь*.

**Онде**, *онди* 'вунь' (Ян., Сл. Брэс., Ник., Нар. лекс.). Гл. *он* і *дзе*.

**Опера** 'твор, пры пастаноўцы якога выканаўцы спяваюць у суправаджэнні аркестра' (ТСБМ). З рус. *опера*, якое з іт. *opera* (Фасмер, 3, 144; КЭСРЯ, 310).

**Опій**, *óпіум* (ТСБМ) 'высушаны млечны сок з няспелых галовак маку' (ТСБМ). Запазычана з рус. *опиум*, якое з ням. *Opium* (XVI ст.) (Фасмер, 3, 144). Згодна з КЭСРЯ, 310, рус. *опиум* з лац. *opium* (XIX ст.).

**Оптам** 'вялікай колькасцю' (ТСБМ). Параўн. *«оптам і ў розніцу»*. Запазычана з рус. *оптом*, якое з **обьт*. Форма *оптам* адлюстроўвае творны склон (Фасмер, 3, 147; КЭСРЯ, 311), **обьт* — дало рус. -ц.-слав. *общий*.

**Оптыка** — 'раздзел фізікі, які вывучае святло, яго законы, уласцівасці' (ТСБМ). Запазычана з рус. *оптика*, якое праз ням. *Optik* (XVII ст.) з лац. *optica* (Фасмер, 3, 147). Іншае тлумачэнне гл. КЭСРЯ, 311. Рус. *оптика* запазычана з франц. *optique* (XVIII ст.), але ў гэтым выпадку мы б чакалі націск на перадапошнім складзе (**оптúка*) і, магчыма, іншую марфалогію.

**Ораб**, *орап* (**вораб*, **ворап*) 'рабіна' (Жыв. сл.). Да *рабіна* (гл.). Словаўтваральная структура тлумачыцца тым, што галіны рабіны пакрыты ягадамі, нібы чырвоным снегам. Параўн. *вокідзь, окідзь* — пра снег на галінах. Тады *óраб (вораб)* да **o-ręb-ь*<*rębiti*<*rębъ* Гл. *рабы*, ад якога паходзіць і *рабіна*.

**Орган** 'частка расліннага ці жывёльнага арганізма, якая выконвае пэўную функцыю' (ТСБМ). Запазычана праз рус. *орган* з польск. *organ* (адпавядае месца націску) (Фасмер, 3, 149). Менш верагодна запазычанне рус. *орган* са ст.-слав. **органъ** (КЭСРЯ, 312).

**Оргія** 'разгульнае, разбэшчанае баляванне' (ТСБМ). Запазычана з рус. *оргия*, якое праз ням. *Orgie* (XVII ст.) з лац. *orgia* (Фасмер, 3, 149).



**Ордэн** 'знак узнагароды, арганізацыя з пэўным статутам' (ТСБМ). З рус. *орден*, якое з ням. *Orden* (XVIII ст.) (Фасмер, 3, 150; КЭСРЯ, 313).

**Ордэр** 'пісьмовае распараджэнне на атрыманне чаго-небудзь' (ТСБМ). Праз рус. *ордер* з ням. *Order* або непасрэдна з франц. *ordre* (Фасмер, 3, 150), рус. *ордер* з франц. *ordre* (XVIII ст.) (КЭСРЯ, 313).

**Оступам** 'цесна абступіўшы, вакол' (ТСБМ). Да *о-ступ*> *абступіць* (параўн. *воступ*).

**Осхлы** 'сухарлявы, худы' (Бяльк.), 'высахшы' (Нас., Яруш.)<польск. *oschły*.

**От**, *отó* 'вось' (ТСБМ, Касп., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ, Жд., Янк. 2, Янк. Мат., Ян., Кліх). Укр. *от, ото*, рус. *от, ото, вот*, серб.-харв. *ото*, чэш. *oto*, польск. *oto*, што сведчыць аб праславянскім характары слова. Адпаведна толькі ўсходнеславянскія паралелі з пратэтычным *в-*: бел. *авот* (Бяльк.), рус. *вот*. Паводле Фасмера (1, 358), выходзіць да спалучэння выклічніка *о* (аблаутнае, да *е*) з займеннікам *to(d)*. Адсюль роднаснасць *otъ, oto* з *eto* (гл. *гэты*). ESSJ, SG, 2, 551 супраць, паколькі ўтварэнні з *е-* маладзей. Параўн. іншыя, яшчэ больш неверагодныя гіпотэзы: Фартунатаў, ASlPh, 12, 97 (з і.-е. **ho*>лац. *hoc*), Зубаты, LF, 36, 338 (з *ovo+to*).

**Отхлань** 'супакаенне душы на тым свеце, чысцец' (Нас., Багд., Федар. 1). Параўн. *вотхлань* (гл.) 'чысцец' (Шэйн. 2). Значэнне 'чысцец' не зусім дакладнае. Федароўскі (1, 221) дае для гэтага слова наступны кантэкст: *«У ночы між Усіх святых а Задушным днём, душы змарлые з неба, з пекла, з атлхлані і з чысьца прыходзяць да дому»*, з якога відаць, што *отхлань* і *чысцец* — розныя сферы таго свету. Насуперак Булыку (Запазыч., 232) нічога агульнага з польск. *otchłań* 'бездань' не мае. Аб гэтым сведчаць іншыя значэнні гэтага слова і ў першую чаргу 'адпачынак, перапынак' (Нас.). Параўн. *без атхлані* 'без перапынку' (Нас., Яруш.). *Не даваць атхлану* 'адбывацца бесперапынна'. Звязана па паходжанню з *адхлан* (гл.) 'адпачынак, перапынак' (Нас., ТС), 'прахалода, халадок' (Нас.). Магчыма, што ў ТС (3, 290) прадстаўлена таксама гэта другое значэнне: *не даваць атхлану* 'не даваць прахалоды'. Параўн. адзіны кантэкст: *«Дождж не дае нам атхлану»*. Тады ўся гэта група слоў да **ад-халод-нь*/**ад-халод-н*. Параўн. *халонна* 'холадна', *халонны* 'халодны' (Бяльк., 470), гл. *халонцаь*.

**Ох** — выкл. Укр. *ох*, рус. *ох*, гл. *вох*.

**Охра** 'фарба жоўтага або чырвонага колеру' (ТСБМ). Гл. *вохра*.

**Ошуст** 'ашуканец' (Нас., Бяльк., Сл. ПЗБ, Федар. 1, Нар. лекс.), Ст.-бел. *ошустъ* 'тс'. Гл. *вошуст*.

# П

**Па₁** — прыіменная прыстаўка. Вытворныя з гэтай прыстаўкай маюць значэнне 'прадмет, падобны да таго, што названа ўтваральным словам, але які не з'яўляецца ім у поўнай меры' (Сцяцко, Белар. словаўтв., 227), параўн. *пазаранак, павека, пасын* і г. д. У канфіксальных утварэннях магчымы і іншыя значэнні: 'месца, прастора, дзе было тое, што названа ўтваральным словам', 'меншая мера праяўлення з'яў, якія названы ва ўтваральным слове' і г. д. (гл. Сцяцко, там жа, 241 і наст.). Агульнаслав., параўн. рус., укр. *па-*, ст.-слав. **ца-**, польск., чэш., славац. *pa-*, серб.-харв. *пā-* і г. д. (гл. Мейе, Études, 161). Прасл. *pa-*; у дзеясловах ёй адпаведнае *po-*, суадносна як і *pra-*: *pro-*, *paz-*: *poz-*. Аналагічная дваістасць у балт. мовах: літ. *po-* (у імёнах), *pa-* (у дзеясловах), ст.-прус. *pa: pa;* у авесц. *pa: pa* (гл. Траўтман, 203; Фасмер, 3, 181; ESSJ, I, 160 і наст.). Параўноўваецца са ст.-прус. *pa: pa* 'под, пасля, суадносна', літ. *po* 'пасля, под', авесц. *pa-, pa-* і г. д. (Траўтман, BSW, 203; Фасмер, 3, 181; у Фасмера гл. і інш. літ-ру).

**Па₂** (прасл. *po, pa-*). Прыназоўнік і прыстаўка. Агульнаславянскае, параўн. рус. *по*, польск. *po*, балг. *по* і г. д. Іншая ступень вакалізму прыстаўкі: *pa-* — у імёнах. Адпаведнікі ў іншых і.-е. мовах: літ. *pa-*, іменны прэфікс *pó-*, лат. *pa*, ст.-прус. *pa-, po-*, лац. *po-* ў *positus* 'які пастаўлены', *pōnō* 'стаўлю, кладу', алб. *pa* 'без, зноў', хец. *pē* 'туды' (Траўтман, 203; Мюленбах — Эндзелін, 3, 1), грэч. *ἀπό* 'ад', ст.-інд. *ápa* 'прэч'. З прычыны поліфункцыянальнасці і вялікага семантычнага аб'ёму слав. *po* ўзводзіцца часткова і да і.-е. **pos*, якое прадстаўлена ў літ. *pas* 'пры, у', *pāstaras* 'апошні', ст.-інд. *pacca* 'ззаду, следам, пазней', лац. *post* 'потым' (Мейе, Études, 155; Уленбек, 167). Гл. таксама Фасмер, 3, 292 і наст.; ESSJ, I, 178 і наст.

**Па₃** 'асобная фігура ў танцы' (ТСБМ). З франц. *pas* 'крок', відавочна, праз рус. *па* 'тс' (Параўн. Крукоўскі, Уплыў, 84).

***Паакром:** *поокром* 'асобна' (Д.—З. П. П., 191). Гл. *кром₂*.

**Паашставаць** 'патрапацца (аб валакне ільну)' (Шн. 2, полацк.). Да *ашустаць* (гл.) са стратай *у* ў выніку моцнай рэдукцыі.



**Пабабіцца** 'зморшчыцца (пра скуру)' (Сл. ПЗБ). Укр. *побабсти* 'зрабіцца жанчынападобным; зморшчыцца'. Гл. *бабець*.

**Пабадзяй** 'бадзяка, гультай' (КЭС, лаг.). Ад *пабадзяцца*<*бадзяцца* (гл.) з суф. *-ajь*. Адносна суфіксацыі параўн. *гультай*.

**Пабаешка** 'біта для гульні ў гарадкі' (Сцяшк. Сл.), 'шляга з тоўстым канцом, пры дапамозе якой колюць дровы' (Шатал.), *пабавешка, пабаешка* 'доўбня, юрок; някемлівы чалавек' (Сл. ПЗБ), *пабавешка* 'палка з тоўстым канцом, якую ўжываюць у якасці малатка' (Інстр. II), *пабойня* 'тс' (Шатал., Сл. ПЗБ). Ад *пабіць*<*біць* (гл.) з рэгулярнымі суфіксамі *-ешка, -ня* і аблаўтам у корані (параўн. *бой*). Адносна суфіксацыі параўн. Сцяцко, Словаўтв., 40, 153.

**Пабеда** 'перамога' (Яруш.), *пабедны* 'няшчасны, пакрыўджаны' (Нас.). Рус. *победа*, ст.-рус. *побѣда*, ст.-слав. **побѣда, побѣдный** 'пераможны', 'няшчасны'. Да *бяда, бедны* (гл.) (Фасмер, 3, 293).

**Пабел** 'белая паліва ўнутры чыгунка' (КЭС, лаг.). Аддзеясловае ўтварэнне ад *пабяліць*<*бяліць*. У семантычных адносінах параўн. укр. *побілка* 'паліва з белай гліны на фаянсавым посудзе'.

**Пабірацца** 'прасіць міласціну, жабраваць' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Рус. *побираться* 'тс'. Ітэратыўная прыставачная форма да *браць* (гл.). У бел. мове, мяркуючы па крыніцах, магчыма пранікненне з рус. тэрыторыі, дзе яно выглядае як семантычная інавацыя.

**Паблажка** 'нястрогія, паблажлівыя адносіны да каго-н.' (ТСБМ). З рус. *поблажка*, дзе дэрыват ад *паблажаць* 'паблажліва, нястрога адносіцца да каго-н.'

**Паблажлівы** 'нястрогі, непатрабавальны, мяккі, велікадушны' (ТСБМ). Запазычанне з польск. *pobłażliwy* 'тс'. Далей гл. *благаць, благі*.

**Паблэнтацца** 'лежачы, перабіраць нагамі (пра дзіця)' (Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка параўноўваюць з польск. *poplątać się* 'паплесціся'. Але для тлумачэння *-б-* трэба, відавочна, прыняць кантамінацыю з бел. *блытаць*.

**Пабожны** 'багабаязны, міласэрны' (Нас.), 'памяркоўны, невялікі ў сэнсе цяжкасці' (Бяльк.), *пабожнасць* 'набажнасць' (Нас., Гарэц.). Запазычанне з польск. *pobożny, pobożność*, аб чым сведчыць націск.

**Пабоіска** 'месца бойкі, пабоішча' (Сцяшк. Сл.). Ст.-бел. *побоиско*. З польск. *poboisko* 'тс' (Булыка, Запазыч., 246).

**Пабораць** 'зборшчык падаткаў' (Нас., Др., Гарэц.), *паборца* 'тс' (Нас.). Ст.-бел. *поборца* 'тс' з польск. *poborca* 'тс' (Булыка, Запазыч., 247). Форма *пабораць* марфалагічна набліжана да ўсходнеслав. утварэнняў на *-ьсь*.

**Паборнік** 'заўзяты прыхільнік, абаронца каго-, чаго-н.' (ТСБМ). Рус. *побо́рник,* ст.-рус. *побо́рник* (XII ст.), серб.-харв. *побо́рник* 'тс'. Да *бароцца* (гл.). У бел. мове можа быць новым кніжным запазычаннем з рус.

**Пабо́чына** 'бакавіна, бок пры разбіранні тушы' (Бяльк., Нар. лекс.), 'абочына' (Сл. ПЗБ), *пабо́чыны, пабо́цні* 'драўляныя брускі на ручках воза' (Дэмб. II, 417), *пабо́цні* 'ручкі ў вузгалоўі воза' (Сл. ПЗБ). Прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне ад *бок* (гл.). Адпаведнікі ў іншых слав. мовах: рус. *побо́чина* ў розных значэннях, у тым ліку паўн. 'бакавіна ў саней, прадольны верхні брус, абшыўка калёс, дошкі', серб.-харв. *побо́чина* 'мяса паміж рэбрамі і бядром', укр. *побо́чина* 'бакавая сцяна' і г. д. *Ц* у *пабоцні* ў выніку цокання; адносна змешвання *ц* і *ч* у слаўгарадскіх гаворках, гл. Яшкін, Узаемадзеянне, 151 і наст. Параўн. яшчэ Філін (Происх., 261) аб наяўнасці цокання ў заходніх раёнах Бранскай вобласці.

**Пабраці́м** 'той, хто звязаны з кім-н. пабрацімствам, названы брат' (ТСБМ, Нас., Гарэц., КЭС, лаг.). Рус., укр. *побрати́м,* польск. *pobracim,* чэш., славац. *pobratim* (з паўдн.-слав. моў.— Махэк, 64), балг. *побра́тим,* серб.-харв. *по̀братим,* славен. *pobrâtim.* Паводле Далабко (ZfSlPh, 3, 111), дэрыват ад *pobratiti*; параўн. серб.-харв. *по̀братити* 'зрабіць пабрацімам, братам', славен. *brátiti se, brâtim se* (гл. *брат*). У рус. усх. дыял. *побрати́м* яшчэ 'стрыечны брат', пск. *побрати́м, побрати́шка* 'палюбоўнік, палюбоўніца'. Гл. таксама Фасмер, 3, 293.

**Пабры́дзіень** 'гультай, пустаход, які цягаецца па свеце' (КЭС, лаг.). Відавочна, утварэнне ад дзеяслова **пабрадзіць*<*брадзіць* (гл.) з суф. *-ень* і пераходам *а*>*ы* ў пераднаціскным складзе або пад уплывам *брысці* (гл.).

**Пабудова** 'дзеянне паводле знач. дзеяслова *пабудаваць*; сістэма думак, разважанняў; тое, што пабудавана' (ТСБМ), 'любое збудаванне' (Інстр. 1). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *пабудаваць*<*будаваць* (гл.).

**Пабу́нька** 'падліпала' (Гар., Яруш.). Няяснае слова. У іншых славянскіх мовах можна параўнаць з рус. дыял. (раз., тамб.) *бу́ня* 'ганарлівы, фанабэрысты чалавек', чэш. дыял. мар. *buňa* 'прыдуркаваты нікчэмны чалавек'. Апошнія — аддзеяслоўныя ўтварэнні ад прасл. *buněti* (гл. *бунаваць*). Падрабязна аб гэтай групе слоў гл. ЭССЯ, 3, 95 і наст.

**Пабэ́рляць** 'пад'есці' (Сцяшк. Сл.), 'узараць' (Жд. 2). Няясна. Магчыма, звязана з *барляць* 'пераліваць, узбоўтваць, працаваць без толку' (гл.) і далей з *бурліць, бурыць.*

**Пабяля́нне** 'палуда чыгуннага посуду' (Шат.). З польск. *pobielanie* 'тс'.

**Па́ва** 'самка паўліна' (ТСБМ, ТС, КЭС лаг.). Рус. *па́ва* 'тс', *пав* 'паўлін', укр. *па́ва,* чэш., славац. *pav,* польск., в.-і н.-луж. *paw.* Ст.-бел. *павъ* (са ст.-польск. *pawv* — Булыка, Запазыч., 234; ён жа, Лекс. запазыч., 145). У слав. мовы запазычана з лац. *pavo* 'паўлін' праз ст.-в.-ням. *pfawo* 'тс' (Фасмер 3, 181). *Па́ва* — карэлятыўная форма жаночага роду да *паў.*



**Пава́га** 'пачуццё пачцівасці да каго-, чаго-н., выкліканае прызнаннем высокіх якасцей, заслуг, важнасці і г. д.' (ТСБМ, Нас., Касп.). Ст.-бел. *павага* (1528 г.). З польск. *powaga* 'павага, паважнасць' (Булыка, Лекс. запазыч., 186). Таксама *паважа́ць* (ТСБМ, Касп., Шат.)<польск. *poważać* 'тс'. Як мяркуюць Фасмер (4, 144), Махэк (674), уся група з коранем *-ваг-* ва ўсх.-слав. з польск., дзе звязана з нов.-в.-ням. *Wage* 'вага' (гл. яшчэ Брукнер, 598).

**Павады́** 'сцяблы і лісце агуркоў' (БДА, 863). Гл. *повад.*

**Павады́р** 'той, хто водзіць каго-н.' (ТСБМ, Нас., Гар., Касп., Шат., Янк. 2, Грыг., Мядз., Сцяшк.), *паво́дыр* (Бяльк.). Усходнеслав.: рус. *пово́дырь,* укр. *пово́дарь, пово́дирь* 'тс'. Ад *povoditi*<*voditi* (гл. *вадзіць*) з суф. *-yr*'; праславянская мадэль (SP, 2, 28).

**Паважа́ты** 'выконваючы пасаду фурмана ў вясельным поездзе; сваяк нявесты' (Нас.) Гл. *важа́ты.*

**Пава́жыцца** 'пасмець, асмеліцца' (ТСБМ). Запазычанне з польск. *poważyć się* 'тс'. Гл. таксама *адвага, павага.*

**Пава́л**₁ 'дзеянне паводле значэння дзеяслова *паваліць*; тое, што павалена; павалены лес, буралом' (ТСБМ, Яруш., Касп.), *пава́ла* (Шат.), *пава́лка* 'тс' (Мат. Гом.). Гл. *валіць.*

**Пава́л**₂ 'столь' (Сцяшк. Сл., Шатал.), 'гара на хаце' (Шатал.), *пава́ла* 'столь' (Тарн.), *пова́л* 'тс' (Шушк., ДАБМ, 116). Запазычанне з польск. *powała* 'столь з бярвення', на што паказвае геаграфія слова. Муж. род, відавочна, пад уплывам *павал*₁. Польск. слова ад прасл. *valiti* (параўн. Брукнер, 599; Махэк, 676).

**Пава́л**₃ 'эпідэмія, мор' (Сцяшк.). З рус. *пова́л* 'эпідэмія, чума, мор' (ср. *повальная болезнь*). Далей да *вал, валіць.*

**Паваложжа** 'зграя' (Сл. ПЗБ, раг.). Дэрыват ад *паваліць* 'ісці, быць у вялікай колькасці'<*валіць* з суф. *-ога* (адносна словаўтварэння параўн. SP, I, 67)+суф. зборнасці *-je.*

**Павало́ка**₁ 'лёгкая дымка, якая зацягвае, пакрывае што-н.; плёнка на вачах; памутненне' (ТСБМ, Нас.), *па́валака* 'плёнка (на вадзе)' (Нас., Касп.), 'пакрывала, прасціна', 'валакно ад льна або пянькі' (Нас.). Рус. *павало́ка* 'каштоўная заморская баваўняная або шаўковая тканіна, пакрывала, накідка', дыял. *поволо́ка* 'верх, покрыўка кажуха', укр. *поволо́ка* 'рамні, шнуркі на абутку; след ад валачэння нечага', ст.-рус. *паволока* 'від каштоўнай тканіны', серб.-ц.-слав. *павлака,* польск. *powłoka* 'пакрыўка', чэш. *pavlaka* 'каштоўная

пурпуровая тканіна', серб.-харв. *па̏влака, по̏влака* 'смятанка, пенкі'. Ад *валачы́* (гл.). Прэфіксы *ро-* і *ра-* (з падаўжэннем) (гл. Фасмер 3, 182; Махэк, 439).

**Павало́ка₂** 'прымак' (Мат. Гом.). Да *валачыць, валачыцца,* параўн. і *валачуга* (гл.).

**Павало́чка** 'кажух, пакрыты сукном, шуба' (Бяльк., Сцяшк. Сл.). Рус. арх., наўг., перм. *поволо́ка* 'верх, пакрышка кажуха', цвяр. *поволо́чня, поволо́чная шуба* 'жаночы кажух, які пакрыты халстом'. Ад *павалачыць*<*валачыць* (гл.).

**Павалочча** 'валока, мера зямлі каля 18 дзесяцін' (Бяльк., Інстр. III). Прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне ад *валока₁* (гл.).

**Пава́луш** 'столь' (Тарн.), 'скляпеністая столь, якая больш сустракаецца ў клецях і істопках' (Бломк, 79). Бясспрэчна, дэрыват ад *павал* 'столь', аднак суфіксацыя няясная, паколькі з гэтым суф. у бел. м. вядомы ўтварэнні толькі ад прыметнікаў і дзеясловаў (параўн. Сцяцко, Словаўтв., 72, 125). Магчыма, запазычанне з літ. *pavalušis* 'навес над свірнам, клеццю', якое ўтворана ад запазычанага з польск. *pavalas* 'столь' з дапамогай суф. *-ušis* (Фрэнкель, 555).

**Пава́ра** 'прылада гнуць драўляныя абручы' (КЭС, лаг.). Слова тлумачыць цяжка з-за адсутнасці ўяўлення аб рэаліі і параўнаўчага матэрыялу. Магчыма, мае нейкую сувязь з літ. тэхн. тэрмінам *pavarà* 'перадача, прывод'.

**Паварза́** 'паціху' (Сцяшк. Сл.). Цёмнае слова. Магчыма, дэрыват ад дзеяслова **паварзаць*, да якога можна як паралелі прывесці *варзекаць* (гл.), а таксама смал. *варзо́пать* 'пэцкаць; марудна рабіць нешта', *варзо́паться* 'пэцкацца; марудзіцца з выкананнем якой-н. працы'. Далейшыя сувязі гл. пад *варзекаць*.

**Паваро́зка** 'цясёмка, шнур' (Пал.), *па́вороз* 'пацёк (поту, расы на вокнах і інш.)' (Нар. лекс., лельч.). Гл. *паўроз*.

**Паведамле́нне** 'дзеянне паводле дзеясл. *паведамляць — паведаміць*; тое, аб чым паведамляюць; дакумент, які ўтрымлівае звесткі аб чым.-н.' (ТСБМ). Дэрыват ад *паведаміць* (гл. *ведаць*); апошняе калькіруе польск. *powiadamiać* (Гіст. лекс., 256).

**Паведэ́нцыя** 'паводзіны; абыходжанне, ветлівасць; звычай, завядзенне' (Нас.). Рус. пск. асташк. *поведе́нция*; у Гогаля *поведенц*; у рус. пераўтварэнне ў мове семінарыстаў слова *поведение* паводле аналогіі з лац. *benevolentia, diligentia* і інш. (гл. Фасмер 3, 293; там жа і інш. літ-ра). У бел. м. з рус. (Гіст. лекс., 249).

**Паве́ка** 'рухомая складка скуры, якая прыкрывае вока' (ТСБМ, Бяльк., Янк. 2, Яруш.), *паве́йка* 'тс' (КЭС, лаг.). Укр. *паві́ко, павіча́йка*, польск. *powieko* 'тс'. З прэф. *па-* ад *века* (гл.). Улічваючы старажытнасць гэтага спосабу слова-



ўтварэння, мабыць, магчыма рэканструяваць прасл. *po-věko* (параўн. Краўчук, ЭСБМ, 2, 81), але як дыялектызм. Варыянт *паве́йка* пад уплывам *вейкі* (гл.).

**Паве́р** 'крэдыт' (Нас., Гарэц., Яруш., Др.-Падб.). Ад *паверыць*<*верыць* (гл.). Уласна белар. У слоўніку Даля рус. *пове́р* адзначаецца як заходняе. Шырокае бытаванне набыло ў пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 240).

**Паве́раны** 'асоба, якая мае правы дзейнічаць ад імя якой-н. асобы або ўстановы ў афіцыйным парадку' (ТСБМ, Др.-Падб.). З рус. *пове́ренный* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 71).

**Паве́рх** 'частка будынка, у якой памяшканні знаходзяцца на адным узроўні; рад прадметаў над другім' (ТСБМ, Гарэц.). Паводле Крамко (Гіст. лекс., 255), у бел. м. нават вор пач. XX ст. Гл. *верх*.

**Паве́сма** 'звязка чэсанага льну ад 10 да 12 жменяў' (Нас., Маш.; КЭС, лаг.); у іншых крыніцах колькасць жменяў можа быць большай або меншай (Шат., Бяльк., Касп., Мядзв.), *паве́сьма* (Нар. сл., Мат. Гом.), *повы́смо* (Шатал., Сл. ПЗБ), *пови́смо* (Гарб., Выг.), *пові́сма* (Сл. ПЗБ), *пове́сна* (Жд. 2), *паве́сло* (Мат. Гом.). *повіесмо* 'пража на калаўроце' (Бес.). Рус. *паве́с(ь)мо* 'пучок пражы ў сорак нітак', чэш. *pověsmo* '10 жменяў ільну', славац. *pov esmo*,'пучок ільну або каноплі', н.-луж. *powězmo* 'тс', балг. *повесмо́* 'звязка, вяроўка, канат', славен. *povésmo* 'скручаны пучок для пражы', серб.-ц.-слав. *повѣсмо*. Паводле Міклашыча (392), ад *па-* і *весіць*, тады прасл. *pověsmo*. Аналагічна Трубачоў (Ремесл. терм., 102). Махэк (476) узнаўляе прасл. *po-věz-ьmo* ад *vęzati* (гл. *вязаць*), але гэта версія не ўлічвае вакалізм слова.

**Паве́стка** 'афіцыйнае пісьмовае паведамленне з выклікам куды-н.; кола пытанняў, якія павінны быць абмеркаваны на сходзе, пасяджэнні' (ТСБМ, Бяльк., Яруш., Сл ПЗБ). Запазычанне з рус. *пове́стка* 'тс', якое ад *повестить* 'паведаміць'.

**Паве́т** 'адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў дарэвалюцыйнай Расіі' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Касп.). Ст.-бел. *поветъ, повятъ* (1507 г.) з польск. *powiat* (Булыка, Запазыч., 247). Польск. слова звязана з *вітаць* (гл.) (Фасмер, 3, 293).

**Паве́тра** 'сумесь газаў, галоўным чынам азоту і кіслароду, якія акружаюць зямлю і складаюць яе атмасферу; свабодная прастора над зямлёй' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ), *пове́трэ* 'паветра; пошасць' (ТС). З польск. *powietrze* 'тс'. У значэнні 'пошасць', відавочна, з рус. *пове́трие* 'пошасць'. Параўн. наступнае.

**Паве́трая** 'мор, пошасць' (Шат.), *паве́трыя* 'непрыемнасць, бяда; дрэнная пагода' (Бяльк.), 'пошасць' (Касп.), *паве́траная* 'згубная моц пошасці' (Нас.). Рус. *пове́трие*; укр. *порі́тра* 'тс'. Да *вецер* (гл.). З прычыны марфалагічнай тоеснасці з

рус. словам у бел. можа быць і пранікненне з рус. тэрыторыі, параўн. і геаграфію слова.

**Паве́ць**, *паве́тка* 'пляцоўка пад страхой на слупах, прызначаная для хавання чаго-н. ад дажджу, непагоды; памяшканне, дзе звычайна складаюць дровы, дрывотнік' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат., Касп., КЭС, лаг., Сцяшк.), *пове́ць* (ТС), *паве́тка* (Сл. ПЗБ). Рус. дыял. *пове́ть* 'страха, навес, хлеў, адрына', укр. *пові́тка* 'хлеў, навес'. Паводле Міклашыча (387), ад *веяць*. Больш пераканаўчай здаецца версія Машынскага (JP, 37, 1957, 297) аб роднаснасці са слав. *jata* (падрабязна гл. аб гэтым *вятка, ятка*$_2$) і рэканструкцыя гэтага слова як *po-(v)ětь* (Гл. яшчэ Фасмер, 3, 293 і наст.). Мартынаў (Лекс. Палесся, 11) крыніцай лексемы лічыць усх.-балт. **pa-vietas*, якое суадносіцца з літ. *vietà* 'месца' (усх.-літ. *vietà* 'хаваць').

**Павіва́льніца** 'павітуха (пустазелле)' (Сцяшк. Сл.). Ад *павівальны*<*павіць* з суф. *-іца*. Адносна суф. параўн. *павіліца*.

**Паві́дла** 'густая салодкая маса з працёртых ягад або фруктаў, звараная з цукрам' (ТСБМ). Рус. *пови́дло*, укр. *пови́дло*, польск. *powidło*, чэш. *povidla*. Адзначана яшчэ ў ст.-чэш. і, на думку Махэка, можа быць даволі старажытным. Брукнер (433) лічыць роднасным слав. *viti* (гл. *віць*), г. зн. *po-vi-dlo*. Інакш Махэк (476), які параўноўвае са ст.-інд. *pavitra*, лац. *pūrus* 'чысты'. Ва ўсходнеслав. запазычанне з польск. (Трубачоў, гл. Фасмер, 3, 294), мяркуючы па суфіксацыі.

**Паві́длівы** 'зайздросны' (Касп., Сл. ПЗБ). Да *віdзець*; Лаўчутэ (Балтызмы, 70) разглядае як запазычанне з літ. *pavydus* 'тс', якое славянізавалася пад уплывам рус. *зави́стливый*. Але, улічваючы бел. *завідлівы, павідлівы*, відавочна, трэба дэфініраваць як марфалагічную кальку літ. слова. З іншай суфіксацыяй *паві́дны* 'тс' (Сл. ПЗБ).

**Паvілі́ца** 'павітуха (пустазелле)' (Касп., Бяльк., Шатал., Мат. Гом.). Рус. смал., вят. *повили́ца*, курс., арл. *повили́ка*. Рэгулярны дэрыват ад дзеепрыметніка *павілы*<*павіць*. Адносна суфіксацыі параўн. Мяркулава, Очерки, 107 і наст., дзе яна вызначае суф. *-ица* ў назвах гэтых раслін як характэрны для паўн. часткі ўсходнеслав. тэрыторый. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 181.

**Павільён** 'невялікі лёгкі будынак у людным месцы' (ТСБМ), *павілён* 'заслона, полаг' (Касп.), *павілёны* 'шырма' (Сл. ПЗБ). З рус. *павильо́н* 'тс', дзе з франц. *pavillon* або з ням. *Pavillon* ад лац. *papilio* 'матыль, а таксама падобны на матыля забаўны шацёр' (Фасмер, 3, 182). Дыял. формы запазычаны з польск. *pawilon* 'балдахін; від полага над ложкам' (Сл. ПЗБ).

***Павіндава́цца**, *повындова́тысь* 'скрывіцца, нагнуцца' (Клім.). Дэрыват на аснове запазычанага ням. *winden* 'круціць, вярцець, падымаць цяжар'. Можна было б дапусціць пасрэдніцтва польск. *windować*, але яго значэнне 'падымаць цяжар, цягнуць уверх' далёка ад бел. Параўн. яшчэ *вінда*.



**Паві́нен** 'абавязаны, вымушаны што-н. рабіць або мець якую-н. якасць' (ТСБМ, Нас., Шат.). Запазычанне з польск. *powinien*, якое далей да *vina* (Кюнэ, Poln., 87).

**Паві́нкі** *мн.* 'капуста, квашаная палавінкамі' (Мат. Гом.). Не зусім ясна. У словаўтваральных адносінах — аддзеяслоўнае суфіксальнае ўтварэнне; у такім выпадку ад **павінуць* (гл. *вінуць*)<*viti*; г. зн. звітыя часткі капусты ў працілегласць насечаным. Не выключана, аднак, што слова з'яўляецца і вынікам нерэгулярных дыялектных фанетычных працэсаў: моцнай рэдукцыі галоснага і асіміляцыі зычных: *палавінкі*<*палъвінкі*>*паўвінкі*>*павінкі*.

**Павіра́ч** 'дэталь у кроснах, якой замацоўваецца палатно на навоі' (Сл. ПЗБ). Гл. *заверыч*.

**Павірго́ня** 'хатняя кветка' (Сцяшк. Сл.). Нар. пераробка сл. *пеларгонія*.

**Паві́ту́ха**$_1$ 'жанчына, якая дапамагае пры родах' (ТСБМ, Шат., Сл. Брэс.). Рус. *повиту́ха*, укр. *повиту́ха*, польск. дыял. *powitucha* 'тс'. Усходнеславянскае (польск., мабыць, з беларускай). Ад *павіць* з суф. *-ucha*. Старажытнасць словаўтварэння (параўн. SP, 1, 75) сведчыць калі не аб праславянскім, то аб дастаткова старым паходжанні слова. Параўн. таксама Фасмер, 3, 294.

**Павіту́ха**$_2$ 'пустазелле сямейства павітухавых' (ТСБМ), 'фасоля, якая ўецца' (Жд. 2). Рус. *повиту́ха* 'павітуха, бярозка'. Да *павіць*<*віць* з суф. *-уха* (гл. Мяркулава, Очерки, 107 і наст.).

**Павіту́ха**$_3$ 'вясёлка' (Сл. Брэс.). Адзінкавая рэгіянальная назва вясёлкі. Бясспрэчна, утворана ад *павіты*<*павіць* з суф. *-уха* (параўн. іншыя назвы вясёлкі: *весялуха, мец'елуха, парадуха* і г. д. — гл. Талстой, ОЛА, 974, 29 і наст.), але матывацыю назвы вызначыць цяжка. Магчыма, гэта метафара да *павітуха*$_2$, таму што *вясёлка «лезе, караскаецца па небу»*; не выключана, што семантыка гэтай лексемы асноўвалася і на ўяўленні аб нечым звітым, мнагаслойным. Аддаленай семантычнай паралеллю тут магла б служыць лексема *пояс* з рознымі вызначэннямі.

**Паві́ха** 'від асакі' (Сл. ПЗБ), *пові́ха* 'павіліца' (ТС). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад **павіхаць*<*віхаць* (гл.), 'віхляць, хістаць' і далей да *віць*. У аснове намінацыі ляжыць ўяўленне аб тонкім хісткім сцябле. Параўн яшчэ *вікла*.

**Павія́н** 'буйная малпа з падоўжанай мордай, якая жыве ў Афрыцы і Аравіі' (ТСБМ). У бел. з рус. *павиа́н* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 88), якое ў сваю чаргу праз ням. *Pavian* запазычана з гал. *baviaan* ад франц. *babouin*, першапачаткова 'дурань' (Фасмер, 3, 181).

**Паводзіны** 'спосаб жыцця; сукупнасць дзеянняў; манера трымаць сябе', 'рабіць што-н.; характар учынкаў' (ТСБМ). Уласна беларускае. Ад *паводзіць* (<*вадзіць, вясці) сябе* з суф. *-ін-ы* (Аб суф. гл. Сцяцко, Афікс. наз., 156).

**Паводка** 'часовае падняцце вады ў вадаёмах у выніку раставання снегу або вялікіх дажджоў' (ТСБМ, Шат., Сл. ПЗБ), *пáвадкі* (Нас., Гарэц., Грыг., Бяльк., Касп.), *павыдкі* (Нар. сл.), *павóддзе* 'тс' (Сцяшк., Сл.; Нар. лекс., шчуч.). Ад *по-* і *вада* з розным суфіксальным афармленнем. Аналагічна ў іншых славян: рус. *пóводь, пáводок,* польск. *powodź,* чэш. *povodeň,* серб.-харв. *пȍводањ* 'тс' (гл. Фасмер, 3, 294; Брукнер, 628; Махэк₂, 477). Сюды ж і *пáвылка* 'паводка, верхаводка' (Бяльк.), дзе *д*>*л* у выніку нерэгулярных фанетычных змяненняў.

**Павóдле** 'у адпаведнасці з чым-н., згодна з якімі-н. прыкметамі' (ТСБМ, Гарэц.), *павóдля* 'тс' (КЭС, лаг.), *павэ́дле* 'у параўнанні' (Гарэц., Сцяшк. Сл., З нар. сл., гродз., шчуч.). Гл. *водле, вэдле.*

**Павóдлуг** 'у адпаведнасці з чым-н., згодна з чым-н.' (КЭС, лаг.), *павэ́длуг* 'тс' (Яруш., ТС, Сл. ПЗБ), *павэ́длук* 'акрамя' (З нар. сл., гродз.). Гл. *вэдлуг.*

**Павой**₁ 'травяністае павойнае пустазелле сямейства бярозкавых' (ТСБМ), 'плюшч' (Яруш.), *павóі* 'дэкаратыўная расліна Ipomea (Янк. 2), *павойка* 'горац ўюнковы Poligonum bistorta L.' (Кіс., Інстр. II), *повóй, повóя* 'павой' (ТС), *павуойка* 'травы, кветкі' (Бес.), *павóйнік* 'павой' (ТСБМ), 'ламан Clematis L.' (Кіс., віц.). Да *віць* з іншай апафанічнай ступенню кораня (Гл. Фасмер, 3, 294; Мяркулава, Очерки, 108). Аналагічна ў іншых слав. мовах: рус. *повóй,* укр. *повíй,* польск. *powój* 'павіліка, уюнок'.

**Павóй**₂ 'какошнік' (КЭС, віц.). Рус. *повóй* 'павойнік, намітка'. Да *віць* з іншай апафанічнай ступенню кораня. Мяркуючы па геаграфіі, пранікненне з рус.

**Павóйнік**₁ 'жгут з тонкіх галін, накшталт перавясла, якім замацоўваюць бярвенне плыта' (ТСБМ). Да *віць.* Сюды ж *павівáнка* 'пуга, звітая з дзвюх столак і абвітая тонкай вяроўкай' (Нар. сл.).

**Павóйнік**₂ 'даўні жаночы галаўны ўбор; намітка' (ТСБМ), 'чэпчык' (Мат. Гом.). Рус. *повóйник, повóй* 'тс', серб.-харв. *пȍвōј* 'пялёнкі; спавівач'. Да *віць* з іншай ступенню агаласоўкі галосных (гл. Траўтман, 346; Фасмер, 3, 294).

**Паволі** 'няспешна, марудна; асцярожна; паступова, не адразу' (ТСБМ, Нас., Яруш., Бяльк., Шат.). З польск. *powoli* 'тс' (Кюнэ, Poln., 88). Аналагічна *павóльны* 'няспешны, паступовы; вольны' (Нас.)<польск. *powolny.*

***Павóрніца,** *повóрніца* 'хамут для пары валоў' (Маслен., Сл. Брэс.). Не зусім ясна з прычыны адсутнасці параўнаўчага матэрыялу. Можна меркаваць, што гэта дэрыват ад прасл. кораня *ver-, vor-* 'адкрываць, закрываць', таксама 'злучаць, сціскаць', (параўн. рус. *свóрка* 'павадок', чэш. *svírati* 'сціскаць'). Гл. *вор*₂, *вароты.*



**Павóры** 'пакручаны, пагнуты' (ТС). Да *вірыць* (гл.) з аблаутам у корані.

**Павýк**₁ (ТСБМ, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Бяссон., Мал., Гарэц., Яруш., Сл. ПЗБ), *паýк* 'тс' (Бір. Дыс.). Рус. *паýк,* дыял. *пáвок, пáвка,* укр. *павýк,* ст.-рус. *паукъ,* ц.-слав. *пажкъ,* польск. *pająk,* палаб. *pójąk,* славац. *pavúk,* в.-луж., чэш. *pavouk,* н.-луж. *powk,* балг. *пáяк,* серб.-харв. *пȁук,* славен. *pâjok, pâvok.* Прасл. *paǫkъ,* дзе *pa* — прыстаўка, а *ǫkъ* роднаснае грэч. ὄγκος, лац. *uncus* 'крывы гак', ст.-інд. *aṅkás* 'выгін, крук' і г. д. Такім чынам, *paǫkъ* — 'істота з закрыўленымі нагамі'. Гл. Махэк, 439; Фасмер 3, 219 (там жа і інш. літ-ра). Інакш Брукнер (350), які выводзіць з *pa-* і кораня *onk-* (параўн. літ. *ánka* 'вузел'), *enk-* (параўн. рус. *ячея, ячейка* 'вока ў сеці', бел. *вячай* (гл.). Тады семантычнай матывацыяй магло б быць 'той, хто пляце петлі, сетку'.

**Павýк**₂ 'паўлін' (Нас., Гарэц., Шат., Сцяшк.), *паýк* 'тс' (Федар. 1). Ад *пав-* (гл. *пава*) з суф. *-ук.* Форма *паук,* відавочна, у выніку змяшэння з *павук, паук* 'павук'. Параўн. яшчэ укр. *павýк, павýн, павýр* 'паўлін'.

**Павýк**₃ 'род рыбалоўнай снасці' (ТСБМ, абл.). Да *павук*₁.

**Павýта,** *паýта* 'павуцінне' (Сл. Брэс.). Адваротнае ўтварэнне ад *павуціна, павучына,* з адсячэннем суф. *-ін-.*

**Павýтка,** *павýшка* 'павіліца' (Шатал.), *паýтка, павýтка* 'тс' (Сл. Брэс.). Ад асновы *павут-* (параўн. *павута, павуцінне)* з суф. *-ка, -ушка.* Параўн. семантычна укр. *павýтица* 'тс'.

**Павуцíна** (ТСБМ, Касп., Яруш., Сл. ПЗБ, Інстр. II), *павучына* (Нас., Бяльк., Яруш., Гарэц., Сл. ПЗБ), *павуцéнне* (Гарэц., Мал.), *павучыніна* (Др.-Падб., Гарэц.), *павучэ́нне* (Яруш.), *павучынне* (Др.-Падб., Інстр. II, Сл. ПЗБ) 'тс'. Прасл. *paǫčina* <*paǫkъ.* Форма з *ч* з'яўляецца агульнаслав., параўн. рус. *павучи́на,* укр. *павучи́на,* польск. *pajęczyna,* серб.-харв. *пȁучина* і г. д. Распаўсюджаны ва ўсх.-слав. мовах варыянт з *-т-* (рус. *паути́на,* укр. *павути́на*), як мяркуюць, узнік пазней у выніку кантамінацыі ст.-рус. *паучина* з рус. дыял. *путина* 'павучына', звязанага са ст.-слав. **пѫто** (Фасмер, 3, 29). На думку Бадуэна дэ Куртэнэ (SF, 4, 52), *т* у форме *паутина* атрымалася пад уплывам слова *паук,* а Праабражэнскі (2, 28) дапускае змяшэнне з рус. *тянуть* (бел. *цягнуць*). Найбольш здавальняючым здаецца цяпер тлумачэнне Мартынава (вусн. паведамленне), што наяўнасць гэтых варыянтаў з'яўляецца вынікам змешвання ў праславянскім *k'* і *t'* у выніку моцнай

акамадацыі, асабліва паказальнай у паўночным арэале ўсх.-слав. моў (Мартынаў. Слав. акам., 62 і наст.).

**Павучóк** 'табурэтка з круглай дзіркай, каб прывучыць дзіця стаяць на нагах' (Мат. Гом.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *павучыць*<*вучыць*.

**Павялён** 'млён (палка ад жарон)' (Сл. ПЗБ). Няясна.

**Павяндлíца** 'кумпяк, шынка' (Нар. сл., дзярж.), *павяндліцы* 'паляндвіца' (Сл. ПЗБ). Метатэза з *паляндвіца*, або вынік кантамінацыі *паляндвіца* і *вяндліна*.

***Павяснéць,** *повеснéць* 'павярнуць на вясну' (ТС), *пывясніць* 'пахудаць, змарнець' (Нік. Очерки). Гл. *вяснець*.

**Павясóк** 'матузок' (З нар. сл., навагр.), З *паясок* з субстытуцыяй пратэаз, асабліва частай на тэрыторыі Гродзеншчыны. Аб мене і аглютынацыі пратэаз гл. яшчэ Мартынаў, Этимология 1984. М., 1986.

***Павятрáнец,** *павітрáнец* 'чалавек-круцяка, ветрам падшыты', *павітрáнка* 'рэзвая гуллівая дзяўчына' (КЭС, лаг.). Да *вецер* (гл.); параўн. *ветранік*$_2$, *ветраніца*$_2$.

**Пáгада** 'буддыйскі храм у краінах Далёкага Усходу' (ТСБМ). Відавочна, праз рус. *пáгода* 'тс' з ням. або франц. *pagode,* партуг. *pagoda,* якое лічыцца словам малайскага паходжання (Клюге, 430; Фасмер, 3, 183).

**Пáгаддзя** 'пачакаўшы' (Нас., Шат.), *пагаддзя́* 'потым' (Сцяшк. Сл.). Рус. *погодя́* 'тс'. Першапачаткова дзеепрыслоўе ад дзеяслова *погодити* (ст.-рус.), якое потым адвербалізавалася (Шуба, Прыслоўе, 178).

**Пагадзíцца** 'выказаць сваю думку з кім-, чым-н.; згадзіцца; прыйсці да згоды, сысціся на чым-н.; памірыцца з кім-н.' (ТСБМ, Касп.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *гадзіцца*<*год* (гл. таксама *годны*). Сюды ж вытворныя *пагáдліва* 'памяркоўна, паблажліва' (Др.-Падб., Гарэц.), *пагáдны* 'паблажлівы, спачувальны' (Федар., VII, 246).

**Пагáлам** у выразе: *Пагáлам нашы галоўкі* 'прапалі нашы галоўкі' (Хрэст. дыял., 334; віц.). З літ. *pagalam* 'прапала': *pa*+*galam*, ад *gãlas* 'канец' (Непакупны, Лекс. балтызмы, 30; Лаўчутэ, Балтызмы, 70).

***Пагаловач,** *поголóвач* 'частка папярочных баразён у канцы палетку' (КЭС., палес., Сл. Брэс.). Да *галава* (гл.). Семантыку і геаграфію гл. Выгонная, Лекс. Палесся, 49 і наст.

**Пагалоска** 'чуткі, размовы, якія перадаюцца; рэха' (ТСБМ), 'чуткі' (Нас., Бяльк., Яруш., Сцяшк.), *пóголос* 'водгук', *поголóска* 'чутка' (ТС). Рус. *пáголос, пáголосок* 'адгалоска', укр. *пóголос, поголóска* 'чуткі, размовы', польск. *pogłos* 'водгук, рэха', *pogłoska* 'чуткі, размовы', серб.-харв. устар. *пòгла̄сје* 'звестка, весць'. Да *голас* (гл.), прэфіксальным або канфіксальным спосабам словаўтварэння (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 227, 241).



**Пагалоўшчына** 'пагалоўны падатак' (Нас.), 'частаванне свежынай тых, хто дапамагаў забіць, разабраць і спарадкаваць кабана' (Сл. ПЗБ, Нар. сл., мядз.). Рус. *поголóвщина* 'пагалоўны збор, узбраенне, паўстанне', ст.-рус. *поголовщина (-чина, -шина)* (XVII ст.) 'пагалоўны падатак; забойства; пакута за забойства, усеагульны вайсковы збор', польск. *główszczyzna* 'пакута за забойства (за галаву)'. Да *галава* (гл.).

**Пагаля́шка,** *пагаля́шчына, пагаля́шына* 'палка' (Сл. ПЗБ, астрав.). Паводле аўтараў слоўніка, з літ. *pagalỹs* 'тс'.

**Пагáнік** 'чорт' (Інстр. II, 115). Рус. *погáный* 'тс'. Да *пагáны* (гл.).

**Пагáнка**$_1$ 'ядавіты грыб' (ТСБМ, Касп.). Рус. *погáнка* 'тс'. Да *паганы* (гл.).

**Пагáнка**$_2$ 'вадаплаўная птушка, мяса якой мае непрыемны смак' (ТСБМ, Нас.). Да *пагáны* (гл.); з тлумачэння значэння відавочная і матывацыя назвы.

**Пагáны** 'мярзотны, подлы; прызначаны для смецця, нечыстот' (ТСБМ, Касп., Шат., Яруш., Шпіл., Бяссон.), *погáны* 'тс' (ТС, Сл. Брэс.), 'дрэнны, дробны' (Мат. Гом.), 'нехрышчаны, язычнік' (ТСБМ, Нас.), *пагáна* 'дрэнна, кепска' (Яруш., Шпіл., З нар. сл.), *пагáнец, пáганства.* Агульнаславянскае; параўн. укр. *погáний,* серб.-харв. *пȍган* 'нячысты', чэш., славац. *pohan* 'язычнік'. Старажытнае запазычанне з лац. *pāgānus* 'вясковы, язычаскі': *pāgus* 'акруга' (Фасмер, 3, 294 і наст.; там жа і інш. літ-ра).

**Паганю́ка,** *паганю́кі* 'паўзуны' (З нар. сл., мазыр.). Да *паганы.* Семантычная паралель у рус. пск. *погáник, пóган* 'змяя, паўзун'.

**Паганя́ты** 'той, хто паганяе запрэжаных жывёл, возчык' (ТСБМ, Шат., Гарэц., Яруш.). Да *паганяць;* першапачаткова залежны дзеепрыметнік на *-т-*.

***Пагáр,** *погáр* 'выгарэлае месца на балоце; багна, багністае месца' (Талстой, Геогр. терм., 198; зах.-палес.). Аддзеяслоўны дэрыват ад *пагарэць*<*гарэць* (гл.).

**Пагáрда** 'ганарлівыя адносіны да каго-н., ганарыстасць' (ТСБМ, Яруш.), *пагóрда* 'тс' (Гарэц.). З польск. *pogarda* 'тс'; *пагорда* пад уплывам *горды.*

**Пагáрка** 'выгарэлае месца ў тарфяным балоце', *пагáр'е* 'вялікая прастора выгарэлага торфу' (Касп.), *пагáрыны* 'выжарыны' (Сцяшк. Сл.). Да *пагарэць*<*гарэць* з розным суфіксальным афармленнем.

**Пагасíцца** 'замарыцца' (Шатал.). Няясна.

**Пагатóве** 'тым больш' (Гарэц., Янк. БП, 158). Ст.-бел. *покготовю (поготове, поготову, поготовно)* 'асабліва', пал. XVI ст.<ст.-польск. *pogotowie* (Булыка, Лекс. запазыч., 200).

**Пагібаны** 'пагнуты, няроўны' (Сл. ПЗБ, Сцяшк.) *пагібляны* 'тс' (Сл. ПЗБ, З нар. сл.). Да *гібаць* (гл.).

**Пагібелька** 'нізкае месца' (Мат. Гом.). Да *гібаць* 'гнуць' (гл.) з суф. *-ель-к-* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 38, 98). У семантычных адносінах цікавы прыметнік *гібкі* 'багністы' (Сл. ПЗБ) таго ж кораня.

**Пагірдзіцца** 'памерці'. Параўн. *дырдзіцца* 'выцягваць ногі пры смерці' (Касп.), 'здыхаць' (вілен., Лаўчутэ, Балтызмы, 108), палес. *зг'ирдицца, зг'ирджувацца* 'тс' (Лысенка, СПГ). Паводле Лаўчутэ (СБ, 109), з літ. *dirdintis* 'здыхаць, дайсці да канца жыцця'<*dìrti* 'лупіць, драць, знімаць скуру, кожу'. Гл. яшчэ *дырда*.

**Пагнóй** 'угноенае месца, зямля' (Нас., Др.-Падб., Гарэц., Шн. 2, Мат. Гом., Сл. ПЗБ), *погнóй* 'тс' (ТС), 'загароддзе (участак)' (Сцяшк. Сл.), 'угнойванне, гной' (Юрч.), *погнóй* 'поле, якое не засявалася некалькі гадоў' (КЭС, палес.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *пагноіць*<*гнаіць* (гл. *гной*). Але параўн. польск. *pognoić, pognoj*.

**Пагнóйка** 'шампіньён' (Шат., Сл. ПЗБ), *пагнóйка, пагнóйнік* 'тс' (Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ). Да *гной* (гл.).

**Пагнюсіць** 'зрабіць нягодным, сапсаваць (Сцяшк.), 'замуціць (воду)' (Дзімітр., Шн., навагр.). Гл. *гнюсны*.

**Пагóда** 'надвор'е' (ТСБМ, Касп., Бяльк., Яруш., Клім.), *погóда* 'тс' (Сл. ПЗБ), 'добрае надвор'е' (ТСБМ, Гарэц., Шат., Мал., КЭС, віл., Янк. БП, ТС, Клім., Інстр. II). Рус. *погóда* 'надвор'е', укр. *погóда* 'надвор'е; добрае надвор'е; бура, дождж, снег; пагадненне; міравая', польск. *pogoda* 'надвор'е', чэш., славац. *pohoda* 'добрае надвор'е; спакой, душэўны камфорт'. У дыялектах заходніх і ўсходніх моў значэнні мяняюцца ад 'добрае надвор'е' праз нейтральнае 'надвор'е' да 'дрэннае надвор'е, непагода' (гл., напр., Талстой, ВЯ, 1963, № 1, с. 33 і наст.). Да *год* (гл.) (Фасмер, 1, 426).

**Пагóдкі** 'памінкі праз год' (Мат. Гом., Інстр. II). Суфіксальнае ўтварэнне ад прыназоўнікавага словазлучэння *па году* з суф. *-к*. Гл. *гóд*.

**Пагóн**₁ 'дарога, па якой гоняць жывёлу на папас' (ТСБМ, Янк. 1, 3, Некр., Сл. ПЗБ), 'агароджанае месца ў лесе ці ў полі' (ДАБМ, 78), 'паша' (Мат. Гом., Федар. VII, 246), 'статак, чарада' (Федар. VII, 246; Сл. ПЗБ), *пагýон* 'статак' (Сл. ПЗБ), *пагóня* 'паша, выган' (Нас., Жд. 2), *пагóнка* 'агароджаны прагон для жывёлы' (Нар. сл.). Рус. пск. *погóн* 'выган', балг. *пóган* 'частка поля, якая вызначана баразной', *пъгóн* 'прамавугольны ўчастак поля, які абходзяць пры ворыве', серб.-харв. *pógon* 'мера зямлі'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *pogoniti* або ад *pogъnati* з іншай апафанічнай ступенню. Параўн. яшчэ *гон, гоні* — палескія земляробчыя тэрміны. Агляд беспрэфіксных



слав. форм ад *гнаць* гл. Фасмер, I, 436; Выгонная, Лекс. Палесся, 52.

**Пагон**₂ 'парасткі на дрэве' (Янк. 3, Сцяшк. Сл., Інстр. II, 14). Да *гнаць;* параўн. рус. *погóн* 'познія ўсходы, новыя парасткі хлеба пасля позніх дажджоў'.

**Пагóн**₃ 'наплечны знак адрознення' (ТСБМ). Новае запазычанне з рус. *погóн* 'тс'. У рус. мове паводле КЭСРЯ (346) лексіка-семантычнае ўтварэнне на базе *погóн* 'прыстасаванне (паласа, дужка, скаба, рамень, нашыўка і г. д.) для замацавання якога-н. прадмета', якое ў сваю чаргу — бязафіксны дэрыват ад *погонять*. Такім чынам, *погон,* уласна, палоскі, нашыўкі для замацавання эпалетаў. Узвядзенне да польск. **pogon*<*ogon* 'хвост' (Грот, Фил. Раз., 445) Фасмер (3, 295) лічыць сумніцельным.

**Пагóніч** 'паганяты' (Федар. VI). Рус. паўдн. *погóнич,* укр. *погóнич,* ст.-рус. *погоничь* 'возьнік; зборшчык падаткаў' (XI, XIII стст.), славен. *pogonič* 'паганяты' і г. д. Прасл. *pogonićь*<*pogoniti* (гл. *гнаць*) з суф. *-ćь* (SP, 1, 102).

**Пагóныч** *(пагóныш)* 'птушка' (Мат. Гом.). Рус. *погóныш* 'пастушок, малая балотная курачка' («свищет по-пастушьи» — Даль). Да *гнаць, паганяць:* рускі сінонім тлумачыць матывацыю назвы.

**Пагóнь** 'хуткі рост' (Сцяшк. Сл.), *погóня* 'адросткі' (ТС). Да *гнаць* (гл.).

**Пагóня**₁ 'праследаванне таго, хто ўцякае, і тыя, хто праследуе' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Касп., Яруш.), *пагóн* (Нас.), *пагóнь* (ТС) 'тс'. Рус. *погóня,* укр. *погóня, погóнь,* ст.-рус. *погон, погоня, погона* (13 ст.), польск. *pogoń* 'тс', серб.-харв. *погон* 'рухаючая сіла цягі', славен. *pogon* 'пагоня'. Ад *pogъnati* (гл. *гнаць*) з рознымі суф.: *ъ, ja, jь*. Праславянская мадэль з іншай апафанічнай ступенню ў назоўніку.

**Пагóня**₂ 'невялікае балота' (Шатал.), *погóня* 'невялікае балота, заліўны луг' (Сл. ПЗБ), *погóня* 'месца, якое заліваецца вадой у час паводкі або пасля дажджу; сена, якое скошана на такіх месцах' (Клім., 58), 'нізіна, балоцістая даліна' (ТС), 'вузкая лагчына, месца сцёку вод пры вясновым раставанні і атмасферных ападках', 'вузкая і доўгая нізінная мясцовасць сярод больш узвышанай', 'вельмі густыя заараснікі, якія цягнуцца больш на балоце і нізкіх месцах' (Талстой, Геогр., 196). Палескі геаграфічны тэрмін. Ад *pogъnati* з суф. *-ja:* утворана па праславянскай мадэлі з унутранай формай 'месца, дзе гоніць ваду' (гл. Талстой, там жа).

**Пагóрак** 'невялікае, адлажыстае ўзвышша, узгорак' (ТСБМ, Нас., Касп., Гарэц.), *пагóркі* 'узгоркі, намытыя вадой' (КЭС, ст.-бяроз.). Рус. паўн. *пáгорок,* укр. *пагóрок,* польск.

*pogórek*, чэш. *pahorek*, славац. *pahorok* 'тс'. Канфіксальнае ўтварэнне ад *гара* (гл.) (Сцяцко, Афікс. наз., 241).

**Пагост** 'магільнік' (ТСБМ). Рус. *погóст* 'царкоўная абшчына, прыход, царква з жылымі дамамі, службы', дыял. 'магільнік', ст.-рус. *погостъ* 'жылое падвор'е князя і яго світы пры падаткаабкладанні' (X ст.). Першапачатковае значэнне 'заезны дом, у якім затрымліваліся князь і духоўныя асобы'. Ад *госць, гасціць* (гл. Фасмер, 3, 295). Як мяркуе Зяленін (Табу, 2, 150), значэнне 'магільнік' узнікла на базе першапачатковага ў выніку табу. У бел., відаць, кніжнае запазычанне з рус.

***Пагра́бець,** *пагра́біты* 'адубець (пра пальцы)' (Сл. Брэс.), *погра́бець, погра́бнуць* 'тс' (ТС), *погра́бітэ* 'зрабіцца малярухомым ад холаду' (Нар. лекс., брэсц.). З польск. *pograbieć* 'адубець, скарчанець'.

**Паграбня́** 'клець, надбудова над дахам склепа' (Нас.), 'насціл з бярвення над ямай' (Інстр. II). Ад *пограб* 'склеп' (гл.) з суф. *-ня*.

**Паграбы́** 'ямы ў рэчцы, возеры' (Сл. ПЗБ). Гл. *пограб*.

**Пагроб**, *пагроп, пагробы* 'грузд' (Сл. ПЗБ). Рус. пск. *подгрéб* 'тс'. Вытворныя ад *паграбаць, падграбаць*, таму што грузды звычайна растуць на тоўстай падсцілцы.

**Пагрэ́біца** 'лесвіца ў склеп або яму' (Сцяшк.). Ад *пограб* 'склеп' (гл.) з суф. *-іца*. Параўн. і рус. *погрéбица* 'збудаванне над пограбам, склепам'.

**Пагрэ́біны** 'пахаванне' (Федар. 1, Сцяшк. Сл.), *пагра́біны* (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), *погруоп* (Мал.) 'тс'. Згодна з геаграфіяй, запазычанне з польск. *pogrzebiny, pogrzeb* 'тс'.

**Пагрэ́бка** 'ямка для захавання бульбы' (Сцяшк. Сл.), 'надбудова з паветкай над пограбам' (Юрч.). Да *пограб* (гл.).

**Пагрэ́дзінь** 'месца на печы каля сцяны, дзе сушаць дровы' (Сл. ПЗБ). З літ. *pagrėdinỹs* 'тс' (Лаўчутэ, Балтызмы, 70 там жа і інш. літ-ра).

**Пагрэ́йзаць** 'зрабіць неахайна' (Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка параўноўваюць з літ. *gráisteti* 'тс'. У якасці бел. паралелі можна прывесці яшчэ і *крэйзаць* 'крэмзаць' з іншай этымалогіяй (гл.).

**Пагрэ́чыць** 'пашанцаваць' (ТС). Няясна. Ізаляванае слова. Магчыма, гэта лакальнае ўтварэнне на аснове польск. *grzeczny* 'ветлівы, выхаваны' з развіццём семантыкі кораня ад 'ветлівы' да 'добразычлівы', 'спрыяльны'.

**Пагу́дка** 'чутка, размова, звестка' (ТСБМ, Яруш., Др.-Падб.), 'напеў, мелодыя, песня' (ТСБМ), 'ганьба, асуджэнне'. Укр. *погу́дка* 'асуджэнне', рус. *погу́дка* 'мелодыя, напеў, прыгаворка'. З суф. *-ка* ад *пагудзець*<*гудзець* (гл.). Параўн. яшчэ *пагу́дзіць* 'паганьбіць, асудзіць' (Шат.), 'абсмяяць' (Сл. ПЗБ), 'палаяць, пакрычаць' (Сцяш. МГ). Апошні дзеяслоў з польск. *pogudzić* 'тс'.



**Пагу́рак** 'пагорак' (Шат., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), *погу́рак* 'тс' (ТС), *па́гурак* (Нар. лекс.), *пагур* 'сенажаць на ўзвышаным месце' (Сл. ПЗБ). З польск. *pogór(ek)*.

***Пагусяне́ць,** *пагусіне́ць* 'скарчанець' (Мат. Гом.), *погусене́ць* 'зрабіцца падобным на гусіную скуру (ад холаду)' (Сл. ПЗБ). Да *гусіны*<*гусь* (гл.).

**Пагэ́мтаць** 'пакамячыць' (Сл. ПЗБ). Гл. *гамтаць*.

**Пад** прыназ. і прыстаўка. Агульнаслав.: рус. *под, под-, подо-*; укр. *під*, ст.-рус. *подъ*, ст.-слав. **подъ**, чэш. *pod, pode*, балг., серб.-харв. *под* і г. д. Прасл. *podъ*. Існуюць дзве версіі слав. *podъ*: роднасць з *под* 'дно, под' і лат. *pes* 'нага (ступня)' (Бругмэн. Grundriss, 2, 2, 733 і наст.; Остэн-Сакэн, AfSlPh, 32, 120 і наст.) або ўтварэнне на слав. глебе ад *po* аналагічна *za: zadъ, pa: padъ* (Фасмер, 3, 296; там і інш. літ-ра).

**Пад**$_2$ 'апад' (Янк., Янк. 2, Сл. Брэс.), 'мядовая раса, падзь' (ТС). Аддзеяслоўны назоўнік ад *падаць*. Параўн. *апад*.

**Падаба́ць(ца)** 'сімпатызаваць каму-н., любіць каго-н.' (ТСБМ, Касп., Шат., Яруш., Мядзв., Шпіл., Гарэц., Др.-Падб.). З польск. *podobać się* 'тс', якое далей да *даба (гл.)*.

**Падабе́нства** 'наяўнасць агульных або падобных рыс, падобнасць у чым-н.; нешта падобнае на што-н.' (ТСБМ, Яруш.). З польск. *podobieństwo* 'тс'.

**Падаго́нь** 'набедрыкі (частка збруі)' (Сцяшк. Сл., Шатал.). З польск. *podogonie* 'падхвоснік, набедрык'<*ogon* 'хвост'.

**Пада́гра** 'захворванне суставаў і тканак у выніку парушэння абмену рэчываў' (ТСБМ). Ст.-бел. *подакгра (подагра)* 'падагра' (сяр. XVII ст.). З польск. *podagra*<лац. *podagra* ад грэч. *ποδαγρα* (Булыка, Лекс. запазыч., 129), першапачаткова 'пастка для ног' (Фасмер, 3, 296).

**Падазрава́ць** 'лічыць вінаватым у якіх-н. дрэнных, недазволеных учынках; думаць, дагадвацца' (ТСБМ). Новае кніжнае запазычанне з рус. *подозрева́ть*, якое ад прасл. *zьrěti* 'глядзець, бачыць'. Бел. м. дзеяслоў *zъreti* і яго вытворныя неўласцівыя.

**Падале́шнік** 'род шматгадовых травяністых раслін сямейства кірказонавых' (ТСБМ), *падале́шнікі* 'род грыбоў' (Грыг.). Да *альха* (гл.). У назвах грыбоў, па назіраннях Яшкіна (Бел.-рус. ізал., 99), беларуска-руская ізалекса (паўн.-усх. Беларусь — наўгародскія, пскоўскія і цвярскія землі).

**Па́данка** 'змяя (мядзянка?)' (Нар. лекс., маларыц.), *па́далец* 'вуж' (Сцяшк. Сл.), *па́далец, па́даляц* 'вераценніца' (Сл. ПЗБ). Укр. *па́далець* 'вераценніца, Angius fragilis', *па́дальник, падалю́к* 'тс', *па́далица* 'від вужа, гадзюка', польск.

*padalec* 'жаўтапўзік, Ophisautus apodus'. Да *па́дацъ* (Брукнер, 390). У гродзенскіх гаворках, магчыма, з польск.

**Падаплёка** 'падбіўка ў (мужчынскай) сарочцы' (Бяльк., Касп., Мат. Гом., Малчанава, Мат. культ.). Рус. літар. *подоплёка* 'унутраны сэнс', дыял. 'падбіўка ў сялянскай кашулі', укр. *підіпле́чка* 'падаплёка'. Ад *пад* і *пля́чо* (Фасмер, 3, 299). Гродз. *падапле́чка* 'накладка з ваты на плечы' (Сцяшк.), відаць, пад семантычным уплывам *пле́чыкі* 'тс'.

**Падаро́жнік** 'трыпутнік, Plantago-major L.' (ТСБМ, Кіс., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), 'трыпутнік ланцэталісты, Plantago lanceolata L.' (Бейл.), 'панікніца рачная, Geum urbanum glabra L.' (Кіс.), 'гладун гладкі, Herniaria glabra L.' (Бейл.). Да *падарожны*<*дарога* (гл.) з суф. *-ік*. Назва розных раслін, якія растуць непадалёку дарог. Усходнеславянскае: рус. *подоро́жник*, укр. *подоро́жник*. У інш. слав. м. з іншай суфіксацыяй: чэш. *podražec*, славін. *podražec*, *podrazek*, ст.-польск. *podražec* (з чэш.). Гл. Махэк, Jména rostlin, 53.

**Падару́нак** 'тое, што дораць, што падорана' (ТСБМ, Яруш., Гарэц.). З польск. *podarunek* (Кюнэ, Poln., 87; Гіст. лекс., 260).

**Падасі́навік**, *падасі́ннік* 'ядомы грыб з чырвона-бурай шапкай'. Утварэнні ад прыметнікаў *падасінавы*, *падасінны*<*асіна* з суф. *-ік*, *-нік*. Толькі ўсх.-слав. словаўтваральная мадэль у назвах грыбоў (рус. *подоси́новик*, *подоси́нник*, укр. *підосиновик*) (гл. Мяркулава, Очерки, 161).

**Пада́так** 'абавязковы збор з прадпрыемстваў і насельніцтва' (ТСБМ, Нас., Яруш., Гарэц., Грыг.). З польск. *podatek* 'тс'. Па дадзеных Гіст. лекс., 238, у бел. м. з'явілася ў 60-х гадах XIX ст.

**Пада́тлы** 'прыемны' (ТС). Да *даць*, *даваць*. Параўн. літар. *падатлівы*.

**Пада́чка** 'эпілепсія' (Сл. ПЗБ), *па́даная балезнь* 'тс' (Жыв. сл., мядз.). Гл. *падучка*.

**Падаяна** 'перадача' (Мат. Гом.), *падая́нак* 'падарунак' (Сцяшк. Сл.), *пада́янка* 'міласціна' (Жыв. сл., валож.), *падае́нне* 'тс' (Мат. Гом.). Да *даць* (гл.). Утворана ад залежнага дзеепрыметніка на *-н-* дзеяслова **падаяць* 'пада́ць' (параўн. *падаяць* у Насовіча, ст.-рус. *падаяць*>*падаяние* (XII ст.). Гом. *падае́нне*, відаць, пранікненне з рус. тэрыторыі.

**Падбародак, падбароддзя** 'месца паміж барадой і шыяй; падбароддзе'. Агульнаслав.: рус. *подборо́док*, укр. *підборо́док*, польск. *podbrodek*, чэш. *podbradek*, славац. *podbradok*, серб.-харв. *по̀дбрадак*, славен. *podbrádek*, балг. *подбрадък*. Канфікснае ўтварэнне з прыст. *pod-* і суф. *-ъk* ад *borda* (гл. *барада*).

**Падбе́л** 'расліна падбел, Tussilago farfara L.' (ТСБМ, Шат., Касп., Кіс., Бейл., Сл, ПЗБ), 'крываўнік звычайны, Achillea millefolium L.' (Шат., Кіс., Бяльк., Сл. ПЗБ, Арх. ГУ,



лельч.; Бейл.), *подбе́л* 'розныя дзікія і культурныя расліны з белымі кветкамі ці апушэннем' (ТС), *подбі́ў* 'крываўнік звычайны' (Маш.). Рус. *подбе́л* назвы розных раслін, у тым ліку Tussilago farfara L., укр. *пі́дбіл* 'тс', польск. *podbiał* 'Tussilago farfara L.', чэш. *podběl*, серб.-харв. *по̏дбел*, *по̏дбео* 'тс', славен. *podbel'*. Прасл. *podъbelъ*. Да *бе́лы* (гл.) (Махэк₂, 466).

**Падбе́лы** 'горкія грыбы белага колеру, якія соляць на зіму' (Мядзв.). Да *белы*.

**Падбой₁** 'ніз вопраткі, падшыты іншым матэрыялам' (Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ, Нар. сл., гродз.), *падбіцьце́* 'падкладка' (Шат.), *падбі́це* 'тс' (Сл. ПЗБ). Рус. *подбо́й*, укр. *пі́дбій*. Да *падбіць* з чаргаваннем галоснага ў корані. Варыянт *падбіцьце*, відавочна, з польск. *podbicie* 'падкладка'.

**Падбой₂** 'натруджанае, падбітае месца наназе' (ТСБМ; Нар. сл., навагр.; З нар. сл., карэл.; Нар. лекс., слонім.), 'нарыў пад мазалём' (ТС). Да *падбіць*<*біць*.

**Падбор** 'абзац' (ТСБМ, Шат., Касп., Тс, Інстр. I), *пудбо́р* 'тс' (Тарн.). Рус. *подбо́р*, укр. *підбі́р* 'тс'. Да *падабраць*<*браць* (гл.). Семантыка зразумелая з тлумачэння 'абцас, зроблены з кавалкаў скуры' (ТСБМ), г. зн. *падабраны*.

**Падбукро́йціць** 'падгаварыць, падбухторыць' (Янк. 1, Мат. Гом.). З *падбухторыць* (гл.), відаць, у выніку кантамінацыі з нейкім іншым словам.

**Падбухто́рыць** 'падгаварыць каго-н. да якога-н. дзеяння' (ТСБМ, Шат., Сл. ПЗБ). Гл. *бухторыць* (пад *бухцець*). Цікавае змяненне семантыкі вытворнага дзеяслова. Зыходнае бел. *бухторыць* азначае 'праз меру ліць вадкасць; звыш меры ліць і пад.' Значэнне ж польск. *buchtorzyć* 'дурыць, баламуціць' наводзіць на думку аб магчымым семантычным запазычанні.

**Падбы́лы** 'пажылы' (Шат.). Да *быць*; утворана, магчыма, па прыкладу *паджылы*.

**Падбярозавік** 'ядомы грыб з гладкай буравата-шэрай шапкай, які расце ў бярэзніку; абабак'. Дэрыват ад прыметніка *падбярозавы*<*бяроза* з суф. *-ік*. Гл. яшчэ *падасінавік*.

**Падва́л** 'брус, на які насцілаецца падлога, памост'; абл. 'падруба' (ТСБМ), *падва́ліна* 'тс' (Тарнацкі, Studia), *падва́ліна*, *пудва́ліна* 'тс' (Сл. ПЗБ), *падва́ліны* 'ніжні вянок зруба' (Інстр. II), *подва́ліны*, *подва́льнік* 'тс' (ТС), *падва́лак* 'падаконнік, падваліна' (Бяльк., Мат. Гом.), *пудва́лак* 'папярочнае бервяно пад падлогай' (Шатал.), *падва́ліны* 'чатыры бервяны, пакладзеныя на плыце, якія служаць асновай для ўмацавання шарыгі' (Нар. лекс.). Ад *падваліць*<*валіць* з рознымі суфіксамі. Аналагічна ў інш. слав. мовах: рус. *подва́лок* 'пень, ніжняя частка дуба, якая падкладаецца пад вуглы вясковых будынкаў', укр. *підва́ліна* 'тоўсты брус, які служыць асновай драўлянай сцяны', польск. *podwalina* 'ляжак, закладны брус',

чэш. *podval(a)* 'тс', славен. *podvàl* 'нясучы, апорны брус, бервяно', серб.-харв. *пóдвалак* 'падкладка пад бочку'.

**Падвалóка** 'невялікая рыбацкая сетка' (Касп., Сл. ПЗБ). Прыставачнае ўтварэнне ад *валока₂* 'невад'. Сюды ж *падвалочак* 'маленькі невад' (Дэмб.), 'сачок для лоўлі рыбы' (Сцяшк. Сл.).

**Падвáсаліны** 'узаемнае наведванне бацькоў маладой і маладога пасля вяселля; пярэзвы' (Сл. ПЗБ), *падвясёлкі* 'тс' (Сл. ПЗБ). Конфіксныя ўтварэнні ад *вяселле*. *Падвасаліны*<*падвяселіны*. Ацвярдзенне *в* і *с*, відаць, у выніку забыцця ўнутранай формы слова, паколькі яно адзначана на літоўскай тэрыторыі.

**Падвéй₁** 'дух, які круціцца ў ветры, прыносіць разбурэнні і незвычайныя хваробы; хвароба, якая здараецца, калі прахопіць скразняком, параліч' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), 'скразняк' (Сцяшк. Сл.), 'хвароба' (ТС), 'прастуда, параліч' (Касп., Гарэц., Інстр. II), *пудвíй* 'тс' (Нар. лекс., стол.), 'ліха, бяда' (Жд. 2). Укр. *пiдвíй* 'ад хваробы ад ветру'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *падвеяць*<*веяць*. У семантычных адносінах параўн. яшчэ *вéтранка* (гл.).

**Падвéй₂** 'расліна падвей шыракалісты, Eriophorum latifolium Hoppe' (ТСБМ, Кіс.), 'драсён змяіны, Polygonum bistorta L.' (Бейл). Да *падвей₁*, таму што Eriophorium latifolium Hoppe у народнай медыцыне выкарыстоўваецца для лячэння *падвею* (БСЭ, 7, 601). Мабыць, аналагічную матывацыю можна прыняць і для драсёну, які таксама з'яўляецца лекавай раслінай.

**Падвíлка** 'павека' (Сл. ПЗБ). Няясна. Мабыць, з **падвійка* (гл. *вейкі*) з вядомым у дыялектах пераходам *й*>*л*, напрыклад, *ляха: яха* 'рэха'.

**Падвíрак** 'завостраная палачка для падплятання лапцей' (Касп., Шатал.), *подвырок, подвірок* 'тс' (Сл. Брэс.). Суфіксальны дэрыват ад *падвіраць* 'падплятаць лапці'; апошняе да *viti* (гл. *віць*).

**Падвíчка** 'стужка' (Шатал.), *подвычка* 'тс' (Сл. Брэс.), 'абруч, на які накручвалі намітку, пасма льну, што падкладаюць пад валасы, каб зрабіць прычоску' (Сл. ПЗБ), *подвічка* 'хустка, завязаная на лоб пад другую хустку' (Сл. Брэс.). Польск. *podwika* 'занавеска; вуаль, белая галаўная хутка'. Польск. слова з **podwijka*<*wić* (Брукнер, 426), (гл. *віць*). У бел., відавочна, з польскага, калі меркаваць па арэалу бытавання.

**Падвóй** 'частка сахі, якая падтрымлівае плаху' (Выг.), *пудвíй* 'тс' (Тарнацкі, Studia), *падвóі* 'вяроўка, якой прымацоўваюцца нарогі сахі да ручкі' (Сл. ПЗБ). Рус. *подвóй* 'вязкі, віцы, якія звязваюць часткі сахі'. Да *падвіць*>*віць* з чаргаваннем галосных у корані.



***Падвóліца**, *пудвóлыця* 'ніжняя частка падбародка' (Сл. ПЗБ, Клім.), *пудвóле* 'тс' (Бяссон.), *падвóліч* 'падбародак, двайны падбародак' (Сцяшк.). Конфікснае ўтварэнне з асновай *вол-* (гл. *валлё*).

**Падгáлы** 'тонкі, з падцягнутым жыватом (пра жывёлу)' (Янк. 3), 'тонкі' (Сл. ПЗБ), 'прамы, высокі' (Мат. Гом.), *падгáлісты* 'з доўгімі нагамі, цыбаты; высокі, тонкі (пра дрэвы, расліны) (ТСБМ), 'тонкі, высокі з суччам наверсе' (ТС, Некр.). Ад *galъ* (параўн. рус. дыял. *гáлый* 'голы, бязлесны', *прогáлина* 'голае месца ў лесе', а таксама польск. *Podhale, podhalski* — Брукнер, 133), звязанага чаргаваннем галосных з *golъ* 'голы'. Гл. Трубачоў, ЭССЯ, 6, 96.

**Падгалёністы** 'цыбаты; з доўгімі нагамі' (Касп.). Да *галёнкі* (гл.). Параўн. рус. *голенáстый*.

**Падгалінáсты** 'высокі, тонкі' (Сцяшк., Сл.), *падгалінясты* 'тс' (Сл. ПЗБ). Гл. *падгалёністы*.

**Падгáры** 'паджары' (Мат. Гом.). Да *гарэць*. Развіццё семантыкі гл. *паджáры*.

**Падгéрац** 'жалезны прэнт, які злучае шворан з трайнёю калёс' (ТСБМ, Янк. 2), *падгэ́ріц* (Бяльк.), *падагэ́рц* (Шат.), *падгэ́рц* (Шат., Янк. 2), *подгéрэц, подгэ́рэц* (ТС), *подгéрец* (Мат. Гом.), *подгéрац* (Сл. ПЗБ), *підгíрць, подгíрць, подгóрец, пудгéрец* (Сл. Брэс.), *пудгéрац* (Тарнацкі, Studia). Рус. курск. *подгúриц* (без тлумачэння значэння у КСРНГ), смал. *подгéр* 'жалезная паласа под коламі, якая злучае пярэднюю і заднюю часткі колаў', укр. *підгéрц, пудгéрец* 'тс'. Няясна. Па фанетычных прыкметах, запазычанне, хутчэй усяго германізм. Але канкрэтную крыніцу вызначыць цяжка.

**Падгéйстра**, *падгéйсцер* 'падгерац' (Мат. Гом.). Рус. курск. *пыдгéйстер, подгéйстра*, укр. *підгéйстор, підгéйстра, підгéрсть* 'тс'. Няясна. Магчыма, звязана з *падгерац;* не выключана, што гэта метафарычны перанос з *гайстер* 'чорны бусел'. Такія пераходы ў розных тэхнічных прыстасаваннях існуюць. Бел. слова, відаць, з укр.

**Падглы́бціць** 'прысвоіць' (Касп.). Бліжэйшы славянскі адпаведнік — польск. дыял. *głąbać* 'хапаць, забіраць сабе; абдымаць'. Польск. слова роднаснае слав. *globa, globiti* (аб апошніх гл. Трубачоў, ЭССЯ, 6, 131 і наст.), параўн. бел. *аглобля*. Лаўчутэ абгрунтавана (Балтизмы, 103 і наст.) на аснове семантычнага і арэальнага крытэрыяў ставіць пытанне аб запазычанні польск. *gląbać* з балцкіх моў, параўн. літ. *glóbti, glěbti* 'укрываць, ухутваць; хапаць, прысвойваць', лат. *glabāt* 'берагчы, захоўваць' і г. д. Што датычыць канкрэтнага статуса беларускага слова, то яно можа быць прэфіксальным утварэннем на беларускай глебе як ад польск. *głąbać*, так і ад літ. *glóbti* з дыялектнай зменай *а*>*ы* і падваеннем інфінітыўнага канчатку.

***Падгра́дзіна,** *подгра́дина* 'расліна гладун гладкі, Herniaria glabra L.' (Бейл.). Да *града.*

**Падгру́ніць** 'падбіць, падахвоціць' (Касп.). Няясна. Адзіным магчымым фармальным супастаўленнем можа быць рус. *грунь* 'конская рысь; дробная рысь' (*grǫdnь*, гл. Трубачоў, ЭССЯ, 7, 148). Параўн. яшчэ бел. *гру́нем* 'бягом' (Бяльк.) і *грунём* 'тс' (Нар. сл.), а таксама рус. *иди груна́стей,* г. зн. прыбаў ходу, рысі, і дзеяслоў *груни́ть* 'ехаць трушком'. Тады *падгруніць* першапачаткова 'падагнаць, паскорыць', потым — 'падахвоціць, падбіць',

**Пад(г)у́за** 'шляя' (Нас., Гарэц.), *падгу́зак* 'частка збруі' (Мат. Гом.), *падгу́зы* мн. 'набедрыкі' (Сл. ПЗБ). Да слав. *ǫz-ęz-* (гл. *вуза, вузел, вязаць*).

**Падда́ны** 'асоба, якая знаходзіцца ў падданстве якой-н. дзяржавы'. Ст.-бел. *подданый* 'падданы' (1434 г.). З польск. *poddany* (Булыка, Лекс. запазыч., 21). Польскае слова калькуе лац. *subditus* 'тс' (Фасмер, 3, 296).

**Паддзёўка** 'мужчынская верхняя вопратка' (ТСБМ, Бельк.), 'кароткая верхняя цёплая вопратка' (Янк.), верхняе святочнае адзенне' (Малчанава, Мат. культ.), 'верхняя жаночая вопратка' (Інстр. II), *поддзёўка* 'паддзеўка' (Мат. Гом.), *поддзёўка, паддзёжка* 'спадніца (споднняя)' (Мат. Гом.). Рус. *поддёвка* 'тс'.Суфіксальны дэрыват ад *паддзяваць* (гл. *адзёжа*).

**Паддымка** 'снежны занос' (Касп.). Значэнне дэфінавана недакладна, параўн. кантэкст: *узьнялася паддымка;* слова хутчэй азначае 'мяцеліца, замець'. Суфіксальны дэрыват ад **паддымаць* 'уздымаць'. Гл. *уздымаць.*

***Паддымкам,** *поддымком* 'на змярканні, шэрай гадзінай' (ТС). Рус. *поддымки, поддымье* 'раніца ў вёсках, калі толькі запальваць печы'. Да *дым* (гл.).

***Пад'елдыкваць,** *под'елдыкваць, подболдыкваць, подвалдыкнуць* 'падтакаць, падбіваць, падбухторваць' (ТС), *пад'ілдыкнуць* 'тс' (Сл. ПЗБ). Рус. *подъелдыкивать, подталдыкивать* 'тс', *елде́жить* 'сварыцца'. Мяркуючы па мностcounter фанетычных варыянтаў, гукапераймальнае, якое адлюстроўвае няяснае барматанне. Гродз. *падгалдыкнуць* (Сцяшк. Сл.), мабыць, дадаткова зазнала ўплыў дзеяслова *галдзець.*

**Паджа́глісты** 'сухарлявы, тонкі' (Сл. ПЗБ, гродз.), 'стройны' (Сцяшк. Сл.; З нар. сл., навагр.), *паджэ́длісты* 'у абліпку, цесны, вузкі (пра адзенне)' (Шатал.). Дэрываты ад дзеяслова *жэгліць* (гл.), які да *žeg-* 'пячы'. У семантычных адносінах параўн. *паджары.* Улічваючы арэал распаўсюджання, магчыма паставіць пытанне аб запазычанні з польск. дыялекту, тым больш што і дзеяслоў *жэгліць,* на думку Супруна (ЭСБМ, 3, 269), таксама з польск.



**Паджа́ры** 'рыжа-буры або бура-чорны (пра масць жывёл)' (ТСБМ, Некр., Янк. 3, Інстр. II), *паджа́ры, паджа́рысты* 'сухарлявы, тонкі' (Сл. ПЗБ), *поджа́ры, поджа́рысты* 'пра валасы' (*поджа́рые ко́сы* — выгарэлі на сонцы) (ТС). Рус. *поджа́рый* 'сухарлявы, хударлявы', ст.-польск. *maść podżara* 'назва конскай масці'. Трубачоў (Происх., 26—27) бачыць у слове першапачатковае абазначэнне масці гончага сабакі з падпалінамі. Гл. таксама Фасмер, 3, 297. Да *жар.*

**Паджу́ліць** 'падагнуць (хвост)' (Касп.). Гл. *жуляць.*

**Паджы́лы** 'пажылы' (ТСБМ, Шат., Янк., ТС), *паджы́ты* 'тс' (Сцяшк. Сл.). З польск. *podżyły* 'тс'. Гомельск. *поджыўшы* 'пажылы' (Мат. Гом.), мабыць, кантамінацыя *паджылы* і *пажыўшы.*

**Падзві́жнік** 'чалавек, які ў імя служэння богу падвяргае сябе доўгім малітвам і посту; аскет; самаадданы працаўнік' (ТСБМ). Запазычанне з рус. *подви́жник* 'тс' (Крук., Уплыў, 39). Параўн. *подзвіг.*

**Падзе́жка** 'вопратка (падыспад)' Мат. Гом.). З **пададз'ежка* ў выніку рэдукцыі галоснага.

**Падзе́я** 'здарэнне, выпадак' (ТСБМ, Гарэц., Яруш.). Укр. *подія* 'тс'. Ад **падзеяц(ца)*<*дзеяць*<прасл. *dě(ja)ti* (гл. *дзець*) з суф. *-ej-a;* старажытная мадэль (параўн. SP, 1, 59 і наст.).

**Падзённік** 'падзёншчык' (Шат.), 'пастух' (Сцяшк., Сл.), 'падпасак; падзёншчына' (Мат. Гом.), *подзённік* 'падзёншчык' (ТС), *падзёнік, падзённік* 'падзёншчык; памочнік пастуха' (Сл. ПЗБ). З польск. *podziennik* 'тс'.

**Падзі́ў** 'порча вокам, якую лечаць загаворам' (ТСБМ, Шат., Гарэц., Др.-Падб., Сержп., Грам., Бір. Дзярж., Мат. Гом.), *по́дзіў, подзі́ў* (ТС), *падзівец* (Сл. ПЗБ), *падзівак* (Мат. Гом.) 'тс'. Бязафіксны дэрыват ад *падзівіцца*<*дзівіцца* (гл.). Фанетычныя паралелі ў інш. слав. мовах маюць іншую семантыку: укр. *подив* 'паглядзенне', польск. *podziw,* чэш. *podiv* 'здзіўленне; захапленне'. Семантычны адпаведнік у рус. *сглаз*<*сглазить.*

**Падзішачкі** 'расліна дрыжнік сярэдні, Briza media L.' (Кіс.). Няясна.

**Падзо́л** 'бедная солямі глеба шэравата-белага колеру' (ТСБМ), *падзо́ла* (Касп.), *падзо́лле* (Бяльк.), *падзо́ліца, падзо́ль* (Сл. ПЗБ), *падзо́ліца* (Мат. Гом.) 'тс'. Да *зала* (гл.) па колеру глебы.

**Падзо́р** 'брыжы, карункі, якімі абшываецца ніжні край чаго-н. (прасціны, пакрывала і г. д.)' (ТСБМ), *падзо́рнік* 'тс' (Сл. ПЗБ, Шатал., Нар. лекс.), 'прасціна з карункамі ці вышыўкай па краі' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *подзо́р, подзо́рнік* 'подзор' (Сл. Брэс.), *подзо́рнік* 'падзор' (ТС). Рус. *подузо́рник,*

*подзо́рник* 'тс'. Да *узор* (гл.). Параўн. яшчэ рус. *подузо́рить* 'размалёўваць або вышываць узорам'.

**Падзь**1 'упадзіна' (Прышч., Дыс., стаўбц.). Рус. *падь, па́дина,* перм., сіб. 'глыбокі і стромкі лог, яр, бездань, цясніна' або 'міжгор'е, разлог', паўдн. 'яр, лагчына', укр. *падь, па́дина* 'нявілая круглая даліна', серб.-харв. ц.-слав. *па̏д* 'даліна' (Шутц, Geographische, 38), балг. *пад, падина* 'даліна, лагчына; вузкі і доўгі яр; стромы абрыў і г. д.' (Грыгаран, Словарь, 150). Дэрыват ад *padati* з суф. *-ь* (параўн. Махэк, 425).

**Падзь**2 'салодкая клейкая вадкасць на лісцях раслін' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, З нар. сл., Мат. Гом.), *пад, падзь* 'тс' (ТС). Рус. *падь,* укр. *падь,* польск. *padź,* чэш. мараўск. *paď* 'тс'. Аддзеяслоўны дэрыват ад *падаць* (гл. Махэк, 425; Брукнер, 390).

**Падка́ліўка** 'касцяная палачка для падплятання лапцей' (Мядзв.), *падка́ланка* 'тс' (Сл. ПЗБ). Да *калоць,* таму што гэтай палачкай праколваюць дзіркі, у якія прадзяваецца лыка'.

**Падкало́тка** 'суп з бульбы і мукі, забелены малаком' (Інстр. I, Вешт., Шатал.), 'кавалачкі мяса і сала, якія падсмажаны ў рэдкім цесце' (Шат., Сл. ПЗБ), *падкало́чанікі* 'тс' (Сцяшк. Сл.). Вытворнае ад *падкалаціць*<*калаціць* з суф. *-к-*.

**Падкалато́віць** 'падгаварыць' (Касп.). Да *калатоўка* (гл. у артыкуле *калаціць*).

**Падка́меншчык** 'маларухомая прыдонная рыба, якая жыве ў прэснай вадзе пад камнямі' (ТСБМ, Жук.). Рус. *подка́менщик.* Ад прыметніка *падкаменны* з суф. *-шчык* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 75).

**Падка́пак** 'клабук' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Укр. *підка́пок* 'клабук, чапец', рус. зах. *ка́па, ка́пка, ка́почка* 'шапка, фуражка' Ст.-рус. **капа, накапка* 'жаночае пакрывала на галаву ў выглядзе вэлюма' (канец XV ст.). Далей гл. *капа.*

**Падка́рні** 'маленькія саначкі, якія прычэпліваюцца да санак пры перавозцы бярвення' (Жд. 2). Гл. *кары*1; *-н-,* відаць, пад уплывам *карнаты, карнаць.*

**Па́дкі** 'вельмі ахвочы, цікаўны да каго-, чаго-н.' (ТСБМ, Яруш., Др.-Падб.). Рус. *па́дкий,* ст.-рус. *па́дкий* (1570 г.) 'тс'. Утворана з суф. *-к-* ад *падаць* (гл.).

***Падкі́днік,** *подкі́днік* 'бабок трохлісты, Menyanthes trifoliata L.' (Бейл.). Выходзячы са словаўтваральнай структуры, утварэнне ад прыметніка **падкідны,* які да *кідаць* (гл.); але семантычная матывацыя невядомая.

**Падко́ва** 'жалезная дугападобная пласціна, якая прыбіваецца пад конскія капыты'. Агульнаславянскае: рус. *подко́ва,* укр. *підко́ва,* ст.-рус. *подкова* (1576 г.), польск. *podkowa,* славен. *podkòva* і г. д. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *падкаваць*<*каваць* (гл.) (Брукнер, 279; Махэк, 285).



**Падко́льная** 'злы дух, які жыве, па павер'ю простых людзей, пад колам млына', *падко́льнік* 'чорт' (Нас.). Да *кола* (гл.).

**Падкру́чча** 'топкая балоцістая мясціна, зарослая кустамі' (Бяльк.). Канфіксальнае ўтварэнне ад *круча* (гл.), суф. *-je (-ja).* Параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 234.

**Падкузьмі́ць** 'паставіць у няёмкае становішча, падкусіць' (ТСБМ, Нас.). Рус. *подкузьми́ть* 'тс'. Ад уласнага імя *Кузьма* (параўн. яшчэ рус. *объего́рить* 'тс'<*Егор*). Першапачаткова 'псаваць надзеі, якія былі звязаны з днём Кузьмы', паколькі дзень св. Кузьмы і Дзям'яна (17 кастрычніка) лічыўся раней тэрмінам заканчэння сельскагаспадарчых пагадненняў (гл. Фасмер, 3, 297; там жа і інш. літ-ра). У бел., мабыць, з рус.

**Падкула́чнік** 'селянін, які дзейнічаў у інтарэсах кулака'. Да *кулак*2 (гл.). Калька (або запазычанне) з рус. *подкула́чник* (Крукоўскі, Уплыў, III).

**Падкураваць** 'пад'юдзіць, падбухторыць да чаго-н.' (Федар., VII). Да *курыць.* Развіццё семантыкі, відаць, праз ужыванне гэтага дзеяслова ў пчалярскай практыцы: *падкурыць (пчол)* 'выгнаць з вулля, каб ляцелі шукаць нектар'.

**Падку́чка** 'падпечак' (СТ). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *кучка*3 (гл.).

**Па́дла** 'труп жывёліны, мярцвячына; аб кім-, чым-н. вельмі дрэнным' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Грыг., Мядзв., Гарэц.), *па́дліна* 'тс' (ТС), *па́дло* 'аб тым, хто благі' (Сл. ПЗБ). З польск. *padło* 'тс' (Карскі, Белорусы, 146), таксама як і *па́дліна*<польск. *padlina* (Кюнэ, Poln., 83). Да *падаць* (Брукнер, 390).

**Падла́совік** 'пеўнік стракаты (грыб)' (Сл. ПЗБ). Да *падласы* з суф. *-овік* па бура-жоўтаму колеру грыба.

**Падла́сы** 'з белай поўсцю на жываце (звычайна пра карову)' (ТСБМ, Бяльк., Шат.), 'жаўтаваты, светла-руды' (Гарэц., Некр., Мал.), 'аб сабаку: плямісты або з белай спіной ці белым жыватом' (Федар.), *подла́сы* 'падласы' (ТС), *падла́сівенькі* 'тс' (Сл. ПЗБ). Рус. *падла́сый* 'цёмна-гняды з падпалінамі', укр. *підла́сий* 'з белым жыватом'; далей рус. *ла́са* 'пляма прадаўгаватай формы, ільсняная пляма; паласа ад праса', *ла́сить* 'пакідаць плямы'. Паводле Фасмера (2, 460), роднаснае літ. *lãšas* 'пляма', лат. *làse* 'кропля, пляма, крапінка' (гл. таксама Бернекер, 1, 691; Міклашыч, 160; Мацэнауэр, 9, 189). Збліжэнне з лат. *lãpsa* 'месца' (Мее — Эндзелін, 2, 440); Фасмер (там жа) лічыць менш верагодным.

**Падле́глы** 'які адносіцца да ліку асоб, аб'ектаў, з'яў, на якія распаўсюджваецца што-н. абавязковае, прымусовае; падуладны, падначалены' (ТСБМ, Нас., Яруш.). З польск. *podległy* 'тс'.

**Падле́так** 'хлопчык або дзяўчынка ў пераходным узросце'

(ТСБМ, Касп.), *падлéток* (ТС), *пудлы́ток* (Клім.) 'тс'. Рус. *подлéток*, укр. *підлíток* 'тс'. Да *лéта* (гл.).

**Падлéйчаць** 'падглядзець, падкапаць (напр. бульбу)' (ТС), *падлéгчы* 'тс' (Мат. Гом.). Параўн. яшчэ *лéйчаць* 'лягчаць, пакладаць' (ТС). Да *лячаць* (гл.).

**Падлётак**$_1$ 'птушаня, якое крыху лятае' (Янк.), *подлéток* (ТС), *падлётыш* (Мат. Гом.) 'тс'. Рус. *подлёток* 'тс'. Суфіксальны дэрыват ад *падлятаць*<*лятаць* (гл.).

**Падлётак**$_2$ 'падлетак' (Гарэц., Др.-Падб., Янк., КЭС, ушац., КЭС лаг.). З польск. *podlotek* 'тс', якое да *latać, liecieć* 'ляцець'. *Падлётух* 'тс' (Мат. Гом.) на аснове *падлётак* з іншай суфіксацыяй.

**Падлíца** 'пляма карычневага колеру на скуры' (Сл. ПЗБ), *падлíчча* 'радзімы знак на твары' (Шатал.). Да *ліцó* (гл.).

**Падліцáць** 'абяцаць' (Касп.), *падлéціцца* 'прыкінуцца' (?) (ТС). Гл. *заляцаць(ца), лецъ*.

**Падлóбісты** 'пануры' (Мат. Гом.), 'упарты, настойлівы' (Сцяшк. Сл.). Да *лоб* (гл.), першапачаткова 'той, хто глядзіць спадылба'.

**Падлóг** 'падробка з мэтай ашукаць каго-н.; падман, ашуканства' (ТСБМ). Новае запазычанне з рус. *подлóг* 'тс'.

**Падлóга**$_1$ 'насціл у памяшканні, па якім ходзяць; пол (пераважна ў жыллёвым памяшканні)'. З польск. *podłoga* 'тс' (Махэк, 120), якое ад *dłażyć* 'рабіць насціл' (Брукнер, 425).

**Падлóга**$_2$ 'падвалкі' (Мат. Гом.), 'падаконнік; падсцілка' (Бяльк.). Рус. *подлóга* 'падкладка, падвалкі', укр. *підлíжкі* 'вялікія камні, якія падкладваюцца пад асноўныя бярвёны хаты, калі месца няроўнае', *підлóга* 'два пярэднія і два заднія слупы ў кроснах', чэш. *podloha, podložka* 'падстаўка; падкладка', серб.-харв. *пȍдлог, пȍдлога* 'падсцілка, падкладка, падстаўка, фундамент', славен. *podlóga* 'парог; ніжняе бервяно', балг. *подлога* 'падкладка, падножка, падстаўка'. Аддзеяслоўнае вытворнае ад *podložiti*<*ložiti* (гл. *лажыць*).

**Падлýбак,** *падлýбка* 'драўляная шына на санях' (Касп.). Да *лубя́нка* (гл.).

**Падлýбнік** 'прыстасаванне у ткацкім станку' (Мат. Гом.). Да *лубка* (гл.).

**Падлыгáйла** 'які дапамагае ілгаць' (Нас.), *падлы́жнік* 'падлізлівы, угодлівы чалавек' (Чачот). Рус. *подлыгала* 'ілгун'. Да **падлыгаць*<*лыгаць*. Гл. *лыга*$_1$.

**Падлы́жны** 'памылковы, падманны, няправільны' (Нас.). Рус. *подлы́жный* 'тс'. Ад **падлыгаць*<*лыгаць* (гл. *лыга*$_1$).

**Падмаладзíцца** 'праясніцца на пагоду' (Некр.), *падмалáджваць (цца)* 'збіраецца дождж' (Др.-Падб.), *подмолóджваць* 'намарожваць лёд на рацэ' (ТС). Гл. *маладзіцца*.

**Падмéцца** 'паабяцаць' (ТСБМ, Янк. 3, Некр.) 'назвацца' *(калі падмеўся грыбам, то лезь у каробачку)* (Янк. БП). Да *мецъ* (гл.). Адносна семантыкі параўн. чэш. *přiměti* 'заставіць, прымусіць', літ. *im̃tis* 'брацца, ўзяцца за што-н.; браць на сябе адказнасць'.



**Падмётак** 'падносак' (Янк. 1, Жыв. сл.), *падмёткі* 'тс' (Тарнацкі, Studia, Бяльк.). Калька рус. *подмётка*, якое ад *подмёт* 'падкладка'<*подметать* 'подшыць падкладку'. Аб рус. слове гл. Фасмер, 3, 298.

**Падмýрак** 'каменная або цагляная кладка пад чым-н.; фундамент' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), *подмýрок* 'тс' (ТС), 'невялікая прыбудова да адрыны' (Шушк.), *падмурóвак* 'падмурак' (ТСБМ, Гарэц., Касп.), *падмурóўка* 'тс' (Касп., Янк., Жд. 2, Сл. ПЗБ), 'выступ каля печы' (Мат. Гом.). Запазычанне з польск. *podmurek, podmurówka*, дзе яны з'яўляюцца дэрыватамі ад *podmurować* 'падвесці каменны (цагляны) фундамент'. Гл. таксама *мур*.

**Паднавéс** 'павець' (Сл. ПЗБ), *паднавéска* 'тс' (Сцяшк. Сл., ДАБМ, 798). Гл. *навес*.

**Паднагóтная** 'праўда, ісціна, падрабязнасці чаго-н., якія старанна ўтойваюцца' (ТСБМ, Нас.). Рус. *подногóтная*, з *подноготная тайна*. З *пад* і *ногаць*, таму што тайну выведвалі з дапамогай уколаў пад ногці (Праабражэнскі, 1, 186; Фасмер, 3, 298).

**Паднадóлак** 'падбіўка' (Касп., Сл. ПЗБ), 'ніжняя частка, якую падрубліваюць' (Інстр. I, Сцяшк. Сл.). З *пад-, на-, дол* з суф. *-ак*. Параўн. *падол*.

**Паднарáд** 'падкладка ў абутку ад пад'ёму да наска' (ТСБМ, Інстр. I, Сцяшк.), *поднарáд* 'тс' (ТС). Рус. *поднаря́д* 'тс', аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *поднарядить* 'падшываць нарад або паднарад'<*нарядить*<*ряд*. У бел., відаць, з рус., паколькі дзеясловы ад *рад* бел. м. не ўласцівыя.

**Паднéбнік** *(паднёбнік)* 'прыстасаванне ў ткацкім станку' (Мат. Гом.), *паднябéсьнікі* 'тс' (Жыв. сл.). Гл. *панебнік*.

**Паднём** 'церассядзельнік' (Касп.). З *пад'ём* з *-н*-устаўным. Гл. *падняць*.

**Паднётка** 'падносак' (Сл. ПЗБ). З *падмётка* (гл.).

***Паднóж'е,** *подноже* 'патомкі, нашчадкі' (ТС). Конфікснае вытворнае ад *нагá* (гл.).

**Паднóжкі,** *паднóшкі* мн. 'воўна, астрыжаныя з ног авечкі' (Сл. ПЗБ). Да *нага* (гл.).

**Паднóсак** 'частка другой падэшвы ў абутку ад наска да палавіны ступні' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Некр., Янк. 1), *паднóска* (Бяльк., Сл. ПЗБ), *поднóсок* 'тс' (ТС). Да *насок* (гл.). Параўн. рус. арханг. *подносóчники* 'падноскі'.

**Падны́каць** 'кпіць, насміхацца' (Шпіл.). Няяснае слова з-за адсутнасці параўнаўчага матэрыялу і геаграфічнай прывязкі.

Магчыма, балтызм; параўн. літ. *pāniekа* 'пагарда да каго-н.', *paniēkinti* 'аднесціся з пагардай; пакпіць з каго-н.', *niekti* 'пагарджаць'. Аднак не выключана і славянскае паходжанне, з **паднукаць* ад выкл. *ну!* (параўн. яшчэ тураў. *ны!* выкл.), з развіццём семантыкі 'паганяць, падбухторваць' — 'кпіць, насміхацца'.

**Паднябе́нне** 'верхняя частка поласці рота' (ТСБМ, Касп., Шат., Гарэц., Некр., Дразд., Мядзв., Янк. 2), *паднябе́ння, пуднібе́ня, пуднябе́нне* 'тс' (Сл. ПЗБ), 'верхняя частка скляпення рускай печы' (Касп., Шат., Гарэц., Некр., Дразд., Сл. ПЗБ), *поднебе́нне, поднебэ́нэ* 'тс' (Шушк.), 'скляпенне ўнутры каменнага будынку' (Мядзв.). Укр. *піднебе́ння* 'паднябенне; скляпенне рускай печы', польск. *podniebienie* 'паднябенне; скляпенне ўнутры будынку', чэш. дыял. *podnebí* 'паднябенне', славац. *podnebie* 'паднябенне; балдахін'. У рус. у гэтых значэннях ужываецца *нёбо*; у паўдн.-слав. прасл. *nebo* — 'паднябенне; полаг, балдахін'. Да *неба* (гл.).

**Падняхве́рывацца** 'згаджацца; абяцаць (легкадумна)' (Юрч.), *падняхве́рываць* 'падбухторваць, падахвочваць' (Юрч.). Няясна. Магчыма, да *ахвяра* (гл.); першапачаткова *паднеахверывацца,* потым у выніку рэдукцыі галоснага *падняхверывацца. Не* можа быць паразітнай устаўкай, параўн. маг. *ніхаліпа* 'халепа, нянасце'.

**Падня́ць** 'узяць, падабраць што-н. з зямлі, падлогі і пад.; перавесці ў вертыкальнае становішча і г. д.' Рус. *подня́ть,* укр. *підня́ти,* польск. *podjąć* і г. д. Да прaслав. *j-ьmǫ, ęti.* Параўн. *абняць, мець.*

**Падо́бны** 'які мае падабенства з кім-, чым-н., нагадвае каго-, што-н.' (ТСБМ), 'прыгожы, здатны, добры да чаго-н.' (Федар. VII). Агульнаславянскае: рус. *подо́бный,* укр. *подо́бний, поді́бний,* ст.-слав. **подобьнъ**, чэш., славац. *podobný* і г. д. Прaслав. *podobьnъ*, якое ад *podobiti*<*doba* (гл. *даба*), з першапачатковым значэннем 'падыходзячы' (гл. Фасмер, 3, 298; Брукнер, 91).

**Падо́днікі** 'кальсоны' (Мат. Гом.). Суфіксальнае ўтварэнне на базе словазлучэння *пада дно* 'падыспад'.

**Падо́йма** 'падняцце, падъём' (Нас.), *падо́йм* (Яруш.), *падо́ймы* (Др.-Падб.) 'тс', *падо́ймы* 'пачастунак у час вяселля для таварышаў маладога або сяброўак маладой' (Янк. 2), *у падо́йму* 'як падняць' (Юрч.). Укр. *підо́йма* 'рычаг', польск. *podyma*, чэш.-дыял. *podejma* 'частка калёс', славац. *podojma, podejma, podojňa* 'рычаг'. Мабыць, прaслав. *podъ-jьm-a* (гл. *падняць*) (Махэк, 466).

**Падо́к** 'падсцілка пад стог' (Сцяшк.), 'насціл з бярвення на чатырох слупах пад стог' (Выг.), *падо́к* 'падпечны зруб' (Дразд.), 'памост пад стажок намалочанага збожжа; воз'



(ТС). Памяншальнае да *под* (гл.). Параўн. яшчэ рус. *под* з дакладнымі семантычнымі карэспандэнцыямі: 'падсцілка пад стог, некалі з памостам, насцілам', 'падапечны зруб' і г. д.

**Падо́л** ' ніжні край сукенкі, кашулі і пад.' (ТСБМ, Нас., Яруш., Шат., Касп., Юрч.), *подо́л* 'тс' (ТС), 'плыткае месца ў рэчцы, дзе мыюць бялізну' (Касп., Юрч., Янк., Сцяшк. Сл.), *падо́л, паддо́л* 'прыпол; падол' (Сл. ПЗБ). Рус. *подо́л* 'край адзежы; падэшва гары; нізкае месца пабліз ракі', укр. *поді́л* 'нізкае месца; падол жаночай кашулі', польск. *podołek* 'падол адзежы', чэш. *podol* застар. 'доўгая даліна', *podolek* 'падол адзежы', *padol* 'доўгая даліна'. Да *po-* і *dolъ* (Фасмер, 3, 299; Махэк, 134).

**Падо́нак** 'адонак (пад сена)', *падо́на* 'тс' (ДАБМ, 878), *падо́нне* 'ніжні пласт сена' (Мат. Гом.). Гл. *адонак.*

**Падо́нкі** 'рэшткі вадкасці з асадкамі на дне пасудзіны; дэкласаваныя, разбэшчаныя, злачынныя элементы грамадства'. Суфіксальнае вытворнае ад **падонны*<*дно* (гл.) з суф. *-к-*. Другое значэнне — семантычная калька рус. *подо́нки.*

**Падо́ра** 'завіруха, завея' (Бяс.). Рус. дыял. *паде́ра, подо́ра* 'тс', *па́дарь* 'зімняя непагадзь'. Ад *па-* і *дзяру* (Гл. Фасмер, 3, 183).

**Падо́шва.** Гл. *падэ́шва.*

**Падо́шлы** 'пажылы, даволі стары' (Нас.). З польск. *podeszły* 'тс'.

**Падпадуха** 'перапёлка' (Дразд.), *пудпу́дніца* 'тс' (Маш.). Гукапераймальнае. Параўн. укр. *підпідьо́м* 'для адлюстравання крыку перапёлкі', *підпідьо́мкати* 'крычаць (аб перапёлу)'.

**Падпалясываць** 'падпяразваць' (Мат. Гом.). З *падпая́сываць,* з дыялектным змяненнем *j*>*л.*

**Падпа́лак**₁ 'праснак' (ТС, Мат. Гом.), *подпа́лак, пудпа́лок* 'тс' (Сл. Брэсц.), *подпа́льнік, подпале́нік* (ТС). Рус. *подпа́лок* 'што-н. падпаленае', укр. *підпа́лок, подпа́лок, пудпа́лок* 'род мяккага хлеба; праснак', польск. *podpałek* 'блін, спечаны на коміне' (Карл.). Вытворныя ад *падпаліць*<*паліць* (гл.). Падрабязна гл. Вештарт, Лекс. Палесся, 112.

**Падпа́лак**₂ 'прут у ярме' (Сцяшк. Сл.), *подпа́лок* 'частка сахі (жалезны прут), якая падтрымлівае паліцу' (Сержп. Земл., Выг.), *путпалок* 'тс' (Тарнацкі, Studia). Польск. *podpałek* 'тс'. Конфіксная ўтварэнне ад *паліца* (гл.) з адсячэннем суф. у базавым слове. *Падпалак* падтрымлівае *паліцу* — асноўную частку сахі.

***Падпало́нік,** *подполо́нык* 'тоўсты блін' (Шатал.), *пудполо́нык* 'корж з хлебнага цеста, які пяклі ў печы пры полымі' (Клім., Бессон.). Паводле вывадаў Вештарт (Лекс. Палесся, 111), вытворныя ад *polmen* — (гл. *полымя*) *падпалонік*<**падпаломнік* займаюць заходнюю частку Прыпяцкага Палесся

і прымыкаюць к заходнеславянскаму арэалу, параўн. польск. *podpłomyk* 'від плоскага бліна', *podpłomień* 'блін, спечаны як бы на спробу, перад выпяканнем хлеба' (Карл.), чэш. *poplamenice* 'блін, спечаны з хлебнага цеста' і г. д.

**Падпераза́ць** 'сцягнуць, зацягнуць на таліі поясам, папругай і г. д.; надзець на каго-н. пояс, папругу і пад.' Рус. (паўдн., зах.) *подпераза́ть*, укр. *підпереза́ти* 'тс'. Ад *пераз* (гл.).

**Падпі́нак** 'церассядзёлак' (Шат., Сл. ПЗБ, Нар. лекс., мядз.), *падпі́нак, падпі́нка* 'падсядзёлак' (Сцяшк. Сл.). Суфіксальны дэрыват ад *падпінаць* 'прымацоўваць' (Сл. ПЗБ), якое, відаць, з польск. *podpinać* 'тс' (гл. *пнуць, пяць*). Не выключана, што гэта можа быць і запазычаннем польск. *podpinka* 'падбрушнік'.

**Падпі́нкі** 'сорт позніх яблык' (Сцяшк. Сл.). Відаць, з *пепінка* (гл.)<*пепін шафранны* 'тс'.

**Падпо́льшчык** 'той, хто працуе ва ўмовах падполля'. Да *падполле* 'дзейнасць, накіраваная супраць улад, якая праходзіць тайна'<*пол* (гл.). Калька (або запазычанне) рус. *подпо́льщик* (Крукоўскі, Уплыў, III). Аналагічна *падпо́льшчыца*<рус. *подпо́льщица*.

**Падпру́га.** Гл. *папру́га*.

**Падрабя́зны** 'вельмі грунтоўны, дакладны, з усімі дэталямі і дробязямі'. Конфікснае ўтварэнне ад *дробязь* (гл.) з прыстаўкай *па-* і суф. *-н-*.

**Падра́д**₁ 'абавязацельства выканаць якую-н. работу за пэўную плату, а таксама работа, якая выконваецца паводле такога абавязацельства' (ТСБМ). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *падрадзіць*<*рад* (гл.).

**Падрад**₂ 'непасрэдна адзін за другім; без перапынку; запар'. Рус. *подряд* 'тс'. Ад *под* і *рад* (гл.).

**Падра́чыць** 'падражніць' (Сцяшк.) з польск. *podręczyć* 'памучыць каго-н., пакпіць над кім-н.'.

**Падро́бкі** 'вантробы сярэдніх і дробных жывёл' (Нас.), *падрабя́жжа* 'унутранасці жывёлы' (Сл. ПЗБ), *подробэ́нькэ, пудрубы́нкы* 'тс' (Сл. Брэс.). Укр. *подріб, подро́би*, польск. *podroby, dróbki* 'тс'. У іншых славян безпрыставачныя: чэш. *drob, drůbky*, славац. *droby*, серб.-харв., славен. *drob* 'унутранасці жывёлін; дробязь, адкіды', балг. *дроб* 'печань, лёгкія'. Вытворныя ад асновы *drob-* (гл. *драбіць, дробны*; параўн. яшчэ Трубачоў, ЭССЯ, 5, 122) (Брукнер, 87; Фасмер, 1, 539). Інакш Махэк (128), які звязвае з праслав. *ǫtroba* (гл. *утроба*).

**Падру́ба** 'ніжні вянок зруба' (ТСБМ, Сцяшк), *падру́б* (Янк. 1, Мат. Гом.), *падру́б, падру́ба* (Шат., Бяльк.), *падру́ба, подру́ба, падру́бы* (Сл. ПЗБ), *подру́ба* (Шушк., Тарнацкі, Studia), *падру́біна* 'адно з чатырох бярвенняў падрубу' (Янк. 1). Рус. *подру́б* 'зруб або некалькі вянкоў, якія падведзены пад зруб', *подру́ба* 'вуглы ў зрубе', серб.-харв. *по́друб* 'рубец, падшыты край адзежы'. Аддзеяслоўныя ўтварэнні ад *падрубіць*<*рубіць* (гл.). У будаўнічай тэрміналогіі бел.-рус. ізалекса. *Падру́біна* ад *падруб(а)* з суф. *-іна*.

***Падру́бны,** *подру́бны* 'падкалодны'. *Жаба падру́бна* 'жаба, якая жыве пад драўлянымі пабудовамі або пад ляжачымі калодамі (ТС). Гл. *падруба*.

**Падру́жжа** 'жонка; сяброўка', *падру́жнікі* 'пяшчотная назва мужа або жонкі' (Нік. Очерки). Вытворнае ад *друг*. Дакладны адпаведнік ва ўкр. м.: *падру́жжа* 'шлюб; муж, жонка, сямейная пара'.

**Падружы́цца** 'ажаніцца' (ТС). Украінізм; параўн. *подружи́тися* 'тс'. Гл. яшчэ *подружжа*.

**Падрухата́ць** (*падрухіта́ць*) 'пабіць (пасуду)' (Сцяшк. Сл.). З польск. *podruzgotać* 'разбіць, разламаць, раскрышыць'.

**Падру́чнік** 'кніга, па якой вывучаюць які-н. прадмет' (ТСБМ). Калька польск. *podręcznik* 'тс'. Далей да *рука* (гл.).

**Падру́чны** 'які знаходзіцца пад рукамі, заўсёды ёсць; які выконвае падсобную работу' (ТСБМ). Да *рука* (гл.). *Падру́чны (вол)* 'левы вол, які «пад рукою»' (Янк. 1), *подру́чны конь (вол)* 'тс' (ТС). Рус. *подру́чная лошадь* 'прыпражны конь з правага боку', дан. *падру́чны (падру́шны) вол* 'вол з левага боку', укр. *підру́чний (вол)* 'тс'.

**Падру́чча** 'бярэмя' (Сцяшк. Сл.), *падру́чай* 'ахапак сена, які можна ўзяць пад руку', *подру́ч'е* 'месца пад рукой; аб'ём, які можна прынесці пад пахай' (ТС). Суфіксальныя вытворныя на базе словазлучэння *пад руку*. Гл. таксама *ручай(ка)*.

**Падручы́цца** 'даць згоду зрабіць што-н., узяцца за якую-н. работу для каго-н' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Жд. 2), *подруча́цца* 'дамаўляцца, наймацца' (ТС). Да *рука́, зару́ка* (гл.).

**Падры́заваць** 'падабраць венікам збожжа (знізу ўверх)' (Сцяшк. Сл.), *пудрызовува́ты* 'падграбаць лапатай' (Выг. дыс.). Да *рэзаць;* у гэтай форме, відаць, украінізм, параўн. *підрізува́ти*.

**Падры́мка** 'трэцяя струна пасля баса ў скрыпцы, якая выдае гук *ля*' (Мядзв.), *падрымо́ўка* 'другая струна ў скрыпцы' (Шат.). Гл. *рыма, рымзаць*.

**Падрэ́з** 'жалезная паласа саннага полаза' (ТСБМ, Бяльк., Некр.), *падрэ́зы* (Янк. 2, Інстр. I), *подрэ́з, подрэ́зы* (ТС), *поднаре́зы, подре́зы* (Маслен.). Рус. *подре́з, подре́зы* 'тс'. Аддзеяслоўны назоўнік ад *падрэзаць*<*рэзаць* (гл.).

***Падско́чка,** *потско́чка* 'скочкі дахавыя, Sempervium tectorum L.' (Бейл.). Гл. *ско́чкі*.

**Падскро́бак** 'апошні сын або дачка' (Шат., Сл. ПЗБ, Інстр. I), 'апошні снег' (Інстр. I), *падскрэ́біш* 'малы хлеб з астаткаў цеста; апошні сын або дачка', *падскрэ́быш* 'саскрэбенае цеста

з дзяжы, што засталося на закваску' (Сцяшк. Сл.), *падскробка, падскрэбка, пыдскрэбка* 'маленькая булка з астаткаў цеста' (ТС). Да *падскрабаць*<*скрабці* (гл.).

**Падснежнік** 'шматгадовая цыбульная расліна сямейства амарылісавых, якая цвіце ранняй вясной белымі кветкамі; пралеска' (ТСБМ), 'пралеска, Hepatica mill. nobilis' (Кіс.) *подснежнік* 'кураслеп дуброўны, Anemone nemorosa L.' (Бейл.). Рус. *подснежник* 'назва розных кветак, якія вясной з'яўляюцца першымі'. Ад прым. *падснежны* з суф. *-ік* па вельмі распаўсюджанай ва ўсх.-слав. мовах мадэлі ў назвах раслін і грыбоў (Параўн. Сцяцко, Афікс, наз., 97).

**Падсобіць** 'памагчы' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Касп., Бяльк.). Рус. *подсобить*, укр. *підсобити*. Усходнеславянскае, ад дав. скл. зваротнага займ. *сабе*. У іншых славян аналагічныя дзеясловы без прыстаўкі або з інш. прыстаўкамі: польск. *(o)sobić* 'прысвойваць', чэш. *sobiti, osobiti*, дыял. *dosobit* se і г. д. (гл. Брукнер, 505; Махэк, 535).

***Падсолнух, пудсолнух** 'сланечнік' (Выг.). Рус. *подсолнечник*, дыял. *подсолнух*. Да *сонца*. Семантычную матывацыю гл. *сланечнік*.

**Падструністы** 'тонкі (конь)' (Касп.). Да *струна* (гл.).

**Падступства** 'каварства' (Гарэц., Яруш.). Калька польск. *podstępność* 'тс'.

**Падсуглу** 'падрад' (*касіць усё падсуглу*) (Касп.). Няясна.

***Падсуканы**, *подсуканы* 'падцягнуты, зграбны' (ТС), *пітсуканы* 'высокі, тонкі' (Ніканчук). Да *падсукаць*<*сукаць* (гл.). Першапачаткова, відаць, 'паваротлівы, лоўкі', калі мець на ўвазе семантыку дзеяслова. Параўн. таксама літ. *apsukrùs* (ад *sùkti* 'круціць', роднаснае слав. *sukati*) 'выкрутлівы, паваротлівы, лоўкі'.

**Падсучча** 'канат, які прывязваецца за лапу якара' (Інстр. III), 'канат' (Мат. Гом.), *подсуч'е* 'тс' (ТС). Укр. *підсучча* 'паводок, на якім прывязаны паплавок (*сучка*) к якару лодкі'. Да *сучка*₂ (гл.) у розных тэхнічных значэннях.

**Падташа** 'падпавецце' (Мат. Гом.). З *паддашша* 'прастора або папамяшканне пад дахам'; магчыма, няправільны запіс.

**Падтыннік** 'чыстацел' (ТСБМ), 'залозніца вузлаватая, Scrophularia nodosa L.' (Кіс.), 'паслён чорны, Solanum nigrum L.' (Бейл.). Рус. *подтыннік*, укр. *підтинник* 'расліна Scrophularia nodosa L.' Суфіксальны дэрыват ад прыметніка *падтынны*<*тын* (гл.). Расліна названа па месцы вырастання.

**Падузы** 'частка коннай збруі, шляя' (Касп., Янк. 3, Мядзв.). Гл. *падгузы*.

**Падуст** 'рыба сямейства карпавых' (ТСБМ), дыял. таксама *падуста*. Рус. *подуст, подус* 'рыба з сямейства чабакоў', укр. *підуст, підуства* 'рыба Chondrostoma nasis', польск. *podust, podusta*, чэш. *podousev*, славац. *podustva*. Адсутнічае ў паўдн.-слав. м. Паводле Махэка (467), назва рыбы — гэта субстантываваны прыметнік **podusta (ryba)* <*usta*, таму што верхняя сківіца больш тоўстая і доўгая, чым ніжняя. Гэта ж семантычная матывацыя ўжо ў Даля.



**Падучая** (хвароба), *падучка* 'эпілепсія'. Рус. *падучая (болезнь), падучка*, польск. *padaczka*, чэш. *padoucí nemoc, padoucnice*, славац. *padúcnica*, серб.-харв. *пäдавица* і г. д. Да *падаць* (Фасмер, 3, 184; Махэк, 425); параўн. таксама ням. *fallende Sucht* 'эпілепсія'<*fallen* 'падаць'.

**Падушка** 'пасцельная рэч — напханы пухам, пер'ем, сенам і пад. мяшок', дыял. 'частка калёс'. Рус. *подушка*, укр. *подушка, подуха*, ст.-рус. *подушька*, польск. *poduszka*, чэш., славац. *poduška*, ст.-чэш. *poducha*. Праслав. *podušьka*. Большасць даследчыкаў звязваюць з серб.-харв. *дӯхња* 'пярына', чэш., польск. *duchna* 'тс' і далей з *дух* (гл.) (Фасмер, 3, 301; там жа і інш. літ-ра). Інакш Махэк (467), які выводзіць з *podъ* і *ucho*.

***Падхапваць**, *подхапваць* 'прасяваць зерне праз рашато' (Выг. дыс., ТС). Гл. *хапаць*.

**Падхлоп** 'крынічнік даўгалісты, Veronica longifolia L.' (Кіс., Касп.). Да *хлопаць*, паводле ўласцівасцей кветак' (параўн. Аненкаў, 164).

**Падхлябісты** 'худы' (КЭС, карэл.). Да *хлябы* (гл.).

***Падцінака**, *пацьцінака* 'чалавек, які заўсёды любіць падсмейваць другіх' (Янк.). Да *падцінаць*<*-цяць, -цінаць* (гл. *выцінаць, сцяць*).

**Падцур** 'палка ў гульне «казіны рог»' (Рам.). Не зусім ясна, відавочна, ад *падцураць*<*цур., цураць(ца)* (гл.).

**Падцэпак** 'раскладка снапоў на таку (для малацьбы цапамі)' (ДАБМ, 873), *пыццыпок* 'тс' (Шатал.). Конфікснае ўтварэнне ад *цэп* (гл.).

**Падцяглісты** 'худы' (КЭС, карэл.), мабыць, ад *падцягнуць*; але параўн. яшчэ *цяглі* 'ногі (доўгія)'.

**Падчапеха** 'лучынны кош' (Касп.). Да *падчапіць*<*чапляць* (гл.).

**Падчапісты** 'худы' (КЭС, карэл.). Ад *падчапіць*<*чапаць* (гл.).

**Падчарыца**, *падчарка* 'няродная дачка мужа ці жонкі'. Рус. *падчерица*, дыял. *падчерка, падочка, падчирка*, укр. *падчірка*, серб.-царк.-слав. *падъштерица*. Паволдле Фасмера (3, 184), з *pa-* і *dъkti*, він. скл. *dъkterь*. Параўн. ст.-прус. *poducre*, літ. *pódukra* 'тс' (Траўтман, 378).

**Падчыніць** 'падсыпаць мукі ў цеста перад замесам' (Вешт.), *падчыняць* 'падсяваць; адсяваць пры дапамозе рэшата дробную мякіну ад зерня' (Шатал.). Гл. *чыніць*. Дзеяслоў вельмі шырокага семантычнага аб'ёму; што датычыць

прыведзеных тут значэнняў, параўн. рус. *расчинять* 'замешваць цеста, ставіць, тварыць', серб.-харв. *чѝнити* 'прасейваць зерне', славен. *číniti* 'прасейваць (цераз сіта)'.

**Падшкля́нак** 'падстаўка з ручкай (звычайна металічная), у якую ўстаўляюць шклянку' (ТСБМ) Да *шклянка.* Калька рус. *подстака́нник* 'тс'.

**Падшпа́рак** іран. 'хлапчук 12—16 гадоў, падлетак' (Сцяшк.). Да *шпарыць* (гл.).

**Падшта́нікі** 'кальсоны, споднікі'. Рус. *подшта́нники,* укр. *підшта́нки.* Да *штаны* (гл.) (Фасмер, 3, 301).

**Падшыва́нец,** *падшыва́лец* 'хлапчук (звычайна падлетак)' (ТСБМ, Інстр. III), *падшыва́нец* 'гарэза' (Касп.), 'той, хто выдае сябе за каго-н. іншага' (Др.-Падб.), *падшы́ты ветрам* 'легкадумны' (Сл. ПЗБ). Укр. *підшива́йло* 'падліза', рус. *подшива́ла* 'дасціпнік, жартаўнік', *подшива́ть языком* 'кпіць, жартаваць'. Да *падшыць*<*шыць*; семантыка відавочныя з фразеалагізма *падшыты ветрам.* Дэфініцыя Друцкага-Падбярэскага — семантычнае запазычанне з польск. *podszywający się* 'тс'.

**Падэ́сць** 'падман' (ТСБМ). З польск. *podejście* 'хітрасць, падман'. Сюды ж *подэ́йсны* 'ліхі, подлы' (Сцяшк. Сл.).

**Падэ́шва** 'ніжняя частка абутку, якая мае форму ступні, ніжняя частка, аснова чаго-н.' (ТСБМ), дыял. *падо́шва* 'тс'. Рус. *подо́шва,* укр. *підо́шва,* ст.-рус. *подъшьва,* польск. *podeszwa,* чэш. *podešev,* славац. *podošva.* З *podъ* і *šъvъ* (гл. *шво, шыць*) (Праабражэнскі, 2, 86; Фасмер, 3, 299). Фанетычны варыянт *падэшва* з польск. *podeszwa.*

**Паж** 'у сярэднія вякі — падлетак, юнак дваранскага роду, які служыў пры двары караля або буйнага феадала' (ТСБМ). Праз рус. *паж* або польск. *paź* з франц. *page* ад італ. *paggio* 'малады слуга' (параўн. Фасмер, 3, 184).

**Па́жа** 'паша' (Янк. 1, Сл. ПЗБ). З *паша* ў выніку дыялектнага інтэрвакальнага азванчэння глухіх зычных.

**Пажа́р** 'агонь, які ахоплівае і знішчае ўсё, што можа гарэць, а таксама сам працэс гарэння'. Рус., укр. *пожа́р,* царк.-слав. *пожаръ,* польск. *pożar,* н.-луж. *póžar,* чэш. *požár,* серб.-харв. *по̏жа̄р,* славен. *požâr,* балг. *пожа́р.* Праслав. *požarъ.* Ад *po-* і *žarъ* (гл. *жар*) (Фасмер, 3, 302; Махэк, 722).

**Пажарні́ца** 'шматгадовая расліна сямейства злакавых з суквеццем у выглядзе мяцёлкі' (ТСБМ), *пажа́рнік, пажарні́ца* 'расліна Holcus mollis L.' (Кіс.), 'расліна, якая расце ў хваёвым лесе пасля пажару' (Янк. 1), *пажарніца палявая* 'расліна Holcus mollis L.' (Кіс.). Суфіксальныя вытворныя ад *пажа́рны,* г. зн. 'расліна, якая расце на месцы пажару'.

**Пажа́рыска,** *пажа́рыско, пажа́рынско* 'пажарышча' (Сл. ПЗБ), *пожа́ріско* 'тс' (Талстой, Георг. терм., 198, палес.). Дэрыват ад *пажар, пажарны* з суф. *-isko*; дадзеная словаўтв. мадэль прымыкае да зах.-слав. утварэнняў лакальных назваў на *-isko* (параўн. *пажарышча*).



**Пажа́рышча** 'месца, дзе быў пажар; тое, што засталося пасля пажару'. Рус., укр. *пожа́рище,* серб.-харв. *по̏жа̄рӣште,* славен. *požárišče,* балг. *пожа́рище* 'тс'. Дэрыват ад *пажар* з суф. *-iště*; старажытная ўсх.- паўдн. словаўваральная мадэль лакальных назваў. Сюды ж дыял. 'поле на месцы выгарэлага лесу' (Выг. дыс.), а таксама палес. *пожа́ріш'ч'е, пуже́ріш'ч'е* 'выгарэлы кавалак лесу' (Талстой, Георг. терм., 198).

*Пажо́нны, *пожо́нный* 'прыстойны, шляхетны (аб чалавеку)' (Клім.). З польск. *porządny* 'тс'.

**Па́жылка** 'звязка, якая злучае ніт з панажом у ткацкім станку' (Мядзв.). Гл. *жыла, жылка.*

**Пажуры́** *чортавы* 'расл. бадзяк палявы, Cirsium arvense (L.), Scop.' (брэсц. Кіс.). Гл. *пазу́р.*

**Пажылы́** 'немалады, у гадах'. Рус. *пожило́й,* польск. *pożyły* 'тс' Да *пажыць,* першапачаткова дзеепрыметнік на *-л-*.

**Пажы́так** 'дробны скарб, хатнія рэчы; здабыча, пажыва' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат), *пожи́ток* 'узятак' (Ніканчук, Лексика Полесья). З польск. *pożytek* 'карысць, выгада'.

**Пажы́тнік** 'род аднагадовых або мнагагадовых раслін сямейства бабовых' (ТСБМ), 'пылюшнік вузкалісты, Thalictrum augustifolium Jacq.' (Кіс., Інстр. II), 'Trigonella L.' (Кіс.). Рус. *пожи́тник* 'Trigovella L.', чэш. *pažitka* 'цыбуля-рэзанец'. Да рус. *пажить,* чэш. *pažit,* якое ад *па-* і *жить* (гл. *жыць*) (Фасмер, 3, 185; Махэк, 440).

**Паз** 'выемка ў якой-н. дэталі, куды ўстаўляецца выступ другой дэталі; вузкая доўгая шчыліна паміж няшчыльна прыгнанымі бярвёнамі, брусамі, плітамі і пад.' Рус. *паз,* укр. *паз,* ст.-рус. *пазъ,* польск. *paz,* чэш. *paz* (з рус.— Махэк, 439), славен. *pâz.* Праслав. *pazъ.* Роднаснае грэч. πήγνῡμα 'убіваю', лац. *pango* 'упэўніваю' і ням. *fugen, fōgjan* 'злучыць, прыспасобіць' ст.-в.-ням. *fuoga* 'паз' (гл. Фасмер, 3, 185; там жа і інш. літ-ра).

**Паза́ддзе** 'адыходы, астаткі пры малацьбе або веянні' (ТСБМ, Нас., Бяльк.), *поза́дзье* 'тс' (ТС). Укр. *поза́дь* 'тс'. Да *зад* (гл.).

**Паза́дкі** 'адходы, астаткі пры малацьбе або сеянні' (ТСБМ, Нас., Янк. 2, Інстр. I), *поза́док* 'тс' (ТС), 'астаткі ад вадкай ежы на дне' (Вешт., дыс.). Рус. *поза́дки* 'тс'. Да *зад* (гл.).

**Паза́лкі** 'шчолак; брудная вада пасля мыцця бялізны' (Гарэц., Касп., Бяльк., Сцяшк. Сл., Мат. Гом., Інстр. I; КЭС, бых., шкл.), *пазо́лкі* (КЭС, мазыр.), *пазо́лы* (Клім., Влад.), *позо́л, позо́лкі, позо́лье, позо́лінье* (ТС) 'тс'. Рус. *па́золки,* укр. *па́зілки, па́золки* 'тс'. Бязафікснае і з суф. *-к-* утварэнне ад *пазоліць*<*зала* (гл.).

**Пазатакрóк** прысл. 'пазамінулы год' (Сцяшк.), *пазатакрáк* 'тры гады назад' (Янк. 2) з *па-за-так-рок*. Да *рок* 'год' (гл.).

**Пазванóк** 'састаўная частка пазваночніка чалавека і некаторых жывёл' (ТСБМ). Рус. *позвонóк* 'тс'. Паводле Фасмера (3, 303), звязана чаргаваннем галосных з *звяно* (гл.).

**Пазванóчнік** 'асноўная частка шкілета ў чалавека і некаторых жывёл, якая складаецца з пазванкоў' (ТСБМ). Рус. *позвонóчник* 'тс'. Утварэнне ад *пазваночны*<*пазванок*.

**Пазёмка**$_1$ 'замець' (ТСБМ, Янк. 3, Інстр. I). Рус. *позёмка*. Суфіксальнае вытворнае ад словазлучэння *па земі* (параўн. корань *zem*- у словах *пазём, чарназём* і інш.).

**Пазёмка**$_2$ звычайна толькі мн. *пазёмкі* 'суніцы' (ТСБМ, Янк., Яруш., Гарэц., Сцяшк., Кіс., Бесс., Мат. Гом.), *пазёмкі, пазюмкі, пазінкі* 'тс' (Сл. ПЗБ). Рус. *позéмка*, польск. *poziomka* 'тс'. Гл. *пазёмка*$_1$, у бел., відаць, з польск.

**Пазíраваць** 'быць натурай для фатографа або мастака; прымаць позу' (ТСБМ). З рус. *позúровать* 'тс', якое з ням. *posieren*, першакрыніцай якога ў сваю чаргу з'яўляецца франц. *poser* 'класці, ставіць' (параўн. Фасмер, 3, 303).

**Пазітыўны** 'якія заснаваны на фактах, на вопыце; дадатны' (ТСБМ). З рус. *позитúвный* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 78). Не выключана запазычанне і з польск. *pozytywny*. У рус. і польск. мовах праз зах.-еўрап. мовы з лац. *positīvus* (параўн. Фасмер, 3, 303).

**Пазíцыя** 'месцазнаходжанне каго-, чаго-н., размяшчэнне; пункт погляду; думка' (ТСБМ). З рус. *позúция* (Крукоўскі, Уплыў, 78), дзе праз зах.-еўрап. мовы з лац. *positio* 'становішча'.

**Пазногаць** 'ногаць' (ТСБМ, Яруш., Шат., Сцяшк. МГ, Сл. ПЗБ, Інстр. I), *пазнóкаць* 'тс' (Нас.). Агульнаслав. і праслав.: рус. *пазнóгть, пазнóкть* 'фаланга пальца, на якой расце ногаць', укр. *пагнíсть*, родн. скл. *пагнóстя*, ст. -рус. *пазногъть*, ст.-слав. **пазногъть, пазнегъть**, польск. *poznogieć*, *paznokieć* і г. д.; праслав. *paz-nogъtь*. З прыстаўкі *paz*- і *nogъtь* (Праабражэнскі, 1, 610; Брукнер, 400; Фасмер, 3, 186).

**Пазор** 'час перад світаннем' (Сцяшк. Сл.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад **пазорыць*<*зорыць* (гл.), г. зн. 'час, калі становіцца відно'. Параўн. таксама наступнае.

**Пазорны** 'прыгожы, відны, статны' (Гарэц., Бяльк., Янк. БП, Янк. I, Шн., Нар. лекс.), 'той, хто непрыстойна сябе паводзіць' (Сл. ПЗБ), *пазўорны* 'прыгожы' (Федар., VII). Рус. *позóрный* 'непрыстойны, ганебны', ст.-рус. *позорный* 'непрыстойны, ганебны', польск. *pozorny* 'уяўны, які задаецца', чэш. *pozorný* 'уважлівы', славен. *pozóren* 'уважлівы', балг. *позóрен*. Прыметнік на -*n*- ад слав. *pozorъ* 'увага; ганьба'. Далей гл. *зорыць, зрэнкі*.



**Пазýбіцца** 'прарасці' (Мат. Гом.), *позýбыцца* 'тс' (Выг. Дыс., палес.). Гл. *зуб*.

**Пазумéнт** 'шытая золатам або срэбрам тасьма, якой аздабляюць мэблю, адзенне і інш.' (ТСБМ). З рус. *позумéнт* 'тс', якое праз нов.-в.-ням. *Posament* або н.-ням. *pasement* з франц. *passement* (гл. Фасмер, 3, 303).

**Пазýр** 'кіпцюр, ногаць' (ТСБМ, Шмат., Шпіл., Янк. БП, Сцяшк. МГ, Бессон., Інстр. II, Жд. 2, Сл. ПЗБ), *пáзур* 'тс' (ТС). Рус. *пазýр* 'кіпцюр', дыял. 'расл. Centaurea pulchella', польск. *pazur*, в.-луж. *pazor*, н.-луж. *pazora*, славац. *pazúr* 'тс', чэш. *pazour* 'кіпцюр; расл. наготкі'. Паводле Фасмера (3, 186); Махэка (430), скарочаная форма ад *paznogъtь* (гл. *пазнóгаць*) з суф. -*urъ*.

**Пáзуха** 'прастора паміж грудзямі і адзеннем' (ТСБМ, Нас., Яруш., Сл. ПЗБ), 'вараток, манішка ў сарочцы' (ТС), *пáзухі* 'пярэдняя частка адзення на грудзях' (Малчанава, Мат. культ., Шн. 3). Рус. *пáзуха*, укр. *пáзуха*, ст. -слав. **пазоуха**, польск., чэш., славац. *pazucha*, серб.-харв. *пâзухо* 'пазуха, плячо', славен. *pȃzduha*, балг. *пáзуха, пáзува, пáзва*. Зыходзячы са славен. *pȃzduha*, тлумачаць з праслав. *pazducha* з прыстаўкай *paz*- (як, напрыклад, у *пазногаць*, рус. *паздер*) і *ducha*, якое роднаснае ст. -інд. *dōṣ* 'рука, перадплечча', *dōṣṇás* 'рука, перадплечча; ніжняя частка пярэдняй лапы жывёліны', авесц. *daōš* 'плячо', лат. *paduse* 'падпаха, пазуха' (гл. Фасмер, 3, 187; там жа гл. і інш. літ-ру). Няясным у гэтай этымалогіі застаецца знікненне *d*; яно тлумачыцца дысіміляцыяй у спалучэнні *podъ pazducha* (Бернекер, 1, 233) або дыял. слав. зліццём *zd*>*z* (Уленбек, KZ, 40, 553 і наст.). Брукнер (400) выводзіць слав. слова з *паз* (гл.).

**Пазывáтыя** 'тыя, хто хадзіў запрашаць на вяселле' (Інстр. II). Рус. *позывáтый* 'вяшчальнік'. Ад *пазываць;* утварэнне ад асновы залежнага дзеепрыметніка на -*т*- з суф. -*ай*, першапачаткова **пазаватай* (параўн. Фасмер, 3, 304).

**Пазыка** 'выдача ў доўг на пэўных умовах грошай, рэчаў і інш., а таксама грошы, рэчы і інш., узятыя ў доўг' (ТСБМ, Нас., Яруш., Гарэц., Мядзв., Грыг., Шат., Бяльк., Мат. Гом.), *пазычка* 'талака' (ДАБМ, 905). З польс. *pożyczka*, або аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *пазычыць*. Адносна *з* гл. *зычыць*. У бел. м. слова з'явілася ў сярэдзіне XIX ст. (Гіст. лекс., 238).

**Пазычыць** 'даць каму-н. што-н. у доўг; узяць у каго-н. што-н. у доўг, на час' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Шпіл., Мядзв., Бессон., Шат), *позычыць* (ТС). Рус. зах. *позычить* 'тс', ст.-рус. *позычити* (XIV ст.). З польск. *pożyczyć* 'браць, даваць у доўг' ад *pożytek* 'карысць, выгада' (Фасмер, 3, 304). Адносна -*з*- гл. *зычыць*.

**Пазюр** 'ногаць' (Выг., Дразд.). *Гл. пазур.*

**Паíць** 'даваць піць каму-н.; насычаць вільгаццю, вадой'. Рус. *поить*, ст.-рус., ст.-слав. **поити**, польск. *poić*, чэш. *pojiti*, серб.-харв. *пòјити*, славен. *pojíti, pojim*, балг. *поя́* 'паю'. Праслав. *pojiti*. Фасмер (3, 304) асновай гэтага дзеяслова лічыць прасл. **pojь* 'напітак', які ад *піць* (гл.) з аблаутам у корані. Махэк (452) мяркуе, што ў прасл. была ўтворана дзеяслоўная аснова з *poj-*, г. зн. не абавязкова ад назоўніка.

**Пай**₁ 'доля, якая ўносіцца ў капітал якога-н. таварыства кожным яго ўдзельнікам' (ТСБМ); у дыялектах часцей *па́йка* 'тс', таксама 'надзел зямлі' (Сл. ПЗБ), 'шчасце, удача' (Бяльк.). Рус. *пай*, укр. *пай* 'тс'. Запазычанне з цюрк. моў: тур., крым.-тат., тат. *pai* 'частка, участак, пай' (Радлаў, 4, 1118; Міклашыч, 230; Праабражэнскі, 2, 5; Фасмер, 3, 187).

**Пай**₂ 'выбітае, вытаптанае месца (на лузе, у полі і інш.), *паёваць* 'талаваць, нішчыць' (ТС). Няясна. Відаць, да *пай*₁, праз значэнне 'участак зямлі'.

**Па́йда** 'пляткарка' (Жд. 2). Укр. *по́йда* 'жанчына, якая ўвесь час бегае з дому'. Бязафіксная ўтварэнне ад асновы буд. ч. *пайду, пайсці* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 35). У словаўтваральных адносінах параўн. яшчэ *знайда, пройда* (гл.).

**Па́йма** 'пасма' (Шат.), 'жменя' (Нар. сл., віц.), *па́ймачка* 'пучок ільну' (Сл. ПЗБ). Рус. сімб. *па́ймо* 'звязка нітак'. Аддзеяслоўны назоўнік ад *poj̨ęti, pojьmǫ* (гл. *узяць, вазьму*).

**Пайса́ць** 'паўторна малаціць каласы і дробную салому' (Сцяшк. МГ, КЭС, гродз.). Гл. *пойсаць*.

**Пайстком** 'дэталёва, падрабязна (расказаць)' (Шн. 2), 'шчыра' (Нар. сл., ушацк), *па-істачком (по-источком)* 'тс' (Мядзв.). Цёмнае слова. Варыянт *пайстком*, мабыць, скарачэнне слова, прыведзенага Мядзвецкім. Калі зыходзіць са словаўтваральнай структуры, то яно можа ўзыходзіць да рус. *точно, источно;* але канчатак указвае на першапачатковы назоўнік, накшталт **істочак*.

**Пак** 'стос або звязка пэўных прадметаў' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., ТС), 'скрыня, у якую ссыпаюць муку' (Інстр. I, Сл. ПЗБ), 'пенал' (Шат.). Праз польск. *pak, paka* з ням. *Packen, Pack* 'пакет, звязка', таксама як і рус. *пак* (аб апошнім гл. Фасмер, 3, 188). *Пакава́ць* з польск. *pakować*; дзеяслоў адзначаны ў ст.-бел.: *паковати*<ст.-польск. *pakować* (Булыка, Лекс. запазыч., 248).

**Пакаёўка** 'служанка, якая прыбірала пакоі і выконвала некаторыя іншыя работы' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). З польск. *pokojówka* 'тс'.

**Па́калак** 'невялікая палка, кусок ламачыны' (ТСБМ, абл.; Бяльк.; Нар. сл., дзярж., ушацк.). Рус. наўг. *па́колка* 'жэрдка, кол, вакол якіх кладуць стог', укр. *пакíл*, родн. скл. *поко́ла* 'калок'. Суфіксальны дэрыват (з суф. *-ак*) ад дзеяслова *пакалоць*<*калоць* (гл.).



**Пакале́нне** 'сваякі адной ступені роднасці ў адносінах да агульнага продка; людзі блізкага ўзросту, якія жывуць у адзін час' (ТСБМ, Шат.), *пакале́нне* 'продкі' (Сл. ПЗБ), *поколе́ньe* 'пакаленне' (ТС). Рус. *поколе́ние*, укр. *поколі́ння*, ст.-рус. *поколѣние* (XVII ст.), польск. *pokolenie*, чэш. *pokolení*, серб.-харв. *поколе́ње*, славен. *pokolȇnje*, балг. *поколе́ние* 'тс'. Да *калена* (гл.) (Махэк, 468).

**Па́каліска** 'перакладзіна' (Сл. ПЗБ, брасл.) Аўтары слоўніка (3, 337) параўноўваюць з літ. pagalis 'шост, кол', але, відаць, гэтае слова роднаснае *пакалак* (гл.) з інш. суф.

**Пака́місь** 'пакуль што, пакуль' (Янк. 3, Мат. Гом.; Нар. сл., стаўбц.). Мабыць, з рус. *пока́мест* 'тс', якое ад *пока* і *место* (гл. Фасмер, 3, 304).

**Па́касць** 'зло, дрэнь, паскудства' (Нас., Шат.), *па́косць* 'тс' (ТС). Агульнаславянскае: польск. *pakość*, чэш. *pakost'*, серб.-харв. *пȁкост* 'злоба' і г. д. Прасл. *pakostь*, першапачаткова 'зменлівасць, скажонасць', г. зн. тое, што ідзе наадварот, у адваротным кірунку. Параўн. ст. -слав. **опако, пакы**. Гл. Міклашыч, 224; Фасмер, 3, 189; Махэк, 489.

**Паква́ля** 'пачакаўшы' (Гарэц.), *пакво́льна* 'вольна', *пакво́лна* 'асцярожна, не спяшаючыся' (Шат.). Гл. *кволіць*₃, *кволы*.

**Пакга́уз** 'склад для захоўвання грузаў пры чыгуначных станцыях, партах і пад.' (ТСБМ). Праз рус. *пакга́уз* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 78) з ням. *Packhaus* (Фасмер, 3, 188).

**Паке́т** 'папяровы пакунак, скрутак з чым-н.' (ТСБМ). Праз рус. *паке́т* 'тс' з ням. *Paket*<франц. *paquet* (Крукоўскі, Уплыў, 78 і наст.; Фасмер, 3, 188).

**Пакетбо́т** 'марское паштова-пасажырскае судна' (ТСБМ). З рус. *пакетбо́т* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 83), дзе з англ. *packet-boot* праз гал. *pakket-boot* 'паштовае судна' (гл. Фасмер, 3, 188).

**Пакла́д, пакла́ды** 'залежы' (ТСБМ). З польск. *pokłady* 'тс'.

**Паклада́ць** 'кастрыраваць, лягчаць (пра жывёл)' (ТСБМ, Гарэц., Шат., Юрч., Янк. 1, Др.-Падб.). Гл. *выкласці, вылажыць*.

**Пакле́ска** 'палка для закручвання вяроўкі пры ўвязванні воза з дрывамі або бярвёнамі' (Шат.), *покле́со* 'жэрдка, пры дапамозе якой змацоўваюцца гонкі ў плыце' (ТС). Рус. смал. *паклёскі* 'крукі, дугі з бакоў саней'. Відаць, можна параўнаць са ст.-чэш. *oklestek*, дыял. *okleščеk* 'кавалак дрэва, палка', славен. *poklest* 'абчасаны бок паваленага дрэва', чэш. *proklésti* 'прасячы дарогу', *klest*, дыял. *chlest* 'хвораст, сучча'. Махэк (255) у якасці зыходнага дзеяслова ўзнаўляе *klestati* 'сячы', роднаснага *kresati* (гл. *крэсіва*). У якасці паралелей ён

прыводзіць літ. *sklempiù, sklempti, sklembti* 'тс'. Беларускія словы ўказваюць на **клесаць* 'рубіць, сячы', магчыма, гукаперайма́льнага характару (параўн. *клешчы*).

**Паклёп** 'ілжывае абвінавачванне' (ТСБМ, ТС). Нольсуфіксальнае вытворнае ад *паклёпнічаць*<*кляпаць*₂ (гл.).

**Па́кля** 'кароткае грубае валакно, непрыгоднае для пражы, якое адыходзіць пры апрацоўцы льну або канапель' (ТСБМ). З рус. *па́кля*; (дзе запазычанне з літ. *pàkulos* мн. л., лат. *pakulas* (Фасмер, 3, 189; там жа і інш. літ-ра). Параўн. *пакулле*.

**Пакля́плы,** *пакля́пслы* 'нахілены, крывы' (Сл. ПЗБ, глыб., вілен.). Гл. *клепы*.

**Пакні́саць, пакны́саць,** *пакнойсаць, пакнэ́йсаць* 'зрыць; экспр. 'пабоўтаць пераборліва лыжкай яду' (Сл. ПЗБ, гродз., воран.). Балтызм. Параўн. літ. *knìsti* 'раскопваць, разрыхляць зямлю (звычайна пра свінню)', ітэратыў *knãisoti, knistóti* 'тс' (гл. Лаўчутэ, Балтызмы, 46; там жа і інш. літ-ра).

**Пако́й**₁ 'спакой' (Нас., Бяльк.). Гл. *спакой*.

**Пако́й**₂ 'асобнае памяшканне для жылля ў кватэры, доме, адгароджанае сценамі, перагародкамі' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Янк. 2, Шат.). Агульнаслав. і прасл.. *pokojь* 'мір, цішыня' (гл. *спакой*); значэнне 'пакой' развілося ва ўсх.-слав. мовах, а таксама ў польск. і чэш., першапачаткова — аддзеленае памяшканне, дзе можна адпачнуць, мець спакой (гл. Махэк, 468).

**Пако́йнік** 'нябошчык' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк. МГ). Рус. *поко́йник*, укр. *покі́йнік*, серб.-харв. *по̀којнӣк*, славен. *pokojnik* 'тс'. Суфіксальнае вытворнае ад *пако́йны* 'нябошчык'<*пакой*₁.

**Пако́н** 'канец, сканчанне' (Нас., Бяльк.), 'пачатак (*іспакон*)' (Нас.). Ст.-рус. *поконъ* 'пачатак'. Да *кон*₃, *канаць* (гл.). Сюды ж *пако́нішча* 'могілкі' (Бяльк.).

**Пако́ст** 'спецыяльна апрацаваны алей або тлушч, якія прымяняюцца для прыгатавання алейных фарбаў, лекаў і пад.' (ТСБМ). З польск. *pokost* 'лак'. У польск. ад сяр.-ням. *koste* 'густая кісць', ням. дыял. *quästeln* 'маляваць пэндзлем, мазаць' (Бернекер, 582; Махэк, 469, Кюнэ, Poln., 84).

**Пако́т**₁ 'столь' (ДАБМ, 755), *поко́т, поку́т* 'столь, гара' (Шушк.), *поко́т* 'столь' (Тарнацкі, Studia) 'шчыт дома, які закладзены бярвеннем' (Шат.), 'жэрдкі, якія кладуць замест столі ў гумне ці на хляве' (Бяльк.), 'жэрдкі для ўмацавання саломы на страсе' (Сл. ПЗБ), *поко́т*, часцей *поко́ты* мн. 'лагі, па якіх закочваюць бярвенні на зруб (ТС). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *пакаці́ць*<*каціць* (гл.). Параўн. таксама *павал*.

**Пако́т**₂ 'кола' (Анімілле), *пакато́* 'тс' (Сл. ПЗБ), *пакатцо́* 'драўляная падстаўка круглай формы пад патэльню' (Сл. ПЗБ), *пакаты́* 'прыстасаванне для пагрузкі лесу' (Мат. Гом.). Да *каціць* (гл.).



**Пако́ша** 'скошаная сенажаць' (ТСБМ, Янк. 2). Укр. *поко́шинка* 'тс'. Ад *пакос*<*пакасіць*<*касіць* (гл.) з суф.-*ja* або ад дзеяслова *пакасіць* з тым жа суфіксам.

**Пакры́се** 'патроху, у невялікай колькасці, паступова, павольна' (ТСБМ, Др.-Падб., Гарэц., Шн. 3). Ад *па-* і *крыха* ў месн. скл.

**Пакт**₁ 'міжнародны дагавор, пагадненне, які мае звычайна вялікае палітычнае значэнне' (ТСБМ). З рус. *пакт* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 83), дзе праз еўрапейскія мовы (параўн. ням. *Pakt*) з лац. *pactum* 'дагавор'.

**Пакт**₂ 'арэндны гандаль малочнай гаспадаркай' (Мядзв.), 'малочная гаспадарка' (Яруш.), 'малачарня' (Сл. ПЗБ), *пакта́р* 'арандатар памешчыцкай скаціны для гандлю малочнымі прадуктамі' (Шн. 2). З ням. *Pacht, Pächter* 'тс' праз польскае пасрэдніцтва (гл. Шн. 2, 288). Ням. з лац. *pactum* (гл. *пакт*₁) (Брукнер, 391).

**Па́кулле** 'тое ж, што і пакля' (гл.) (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Шат., Касп., Бяльк., Мат. Гом.), *па́куль* (ТС), *па́куля* (Гарэц.), *па́кула, па́кулле, паку́лле, па́куль* (Сб. ПЗБ), *па́кула* (Нар. сл., ушацк.) 'тс', *па́куль* 'пакулле; апрацаваны лён або каноплял' (Влад.). Крыніцай бел. слова з'яўляецца літ. *pãkulos* 'пакулле', лат. *pakulas* 'тс' (Карскі, Белорусы, 135; Лаўчутэ, Балтызмы, 18 і наст.; там жа гл. падрабязны агляд літ-ры).

**Паку́ль** прысл. і злучн. 'на працягу некаторага часу, нейкі час' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Бяльк., Грыг., Мал., Сл. ПЗБ), *покéль, пако́ль* (Сл. ПЗБ), *поку́ль, поку́ля, поку́лека* (ТС), *паку́лiцька* (Гарэц., Юрч.) 'тс'. З *па-* і *калі* (гл.) з рознымі памяншальнымі часціцамі.

**Паку́нак** 'прадмет або некалькі прадметаў, загорнутых у адзін пакет' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Шат., Сл. ПЗБ). З польск. *pakunek* 'тс' (Гіст. лекс., 260).

**Паку́та** 'вялікая фізічная або душэўная мука; мучэнне' (ТСБМ, Гарэц., Шат., Яруш., Мядз., Бяльк., Касп., Грыг., Нік. Очерки), *поку́та* 'тс' (Клім.). З польск. *pokuta* 'тс' (Карскі, Белорусы, 146; Кюнэ, Poln., 88). Ст.-бел. *покута* 'пакута, пакаянне', 'раскаянне'<ст.-польск. *pokuta* (Булыка, Лекс. запазыч., 186).

**Паку́цце** 'покут' (Шат.). З польск. *pokucie* 'тс'. Параўн. *покут*.

**Пал** 'страсць, заўзятасць'; абл. 'павышаная тэмпература цела пры хваробе; гарачка' (ТСБМ), 'спёка' (Касп.), 'гарачка' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.). Рус. *пал* 'стэпавы, лясны пажар'. Бязафіксны дэрыват ад *паліць* (гл.) (Фасмер, 3, 190).

**Пала́** 'крысо; кавалак тканіны ў натуральную шырыню (як саткана); полка'. Рус. *пола́*, укр. *пола́*, ст.-рус. *пола* 'кава-

лак тканіны, заслона', балг. *пóла* 'крысо'. Прасл *pola*. Ад *пол* 'старана, палавіна' (гл.) (Праабражэнскі, 2, 90; Фасмер, 3, 306).

**Палабізавáць** 'лізнуць, паласавацца трошкі' (Нар. лекс., полац.). Гл. *лабзаваць*.

**Палавéць** 'паспяваць (аб жыце, аўсе і пад.)' (Ант. 'бел. нар. песні, 170), *половéты* 'тс' (Выг.). Рус. *половéть* 'тс'. Да *палавы*₁ (гл.).

**Палавік**₁ 'вузкі доўгі дыванок з грубай тканіны, які рассцілаецца на падлозе' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Рус. *половик* 'тс'. Суфіксальнае ўтварэнне ад *палавы*<*пол*₂ (гл.).

**Палавік**₂ 'андарак' (ДАБМ, 934). Да *палá* (гл.).

**Палавóддзе** 'паводка' (Грыг.), *полівóдзь* 'мелкаводдзе на разлівах' (ТС). Рус. *половóдье*, укр. *половíддя* 'тс'. Ад *полый* (гл.) і *вада* (Фасмер, 3, 312).

**Палавы́**₁ 'які мае бледна-жоўты колер' (ТСБМ, Гарэц., Мал., Сцяшк. МГ, Бяльк., Булг., Нар. сл.), *половý* 'тс' (ТС). Рус. *полóвый, половóй* 'бледна-жоўты, бляклы', укр. *полóвий* 'жоўты, чырвона-жоўты', ст.-рус. *половъ* 'бледна-жоўты, бляклы', ст.-слав. **плавъ**, польск., в.-, н.-луж. *płowy* 'бляклы, саламяны', чэш., славац. *plavý* 'бляклы, буланы, бледна-жоўты', серб.-харв. плав, *плáва, плáво* 'блакітны, светлавалосы', славен. *plàv, pláva* 'блакітны', балг. *плав* 'бледна-жоўты'. Прасл. *polvъ*. Роднасныя літ. *pal̃vas* 'буланы, бледна-жоўты', ст.-в.-ням. *falo* 'бляклы, бледны, светлавалосы', ст.-інд. *palitás* 'стары, сівы', *palitám* 'сівыя валасы', грэч. πολιός 'шэры', лац. *pal-leō* 'бледны', *pallidus* 'бледны' і інш. (Траўтман, 205; Вальдэ-Гофман, 2, 239; Фасмер, 3, 313; у Фасмера гл. і інш. літ-ру).

**Палавы́**₂ 'хлеб, у якім палова жытняй мукі' (Касп.), *поло-вэ́й* (хлеб) 'тс' (Шн. 3, Нік. Очерки). Ад *пол-, палова* (гл.).

***Палáдак,** *полáдок* 'добры стан спраў, лад', *полáдком* 'ладам, па-добраму' (ТС). Афіксальны дэрыват ад *паладзіць* 'наладзіць'<*ладзіць* (гл.).

**Паладзін** 'доблесны рыцар, адданы свайму гаспадару або даме' (ТСБМ). З рус. *паладин* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 79), дзе праз ням. *Paladin* ад італ. *paladino* з лац. *palatīnus* 'дварцовы саноўнік' (Фасмер, 3, 190).

**Палажніца** 'парадзіха' (Сл. ПЗБ). З польск. *położnica* 'тс'.

**Палакáць** 'паласкаць' (Сцяшк. МГ, Бір. Джярж., Сл. ПЗБ), *полокáць* (ТС). Укр. *полóкати,* ст.-слав. **плакати,** польск. *płukać*, в.-луж. *płokać*, чэш. *plákati, pláchati*, славац. *plákat'*, серб.-харв. *плáкати, плáчём* 'паласкаць, абмываць', славен. *plákati* 'прапаласкваць', балг. *плакнá* 'паласкаю'. Прасл. *pol-kati*. Фасмер (3, 315) дапускае гукаперайм альнае паходжанне, як і ў *паласкáць* (гл.). Параўн. яшчэ Махэк₂ (453), які ўказвае на першапачатковае значэнне 'біць (сябе ў грудзі)'. Сувязь



з рус. *плохой* і *плакаць* (гл. Праабражэнскі, 2, 96) лічыцца сумніцельнай.

**Палáклі,** *полáклі* мн. 'тарка для бульбы' (З нар. сл., палес.). Няясна. Мабыць, скажоная або кантамінаваная форма.

**Паламя́нка** 'спечаная булка' (Сл. Брэс.), *палымя́нка* 'блін' (Мат. Гом.). Да *пóлымя*. Параўн. *падпалóнік*.

**Паланéз** 'урачысты бальны танец, які вядзе пачатак ад польскага народнага танца; музыка гэтага танца' (ТСБМ). З рус. *полонéз* (Крукоўскі, Уплыў, 84). Крыніцай рус. слова з'яўляецца фран. *polonaise* 'тс' ад *polonais* 'польскі' (Фасмер, 3, 315).

**Паланіна** 'горная паша з лугавой расліннасцю ў верхнім поясе Карпат і некаторых горных хрыбтоў Балканскага паўвострава' (ТСБМ). З укр. *полонина* 'тс'. Агульнаслав. і прасл. *polnina*; польск. płonina, чэш. *planina* і г. д. Роднасныя *поле* (гл.) і ст.-рус. **полъ** 'адкрыты, вольны, пусты' (гл. Фасмер, 3, 307 і наст.; Махэк₂, 454; Брукнер, 422). Агляд семантыкі і літаратуры гл. Талстой, Геогр. терм., 79 і наст.

**Палáнкі**₁ 'маленькія ночвы для ачысткі крупы, апалушкі' (Шат., Бяльк., Касп., Янк. 2—3, Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *палáйкі* (Шат.), *пылáнкі* (Бяльк.) 'тс'. Да *палаць*₂ (гл.).

**Палáнкі**₂ 'адыходы пры веянні круп' (Бяльк.). Да *палаць*₂ (гл.).

**Паланкін** 'крытыя насілкі, якія служаць экіпажамі ў некаторых краінах Усходу і Паўднёвай Амерыкі' (ТСБМ). Праз рус. *паланкин* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 79), з зах.-еўрап. моў (параўн. ням. *Palankin*, франц. *palanquin*); слова інд. паходжання (гл. Фасмер, 3, 190).

**Паланцін** 'жаночая накідка ў выглядзе шырокага шаля з футра або аксаміту' (ТСБМ). З рус. *палантин* (уст. *палатин*) 'тс'<франц. *palatine* ад *palatin* прым. 'пфальцскі', таму што гэта ўпрыгожанне было ўвезена ў Францыю пры Людовіку XIV з Пфальца (гл. Фасмер, 3, 190).

**Палáс** 'двухбаковы дыван без ворсу' (ТСБМ). Праз рус. *палáс* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 73 і наст.) з перс. *palās* 'тс' (ССРЛЯ, 9, 329).

**Паласá** 'тонкі, доўгі кавалак якога-н. матэрыялу (металу, тканіны, паперы і пад.); доўгая, параўнальна вузкая частка якой-н. прасторы, паверхні, якая вылучаецца чым-н.' (ТСБМ, Нас.), *полосá* 'тс' (ТС), *палóска* 'шнур зямлі',*палóсна* 'палосамі' (Бяльк.), *палазá* 'паласа' (Сл. ПЗБ), *полосá* 'назва меры мяса, сала' (КЭС, слуц.). Агульнаслав. (рус., укр. *полосá* 'паласа', польск. *płosa* 'палоска зямлі, поле', серб.-харв. *плȁса* 'кавалак лёду, пляма' і г. д. Прасл. *polsa*. Роднасныя с.-н.-ням. *falge*, 'поле пад парам', бав. *falg*, англ.-сакс. *fealg*, англ. *fallow*, с.-в.-ням. *valgen* 'пераворваць', гальск.-лац. *olca* 'зямля, пры-

годная пад раллю' (гл. Фасмер, 3, 315). Іншыя версіі лічацца менш верагоднымі: роднасць з літ. *pàlšas* 'бляклы' (Міклашыч, 256), або з *полаз, пайзці* (Праабражэнскі, 2, 96).

***Паласаза́р,** *полосоза́р* 'сузор'е Плеяды' (ТС). Відаць, з *Валасажар* 'тс', якое было зближана і кантамінавана з *паласа* і *зорка*.

**Паласка́ць** 'прамываць, абмываць; развяваць што-н., хлопаць чым-н. (пераважна пра вецер)'. Агульнаслав.: рус. *полоска́ть*, укр *полоска́ти*, ст.-рус. *полоскати*, ц.-слав. *плаċкати* 'тс', польск. *płoskuny* 'нянасце', чэш. *pláskati* 'хлопаць, матляць, махаць', славац. *pl'as(k)nut'* 'хлопнуць', славен. *plâskati* 'хлопаць, біць, шумець, крычаць'. Прасл. *polskati* Этымалогію гл. *палакаць*. Паралелі з балт. моў: лат. *palce* 'месца для купання; дажджавы паток', *pal̃ts* 'дажджавы паток' (магчыма, з **palcs*) (Мейе — Эндзелін, 3, 57, 63).

**Паласну́ць** 'моцна ўдарыць, пакінуўшы след, рану (звычайна чым-н. рэжучым)' (ТСБМ, Мядзв., Др.-Падб., Юрч.). Рус. *полосну́ть* 'ударыць нажом'. Гараеў (Доп. 2, 29) і Кіпарскі (ВЯ, 1956, 5, 136) узводзяць да *паласа* (гл.) (гл. яшчэ Фасмер, 3, 315).

**Пала́та** 'вялікія пышныя пакоі ў палацы, харомы; асобны пакой, дзе ляжаць хворыя ў лячэбных установах' (ТСБМ). Рус., укр. *пала́та*, ст. -рус. *полата* (XI ст.), ст. -слав. **полата** 'палац, пакой, шацёр'. З сяр.-грэч. *παλάτιον* ад лац. *palātium* 'палац' (гл. Фасмер, 3, 307; тут жа гл. і агляд літ-ры). У значэннях 'назва заканадаўчых або прадстаўнічых устаноў', 'назва некаторых дзяржаўных устаноў' запазычанне з рус. *палата* 'тс'.

**Пала́тка** 'часовае, звычайна лёгкае памяшканне з непрамакальнай тканіны або скуры; лёгкая пабудова з прылаўкам для дробнага гандлю' (ТСБМ). Рус. *пала́тка* 'палатка; асобнае месца ў складзе; падсобнае памяшканне над крамай і інш.' Да *палата* (Фасмер, 3, 190). Гродз. *пала́тка* 'брэзент' (Сцяшк. МГ), відавочна, скарачэнне з *плашч-палатка*.

**Пала́ткі₁** 'насціл з дошак паміж печчу і процілеглай сцяной (на даволі высокім узроўні ад падлогі)' (ТСБМ, Нас., Шат., Чачот, ТС, Арх. ГУ рагач., Янк. 1, Сл. ПЗБ), 'вышкі ў хляве' (Шушк., П. С., Мат. Гом.), 'насціл з дошак у гумне, лазні' (Сл. ПЗБ), 'падмосткі пад стог' (ДАБМ, 877), 'падстаўка пад вулей' (Сл. ПЗБ), *пала́тачкі* 'жэрдкі ў сушні, на якія рассцілаюць лён для сушкі' (Мат. АС Гродзен.). У гэтай форме (мн. л.) толькі беларускае. Параўн. рус. сарат. *пола́тка* 'дошка, прыбітая рабром да сцяны; паліца ў шафе'. Этымалогію гл. *пала́ці*.

**Пала́ткі₂** 'вяроўкі, на якіх носяць сена' (Жд. 2). Да *лата₁* (гл.).



**Палатно́** 'гладкая льняная тканіна асобага перапляцення (звычайна белая), а таксама баваўняная, шаўковая ці сінтэтычная тканіна падобнага перапляцення; вялікі шырокі кавалак якой-н. тканіны'. Агульнаславянскае (рус., укр. *полотно́*, ст.-рус. *полотно*, польск. *płotno*, серб.-харв. *пла̏тно* і г. д.) і праславянскае *poltьno*. Роднасныя ст.-інд. *paṭas* 'палатно, адзенне, пакрывала, карціна', сяр.-в.-ням. *valte, valde* 'тканіна для абгортвання адзення', алб. *palë* 'складка, рад' (гл. Фасмер, 3, 316; там жа і агляд літ-ры). Сувязь са ст.-слав. **платъ** (Праабражэнскі, 2, 97) лічыцца няпэўнай (Фасмер, там жа; Махэк₂, 455).

**Палаўня́** 'дошка на падлогу', *палаўня́к* 'палавіна бервяна' (Мат. Гом.). Да *палова₁* (гл.).

**Пала́ц** 'вялікі, раскошны, багаты будынак'. З польск. *pałac* 'тс' (Кюнэ, Poln., 86), якое праз італ. *palazzo* з лац. *palātium* (Брукнер, 392). Ст.-бел. *палацъ, полацъ*<польск. *pałac* (Булыка, Запазыч., 234).

**Палацэ́нца** 'ручнік' (Бяльк., Мат. Гом.), *палацэ́нка* 'тс' (Сл. ПЗБ), *палацэ́нка, палацэ́нцо* 'ручнік; памянш. да *палатно*' (Сл. ПЗБ). Рус. *полоте́нце* 'ручнік'. Да *палатно* (гл. Фасмер, 3, 316).

**Пала́ці** 'палаткі' (ТСБМ, Нас., Касп., Бяльк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, калінк.), *пала́ты* 'полка ў лазні' (Сл. ПЗБ), *пала́ць* 'палаткі' (Мат. Гом.). Рус. *пола́ти* 'палаткі; гара; вышкі; лабаз; падмосткі', ст.-рус. *полати* 'хоры ў царкве; верхнія падсобныя памяшканні; палаткі', *пола́ть* 'палаці'. Фасмер (3, 307) лічыць яго словам таго ж паходжання, што і *палата* (гл.). Адрозненні ў семантыцы, відавочна, пад уплывам *пол, полка, паліца* (гл.). Бел. *палаці*, лічачы па крыніцах, прымыкае да рус. моўнай тэрыторыі, таму, магчыма, з рус. *полати*. Параўн. *палаткі*.

**Пала́ць₁** 'гарэць яркім полымем; ярка свяціцца' (ТСБМ, Нас., Яруш., Шат., Касп., ТС, Сл. ПЗБ). Польск. *pałać* 'тс', чэш. *plapolati* 'гарэць, палымнець'. Роднасныя *паліць, полымя* (гл.). Гл. таксама Махэк₂, 429 і наст.

**Пала́ць₂** 'ачышчаць абмалочанае або абтоўчанае зерне ад мякіны і пылу пры дапамозе маленькіх начовак' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, Шн., Мат. Гом.), *пола́ць* (Выг.), *пало́ць* 'тс' (Нар. лекс.). Рус. *пола́ть, пола́ю* 'веяць зерне', укр. *пала́ти* 'тс', польск. *pałać, opałac* 'веяць', в.-луж. *płoć, płoju* 'тс', н.-луж. *hopałka* 'веялка', славац. *opalat'* 'веяць зерне; махаць, калыхацца, гойдацца', славен. *pláti, poljem* 'хістаць, калыхаць'. Махэк (429) адрознівае ў прасл. *polti, poljǫ* (параўн. славен. і луж. формы) і *palati, palajǫ*. Роднаснымі лічацца *палова, палоць* (Фасмер, 3, 307), а таксама літ. *pìlti, pilù* 'ліць, сыпаць' з іншым вакалізмам (гл.

Траўтман, 213). Аб бел. слове гл. яшчэ Выгонная, Лекс. Палесся, 80.

**Пала́ш** 'халодная зброя, падобная на шаблю, толькі з прамым і шырокім лязом, вострым з абодвух бакоў' (ТСБМ). Ужо ст.-бел. *палашъ* (XVI ст.)<польск. *pałasz* (Булыка, Запазыч., 234). Крыніцай польск., таксама і ў інш. мовах (рус. *пала́ш*, ням. *Pallasch*) з'яўляецца венг. *pallos*, утворанае ад тур. *pala* 'меч' (Брукнер, 392; Фасмер, 3, 191).

**Па́левы** 'бледна-жоўты з ружовым адценнем' (ТСБМ). Праз рус. *па́левый* 'тс' з франц. *paillé* 'саламянага колеру, бледна-жоўты' ад *paille* 'салома' (Фасмер, 3, 191; там жа і інш. літ-ра). На думку Праабражэнскага (2, 7), рус. з фран. *pâle* 'бледны'.

**Пале́й** 'падпальшчык' (ТС). Укр. *палі́й* 'тс'. Ад *палі́ць* з прасл. суф. *-ějь* (параўн. SP, 1, 86).

**Пале́йка** 'расл. дуброўка, Veronica chamaedrus L.' (Кіс.). Рус. *поле́й* 'расл. Mentha Pulegium', укр. *полі́й* 'тс'. Ва ўсх.-слав. мовах праз польск. *polej* з ням *Polei* ад лац. *pulēium* (Міклашыч, 255; Фасмер, 3, 308; Брукнер, 429).

**Пале́міка** 'спрэчка ў друку, на дыспуце, сходзе, пры абмеркаванні якіх-н. пытанняў' (ТСБМ). Праз рус. *поле́мика* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 78) ад грэч. πολεμικός 'ваяўнічы'< πόλεμος 'вайна' (ССРЛЯ, *10*, 129).

**Пале́на** 'адпілаваны або адпілаваны і рассечаны кавалак бервяна на паліва' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *поле́но* (ТС, Шушк.), *пале́нне* 'тс' (Шат.). Агульнаслав. (рус. *поле́но*, укр. *полі́но*, ст.-рус., ц.-слав. *полѣно*, польск. *polano*, чэш., славац. *poleno*, славен. *poléno*, балг. *полено*) і прасл. *polěno*. Лічыцца звязаным з дзеясловамі з коранем *pol-* 'палаць, гарэць' (ст.-рус. *полѣти*, чэш. *poleti* і г. д.) і далей, з *палі́ць*, *полымя* (гл.) (Міклашыч, 235; Траўтман, 212; Фасмер, 3, 308). Па іншай версіі (Праабражэнскі, 2, 103; Махэк, 469), вытворнае ад *пол* 'палавіна', г. зн. 'палавіна, рассечаны на дзве палавіны кавалак ствала'. Атрэмбскі (гл. Фасмер, там жа), параўноўвае з літ. *liepsnà* 'полымя'.

**Пале́нік** 'тоўсты блін' (Касп.). Да *палі́ць* (гл.). Параўн. *паляні́ца*.

**Пале́так**₁ 'участак поля, які выкарыстоўваецца пад пасевы' (ТСБМ), *пылетак* 'тс' (Бяльк.), *пале́так*, *поле́ток*, *полі́ток*, *полі́еток* 'палетак; адна з трох частак ворнай зямлі пры трохпольлі' (Сл. ПЗБ). Польск. *poletek* 'тс'. Краўчук (Бел.-укр. ізал., 38) супастаўляе з укр. гуц. *полі́ток* 'паланіна, якая здаецца ў арэнду на лета' і ўзводзіць бел. яцевыя формы да *polětъkъ*<*lěto*. Неяцевыя формы, на яго думку, запазычаны з польск. *poletek*, ст.-польск. *poletek*< *polьtъkъ* ад слав. *polьtъkъ* 'палова'.

**Пале́так**₂ 'аднагодак' (Бяльк.). Да *ле́та* (гл.).



**Пале́тнік** 'сезоннік' (Мат. Гом.). Да *ле́та* (гл.).

**Па́лец** 'адзін з пяці канцавых частак кісці рукі або ступні ў чалавека; канечны член на лапах жывёл і птушак; валік або стрыжань у машынах'. Агульнаслав.: рус. *па́лец*, укр. *па́лець*, ст.-рус., ц.-слав. *пальць*, польск. *palec*, славен. *pâlec* 'вялікі палец' і г. д. Прасл. *palъ*>*palьcь*. Роднаснымі лічацца лац. *pollex*, *-icis*' вялікі палец (на руцэ, назе)' (падваенне *l* у выніку экспрэсіўнага характару), далей нов.-перс. *pālidan* 'шукаць, ісці па слядах', балг. *па́лам* 'шукаю', ст.-в.-ням. *fuolen* 'адчуваць' (Фасмер, 3, 191; Махэк, 429; у Фасмера, гл. агляд літ-ры).

**Пале́шня** 'паляванне' (Сл. ПЗБ). Рус. *поле́сня*, *поле́шня* 'паляванне, паляўнічы промысел'. Ад **палесаваць* (ср. рус. *полесова́ть*) 'паляваць'<*лес* (гл.). Параўн. *паляванне*<*поле*.

**Палі́ва** 'шклопадобная маса, якой пакрываюць керамічныя вырабы' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Мядзв., Грыг., Шат., Сл. ПЗБ), *полі́ва* 'паліва, палуда' (ТС). Рус., укр. *поли́ва*, польск. *polewa*, чэш., славац. *poleva* 'тс'. Аддзеяслоўнае вытворнае ад *паліваць*<*ліць* (гл.).

**Па́лік** 'вешка, калок' (Сл. ПЗБ, ТС, Сл. Брэс.), 'меткадошчачка з надпісам, каму адведзен участак для апрацоўкі' (Сцяшк. Сл.), *палі́к* 'тс' (Шат.). З польск. *palik* 'тс', якое ад *pal* 'паля' (Брукнер, 391). Параўн. *паля*.

**Палі́к** 'наплечнікі (вытканыя або вышытыя) у кашулі' (Гарэц., Некр., Др.-Падб., Яруш., Бяльк.), *палікі́* 'тс' (Некр., Касп., Тарнацкі, Studia), *палікі́* 'гестка' (Жд. 2), *палі́к* 'гестка' (Сл. ПЗБ), *палікі́* 'вышытыя часткі кашулі, кофты' (Мат. АС, быx.), *па́лік* 'частка тканіны, якая ўстаўляецца пад пахай кашулі' (Касп.), *палики* 'тс' (Шн. 3.), *па́лік* 'пройма' (Мат. Гом.). Рус. дыял. *полика́* 'наплечнікі кашулі, наплечныя ўпрыгожанні на кашулі', укр. *пола́к* 'тс'. Няясна. Спроба этымалогіі Праабражэнскага (2, 83) — ад *эпалет* (гл.) — зусім непрымальная.

**Палікліні́ка** 'лячэбная прафілактычная ўстанова' (ТСБМ). Праз рус. *поликли́ника* з ням. *Polyklinik* 'тс'<грэч. πολις 'горад' і κλινικη 'лячэнне' (Гл. ССРЛЯ, 10, 990).

**Паліраваць** 'апрацоўваць паверхню чаго-н., каб надаць ёй люстрана-гладкі выгляд' (ТСБМ). Ст.-бел. *полеровати* 'тс' (XVI ст.)<польск. *polerować*<ням. *polieren* 'тс' (Булыка, Запазыч., 251). Для сучаснага бел. *паліраваць* магчыма і рус. пасрэдніцтва. Рус. *полирова́ть*<ням. *polieren* з франц. *polir*, лац. *polire* 'тс' (гл. Фасмер, 3, 309).

**Палі́са́д**, *палі́са́днік* 'невялікі абгароджаны кветнік, садок перад домам' (ТСБМ), *палі́са́да* 'дрэвы, якімі абсаджана дарога і алея' (Сцяш. Сл., Сл. ПЗБ), *палі́са́днік* 'палісаднік' (Бяльк., Сл. ПЗБ), *палуса́днік* 'агародчык, кветнік' (Мат. Гом.). З рус. *палиса́д*, *палиса́дник* 'тс'. Крыніца рус. слова франц. *palissade*

з праванс. *palissada* 'тс' ад *palissa* 'частакол', *pālus* 'кол' (гл. Фасмер, 3, 192). *Палісада*<польск. *palisada* 'частакол'.

**Палісáндр** 'каштоўная цвёрдая цёмна-ружовая або чырванавата-карычневая драўніна некаторых трапічных дрэў' (ТСБМ). З рус. *палисáндр*<франц. *pallisandre* (ССРЛЯ, 9, 62).

**Палíта,** *полíта* 'гліняны паліваны гаршчок для масла' (Сл. Брэс.; З нар. сл., палес.). Субстантываваная форма залежнага дзеепрыметніка на *-т-* ад *паліць* 'паглузараваць'<*ліць* (гл.).

**Палітó** 'верхняя вопратка, звычайна ніжэй каленаў, якая апранаецца на сукенку, касцюм і пад.' (ТСБМ, Касп., Бяльк.), *пáліта* (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), *палітóн* (ТСБМ), *пальтон* (Сл. Брэс.), *пальтóцік* (Сл. ПЗБ) 'тс'. З польск. *palito, palton, paleton, paltocik,* якія ўзыходзяць да франц. *paletot*<ісп. *palletoque* 'плашч з капюшонам'<лац. *palla* 'верхняе адзенне' (гл. Праабражэнскі, 2, 10; Брукнер, 392; Фасмер, 3, 194). Параўн. *пальто.*

**Палíтра** 'дошчачка, пласцінка з выразам для вялікага пальца, на якой мастак расцірае і змешвае фарбы' (ТСБМ). З рус. *палúтра* (Крукоўскі, Уплыў, 85); у рус. мове праз ням. *Palette* або франц. *paletta* з італ. *paletta* 'тс'<лац. *pāla* 'лапатка' (Мацэнауэр, 268). Няясным застаецца элемент-*тра;* Праабражэнскі, (2, 9) спрабаваў тлумачыць яго ўплывам *макітра;* Фасмер (3, 192) лічыць, што ён быў у раманскіх мовах.

**Палíтыка** 'грамадская дзейнасць, барацьба, у якой адлюстроўваюцца карэнныя інтарэсы класаў і іх узаемаадносіны; дзейнасць дзяржавы ў галіне ўнутранага жыцця і міжнародных адносін' (ТСБМ). З рус. *полúтика* (Крукоўскі, Уплыў, 78), або хутчэй праз польск. *polityka,* якое з'яўляецца і крыніцай рус. слова, з лац. *(ars) politika,* грэч. πολιτική ад πόλις 'горад' (гл. Фасмер, 3, 310).

**Пáліца** 'цяжкая дубіна з патоўшчаным канцом, якая ў старажытныя часы служыла зброяй' (ТСБМ). Рус. *пáлица,* укр. *пáлиця,* ст.-рус., ст.-слав. **палица,** польск. *palica* 'палка', чэш. *palice* 'дубінка', славац. *palica* 'палка, дубінка, тросць', серб.-харв. *пȁлица* 'палка; посах; палена', славен. *pálica* 'палка; посах; перакладзіна', балг. *палица* 'паліца'. Прасл. *palica* (SP, 1, 99). Махэк$_2$ (420) праславянскім лічыць *pala* (параўн. польск. і чэш. дыял. *pala* 'палка'). Далейшую этымалогію гл. *палка.*

**Палíца** 'дошка або некалькі дошак, прымацаваных да сцяны або ўнутры шафы для размяшчэння кніг, посуду і інш.; частка плуга, якая аддзяляе і пераварочвае падрэзаны лемяшом пласт зямлі, адвал; прыстасаванне ў некаторых сельскагаспадарчых машынах' (ТСБМ, Шат., Бяльк., Бір. Дзярж.), *полíца* 'тс' (ТС), 'полка' (Гарэц., Шпіл., Мал., В. В., Грыг., Мядзв., Федароўскі, VI), *полíца* 'полка; насценная шафка' (Шушк.), *полúця* 'полка' (Бяс.), 'адвал (плуга)' (Сцяшк. МГ, Тарнацкі, Studia). Агульнаслав.: рус. *полúца,* укр. *полúця,* ст.-рус., ц.-слав. *полица,* польск., славац., н.-луж. *polica,* в.-луж. *polca,* чэш. *police,* серб.-харв. *пòлица* 'насценная планка', славен. *polica* 'дошка ў сцяне; адвал плуга', балг. *полúца* 'полка, карніз'. Прасл. *polica.* Ад *пол* (Фасмер, 3, 310). Далей гл. *пóлка.*



**Палíцыя** 'у дарэвалюцыйнай Расіі і капіталістычных краінах сістэма асобых органаў дзяржаўнага апарату для аховы існуючага парадку' (ТСБМ). Праз рус. *полúция* або польск. *policja* з ням. *Polizei* ад лац. *politīa*: грэч. πολιτεία. У рус. мове таксама праз польскае пасрэдніцтва (гл. Праабражэнскі, 2, 93; Фасмер, 3, 310).

**Палíць** 'знішчаць агнём, спальваць; распальваць і падтрымліваць агонь у печы, пліце і пад.; моцна пячы, абдаваць жарам, прыпякаць'. Агульнаслав. (рус. *палúть,* укр. *палúти,* ст.-рус., ст.-слав. **палити,** польск. *palić,* серб.-харв. *пȁлити* і г. д.) і прасл. *paliti.* Звязана чаргаваннем галосных са ст.-слав. **полѣти** 'палаць, гарэць' (параўн. *палаць*). Далейшыя сувязі гл. *попел, полымя.*

**Палішынéль** 'камічны персанаж французскага народнага тэатра' (ТСБМ). Праз рус. *полишинéль* з франц. *polichinelle* ад італ. *Pulcinella* 'імя аднаго з персанажаў камедыі масак' (Фасмер, 3, 311).

**Паліятыў** 'лякарства або іншы сродак, які дае часовую палёгку хвораму; сродак, які дае часовы выхад з цяжкага становішча' (ТСБМ). Праз рус. *палиатúв* 'часовы сродак', дзе праз ням. *Palliativ* або франц. *palliatif* 'тс'<лац. *palliāre* 'пакрываць, ахінаць'<*pallium* 'плашч' (Гл. Фасмер, 3, 192).

**Пáлка** 'частка тонкага ствала або галіны, ачышчаная ад парасткаў'. Рус., укр. *пáлка,* ст.-рус. *палъка,* польск. *pałka* 'тс'. Пэўнай этымалогіі няма. Корш (у Праабражэнскага, 2, 9) мяркуе аб запазычанні са ст.-в.-ням. *pfâl* 'кол'<*лац. pālus* 'тс'. Фасмер (3, 193) адхіляе гэту думку з-за розніцы ў значэнні, прыводзіць супастаўленне Младэнава (409) са ст.-в.-ням. *spaltan* 'расколваць', ст.-інд. *sphāṭayati* 'ён расколвае', *phálakam* 'дошка', *phálati* 'лопацца, трэскацца'. Іншыя версіі аб роднаснасці з *паліць* (Махэк, 429), таму што палкам надавалі цёмны колер з дапамогай агню ці таму што яны выкарыстоўваліся як паліва (Праабражэнскі, 2, 9 і наст.), і з *палец* (Брукнер, 391) менш верагодныя.

**Пáлкі** 'прасякнуты моцным пачуццём, уздымам, натхненнем; вельмі страсны, гарачы' (ТСБМ), 'палкі, гаручы' (Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), 'горкі' (Мат. Гом.). Да *палáць, палíць* з суф. *-к-.*

**Палкóўнік** 'афіцэрскае званне або чын' (ТСБМ). З польск. *pułkownik*<*pułk* 'полк', як і рус. *полкóвник* (гл. Брукнер, 448; Фасмер, 3, 311).

**Палóва**$_1$ 'адна з дзвюх роўных частак чаго-н.; сярэдзіна якой-н. адлегласці, прамежку часу і пад.; асобная частка жылога памяшкання', *палавíна* 'тс'. Рус. *полóва, половúна*, укр. *половúна*, ст.-рус. *половина*. *Палова* ад прасл. *polъ* (аснова на *й*), дзе *-ов-* з ускосных склонаў з далейшым расшырэннем суфіксам-*ін-* (гл. Фасмер, 3, 312).

**Палóва**$_2$ 'рэшткі, якія застаюцца пры абмалоце збожжа і ачыстцы зерня; мякіна' (ТСБМ, Бяльк., Інстр. I), *полóва* (Выг., Бяссон.). Агульнаслав.: рус. *полóва*, укр. *полóва*, ст.-слав. **плѣвы**, польск. *plewa*, в.-луж. *pluwa*, н.-луж. *plowa*, чэш. *pléva, pleva*, славац. *pleva*, серб.-харв. *пљѐва*, славен. *pléva* 'палова', балг. *пля́ва* 'салома; назва Млечнага Шляху'. Прасл. *pelva* і *peleva* (рус. *пелёва*). Роднасныя ст.-прус. *pelwo* 'палова', ст.-літ. *pẽlūs* 'тс', лат. *pęlus, pęlavas, pęlęvas, pèlvas* 'тс', ст.-інд. *palā̆vās* мн. 'палова', лац. *palea*<**palēva* 'тс' (гл. Траўтман, 213; Мейе — Эндзелін, 3, 198; Фасмер, 3, 312, у яго ж гл. і інш. літ-ру; Махэк, 459, Выгонная, Лекс. Палесся, 80 і наст.). Далей гл. *палоць*.

***Палóгі** 'слаба спрадзены' (Влад.). Да *пóлаг* (гл.).

**Палóй** 'вада, якая з'яўляецца ў час адлігі над лёдам, верхаводка' (Бір. Дзярж.), 'лівень' (Сл. ПЗБ). Рус. *полóй* 'глыбокая лагчына, дзе ў паводку застойваецца вада', укр. *полíй* 'верхаводка, вада над лёдам', ст.-рус. *полой* 'глыбокая прырэчная лагчына, дзе ў паводку застойваецца вада; рукаў ракі', серб.-харв. *пóлōј* 'пойма; мелкае месца, мель; перакат'. Прасл. *polojь*. Ад *politi*<*liti* (гл. *ліць*) з суф. *-ь* і апафоніяй у корані.

**Палойка**$_1$ 'палавіна галоўкі квашанай капусты' (Сцяшк., Мат. Гом.), *палýйка* 'тс' (Шат.), 'палавіна' (Сл. ПЗБ), 'капусная галоўка' (Сл. Брэс.). Рус. арл., варонеж. *полýйка* 'дубовыя дошчачкі на дно для бочак'. З *палоўка*<*пол-, палова*$_1$ (гл.).

**Палойка**$_2$ 'жменя (або 10 жменяў) абтрапанага або ачэсанага лёну' (ТСБМ; Сл. ПЗБ; Інстр. I; III; КЭС, слуцк.; З нар. сл). Мабыць, тое ж, што і *палойка*$_1$, г. зн. палова ад таго, што можна ўзяць дзвюма рукамі.

**Палойка**$_3$ 'невялікая рачулка, якая цячэ праз балота' (Сл. ПЗБ). Да *ліць* (гл.) з іншай агаласоўкай кораня. Параўн. *палой*, а таксама ст.-рус. *полой* (1614 г.) 'рукаў ракі, які аддзяляецца ад асноўнага рэчышча і зноў з ім злучаецца'.

**Палок** 'нары паміж печчу і ложкам або паміж печчу і супрацьлеглай сцяной уздоўж глухой сцяны ў сялянскай хаце' (ТСБМ, Шат., Янк. 2, Выг., Сл. ПЗБ), 'полка ў лазні' (Касп., Бяльк.). Рус. *полóк* 'палок у лазні; палаці, памост'. Вытворнае ад *пол* (гл.) (Фасмер, 3, 314).

**Палон** 'няволя, у якую трапляе чалавек, захоплены ворагам у час вайны' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш.), *палóннік* 'палонны' (Нас., Гарэц.). Агульнаслав.: рус., укр. *полóн*, ст.-рус. *полонъ*, ст.-слав. **пленъ,** польск. *plon* 'жніва, ураджай', чэш. *plen* 'выручка, прыбытак'; ураджай', славац. *plen* 'здабыча, грабеж', серб.-харв. *плêн, плиjен* 'здабыча', славен. *plén* 'здабыча, грабеж', балг. *плен* 'палон'. Прасл. *pelnъ*. Роднасныя літ. *pel̃nas* 'заслуга, заработак', *pelnaũ, pelnýti* 'заслужваць', лат. *pèlna* 'заслуга, прыбытак', ст.-інд. *paṇas* 'абяцаная ўзнагарода', *páṇatē* 'закупляе, скупляе', грэч. *πωλέω* 'купляю', ст.-в.-ням. *fāli* (<**fēlịa*) 'прадажны', ст.-ісл. *falz* 'тс' (гл. Фасмер, 3, 314; там жа і агляд літ-ры).



**Паломнік** 'багамолец, які вандруе па так званых святых месцах' (ТСБМ). Рус. *палóмник*, ст.-рус. *книга паломникъ* 'апісанне паломніцтва'. Ад лац. *palma* 'пальма', выконваючай вялікую ролю ў вялікадневай абраднасці. Параўн. франц. *paumier*, італ. *palmiere* 'насіцель пальмы, паломнік' (Праабражэнскі, 2, 10; Фасмер, 3, 193).

**Палонік**$_1$ 'апалонік (разлівальная лыжка)' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Др.-Падб., Шпіл., Касп., Бяльк., Мядзв., Раманаў, 8; Нік. Очерки), *полóнік* (ТС), *полóднік, палóнік, палóйнік, палóўнік* (Сл. ПЗБ), *полóнік, полóнык* (Сл. Брэс.), *полóньнік* (Бяльк., Янк.). З *апалонік*$_2$ (гл.) з адпадзеннем пратэтычнага *а*.

**Палонік**$_2$ 'малёк жабы' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Касп.), *полóнік* (ТС). З *апалонік*$_1$ (гл.) у выніку адпадзення пратэтычнага *а*.

**Палонка** 'незамерзлы або расталы участак ледзяной паверхні ракі, мора і г. д.' (ТСБМ). Ад *полы* з суф. *-онка* (параўн. адносна словаўтварэння Сцяцко, Афікс. наз., 103).

**Палоня** 'бязлесае месца' (Выг.), *полóн'* 'бязлесае месца, луг, сенажаць', *полон'н'а, полон'ка* 'луг, паша', *пулон'* 'адкрытае месца без лесу і хмызняку' (Талстой, Геогр. терм., 74, зах.-палеск.). Польск. *płonia* 'лужайка ў лесе', паўдн.-польск. *płania* 'прастора (вялікая плошча поля і лесу)', 'раўніна', н.-луж. *płoń, płona* 'адкрытае месца, на якім няма дрэваў; раўніна', чэш. *pláň, pláně* 'раўніна; пласкагор'е; пляцоўка ў гарах', славац. *pláň* 'тс', серб.-харв. дыял. *plana* 'вялікая паляна, лужайка ў лесе', славен. *planja* 'альпійскі луг, паша', дыял. *plana* 'раўніна'. Прасл. *polnь, polnьja*. Дэрываты ад прасл. прыметніка *polnь*<*pol'e* (гл. Брукнер, 422; Скок, 2, 675 і наст.). Падрабязны агляд семантыкі слова і літаратуры гл. Талстой, там жа, 74 і наст.

**Палоса** 'шнур, участак зямлі' (ТСБМ, Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ). Да *паласá* (гл.).

**Палоссе** 'ліпавая кара' (Мат. Гом.), *палóсься* 'лыка' (Касп.), *палóссе, палóссё, палóсье* 'лыка; тонкія дубцы, з якіх плятуць кошыкі' (Сл. ПЗБ), *полóсы* 'пакроеныя палоскі з ліпавай, лазовай і інш. кары' (ТС), *полóссе* 'тс' (Сл. Брэс.), *полосё* 'лыка' (Нар. сл.), *полы́ссе* 'тс' (З нар. сл., драгіч.), *полося́ный*

'з лыка' (З нар. сл., драгіч.). Зборны назоўнік ад *паласа* (гл.).

**Палоўня** 'месца, адгароджанае ў гумне для збожжа' (Сцяшк. Сл.), 'адрына' (Нар. сл., пінск.), *поло́вня* 'хлеў, дзе зімой захоўваюць сена' (Сл. Брэс.), *пало́ўнік* 'адрына' (ДАБМ, 789), *поло́ўнык* 'месца для захавання паловы' (Шушк.), 'адрына' (Тарнацкі, Studia). Рус. *полове́нь, поло́вня* 'маленькая сушня на таку', укр. *поло́вень* 'імшанік', чэш. дыял. *plevňa* 'маленькі хлеў, прыбудова для захавання паловы', серб.-харв. *плёвница* 'тс'. Да *палова*₂ (гл.) (Фасмер, 3, 312; Махэк₂, 459). Сюды ж *палуве́нка, палу́нька, палу́ня, палу́нік* (Сцяшк. Сл.).

**Палохаць** 'наводзіць страх, боязь'. Вытворнае ад *по́лах* (гл.).

**Палоць** 'ачышчаць ад пустазелля'. Агульнаслав.: рус. *поло́ть*, укр. *поло́ти*, ст.-слав. **плѣти, плѣтѫ**, польск. *pleć*, в.-луж. *plěć*, н.-луж. *plaś*, чэш. *pliti*, славац. *plet'*, серб.-харв. *пльѐти*, славен. *pléti*, балг. *плевя́* 'тс'. Прасл. *pelti*. Роднаснымі лічаць літ. *spãliai* 'ачоскі льну', лат. *spīlva* 'шалупінне', лац. *spolium* 'садраная шкура звера; здабыча', ст.-інд. *phálati* 'трэскаецца, лопаецца', *sphāláti* 'ён разрывае', ст.-в.-ням. *spaltan*, нов.-в.-ням. *spalten* 'расколваць' (Фасмер, 3, 317 з аглядам літ-ры). Далей гл. *пало́ва*₂.

**Палта́цы,** *палца́ты* 'дуэль' (Нас., Гарэц.). З польск. *palcat* 'палка, прут'<венг. *palcat* — він. скл. наз. *palca* 'палка, посах' (Карский, Белорусы, 162; Кюнэ, Poln., 84). Таксама ст.-бел. *палцатъ* 'посах' (польск. *palcat*<венг. *palca* (Булыка, Запазыч., 235). Венг. слова са слав. *palica* (SESJC, 353).

**Па́лтус** 'прамысловая рыба сямейства камбалавых' (ТСБМ). З рус. *па́лтас, па́лтус* 'тс'. Крыніца рус. слова — фін. *pallas*, родн. скл. *paltann* 'камбала (рачная)' або саам. кольск. *pāldes*, родн. скл. *pāltazi* 'від камбалы' (Фасмер, 3, 193; там жа і інш. літ-ра).

**Па́луба** 'суцэльнае гарызантальнае перакрыццё ў выглядзе падлогі на судне' (ТСБМ). Рус. *па́луба* 'тс', укр. *па́луба* 'страха з лубу над павозкай', польск. *palub* 'ствол дрэва (выдзеўбаны ўнутры)', *paluba* 'павозка', чэш. *paluben* 'ствол дрэва, полы ўнутры'. Да *луб* (гл.) (Фасмер, 3, 194). У славаўтваральных адносінах — гэта аддзеяслоўны дэрыват ад **polubiti* 'пакрыць лубам'<*paluba*.

**Па́лубнік,** *па́лубніца* 'засек для мякіны' (Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене і інш. (LKK, 1975, т. XVI, 185), запазычанне з літ. *pelùdė* 'мякінніца' з наступнай славянізацыяй. Лаўчутэ (Балтызмы, 70) прыводзіць яшчэ літ. дыял. *pelùdnica* 'тс'. Але параўн. *палоўня* і аднакаранёвыя.

**Палу́да** 'луджэнне, сплаў волава са свінцом, які ўжываецца для пакрыцця металічных вырабаў; луда' (ТСБМ). Аддзеяслоўны дэрывант ад *палудзіць*<*лудзіць*< *луда* (гл.).



**Палу́дзень** 'абед' (Нас., Касп., Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Сл. ПЗБ), *полу́дэнь* 'тс' (Клім., Бяссон., Сл. Брэс.), *по́лудзень, по́лдзень* 'час дня пасля абеду; поўдзень' (ТС), *палу́днаваць* 'абедаць' (Бяльк.). Гл. *поўдзень*. Падрабязна аб семантыцы і лінгвагеаграфіі гл. Вештарт, Лекс. Палесся, 89 і наст.

**Палудна́ць** 'палуднаваць' (Мат. Гом.), *палу́ннаць* 'тс' (Сл. Брэс.). З *палуднаваць* (гл. папярэдняе) у выніку асіміляцыі *дн*>*нн* у форме *палуннаць* і скарачэння.

***Палужа́віна,** *полужа́віна* 'нізіна' (ТС). Да *луг*₁ (гл.).

**Палу́каш** 'плецены кораб, які ўстаўляецца ў драбіны воза або ў сані' (ТСБМ, Янк. 3, Сл. ПЗБ, Нар. сл.), *палу́кашак* 'тс' (Дразд., Сержп. Земл., Яруш., Федар. VI). З *пол(у)* і *кош* (гл.).

**Палу́ндра** выкл. 'у мове маракоў і партовых грузчыкаў — вокрык, які ўжываецца ў значэнні «беражыся, падае зверху» або наогул перасцерагае аб небяспецы' (ТСБМ). Праз рус. *полу́ндра* 'тс', якое з гал. *van onderen* 'знізу' з дысіміляцыяй *н-н*>*л-н* (гл. Фасмер, 3, 319).

**Палуні́ца** 'ягада' (Мат. Гом.). З кантэкста відаць, што маюцца на ўвазе палявыя трускалкі. *Полуніця* 'суніца' (Крачк.). Рус. *полени́ка* 'марошка', наўг. 'кастяница', паўдн. *полуни́ца* 'трускалкі', кур. *поле(о)вичник*, наўг. *полевни́ца* 'тс', укр. *полени́чник* 'трускалкі (сама расліна)'. Ад *поле* (Даль, 3, 258).

**Палу́нія** 'лунацізм' (Сл. ПЗБ). Да *лу́на* (гл.). Відаць, са скажонага рус. *полнолуние*.

**Па́лупка** 'драўляная аправа ў жорнах' (Сл. ПЗБ). Да *луб*₂ (гл.).

**Палу́чка** 'заработная плата' (ТСБМ). Новае запазычанне з рус. разм. *полу́чка* 'тс'. Дзеяслоў *палуча́ць* 'атрымліваць', *палучы́ць* 'атрымаць', відаць, таксама з рус. *получи́ть*.

**Па́лушкі** 'паланкі' (Сл. ПЗБ), *па́лушкы, по́лышкы* (Сл. Брэс.), *пало́шэчка* (З нар. сл., палес.; ТС). Гл. *апалушкі*.

**Палы́н** 'пустазелле з моцным пахам і горкім смакам'. Рус. *полы́нь*, укр. *поли́н*, ст.-рус. *пелынъ, пелынь*, польск. *piołun*, ст.-польск. *piołyn*, чэш. *pelun*, *pelyněk*, серб.-харв. *пѐлин* 'шалфей', славен. *pelin* 'тс', балг. *пели́н* 'палынь'. Якой была прасл. форма, не зусім ясна. Звязваюць з *polěti* 'гарэць, палаць' (Младэнаў, 417; Махэк, 443) або з назвамі колеру тыпу *polvъ* (гл. *пало́вы*) (Праабражэнскі, 2, 103). Паралелі ўказваюць толькі ў лат.: *pelane* 'палын', *pelêjums* (мн.) 'тс' (Мейе — Эндзелін, 3, 194). Гл. яшчэ Фасмер, 3, 320.

**Палыха́ць** 'гарэць зыркім, яркім полымем; свяціцца яркім святлом'. Рус. *полыха́ть* 'тс', укр. *полохну́ти* 'успыхнуць, разгарэцца'. Звязваюць з *паласнуць* (гл.) або з *по́лах* (Фасмер, 3, 321).

**Пальга́** 'пылок' (Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, звязана

з польск. *polgnąć* 'завязнуць, прыліпнуць', г. зн. 'тое, што прыліпла да лапак пчалы'.

***Пальгіваць**, *пальгуваць* 'быць у стане цечкі' (Касп.), *пільгуваць* 'паляваць на дзічыну' (Мядзв.). Няясна. З фармальнага боку можна параўнаць з укр. *пільгувати* 'аблягчаць, паслабляць' і рус. дыял. *пелéговать* 'біць; даглядаць, клапаціцца'. Апошняе, магчыма, роднаснае польск. *pielęgować, pielegować* 'даглядаць, клапаціцца' (Фасмер, 3, 228)<ням. *pflegen* (Брукнер, 468).

**Пáлька** 'рэшата' (Сцяшк. Сл.). Відавочна, з польск. *opałka* 'кошык', якое ад *polati* (гл. *палацьₛ*, *апалушкі*).

**Пáльма** 'паўднёвае вечназялёнае дрэва з высокім прамым ствалом і кронай з перыстых або веерападобных лістоў'. З польск. *palma* 'тс'. Ст.-бел. *пальма (палма)* (пач. XVII ст.)<ст.-польск. *palma*<лац. *palma* (Булыка, Лекс. запазыч., 148).

**Пальнíца** 'палавіца, масніца' (Бяльк., Мат. Гом.), *пальнічына* 'тс' (Сл. ПЗБ). Да *пол* 'падлога'. Адносна *л'* параўн. рус. *напольный*.

**Пáльта**, *пальтó* 'паліто', *пальтáк* 'паўпаліто', 'жаночае верхняе адзенне з фалдамі' (Сл. ПЗБ). З рус. *пальтó* (этымалогію гл. *паліто*), пашыранага рознымі суфіксамі.

**Пальчáтка** 'рукавіца з аддзяленнямі для кожнага пальца'. Укр. *пальчáтка*. Да *пáлец* (гл.), у выніку кандэнсацыі словазлучэння *пальчатая рукавіца*. Магчыма, калька рус. *перчатка*<*перст* 'палец'.

**Палю́ддзе** 'у старажытнай Русі — збор даніны з княжацкіх васалаў' (ТСБМ). Ст.-рус. *полюдие* 'тс'. Са ст.-рус. *по людьхъ* (гл. *люди*) (гл. Фасмер, 3, 321).

**Палюднéць** 'стаць прыгажэйшым' (Сл. ПЗБ), *палю́дзяць* 'пабыць сярод паважаных і разумных людзей' (Нар. сл.). Гл. *вылюднець*.

**Палю́к** 'ручка касы' (Сцяшк. Сл., Бір. Дзярж.), *палю́х* (Сл. ПЗБ), *пъл'ýк* (ДАБМ, 831) 'тс'. Вытворнае ад *палец*, якое ў значэнні 'ручка касы', прынамсі, шырока распаўсюджана ў рус. дыялектах (гл. СРНГ, 25), з дапамогай суф. *-ук, -ух* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 178). Рус. навасіб. *палюк* 'ручка касы', польск. *paluch* 'пальчык'.

***Палю́тка**₁, *палýтка, полю́тка, полутка* 'капусная галоўка' (Сл. Брэс.), *полýдка, полýтка, полýдок* 'тс' (ТС). Ад *пол-* 'палова'. Адносна суфіксацыі параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 134. Дакладная словаўтваральная паралель у серб.-харв. *палутак* 'палавінка', *пóлутка* 'паўшар'е'.

**Палю́тка**₂ 'сцягно' (Сл. Брэс.). Параўн. польск. *połetek* 'сала; бок тушы, кавалак'<*połec* 'тс'<прасл. *polъtь* (гл. *поўць*).

**Палю́х**, *палюхí, палюхé* 'клёцкі з цёртай бульбы' (Сл. Брэс.). Польск. *paluch* 'тс'. Паводле Варш. сл. (IV, 297), з *paluch* 'пальчык'<*palec*.



**Палю́шка**₁ 'віка' (Сл. ПЗБ). Ад *пóле* з суф. *-ушка* па месцу вырастання.

**Палю́шка**₂ 'булка' (Мат. Гом.), *палю́шка, полю́шка* 'праснак' (ТС). Да *палíць* (гл. *паляніца*).

**Пáля** 'бервяно, брус, забітыя ў грунт, якія служаць апорай розным пабудовам, збудаванням'. Рус. зах., паўдн. *пáля*, укр. *пáля*. З польск. *pal* 'тс' (Карскі, Белорусы, 156; Кюнэ, Poln., 84). Ст.-бел. *паля*<польск. *pal* (Булыка, Запазыч., 235). Крыніца польск. слова — ст.-в.-ням. *pfâl* 'кол'<лац. *pālus* (Праабражэнскі, 2, 10; Брукнер, 391; Клюге — Гётцэ, 556). Фасмер (3, 194) дапускае роднасць са спрадвечнаславянскімі *палка, паліца*.

**Паляв́аць**₁ 'займацца пошукамі і праследаваннямі дзікіх звяроў або птушак з мэтай знішчэння ці лоўлі; занятак паляўнічага' (ТСБМ), *палявáнне, паляўнічы*. Рус. *полевáть*, укр. *полювáти*, ст.-рус. *польничати*, польск. *polować* 'тс'. Да *поле* (гл. Фасмер, 3, 307 і наст.; Брукнер, 429) з суф. *-ovati, -evati* (параўн. SP, 1, 48). Сюды ж і *палявáць* 'бегаць (аб жывёле)' (Мат. Гом., Некр., Сл. ПЗБ), *полёваць* 'тс' (ТС).

**Палявáць**₂ 'тармазіць калком хвост плыта' (Сл. ПЗБ), *палёваць* 'тс' (ТС). З польск. *palować* 'упэўніваць палямі; падвязваць (расліны)'<*pal* (гл. *паля*).

**Палявíк** 'жыхар бязлеснай вёскі; у старажытнай беларускай міфалогіі — дух — гаспадар поля' (ТСБМ), 'дух — гаспадар поля' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.). Да *палявы́*<*пóле*.

**Палявíца** 'бязлесная прастора, палявая старана' (Яшк., магіл.). Ад *палявы*<*поле* (гл.) з суф. *-іца*.

**Паля́дак** 'поле на месцы выкарчаванага лесу' (Касп., Бяльк.), *паля́д* 'абложная зямля' (ДАБМ, 858). Канфіксальны і прэфіксальны дэрываты ад *ляда* (гл.).

**Палядзéць** 'паглядзець' (Янк., Шн. 2, Сл. ПЗБ), *палянýць* зак. (Бяльк., Сл. ПЗБ), *паля́нь* 'паглядзі' (Грыг.). З *паглядзець* у выніку знікнення *-г-* (гл. Карскі, 1, 371).

***Паля́к**, *поля́к* 'вялікі гаршчок з двума вушкамі на 1—1,5 пуда жыта' (Вярэн.). Рус. смал. *паля́чишка* 'маленькі гаршчок'. Прыставачны дэрыват ад *ляк*₁ 'глыбокі гліняны гаршчочак'.

**Паля́кі**, *паля́к* 'заходнеславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Польшчы' (ТСБМ). Рус., укр. *поля́к* 'тс'. Паводле Фасмера (3, 322), запазычанне з польск. *polak*, мн. л. *polacy*<*poljaninъ* 'жыхар Вялікапольшчы', адкуль стала агульнай назвай палякаў (Фасмер, 3, 322).

**Паля́на** 'роўная бязлесная прастора, невялікі луг на ўскраіне або сярод лесу' (ТСБМ, Бяльк.), *паля́нка* (Сл. ПЗБ), *поля́нка*

'невялікае поле сярод лесу' (Выг., ТС), *палянка* 'абложная зямля' (ДАБМ, 858). Рус., укр. *поляна,* рус.-ц.-слав., сербск.-ц.-слав. *полѩна,* польск. *polana,* чэш. *polana,* славац. *pol'ana,* серб.-харв. *пољана* 'раўніна', славен. *poljána* 'раўніна, нізіна', балг. *поляна,* прасл. *polana.* Ад *по́ле* (гл.) з суф. *-ana* (SP, 1, 132) (гл. таксама Фасмер, 3, 322; Махэк$_2$, 469; Міклашыч, 255; Праабражэнскі, 2, 91). Не звязана з *палено, паліць,* як мяркуе Тэррас (ZfSlPh, 19, 121).

**Паляндві́ца** 'мяса вышэйшага гатунку з сярэдняй часткі свіной тушы каля хрыбта, якое вэндзяць або вяляць' (ТСБМ), *поленві́ца, поленіца, полендры́ца, полембі́цы* (ТС), *палямбі́ца* (Сцяшк. МГ, З нар. сл.), *паляндві́ца, палендві́ца, палянгві́ца, палямбі́ца, палендры́ца, паляндры́ца, паляні́ца* (Сл. ПЗБ), *палэ́бніца, полэ́бныця* (Сл. Брэс.). З польск. *polędwica* 'тс', як і рус. *поленд́вица* (гл. Фасмер, 3, 308), якое ад *lędźwie* мн. л. 'бёдра' (гл. *лядвея*) (Брукнер, 297; Бернекер, 1, 705 і наст.).

**Паля́ндра$_1$** 'павальная хвароба накшталт белай гарачкі' (Нас., Гарэц., Яруш.), 'старажытная багіня шкоды і смерці' (Янк. 2, 496, 550). Відаць, ад *палі́ць,* параўн. рус. разм. *паля́чка* 'гарачка', з рэдкім суф. *-андра* (адносна суф. гл. Сцяцко, Афікс. наз., 134).

**Паля́ндра$_2$** 'вельмі вялікая хата' (Сцяшк.). Няясна. Магчыма, рэгіянальнае ўтварэнне ад польск. *landara* 'карэта; грамадзіна; нязграбная жанчына; ландо'. Апошняе ад месца вырабу *Ландау* (Брукнер, 290).

**Паляндрава́ць** 'хадзіць без справы' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.). З польск. *plondrować, plądrować* 'рабаваць, шнырыць, шукаць', якое з ням. *plündern* 'тс' (гл. Брукнер, 419).

**Паля́не** 'усходнеславянскае племянное аб'яднанне' (ТСБМ). Рус. *поля́не,* ст.-рус. *полянинъ,* мн. л. *поляне,* польск. *polanie* — назва племені ў Вялікапольшчы. Ад *pole* з суф. *-an-in-* (параўн. SP, 1, 130) (гл. Фасмер, 3, 322).

**Паляні́ка** 'травяністая паўночная расліна з цёмна-чырвонымі духмянымі ягадамі, прыдатнымі да яды' (ТСБМ). З рус. *поленика* 'куст і ягады Rubus arcbicus'. Паводле Даля (3, 258), ад *поле.*

**Паляні́ца$_1$** 'невялікая прадаўгаватая булка з белай мукі' (Бяльк.), 'печыва з мукі' (Сл. ПЗБ), 'прэсная ляпёшка' (Касп.), *паляні́цы* 'ляпёшкі, спечаныя на патэльні' (Малчанава, Мат. культ., 191), *паляны́ця* 'бохан хлеба' (Сл. Брэс.). Рус. *палени́ца* 'булка, белы хлеб', укр. *паляни́ця.* Да *палі́ць* (Праабражэнскі, 2, 8; Фасмер, 3, 191). Гл. яшчэ Вештарт, Лекс. Палесся, 107.

**Паляні́ца$_2$**, *паля́ншчына* 'бязлесая мясцовасць' (Сл. ПЗБ). Дэрываты ад *поле* (гл.).

**Паля́нт** 'гульня ў мяч; лапта; палка, якой ударакоць мяч' (Нас.), 'гульня ў мяч; лапта' (Сл. ПЗБ, Доўн.-Зап., Нар. сл.). З польск. *palant* 'тс', якое ад італ. *palla* 'мяч, шар', *pallare* 'гуляць у мяч' (Карскі, Белорусы, 162; Кюнэ, Poln., 84; Брукнер, 392).



**Паля́нцы,** *паляўцы́* 'людзі, якія жывуць у бязлеснай мясцовасці' (Сл. ПЗБ). Да *поле,* параўн. *паляне.*

**Паля́рны** 'які мае адносіны да полюса', перан. 'цалкам процілеглы' (ТСБМ). З польск. *polarny* або рус. *поля́рный.* Апошнія з нов.-лац. *polāris<polus* (гл. Фасмер, 3, 322).

**Паляру́ш** 'паралюш' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Грыг., Арх. Бяльк., слонім.; Сл. ПЗБ, З нар. сл.), 'маланка' (Яруш.). З *паралю́ш* у выніку перастаноўкі зычных *р* і *л,* але, магчыма, і з польск. *palarusz* 'тс'.

**Паляры́на** 'кароткая круглая накідка на плечы, часам з капюшонам; вялікі круглы каўнер' (ТСБМ, Касп.), 'шырокі каўнер' (Сл. ПЗБ), *паляры́нка* 'нашыўка на рукавах' (Нар. сл.). З польск. *peleryna* або рус. *пелери́на,* дзе з франц. *pèlerine* 'плашч пілігрыма', лац. *peregrīnus* (гл. Брукнер, 402; Фасмер, 3, 229).

**Палясо́ўшчык** 'вартаўнік лесу, ляснік' (Яруш., Мядзв., Інстр. II, Дасл. па літ. і мове, Гродз. пед., 1967, 41). Рус. паўдн., усх. *полесовщи́к* 'тс'. Ад **палясоўны* (<*лес*) з суф. *-шчык* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 75). Не выключана, што гэта і запазычанне з рус.

**Паляту́ха$_1$** 'жывёліна атрада грызуноў, падобная на вавёрку, пярэднія ногі якой злучаны з заднімі шырокай лятальнай перапонкай' (ТСБМ). Дэрыват ад *палятаць<лятаць* з *-уха.*

**Паляту́ха$_2$** 'сумнік звычайны, Solidago virgaurea L.' (Кіс., 124). Да *палятаць<лятаць* (гл.).

**Паля́тынка** 'падхамутнік' (БРС, Нар. сл.). З польск. *palatynka* 'футравы каўнер на шыю'. Параўн. *паланці́н.*

**Паляўкі́** 'свінка (хвароба)' (Сл. ПЗБ). Рэгіянальнае запазычанне з літ. Параўн. (Сл. ПЗБ, 3, 373) літ. *poliáukai* 'тс'.

**Паляшва́** 'Палессе' (Сл. ПЗБ). Ад асновы *паляш-* (гл. *паляшук*) з суф. зборнасці *-ва* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 202), першапачаткова 'палешукі'.

**Паляшу́к** 'жыхар Палесся' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Ст.-рус. *полѣшанинъ* 'тс'<*Полѣсье.* Бел. форма, калі меркаваць па *ш,* утворана на аснове *полѣшанинъ* з заменай суф. *-анін* на *-ук.*

**Паляшы́ць** 'паглядзець, дазнацца' (Сцяшк. Сл.). Гл. *ляшыць;* мабыць, першапачаткова *дазнацца по лехам.*

**Паляя́** 'помнік старажытнарускай пісьменнасці, у якім падаюцца падзеі, апісаныя ў Старым завеце' (ТСБМ). Рус. *палея́* 'названне першых васьмі кніг Старога завету', рус.-ц.-слав. *палея.* З грэч. Παλαιά 'Стары (завет)' (гл. Фасмер, 3, 192).

**Памага́йла** 'памочнік' (Др.-Падб., Сл. ПЗБ). Да *памагаць* з суф. *-ла,* утворанае на базе асновы цяперашняга часу (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 94).

**Памага́тар** іран. 'памагаты, памочнік' (Сцяшк. МГ). Да *памагаць* з лац. па паходжанню суф. *-тар* па тыпу *аратар, куратар* і г. д.

**Памага́ты** 'той, хто памагае каму-, чаму-н.; падручны' (ТСБМ, Янк. 1). Да *памагаць*. Першапачаткова залежны дзеепрыметнік прошлага часу на *-ат* (параўн. *прыганя́ты*).

**Памага́ч** 'памочнік' (Нас., Гарэц., Янк. 1, Інстр. III), *памага́чы* 'тс' (Нас., Гарэц.). Да *памагаць* са старажытным суф. *-ačь* (гл. SP, 1, 102).

**Пама́да** 'пахучая касметычная мазь' (ТСБМ). З рус. *пома́да* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 79), якое праз ням. *Pomade*<франц. *pommade*<*pommata*<лац. *pōmum* 'яблык', таму што для вырабу памады першапачаткова ўжываліся яблыкі (Фасмер, 3, 322; там жа і літ-ра).

***Памаёвацца,** *помаёвацца* 'адзначыць, добра правесці час на прыродзе' (ТС). Да *май* (гл.).

**Памазы́** 'плямы на бялізне ад поту або нечага масленага' (Нас.). Аддзеяслоўны дэрыват ад *памазаць*<*мазаць* (гл.).

***Пама́йбу,** *пома́јбу* 'старажытнае прывітанне' (Клім.). З *памагай бог.*

**Пама́к** 'звязка вычышчаных канапель' (Інстр. III), 'дрэва, якое доўга ляжала ў вадзе' (Сл. ПЗБ), 'намоклае палена' (Нар. сл.), *пама́ка* 'калода, якая доўга ляжала ў вадзе' (Шн. 2), 'жэрдка, кладка' (Сцяшк. Сл.), *пама́кі* 'цяжар, які накладаюць на лён або пяньку пры замочванні' (Касп.), *пама́к* 'тс' (Сл. ПЗБ). Укр. *помі́к* 'канопля, намочаная ў рацэ'. Аддзеяслоўны дэрыват ад *памокнуць* або *памакаць*<*мокнуць* (гл.).

***Памало́дак,** *помоло́док* 'парастак' (Сл. ПЗБ), *па́молодьде* 'тс' (Клім.). Укр. *па́молодь, па́молодок* 'парасткі, маладое пакаленне'. Да *малады* (гл.).

**Пама́лу** 'не спяшаючыся, марудна; паступова, не адразу' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Бяльк., З нар. сл.), *пама́лей* (Сцяшк. Сл.), *пама́луй* (Янк.), *пама́ле* (ТС), *пама́лі, пама́лу, пама́луй* (Сл. ПЗБ); *пама́лечку* (Мат. Гом.), *пама́лячку* (Янк. 1). Агульнаслав.: рус., укр. *пома́лу,* польск., в.-луж. *pomału,* н.-луж. *pomałkiem,* серб.-харв. *по̀мало,* серб.-ц.-слав. *po malu,* славен. *po malu, po male,* балг. *malko* 'тс'. Прасл. *pomalu*. З прыназоўнікавага спалучэння *po malu,* дзе *малу* — генетыў ад *malъ* (гл. *малы́*) (параўн. Брукнер, 320). Махэк (470) *malъ* у гэтым спалучэнні лічыць словам іншага паходжання, роднасным ням. *mählich, allmählich* 'паступова', ст.-ірл. *mall* 'павольны' і г. д.

***Памаражы́ць,** *поморожи́ты* 'зацвісці троху (аб хлебе)' (Клім.). Відаць, ад *марожаны*<*мароз* (г. зн. пакрыцца белым налётам). Параўн. польск. *morożowaty* 'аб масці каня'.

**Па́маразні** 'бакавыя планкі, набітыя на капылы саней' (Сцяшк. Сл.). Няясна.



**Па́маракі** 'памяць, прытомнацсь' (Пал.), *па́маракі* ў фраз. *па́маракі галаву́ водзяць* (Арх. ГУ, нараўл.), *па́морока, памо́рок* 'абмарачэнне' (ТС), *па́мрок* 'замарачэнне' (Бяльк.). Рус. курск. *па́морок* 'розум', курск., арл., наўг. 'часовая страта прытомнасці', арл. *па́морока, па́морка* 'тс', маск *па́мороки, па́морки* 'тс', укр. *па́мороки забі́ць* 'замарачыць'. Поруч з тым рус. арх., анг., валаг., алан., пск., наўг. *па̑мрак,* 'імгла; хмара; пахмурнае надвор'е некалі з дробным дажджом і снегам', польск. *pomrok, pomroka,* серб.-харв. *па̑мрак,* славен. *pomrak* 'змрок, змярканне'. З прыст. *pa-* і *morkъ* (гл. *мо́рак*) або аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *pomorčiti* другасным падаўжэннем галоснага ў прыстаўцы. Бел. слова прымыкае да паўдн.-рус. моўнай тэрыторыі, дзе гэта слова ўжываецца ў другасным значэнні.

**Памара́нча** 'апельсін', *памаранчо́ўка* 'гатунак грушы' (Сцяшк. Сл.). З польск. *pomarańcza, pomarańczówka* 'тс'. Этымалогію гл. *памяранец*.

**Памаўза́** 'шкоднік, свавольнік' (ТСБМ, Гарэц., Янк., Сл. ПЗБ), 'няспрытны, непаваротлівы чалавек' (З нар. сл.), *памаўзлі́вы* 'зладзеяваты' (Касп.), 'шкодны, праказлівы' (Сцяшк.) Фармальна аддзеяслоўны дэрыват з *-а* асновай ад **памоўзаць;* але ў гэтай форме дзеяслоў не зафіксаваны, хаця існуе палес. *моўзаць* 'кусаць без зубоў, дзяснамі (пра дзіця, сысуна)'. Далейшыя сувязі гл. *галамоўза*.

**Пама́чка** 'мачанне' (Сл. ПЗБ, Нар. сл.), *памачу́шка* 'верашчака' (Сл. ПЗБ). Дэрыват ад *памачыць*<*мачыць*.

**Паме́г** 'хмызняк' (Яшк.). Няясна; паралеляў у іншых слав. мовах няма. Магчыма, з *омег, вомег, вобмег* (гл.), дзе *о-* можа ўспрымацца як прыстаўка і магло быць заменена на *по-*. *Вомег* 'балігалоў' часта расце па берагах рэк сумесна з хмызняком, таму тут мог адбыцца перанос па сумежнасці.

**Паме́жак** 'узмежак, мяжа' (ТСБМ). Конфікснае ўтварэнне (прыст. *па-* і суф. *-ак*) ад *мяжа́* (гл.).

***Паме́жнік,** *поме́жнік* 'сусед па палетку, сенажаці; раўчак, які аддзяляе адно поле ад другога, як іх узаруць' (ТС). Рус. *поме́жник* 'сусед па палетку' (мяжа з мяжой)', укр. *помі́жнік* 'тс'. Ад *памежны*<*мяжа* (гл.).

**Паме́ліхі** 'завознікі' (Сл. ПЗБ). Дэрыват з суф. *-іх* (старажытны спосаб словаўтварэння — SP, 1, 73) ад асновы цяперашняга часу дзеясл. *памалоць*<*малоць* (гл.).

**Паме́р** 'велічыня чаго-н. у адным або некалькіх вымярэннях; ступень развіцця, велічыня, маштаб якой-н. з'явы, здарэння і г. д.' (ТСБМ), 'плата натурай за памол' (ТС, Мат. Гом.), *паме́ра* 'вымярэнне зямлі' (Нас., Гарэц.). Укр. *помі́р* 'вымярэнне зямлі', польск. *pomiar* 'вымярэнне, абмер, прамер', чэш. *poměr* 'адносіны', славац. *pomer* 'адносіны; сувязь', серб.-харв.

*pómer* 'зрушэнне, ссоўванне'. Аддзеяслоўны дэрыват ад *памерыць*<*мерыць* (гл.). З прычыны розніцы ў семантыцы, відаць, самастойныя ўтварэнні ў розных славянскіх мовах.

**Памécце** 'асабістае (у адрозненне ад вотчыны) зямельнае ўладанне ў феадальнай Расіі да XVIII ст.' (ТСБМ), *помéсцье* 'месца, прытулак' (ТС). З рус. *помéстье* 'тс'. Ст-рус. *помѣстие* 'зямельны надзел, які быў выдадзены за службу' (у адрозненне ад *вотчыны*, якая была спадчынным уладаннем)<словазлучэнне *по мѣсту* (Фасмер, 3, 323).

**Памéта** 'пісьмовы знак, подпіс, адзнака' (ТСБМ). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *памеціць*<*меціць, мета* (гл.).

***Памéтнік,** *помéтнік* 'апоўзіны, якія кладуць паверх стога' (ТС), *помéтнік, помéціна* 'тонкія латы ў страсе на сохах' (Нар. сл., жытк.), *памéтнік* 'падсцілка пад стогам' (Нар. сл., навагр.). Рус. *помéтины* 'апоўзіны на стозе або на саламяным дасе'. Ад **памятаць* (параўн. тур. *метанýць* 'шпурнуць, кінуць аб зямлю') з суф. *-нік, -ін-*.

**Памéцца** 'мець намер, жаданне, абяцаць' (Бяльк.), 'падрадзіцца' (Мат. Гом.). Да *мець(ца)* (гл.).

**Памéшчык** 'землеўладальнік, звычайна дваранін, пан' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). З рус. *помéщик* (Крукоўскі, Уплыў, 74), дзе з'яўляецца дэрыватам ад *поместье* (гл.) (Фасмер, 3, 323).

**Памёт**$_1$ 'кал, экскрэменты жывёлы' (ТСБМ, ТС). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 40), з рус. *помёт* 'тс', таму што корань *мет-* неўласцівы бел. мове. Але параўн. *памёт*$_2$.

**Памёт**$_2$ 'поле, якое ніколі не апрацоўвалася' (Інстр. I), 'абложная зямля' (Касп., ДАБМ, 857; Хрэст. па бел. дыялекталогіі, 334), 'няўдобіца' (Сл. ПЗБ). Рус. арханг., смал. *помёт* 'аблога, папар'. Відаць, да **мятаць* (параўн. *памёт*$_1$), г. зн. 'кінутае, пакінутае (на адпачынак) поле'.

**Пáмжа** 'пахмурнае, імглістае надвор'е' (Гарэц., Др.-Падб.), 'пошасць, напасць' (Касп., Нік.. Очерки). Рус. смал. *пáмжа* 'надвор'е (звычайна дрэннае)', цвяр. 'санлівасць, дрымота', пск., паўдн. 'бяда, напасць; хвароба, смерць; аб чым-н. кіслым; лаянк. чорт; аб няўдачніку'. У сувязі з апошнімі рус. значэннямі, магчыма, сюды ж адносіцца і славен. *pàmž, pámža* 'крыкун, крыклівае дзіця', але гэта няпэўна. Аддзеяслоўны дэрыват з суф. *-а* ад **памжыць*<*мжыць* (гл.). Паколькі прымыкае да рус. моўнай тэрыторыі, магчыма, і пранікненне з рус. мовы.

**Памідóр** 'аднагадовая агародная расліна сямейства паслёнавых з чырвонымі або жоўтымі пладамі, прыдатнымі для яды; плод гэтай расліны' (ТСБМ, Кіс.), *памідóра, памідóрына* 'плод памідора' (Янк., Янк. 1). З рус. *помидóр(ы)* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 73, 88), дзе запазычана з італ. мн. *pomi d'oro*<*pomo d'oro* літар. 'залаты яблык' (Фасмер, 3, 323).

**Памíма** прыназ. 'ужываецца для ўказання на прадмет або асобу, без удзелу якіх ці незалежна ад якіх што-н. прахо-дзіць, адбываецца; не прымаючы каго-, што-н. пад увагу' (ТСБМ). Рус. *помúмо,* укр. *помíмо,* польск. *pomimo,* чэш. дыял., славац. *pomimo* 'тс'. Складаны прыназоўнік з *po-* і *mimo* 'тс' (гл. *міма*) (ESSJ, 1, 198).



**Памíнкі** 'абрадавы абед у памяць памёршага пасля хаўтур або праз пэўны тэрмін са дня смерці' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Касп., Шат.), *памíнькі* 'тс' (Сл. ПЗБ), *памíн* 'тс' (Нас.). Рус. *помúнки,* укр. *пóминки*. Да *памінаць,* ітэратыўнай формы ад *помніць* (гл.).

**Памова** 'змовіны' (Нас., Бяльк.), *памóвіны* 'тс' (Нас.). Аддзеяслоўны і з суф. *-іна* дэрываты ад *памовіць*<*мова* (гл.).

**Памога** 'дапамога' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., ТС). Рус. *помóга,* укр. *помóга* 'тс'. Аддзеяслоўны дэрыват з суф. *-а* ад *памагаць*.

**Паморак** уст. 'мор' (ТСБМ, Сцяшк. МГ, Арх. Бяльк.; слонім., Сл. ПЗБ), *помóрок, помэ́рок* 'напасць, прывід' (Сл. Брэс.), *памýорак* (Федар. 2), *памóр* (Мат. Гом.) 'мор'. Рус. *помóр* і *помóра* 'пошасць', укр. *помíр* 'тс'. Дэрыват з суф. *-ак* або бязафіксная ўтварэнне ад *памарыць*<*марыць*. Гл. таксама *мор.*

**Памор'е** 'старая назва паўночных рускіх зямель на берагах Белага мора, Анежскага возера і рэк, якія ў іх упадаюць; старая назва паўночнай часткі Польшчы, якая прымыкае да Балтыйскага мора' (ТСБМ). З рус. *помóрье*<*море;* параўн. таксама польск. *pomorze,* чэш. *pomoří* (Фасмер, 3, 323). Сюды ж *памор, паморка* 'жыхар(ка) памор'я'.

**Памост** 'узвышша ў выглядзе пляцоўкі, насланай з дошак; падлога' (ТСБМ, Шат., Янк. 3, Сл. ПЗБ, Гарэц.), 'падлога' (Касп., Сцяшк. МГ, ДАБМ, 954; Шпіл., Хрэст. па бел. дыялекталогіі, 334, Бір. Дыс.), 'падстаўка з хворасту пад дуплянкі' (Мат. Гом.), *помостóк* 'ступенькі перад уваходам у дом' (Шушк.). Рус. *помóст,* укр. *помóст,* ст.-рус. *помостъ* 'падлога, дах, ярус; рынавая плошча', *помостити*. Фасмер (3, 323) лічыць ад *po-* і *мост* (гл.), але магчыма і аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *памасціць*.

**Памоўка** 'гаворка (у прымаўцы: *Пра воўка памоўка, а воўк і тут*)' (ТСБМ, Янк.), 'пагалоска; прымаўка; заручыны' (Нас.), 'прымаўка' (Мат. Гом.), 'пагалоска, паклёп' (Мал.), *помóўка* 'гаворка, нагавор' (ТС). Рус. *помóлвка* 'чуткі, пагалоска; пагаворка, прымаўка; заручыны', таксама ў фраз.: *О волке помолвка, а волк и тут;* укр. *помóвка* 'прымаўка, пагаворка; размова, гаворка'.Суфіксальны дэрыват ад *памовіць*<*мовіць*<*мова* (гл.). *Памавіска* 'вымоўе, пагаворка, прымаўка' (Сцяшк.), лічачы па суфіксацыі, відаць, з польск.

**Памошнік** 'пылюшнік вузкалісты, Thalictrum angustifolium Jacq.' (Кіс., Касп.; КЭС, лаг.). Да *мох* (гл.); словаўтваральная аснова *(па)мош-,* параўн. *замошша, мшара* і інш.

**Пампаду́р** уст. 'адміністратар-самадур' (ТСБМ), 'дурны ганарлівец' (Нас.). З рус. *помпаду́р* 'тс' (у гэтым значэнні ўпершыню ўжыў Салтыкоў-Шчадрын — ССРЛЯ, 10, 1207) ад імя фаварыткі французскага караля Людовіка XV *маркізы дэ Пампадур* (Фасмер, 3, 324).

**Пампе́зны** 'які вызначаецца раскошай, пышнасцю, разлічаны на знешні эфект' (ТСБМ). З рус. *помпе́зный* (Крукоўскі, Уплыў, 78), якое з франц. *pompeux,* ж. р. *pompeuse* 'тс'<лац. *pompa* 'урачыстае шэсце' (СИС, 393).

**Пампо́н** 'упрыгожанне ў выглядзе шарыка з нітак, футра і інш. на шапках, туфлях і пад.' (ТСБМ). З рус. *помпо́н* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 73), дзе з франц. *pompon*<*pompa* 'помпа, пышнасць, урачыстасць' (Фасмер, 3, 324).

**Пампу́ха** 'мяч' (Сл. Брэс.). Відаць, ад *пампушка, пампуха* (гл.), паводле формы.

**Пампу́шачка** (З нар. сл.) 'пупышачка'. З польск. *pępyszek* 'тс'. Змена роду паводле *пупышка.*

**Пампу́шка**[1] 'невялікая круглая пышная булка; аб тоўстым пульхным дзіцяці, жанчыне' (ТСБМ, Нас., Федар. VI, VII), 'аладка' (Яруш., Бяльк.), *пампу́шкі* 'булкі' (Сл. Брэс.). Рус. паўдн. *пампу́ха, пампу́шка* 'від вырабу з цеста; праснак з часнаком', укр. *пампу́х* 'пампушка'. Праз польск. *pampuch* 'аладка' з ням. *Pfannkuchen* 'блін' з дыстантнай асіміляцыяй *p-k*>*p-p* (Мацэнаўэр, 269; Міклашыч, 230; Фасмер, 3, 194). Праабражэнскі (2, 10) мяркуе аб магчымым уплыве *пу́хнуць.*

**Пампу́шка**[2] 'скрутак тытуню' (Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *пампухъ* 'пачка тытуню' (Чартко, Даследаванні па літ. і мове, Гродна, 1967, 54). Рус. арханг. *пампу́ша* 'звязка лісця тытуню'. Гл. *папуша.* Сюды ж, відаць, і *панпу́шка* 'клубок нітак' (Мат. Гом.).

***Паму́ст,** *пому́ст* 'раскладка снапоў для малацьбы' (ДАБМ, 872). Гл. *памост.*

**Памфле́т** 'мастацка-публіцыстычны твор сатырычнага (часам палемічнага) характару' (ТСБМ). З рус. *памфле́т* (Крукоўскі, Уплыў, 78). У рус. мове запазычана праз ням. *Pamphlet*<англ. *pamphlet* ад ст.-франц. *pamphilet* 'тс': лац. *Pamphilus* — назва камедыі XII ст., якая ўзыходзіць да грэч. уласнага імя Πάμφιλος (Фасмер, 3, 195 з літ-рай).

**Памсці́цца** 'адважыцца, намерыцца' (Бяльк.), 'адпомсціць у зручны момант' (Гарэц.). Гл. *по́мсціць.* Першае значэнне магло ўзнікнуць у выніку расшырэння семантыкі '*наме́рыцца адпо́мсціць→наме́рыцца*'.

**Памы́і** 'брудная вада пасля мыцця чаго-н.' Рус. *помо́и,* укр. *помі́ї,* ст.-рус. *помыѣ,* царк.-слав. *помыѧ,* польск. *pomyje.* Ад *памыць*<*мыць* (гл.) з суф. *-j-* (гл. Фасмер, 3, 323). Дэрываты: *памы́йніца* 'памыйная яма', палес. *помы́йнік* 'вугал у хаце, дзе ставяць посуд'.



**Памы́длiны** 'мыльная вада, у якой мылі бялізну' (Сл. ПЗБ). З польск. *pomydliny* 'тс'.

**Памы́лка** 'няправільнасць у дзеяннях, учынках, выказваннях, думках і г. д.; няправільнае напісанне слова'. Суфіксальны (суф. *-к-*) дэрыват ад *памыляцца*<*мыляцца* (гл.).

**Памы́льніцы,** гл. *памы́длiны* (Сл. ПЗБ). Ад *мыльны* конфіксным шляхам словаўтварэння.

**Памы́сны** 'жаданы, згодны з думкамі, удалы, шчаслівы' (ТСБМ), *памы́сна* 'добра, шчасліва' (Сцяшк. Сл.), 'з намерам' (Сл. ПЗБ). З польск. *pomyślny* 'удачны, шчаслівы, паспяховы'.

**Памэ́дзганы** 'забруджаны' (Сцяшк. Сл.). Кантамінацыя *павэдзганы*<*вэдзгаць* (гл.) і *мазаць.*

***Памя́г,** *помя́г, пом'я́г* 'воблака, хмарка' (ТС), *помэ́г* 'тс' (Нік.), *помяжо́к* 'тс' (ТС). Бел.-укр. ізалекса: укр. палес. *поме́г, по́мйаг, помежо́к, помижо́к, помигі́, па́мег, па́меж, па́муг, па́ма, памуг'і́* 'воблака, хмара' (Ніканчук, Бел.-укр. ізал., 61). Фармальна належыць да *мягнуць, смяглы* (гл.). Калі прыняць пад увагу укр. форму *помугі* і магчымасць чаргавання галосных у *мягнуць* і *смуглы* (гл. Фасмер, 3, 695), то можна было б супаставіць з чэш. *smuga* 'воблака (цёмнае), хмара', г. зн. першапачаткова «задымленае» (гл. Махэк, 562).

**Памяло́** 'венік з яловых, сасновых, бярозавых галінак, надзеты на палку, для вымятання або абмятання чаго-н.' (ТСБМ), *памело́* (ТС), *памяла́, памяло́, помыло́* (Сл. ПЗБ) 'тс'. Рус. *помело́* 'тс', укр. *помело́* 'мятла, памяло', польск. *pomiotło,* чэш. *pometlo.* Да *месці, мяту* (гл.) з суф. *-lo.*

**Памяльні́к**[1] 'памяло для прачысткі коміна' (Сл. ПЗБ; КЭС, навагр.), 'малады хваёвы лес' (КЭС, навагр.), *паме́льнік* 'малады сасоннік-самасейка; густое дробналессе, кусты' (Яшк., стол.), *поме́льнік* 'тс' (ТС). Рус. арханг. *поме́льник* 'памяло; хваёвыя галінкі на *памёлы*'. Да *памяло* (гл.).

**Памяльні́к**[2] 'месца каля печы, дзе ставяць венік, качаргу і інш.' (З нар. сл., шчуч.). Гл. *памяльнік*[1].

**Памя́ля,** *поме́лья* 'дробная кастрыца' (Сл. ПЗБ). Ад *памяць*<*мяць* (гл.) з суф. *-ля,* у другім выпадку ўскладненага суф. зборнасці *-ja* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 53, 204). *-Е-* у слове *помелья,* відаць, пад уплывам *мелкі.*

**Памянша́емае** 'у матэматыцы — назва ліку, ад якога адымаюць другі лік' (ТСБМ, Нас.). *Да памяншаць*<*менш.* Паводле Крукоўскага (Уплыў, 116), калька рус. *уменьшаемое*<*уменьшать.*

**Памяра́нец** 'субтрапічнае вечназялёнае цытрусавае дрэва з аранжава-чырвонымі пладамі; плод гэтага дрэва' (ТСБМ). З рус. *помера́нец* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 89), якое ў рус. мове запазычана з ням. *Pomeranze* 'горкі сорт апельсінаў' ад італ. *pomo* 'яблыкі' і *arancia* 'апельсін'. Апошняе слова

з перс. (Мацэнаўэр, 280; Клюге — Гётцэ, 452; Фасмер, 3, 322).

**Памярка́цыя** 'разлік' (Нас.). Да *памяркаваць<мяркаваць* (параўн. і *памер*) па тыпу *адукацыя*.

**Памяркоўны** 'падатлівы, уступчывы' (ТСБМ, Нас.). Да *мяркаваць* (гл.). Параўн. яшчэ польск. уст. *pomiarkować* 'стрымаць сябе, сцішыць'.

***Памярэ́ча,** *помырэ́ча* 'мор; перан. злы, дакучлівы чалавек' (Клім.). Дэрыват з суф. *-эч-а* ад *памерці<merti* (гл. *мéрці*) (Сцяцко, Афікс. наз., 97).

**Памята́ць** тое ж, што і *помніць* (гл.), *пама́тка, памятлíвы, памяткí, памятýшчы*. Дэрыват ад *пáмяць* з суф. *-at'*.

***Памяцéха,** *помытэ́ха* 'вялікая палка' (Клім.). Ад **памятаць<мятаць* (адносна гэтага дзеяслова гл. *паметнік*) са старажытным суфіксам *-echa* (гл. SP, 1, 72).

**Па́мяць** 'здольнасць запамінаць, захоўваць і аднаўляць у свядомасці ранейшыя ўражанні, успамін пра каго-, што-н.' Агульнаслав.: рус. *пáмять*, укр. *пáм'ять*, ст.-рус. *память*, ст.-слав. **памѧть,** польск. *pamięć*, чэш. *paměť*, славац. *pamiat'*, серб.-харв. *пâмēт*, славен. *pámet* 'розум', балг. *пáмет*. Прасл. *pamętь*, — дэрыват ад *po-тьnĕti* (гл. *пóмніць*) (Махэк, 490). Роднасныя ст.-літ. *mintìs* 'думка, меркаванне', усх.-літ. *mintís* 'загадка', літ. *atmintìs* 'памяць', ст.-інд. *matíṣ* 'думка, погляд', авесц. *maìti* 'думка, погляд', лац. *mens*, родн скл. *mentis* 'мысленне, розум', і.-е. **mn̥tis* (гл. Вальдэ — Гофман, 2, 69; Траўтман, 181; Уленбек, 212; Фасмер, 3, 195).

**Памяшка́нне** 'месца, дзе жыве, размяшчаецца хто-, што-н.' (ТСБМ). З польск. *pomieszkanie* 'тс', дзе ад *mieszkać* 'жыць, знаходзіцца дзе-н.' (Брукнер, 335).

**Пан** 'уладальнік маёнтка, памешчык (у дарэвалюцыйнай Расіі і ў капіталістычных краінах; асоба, якая належала да прывілеяваных (чыноўных, арыстракратычных) слаёў грамадства дарэвалюцыйнай Расіі'. *Пáні, панéнка, пáня, пáнскі, пáні-мáтка, панавáць, пáніцца* 'жыць па-панску, гультайнічаць'. З польск. *pan* 'тс', як і рус. і ўкр. *пан* (Кюнэ, Poln., 84). Ст.-бел. *панъ* 'пан, памешчык, бог' (1340 г.)<ст.-польск. *pan*; *пани (пания, панья, паня 'пані'* (пач. XV ст.)<ст.-польск. *pani* (Булыка, Лекс. запазыч., 21). Слова зах.-слав. арэалу: польск., в.-, н.-луж. *pan*, чэш., славац. *pán*, ст.-чэш. *hpán*. Паводле Фасмера (3, 195), узыходзіць да **gъpan* і звязана чаргаваннем са ст.-рус. *жупанъ* 'кіраўнік акругі'. У іншых і.-е. мовах параўноўваюць са ст.-інд. *gōpā́s* 'пастух, вартавы', *gōpyáti, gōpayati* 'ахоўвае, засцерагае', *gōpanam* 'ахова', грэч. γυπή κοίλωμα γῆς, нов.-в.-ням. *Koben* 'свінарнік' (Гуйер, LF, 31, 105 і наст.; Младэнаў, 410). Брукнер (393) разглядае ст.-чэш. *hpán* як скарачэнне з *župa̋nъ*; апошняе ён лічыць аварскім элементам; супраць Фасмер (там жа). Махэк₂ (431) і Голуб — Копечны (263)



тлумачаць *panъ* як карэлят м. р. да *panьji*, якое з **potnī* — утварэнне ж. роду ад і.-е. *pot-* 'пан'. Трубачоў (Этимология, 1965, 73 і наст.) крыніцу слав. слова бачыць у ст.-іран. *gopān* 'пастух, вартаўнік стада', якое з'яўляецца кампазітам з *go-* 'бык, карова' і *pā* — nomen agentis ад *pā-* 'вартаваць'. На такую марфалагічную структуру і.-е. паралеляў яшчэ раней указваў Пізані (Paideia, 10, № 4, 1955, 262). Вялікую семантычную дыстанцыю Трубачоў тлумачыць дастаткова высокім станові́шчам пастуха ў жывёлагадоўчым грамадстве. Гл. яшчэ агляд літаратуры ў Трубачова, История терм., 184.

**Панаво́рышчу** 'нечакана, выпадкам' (Бяльк.). З **панаровышчу* ў выніку метатэзы зычных; далей да *нораў*.

**Панагі́я** 'нагрудны знак праваслаўных епіскапаў у выглядзе невялікай упрыгожанай іконы на ланцужку' (ТСБМ). Рус. *панагия* 'вобраз божай мацеры, які носяць архіерэі на грудзях; прасфора ў гонар Багародзіцы', ст.-рус., ц.-слав. *панагия* 'тс', ст.-рус. *понагия* 'тс'. З грэч. Παναγία 'прасвятая (эпітэт Багародзіцы)' (гл. Фасмер, 3, 196; Праабражэнскі, 2, 11).

**Панадво́рак** 'двор каля жылога або адміністратыўнага будынка' (ТСБМ, Шат., Янк., Гарэц.), *панадвóрку* 'па панадворку' (ТС). З *па* і *надворак* (гл.).

**Пана́дзіцца** 'прывучыцца, набыць звычку да чаго-н. непажаданага' (ТСБМ, ТС, Сл. ПЗБ), *панáдлівы, панáдны, панáда, панáдка* 'дрэнная звычка'. Прэфіксальны зваротны дзеяслоў ад *надзіць* (гл.).

**Панажы́** 'прылада ў ткацкім станку ў выглядзе дзвюх або некалькіх дошчачак пад кроснамі, пры дапамозе якіх нагамі прыводзяцца ў рух ніты' (ТСБМ, Нас., Шат., Гарэц., Др.-Падб., Касп., Бяльк., Мат., Гом.), *поножэ́* (ТС), *поножы́* (Сл. Брэс.), *панáж, панóж, пóнаж, панажы́, панажэ́, панажáі, панажáе* (Сл. ПЗБ) 'тс'. Рус. *понóжи* 'кайданы; сіло для лоўлі птушак; стар. частка лат, якімі закрываліся голень і пад'ём нагі', укр. *понóжі* 'панажы'. З *па-* і *нага* (Фасмер, 3, 325), з дапамогай суф. *-jь*. Першапачаткова *понаж, панож,* потым мн. л.

**Пана́ма** 'летні шыракаполы капялюш' (ТСБМ). Праз рус. *панáма* або польск. *panama* 'тс' з зах.-еўрап. моў. Крыніца слова — назва лацінаамерыканскай краіны *Панама* (Голуб — Ліер, 335).

**Панара́д** 'каркас, аснова калёс' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), 'ткацкі станок' (Мат. Гом., Нар. сл.), 'поўны камплект колаў' (Інстр. I), 'другарадныя часткі бота: сцелькі, заднікі і інш.' (Гарэц.), 'усе ткацкія прылады' (Сцяшк. МГ, Інстр. II), *понарáд* 'тс' (Влад.), *панарóд* 'калёсы з драбінамі; матэрыял на ніз ботаў' (Др.-Падб.). Беларускі рэгіяналізм. Утворана пры дапамозе прыст. *па-* ад *нарад* (гл.) або як бязафіксны дэрыват ад **панарадзіць<нарадзіць* (гл.); далей да *рад*. У інш. слав.

мовах з іншымі прыстаўкамі: рус. *снаря́д* 'снасць, прылады', чэш. *nářadí* 'прылады'.

**Панара́ма** 'від мясцовасці (звычайна з вышыні), якая цягнецца вельмі далёка' (ТСБМ). З рус. *панора́ма* (Крукоўскі, Уплыў, 78). У рус. з зах.-еўрап. моў, дзе з лац. *panorāma*<грэч. πᾶν 'усе' і ὅραμα 'від', відовішча' (Фасмер, 3, 198).

**Панара́т** 'вязанка' (Яруш.). Прыставачны дэрыват ад *нерат* (гл.).

**Панаро́ўка** 'звычай' (Касп., Мат. Гом., Сцяшк. Сл.), 'дрэнная звычка' (Юрч.). Конфіскнае ўтварэнне (*па-*+*-ка*) ад *нораў*.

***Панасно́й,** *поносны́й* 'аб вазе або аб'ёме, які можа перанесці адзін (або два) чалавекі' (Клім.), *поносна́я тэ́рныця* 'пераносная ільнамялка' (Выг.). Дэрыват з суф. *-н-* ад *панесці*<*несці* (гл.).

**Па́на́трыць** 'узяць за правіла рабіць што-н. дрэннае (пра чалавека, жывёлу)' (Янк.), 'прызвычаіцца' (Сцяшк. Сл.). Няясна. У якасці параўнаўчага матэрыялу можна прывесці толькі польск. дыял. *ponatrzać* 'паўтараць у гневе адно і тое ж'. Прымаючы пад увагу семантыку чэш. *dotěrný* 'надакучлівы, назойлівы', якое з'яўляецца вытворным ад *terti (церці)* (Махэк$_2$, 658 і наст.), відаць, бел. і польск. словы магчыма звязаць з гэтым коранем.

**Па́наўка** '*палонка*' (Юрч., СЭС-1, 36), *па́неўка* (Гарэц., Др.-Падб.), *па́ніўка* (Нар. сл., Мат. Гом.), *па́наўка, пану́ўка, паны́ўка, пачя́ўка* (Бяльк.) 'тс'. Рус. смал. *па́навка, пана́вка, пано́вка,* зах.-бран. *па́наўка,* арл. *па́ноўка* 'тс'. Метафарычны перанос ад *панва* (гл.).

**Па́нах** у кантэксце: *«Акыш, каб вы падохлі! Як запарашу, то па́наху вашага тут ні будзя, акыш!»* (Сл. бел. нар. фраз., 153, стаўбц.), *пана́хт* 'пах' (З нар. сл., карэл.). Няясна. Магчыма, з *пах,* расшыранага пад уплывам *нюхаць.*

**Панацэ́я** 'у алхімікаў — лякарства нібыта ад усіх хвароб; уяўны сродак, які можа дапамагчы ва ўсіх выпадках жыцця' (ТСБМ). Праз рус. *панаце́я* (польск. *panaceum*<лац. *panaceum*) з грэч. πανάκεια 'сродак, які ўсё лечыць' ад імя багіні Πανάκεια (ССРЛЯ, 9, 98).

***Панача́та,** *поночо́та* 'цемра, цемната' (Клім.). Калі лічыць па словаўтварэнню, то гэта аддзеяслоўнае ўтварэнне з суф. *-ота* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 89) ад **паначыць* (параўн. укр. *поночі́ти* 'цямнець вечарам') і далей да *ноч.*

**Панва́,** *пані́ва, пано́ўка, паня́ва* 'скаварада' (Сцяшк. МГ), *пані́ва* 'тс' (Сл. Брэс.), *па́неўка* 'полка ў замка стрэльбы; палонка' (Нас.). З польск. *panew, panwia* 'скаварада', *panewka* 'полка ў замка стрэльбы'. Лексема мае агульнаславянскі характар (параўн. рус. *па́нка* 'драўляная міска', чэш. *pánev* 'скаварада і г. д.') і з'яўляецца праславянскім



запазычаннем са ст.-в.-ням. *pfanne* 'тс' (падрабязна гл. Фасмер, 3, 198; Брукнер, 394; Махэк$_2$, 432).

**Пандра́к** 'лічынка майскага жука' (Сцяшк. Сл.), *пандра́кі* 'лічынкі хрушча, шашаль' (Сл. ПЗБ). З польск. *pędrak* 'лічынка'.

**Пане́бнік** 'перакладзіна ў кроснах, да якой прывязвалі чапелкі' (ТС, Мат. Гом.), *пане́бнік, пане́бніца* 'тс' (Бяльк.), *падне́бнік, пане́біч, панёбніца.* Дэрываты ад *не́ба* (гл.). Аналагічна ў іншых слав. мовах у розных значэннях: рус. *поне́бо* 'нёба (у роце); скляпенне ў рускай печы', *поне́бница* 'дах, навес над варотамі', чэш. літ. *podnebí* 'надвор'е', дыял. 'нёба ў роце'. Пэўнай семантычнай паралелі няма.

**Панегі́рык** 'у Старажытнай Грэцыі і Рыме — надмагільная пахвальная прамова, якая ўслаўляе подзвігі памёршага; празмерна хвалебны водзыў аб кім-, чым-н.' (ТСБМ). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 75), з рус. *панеги́рик* 'тс', дзе праз польск. *panegiryk* з лац. *panēgyricus*<грэч. πανηγυρικός: πανήγυρις 'усеагульны народны сход' (гл. Фасмер, 3, 197).

**Пане́ль** 'дарожка для пераходаў па баках вуліцы; драўляная абшыўка або афарбоўка ніжняй часткі сцяны ў памяшканні' (ТСБМ). З рус. *пане́ль* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 79). У рус. з н.-ням. *Paneel* або нідэрл. *paneel* 'панель, абшыўка', сяр.-н.-ням. *panele, pannele* 'драўляная абшыўка сцен пакоя', якія ўзыходзяць да рам. **pannellus* 'сукно', або *panis* 'футэроўка, набіўка' (Мацэнаўэр, 270; Фасмер, 3, 197, у якога гл. і інш. літ-ру).

**Паненка** 'рудая балюча-куслівая мурашка' (Дразд.). Відаць, да *паненка* (гл. *пан*), але семантычная матывацыя няясная.

**Пане́хтуваць** 'зганьбіць' (Сл. ПЗБ). Укр. *поне́хтувати* 'пагрэбаваць; папсаваць, зрабіць шкоду'. Ад *nechati* (гл. *няхай*) з *т* укладным у выніку экспрэсіўнага характару слова.

**Панёва** 'спадніца з некалькіх нясшытых удаўжыню полак' (Нас.), 'суконная саматканая спадніца' (Бяльк.), 'спадніца з саматканай тканіны ў клетку' (ДАБМ, 934), 'суцэльная сукня без рукавоў' (Інстр. I), 'жаночы цёплы пінжак' (Сцяшк. Сл.). Рус. *поня́ва* 'пакрывала, накідка; павязка на галаву, хустка', зах. і паўдн. *поня́ва, понёва* 'саматканая спадніца', укр. *поня́ва* 'від спадніцы', ст.-рус. *понѧва, понева* 'кавалак тканіны; пакрывала; завеса; ніжняя спадніца', ст.-слав. **понѩва,** серб.-харв. *по́ньава* 'падсцілка, грубая коўдра', славен. *ponjâva* 'палатно, прасціна, коўдра'. Слова праславянскага паходжання; яно было распаўсюджана ў Панонії, на што ўказвае яго наяўнасць у вянгерскай і румынскай мовах (Скок, 2, 8). Як мяркуюць даследчыкі (Остэн-Сакэн, SF, 33, 238; Фасмер, 3, 326), звязана з *апона, пяць$_2$* (гл.).

**Панібра́т** 'блізкі знаёмы, прыяцель' (ТСБМ), *панібра́цкі, панібра́цтва* 'залішняя бесцырымоннасць, фамільярнасць у абыходжанні'. Рус. *панибра́т,* укр. *панібра́т.* Запазычанне з польск. кл. скл. адз. л. *panie bracie* 'тс' (Праабражэнскі, 2, 11; Фасмер, 3, 197).

**Панізо́ўе** 'нізіна' (Сл. ПЗБ, Яшкін), *панізо́ўшчына* 'тс' (ТС). Конфікснае ўтварэнне ад *ніз* (*па-+оўj-е* — параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 253).

**Па́ніка** 'непераадольны жах і разгубленасць, якія авалодалі чалавекам або мноствам людзей' (ТСБМ). З рус. *па́ника* (Крукоўскі, Уплыў, 74), дзе з зах.-еўрап. моў<лац. *panicus,* грэч. πανικός ад імя ляснога бога *Пана,* грэч. πάν, які, паводле грэчаскай міфалогіі, пасылае жах і трывогу (гл. Клюге — Гётцэ, 430; Фасмер, 3, 197).

**Панікадзі́ла** 'вялікая люстра са свечкамі або стаячы кандэлябр перад іконамі' (ТСБМ). Рус. *паникади́ло* 'вісячы падсвечнік для вялікай колькасці свечак', ст.-рус. *паникандѣло, паникадило.* З сяр.-грэч. πολυκάνδηλον, якое было набліжана да *кадзіла* (гл.) (Міклашыч, 231; Фасмер, 3, 197). Пачатак слова Фасмер (там жа) тлумачыць уплывам слова *паніхіда.*

**Пані́клы** 'схілены, прыгнуты; прыгнечаны, замучаны' (ТСБМ), *паніклы, панікліві* 'блізарукі' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *поніклы* 'блізарукі; упарты' (ТС). Ад *панікнуць<нікнуць* (гл.) з суф. *-л-.*

**Пані́кніца** 'расліна Geum rivale L.' (Кіс., Касп., Гарэц., Дэмб. 1, 288), 'кураслеп, Anemone L.' (Інстр. II), *панокніца, паніконніца* (Кіс.), *па́ныківіца* (Бяльк.) 'тс'. Дэрыват з суф. *-іца* ад *панікнуць<нікнуць* паводле формы звісаючых уніз кветак. Параўн. чэш. *poniklec* 'Pulsatilla'<*poniknouti* (Махэк$_2$, Jména rostl., 48).

**Паніхі́да** 'царкоўная служба па нябожчыку' (ТСБМ), дыял. *панафіда, панахіна, панахвіда.* Рус. *панихи́да,* дыял. *панахи́да, панафи́да,* укр. *панахи́да,* ст.-рус., ц.-слав. *панахида,* ст.-рус. яшчэ *панафида, понахида.* Запазычанне з сяр.-грэч. παννυχίδα ад παννυχίς 'усяночная' (Фасмер, 3, 197 і наст.).

**Па́ніч$_1$** 'малады пан, панскі сын'. Укр. *пани́ч* 'тс'. Ад *пан* з патранімічным суфіксам *-ічь* (Фасмер, 3, 198).

**Пані́ч$_2$** 'падасінавік' (Сцяшк. Сл.). Да *паніч$_1$*; назва, мабыць, дадзена з-за яркай шапачкі. Параўн. рус. *солдат* 'тс'.

**Паніч$_3$** 'чорт' (Інстр. II), 'вадзянік' (Маш.). Укр. *пани́ч* 'тс'. Метафарычны перанос *паніч$_1$*.

**Панішчэ́чку** 'ціха' (Сл. ПЗБ). Гл. *нішчачко́м.*

**Па́нка** 'корань аеру' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.). Памяншальнае ад *панна* (гл. *пан*). Параўн. яшчэ *панны,* а таксама кантэкст: *«Панка з косамі сядзіць каля рэчкі ззелянеўшы».*



**Па́нна$_1$** 'гатунак груш' (ТС, Мат. Гом.). З польск. *panna* 'тс'.

**Па́нна$_2$** 'касач жоўты, Iris pseudacorus L.' (Бес.). Пераноснае значэнне ад *панна*<польск. *panna* 'дзяўчына'. Семантычную матывацыю гл. *па́нка.*

**Па́нны** 'аер' (Сл. ПЗБ). Да *па́нна* 'дзяўчына, паненка' (параўн. *па́нна, па́нка).*

**Панос** 'расстройства дзейнасці кішэчніка з частымі вадкімі экскрэментамі' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС), 'вывадак' (ТС), 'пачатак цяжарнасці' (Гарэц., Др.-Падб., СЭС-4). Рус. *поно́с* 'расстройства дзейнасці кішэчніка', укр. *поно́с* 'нараджэнне (у жывёл)'. Ад *панесці<несці* (гл.) у розных значэннях; бязафіксны назоўнік з апафаніяй у корані.

**Паноша** 'цяжарнасць' (Жд. 2), *паношчы* 'тс' (Сл. ПЗБ). Ад *пане́сці, панасіць* з суф. *-ja.* Параўн. *ноша.*

**Панталоны** 'верхняе мужчынскае адзенне, якое пакрывае ніжнюю частку тулава да пояса; частка жаночай бялізны' (ТСБМ). З зах.-еўрап. моў праз рус. *панталóны* або польск. *pantalony.* Назва ўзыходзіць да імя традыцыйнага персанажу італ. фарса — *Pantaleone,* які насіў шырокія штаны, і далей да ўласнага грэч. імя Πανταλέων (гл. Фасмер, 3, 199).

**Панталы́к** 'фанабэрыя, пыха' (Нас.), 'розум, троп' (Бяльк.), *збіць(ца) з панталыку* 'збіць(ца) з розуму' (ТСБМ, ТС). Рус. *панталы́к* 'толк', звычайна ў выразе *сбить з панталыку,* укр. *збити з пантелику* 'тс'. Пэўнай этымалогіі няма. Меркаванне Корша (гл. Праабражэнскі, 2, 12) аб запазычанні з азерб. *pänd* 'майстэрства, хітрасць, выкрут' Фасмер (3, 199) лічыць неверагодным. Трубачоў (у Фасмера, там жа) падтрымлівае версію Гараева (Доп., 2, 28) аб паходжанні з ням. дыял. *pandl<Band* 'завязка' і ўдакладняе, што *панталык* сумесна з укр. дыял. карп. *пантли́к, пантли́ка* 'стужка', польск. дыял. *pętlik, pętlika* 'пятля, завязка', славац. *pántlik,* чэш. мар. *pentlik* мае крыніцай аўстрыйска-бавар. *pantl* 'завязка, стужачка' (параўн. Балецкі, Sslav., 4, 1958; Крынжале, 354).

**Пантон** 'пласкадоннае судна, якое служыць апорай для наплаўнога моста або для падтрымкі на вадзе якіх-н. збудаванняў' (ТСБМ). Праз рус. *понто́н* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 72) з франц. *ponton*<лац. *pontō, -onis* 'лодка, мост на лодках' (Праабражэнскі, 2, 104; Фасмер, 3, 335).

**Пантофлі** 'дамашнія туфлі, звычайна без заднікаў' (ТСБМ, Сцяшк., Сл. ПЗБ), *панто́плі* (Нас., Шат., Касп., Бяльк.), *панты́каль* (Мат. Гом.) 'тс', *панто́плі* 'лёгкі абутак' (Сл. Брэс.). З польск. *pantofel, pantofla* 'тс' (Кюнэ, Poln., 85). У польск. праз ням. *Pantoffel* з франц. *pantoufle,* італ. *pantofola*<сяр.-грэч. παντόφελλος 'увесь з карка' (гл. Праабражэнскі, 2, 12; Фасмер, 3, 199).

**Па́нты** 'маладыя, неакасцянелыя рогі высакародных або плямістых аленяў, якія выкарыстоўваюцца для вырабу лекавых сродкаў' (ТСБМ). З рус. *па́нты* 'тс', дзе з манг. (ССРЛЯ, 10, 231).

**Панты́кі** 'апоркі' (ТС). З польск. *patynka, patynek* 'туфель'<італ. *patino* 'тапкі', параўн. франц. *patte* 'нага', ням. *Pfote* або *Patsche* 'тс' (Брукнер, 399). У бел. слове адбылася метатэза зычных.

**Панто́ра** 'тое, што і барс' (гл.) (ТСБМ). З рус. *панте́ра* 'тс', дзе праз франц. *pantère*<лац. *pantēra* (Фасмер, 3, 199).

**Пануке́ць** 'прымушаць рабочую жывёлу рухацца хутчэй; нокаць; дэспатычна распараджацца, не лічыцца з чым-небудзь, папіхаць' (ТСБМ). Да *ну, нукаць* (гл.).

**Пану́ры** 'непрыветлівы, хмурны, суровы (пра чалавека); змрочны; з апушчанай галавой, панылы' (ТСБМ, Нас., Яруш), *пану́рысты, пону́рышчэ* 'пануры чалавек' (ТС), *панурува́тый* (Клім.). Рус. *пону́рый,* укр. *пону́рий,* польск. *ponury,* чэш. *ponury,* славац. *ponur(n)ý.* Ад *панурыць*<*нурыць* (гл.) (Фасмер, 3, 326; Брукнер, 365).

**Панхе́р,** *панхíр* 'пухір' (Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка (3, 392), з польск. *pęcherz* 'тс'.

**Панчо́вы** 'стракаты' (Сцяшк. Сл.). З польск. *ponczowy* 'пуншавы'.

**Панчо́хі,** адз. *панчо́ха* 'выраб машыннага або ручнога вязання, які надзяваецца на ногі і заходзіць за калена' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Гарэц.), *панчо́ха, пончо́ха* (ТС), *панчо́ха, пончо́ха, панчаха́* (Сл. ПЗБ). З польск. *pończocha* (Карскі, Белорусы, 156; Кюнэ, Poln., 85). Рус., укр. *панчо́ха* таксама з польск. (Фасмер, 3, 200). Крыніца слова — сяр.-в.-ням. *buntschuoch* 'сельскі абутак, які завязваецца аборамі да калена' (Міклашыч, 267; Брукнер, 686; Патабня, РФВ, 1, 263; Махэк, 499).

**Панца́к** 'круглыя ячныя крупы; суп з такіх круп' (ТСБМ, Шат., Касп., Сцяшк.), *панса́к* (Др.-Падб., Сержп. Грам., Сцяшк., З нар. сл.), *панца́к, панса́к, пэнца́к* (Сл. ПЗБ) 'тс', *па́нцыр* 'жалобная каша' (Сцяшк. Сл.). Запазычанне з польск. (Шат., 200) дыял. *pęcak* (агульна-польск. *pęczak*), якое ад *pęcznieć* 'набракаць, напухаць' (гл. Брукнер, 408).

**Панцíна,** *пенцíна* 'костка ў ніжняй частцы нагі каня ля капыта' (Сл. ПЗБ), *панцíна, паянцíна* 'выступ з доўгай поўсцю ля капыта каня' (Нар. сл.). З польск. *pęcina* 'выемка ў ніжняй частцы каня ля капыта (там, дзе накладаюцца путы)'; далей да *путы* (гл.) (Брукнер, 403).

**Па́нцыр** 'адзенне ў выглядзе кашулі, зробленае з пераплененых дробных металічных кольцаў, якім карысталіся даўней для засцярогі ад удараў халоднай зброяй' (ТСБМ). Ст.-бел. *панцеръ, панциръ, панцыръ, панцэръ, пансыръ* 'панцыр'<ст.-польск. *pancerz* (Булыка, Лекс. запазыч., 68). Рус. *па́нцирь,* укр. *па́нцер,* ст.-рус. *пансыръ.* Формы на *-ц-* ва ўсх.-слав. мовах праз польск. *pancerz,* чэш. *pancíř, pancéř* запазычаны з сяр.-в.-ням. *panzier*<ст.-франц. *pancier* 'тс': лац. *pantex* 'бруха', а формы на *-с-*, магчыма, праз пасрэдніцтва сяр.-н.-ням. *panser* (Міклашыч, 231; Фасмер, 3, 200).



**Панядзе́лак** 'першы дзень тыдня пасля нядзелі'. Агульнаславянскае: рус. *понеде́льник,* укр. *понеді́лок,* ст.-рус., ст.-слав. **понедѣльникъ**, польск. *poniedziałek,* в.-луж. *póndźela,* н.-луж. *pónźele* н. р., палаб. *püned'ela,* чэш. *pondělí,* дыял. *pondělek,* славац. *pondelok,* серб.-харв. *поне̏дељак, понедеонӣк,* славен. *pon(e)déljek,* балг. *понеде́лник, понде́лник.* З *po-* і *nedělja* (гл. Фасмер, 3, 324). Махэк₂ (471) узнаўляе прасл. н. р. *ponedělьje.* Першапачатковае значэнне 'дзень пасля нядзелі' (гл.). Некаторыя даследчыкі (гл. Фасмер, там жа) мяркуюць аб уплыве народна-лац. *feria secunda,* як *nedělja* адлюстроўвае ўплыў лац. *feria.*

**Панядзёга** 'жывёліна, якая нарадзілася ў панядзелак' (Сл. ПЗБ). Ад *панядзелак* з суф. *-ога* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 136) з адсячэннем суфікса і часткі каранёвай лексемы, якая, магчыма, успрымаецца як суфікс.

**Паня́цце** 'адна з форм адлюстравання свету ў мысленні чалавека; уяўленне аб чым-н.; веданне чаго-н.' (ТСБМ). З рус. *поня́тие* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 40).

**Паня́ць** 'тое ж, што і зразумець' (ТСБМ), 'абучыцца добра якому-н. рамяству; заліваць вадою; уступіць у шлюб' (Нас.), 'заліць вадою; зразумець' (Бяльк., Юрч.), 'зразумець, злавіць, знайсці' (Сл. ПЗБ), *поня́ць* 'злавіць' (ТС), *поня́цца* 'узяцца; набрацца, пакрыцца, праявіцца' (ТС). Дэрыват з прыстаўкай *po-* ад прасл. *jęti* з устаўным *н.* Гл. *узяць.* Значэнне 'зразумець' — семантычнае запазычанне з рус. *понять* 'тс'.

**Па́па₁** 'вярхоўны галава рымска-каталіцкай царквы і дзяржавы Ватыкан' (ТСБМ). Рус., укр. *па́па,* ст.-рус. *папа.* З лац. *pāpa* 'тс'<*pāpa* 'бацька' (Міклашыч, 231; Праабражэнскі, 2, 13; Фасмер, 3, 200). Ст.-бел. *папа* з XV ст. (Булыка, Даўн. запазыч., 235).

**Па́па₂** дзіцяч. 'хлеб' (Нас., Касп., Шат., Гарэц., Янк., Янк. 2, Янк. БП, Сцяшк. МГ, Бяс., Клім.), *па́пка.* Рус., укр. *па́па,* чэш. *pápa, papa,* славац. *papa* 'дзіцячая ежа'. Паводле Махэка₂ (432), з падвоенага дзіцячага *па-па.* Слова шырока распаўсюджана ў іншых мовах: параўн. лац. *pappa* 'каша', нов.-в.-ням. *Pappe* 'дзіцячая каша', сяр.-в.-ням., гал., англ. *pap* 'каша' (гл. Фасмер, 3, 200; там жа і інш. літ-ра).

**Па́па₃** 'бацька' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.; Яшкін, Назвы). З рус.

*па́па* 'тс', якое, верагодна, з франц. *papa*. Слова дзіцячай мовы, якое набліжаюць да *папа₂* (гл. Фасмер, 3, 200).

**Пападдзя́** 'жонка папа' (ТСБМ, Нас., Шат.). Рус. *попадья́*, укр. *попадя́*, ст.-рус. *попадꙗ, попадья*. З грэч. παπαδια 'тс'< παπᾶς 'свяшчэннік' (Фасмер, 3, 327; там жа і інш. літ-ра). Ад *пападдзя* ўтворана *пападзю́к* 'паповіч, сын свяшчэнніка' (Мал.).

**Папала́м** 'на дзве прыблізна роўныя часткі, напалавіну' (ТСБМ). Да *пол-, палавіна* (гл.).

**Папа́р** 'поле, пакінутае на адно лета незасеяным з мэтай паляпшэння глебы пад пасеў азімых' (ТСБМ, Нас., Касп., Шат., Шн.), *папа́р, попа́р, пупа́р* 'тс' (Сл. ПЗБ). Прэфіксальны дэрыват ад *пар* (гл.), або, улічваючы палес. *попа́рыты* 'араць зямлю восенню для вясновага севу' (Выг.), нулявы дэрыват ад гэтага дзеяслова. Сюды ж *папа́рына* 'расліннасць на папары' (Янк. 1).

**Па́параць** 'шматгадовая травяністая расліна аддзела папарацепадобных', *па́паратнік*. Агульнаславянскае: рус. *па́пороть, па́поротник*, укр. *па́пороть*, ст.-рус. *папороть*, польск. *paproć*, серб.-харв. *па̏прат* і г. д. Прасл. *paportь*. Роднасныя ў і.-е. мовах: літ. *papártis, papartỹs* 'папараць', лат. *papar̂de, paparkste, paparksts* 'тс', ст.-інд. *parṇám* 'крыло, пяро', авесц. *parena* — н. р. 'крыло, пяро', ст.-в.-ням. *faru* 'папараць', ірл. *raith* 'тс' (**prati-*) (гл. Траўтман, 206; Мейе — Эндзелін, 3, 80; Фасмер, 3, 202; Махэк, Jména rostl, 32). Аналагічная семантыка ў грэч. πτερίς 'папараць'< πτερόν 'крыло', параўн. яшчэ літ. *spar̃nas*, лат. *spárns* 'крыло', ст.-слав. **перѧ** 'лячу'. Мяркулава (Очерки, 118), падкрэсліваючы ўстойлівасць семантычнай мадэлі 'пяро' — 'папараць', указвае яшчэ на рус. дыял. *па́пороток* 'крыло птушкі'.

***Папа́рыць**, *попа́рыты, попа́рыть* 'узараць восенню для веснавога севу' (палес., Выг.). Да *папа́р* (гл.).

**Папа́с** 'месца, дзе пасецца жывёла; паша; прыпынак у дарозе з мэтай пакарміць коней, падсілкавацца і адпачыць' (ТСБМ, Яруш.), *попа́с* 'тс' (ТС), 'падножны корм', *папа́ска* 'падкормка ў дарозе' (ТСБМ, Янк. 2). Нулявы і з суф. *-к-* дэрыват ад дыял. *папасці́* <*пасці́* 'папасвіць'.

**Папа́сці** 'трапіць у цэль, дасягнуць якой-н. мэты, кінуўшы што-н., куды-н.; апынуцца дзе-н., трапіць куды-н.' Прэфіксальны дэрыват ад *пасці, паду* (гл. Фасмер, 3, 327).

**Папаўзу́ха** 'мяцель, завіруха, завея' (Гарэц., Бяльк.). Дэрыват з суф. *-уха* ад *папаўзці*<*паўзці* (гл.).

**Папа́ўка** 'расл. пупок палявы, Anthemis arvensis L.' (Кіс.). Польск. *papawa, pempawa, pępawa*, чэш. дыял. *pupawa*, славац. *púpawa, pumpawa* 'расліны сямейства Taraxacum і Leontodon'. Ст.-польск. *popowa główka* таму што, калі ў гэтых раслін



ападаюць лепясткі, яны нагадваюць галаву каталіцкага манаха з танзурай. Параўн. лац. *caput monachi*, ням. *Pfaffenblat* 'папаўка', першапачаткова 'галава манаха'. Потым гэта назва зазнала розныя змены. Такім чынам, этымалагічна звязана з *поп* (гл.) (Махэк, Jména rostl., 233). Інакш Брукнер (404), які звязвае з *пуп, пупок* і роднасным лічыць літ. *pam̃pti* 'набухаць'.

**Папа́ха** 'высокая футравая шапка' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'круглая шапка з аўчыны' (Сцяшк.). З рус. *папа́ха* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 74), дзе з азерб. *papax* 'тс' (Радлаў, 4, 1207), якое выводзілася з чаркескага (Корш у Праабражэнскага, 2, 40; гл. яшчэ Фасмер, 3, 200).

**Па́пеж** 'папа' (Яруш.). Ст.-бел. *папежъ* 'тс' (1501 г.)<ст.-польск. *papież* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 175). Рус. *папеж* (XVII ст.) (відавочна, з польск.— Фасмер, 3, 200), ст.-слав. **папежъ** 'папа', польск. *papież*, чэш. *papež*, славац. *pápež*, славен. *pâpež*. Крыніцай слова ў зах.-слав. мовах было ст.-бав. *pápes*, ст.-в.-ням. *bâbes*, якое баварскімі місіянерамі было распаўсюджана ў IX—X ст. у Маравіі і Панонії і якое ўзыходзіць да народналац. *pāpex* ад лац. *pāpa+pontifex* (гл. Фасмер, там жа; Брукнер, 394; Махэк₂, 433).

**Папежы́нец** 'прыхільнік папы' (Нас.). Крыніцай слова з'яўляецца польск. *papież* 'папа' (гл. Кюнэ, Poln, 85) (Параўн. рус. *па́пеж*<польск. *papież* — Фасмер, 3, 200). Цяжэй вытлумачыць словаўтварэнне; магчыма, тут, як і ў ст.-чэш. *papeženec*, быў першапачаткова суф. *-enec*, як у імён маладых істот і патомкаў (гл. Махэк₂, 433).

**Папе́ра** 'матэрыял для пісьма, друку, малявання і пад.; пісьмовы дакумент афіцыйнага характару; пераважна мн. (*папе́ры*) розныя лісты з рукапісным або друкаваным тэкстам', дыял. *папе́р, папя́р*. Ст.-бел. *паперъ* (XVI ст., Булыка, Запазыч., 236). Рус. дыял. арл., чарніг. *папе́ра*, укр. *папі́р, папі́ра*, ст.-рус. *поперъ* (XVI або XVII ст.). Ва ўсх.-слав. з польск. *papier*, якое з ням. *Papier* 'папера'<лац. *papȳrus*<грэч. πάπῡρος егіпецкага паходжання (Кюнэ, Poln., 85; Брукнер, 394; Фасмер, 3, 200). З польск. *papiernia* паходзіць і *папе́рня* 'папяровая фабрыка' (Гарэц.).

***Паперадня́**, *попырыдне́* 'моцная кароткая вяроўка (або ланцуг) у пярэдняй частцы воза, за якую ўмацоўваецца рубель пры ўвязванні сена, саломы, снапоў' (драг., Лучыц-Федарэц), *попырыде́й* (Шатал.), *паперадзе́нь* (Сл. ПЗБ) 'тс'. Гл. *перадня́*.

**Па́перць** 'ганак перад уваходам у царкву' (ТСБМ, Нас.). З рус. *па́перть* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 74).

**Папіка́ць** 'выказваць каму-небудзь незадавальненне, дакор; папракаць' (ТСБМ, Нас., Грыг., Янк. 3, Сцяшк. МГ), *папі́ка* 'папрок' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Гл. *упікаць*.

**Папі́рус** 'шматгадовая травяністая трапічная расліна сямейства асаковых; матэрыял для пісьма, які выраблялся з гэтай расліны егіпцянамі і іншымі старажытнымі народамі; рукапіс на такім матэрыяле' (ТСБМ). З рус. *папи́рус* 'тс', якое з ням. *Papyrus*<лац. *papӯrus*. Далей гл. *папера* (Фасмер, 3, 201).

**Папіха́йла** 'чалавек, якім кожны камандуе' (Мат. Гом.), *попіха́йла, попіха* 'тс' (ТС), *папіха́йла, папі́хішча* 'непаваротлівы чалавек, якога трэба падганяць' (Нас.). Да *папіха́ць* (гл. *піха́ць*) з рознымі суфіксамі.

**Папіха́ч** 'чалавек, якому даручаюць паскорыць якую-небудзь справу' (ТСБМ, ТС); тое ж, што і *папіхіч* (гл.) (ТСБМ, Шат., Др.-Падб.; КЭС, лаг.). Дэрыват з агентыўным старажытным суф. *-ач* ад *папіхаць*<*піхаць* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 31).

**Папі́хіч** 'чалавек, якім панукаюць, зняважліва распараджаюцца, камандуюць' (ТСБМ), *попі́хіч* 'тс' (ТС). Ад *папіха́ць*<*піха́ць* з агентыўным суф. *-іч* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 45).

**Па́пка** 'вокладка з картону, скуры і пад. для захоўвання папер, малюнкаў і пад.' (ТСБМ). Праз рус. *па́пка* з ням. *Pappe* 'картон', якое ад *Pappe* 'каша', таму што раней слаі паперы звязваліся тоўстай праслойкай клейстара' (Клюге — Гётцэ, 431; Фасмер, 3, 201).

**Папкі́**, *по́пікі* 'расліна паўночнік палявы, Knautia arvensis (L) Coult' (Кіс.). Да *поп* (гл.). Матывацыю гл. *папа́ўка*.

**Паплаве́ц**$_1$, *паплавок* 'невялікі поплаў' (ТСБМ). Памяншальнае да *по́плаў* (гл.).

**Паплаве́ц**$_2$ 'палачка з завостраным канцом для пячэння сала на агні' (Шат.). Няясна. Этымалагічна, мабыць, тое ж, што і *паплаво́к*, але з іншай суфіксацыяй.

**Паплавок** 'частка вуды, якая ўтрымлівае лёску з кручком у час лову на патрэбнай глыбіні' (ТСБМ, Касп.). Рус. *поплаво́к*, укр. *поплаве́ць*, польск. *popławek* 'тс'. Дэрыват з суф. *-ок* ад *паплаваць*<*плаваць*.

***Паплаву́ха**, *паплэву́ха* 'асака, якая расце вясной на лугах і балотах у вадзе' (Шат.). Дэрыват ад *поплаў* з суф. *-уха*.

**Паплаўкі́** 'назва плоскуняў' (ДАБМ, 870). Этымалагічна тое ж, што і *паплавок* (гл.), відаць, таму што мужчынскія сцяблы каноплі не маюць сямян і плаваюць пры мочцы.

**Паплашы́ць** 'пагоршыць' (Мат. Гом.). Дэрыват ад асновы вышэйшай ст. дыял. прысл. *плоха — плашэй* (Мат. Гом.).

**Папле́ціна** 'прут, якім прымацоўваецца салома да лат пры крыцці страхі' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Бір. Дзярж., Шн. 2, Янк. 3), *попле́ціна* 'тс' (Шушк.), 'кусок палкі' (Бір. Дзярж.), 'доўгая палка' (Сл. ПЗБ), 'жэрдка, якая кладзецца на кроквы' (ТСБМ). Дэрыват з суф. *-іна* ад *паплесці, паплятў* (гл. *плесці*).



**Папле́чнік** 'таварыш па справе, саўдзельнік, саратнік' (ТСБМ, Нас.). З польск. *poplecznik* 'тс'.

**Паплёт**$_1$ 'тое ж, што і паплеціна' (ТСБМ, Нас., Шат., Бяльк., Інстр. I), *паплёта* (Янк. 3), *паплёт, паплёт* (Сл. ПЗБ) 'тс'. Аддзеяслоўны назоўнік ад *папле́сці, паплятў* (гл. *пле́сці*).

**Паплёт**$_2$ 'плот з пруццяў' (Гарэц., Др.-Падб.). Укр. *поплі́ть* 'верхняя частка плятня'. Да *паплесці*<*плесці*.

**Паплі́н** 'шаўковая, паўшаўковая або баваўняная тканіна з дробным папярочным рубчыкам' (ТСБМ). З рус. *попли́н* 'тс', якое з франц. *popeline, papeline* ад італ. *papalino* 'папскі', таму што гэтая тканіна нібыта першапачаткова выраблялася ў папскай рэзідэнцыі ў Авіньёне (гл. Фасмер, 3, 327; там жа і інш. літ-ра).

**Паплі́ска** '(плоская) палка' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Сцяшк., Сержп.), 'тонкія жэрдкі, якімі прывязваецца салома на страсе' (Янк. 1), 'палкі, якімі ўвязваюць дровы на возе' (Некр.), *паплі́цка* 'палка, дручок' (Янк., Мат. Гом.). Хутчэй за ўсё, звязана з *пляскаць*, як *пліска* (гл.). Параўн. яшчэ ўкр. *поплі́сок* 'вялікая лужа, якая засталася пасля паводкі або вялікага дажджу на месцы, пакрытым травой'.

***Папо́к**$_1$, *попо́к* 'ступа' (ТС). Этымалагічна тоеснае з *поп* (гл.); параўн. рус. дыял. *поп* 'цурка пры гульні ў *рюхи*, якая падае на мяжу'.

**Папо́к**$_2$, *папкі́* 'адуванчык лекавы, Taraxacum officinale Web.' (Кіс.). Да *поп* (гл. *папаўка*).

**Папо́нка** 'гунька для нашэння травы' (Шат.), 'хустка' (Мат. Гом.), *попо́нка* 'гунька' (ТС), *попо́на* 'гунька' (Сл. Брэс.), *папо́ня* 'доўгае неахайнае адзенне' (З нар. сл.). Рус. *попо́на* 'гунька', укр. *попо́ня* 'тс'. Звязана з *апона, пяць*$_2$, *апінаць* (гл. Фасмер, 3, 327).

**Папо́ўка палявая** 'нівянік звычайны, Leucantheum Dc. vulgare Lam.' (Кіс.). Да *поп* (гл. *папаўка*).

**Папра́ва** 'выпраўленне' (Нас., Гарэц., Яруш., Др.-Падб.). З польск. *poprawa* 'тс'.

***Папра́гач**, *попра́гач* 'ручка ў навоі, на які наматваецца пража' (ТС). Вытворнае з суф. *-ач* ад **папрага́ць*, аднакаранёвага з *запрагаць* (гл.).

**Папраду́ха** 'жанчына, якая займаецца ручным прадзеннем' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Янк. БП), *попраду́ха* 'папрадуха; вячоркі, дзе прадуць' (Влад.), *попраду́ха* 'папрадуха' (Клім.), *папраду́хі* мн. 'вячоркі, дзе прадуць і весяляцца' (ТСБМ). Дэрыват з суф. *-уха* ад *папрасці, папраду* (гл. *пра́сці*).

**Папрака́ць**, *папро́к* 'выказваць дакор, незадавальненне чым-н., дакараць каго-н.' (ТСБМ, КТС, мядз.), *папряка́ць* 'тс' (Бяльк.). Рус. *попрека́ть, попрёк*. Звязана з *перак* (гл.), *папярок* і з царк.-слав. *прѣкъ* 'процілеглы', *прѣкы* 'супраць' (параўн. Фасмер, 3, 358).

**Папра́нік** 'пернік' (Нас., Мат. Гом.). Рус. *пря́ник*, смал. *пупря́ник*, сеўск. *попря́льник*, укр. *попрани́к*. Вытворнае ад **папра́ны* 'востры, рэзкі', параўн. ст.-рус. *пьпрянъ*, прыметніка ад *пьпрь* 'перац' (Міклашыч, 270; Праабражэнскі, 2, 44; Фасмер, 3, 395).

**Папру́га** 'раменны пояс або наогул пояс; частка збруі для ўмацавання сядла, падсядзёлка на спіне каня' (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ), *попру́га* 'тс' (ТС, Сл. Брэс.), 'скураны пояс' (Янк., Янк. 2, Маш., Сцяшк., ДАБМ, 931), 'частка збруі' (Шат.), *попруга* 'частка збруі' (Маслен.), *папру́жка* 'раменны пояс' (Шат.), з іншым прэфіксам *падпру́га* 'папруга'. Рус. *подпру́га*, укр. *попру́га*, царк.-слав. *попрѧга*, польск. *poprąg, poprąga*, чэш., славац. *popruh*, славен. *podprôga*. Ад *prǫg-, pręgati* (гл. *запрага́ць*) (гл. Праабражэнскі, 2, 137; Фасмер, 3, 300; Махэк₂, 472).

***Папры́ца**, *попры́ца* 'металічная пласцінка на верхнім камяні жорнаў' (ТС, Выг.). Ужо ст.-бел. *паприца, парплица, полприца*<польск. *paprzyca* 'шворан у жорнах' (Булыка, Даўн. запазыч., 236). Далей гл. *парпліца*.

**Папры́шчыцца** 'пакрыцца прышчамі' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), 'патрэскацца' (Сцяшк. Сл.), *попры́шчыца* 'пакрыцца дробнымі пухіркамі' (ТС), *попры́шчытысь* 'здранцвець, анямець ад холаду; паўміраць (ад холаду, голаду)' (Клім.). Да *прыщч* (гл.).

**Папуга́й** 'трапічная лясная птушка з яркім стракатым апярэннем, якая здольна пераймаць розныя гукі' (ТСБМ). З рус. *попуга́й* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 87 і наст.). У рус. мове праз зах.-еўрап. мовы са ст.-франц. *papegai*, ісп. *papagayo* ад араб. *babaghā* (гл. Фасмер, 3, 328; там жа і інш. літ-ра).

**Папу́жа**, *папу́га* 'папуша' (Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка (3, 405), з літ. *papūžà* 'тс'.

**Папуры́** 'музычны твор з урыўкаў розных агульнавядомых песень, мелодый' (ТСБМ). З рус. *попурри́* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 84), дзе з франц. *potpourri*, літаральна 'гнілы гаршчок'<*pot* 'гаршчок', *pourrir* 'гніць', потым 'змешаная страва' (гл. Фасмер, 3, 328).

**Папу́ха** 'почкі на дрэвах, бутоны кветак' (ТС), *папушы́нка* 'почка' (Шат.). Не зусім ясна. Відаць, з *пупы́шка* 'почка' пад уплывам *папуша*.

**Папу́ці** 'прымітыўны абутак' (Весці АН БССР, 1969, 4, 129, зэльв.), *папу́ть* 'непаваротлівы' (Рам., 8, 124, дзісн.), *папу́цькі* 'вязаныя з нітак або сшытыя з палатна тапачкі' (Сл. Брэс.). З польск. *papuć* 'туфель з сукна, хатнія тапачкі' (Весці АН БССР, там жа). Польск. з тур. *papudż* 'тс' (Брукнер, 395).

**Папу́ша** 'скрутак тытунёвага лісця' (ТСБМ, Сцяшк., Янк. 1, Мат. Гом., Ант, 224; Інстр. III), *папу́шка* 'пачак чаю або тытуню' (Касп.), *папу́ха* 'папуша' (ТС), *папу́ха, папу́ша* 'скрутак якога-небудзь лісця; пачак паперы' (Сл. ПЗБ). Рус. дыял. *папу́ха, папу́ша*, укр. *папу́ша*, польск. *papusza*. З рум. *papușa* 'звязка' (Фасмер, 3, 195; Праабражэнскі, 2, 16).



**Папы́**₁, *папкі́* 'расліна нівянік звычайны, Leucanthenum Dc vulgare Lam.' (Кіс.). Ад *поп*. Матывацыю гл. *папа́ўка*.

**Папы**₂, *папакі* 'скабіёза жоўтая, Scabiosa ochroleuca L.' (Кіс.). Гл. *папы*₁.

**Папы́**₃ 'апорныя слупы' (Сл. ПЗБ). Этымалагічна тое ж, што і *поп* (гл.). Параўн. рус. *поп* 'цурка, чушка, выбітая з кона, якая зноў паўстае тарчма (пры гульні ў гарадкі)', *поставить на попа́* (напр., бочку) 'стаўмя'.

***Папэ́ндзіцца**, *попэ́ндытысь* 'кінуцца, памчацца' (Клім.). З польск. *popędzić się* 'тс'.

**Папялі́сты** 'які мае колер попелу' (ТСБМ), *папяля́сты* 'тс' (Гарэц., Мал.). Да *попел* (гл.).

**Папяро́к** прысл. і прыназ. 'па шырыні, упоперак' (ТСБМ, Шат.), *по́перак* (Нас.), *поперэ́к, поперо́к* (ТС), *папяро́к, попэрэ́к* (Сл. ПЗБ) 'тс'. Рус. *поперёк*, ст.-рус. *поперегъ* 'тс'. Да *пе́рак* (гл.) (Праабражэнскі, 2, 41; Фасмер, 3, 327).

**Папяро́са** 'папяровая трубка з тытунём для курэння (пераважна з папяровым муштуком)' (ТСБМ, Яруш.). Праз рус. *папиро́са* 'тс' з польск. *papieros*, утворанага ад *papier* 'папера' па ўзору ісп. *cigaros* (гл. Брукнер, 394; Праабражэнскі, 2, 15; Фасмер, 3, 201).

**Папяро́ўка** 'сорт летняй яблыні, на якой растуць белыя або жоўтыя кісла-салодкія яблыкі; плод гэтай яблыні' (ТСБМ), *поперо́ўка* (ТС), *папяру́вка* (Сл. ПЗБ) 'тс'. З польск. *papierówka* 'тс'.

**Папяро́чка**₁ 'брус, жэрдка, планка і пад., замацаваныя ўпоперак чаго-н. або паміж чым-н.' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Тарнацкі, Studia), *поперэ́чка* 'тс' (Шушк.), *поперэ́чка* 'вага ў студні з жураўлём' (ДАБМ, 809). Дэрыват з суф. *-к-* ад *папяро́чны* <*папярок* (гл.).

**Папяро́чка**₂ 'папярочны загон' (Сл. ПЗБ), *поперэ́чка* 'папярочнае ўзворванне' (Выг.), *папярэ́чняк* 'папярочны загон' (Сл. ПЗБ), *поперэчня́к, попяро́чніца* 'тс' (Выг.). Суфіксальныя дэрываты ад *папярочны*<*папярок* (гл.). Аналагічныя дэрываты ў інш. славянскіх мовах. Выгонная (Лекс. Палесся, 54 і наст.) адзначае ўсх.-палес.-паўдн.-слав. ізалексу (*попяро́чніца* — славен. *poprečnica* 'папярочная баразна') і зах.-палес.-польск. (вармінскую) (*поперэчняк* — *popršyčnak* 'папярочны загон з краю поля').

**Папяро́чка**₃ 'вельмі шырокая саматканая спадніца ў палоскі, якія ляжаць упоперак' (ДАБМ, 934). Дэрыват з суф. *-к-* ад *папяро́чны* (гл. *папярок*).

**Папяро́чнік** 'памер у шырыню, дыяметр' (ТСБМ). Дэрыват ад *папярочны* з суф. *-ік*. Калька франц. *diamétre* або лац. *diametrus*, грэч. διάμετρος 'папярочнік'.

**Папярхну́цца** 'на момант задыхнуцца пры пападанні ў дыхальнае горла чаго-небудзь (часцінак ежы, вады і пад.)' (ТСБМ, Грыг.). Гл. *пе́рхаць*.

**Папярэ́дзіць** 'загадзя паведаміць каму-небудзь пра што-небудзь; загадзя ліквідаваць тое, што пагражае; зрабіць што-небудзь раней каго-небудзь' (ТСБМ). Да *пе́рад* (гл.).

**Па́ра**1 'газ, які ўтвараецца пры выпарванні вады, нагрэтай да высокай тэмпературы; газападобны стан вады'; *пар* 'паравое поле', *па́рнасць, па́рына, па́раніна, парно́та, парнік, па́ранка, паро́нка*. Агульнаславянскае: рус. *пар*, укр. *па́ра* 'паравое поле, выпарэнне', царк.-слав. *пара* 'выпарэнне', польск. *par*, *para*, чэш. *pára*, славац. *para*, серб.-харв. *па̏ра*, славен. *pâra*, балг. *па́ра*. Звязана чаргаваннем з *прэць, прэю* (гл.) (Траўтман, 231; Младэнаў, 411; Праабражэнскі, 2, 20; Фасмер, 3, 203). Параўн. *па́рыць*.

**Па́ра**2 'два аднолькавыя сіметрычныя прадметы, якія складаюць адно цэлае; дзве асобы, мужчына і жанчына, дзве жывёліны, самец і самка; два прадметы, дзве штукі чаго-небудзь'. Рус., укр. *па́ра*. Праз польск. *para* з сяр.-в.-ням. *pâr* 'пара' ад лац. *pār* 'роўны, пара' (Брукнер, 395; Праабражэнскі, 2, 16; Фасмер, 3, 203). Ст.-бел. *пара* XVI ст. таго ж паходжання (Булыка, Лекс. запазыч., 154).

**Пара́** 'час, перыяд; адпаведны час'. Рус., укр. *пора́* 'час, пара, узрост', польск. *pora* 'выпадак, пара', балг. *по́ра* 'узрост'. Пэўнай этымалогіі няма. Лічаць роднасным *-пор* (гл. *напор, упор*), якое звязана з *пярэць, пру*, і набліжаюць да грэч. πορεῖν, аорыст ἔπορον, эпір. πόρον 'даць, прадставіць', 'вызначыць' (Младэнаў, 489; Праабражэнскі, 2, 166; Мацэнаўэр, LF, 13, 180 і наст.; Фасмер, 3, 328). Міклашыч (240) указвае яшчэ на рус. дыял. *пора́* 'падпорка для стога сена'.

**Па́рабак** 'наёмны сельскагаспадарчы рабочы ў памешчыцкай або кулацкай гаспадарцы' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Яруш.), *па́робок, па́рубок* (ТС), *па́рабак, па́рабок, па́робак, парабчу́к* 'тс' (Сл. ПЗБ), *паробкова́ць* (ТС). Рус. *па́робок* 'хлопец', укр. *па́робок, па́рубок* 'тс', польск. *parobek, parobczak* 'батрак, парабак; хлопец', славац. *parobok* 'хлопец'. Прасл. дыял. *parobъkъ*. Далей гл. *раб, рабі́ць*. Гл. Фасмер, 3, 208.

**Пара́бала** 'лінія перасячэння круглага конуса плоскасцю, паралельнай якой-небудзь датычнай плоскасці гэтага корпуса' (ТСБМ). Ст.-бел. *парабола* 'прытча, алегорыя', 1517 г.<ст.-польск. *parabola*<сяр.-лац. *parabola* ад грэч. παραβολή (Булыка, Лекс. запазыч., 163). Сучаснае бел. слова з рус. *пара́бола*,



(Крукоўскі, Уплыў, 90) якое ўзыходзіць да той жа лац. крыніцы (Фасмер, 3, 203).

**Парава́н** 'занавеска' (Сцяшк., Мат. Гом.). З польск. *parawan(ik)* 'шырма, прыкрыццё'. Польск. з франц. *paravent* 'тс', літаральна 'супраць ветру' (Брукнер, 396).

**Паравоз** 'лакаматыў з паравым рухавіком' (ТСБМ). З рус. *парово́з* 'тс'.

**Пара́граф** 'частка тэксту ўнутры раздзела, якая мае самастойнае значэнне і пазначана звычайна знакам § і парадкавым нумарам' (ТСБМ). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 78), з рус. *пара́граф*, дзе праз польск. *paragraf* з лац. *paragraphus* ад грэч. παράγραφος 'знак, які напісаны радам', παραγράφω 'пішу радам' (Фасмер, 3, 203). Ст.-бел. *паракграфъ (параграфъ, поракграфъ)*, 1580 г.<ст.-польск. *paragraf*, якое далей з лац. (Булыка, Лекс. запазыч., 57).

**Пара́д** 'урачысты агляд войск' (ТСБМ). З рус. *пара́д* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 74), таксама, як і *пара́дны, пара́днасць*. Рус. з франц. *parade*<ісп. *parada* 'спыненне; месцазнаходжанне' (Фасмер, 3, 203).

**Пара́да** 'прапанова, як дзейнічаць, рада; сумеснае абмеркаванне чаго-небудзь, кароткая нарада'. З польск. *porada* 'тс'. Гл. яшчэ *ра́да, ра́дзіць*.

**Пара́дак** 'правільная, наладжаная сістэма размяшчэння чаго-небудзь; належны стан чаго-небудзь; устаноўлены лад, план, сістэма кіравання'; *пара́дкавы, пара́дкаваць, пара́дком*. Да *рад* (гл.). Аналагічна ў іншых слав. мовах: рус. *поря́док*, польск. *porządek*, чэш. *pořádek*, серб.-харв. *по̏редак* і г. д.

**Парадзі́ха** 'жанчына, якая раджае або толькі што нарадзіла дзіця', дыял. таксама *параду́ха, паражані́ца, паражы́ля, паражы́лля*. Дэрываты з living рознымі суфіксамі ад *парадзі́ць, паража́ць*, прэфіксальных дзеясловаў ад *радзі́ць, ража́ць* (гл.).

**Парадокс** 'думка, меркаванне, якое разыходзіцца з агульнапрынятымі поглядамі, супярэчаць разумнаму сэнсу' (ТСБМ). З рус. *парадо́кс* (Крукоўскі, Уплыў, 78), дзе ў сваю чаргу праз зах.-еўрап. мовы з грэч. παράδοξος 'тое, што супярэчыць агульнапрынятаму, дзіўнае' (ССРЛЯ, 10, 139).

**Паразі́т** 'расліна або жывёліна, якая жыве на паверхні або ў сярэдзіне іншага арганізма і корміцца за яго кошт; той, хто жыве з чужой працы; дармаед' (ТСБМ). Ст.-бел. *паруситъ (пасоритъ)* 'дармаед', 1622 г.<ст.-польск. *parazyt, pasorzyt*<лац. *parasītus*, грэч. παράσιτος (Булыка, Лекс. запазыч., 127). Сучаснае бел. слова, відаць, праз рус. *паразит*, якое праз ням. *Parasit* або франц. *parasite* ўзыходзіць да той жа лацінскай крыніцы (гл. Фасмер, 3, 203).

**Паразі́ць** 'забіць, нанесці ўдар якой-н. зброяй; перамагчы, нанесці паражэнне, разбіць; выклікаць пашкоджанне, змяненне

ў тканцы, органе і пад.' (ТСБМ). Новае кніжнае запазычанне з рус. *поразить*<*разить*<*раз* (гл.). Дыял. *порожáць* 'кусаць, жаліць (пра змей)' (ТС), відавочна, украінізм, параўн. *порáзити* 'параніць; укусіць (пра змяю)'.

**Паралéль** 'паралельная лінія; умоўная лінія, праведзеная па зямной паверхі паралельна экватару, усе пункты якой маюць аднолькавую геаграфічную шырыню' (ТСБМ). З рус. *параллéль,* якое з франц. *parallèle* або ням. *Parallel*. Крыніца слова — лац. *parallēlus* ад грэч. παράλληλος 'лінія, якая ідзе ўздоўж другой' (Клюге — Гётцэ, 432 і наст.; Фасмер, 3, 204).

**Паралíч** 'хвароба, пры якой асобныя органы або частка цела трацяць здольнасць да адвольных рухаў' (ТСБМ). З рус. *паралúч* (Крукоўскі, Уплыў, 89), якое праз польск. *paraliż* ад сяр.-в.-ням. *paralis* з лац. *paralysis* ад грэч. παράλυσις 'дазвол; адхіленне' (гл. Фасмер, Этюды, 142; Мацэнаўэр, 270; Фасмер, 3, 204).

**Паралюш** 'параліч' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Др.-Падб., Шат., Сл. ПЗБ). З польск. нар. *paralusz* 'тс'. Далей гл. *параліч*.

**Парапéт** 'невысокая сцяна, агароджа ўздоўж маста, набярэжнай і пад.' (ТСБМ). З рус. *парапéт* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 85)<франц. *parapet* ад італ. *parapetto* 'брусцвер' (Фасмер, 3, 204). Дыял. *парапэ́та* 'падаконнік' з польск. *parapet* 'тс' (Сл. ПЗБ).

**Пáрасля** 'малады хваёвы лес' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *пáраслі* 'малады лес' (Сцяшк.), *поросля́* 'высокае пясчанае месца ў лесе' (ТС). Ад *парасці*<*расці* з суф. *-ля* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 54).

**Пáраснік** 'маладыя парасткі дрэў або іншых раслін' (ТСБМ), 'малады лес, звычайна хваёвы' (Сл. ПЗБ). Ад *парасці* з суф. *-нік*.

**Парасóн** 'прыстасаванне для засцярогі ад дажджу і сонца ў выглядзе замацаванага на палцы складнога каркаса, абцягнутага матэрыяламі; стрэшка над чым-небудзь' (ТСБМ). Праз польск. *parasol* 'тс' з італ. *parasole* 'тс' (*para-* 'абараняць', *sole* 'сонца') (Брукнер, 395). Канечнае *-н*, відаць, пад уплывам *сонца*.

**Пáрастак** 'маладая галінка расліны, якая вырасла ад больш старога сцябла або ствала, флянс; сцябло расліны' (ТСБМ, Шат., Др.-Падб.). Дэрыват ад *парасці*<*расці* (гл.) з суф. *-ак*. *Пáраска* 'тс' (Сл. ПЗБ) утворана ад таго ж дзеяслова з суф. *-ка*.

**Пáрасцень** 'гузак' (Мат. Гом.). Ад *парасці*<*расці* з суф. *-ень*.

**Парасё́**, *парасё* 'дзіцяня свінні', дыял. таксама *парасёнак*. Агульнаславянскае: рус. *поросёнок*, дыял. *порося́*, укр. *порося́*, ст.-рус. *порося*, царк.-слав. *прасѧ*, польск. *prosię*, серб.-харв. *прâсе* і г. д. Праслявянскае *porsę*, *-ęte*. Роднасныя ў інш. і.-е. мовах: літ. *par̃šas* 'парася', ст.-прус. *parstian* н. р. 'парася', лац. *por̃cus* 'свойская свіння', грэч. πόρκος, ст.-в.-ням. *far(a)h* 'парася', сяр.-ірл. *ors* 'маладая свіння', курдскае *purs* (гл. Траўтман, 207; Вальдэ — Гофман, 2, 314; Фасмер, 3, 332; Трубачоў, Происх., 63; у яго гл. і больш падрабязна літ-ру).



**Парафíн** 'воскападобнае рэчыва, якое здабываецца з нафтапрадуктаў' (ТСБМ). З рус. *парафúн*, якое з ням. *Parafin* 'тс'. Назва дадзена яго адкрывальнікам К. Райхенбахам (1830) з-за яго нейтральнасці адносна рэактываў. Ад лац. *parum* 'мала', *affinis* 'роднасны' (Фасмер, 3, 204; там жа і інш. літ-ра).

**Парáфія** 'акруга, тэрыторыя, якая адносіцца да аднаго касцёла і падпарадкоўваецца аднаму ксяндзу; прыход' (ТСБМ), *парáхвия* 'тс' (Нас.). Таксама як рус. *парáфия,* народн. *парáфея, парáхвия*, укр. *парáхвія* з польск. *parafia* 'тс' (Фасмер, 3, 205). Польск. з лац. *parochia* ад грэч. παροιχία (Міклашыч, 232; Брукнер, 395; Фасмер, Этюды, 143 і наст., Фасмер, 3, 205).

**Парахно** 'парахня' (Мат. Гом.), *порохнó* 'тс' (ТС). Рус. *порохнó* 'гнілое дрэва', укр. *порохнó* 'парахня', ст.-слав. **прахненъ** 'благі, непатрэбны', польск. *próchno* 'гніль', чэш. *práchno* 'гніль, пацяруха, тлен', славац. *práchno* 'трут, пацяруха', в.-луж. *prochny* 'гнілы, трухлявы', н.-луж. *prochnawy* 'тс'. Прасл. паўн.-слав. *porchъno*<*porchъ* (гл. *пóрах*) (Параўн. Фасмер, 3, 333).

**Парахня́** 'дробныя, як пясок, сухія рэшткі сапрэлага або паточанага шашалем дрэва' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. ПЗБ), *порохня́* 'тс' (ТС), *парахня́вы, парахня́віна, парахня́лы, парахнéць*. Рус. дыял., укр. *порохня́* 'тс'. Да *порах* (гл.) з суф. *-ня* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 165). Гл. *парахнó*.

**Параход** 'судна, якое прыводзіцца ў рух паравым рухавіком, паравой турбінай' (ТСБМ). З рус. *пароxóд* 'тс', якое, магчыма, утворана ад *пар* і *ходить* паводле *пешеход, самоход* і не з'яўляецца калькай зах.-еўрап. назваў (гл. Трубачоў у Фасмера, 3, 209).

**Парашок** 'расцёртае на дробныя частачкі цвёрдае рэчыва; лекавае рэчыва пэўнай дазіроўкі ў раздробленым выглядзе' (ТСБМ). Рус., укр. *порошóк*, польск. *proszek*, чэш. *prášek*, серб.-харв. *прáшак*, славен. *prašek,* балг. *прáшак* 'тс'. Прасл. *porchьkъ*, дэмінутыў, утвораны з суф. *-ьkъ* ад *porchъ* (гл. *порах*) (Адносна словаўтварэння гл. SP, 1, 93).

**Парашýт** 'прыстасаванне ў выглядзе вялікага парасона, прызначанае для спуску людзей, грузаў з лятальных апаратаў, для тармажэння пры пасадцы самалётаў і пад.' (ТСБМ). З рус. *парашют* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 80, 83)<франц.

*parachute*, якое ўтворана ад італ. *para* 'абараняй' і франц. *chute*, 'падзенне' (Фасмер, 3, 205). З рус. *парашютист* таксама бел. *парашутыст*.

**Парашына**. Гл. *парушына*.

**Пардва** 'белая курапатка' (Дэмб. I, 457; Інстр. II), *парба* 'тс' (Інстр. II). Рус. *пардва* 'балотны бакас, Scolopax gallinago', польск. *pardwa* 'белая курапатка', ст.-чэш. *pardva* 'птушка Totanus'. Пэўнай этымалогіі няма. Брукнер (396) дэфінуе яго запазычанне з рус. Фасмер (3, 205), наадварот, лічыць магчымым (з-за наяўнасці *-ар-*) яго польскае паходжанне і рэканструюе як *pъrdy*, *pъrdwe*, якое аналагічна грэч. семантычнай мадэлі πέρδιξ 'курапатка': πέρδομαι (гл. *пярдзёць*) і ўзыходзіць да гукапераймання (ад шума крылаў пры ўзлёце). *Пардва* існуе ўжо у ст.-бел.; паводле Булыкі (Даўн. запазыч., 236), гэта запазычанне з польск.

**Пардон** 'прабачце, даруйце' (ТСБМ), 'адпачынак' (*мардуеся бес пардону дзень пры дні*) (Мат. Гом.). Праз польск. *pardon* або рус. *пардон* 'тс' з франц. *pardon* 'дараванне' (параўн. Фасмер, 3, 205).

**Паржак** 'пінжак' (Мат. Гом.). Скажонае *пінжак*.

**Парк** 'участак з прыроднымі ці штучнымі насаджэннямі, дарожкамі, алеямі, вадаёмамі, прызначаны для адпачынку' (ТСБМ, Яруш.). Праз польск. *park* або рус. *парк* з зах.-еўрап. моў (ням. *Park*, англ. *park*) ад сяр.-лац. *parricus* 'загон, агароджа' (гл. Клюге — Гётцэ, 433; Фасмер, 3, 207).

**Парка₁** 'пакаранне розгамі' (Нас.). Дэрыват з суф. *-к-* ад *парыць*<*пара₁* (гл.). Адносна семантыкі параўн. чэш. *pařiti* 'пакараць', першапачаткова 'пакараць розгамі, якія клаліся ў гарачую ваду, каб распарыліся'.

**Парка₂** памяншальнае да *пара₂* (Нас.), 'пара коней' (Янк.), 'двайны колас, спарыш' (ТС). Да *пара₂* з суф. *-к-*.

**Парка₃** 'парка (адзенне)' (ТСБМ). Праз рус. *парка* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 74) з нямецкага *parka* 'тс' (гл. Фасмер, 3, 207).

**Паркаль** 'лёгкая баваўняная аднаколерная або з набіўным малюнкам тканіна' (ТСБМ, Гарэц., Сцяшк., Мат. АС Гродзеншчыны; ДАБМ, 943), *пэркаль, паркаль, пяркаль* 'тс' (Сл. ПЗБ). Відавочна, праз рус. *перкаль* 'грубая баваўняная тканіна' з франц. *percale*, ісп. *percal*. Крыніца слова — пярс. *pärgāl* (Фасмер, 3, 242). Сюды ж *паркалёўка* 'хустка з тонкага матэрыялу' (ДАБМ, 943).

**Паркан** 'агароджа з бярвёнаў, штыкецін або мураваная' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Касп., Янк., Мядзв., Шпіл., Грыг., П. С., Сцяшк., Бір. Дзярж.; ДАБМ, 811; Шушк.), *парган* (Арх. Бяльк., слонім.), *паркан, парган* (Сл. ПЗБ) 'тс'. Рус. зах. *паркан* 'агароджа', укр. *паркан, баркан* 'тс'. Ва ўсх.-слав. мовах з польск. *parkan* (Кюнэ, Poln., 85). Далей, паводле Фасмера (3, 208), з сяр.-в.-ням. *parkân*, якое з франц.<араб. Ст.-бел. *парканъ, барканъ*<польск. *parkan, barkan* ужо ў пачатку XVI ст. (Булыка, Даўн. запазыч., 256).



**Паркет** 'невялікія гладкія, пераважна з цвёрдых парод дрэў, дошчачкі, якімі насцілаюць падлогу; падлога, зробленая з такіх дошчачак у форме розных геаметрычных фігур' (ТСБМ). З рус. *паркет* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79), якое праз ням. *Parkett* з франц. *parguet* ад *parc* (гл. *парк*) (Фасмер, 3, 208).

**Паркі** 'два звязаныя разам снапкі, якія выкарыстоўваюцца пры крыцці ніжняга рада страхі' (Сл. ПЗБ), 'саламяныя маты, якімі крылі страху' (Сцяшк. МГ, Нар. сл.). Дэрыват з суф. *-к-* ад *пара₂*.

**Парламент** 'вышэйшы заканадаўчы орган буржуазнай дзяржавы, заснаваны часткова або цалкам на выбарных органах' (ТСБМ). З рус. *парламент* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 83). У рус. м. праз польск. *parlament* ад італ. *parlamento* 'абмеркаванне, перагаворы, сход' (Брукнер, 396; Фасмер, 3, 208).

**Парня** 'памяшканне з печчу, дзе гнуць абады, дугі' (ТС). Да *парыць*<*пара₁* з суф. *-ня* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 59).

**Парняты** 'двайняты' (Юрч.), *парнята* 'тс' (Сцяшк.). Да *парны*<*пара₂* (гл.), утворанае па ўзору *двайняты*.

**Парог** 'бервяно або брус, прымацаваныя пад дзвярамі паміж вушакамі; камяністы папярочны выступ на дне ракі, які нарушае плаўнасць цячэння' (ТСБМ, Інстр. I, Шат., Сл. ПЗБ), *порог* 'парог, прыступкі; сядзенне ў выдзеўбаным чоўне' (ТС), 'парог; бэлька над дзвярыма' (Мат. Гом.). Агульнаслав.: рус. *порог*, укр. *поріг, порогу*, ст.-рус. *порогъ*, ст.-слав. **прагъ**, польск. *próg*, в.-луж. *proh*, н.-луж. *prog*, чэш. *práh*, славац. *prah*, серб.-харв. *праг*, славен. *prág*, балг. *праг(ът)*. Прасл. *porgъ*. Роднасныя ў і.-е. мовах: літ. *pérgas* 'рыбачы човен', ст.-ісл. *forkr* 'дубіна', ст.-сакс. *ferkal* 'засаўка', лац. *pergula* 'прыбудова ў доме, выступ у сцяне, вінаграднік, хаціна, гарышча', магчыма, і арм. *harkanem* 'б'ю' (гл. Траўтман, BSW, 32, 151 і наст.; Вальдэ — Гофман, 288; Фасмер, 3, 329; там жа і інш. літ-ра). Адносна семантыкі бел. слова параўн. серб.-харв. *prag* (на востраве Пагу), якое абазначае любое з чатырох бэлек дзвярной рамы, і лац. *limen* 'парог; верхняя бэлька над дзвярыма' (гл. Махэк₂, 478).

**Парода** 'група свойскай жывёлы аднаго віду і агульнага паходжання, якая адрозніваецца ад іншых груп пэўнымі прыкметамі; разнавіднасць раслін; род, сям'я, радня; прыналежнасць да якой-н. сацыяльнай групы; сацыяльнае паход-

жанне'. Да *род* (гл.); да таго ж *породня́* (ТС) 'род, парода'.

**Пародыя** 'твор, сатырычны або камічна падроблены пад іншы твор' (ТСБМ). З рус. *паро́дия* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 78). Рус. слова з'яўляецца кніжным запазычаннем праз польск. *parodja* або непасрэдна з лац. *parōdia* ад грэч. παρῳδία 'спеў наадварот' (Фасмер, 3, 208).

**Парожні**, *паро́жны* 'пусты, нічым не запоўнены' (ТСБМ, Нас., Шат., Янк. БП), *поро́жні* 'пусты; нішчымны, не прыпраўлены' (ТС), *паро́жневаць* 'быць не занятым' (Нас.), *порожнева́ти* 'тс' (Клім.). Рус., укр. *поро́жний*, ст.-рус. *порожьнъ*, польск. *próżny*. Аднакаранёвае са ст.-рус. *пороздьнъ*, ст.-слав. **праздьнъ**, в.-луж. *prózdny, prózny*, н.-луж. *prozny*, чэш. *prázdný*, славац. *prázdny*, серб.-харв. *пра̑зни*, славен. *prázen*, *prázna*, балг. *пра́зен, пра́зден*. Для ўсх.-слав. і польск. Фасмер (3, 330) узнаўляе прасл. *porzdьnjo-*, для астатніх — *porzdьnъ*. Далейшыя і.-е. сувязі няпэўныя. Горшаль (SR, 5—7, 1954, 121) слав. *porzdъ* тлумачыць з *pors-do* і лічыць роднасным хец. *parš-* 'бегчы', герм. **ferzan* 'аддаляць', аналагічна слав. *pustъ* (гл. *пусты*): *pustiti*.

**Паро́ліца** 'вострая драўляная лапатка, якой аддзяляюцца пласты мёду' (Машынскі, Uwagi, 43). Дэрыват з суф. *-ліца* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 50) ад *пароць* (гл.).

**Пароль** 'сакрэтнае ўмоўнае слова або фраза для апазнання сваіх людзей на вайсковай службе або ў канспіратыўных арганізацыях' (ТСБМ). З рус. *паро́ль* (Крукоўскі, Уплыў, 82), якое з франц. *parole* 'слова, гутарка'<народна-лац. **parábola* з грэч. παραβολή 'прытча' (Фасмер, 3, 208).

**Паро́м** 'плыт або пласкадоннае судна для перавозкі людзей або грузаў цераз рэчку, возера, праліў' (ТСБМ, Нас., Сцяшк.; Маш., 130; Інстр. I), *поро́м* 'тс' (ТС), *паромшчык*. Агульнаслав.: рус. *поро́м, паро́м*, укр. *поро́м*, ст.-рус. *поромъ*, польск. *prom*, чэш., славац. *prám*, серб.-харв. *пра̑м*, балг. *прам*. Прасл. *pormъ*. Роднасныя ў і.-е. мовах: ст.-ісл. *farmr* 'цяжар, ноша, груз', ст.-в.-ням. *farm*, сяр.-в.-ням. *varm* 'човен, паром', ст.-в.-ням. *faran* 'ехаць', грэч. περάω 'пранікаю, праходжу' (гл. Траўтман, 216; Фасмер, 3, 331 з літ-рай). Слав. слова не запазычана з ням. *Prahm* 'паром', таму што апошняе ўзыходзіць да чэш. *prám* (гл. Фасмер, там жа; Махэк$_2$, 479).

**Паро́сная** 'цяжарная (пра свінню) (ТСБМ, Мядзв., Інстр. II, Сл. ПЗБ), *поро́сна* (ТС), *паро́са* 'свінаматка' (Мат. Гом.). Да *парасі́цца*<*парася́*.

**Паро́цца** 'калоць, пароць адзін аднаго чым-небудзь вострым; разрывацца, разыходзіцца ў шве; капацца ў чым-небудзь; марудна рабіць што-небудзь, корпацца'. Зваротны дзеяслоў да *пароць* (гл.); але адносна *паро́цца* ў яго апошнім значэнні існуе версія Махэка$_2$ (434) аб яго адменным паходжанні.



Параўн. рус. дыял. *поро́ться* 'займацца чым-небудзь, спяшацца з чым-небудзь', укр. *поро́тися* 'займацца хатняй гаспадаркай; гатаваць; поркацца', польск. *porać się, parać się* 'займацца чым-небудзь', в.-луж. *porać*, н.-луж. *poroś* 'рабіць нешта, гатаваць, даглядаць', чэш. *parati se* 'рабіць нешта, займацца нечым; корпацца, поркацца'. Выходным значэннем Махэк лічыць 'рабіць нешта' якое, на яго думку, можа ўзыходзіць да *пара́* (гл.). Але параўн. яшчэ *по́ркацца*<*по́ркаць* у аналагічным значэнні. Сюды ж *паро́цька* 'чалавек, які павольна працуе, які кепска ведае сваю справу' (Гарэц.).

**Пароць** 'калоць, тыкаць чым-небудзь вострым; разразаць ніткі, якімі што-небудзь зашыта; распорваць, расшываць; бадаць'. Агульнаслав.: рус. *поро́ть*, укр. *поро́ти*, ст.-рус. *пороти, порю* 'разразаць, патрашыць', царк.-слав. *прати*, польск. *próć, porzę* 'распорваць, разразаць', в.-луж. *próć*, н.-луж. *projś*, чэш. *pářati* 'распорваць', славац. *parat'* 'тс', серб.-харв. *по̀рити* 'распорваць', славен. *práti* 'распорваць па шву', балг. *по́ря* 'разразаю'. Прасл. *porti, porję*. Роднасныя грэч. πείρω 'праколваць', πόρος 'праход', гоц. *faran* 'ехаць' (Траўтман, 206; Мацэнаўэр, LF, 33, 190; Фасмер, 3, 332).

**Пароша** 'снег, які толькі што выпаў' (ТСБМ, Булг., Сл. ПЗБ, Шат., Касп.), *поро́ша* 'тс' (ТС), *паро́шка* 'пароша; дождж, дробны, як раса' (Нас.). Рус., укр. *поро́ша* 'тс'. Ад *порах* (гл.) з прасл. суф. *-ja* (параўн. SP, 1, 82).

**Пароя́к** '*рой* (які адыходзіць на чацвёрты дзень)' (Мат. Гом.). Конфікснае (*pa-*+*-ak*) ад *рой*.

**Парплі́ца** 'металічная пласцінка ў жорнах' (Мядзв., Мат. Гом., Сцяшк.), *паркли́ца, парлі́ца*, (Сл. ПЗБ), *парклі́ца* 'тс' (Нар. сл.). Рус.-царк.-слав. *порплица*, ц.-слав. *прьприца*, польск. *paprzyca*, чэш. *papřice*, серб.-харв. *paprica*. Паводле Махэка$_2$ (433), магчыма, да *per-* (гл. *пярэць*), але структура слова застаецца няяснай. Параўн. яшчэ Брукнер, 394. Гл. таксама *папры́ца*.

**Парпуро́вы** 'фарфоравы' (Касп.). З польск. устар. *farfurowy* 'фаянсавы' з дыял. заменай *ф* на *п*.

**Парсу́на** 'жывапісны свецкі партрэт у Расіі канца XVI—XVII стст.' (уст. ТСБМ). З рус. *парсу́на* 'партрэт' (1617 г.), якое з *персо́на* (гл. *пярсона*) (Фасмер, 3, 244).

**Парсю́к** 'кастрыраваны самец свойскай свінні, кабан' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат., Касп., Гарэц., Мядзв., ДАБМ, 885; Сл. ПЗБ), 'непакладаны кабан' (ДАБМ, 884), *паршу́к* 'кабан, парсюк, вяпрук' (Сцяшк., Выг., Сл. ПЗБ), 'непакладаны кабан' (ДАБМ, 884). Агляд формаў і значэнняў гл. яшчэ Лаўчутэ, Балтызмы, 19). Рус. разан. *парсу́к* 'кабан', зах. *паршу́к, парсю́к*, польск. (Літва) *parsiuk*. Запазычанне з літ. *paršiùkas* 'парася' (гл. Карскі, РФВ, 49, 20; Фасмер, 3, 209;

падрабязны агляд этымалагічнай літ-ры гл. Лаўчутэ, там жа). Трубачоў (Происх., 63—64) запазычанымі лічыць толькі формы з *-ш-;* частка славянскіх форм з *-с-*, на яго думку, магла ўзнікнуць з *поросю́к* у выніку моцнай рэдукцыі перадначіскнога галоснага. Супраць Лаўчутэ (там жа), якая ўказвае, што ўсе формы на *-ук* і з гукам *-с-* распаўсюджаны на тэрыторыі славянскіх балтызмаў.

**Па́рта** 'школьны вучнёўскі стол, злучаны ніжняй часткай з лаўкай' (ТСБМ). З рус. *па́рта* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79); у рус. м., як мяркуе Фасмер (3, 209), магчыма, з ням. *apart* 'убаку, асобна'<франц. *à part* 'тс'.

**Партамане́т, партмане́т** 'невялікі кашалёк для грошай' (ТСБМ, Бір. Дзярж., Бяльк.), *партма́н, партма́нка* 'тс' (Сцяшк.). Відаць, праз польск. *portmoneta* 'тс' з франц. *portemonnaie*. Параўн. яшчэ рус. народнае *партмане́т*. Канцавое *т* Фасмер (3, 335) тлумачыць уплывам слова *моне́та*.

**Парта́чыць** 'рабіць што-небудзь дрэнна, недакладна, без ведання справы' (ТСБМ, Мат. Гом., Мядзв.), *парта́ч* 'чалавек, які нядбайна або няўмела выконвае сваю справу' (ТСБМ, Др.-Падб., Мядзв.), *порта́ч* 'партач; бядняк, галадранец' (ТС). Запазычанне з польск. (як аб гэтым сведчыць наяўнасць *-ар-*) *partaczyć, partacz* 'тс' (Кюнэ, Poln., 86), якое да *pъrtiti* (рус. *портить*) (Брукнер, 397).

**Партве́йн** 'гатунак моцнага вінаграднага віна' (ТСБМ). З рус. *портве́йн* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 80), дзе праз ням. *Portwein* з англ. *portwine* 'віно з Порту' (Клюге — Гётцэ, 453; Фасмер, 3, 335).

**Партнёр** 'удзельнік якой-небудзь гульні, размовы і пад.' (ТСБМ). З рус. *партнёр* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 78)<франц. *partenaire*, англ. *partner* (Гараеў, 449; Фасмер, 3, 210).

**Партны́₁** 'ільняны' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *портны* 'тс' (ТС). Да *порт₂* (гл.).

**Партны́₂** 'кравец' (Касп., Сл. ПЗБ). Рус. *портно́й* 'тс'. Магчыма, з рус., дзе скарачэнне са ст. *портной швец*, ст.-рус. *пъртныи шьвьць*. Да *порт₂* (гл. Фасмер, 3, 335).

**Парток,** *пурток* 'абрус' (ДАБМ, 929), *партавіна* 'тс' (КЭС, пінск.). Да *порт₂* (гл.).

**Парто́ліць** 'перамешваць, перакладаць' (Сцяшк. МГ), 'псаваць' (Нар. сл.). З польск. *partolić* 'псаваць'.

**Партрэ́т** 'малюнак, рысунак, вялікая фатаграфія чалавека або групы людзей; апісанне знешнасці персанажа ў літаратурным творы' (ТСБМ). З рус. *портре́т* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79); у рус. у пачатку XVIII ст. праз нов.-в.-ням. *Portrait* з франц. *portrait* (Праабражэнскі, 2, 110; Фасмер, 3, 335).

**Партсіга́р** 'невялікая плоская каробачка, у якой носяць папяросы' (ТСБМ). З рус. *портсига́р* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79)<



франц. *porte-cigare* 'тс' ад *porter* 'насіць' і *cigare* 'сігара' (ССРЛЯ, 10, 129).

**Партупе́я** 'плечавы паясны рэмень, да якога прышпільваецца халодная зброя, палявая сумка і пад.' (ТСБМ). З рус. *портупе́я* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 79), дзе з франц. *porte-épée* (Праабражэнскі, 2, 110; Фасмер, 3, 336). З рус. таксама *партупе́й-прапаршчык, партупе́й-юнкер*.

**Партфе́ль** 'чатырохвугольная сумка з засцежкай, у якой носяць кнігі, паперы і пад.; пасада міністра' (ТСБМ). З рус. *портфе́ль* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79)<франц. *portefeuille* (Фасмер, 3, 336).

**Партыза́н** 'удзельнік узброенай барацьбы, якая вядзецца атрадамі народных мас на акупіраванай тэрыторыі' (ТСБМ). З рус. *партиза́н* 'тс', якое праз ням. *Partisan* або франц. *partisan* ад італ. *partigiano* 'прыхільнік' (гл. Фасмер, 3, 209).

**Партыкуля́рны** 'прыватны, неафіцыйны; цывільны, не форменны (пра вопратку, адзенне)' (ТСБМ). Ст.-бел. *партикулярный, партыкулярный*<польск. *partykularny*<лац. *particulāris* (Булыка, Даўн. запазыч., 238). Суч. бел. з польск. *partykularny* або з рус. *партикуля́рный*, якое праз польск. або ням. *partikular* 'тс' з лац. *particulāris* (гл. Фасмер, 3, 209).

**Па́ртыя** 'палітычная арганізацыя, якая выражае інтарэсы грамадскага класа або слоя; група людзей, аб'яднаных для якой-небудзь мэты, атрад; пэўная колькасць якіх-небудзь прадметаў' (ТСБМ), *па́рція* 'група, брыгада' (ТС). Праз рус. *па́ртия* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 78), дзе з польск. *partja* або ням. *Partie* < франц. *partie* ад лац. *partīta: partīri* 'дзяліць' (гл. Фасмер, 3, 209).

**Партэ́сны** 'шматгалосы (пра царкоўнае харавое спяванне)' (ТСБМ), *партэ́с* 'зладжанасць' (Нас.). Рус. *парте́сное пение* 'шматгалосае'. Ад сяр.-лац. *partēs* 'галасы': *pars* 'частка' (Фасмер, 3, 209). У бел. з рус. або польск. *partes* 'ноты', аб пасрэдніцтве якога і для рус. мяркуе Гараеў (Доп., I, 32).

**Парубе́ль** 'сякера' (Мат. Гом., Інстр. II). Дэрыват з суф. *-ель* ад *парубіць*<*рубіць* (гл.).

**Парубе́нь** 'жэрдка для прыціскання сена, саломы або снапоў на возе' (ТСБМ, Шат., Янк., Чабярук, Назвы рубля, 136; Сл. ПЗБ). З **парубе́ль* (гл. *рубе́ль*).

**Пару́ка** 'зарука ў чым-небудзь, пацвярджэнне чаго-небудзь; гарантыя' (ТСБМ); *паручы́цца, паруча́льны*. Рус., укр. *пору́ка*, польск. *poręka*, чэш. *poruka*, серб.-харв. *pȍрука*, славен. *pórok*. З *по-* і *рука* (гл.). Слова, відавочна, праславянскага паходжання з прычыны старажытнасці звычаю паданнем рукі паручацца за каго-небудзь (параўн. Махэк₂, 523 і наст.).

**Парука́цца** 'павітацца за руку' (Янк. 3, Мядзв.). Да *рука*.

**Па́рус** 'умацаваны на мачце кавалак моцнай тканіны, якая

надзімаецца ветрам і прыводзіць у рух судна; кавалак тканіны, што нацягнуты на крыло ветранога млына' (ТСБМ). Рус. *па́рус,* ст.-рус. *парусъ* (пад 907 г.). Пэўнай этымалогіі няма. Лічыцца запазычаннем з грэч. φᾶρος, ацціч. φάρος 'тс' (Міклашыч, 232; Фасмер, Этюды, 145; Праабражэнскі, 2, 19). Супраць Мікала (РФВ, 48, 277), які набліжае да ст.-рус. *рухо* 'адзенне', але гэта версія няпэўная ў фанетычных адносінах (гл. яшчэ Фасмер, 3, 210).

**Пару́ха** 'трывога, замяшанне' (Нас., Гарэц., Яруш.). Да *рух, рушыць* (гл.). Да таго ж кораня *парушэ́нне* 'душэўная трывога' (Нас., Гарэц., Яруш.), *пару́шаны* 'псіхічна хворы' (Сцяшк.).

**Паруча́йнік**$_1$ 'птушка атрада сеўцападобных з буравата-шэрай спінкай і белым брушком'. Рус. *поруче́йник* 'тс'. Этымалагічна тое ж, што і *паручайнік*$_2$. Семантыка празрыстая, таму што гэта птушка з атрада ку́лікоў, якія трымаюцца каля вады.

**Паруча́йник**$_2$ 'род шматгадовых травяністых раслін сямейства парасонавых з белымі кветкамі, сабранымі ў выглядзе складанага парасоніка' (ТСБМ), 'расліна Sium L.' (Кіс.), *паручайніца* 'расліна Catabrosa P. B.' (Кіс.). Рус. *поруче́йник* 'расліна Sium L.' Дэрыват з суф. *-ік* ад *паручайны*<*ручай,* таму што гэтыя расліны растуць каля вады або ў вадзе. Параўн. славац. *potočník* 'расліна Sium L.', чэш *potočník* 'расліна Berula' (гл. Махэк, Jména rostl., 159).

**Пару́чнік** 'афіцэрскае званне, якое ідзе за званнем падпаручніка' (ТСБМ). З польск. *porucznik* 'тс'.

**Пару́чнік**$_2$ 'сваяк (маладой на вяселлі)' (Мат. Гом.). Дэрыват ад *паручыць* (гл. *парука*) з суф. *-нік.* Адносна словаўтварэння параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 54.

**Пару́чык** 'паручыцель, той, хто бярэ на парукі' (Бяльк.). Да *паручыць* (гл. *парука*).

**Парушы́на** 'маленькая часцінка чаго-небудзь; парушынка'. Дыял. таксама *парашы́на.* Ад *porchъ* (гл. *порах*) з суф. адзінкавасці *-іna; -у-,* відавочна, пад уплывам *парушыць* (гл.).

**Парушы́ць** 'церушыць'. Рус. *порошить,* укр. *порошити,* польск. *prószyć,* н.-луж. *prošyś,* в.-луж. *prošić,* чэш. *prášiti* серб.-харв. *пра́шити,* славен. *prašiti* 'тс'. Прасл. *poršiti.* Да *порах* (гл.); *-у-,* мабыць, у выніку ўплыву польскага слова.

**Парушэ́нец** 'расліна душыца палявая, Acinos Moench arvensis Dandy', 'крынічнік даўгалісты, Veronica longifolia L.' (Кіс.). Дэрыват ад *пару́шыць* (гл. *рушыць*), таму што гэтыя расліны ўжываюцца пры («парушэннях») жаночых хваробах (гл. БСЭ, 4, 253).

**Парфі́р** 'вулканічная горная парода, у якой асобныя крышталі вылучаюцца з асноўнай масы сваёй велічынёй ці колерам'



(ТСБМ). З рус. *порфи́р* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 87). Рус., відаць, праз ням. *Porphyr,* італ. *porfiro* з грэч. πορφυροῦς 'баграны, пурпуровы' (гл. Праабражэнскі, 2, 111; Фасмер, 3, 336).

**Парфі́ра** 'доўгая пурпуровая мантыя — сімвал улады манарха; параднае цырыманіяльнае ўбранне манарха' (ТСБМ). Рус. *порфи́ра* 'тс', рус.-ц.-слав., ст.-слав. **поръфира, поръфѵра**, рус.-ц.- слав. таксама *пърфира, пърфура.* З грэч. πορφύρα 'тс' (Праабражэнскі, 2, 111; Фасмер, 3, 336). У бел., відаць, кніжнае запазычанне з рус.

**Парфу́ма** 'духі, адэкалон' (ТСБМ), *парфу́м* (Нас.), *парфуна* (Яруш.) 'тс', *пархума* 'духі, пах' (Шпіл.). Ст.-бел. *парфума, перфума, перхума* (Булыка, Лекс. запазыч., 109). З польск. *parfuma*<франц. *parfum*<лац. *perfumāre* 'выпарацца' (параўн. Брукнер, 396).

**Парх** 'паршывы, пакрыты лішаямі, паршывец' (Нас., Шат., Гарэц., Др.-Падб., Шн. 2), 'парша' (Яруш.), 'зняважлівая назва яўрэя' (Нас., Мядзв.), *па́рхі* 'усялякі бруд; пейсы ў яўрэяў' (Нас.), 'парша, кароста' (Сцяшк., Грыг.), *пархаўё* 'дзятва' (Карскі, Труды, 476). З польск. *parch, parchować* 'парша, часотка', 'станавіцца паршывым' (Кюнэ, Poln., 85). Параўн. Міклашыч, 241.

**Парцье́** 'швейцар у гасцініцы' (ТСБМ). Праз рус. *портье́* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 78), якое з франц. *portiè* (ССРЛЯ, 10, 328).

**Парцье́ра** 'занавеска з цяжкай тканіны на дзвярах або вокнах' (ТСБМ). З рус. *портье́ра* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79), якое праз ням. *Portière* або непасрэдна з франц. *portière* (гл. Фасмер, 3, 336).

**Парцэ́ла** 'невялікі зямельны ўчастак' (ТСБМ, Шат.), *парцэ́ля* (Сцяшк., КЭС, стаўбц.), *парце́ль* (Сл. ПЗБ) 'тс'. З польск. *parcela* 'тс'.

**Парця́нік,** *парця́к* 'спадніца з саматканага палатна' (ДАБМ, 934), *парцяк* (Інстр. I), *парцюк* (Бяльк.), *парця́нік, парця́на, парця́к* (Мат. Гом.), *парця́нік* 'даматканы парцяны матэрыял у клетку' (Сл. ПЗБ), *парця́нікі* 'штаны з даматканага матэрыялу' (Сл. ПЗБ), *парці́на* 'адзенне (льняное)' (Мат. Гом.), *парця́нкі* 'анучы' (Шпіл.). Дэрываты ад *парцяны*<*порт*$_2$.

**Парча́** 'тканіна са складаным узорам з шаўковай асновай і залатым або сярэбраным (або імітаваным пад золата ці серабро) узорам'. Рус., укр. *парча́* 'тс'. У запазычаннях ст.-бел. м. не адзначаецца, таму, відаць, у бел. м. з рус. Лічыцца запазычаннем з тат. *parča* 'парча, узор' (Міклашыч, Türk. El. Nachtr., 2, 140, 232; Праабражэнскі, 2, 19). Паводле Гомбаца (RS, 7, 187), тут ст. цюрк. аснова, што і ў кірг. *barča* 'шаўковая тканіна'. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 210.

**Паршá** 'заразная хвароба, звычайна на скуры галавы пад валасамі, пры якой з'яўляюцца струпы і рубцы' (ТСБМ), *пáршы, пáрхі* 'перхаць' (Сл. ПЗБ). Рус. *парш, паршá, парх* 'тс', укр. *парх*. З польск. *parch, parszywy*, з прычыны наяўнасці *-ар-* (Праабражэнскі, 2, 19; Фасмер, 3, 210). Аднак дэрываты *паршы́вы, паршы́вец* маглі, як адзначае Фасмер (там жа), утварыцца не ад *парш*, а ад слова з другой ступенню вакалізму (гл. *пóршы*) у выніку акання. У ст.-бел. *парша* фіксуецца ў канцы XVI ст. (Булыка, Лекс. запазыч., 130).

**Паршу́к**, *поршу́к* 'струп' (ТС), 'прышч' (Мат. Гом.). Утворана ад *паршы́вы* (або ад *парша*) з суф. *-ук* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 129).

**Паршчáць** 'трашчаць' (Касп.). З польск. *parszczeć* 'пырхаць'.

**Пары́к** 'накладная прычоска з натуральных ці сінтэтычных валасоў, нашытых на аснову' (ТСБМ). З рус. *пари́к* 'тс', якое з гал. *paruik* або непасрэдна з франц. *perruque* 'тс' (параўн. Фасмер, 3, 206).

**Пары́ла**, *парджы́ла* 'вятроўнік, Filipendia ulmaria Maxim' (Кіс.), *пары́ла* (Шат., Мат. Гом.), *пары́ло* (ТС, Маш., 5, 128) 'тс'. Мяркуючы па варыянту *парджыла*, слова можа быць запазычаннем з польск. *parzydło* 'тс', набліжаным да ўсх.-слав. формы, што пацвярджаецца і геаграфіяй слова. Польск., відавочна, ад *parzyć* 'парыць'. Семантычная матывацыя невядомая; мабыць, таму што адвар гэтай лекавай расліны ўжываўся як прыпарка.

***Парынáць**, *порынáць* 'даваць нырца' (Маш., 171, 174), 'спускаць, акунаць' (ТС). Пранікненне з укр. *поринáти* 'ныраць'.

**Пары́раваць** 'адбіць (адбіваць) удар; першапачаткова — у фехтаванні' (ТСБМ). З рус. *пари́ровать* 'тс'<ням. *parieren* 'тс' ад лац. *parāre* 'рыхтаваць' (параўн. Фасмер, 3, 207).

**Пары́ск** 'паркаль; (паркалёвая) хустка', *пары́скавы* 'паркалёвы' (Мат. Гом.). Няясна. Ці не звязана з польск. *paryski* 'парыжскі'<*Parys* 'Парыж', адкуль маглі прывозіць тканіну.

**Пáрыць** 'варыць што-небудзь у закрытай пасудзе пры дапамозе пары; апрацоўваць парай, варам (для ачысткі, размякчэння і пад.); апякаць, прыпякаць; кіпяціць (пра малако); біць, лупцаваць'. Рус. *пáрить*, укр. *пáрити*, ц.-слав. *парити*, польск. *parzyć*, в.-луж. *parić*, н.-луж. *pariś*, чэш. *pařiti*, славац. *pariť*, серб.-харв. *па̏рити*, славен. *páriti*. Прасл. *pariti*<*para* (гл. *пáра*₁). Роднаснае літ. *perëti, periu, perëjau* 'выседжванне птушанят' (Мюленбах — Эндзелін, 3, 201; Мацэнаўэр, 12, 191; Фасмер, 3, 207).

**Пáрыш** 'каша з сумесі жыта, ячменю і грэчкі' (Сл. ПЗБ), *пáрыш, парéшка, парóха* 'кісла-салодкая ежа, прыгатаваная з жытняй і грэчневай мукі' (Вешт., дыс.).



**Парэ́брына** 'тое ж, што і рабрына' (ТСБМ, абл., Янк. 1), *порэ́брына* 'рабро ў кашы' (ТС), *порэб'е* 'рэбры ў кошыку' (З нар. сл., навагр.). Конфіксныя ўтварэнні ад *рабро* (гл.).

**Парэ́з** 'разок, Stratiotes L.' (Інстр. III), 'жабнік, парэз, Hydrocharis L.' (Кіс.), 'парэз' (Бяльк.). Рус. *порéз* 'Stratiotes L.' Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *парэзаць*<*рэзаць*. Расліна названа паводле рэжучых уласцівасцей лісцяў. Параўн. яшчэ чэш. *řezan* (вытворнае па рускаму ўзору), славац. *rezavka* 'расліна Stratiotes' (гл. Махэк, Jména rostl., 260).

**Парэ́знік** 'двухгадовая або шматгадовая травяністая расліна сямейства парасонавых, якая расце на ўзгорках у стэпах і між кустоў у камяністых месцах' (ТСБМ), 'парэзнік, Lilanotis L.' (Кіс.). Дэрыват ад *парэзаць* па знешняму выгляду лісцяў. Рус. *порéзник* і укр. *порíзник* — гэта расліны сямейства Plantago, з іншай семантычнай матывацыяй (ужываюцца пры парэзах).

**Парэ́й** 'адзін з культурных відаў цыбулі з падоўжанай цыбулінай і плоскімі лістамі, прыгоднымі да яды' (ТСБМ). З рус. *порéй* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 88), дзе запазычана праз ням. *Porrei* з франц. *porrée* ад лац. *porrum* 'тс' (Міклашыч, 261; Праабражэнскі, 2, 106; Фасмер, 329).

**Парэ́нчы**, *парэ́нча* 'поручні' (ТСБМ, Шат., Грыг., Мат. АС Гродзеншчыны, Сл. ПЗБ), *парéнджи* (Гарэц.), *парэ́нджа, парэ́нжа* (Бяльк.), *парэ́нцы* (Мат. Гом.) 'тс', *порэ́нджа, порэ́нджы, порэ́нчы* 'падпорка пад стрэшку над ганкам; развілкі' (ТС), *парэ́джа* 'парэнчы' (Мат. АС, бых.). З польск. *poręcz, poręcze*, якое да *рука* (параўн. Брукнер, 458 і наст.). Ст.-бел. *поренчъ, паренчъ* 'поручань' з XVII ст. (гл. Булыка, Даўн. запазыч., 253).

**Парэ́паны** 'патрэсканы, шурпаты' (Сцяшк., Сл. ПЗБ), *парэ́паць* 'паматычыць' (Сл. ПЗБ), *парэ́пацца, порэ́пацца* 'патрэскацца' (Сл. ПЗБ). Гл. *рэпаць*.

**Парэ́чкі** 'кустовая ягадная расліна сямейства агрэставых; ягады гэтай расліны'. Рус. смал. *порéчка* 'чырвоныя парэчкі', укр. *порíчки* 'чырвоныя парэчкі', польск. *porzeczka* 'парэчкі'. Да *рака*, таму што ў дзікім выглядзе расце па берагах рэк (гл. Махэк, Jména rostl., 99). Утворана конфіксам *ро-*+*-ька*. Статус беларускага слова вызначыць цяжка. Хутчэй за ўсё пранікненне з польскай мовы, якое выцесніла ўсх.-слав. *смародзіна* (гл.). Параўн. Мяркулава, Очерки, 221.

**Пас**₁, *пáсак, пáсок, пáсік, пáсачак* 'тканы пояс', 'шнурок, папруга, рэмень', 'стужка, пісяг', 'пояс жанчыны' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Шпіл., Сцяшк., Тарн., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.; КЭС, лаг.; ТС), 'доўгі, вузкі кавалак тканіны, скуры' (ТСБМ), 'кавалак сала прадаўгаватай формы' (пух., Сл. ПЗБ; Мат. Гом.), 'прыстасаванне для прывядзення ў рух машыны ці механізма'

(ТСБМ, Шат., Мат. Гом.), 'шнур у калаўроце' (карэліц., Шатал.), 'доўгая чарада звязаных паміж сабою плытоў лесу' (Маслен., Мат. Гом., Сл. Брэс., ТС), 'узоры на тканіне ў палосы' (Сл. ПЗБ), *паска, пасачка* 'паласа (паперы); палоска на тканіне' (Мат. Гом., Сцяшк. Сл., Сцяшк., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), *пасяты, пасасты, пасасячы* 'паласаты' (Сл. ПЗБ, Клім.); ст.-бел. *пасъ* 'рэмень' (XVIст.) запазычана са ст.-польск. *pas* 'тс' (Кюнэ, 86; Булыка, Лекс. запазыч., 110). Сюды ж *пасацца* 'падпяразвацца' (Нас.). Гл. таксама *пояс*.

**Пас**$_2$ — 'вокліч аб адмове ўдзельнічаць у розыгрышы да наступнай раздачы карт', 'няма сіл, магчымасцей', *пасаваць* 'здавацца' (ТСБМ). З польск. *pas, pasować* 'тс' (або другі раз праз рус. *пас, пасовать* 'тс'), якія з франц. *(je) passe* 'я ўстрымліваюся, пасую'(Праабражэнскі, 2, 26; Варш. сл., 4, 72).

**Пас**$_3$ 'перадача мяча, шайбы і да таго пад. у спартыўнай гульні', *пасоўка, пасаваць* 'перадаваць мяч, шайбу' (ТСБМ). Праз рус. мову з англ. *pass* 'перадаваць', якое з лац. *passus* 'крок, рух'.

**Паса**$_1$ 'мера сыпучых цел' (Інстр. III), 'бочка для збожжа' (Сцяшк., Шат., Касп., Сл. ПЗБ), 'вялікая кадушка' (карэліц., Янк. Мат.; Бір. Дзярж.), *паска* 'бочка з вечкам, куды кладуць масла, сала, мяса' (гродз., Мат. АС; Касп., Сл. ПЗБ); ст.-бел. *фаса, фаска* 'бочка, скрыня' (XVI ст.) запазычана праз польск. мову з с.-в.-ням. *faз* 'тс'. Аб мене *ф>п* гл. Карскі, 1, 343.

**Паса**$_2$, *паска* 'палоска' (ТСБМ, Гарэц.; карэліц., Янк. Мат.; стол., Сл. Брэс.), смарг. *пасы* 'палоскі з кары, тканіны' (Сл. ПЗБ). Да *пас*$_1$. Мена м. роду на ж. абумоўлена ўплывам лексемы *паласа*. Аналагічна *паса, пасы* 'плыт, які складаецца з некалькіх звенняў' (ваўк., Сл. ПЗБ; Бір.).

**Пасабейку** 'паасобку, па сабе' (ст.-дар., Сл. ПЗБ). Беларускае. Утворана ад зваротнага займенніка *сябе* пры дапамозе прыстаўкі *па-* і суфікса *-к-у* (Шуба, Прыслоўе, 63) — варыянта суфікса *-к-і (удоўжкі, тутакі)*. Інфікс *-й-*, магчыма, пад уплывам прыслоўяў: слуц. *аднэйка* 'аднойчы', глус. *двойкі* 'двойчы', *трэйкі* 'тройчы'. У іншых слав. мовах лексемы адрозніваюцца суфіксамі: рус. арханг. *поособице,* польск. *posobkiem, w posobicy,* серб.-харв. *посебице, посебно,* макед. *посебно* (укр. *зосібна*) 'паасобку', польск. *posobnie, posobny,* н.-луж. *posobicy,* чэш. *posobný* 'па чарзе, (ісці) адзін за адным', ст.-слав. **пособь** 'тс'.

**Пасабіць,** *пасобіць, пасобіці, пособыты* 'дапамагчы' (Грыг., Касп., Бяльк., Др.-Падб., Бір., Сл. ПЗБ; бялын., Янк. Мат.), *пасобнік* 'памочнік', *пасоба, пасобка* 'дапамога' (Нас., Касп.). Укр. *пособити* 'дапамагчы', рус. *пособить* 'тс', *пособие* 'дапамога', серб.-харв. *пособа* 'тс', ст.-слав. **пособие** 'дапамога ў вайне', 'саюзнікі', ст.-чэш. *zpósobiti,* чэш. *(z)působit,* славац. *pôsobiť* 'дзейнічаць, выклікаць (радасць, смутак і інш.), рабіць (уражанне), працаваць у якасці каго-н.' Утвораны ад выразу *po sobě* 'рабіць нешта ў належным парадку, упарадкаваць адзін за адным' (Міклашыч, 331; Голуб — Копечны, 306; Голуб — Ліер, 406; Фасмер, 3, 340). Махэк$_2$ (500) мяркуе, што спачатку ст.-чэш. *zpósobiti* было вайсковым тэрмінам, абазначаўшым 'ставіць, складаць адзін за адным'. Няясна, аднак, як развілося значэнне ўсх.- і паўд.-слав. лексем.



**Пасаваць** 'падыходзіць, адпавядаць каму-, чаму-н.' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), драг. *пасуватэ* 'тс' (Лучыц-Федарэц) запазычаны з польск. *pasować* 'тс', якое з ням. *passen* 'тс' (Варш. сл., 4, 78).

**Пасавелы** 'невыразны, мутны ад стомленасці, ап'янення (пра вочы)' (ТСБМ). Да *пасалавелы* (гл.).

**Пасавік** 'сплаўшчык' (Маслен.). Да *паса*$_2$ (гл.).

**Пасавы** ў выразе *пасавае кола* 'махавае кола' (П. С.). Да *пас*$_1$ (гл.).

**Пасаг,** *посаг* 'маёмасць (грошы, рэчы, адзенне, жывёла), якая давалася маладой ад яе бацькоў пры выхадзе замуж' (ТСБМ, Нас., Касп., Гарэц., Булг., Маш., Мал., Сл. ПЗБ, ТС), *пасага, пасаѓа посага* 'тс' (Грыг., Нас., Мядзв., Бяльк., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Дэмб. 1, ТС), *пасажніца, пасажая, пасажна(я)* '(карова, авечка, свіння), аддадзеная ў пасаг' (Сл. ПЗБ). Укр. *посаг* 'тс', 'пасад', *посагувати* '?' ('садзіць на пасад' ці 'даваць пасаг'), рус. *посаг* 'вяселле', цвяр. 'пасаг', ст.-рус. *посагъ* 'шлюб', *посагати* 'выходзіць замуж', польск. *posag* 'пасаг', чэш., сілезск. *posah* 'тс', серб.-ц.-слав. *пасагати* 'захутвацца ў покрыва, г. зн. выходзіць замуж'. Прасл. *posagъ*, паводле Махэка$_2$ (473), азначаў бы 'прыхіленне, прыгарненне, прытуленне да мужа' а *posažьno* 'сам пасаг'. І.-е. адпаведнікі: літ. *sègti* 'прышпільваць', *sāgas* 'пятля, за якую палатно прымацоўваецца да бялільнага прыстасавання', *sagà* 'спражка', 'клямар', 'сіло', ст.-прус. *sagis* 'тс', ірл. *súanem* 'ліна' (<*sogn-), ст.-інд. *ā-saj-ati* 'прышпільвае', ст.-перс. *fra-hanjati* 'вешае' (Мацэнаўэр, LF, 13, 181; Брукнер, 432; Фасмер, 3, 338). Ондруш (Этимология-1984, 176—177) таксама прызнае, што прасл. *posagъ* утворана ад і.-е. слова *pāk'*, якое мела значэнне 'злучаць, звязваць, аб'ядноўваць'.

**Пасад**$_1$ 'снапы, раскладзеныя ў рад для малацьбы цэпам' (паўсюдна, апрача Зах. Палесся і Зах. Віцебшчыны — ДАБМ, к. 285; ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат., Касп., Янк. БП, Некр., Сцяшк., ТС, Янк. 2, Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), 'колькасць снапоў, высушаных у ёўні за адзін раз' (Касп., Шатал.), 'месца на таку для абмалочвання снапоў' (паст., Сл. ПЗБ; Мат. Гом.), 'будынак для абмалочанага збожжа' (Мат. Гом.). Укр. *посад,* рус. *посад* 'род або круг снапоў', том. *насад* 'тс', уладз. 'рад

дамоў з аднаго боку вуліцы', польск. *posad, posot, posout* 'снапы на таку для абмалоту', славен. *pósad, násad, nasàd,* серб.-харв. *на́сад,* макед. *насад* 'тс'. Прасл. *posadъ.* Да *садзíць* 'насаджваць' (гл.). Першапачаткова, відаць, снапы насаджвалі на нешта ці ўсаджвалі (напр., у азярод), калі малацьба была больш прымітыўнай. Параўн. малацьбу ў Сярэдняй Азіі і на Каўказе, дзе малацілі пры дапамозе дошак з вострымі зубамі (Основы этнографии, М., 1968, 168).

**Пасáд**$_2$ 'трон, прастол уладара', 'месца (звычайна дзяжа, пакрытая кажухом), дзе сядзіць маладая на вяселлі' (ТСБМ, Нас., Шат., Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Маш., Мал., Касп.; КЭС, лаг.; ТС, Бяльк.), 'markнае дабро, рэчы' (паўн.-усх., КЭС), 'вышка' (Яруш.), *'як каравай дзеляць, тады ета пасад, маладой расплятаюць касу'* (Мат. Гом.), *садзіць на пасад* 'садзіць маладую на воз да маладога' (паўн.-усх., КЭС). Яшчэ ў X ст. *пасад* — 'гандлёва-рамесная частка горада за крапасной сцяной', 'прыгарад, прадмесце, пасёлак' (ТСБМ). Укр. *посад,* рус. *посад,* ст.-рус. *посадъ,* польск., ст.-польск. *posad(a)* 'тс'. Да *пасадзíць<па-* і *сад, садзíць* (Ягіч, AfSlPh, 13, 300; Фасмер, 3, 338). Брукнер (432) выводзіць з *posagъ* (гл. *пасáг*). Сюды ж *пасажáнка, пасáдная маці* 'пасаджоная маці', *пасáжаны бацька* 'сват' (Сцяшк., Сл.), *пасáжаны, пасаджоны* (бацька, маці) 'хросныя' (Бір.), *пасаднік* 'намеснік князя', 'выбраны вечам правіцель горада ў Старажытнай Русі' (ТСБМ), *пасадзíць* 'усадзіць у зямлю', 'паставіць у гарачую печ', 'прымусіць сесці', 'арыштаваць', 'пакінуць знак', 'прывесці ў нягоднасць', 'змясціць у вулей рой' (ТСБМ, Сл. ПЗБ).

**Пасáда**$_1$ 'месца на службе, звязанае з выкананнем пэўных абавязкаў' (ТСБМ). З польск. *posada* 'тс'.

**Пасáда**$_2$ 'сядзіба' (Бяльк.). Да *пасáд*$_2$ (гл.).

**Пасáда**$_3$ 'расада' (Касп.). Пад уплывам дзеяслова *пасадзіць* ад *расáда* (гл.).

***Пасáджанка,** *посáджанка* 'кіслы праснак з хлебнага цеста' (ТС). Да *пасаджáць, пасадзíць<саджáць* (гл.). Матывацыя (?)

***Пасáдзіна,** *посáдзіна* 'саджанец, пладовае дрэва' (ТС). Да $^{+}$*посад,* якое з польск. *posad* 'саджанцы'. Аб суфіксе *-іна* са значэннем адзінкавасці гл. Сцяцко, Афікс. наз., 208—209.

**Пáсадка,** *пáсыдка, пáсытка* 'пастка', 'зяпа, рот' (Бяльк.), *пасáдка* 'пастка' (Гарэц., Яруш.). Відаць, да *пастка* (гл.). Параўн. чэш. *posada* 'кошык, скрынка для свойскіх птушак', рус. *садок* 'плецены кош для злоўленай рыбы', бел. *céжа* 'загародка на рацэ з сеткі' (Бяльк.).

**Пасáдка**$_1$, *пысáдка, пасáдкі* 'пасаджаныя расліны', 'прызямленне самалёта', 'упусканне пасажыраў у вагон, самалёт, карабель', 'палажэнне цела ў час сядзення' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ, Ян., Мат. Гом.). З рус. *посáдка* 'тс'.



**Пасáдка**$_2$ 'глінабітная падлога' (Сцяшк. Сл.), 'чарэнь у печы' (свісл., Шатал.), ст.-бел. *посадзка, посажка, посацка* 'падлога з плітак; чарэнь' (1572 г.). Запазычаны са ст.-польск. *posadzka* (Булыка, Лекс. запазыч., 98).

**Пасáдны** 'галоўны, асноўны' (Яруш.), *пасадны авёс* 'авёс для кармлення каня ў дарозе' (ветк., Мат. Гом.). З польск. *posada* 'аснова, фундамент'.

**Пасадовіць** 'пасадзіць (курыцу на яйкі)' (Мат. Гом.). З укр. *посадовúти* 'пасадзіць' ці з польск. *posadowić* 'тс', 'змясціць'.

**Пасáж** 'крытая галерэя', 'нечаканы паварот справы' (ТСБМ). Праз рус. мову з франц. *passage* 'тс'<*passer* 'праходзіць'. Не выключана магчымасць запазычання праз польск. мову.

**Пасажон** 'покуць' (Кольб.). У выніку кантамінацыі словазлучэння з прыметніка (паводле паходжання — дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу *po-sad-j-enъ,* які з *po-saditi* 'пасадзіць') і назоўніка *kǫtъ>кут.* Да *садзíць* (гл.).

**Пасажы́р** 'той, хто едзе на поездзе, параходзе, аўтобусе, ляціць на самалёце' (ТСБМ). З франц. *passager* 'тс' праз польск. *(pasażer)* ці рус. *(пассажúр)* мову. Сюды ж *пасажы́рка* 'пасажырскі аўтобус' (іўеў., Сцяшк. Сл.) — суфікс як у *чыгунка, конка.*

**Пасаíць** ' накарміць дзіця грудзьмі маці' (бераст., Сцяшк. Сл.). У выніку кантамінацыі лексем *пасасаць<ссаць* (гл.) і *падаíць<даíць.*

**Пáсак** 'жулік' (Касп.). У выніку пераносу значэння з польск. *pasek (gra w pasek)* 'азартная гульня з рэмнем'. Да пас$_1$ (гл.). Параўн. аналагічнае развіццё ў бел. і чэш. мовах, дзе *pásek* 'стыляга'.

**Пáсака** 'кроў' (Ян.). Да *пасока* (гл.).

**Пасалавéць** 'паблякнуць ад стомы' (паўн.-усх., КЭС), 'зрабіцца невыразным, мутным ад стомы, ап'янення (пра вочы)' (ТСБМ). Да *салавéць* 'тс', якое разам з рус. *соловéть* 'мутнець', укр. *соловíти* 'хмурнець (аб поглядзе)', рус. *соловóй* 'светлашэры, жаўтлява-шэры' з'яўляецца родным да ст.-в.-ням. *salo, salawêr* 'цёмны, мутны', ст.-ісл. *sǫlr* 'жоўты, брудны', англ *sallow* 'бледны' (Фасмер, 3, 712).

**Пасалéня** 'націна фасолі'. З *пасоля<фасоля* (гл.). Аб суфіксе *-еня<-енне* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 147.

**Пасалёнка** 'бульба, звараная палавінкамі' (ветк., Мат. Гом.). Да *пасолены<салíць<соль* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 47.

**Пасалýха,** *пасялýха* 'хто без справы ходзіць па хатах' (віц., Сл. ПЗБ). Утворана ад выразу *(хадзіць) па сялу* і суф. *-(у)ха.* Параўн. таксама *пасялдá.*

**Пасалюбавáцца** 'палюбавацца' (паст., Сл. ПЗБ). Да *люба-*

*ваўца*<*любіць* (гл.). Устаўка *-са-*, якая, відаць, з *-ся-*, ужыта тут накшталт (ці пад уплывам) літ. поўнага варыянта зваротнага фарманта *-si-* ў прэфіксальных дзеясловах, напр., *pasimylė́ti* 'цешыцца каханнем'.

**Пасама́ны** 'аздоба на сукенцы, пазументы' (пін., Доўн.-Зап.), ст.-бел. *посамантъ* 'пазумент, аблямоўка' (1569 г.) запазычана са ст.-польск. *pasaman*, якое з італ. *passamano* 'тс' (Брукнер, 398; Булыка, Лекс. запазыч., 109) або з франц. *passement* 'пазументы, тасьма'.

**Па-само́му** 'па аднаму' (ТС). Да *сам* (гл.), якое на Палессі мае значэнне 'адзін'.

**Паса́р** 'пасаг' (стол., Сл. Брэс.). Няясна. Відаць, апіска (*-р* замест *-г*) (?).

**Пасарамаці́ць** 'пасароміць' (ТСБМ). Са ст.-польск. *posromacać* 'ґаньбіць, зневажаць', якое было ўспрынята з паўнагалоссем, як *сорам* (гл.).

**Пасахі́**, *посохі́* 'вугал ля печы, дзе стаяць вілы, качэргі' (Нікан.). Зборны назоўнік ад *по́сах*, палес. *по́сох* 'кіёк' (ТС), які праз рус. *посох*, ст.-рус. *посохъ* са ст.-слав. **посохъ**. Да *саха́* (гл.).

**Па́сахлі** 'каноплі (пустыя)' (маз., Мат. Гом.). У выніку кантамінацыі лексем *па́сканні* і *(па)сохлы*.

**Паса́цка** 'под', 'ток' (воран., Сл. ПЗБ). У выніку пераносу значэння 'падлога'>'ток', 'под' у лексемы, якая з польск. *posadzka* 'падлога', 'паркет'. Параўн. *пасадка₂* (гл.).

***Па́сачка**, петрык. *па́сочка* 'кальцо на розе у каровы' (Шатал.). Да *па́са₂* (гл.).

**Пасачы́ць** 'атрымаць у спадчыну', 'быць падобным' (КЭС, лаг.; Сл. ПЗБ), 'пашукаць' (Касп.). Да *сачы́ць*<прасл. *sočiti* 'праследаваць (звера)'>'ісці ўслед'. Блізкія да бел. значэнні ў літ. *sèkti* 'сачыць', 'ісці следам за кім-н.', 'пераймаць', 'наследаваць', лат. *sekot* 'тс'.

**Пасве́дча́нне** 'пацвярджэнне' (ТСБМ, Нас.), *пасвядчэ́нне* 'засведчанне' (Яруш.). Да *пасве́дчыць* 'сцвердзіць, засведчыць што-н.', 'выступіць у ролі сведкі'<*све́дка* (гл.)<*ве́даць*. Станаўленне бел. лексем адбывалася пад уплывам польск. *poświadczenie, poświadczyć, świadek* 'тс'.

**Пасвінуць** 'згарнуць (аб некалькіх прадметах)' (Нас.). Утворана пры дапамозе прыстаўкі *па-* і польск. *zwinąć* 'згарнуць, зматаць', *-с*, як у *саві́ць* 'звіць' (Бяльк.).

**Пасвіронак** 'засек' (воран., Сл. ПЗБ). Да *сві́ран* (гл.). Прыстаўка *па-* пад уплывам літ. *pasvirnė̃* 'месца ў свірне'.

**Пасвірэлка** 'дудка з вясенняй кары' (Касп., Інстр. III). Рус. *посвирелка* 'дудка' (1731 г.). Паўн.-бел.-рус. ізалекса, утвораная пры дапамозе прыстаўкі *па-*, суфікса *-ка* (з дэмінутыўнай функцыяй) і *свирель*<прасл. *svirělь* (параўн. укр. *свирі́ль, свирі́лка*, славен. *sviráło* 'музычны інструмент', *svirél* 'жалейка', серб.-харв. *сви̏раљка*, макед. *свирajка*, балг. *свирка* 'тс', ст.-слав. **свирѣль** 'лира'<*svьrěti* 'іграць' (Фасмер, 3, 579; Скок, 3, 372—373).



**Па́свіско**, *па́свыско, пасовы́ско* 'паша, выган' (петрык., Мат. Гом.; Сл. ПЗБ, Шатал.). З польск. *pastwisko* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 424). Лексема *пасовы́ско* — кантамініраваная (параўн. укр. *пасовище* 'тс').

**Пасвістач** 'дзікая качка свіязь, Anas penelope' (Інстр. II). Рус. *свистун, свистокрыл*, польск. *świstuń, swistun, świstuń, kaczka gwiżdżąca*. Да *свісце́ць* (гл.). Аб суфіксе *-ач* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 31—32.

**Па́свішча**, *па́свішчэ* 'паша' (Сцяц. Сл., Жд. 1, ТС). Ад *па́свіць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 46; Слаўскі, SP, 1, 95.

**Па́свіць** 'наглядаць на пашы за жывёлай, штушкай, пасці' (ТСБМ, Др.-Падб., Мал., Яруш., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), *па́свіцца* 'карміцца' (Яруш., Касп.). Праз формы *паствіць* 'пасвіць', 'сцерагчы', 'цешыць вока', *паствіцца* 'пасвіцца ў полі' (Нас.) узыходзяць да прасл. *pas-tva*>*па́ства* (гл.) 'пасьба'.

**Пасвянці́ць**, *пасве́нціць* 'асвяціць' (Шат., Сл. ПЗБ) з польск. *poświęcić* 'тс'; *пасвянчэ́нне* 'пасвячэнне (у духоўны стан)' з польск. *poświęcenie* 'тс'. Мена *ц*>*ч*.

**Пасвяцо́нка** 'ежа, пасвячаная на пасху' (Касп.). У выніку намінацыі з польск. *poświęcony* 'пасвячаны'. Аналагічна лоеў. *пасвянцоніца* 'белая вярба, Salix alba L.' (Мат. Гом.) — гэтую вярбу свяцілі ў Вербную нядзелю.

**Пасвячы́ць** 'пасведчыць' (лід., Сцяшк. Сл.). З польск. *poświaczać*<*poswiadczać* 'сведчыць'.

**Пасе́і**, *пасе́йкі*, бяроз. *пасе́й* 'высеўкі, шалупінне пры прасейванні мукі' (Шат., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ, Мат. Маг., Мат. Гом.; бялын., Янк. Мат.; КЭС, лаг.; Шатал.; ушац. Нар. сл.), польск. *posieje* 'вотруб'е, высеўкі' (Літва). Балтызм. Параўн. літ. *pāsijos* 'тс'<*pa-sijóti* 'прасейваць' (Лаўчутэ, Балтизмы, 123).

**Па́сека**, *пасе́ка, па́сіэка, па́сіка, па́сяка* 'поле на месцы расчышчанага лесу' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. ПЗБ, Бес.), 'поле ў лесе' (Выг.), 'невялікая купа дрэў або гай у полі (дубняк, алешнік)' (ТС), 'месца, дзе нядаўна быў высечаны лес' (Некр., Серб.), 'папялішча' (Маш.), 'месца, дзе стаяць вуллі' (ТСБМ, Грыг., Маш., Сл. ПЗБ). Укр. *па́сіка*, рус. *па́сека*, польск. *pasieka*, чэш. *paseka*. Прасл. *po-sěka*, якое з *po-sěkti* 'пасячы' — першапачаткова 'высечаныя кусты, якія спальваліся, і на іх месцы рабілася поле' (Махэк₂, 436), пазней і 'расчышчанае месца для вулляў' (Праабражэнскі, 2, 26; Брукнер, 398; Фасмер, 3, 211). Сюды ж бяроз. *па́сек* 'пчаляр' (Сл. ПЗБ). Больш

падрабязна гл. таксама Мюллер (ZSl., 17, 1972 (1), 27), Каткоў (УЗ МОПИ, 341 (1969), 139).

**Пасе́ла,** *пасэ́ла, пасэ́ля, пасе́л-ін-к-а* 'сядзіба' (Шушк., Інстр. I). Рус. *поселье* (<*po-sel-ьje*) 'пасёлак', 'манастырскі двор'. Відаць, утворана пры дапамозе прыстаўкі *па-* ад ст.-рус. *село* 'дом', 'пасёлак', 'поле'<прасл. *selo* 'ворная зямля', роднаснымі да якога з'яўляюцца: літ. *salà* 'востраў', лац. *solum* 'глеба'.

**Пасе́лішча** 'селішча', 'месца, заселенае людзьмі, вёска, пасёлак' (ТСБМ). Да *се́лішча* (гл.). *Па-* пад уплывам *пасяліцца.*

**Па́серб,** *па́сэрб, па́сярбак* 'пасынак' (Нас., Бес.; астрав., Сл. ПЗБ), *па́сербіца, па́сэрбыця, па́сербка, па́сярбіца, па́сырба, па́сырныця, па́сэрбныця* 'падчарка' (Нас., Бес., Сл. Брэс.; астрав., трок., ігн., Сл. ПЗБ), 'жонка пасынка' (Нас.). Укр. *па́серб,* рус.-ц.-слав. *пасръбъ (пасербъ, пасерба),* польск. *pasierb,* ст.-польск. *pasirzb* (1391 г.), *pasirb* (1397 г.), *pasierzb, pasirbica* (1404 г.), *pasirzbica* (1424 г.), каш. *pasèřb,* памор, *paspjeř* 'пасерб'. Паўн.-слав. *pasьrbъ.* На поўдні, на чэш. і славац. тэрыторыях пашыраны *pastorъkъ (pastorek, pastorkynĕ, pastorok, pastorča, pastorkyňa),* славен. *pasterek,* серб.-харв. *pȁstorak,* макед. *пасторок, пасторче* 'тс', балг. *пасторок* 'тс' і 'айчым', новабалг. *пастрок.* Яшчэ Шафарык (Slov. starožitnosti, 1, 207) заўважыў, што *paserb* і *pastorek* з'яўляюцца сінонімамі, а *paserb* мае той жа корань, што і *sirotek* 'сірата'. Сольмсэн (KZ, 37, 592) мяркуе, што *pa-* далучылася да *sьrbъ,* якое (ў выніку метатэзы) ўзыходзіць да *sьbrъ* 'сусед, сябар'< *sębьrъ* 'член вялікай сям'і, рода'. Гэтак жа Праабражэнскі (2, 20 і 276). Педэрсэн (KZ, 38, 421) і Фасмер (3, 211) не згаджаюцца з Сольмсэнам. Зубаты (AfSlPh, 13, 316—317) адкідае версію аб *па-* як прэфіксе. Ільінскі (ИОРЯС, 24, 113—140) разумее этнонім *серб* як 'член рода', г. зн. 'той, хто сёрбае з агульнай талеркі', а *пасерб* — 'хто не з'яўляецца членам агульнага стала'. Аналагічна Брукнер (398), а за ім і Борысь (Prefiks., 26) асновай для *pasŗbъ* лічаць дзеяслоў *sŗbati* 'сёрбаць, хлябтаць', а значэннем будзе 'той, хто ссе, дзіцё'. Оштыр (Drei vorslav.-etrusk. Vogelnamen, Любляна, 1930, 45) супастаўляе слав. лексему з дагрэч. *sirbos* 'дзіцё'. Каліма (ZfSlPh, 17, 342) бачыць у ёй ўграфінізм. Найбольш верагоднай можа быць версія Шаўэра (Miscellanea Brunensia, Praha, 1979, 147—160). Ён лічыць, што *pastorek* паходзіць з *sirota*>*pasьrotъkъ*> прачэш. *pasrotek,* у якім *-t-* суфіксальнае «перасунулася» паміж *s...r* (як *straka, streda, stín*), а *pasьrbъ* узыходзіць да *pasьroba,* у якой канчатак скараціўся ў *-bъ.*

**Пасе́сар** 'часовы ўладальнік маёнтка' (Нас.), ст.-бел. *посесоръ (посессоръ, поссесоръ, поссессоръ)* 'уладальнік, арандатар' (1594 г.) запазычаны са ст.-польск. *posesor, possessor,* якія з лац. *possessor* 'уладальнік', 'уладар' (Булыка, Лекс. запазыч., 73).



**Пасе́ў,** *посе́ў, пасе́вы* 'засеянае поле' (ТСБМ, Выг., ТС; КЭС, лаг.), 'узыходы збажыны' (Выг.), 'штучнае ўгнаенне' (Касп.). Укр. *посів,* рус. *посе́в,* польск. *posiew,* славен. *posèv,* серб.-харв. *по̀сев,* макед. *посев,* балг. *посев.* Можна дапусціць прасл. *posěvъ,* якое да *po-* і *sěti*>*се́яць* (гл.).

**Пасёлак** 'населены пункт гарадскога тыпу' (ТСБМ). Новае. Запазычана з рус. *посёлок* 'тс'.

**Па-сёлему** 'па-мойму' (свісл., Сцяшк. Сл.). Не зусім ясна. Відаць, генетычна звязана з займеннікам *sę,* да якога ў форме *се* быў далучаны канчатак *-йму/-ему.* Пазней *-й-* змянілася *-л'-* і *е* (пад націскам)>*ё.* Да *ся, сябе́* (гл.).

**Пасёстра** 'прыяцелька, сяброўка' (Маш.; Нікіф., Очерки), 'дваюрадная сястра' (Бяльк.; Мат. Маг.; Яшк., Назвы, Інстр. I), *пасёстра* і *пасе́стра* 'тс' (Мат. Гом.). Укр. *посе́стра* 'тс', 'каханая'. Прыстаўка *па-* (без націску) можа паходзіць з прасл. *po-* (Борысь, Prefiks., 54). Да *сястра́* (гл.). Параўн., аднак, *па́сынак,* якое з *pa-* і *synъ*: ст.-прус. *pas-sons* 'тс'.

***Па́сіва,** драг. *па́сыво* 'выпас' (Клім.). Зах.-палес. рэгіяналізм. Да *па́сці* (гл.). Аб суфіксе *-ів-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 41.

**Пасіла́йка** 'пасялуха' (круп., Сл. ПЗБ). У выніку намінацыі выразу *(хадзіць, лётаць) па сялу́.* Суфікс, як у *гультайка.*

**Пасілак** 'дапамога', 'падмацаванне' (Нас., Яруш)., ст.-бел. *посилокъ* (1560 г.) 'тс', 'прыём ежы' запазычана са ст.-польск. *posiłek* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 186). Сюды ж *пасі́лка* 'дапамога' (Касп.). Аналагічна бел. *пасі́ліцца* 'падсілкавацца' (Яруш.) з польск. *posilić się* 'тс', *пасіля́ць* 'падмацоўваць' з *posilać* 'тс', *пасілкава́нне, посілкува́ньня* 'падмацаванне' (Нас., Яруш., Бяльк.) з польск. *posiłkowanie* 'тс'.

**Пасі́ліць** 'змагчы', *пасі́льваць, посі́ловаць* 'перамагаць, здолець', пасільный 'пераможаны' (Бяльк., ТС), рус. пск., цвяр. *поси́лить* 'пераадолець, перамагчы', укр. *поси́літи* 'асіліць'. Да *сі́ла* (гл.). Нерэгулярнае семантычнае ўтварэнне — калька (?) — уплыў дзеяслова *пабароць* (?).

**Пасі́лкі** 'патугі' (лях., Сл. ПЗБ). Утворана ад *пасі́ліць* 'падняць'пры ад'ідэацыі польск. *wysiłki* 'патугі, намаганні'.

**Пасі́лы** 'каромысла' (петрык., Мат. Гом.). Усходнепалескае. Да *пасі́ліць* 'падняць', *пасі́ленне* 'дапамога'.

**Пасі́льны** 'адпаведны з сіламі, магчымасцямі' (ТСБМ). Відаць, з рус. *поси́льный* 'тс'.

**Пасілітава́ць** 'пахваліць з карыслівымі мэтамі' (Касп.). Відаць, балтызм. Параўн. літ. *sáldyti* 'рабіць салодкім, саладзіць'.

**Пáсітак** 'сіта, гусцейшае за рэшата' (лях., карэліц., Сцяшк. Сл.). Адназоўнікавае ўтварэнне з прэфіксам *pa-*. Беларускае (Борысь, Prefiks., 54).

**Пасíўны** 'неактыўны, неэнергічны, абыякавы' (ТСБМ). Праз рус. мову з лац. *passivus* 'нядзейны, абыякавы' (Ин. сл., 16, 375).

**Пáсіць** 'пасвіць' (шальч., Сл. ПЗБ), рус. разан. і прэйл. (Латвія) *пáсить* 'тс'. Выраўноўванне суфікса паводле ітэратыўных дзеясловаў на *-iti-*. Да *пáсці* (гл.).

**Пáсія**₁ 'набажэнства пасля вячэрні ў нядзелі Вялікага посту ў памяць пакут Госпада — чытанне перадвялікадных евангелляў' (Нас.). З польск. *pasja* 'пакуты Госпада', якое з лац. *passio*<*pati* 'цярпець, пераносіць пакуты' (Брукнер, 398).

**Пáсія**₂ 'раздражнёнасць, раз'юшанасць, лютасць' (Нас.), ст.-бел. *пассия, пассыя* 'страсць' (пач. XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *passyja* 'тс', якое з лац. *passio, -ōnis* 'страсць, афект' (Булыка, Лекс. запазыч., 136; Варш. сл., 4, 75).

**Пасія́н** 'люты чалавек' (пін., Сл. Брэс.). Утворана ад *пáсія₂* (гл.) і суф. *-ян,* як, магчыма, *грубіян.*

**Пасіянáт** 'запальчывы, злы', *пасіянáтка* 'запальчывая жанчына' (Нас.). Запазычана з польск. (ад шляхты) *pasjonat, pasjant, pasyjant* 'тс'<*pasja* (Варш. сл., 4, 75)>*пáсія₂* (гл.).

**Пáска**₁ 'Вялікдзень', 'велікодная булка, святочны пірог' (Мат. Гом., Сл. Брэс., Ян., ТС). Да *пáсха* (гл.).

**Пáска**₂ 'пасьба' (круп., Сл. ПЗБ). Да *пáсці* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 47.

**Пáскабкі,** *пáскыбкі* 'астаткі ад валакна канапель, калі ўюць вяроўкі' (Бяльк.). З *пáскубкі.* Да *паскубці*<*скýбці* (гл.). Словаўтваральныя фарманты (*па-* і *-к-*) маюць дэмінутыўнае значэнне.

**Пáскавіца** 'скіўіца' (лях., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі бел. *скіўіца* і польск. *paszczeka (pa-szczęka)* 'тс'.

**Пáскалак** 'вельмі дрэннае палена' (перан.) 'гультай' (докш., Янк. Мат.; Бір., Шат.), дзярж. *пáкалак* 'дрэннае палена' (Бір.), 'нятоўстае і маладое палена, зручнае, каб кінуць яго пошыбнем' (КЭС, лаг.). Паводле лексемы *пакалак* можна дапусціць роднаснасць яго са словам *кол (калок),* а прэфікс *pa-* і суфікс *-ъкъ* прыўносяць значэнне 'другасны, несапраўдны' (Борысь, Prefiks., 53). Але першае — *пáскалак* — семантычна-роднаснае з *аскепак* (гл.), 'шчэпка, трэска', карэліц. *паскіпáны* 'патрэсканы' (Сцяшк., Сл.), рус. *скепать* 'расшчапляць, калоць' з'яўляецца кантамінацыйным утварэннем *пá-калак* і *аскéпак.* Аналагічна ўкр. валынск. *пáклин* і *паслин (пáскіл', пáск'ін', пáскл'інок, паскл'он)* (Казачук, 75).



**Пасканí,** *пасканьні, пóскань, пóскадні, плóскуні, пысканьні, паскóньні, пасканьня, пóсканне, пóсканні, пасканíна* 'маніцы, мужчынскія калівы канапель, Cannabis sativa L.', 'сцябло маніц', 'палатно з маніц, вырабы з тонкага палатна' (Нас., Грыг., Касп., Бяльк., Янк. 1, Мат. Маг., Юрч.; быx., крыч., ДАБМ, с. 869; паўн.-усх., Макс.; бярэз., Сл. ПЗБ; карм., Мат. Гом.). Укр. *пóскінь, плóскінь,* рус. *пóсконь,* польск. *płoskoń,* ст.-польск. *płoskonek,* чэш. *poskonek, poskonný,* славен. *ploskovníca.* Прасл. *poskonь* (а ў некаторых дыялектах, відаць, пад уплывам лексемы *ploskъjь — ploskonь*). Шматлікія версіі (гл. Фасмер, 3, 339) з'яўляюцца нездавальняючымі. Найбольш імаверная Трубачова (Эт. сл., 10, 188—193): слав. *poskonь* узыходзіць да інда-іранск. **pus-kana,* якое складаецца са ст.-інд. *pú-mān* 'мужчына, самец' і *káṇa-* (скіфск. *kana-) 'каноплі'. Мужчынскія калівы канапель маглі быць вызначаны як 'пыльніковыя, якія апыляюць' — ад і.-е.**pu-s* 'дзьмуць, веяць'. Мена *-нн-*>*-дн-* — гэта адваротны працэс пераходу *-дн-* у бел. гаворках (Карскі, 1, 351).

**Паскарáльнік** 'прыстасаванне для павелічэння руху, працэсу' (ТСБМ). Калька з рус. *ускоритель* 'тс'. Да *скóры* (гл.).

**Пáсквіль** 'твор паклёпніцкага, зневажальнага характару' (ТСБМ), ст.-бел. *пашквіль (пашквилюсъ)* 'тс' (1580 г.) запазычана са ст.-польск. *paszkwil, paszkwilus,* якія праз ням. *Pasquill* са ст.-італ. *pasquillo* 'торс старажытнай скульптуры (відаць, Геркулеса), якую выканалі ў 1501 г. і паставілі на адной з вуліц у Рыме блізка ад дома жартаўніка *Pasquino*; на торс прыклейвалі розныя асабістыя памфлеты і часовыя іншасказы' (Фасмер, 3, 211—212; Ин, сл. 16, 374; Голуб — Ліер, 361; Булыка, Лекс. запазыч., 163).

**Пáскі** 'гадавыя колцы на папярочным зрэзе дрэва' (шчуч., Сл. ПЗБ). Да *пáс(ак)* (гл.).

**Паскіпáцца,** *пыскіпáцца* 'пашчапацца' (Бяльк.). Да *скяпáць, аскéпак* (гл.). Апошняе слова і *адскепак* 'трэска' Блесэ (SB, 1935—1936, 5, 7) адносіць да балтызмаў, параўн. лат. *šk'ēpele* 'трэска', літ. *skēpsnė* 'разарваная тканіна', якія Лаўчутэ (Балтизмы, 137) лічыць недастаткова абгрунтаванымі.

**Паскірýс** 'дакумент' (ігн., Сл. ПЗБ). Літуанізм. Параўн. літ. *paskyrá,* дыял. *paskiraĩ* 'від размеркавальнага дакумента' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 427).

***Пасклабíць,** *посклобíць* 'акарыць' (ТС). Балтызм, параўн. літ. *sklem̃bti* 'часаць, склюдаваць'.

**Паскок** 'хуткі бег сабакі' (Інстр. II), 'скачок на месцы' (ТСБМ). Да *па-* і *скакáць* (гл.). Параўн. польск. *poskocz* 'назва сабакі', *poskok* 'падскок, скокі'.

**Паскоціна** 'адгароджанае месца для жывёлы' (целях., ДАБМ, 785). Да *па-* і *skot-*>*скацíна* (гл.). Аб суфіксе *-ін-а*

з лакальна-прасторавым значэннем гл. Сцяцко, Афікс. наз., 155—156.

**Паскрамíць** 'уціхамірыць' (Нас.). З польск. *poskromić* 'утаймаваць, уціхамірыць'.

**Паскро́бак,** *паскрэ́бак, паскрэбіш, падскрэбіш, паскробка, по́скрэ́бка, поскро́бка, пашкробак, падшкробак* 'выскрабак, рэшткі цеста ў дзежцы для закваскі' (ТСБМ, Др.-Падб., Сл. ПЗБ, ТС; КЭС, лаг.; Сцяшк. Сл., Ян., Мат. Гом., Мат. Маг.), *паскрэбкі* 'астаткі ежы ў паскробаным гаршку' (КЭС, лаг.), 'апошняе дзіця ў бацькоў' (Сл. ПЗБ). Да *скрэбці* (гл.). *Памае* значэнне 'пасля, па'. Аналагічна польск. *poskrobek,* рус. *поскребок, поскрёбыш.* Сюды ж кобр., драг. *поскрэ́птуха, поскріптуха,* малар. *поскры́птач, пошкріптач* 'хлябок з рэшткаў цеста' (клім., Сл. Брэс.).

**Паску́да,** *паску́дніца, паску́днік, по́скудзь, по́шкудзь* 'брыдкі, агідны, несумленны чалавек', 'неахайны, нядбайны, некультурны; брыдота' (ТСБМ, Нас., Шат., Шпіл., Др.-Падб.; жытк., Мат. Гом.; КЭС, лаг.), 'бруд' (Нас.; мазыр., Кар. Мат.), *паску́ддзе* 'дрэнь, брудныя лахманы' (Нас.), чэрв. 'насякомыя і гады' (Сл. ПЗБ), *паску́ства, пашку́ства, пашку́цтва* 'брыдота', 'насякомыя і гады', шчуч. 'хто сябе дрэнна паводзіць', ігн. 'няяснае насенне' (Сл. ПЗБ), *паску́дны* 'агідны, прыкры, благі', 'непрыгожы, дрэнны' (ТСБМ, Мал.; КЭС, лаг.; Сл. ПЗБ), *паску́дзіць* 'пакідаць бруд, псаваць, шкодзіць' (ТСБМ, Нас., Шпіл., Шат., Касп.), *пашкудзіць* 'тс' (гродз., шальч., Сл. ПЗБ). Укр. *паску́д(а), паскудник, паскудний,* рус. *паскуда, паскудный, паскудница* 'тс', арл. *паскудый* 'бедны, мізэрны'; польск. *paskuda, paskudnik, paskudny, paskudztwo, paskudziarz,* славац. *paskuda, paskudník, paskudný.* Утвораны ад *па-* і *скудн-ый* 'бедны, мізэрны' (Праабражэнскі, 2, 20); апошняе ўзыходзіць да прасл. *skǫd-/skęd-* (параўн. *ашча́дны*) (Брукнер, 398; Фасмер, 3, 212 і 661; Ліптак, SlReč, 38(2), 1973, 127—128).

**Паскуткава́цца** 'пакарыстацца' (Нас.). З польск. *poskutkować* 'мець вынік', 'дзейнічаць паспяхова', 'падзейнічаць' (са зрухам у семантыцы). Параўн. таксама *ску́так* 'карысць' (Нас.).

**Паслабаджа́ць** 'аслабляць нацягнутае або туга завязанае, адпускаць' (Юрч., Бяльк.), *паслабадне́ць* 'параскашнець, зрабіцца прасторней', 'вызваліцца, мець вольны час', 'адчуць сябе лепш' (Юрч., Сл. ПЗБ). Утворана ад *слабода*<*свабода* (гл.) і *слабодны* і прэфікса *па-* са значэннем пашырэння дзейнасці.

**Пасланéц** 'пасланы для выканання даручэнняў' (ТСБМ, Грыг., Нас., Бяльк.; КЭС, лаг.; ТС). Укр. *пославе́ць,* рус. *посла́нец,* польск. *posłaniec,* н.-луж. *posłańc,* в.-луж. *pósłanc,* чэш., славац. *poslanec,* славен. *od-poslánec.* Паўн.-слав. *posłanьcь.* Да *слаць* (гл.).



**Пасла́ннік** 'дыпламат рангам ніжэй за пасла', 'пасланец' (ТСБМ). З рус. *посланник* 'тс'.

**Паслéд,** *послéд, пасля́д, пасля́ды, паслéдкі* 'мякіна', 'адыходы пры малацьбе, пазаддзе' (Сл. ПЗБ, Выг., Мат. Гом., ТС; воран., свісл., петрык., Шатал.), 'рэшткі чаго-н.' (ТСБМ, Нас., Шат.), 'орган, які выходзіць услед за плодам' (ТСБМ), *паслéдыш* 'апошняе дзіцё' (Нас., Мат. Гом., Бяльк.), *паслéдак* 'тс', 'паслядоўнік', 'спадчыннік' (Нас.). Укр. *послі́д* 'пазаддзе', 'вынік', 'канец', 'кал', рус. *послéд* 'плацэнта', *послéдки* 'рэшткі', польск. *poślad, pośłady* 'нешта апошняе', 'пазаддзе', *pośladek* 'канец, рэшта', 'ягадзіцы', 'задок у драбінах', 'сцёгны'; н.-луж. *poslědk* 'апошняя частка, канец', 'геніталіі самкі звера', 'плацэнта', в.-луж. *poslednje* 'тс', *posledk* 'астатак', 'задняя частка', чэш. *posled, posledek* 'канец, апошняя частка', славац. *posledok* 'тс', 'апошні раз', славен. *poslę̂da* 'ар'ергард', *poslę̂dek* 'вынік', серб.-харв. *пòследица* 'тс', макед. *последок* 'наступныя падзеі', балг. *последък* 'плацэнта'. Прасл. *poslědъ.* Да *след* (гл.).

**Паслéднік** 'паслядоўнік' (Нас.). Утворана ад выразу *(ісці) па слядах.* Польск. *pośledník* 'патомак' мае іншую семантыку.

**Паслéй** 'пасля' (паст., Сл. ПЗБ), дзятл. *по́сляй* 'тс' (Сцяшк. Сл.). Да *пасля́* (гл.). Канчатак *-ей (-яй)* — гэта суфікс параўнальнай ступені прыслоўяў, параўн. *пазней, даўжэй.*

**Паслён** 'травяністая або кустовая расліна сямейства паслёнавых, Solanum nigrum L.' (ТСБМ). Укр. *пасли́н, паслéн, пасло́н, пасьлін, песли́на,* рус. *паслён.* Паводле Фасмера (3, 212), першапачатковай формай была *па-сльнъ* або *паслѣнъ* (<*pa-* і *slina* 'сліна') — 'слізістая расліна'.

**Пасліжава́ць** 'пашліфаваць' (віл., Сл. ПЗБ). Утворана ад *па-* і *сліж(ак)* 'лагі' (гл.) пры ад'ідэацыі 'слізкі'. Магчыма, у арыгінале не зусім дакладна пададзена значэнне слова *(дзерава пасліжаваць трэба).*

**Паслізну́цца** 'ацяліцца раней тэрміну' (шальч., Сл. ПЗБ). Табуістычная назва. Да *слізкі* (гл.).

**Пасло́енка** 'ягады, перацёртыя з цукрам' (Ян.). Да *слой* (гл.). Першапачаткова 'ягады, перасыпаныя цукрам пасло́йна'.

**Паслу́га** 'слугі', 'дзеянне, учынак, якія прыносяць карысць, дапамогу каму-н.', *паслу́гі* 'аплачваемая работа для задавальнення чыіх-небудзь патрэб' (ТСБМ, Нік., Очерки; Нас.). Укр. *послу́га* 'паслуга', 'слуга', рус. *послу́га* 'паслуга, служба на каго-н.', 'заслуга', 'выкананне прыгонных работ, шарварак', польск. *posługa* 'выкананне работы заказчыка, гаспадара', *posługi* 'нясталая, часовая работа', 'прыслуга', чэш. *posluha* 'паслугі', 'служанка', 'пасыльны', славац. *posluha* 'праца пры-

слугі', серб.-харв. *пòслуга* 'прыслуга, абслугоўваючы персанал', 'абслугоўванне', 'пракат', макед. *послуга* 'абслугоўванне', 'пракат'. Утворана ад дзеяслова *poslužiti*<*služiti*<*sluga*. Магчыма, самастойнае ўтварэнне ў паасобных славянскіх мовах. Сюды ж *паслу́жка* 'паслуга' (Бяльк.).

**Паслуга́ч** 'слуга', 'саўдзельнік, памочнік у дрэннай справе' (ТСБМ, Др.-Падб., Нас.), *паслуга́ч* і *паслуга́чы* 'хлопец, які памагае святару пры набажэнствах' (КЭС, лаг.; астрав., Сл. ПЗБ). Польск. *posługacz* 'служыцель', 'слуга', 'прыбіральшчык'. Да *паслужыць*<*служы́ць* (гл.). Аб суфіксе *-ач* са значэннем 'характарыстыка асобы па яе схільнасці да пэўнага дзеяння, з асуджэннем' гл. Сцяцко, Афікс. наз., 31.

**Паслу́жнік**, *паслу́жніца* 'слуга' (Нас.), рус. *послу́жник, послу́жница* 'хто паслужвае некаму, не будучы яго непасрэдным слугой', польск. *posłużnik* 'тс', 'памагаты', серб.-харв. *poslužnik* 'той, хто прыслужвае'. Не выглядае на прасл. утварэнне. Магчыма, былі ўтвораны пазней у раннім сярэдневякоўі асобна ў кожнай з груп моў. Да *паслужыць*<*служы́ць* (гл.).

**Паслу́хаць** 'выканаць просьбу ці загад' (КЭС, лаг.), драг. *послу́хатысь* 'выканаць тое, што просяць, асабліва ў талацэ' (Лучыц-Федарэц). Да *слу́хаць* (гл.). Аднак гэтыя лексемы маюць спецыфічна бел. семантыку, выражаную яскрава ў кантамінаванай лексеме *пыслухме́нства* (<*паслухмя́ны*+*паслушэнства*) 'дапамаганне ў сельскагаспадарчых работах і ў бядзе за «дзякню», г. зн. «дзякуй» (Нік., Очерки); сюда ж *паслухмянства* 'паслушэнства' (ТСБМ).

**Паслуха́чы** 'паслухмяны' (Нас.). Утворана ад *паслу́хаць*<*слу́хаць* (гл.) пры дапамозе суфікса *-ач-ы* са значэннем 'схільны да таго, што названа ўтваральным словам' (Бел. гр., 1985, 1, 307).

**Паслухмя́ны** 'пакорны', 'які слухаецца каго-н.' (КЭС, лаг.; паўн.-усх., КЭС; віл., Сл. ПЗБ; Касп.). Карскі (2—3, 43) вылучае тут суфікс *-м'ан-* і прыводзіць яшчэ адзін прыклад *руц'м'аны* 'які з руты' (Кліх). Аднак Мартынаў (вусн. паведамл.) мяркуе, што *-м'-* узыходзіць да *-н'-* — +*паслухмяны*, якое магло б паходзіць з *паслу́хный* 'паслухмяны' (Бяльк.). Параўн. таксама ўкр. *послухня́ний* 'паслухмяны', *послухня́нство* 'паслушэнства'.

**Паслу́шнік** 'чалавек, які рыхтуецца стаць манахам', 'прыслужнік у манастыры' (ТСБМ). Рус. *по́слушник, послу́шник* 'тс'. Польск. *posłusznik* 'тс', 'паслухмяны, пакорны', чэш. *poslušník* 'тс', славац. *poslušník* 'манах', серб.-харв. *послу̀шник* 'слухмяны, пакорлівы чалавек', балг. *послу́шник* 'паслушнік'. Са ст.-слав. **послушникъ** 'пакорлівы, пачцівы вучань, слухач', якое з'яўляецца калькай са ст.-грэч. ἀκροατής 'слухач', пазней 'той, хто чытае', 'знаўца'. Да *слух* (гл.).



**Паслушэ́нства** 'бясспрэчнае падпарадкаванне, пакорнасць, паслухмянства' (ТСБМ; ашм., Сл. ПЗБ). Рус. устарэлае *послушенство*, польск. *posłuszeństwo*, чэш. *poslušenství*, серб.-харв. *послушенство* 'тс'. Утворана ад *poslušьnъ* пры дапамозе суф. *-stv-*. Да *слу́хаць* (гл.).

**Пасля́**, *пасле́, по́сля, посля́, по́слі, по́сле, пысьля́* 'потым, пазней некаторага тэрміну' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Бяльк., Ян., ТС). Укр. *пі́сля*, ст.-укр. *послі, опослі*, рус. *(о)после, (о)посля, пасля́*, ст.-рус. *послѣ*, серб.-харв. *послије, после, посли*, макед. *после*. Прасл. *poslě* можна ўспрымаць як скарочаны варыянт слова *poslědь*, якое да *след* (гл.) (ESSJ SG, 1, 201—203). Іншыя версіі: з *po-sь-lě* (Сабалеўскі, РФВ, 66, 401) ці з *pos-lě*, як *pos-dě* 'пазней' (Лось, RS, 4, 244), здаюцца менш імавернымі. Сюды ж *по́слячы* 'пазней' (нясв., Сл. ПЗБ, Сцяшк.) з узмацняльнай часціцай *-чы* (Карскі, 2—3, 71; ESSJ SG, 1, 306).

**Паслядо́ўнік** 'той, хто прытрымліваецца чыіх-н. поглядаў і кіруецца імі ў жыцці' (ТСБМ). Укр. *послідо́вник* 'тс'. Утвораны ад прыметніка *паслядоўны* (і суфікса *-ік*) або гэта калька з рус. *последователь*<ст.-слав. **послѣдьствовати**.

**Пасля́нач** 'раніцой' (смарг., Сцяшк. Сл.). Рэгіянальнае беларускае. Да *пасля* і *ноч* (гл.).

**Па́сма**, *па́смо, па́сьмо* 'некалькі нітак ці валокнаў, складзеных уздоўж', 'трыццаць нітак', 'пучок валасоў' (ТСБМ, Маш., Шат., Касп., Бяльк., Бір. Дзярж.; Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Сл. Брэс., ТС; слуц. КЭС), 'змятая жменя льну' (Яруш., Бес., Уладз., Мядзв.), 'галун' (Яруш.), '12 пар нітак у кроснах' (КЭС, лаг.), каслаўка, пучок' (КЭС, лаг.; Ян.), 'мера палатна ў шырыню' (кобр., Сл. Брэс.; Ян.), глус. *па́сьмяне* 'трыццаць нітак' (Янк. Мат.). Укр. *па́смо*, рус. *пасмо, пасманка, пасменка, па́сменный, пасмёнок, пасменник*, польск., н.-, в.-луж. *pasmo*, чэш., славац. *pásmo*, славен. *pásmo*, серб.-харв. *па̏смо*, макед. *пасмо*, балг. *пасмо́*. Паводле Фасмера (3, 212), прасл. *pasmo*, якое з'яўляецца роднасным да лат. *puõsms, puõsmis* 'прасла ў плоце'. Трубачоў (Ремесл. терм., 102—103) лічыць, што прасл. *pasmo* — другасная форма ў адносінах да больш поўнай *pasmę* (Р. скл. *pasmene*), а лат. *puõsms* 'дробка льну, аддзеленая ад кудзелі', як і літ. *põsmas* 'пасма', запазычаны са слав. моў. Адносна апошняга гэтаксама мяркуе і Махэк$_2$ (436). Аткупшчыкоў (Из истории, 260) сумняваецца ў старажытнасці суфікса *-*men-* у гэтым слове і лічыць, што рус. *пасменка* — больш позняе паводле свайго ўтварэння з другасным суфіксам *-men-*. Аднак гэтаму, відаць, супярэчыць і наяўнасць бел. глус. *па́сьмяне*. Адносна этымалогіі прасл. *pasmę* (<**pat-smen*) Трубачоў (Ремесл. терм., 102) выказвае дапушчэнне яго роднаснасці з герм. **faþma-* 'пэўная колькасць пражы'

(>ст.-в.-ням. *fadum,* суч. ням. *Faden* 'нітка')<і.-е. **pet-/*pot-*. Іншыя ў якасці роднасных прыводзяць ст.-іран. *afsman-* 'верш (у гатах), вершаваны радок', пачатак якога *afs-* узыходзіць да *pas-*. Гэты корань у авесце азначае 'блытаць; путаць, умацоўваць адно на адным' (Махэк₂, 436).

**Пасмакава́ць** 'паспрабаваць на смак' (Касп.). Да *смак* (гл.). Паводле тэрыторыі пашырэння (Віцебшчына) можна меркаваць аб кальцы з літ. *paskanáuti* 'тс'<*skōnis* 'смак'.

**Пасма́чыцца** 'здацца смачным' (Юрч.). Усх.-беларускае. Фармальна адносіцца да *смак* (гл.). Хаця паводле ўтварэння яно падобна да *+пасмачыць: пасмачы́ць, пусмачы́ты, посмачэ́тэ* 'заправіць страву, засквaрыць' (Мат. Гом., Сл. Брэс.), аднак мае своеасаблівую семантыку, набліжаную да *смачнэ́ць* 'рабіцца смачным'. Відаць, трэба разглядаць як кантамінацыю лексем *пасма́чыць* і *рабіцца*.

**Пасме́ртнік,** *посме́ртнік* 'бурачок камяністы, Alyssum saxatile L.' (Бейл.). З рус. *бессме́ртник* 'сухацвет'.

**Пасме́тнік,** нараўл. *посме́тнік* 'сметнік' (Мат. Гом.). З укр. мовы, дзе *по́сміт* 'смецце', далей утварэнне ішло паводле *сметнік* (гл.). З укр. мовы, відаць, і польск. устарэлае *pośmiat* 'смецце'.

**Пасме́х** 'пасмешышча' (Др.-Падб., Гарэц., Нас.), 'абсмяянне' (Бяльк.). Укр. *по́сміх, посміх,* рус. *посме́х,* польск. *pośmiech,* в.-луж., чэш. *posměch,* славац. *posmech,* славен. *posméh.* Познепрасл. *po-směхъ,* утворанае ад *po-smьjati sę* (Махэк₂, 560). Аб перамозе прэфікса *po-* ў аддзеяслоўных дэрыватах у славянскіх мовах у перыяд пасля распаду прасл. мовы гл. Борысь, Prefiks., 32.

**Пасме́ціца** (н. р.) 'сметнік' (Грыг.). Відаць, у рукапісе апіска: трэба *пасмецішча* (замест *ц* — рус. *щ*), параўн. з такім жа суфіксам бел. *сметнішча* 'тс' (ТСБМ). Суфікс *-іца* ў назоўніках ніякага роду не сустракаецца ў бел. мове; ёсць *-ц-а (каленца, рыльца, путца).*

***Пасме́цюха,** *посьмі́цюха* 'жаўранак чубаты, Galerida cristata' (Дразд.), кобр., малар. *посмэ́тюх* 'тс' (Сл. Брэс.). Укр. *посмі́ттюха, посмі́тюшок* 'тс', польск. *śmieciuch, śnieciuch, śmieciucha, smieciuga, smieciuha, postetiuch, posmieciucha, pośmieciuszka, pośmieciuszek.* Палес. формы запазычаны з польск. гаворак. Да *смецце* (гл.).

**Пасме́шышча** 'прадмет кпінаў', 'здзек' (ТСБМ). З рус. *посме́шище* 'тс'<*посмея́ться*<*смех* (гл.).

**Пасмурне́ць** 'зрабіцца хмурным, смутным', 'пахмурнець' (Бяльк.). Да *па-* і *+смурнэ́ць,* якое з рус. *сму́рый* 'цёмна-шэры, змрочны',— апошняе генетычна суадносяць са ст.-ісл. *meyrr* 'хмурны, друзлы', ст.-грэч. 'ἀμαυρός 'цьмяны, туманны' (Фасмер, 3, 693—694).



**Пасмыка́йла** 'смычок да скрыпкі' (Інстр. III). Паводле ўзору *па-ніх-айла.* Да *смык* (гл.).

**Пасмята́нне** 'маслёнка' (Шн. 3). Утворана ад выразу *па* ('пасля') *смятане* і суфікса *-ьje.*

***Пасмятня́,** малар. *посмітня́* 'бок дома, які выходзіць у двор' (Шушк.). Утворана ад укр. *посміт* 'смецце'. Аб суфіксе *-ня* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 165—166.

***Пасмяхові́ска,** драг. *посміховыско* 'пасмешышча' (Лучыц-Федарэц). Укр. *посміховисько* 'тс'. У выніку кантамінацыі ст.-слав. **посмѣхати сѧ** 'кпіць' і ст.-бел. *пасмевіска* 'кпіны, пасмешышча' (1540 г.), якое са ст.-польск. *pośmiewisko* 'тс'.

**Пасна́дней** 'больш выгодней, ямчэй' (Нас.). Да *+снадны.* Параўн. рус. *сна́дить* 'прыстасоўвацца', 'складаць, падганяць (дошкі)', ст.-польск. *snadny* 'зручны, ёмкі', польск. *snadnie* 'лёгка, без намаганняў', чэш., славац. *snadný* 'лёгкі', мар. *nesnadný* 'бурклівы', якія са слова *snadь*: н.-луж. *snaź,* в.-луж., польск. *snadź* 'мажліва, відаць', чэш. *snad,* славац. *snad'* 'тс'. Брукнер (504) і Фасмер (3, 696) уключаюць сюды і *снасць* 'начынне працы'. Пэўнай этымалогіі няма. Калі зыходзіць з асноўнага *snadь,* можна дапусціць вельмі старое скарачэнне з прыслоўя *snadobь* (як рус. *надо* з *надобь*). Параўн. ст.-слав. **оудобь** 'лёгка', ц.-слав. *без-добь* 'у неадпаведны час'. Тады *sna-d-* азначала б 'палёгка' (Махэк₂, 563).

**Пасня́к** (збор.) 'хрушчы' (жлоб., Мат. Гом.). У выніку кантамінацыі лексем *посны* і *праснак* (гл.).

**Пасняка́ць** 'высмаркацца' (свісл., Сцяшк. Сл.), карэліц. 'вычысціць нос' (Сл. ПЗБ). Укр. *сякати(ся)* 'смаркацца, фыркаць', польск. *siąkać,* славац. *siakať* 'тс'. Мацкевіч (Сл. ПЗБ, 3, 430) выводзіць бел. лексему з *па-* і польск. *siąkać* 'тс'. Устаўное *-н-* можна разглядаць як кампенсацыю пасля насавога *ą.* Аднак генетычна гэтыя лексемы ўзыходзяць да прасл. *sęknǫti* (гл. Фасмер, 3, 826). Параўн. бел. *прася́кнуцца* (гл.).

**Пасо́вішча** 'работнік, якога трэба падштурхоўваць' (Нас.). Да *пасоўваць*<*су́нуць, сава́ць* (гл.).

**Пасок** 'насок лапця' (б.-каш., Мат. Гом.). Утворана ад *пас* 'палоска лыка ў наску лапця' і суфікса *-ок*<прасл. *-okъ* (Слаўскі, SP, 1, 92).

**Пасо́бе** 'асобна' (слонім., Сцяшк. Сл.). У выніку кантамінацыі выразу *па сабе* і польск. *poosobno* 'асобна'.

**Пасо́йта,** *посайка* (паўн.-усх., гродз., дзятл.) 'перавязь вядра', іўеў. 'пятля, якую надзяваюць цялятам і каровам на шыю', свісл. 'вяровачка для звязвання чаго-н.', ст.-бел. *соит,* ст.-польск. *seyt* 'вяроўка для прывязвання скаціны' (1759 г.). Літуанізм. Параўн. літ. *pasaĩtas, pãsaitas* 'прывязь, перавязь', 'дужка вядра' (Станкевіч, Калосьсе, 1938, 4, 172—175; Непакупны, Kalbotyra, 1974, 25(2), 76; Лаўчутэ, Балтизмы, 70).

**Пасо́ка** 'свіная кроў' (віл., паст., Сл. ПЗБ), 'загуслая ў камкі кроў' (КЭС, лаг.; Нас.), *пасыка* 'кроў, што вылілася з раны', 'кроў забітай жывёлы', 'сукравіца' (Др.-Падб., Гарэц.). Укр. *па́сока* 'сукравіца, кроў', рус. *па́сока* 'лімфа, сукравіца', 'сок дрэва', польск. *posoka*, устарэлае *posok* 'юха, разлітая кроў', 'сукравіца', 'юшка з крыві', 'кроў дзікай жывёлы, якую праследуе сабака', 'загуслая кроў'. Роднаснымі да іх будуць рус. паўн. *осока* 'гной з раны', 'гнаявая жыжка' і серб.-харв. *ȍсока* 'сок', 'сыроватка з-пад брынзы', 'пот (у жывёл)', 'мача', 'сукравіца'. Да *па-* (<прасл. *pa-*) з дэмінутыўнай функцыяй і *сок* (гл.).

**Пасо́л** 'чалавек, пасланы з якім-н. даручэннем, пасланец', 'дыпламатычны прадстаўнік' (ТСБМ, Федар. 6; КЭС, лаг., Нас.), 'сват' (стаўб., Сл. ПЗБ). Укр., рус. *посол*, ст.-рус., ц.-слав. *посълъ*, польск. *poseł*, н.-луж. *posoł*, чэш. *posel*, славац. *posol*. Да *po-* і *sъlati*>*слаць* (гл.). Утвораны пры дапамозе суфікса *-ъ(po-sъl-ъ)*.

**Пасо́ля,** *пасо́ль, пасо́лі, басоля* 'фасоля, Phaseolus vulgaris L.' (Шат., Янк. 2, Сцяшк.; КЭС, лаг.; івац., Сл. Брэс.; мін., Кіс.; докш., карэліц., Янк. Мат.). Да *фасоля* (гл.). Аб мене *ф*>*п, б, кв, хв, х* гл. Карскі, 1, 342—344. Сюды ж *пасале́ня, пасалявёня* 'сцяблы і лісце фасолі', *пасолішча, пасо́лішчо, пасольнік, пасольніска* 'поле з фасоляй' (Сл. ПЗБ).

***Пасолянка,** бяроз. *пасо́лянка* 'цэлая вараная бульба' (Сл. Брэс.). Да *пасаліць*<*соль* (гл.). На Палессі існуюць і іншыя роднасныя назвы: *салонцы, салонікі, салёнкі* 'абрэзаная ад лушпіння бульба, якую, варыўшы, соляць' у адрозненне ад бульбы ў мундзірах, якую не соляць.

**Пасо́нчыць** 'працадзіць' (брасл., Сл. ПЗБ). З польск. *posączyć się* 'сачыўшыся, ліцца нейкі час'.

**Пасо́рхці** 'пакрыцца намараззю' (шчуч., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі лексем *пасохнуць* і *шэрхнуць* (гл.).

**Пасо́рыць** 'згубіць' (Касп.). Рус. пск., цвяр. *посо́рить* 'выдаткаваць', *посо́рки* 'выдаткі'. Да рус. *сор* 'смецце' (гл. Фасмер, 3, 720).

**Пасо́ўнасць** 'супадзенне' (Дуж.-Душ.). Да *пасава́ць* (гл.).

***Паспаду́,** *посподу́* 'знізу' (ТС). Утворана ад прыназоўніка (>прыстаўкі) *з-пад* і назоўніка ў Р. скл. *спод* (гл.).

***Паспалі́ты,** ст.-бел. *посполитый, посполный* 'агульны, просты' (XIVст.) *посподьство, посполство, посполитство* 'плебс, просты люд', *посполитоватися* 'знацца, вадзіцца', *посполито, посполите* і інш. таго ж кораня запазычаны са ст.-польск. *pospolito, pospolicie, pospolitować się, pospolstwo, pospelny, pospolity* (Жураўскі, SlOr,10(1), 1961, 40; Булыка, Лекс. запазыч., 38).



**Паспасі́баваць** 'падзякаваць' (брасл., в.-дзв., Сл. ПЗБ), *паспасібкываць* 'тс' (Бяльк.). Ад рус. *спасибо* 'дзякуй' пад уплывам бел. *падзя́каваць*<*дзя́каваць* (гл.).

**Паспе́х** 'паспешнасць' (Нас., Грыг.), 'празмерная хуткасць' (ТСБМ), 'паскарэнне' (Гарэц., Касп., Др.-Падб.), *поспех* 'спорнасць, хуткасць' (ТС). Укр. *по́спіх*, рус. *поспе́х*, польск. *pośpiech*, н.-, в.-луж., чэш. *pospěch*, славен. *pospêh*, ст.-слав. **поспѣхъ** 'паспешнасць', 'паскарэнне', 'садзейнічанне'. Прасл. *pospěxъ* было, відаць, утворана ад дзеяслова *po-spěšiti*, у якім прэфікс *po-* павялічвае значэнне дзеяслова. Да *спех, спяшыць* (гл.). Сюды ж *паспяшны́* 'ранні (напр., капуста)' (лід., Сл. ПЗБ), *пасьпе́шка* 'ранні сорт бульбы, скараспелка' (Касп.; в.-дзв., астрав., смарг., Сл. ПЗБ), параўн. польск. *pośpiechy* 'тс'. Гл. таксама *поспех*.

**Паспо́лька** 'рэчка, якая працякае праз поле' (беласт., Сл. ПЗБ). Відаць, з $^{+}$*паўзполька*, якое з выразу *паўз поле*. Аналагічна слаўг. *паўзполле* 'месца ўздоўж поля' (Яшк.).

**Паспо́раваць** 'прыспешваць' (навагр., Сл. ПЗБ). Утворана пры дапамозе прыстаўкі *па-* (<прасл. *po-*) ад прыметніка *sporъ*>ц.-слав. *споръ* 'багаты, пышны', рус. *спорый*, укр. *спо́рий* 'хуткі', бел. *спорны* (гл.).

**Паспо́рыцца** 'паспрачацца' (Бяльк.). У выніку кантамінацыі рус. *поспо́рить* і бел. *паспрача́цца* 'тс'.

**Паспро́буваць** 'пакаштаваць', *паспро́бывыный* 'паспытаны, паспрабаваны' (Бяльк.). У выніку кантамінацыі лексем *паспытаць* і рус. *пробовать* 'тс'.

**Паспыта́ць** 'паспрабаваць на смак' (Бяльк., Касп., Бір.), *паспытак* 'каштаванне, ці смачна' (КЭС, лаг.; Нас.). Укр. *поспита́ти* 'пакаштаваць', балг. *опи́там* 'паспрабаваць на смак ежу, напой', н.-луж. *pospytaś* 'трохі паспрабаваць', в.-луж. *pospytować* 'праводзіць доследы'. У іншых слав. мовах гэта лексема звязана са значэннем 'пытацца', 'прасіць', 'шукаць', 'рабіць прапанову'. Да *спытаць*<*пыта́ць*<прасл. *pytati/pitati* з першасным значэннем 'кроіць, рэзаць, сячы', г. зн. 'адразаючы, адсякаючы, даведвацца пра гэты прадмет'.

**Пасро́дак** 'сярэдзіна' (Нас.). З польск. *pośrodek* 'тс'. Разам з тым *пасродак* 'пасрэднік' (там жа) — кантамінацыйнае ўтварэнне з *пасрэднік* і *сродак*.

**Пасрэ́днік** 'той, хто садзейнічае пагадненню, здзелцы, дапамагае наладзіць кантакт' (ТСБМ). Укр. *посере́дник* 'тс', 'міравы пасрэднік', рус. *посре́дник* 'пасрэднік', польск. *pośrednik, pośrzednik, postrzednik*, н.-, в.-луж. *posrědnik*, чэш. *prostředník*, славац. *prostredník*, славен. *posrédnik*, серб.-харв. *по̀средник*, макед., балг. *посредник*. У слав. мовы трапіла рознымі шляхамі. У бел., паводле Жураўскага (Матэр. IV Міжнар. з'езда слав. Мн., 1958, 51), прыйшло з ц.-слав. праз рус. Да ст.-слав.

**посрѣдьнъ** 'які знаходзіцца пасярэдзіне', прасл. *serdъ>сярэдзіна* (гл.).

**Пасрэ́дны** 'невысокі па якасці, звычайны' (ТСБМ). Калька з рус. *посредственный* пры ад'ідэацыі польск. *pośredni* 'ускосны', 'сярэдні', 'дапаможны'. Мае кніжны характар. Параўн., аднак, серб.-харв. *пòсредан* 'пасрэдны', 'сярэдні', 'ускосны'.

**Па́ста**$_1$ 'паша для жывёлы' (Др.-Падб.; астрав., Сцяшк.; раг., Мат. Гом.; смарг., Шатал.), 'пасьба' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'чарга пасціць жывёлу' (Сл. ПЗБ). Скарочанае *паства* (гл.), магчыма, пад уплывам *па́ша* (гл.).

**Паста**$_2$ 'вязкае рэчыва цестападобнай масы' (ТСБМ). Праз польск. ці рус. мовы з італ. *pasta* 'цеста' (Брукнер, 398; Праабражэнскі, 2, 22; Фасмер, 3, 213).

**Паста́ва** 'становішча фігуры, корпуса, уласцівае каму-н.', 'поза' (ТСБМ, ТС), 'месца касьбы' (шчуч., Сцяшк. Сл.) і *пастанова* 'звычай' (ТС), лід. *пастаўны́, постаўны́* і *постаўны́* 'статны, стройны' (Сцяшк. Сл., ТС), *поста́ў* 'скрутак палатна' (ТС), лун. 'камяні ў жорнах' (Шатал.). Укр. *поста́ва* 'знешнасць, постаць, выгляд', 'поза, становішча цела', 'сувой сукна такой даўжыні, якой ён выходзіць з варштату', *постав* 'тс', рус. ніжагар. *постав* 'стан, абрысы цела па росту, паводле статнасці', 'талія, будова цела', польск. *postawa* 'пастава цела', 'пазіцыя, кірунак', 'гордасць, пыха', 'фігура; знешні выгляд', *postaw* 'скрутак сукна', 'аснова ткання (пража)', '60 пасмаў пражы', н.-луж. *postawa* 'станіна', 'падстаўка', 'фігура', в.-луж. 'фігура чалавека', 'скульптура', чэш. *postav* 'звой тканіны', *postava* 'фігура цела чалавека', 'літаратурны персанаж', славац. 'тс', 'асоба', славен. *postáva* 'фігура, рост чалавека', 'закон', серб.-харв. *пȍстава* 'падкладка (адзення)', макед. *постава* 'тс', 'вокладка'. Прасл. *postava* 'нешта пастаўленае, якое стаіць', паводле Скока (3, 330), з'яўляецца аддзеяслоўным утварэннем, гэтаксама і *postavъ* 'скрутак сукна', параўн. прасл. *postaviti>* бел. *паставіць* 'пабудаваць', 'прызначыць на пасаду', 'натапырыць поўсць', 'даць адпачыць', 'паставіць на стол', 'змясціць, пакласці' (ТСБМ), *паста́віцца* 'арганізавацца, стаць' (бяроз., Сл. ПЗБ). Да *ста́віць, стая́ць* (гл.).

**Паставáць** 'пасвіць' (браг., Мат. Гом.). Да *па́ства* 'пасьба' (гл.).

***Па́ставень**, *па́стовэнь* 'выган ля сяла, дзе пасецца скаціна' (Бес.). Укр. чарніг. *па́стівéнь*. Утворана ад *паства* 'паша' пры дапамозе суфікса *-авень* (аб ім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 143).

**Паста́вень** 'прыстасаванне для лоўлі рыбы' (Мат. Маг.). Да *паста́віць<ста́віць* (гл.). Аб суфіксе *-ень* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38. Сюды ж (з іншым суфіксам) і *пастаўня́* 'рыбацкая прылада — вудачка, намотаная на рагульку' (Янк. 1).

**Паста́вец** 'збан, посуд для вады, квасу' (Растарг.), 'драўляны посуд для алею' (Ян.), *пастáўчык* 'пасудзінка' (Нас., Бел. песні), малар. *постáвэць* 'ражка, у якой замешвалі корм для свіней' (Сл. Брэс.). Укр. *постáвець* 'конаўка', рус. пск. *поставéц*, тамб., разан. *постáва* 'збан, конаўка, фляга', разан. *поставня́* 'драўляная міска ў жабракоў', серб.-харв. *пȍстава* 'посуд, у які капае самагон', дуброўніцк. 'від посуду'. Прасл. *postavъ, postavьcь<po-staviti>пастáвіць<стáвіць* (гл.). Параўн. таксама рус. *ставéц* 'посуд для піцця'.



**Паставі́шня** 'заўсёды' (Бяльк.). Кантамінацыя бел. *пастаянна* і польск. *ustawicznie* 'тс'.

**Пастакава́ць** 'пасціць' (варан., Сцяшк. Сл.). З польск. *postnikować* 'тс', якое з *postnik* 'хто трымае пост', але бел. лексема ўтворана ад *пост* з суфіксам польск. слова.

**Па́сталка** 'прыстасаванне ў калодзе для адкладвання мёду' (карм., Мат. Гом.). Утворана прыстаўкай *па-* ад *столка* 'слой, пласт, складка' (гл.). Параўн. таксама роднаснае ўкр. *стільни́к* 'соты'.

***Пасталні́к**, іван. *постолны́к* 'сенажаць, размешчаная адразу за хатамі' (Сл. Брэс.). Да *пастаўні́к* (гл.). Мена *-л-* замест *-ў-/-в-* — вынік пераводу на палес. гаворку польск. *pastewnik*, мена *а>о* — магчыма, пад уплывам лексемы *постолы* 'лапці'.

**Пасталы́**, *пасталэ́, постолэ́, постолы́*, браг. *пасту́лі; посто́лі, пустолы́* 'лыкавыя лапці' (Маш., Булг., Янк. 3, Янк. БФ, Шпіл., Эр., Бес., Тарн., Сл. ПЗБ, Малч., Мат. Гом., Ян., Сл. Брэс.), 'скураныя лапці' (ТСБМ, Касп., Мат. Гом., Сл. Брэс.; віц., Хрэст. дыял.), 'падстаўкі для ўмацавання ножак церніцы' (Уладз.). Укр. *постíл, постоли́*, рус. *постолы́*, польск. *postoł*, славен. *póstol*, серб.-харв. *пòстô*, балг. *постал, бостал* 'чаравікі', 'туфель'. Радлаў (4, 1291), Міклашыч (Türk. El. Nachtr., 2, 144), Гараеў (276), Вахрас (Наим. об., 151) выводзяць з тур. *postal* 'туфель' (тур., крым.-тат. *post* 'скура'<новаперс.<с.-перс. *pōst* 'тс'. Іншыя (Праабражэнскі, 2, 113; Младэнаў, 496) мяркуюць, што гэта слова мае і.-е. паходжанне (з **pod-* і **tol-*), прыводзячы ў якасці роднаснага ст.-інд. *padatalē* 'падэшвы чаравікаў', што малаімаверна. Улічваючы геаграфію пашырэння лексемы можна меркаваць аб асобным запазычанні цюркскага слова ва ўсх.-слав. і паўд.-слав. мовы.

**Паста́мант** 'тая частка малатарні, дзе малоціцца збожжа' (КЭС, лаг.), *пасту́мант, пасту́мэнт* 'каркас плуга, калаўрота' (шальч., шчуч., Сл. ПЗБ; смарг., Шатал.), 'аснова печы' (шальч., ваўк., Сл. ПЗБ). З польск. *postument* 'пастамент' (Мацкевіч, там жа, 3, 436), якое з с.-лац. *postumentum* 'фундамент (помніка, статуі)'; *-та-* замест *-ту-* пад уплывам слова *стаяць*.

**Пастанаве́нне** 'пастанова, палажэнне, умова' (Нас.), ст.-бел. *постановенье* (XV ст.). Са ст.-польск. *postanowienie* 'тс',

7. Зак. 157

'сталасць', 'сямейнае палажэнне', 'дзяржаўная канстытуцыя', 'план' і інш.

**Пастанавíць** 'пабудаваць' (жытк., Мат. Гом.). У выніку кантамінацыі лексем *стан*(<*stanъ*) 'будынак, дом', *паставіць* 'будаваць' (гл.). Больш падрабязна пра *стан* гл. Лучыц-Федарэц, Лекс. Палесся, 166—169.

**Пастанóва** 'калектыўнае рашэнне', 'распараджэнне дзяржаўнай установы' (ТСБМ). Укр. *постанóва* 'пастанова, рашэнне'. Бел.-укр. ізалекса. Утворана паводле *установа*, якая таксама з'яўляецца аддзеяслоўным утварэннем. Да *пастанавíць* 'прыняць пастанову, вырашыць', 'вызначыць', 'прызначыць', 'паставіць што-н.', 'пабудаваць' (ТСБМ, Янк. 1, Касп., Ян.)< прасл. *stanoviti*. Гл. *стáвіць*.

**Пастáнне,** *пастáньня, пыстáньня* 'падол, прыпол з грубай тканіны' (Юрч., Бяльк., Мат. Маг.). Рус. *пóстáнь* 'тс', *постáньне* 'тс'. Да *стан* (гл.). Прыстаўка *па-* мае значэнне 'пасля, ніжэй'> 'ніжэй стана', а *стан* — 'верхняя частка спадніцы'. Параўн. *пастаноўка* 'падстаўка ў падоле' (Сл. ПЗБ).

**Пáстар**$_1$, *пáстыр* 'пратэстанцкі святар', 'кіраўнік паствы' (ТСБМ, Яруш., Др.-Падб., Касп.), ст.-бел. *пастеръ, пастэръ* 'тс' (1580 г.) запазычаны са ст.-польск. *paster*, якое праз ням. *Pastor* з лац. *pastor* 'які пасе, пастух' — дзеепрыметніка ад дзеяслова *pascere* 'пасці' (Праабражэнскі, 2, 24; Фасмер, 3, 214; Голуб—Ліер, 362; Булыка, Лекс. запазыч., 173).

**Пáстар**$_2$ 'старэйшы пастух' (браг., Шатал.). Да *пастыр* (гл.).

**Пастараваáць** 'пагаварыць' (маст., Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, да *пастар*$_1$ (гл.), які прапаведваючы, (шмат) гаворыць. Утварэнне, як, напрыклад, укр. *постаростувати* 'быць старастам'.

**Пастарнáк**$_1$, *пастэрнáк* 'расліна Pastinaca sativa L.' (Федар. 6 і 7; віц., гом., гродз., маг., Кіс.; Бес., Булг.), 'бядрынец вялікі, Pimpinella magna L. et P.', 'бядрынец каменяломкавы, Pimpinella saxifraga L.' (Касп.), ст.-бел. *пастернакъ (пастарнакъ, пасторнакъ, пастрнакъ, постернакъ, посторнакъ, постэрнак)* 'пастарнак' (1556 г.) запазычаны са ст.-польск. *pasternak*, якое праз с.-в.-ням. *pasternac* з лац. *pastināca* 'морква' (Міклашыч, 233; Вальдэ—Гофман, 2, 261; Брукнер, 398; Фасмер, 3, 212; Булыка, Лекс. запазыч., 150).

**Пастарнáк**$_2$ 'галоўны корань яблыні' (бярэз., Сл. ПЗБ), 'калочак пры вяроўцы, якім карыстаюцца пры навязванні жывёлы на пашы' (КЭС, лаг.). Да *пастарнак*$_1$ (гл.). Названы так у выніку пераносу значэння паводле падабенства да стрыжнёвага кораня расліны.

**Пастарóнак,** *пастарóнкі*, стол. *посторóнкі; пáстаранкі, пастронак*, шчуч. *пастронка; пастронкі, пастроньні, пастромкі, пустрóнок* 'пастронкі' (ТСБМ, Нас., Шпіл., Маш., Янк. 2, Выг., Шат., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл., Сл. Брэс.). Укр. *посторóнок*, рус. *пострóмка, постромкú, пострóнка, посторóнка*, польск. *postronek*, каш. *pöstrònk*, н.-луж. *póstronk*, в.-луж. *postronk*, чэш. (яшчэ ст.-чэш.) *postranek*, народн. *p(r)ostraněk*, паўд.-усх. *vostraňky*, славац. *postranok* 'тс'. Паўн.-слав. *po-storn-ъkъ* 'вяроўка, рамень, прывязаныя да вужоў хамута, якія ідуць збоку цяглавай жывёлы' (Брукнер, 432; Голуб — Копечны, 287; Махэк$_2$, 474). Наяўнасць *-м-* тлумачыцца па-рознаму (гл. яшчэ Фасмер, 3, 342). Да *старанá* (гл.). Паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 121), ст.-бел. *постронокъ (пастронокъ, постромокъ)* (1598 г.) запазычаны са ст.-польск. *postronek* 'тс'. Няма падстаў.

**Пастарóнец** 'жыхар навакольных вёсак' (Нас.). Утворана ад выразу *па старанé*. Да *старанá* (гл.).

**Пастарýнак** 'мясцовае аддзяленне паліцыі ў Заходняй Беларусі' (ТСБМ, Сцяшк. Сл.): 'пост' (Сл. ПЗБ). З польск. *posterunek* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 434), якое з ням. *Postierung* 'лінія пастоў, вартавая ахова'.

**Пастáў**$_1$, *постаў* 'сувой палатна', 'вялікі кавалак сукна (у 32 локці)' (ТСБМ, Уладз., Маш., Янк. 1, Гарб.), 'мера самаробнай тканіны, роўная 54 локцям, або 1744 см' (Мал., Уладз.; свянц., Крывіч, 12), 'даўжыня асновы, наведзенай на ткацкі стан' (Уладз.), 'тканіна пэўнай даўжыні' (Нас.), 'ткацкі стан' (КЭС, лаг.; Шат.). Да *пастáва* (гл.).

**Пастаў**$_2$ 'пара млынавых камянёў' (ТСБМ; КЭС, лаг.; Шат.). Прасл. *postavъ* (Трубачоў, Ремесл. терм., 124), якое з *po-* і *stavъ*; апошняе мае яшчэ значэнне 'сажалка', таксама як бел. *пруд* абазначае 'сажалка' і 'млын'. Да *стáвіць* (гл.).

**Пастáўка** 'падол, ніжняя частка жаночай кашулі, якая шыецца з грубага палатна' (Бяльк.). Да *пóстаўка* (гл.).

**Пастаўля́цца** 'ганарыцца, заносіцца' (Янк. 3). Да *па-стáвіцца* 'запрацівіцца'<*стáвіць сябе* (гл.). Не выключаны ўплыў польск. *postawić się* 'тс', 'паказаць сябе', 'вызначыцца'.

**Пастаўля́ць** (чэрв.) 'пабудаваць', шальч. 'направіць, адрамантаваць' (Сл. ПЗБ). Да *пастáвіць*<прасл. *staviti* 'будаваць', параўн. ст.-руск. *поставленик*, ст.-польск. *stawienie*, чэш. *stavení* 'будынак'.

**Пастаўнíк** 'загародка для жывёлы ў полі' (зах., паўн.-зах., маг., ДАБМ, к. 232; Сцяшк.; стаўбц., Прышч. дыс.; паст., Сл. ПЗБ). Да *паставіць* (жывёлу, скаціну) у загарадзе'<*стáвіць* (гл.). Аб суфіксе *-нік* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 55. Значэнне 'паша' (бяроз., Сл. Брэс.) — вынік пераносу значэння па сумежнасці.

***Пастаўня́**, *пастовня́* 'сенажаць' (Нікан.). Да *пáства* 'паша', *пáсвіць* (гл.).

**Паста́цыя,** *паста́цiя* 'постаць' (Нас.). Аргатычна-бурсацкае слова, утворанае паводле лацінскага ўзору, параўн. рус. *старуше́нция* 'старая жанчына', палес. драг. *страмо́цыя* 'сорам'.

**Паста́ць** 'узнікнуць, утварыцца', 'стаць у нейкім парадку' (ТСБМ), *посtáць* 'размясціцца', 'зрабіцца' (ТС). Укр. *поста́ти, постава́ти* 'узнікаць, з'яўляцца'. Серб.-харв. *пòстajати* 'станавіцца', 'узнікаць, стварацца'. Да *стаць* (гл.). Прэфікс *па-* азначае пачынальную (інхаатыўную) дзею (як і літ. *pa-*, параўн. *pakvìpti* 'запахнуць', *pamìlti* 'палюбіць').

**Паста́ць₂** 'лік, твар на іканастасе' (Нас.). Праз ц.-слав. *ўпостась* 'твар, сутнасць' (XI ст.) са ст.-грэч. ὑπόστασις 'стойкасць, мужнасць, непахіснасць' (Фасмер, Этюды, 69; Фасмер, 3, 137) — уласна такімі выглядалі твары святых на іконах.

**Пастаця́нка,** *пастацянaчка* 'жняя' (Нас., Касп.). Да *по́стаць* (гл.). Сюды ж *пастаянка* 'жняя, якая ідзе наперадзе' (гродз., Сцяшк. Сл.).

**Пастая́лачка,** *пастая́лка,* лун. *постоя́лка,* карм. *пастая́ўка* 'абрызглае малако' (Сержп., Отчёт; паўн.-усх., КЭС; лун., в.-дзв., Шатал.), 'салодкае малако' (Мядзв., Касп., Вешт., Мат. Маг., Мат. Гом., Сл. Брэс., Бяльк.; смарг., Сл. ПЗБ), 'прэснае малако' (Грыг., Нас., Шн. 3; паўн.-усх., Макс.), 'вяршкі, смятана' (докш., Янк. Мат.; ветк., Мат. Гом.; Сл. ПЗБ), іўеў. *пастóялка* 'свежая смятана' (Сцяшк. Сл.). Да *пастая́ць* (гл.). Аб суфіксе *-ал-ка* гл. Сцяцко, Афіс, наз., 51—52.

**Пастая́лец** 'кватарант' (ТСБМ, Грыг.), *пастая́нец* 'тс' (Нас.). З рус. *постоя́лец* 'тс'. Форма *пастая́нец* утворана, як *кватара́нец* (гл.).

**Пастая́нне** 'даўгавечнасць чаго-н.' (Шат.). Славен. *postájanje*, серб.-харв. *пòстоjањe* 'існаванне'. Семантыка бел. лексемы аформілася на бел. тэрыторыі пры ад'ідэацыі ц.-слав. *постоянник*<*постояти* 'вытрымаць, працягваць, пратрымацца' і бел.-рус. *пастаянны — постоянный* 'бесперапынны, нязменны, разлічаны на доўгі час'. Апошняя лексема, як і *пастаянства* 'няспыннасць, нязменнасць', 'вернасць, адданасць' (ТСБМ), прыйшлі праз рус., ц.-слав. з паўднёваславянскіх моў.

**Пастая́ннікі** 'звараныя палавінкі бульбы' (рэч., Мат. Гом.). Відаць, бульба названа гэтак таму, што яна можа даўжэй стаяць, не закісаючы (В. У. Мартынаў, вусн. паведамл.).

**Па́ства** 'пасьба' (ТСБМ, Грыг.; Нік., Очерки; рас., докш., Сл. ПЗБ), 'выпас кароў', 'плата пастуху' (Мат. Гом.), 'паша' (в.-дзв., Шатал.). Укр. *па́ства* 'пасьба', рус. пск., цвяр., *паства́* 'пара года, калі можна пасвіць скаціну', ст.-рус. *паства* 'чарада', 'паша', польск., ст.-польск. *pastwa* 'паша, корм', 'пасьба', н.-, в.-луж. *pastwa* 'выган, луг', чэш. *pastva* 'пасьба скаціны',



славац. *pastva* 'тс', 'паша', славен. *pâstva* 'выган', серб.-харв. устар. *паства,* макед. *паства,* балг. *паство.* Прасл. *pastva,* утворанае ад дзеяслова *pasti*>*па́сці* (гл.) пры дапамозе суфікса *-tva* (Брукнер, 398), як *modlitva.* Сюды ж *па́ства* 'парафіяне, веруючыя якой-н. царквы' (ТСБМ), якое праз ц.-слав. са ст.-слав. **паства** 'тс'.

***Паствіска,** ст.-бел. *паствіско, паствішко* 'паша' (1567 г.) запазычана са ст.-польск. *pastwisko* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 94).

***Паствіцца,** *паствитисе* (1588 г.) 'мучыць, катаваць' (Гарб.). Са ст.-польск. *pastwić się* (*nad kimś*) 'здзекавацца'.

**Па́стка,** арш. *па́стъка* 'прыстасаванне для лоўлі звяроў і птушак' (ТСБМ, Нас., Яруш., Гарэц., Маш., Касп., Шат., Сцяшк.; КЭС, лаг.; в.-дзв., віл., Сл. ПЗБ), *па́ска* 'тс' (гродз., брасл., шальч., астрав., Сл. ПЗБ), *па́стыка* 'тс' (паўн.-усх., КЭС), ваўк. 'мышалоўка' (Калосьсе, 1938, 4). Балтызм, параўн. літ. *spą́stai* 'мышалоўка, пастка', якое з *spę́sti* 'ставіць пастку' (Лаўчутэ, Балтизмы, 123; Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 435). Пра *-ъ-* ў суфіксе *-ъка* гл. Карскі, 1, 164. Аднак у гэтых аўтараў не ўлічаны ўкр. *па́ста, па́стка* 'пастка, мышалоўка', у такім разе можна меркаваць аб генетычнай сувязі разглядаемай лексемы з *па́шча* (гл.).

**Пасто́й** 'часовы начлег, расквартараванне вайскоўцаў у прыватных дамах', 'прыпынак для адпачынку, сну' (ТСБМ, Інстр. III), 'пастаўнік' (астрав., ДАБМ, 784; беласт.,Сл. ПЗБ). Укр. *постíй,* рус. *постой,* ст.-рус. *постой* 'часовае пражыванне' (XVI ст.), польск. *postój* 'тс', в.-луж. *postoj* 'поза, манера', 'пункт гледжання, адносіны', чэш., славац. *postoj* 'тс'. Паўн.-славянскае *postojь.* Да *па-стаяць*<*стая́ць* (гл.).

**Пасто́пак** 'стаптаны лапаць' (Мат. Гом.). У выніку кантамінацыі лексем *пастол* (<*пасталы*) і *патопак* 'атопак'.

**Пастра́х,** *по́страх* 'пагроза, прыстрашэнне' (Нас., Сцяшк.). Укр. *по́страх* 'страх, жах, запалохванне', польск., чэш. *postrach.* Да прасл. *straxъ.* Прэфікс *па-* (<прасл. *po-*) надае назоўніку вынік дзейнасці. Аналагічна і словы з іншымі суфіксамі: бел. *пастра́шка* 'тс' (Др.-Падб., Нас.) ~рус. пск., цвяр. *постра́шка* 'страх, прыстрашэнне', бел. *пастрашэнне* 'пагроза пакараннем' (Нас.)~польск. *postraszenie* 'пагроза, запалохванне', брасл. *пастрашэ́нства* 'застрашванне' (Сл. ПЗБ), якое ўтворана падобна, як бел. *непаслушэнства* ці польск. *okrucieństwo* 'лютасць'.

**Пастра́ціць** 'многіх пазбаўляць жыцця' (Нас.). Утворана пры дапамозе прыстаўкі *па-* і польск. *stracić* 'пакараць смерцю'.

**Пастро́іць** 'парадзіць' (КЭС, лаг.), 'адрамантаваць' (Мат. Гом., ТС), 'палатаць' (Ян.), 'прыгатаваць', 'прыбрацца' (ТС), 'пабудаваць' (Бяльк.). Да *строіць, строіцца* (<прасл. *strojiti*) (гл.).

**Пастройка,** *пострóйка, пострóйкі, пустрóйка* 'будынак, будынкі' (Янк. 1, Тарн., Сл. Брэс., Ян.; лудз., Сл. ПЗБ). З рус. *постройка* 'тс'. Пашырэнне слова, відаць, было звязана з уключэннем Беларусі ў тэрыторыю Расійскай імперыі ў XVIII ст.

**Пастрэ́л** 'нівянік звычайны, Leucanthemum DC. vulgare Lam.' (вілен., Кіс.). Назва перанесена з расліны (з падобнымі прамастойнымі сцябламі) пералёт мнагалісты (Anthyllis L. polyphylla W. et K.), якая па-польску называецца *postrzal*.

**Пастрэлка** *балотная* 'блакітнік несапраўдны, Petasites spurius (Retz.) Rchb.' (гродз., Кіс.). Да *стралá* (гл.): форма ліста нагадвае наканечнік стралы. Аб прэфіксе *pa-* гл. Борысь, Prefiks., 53.

**Паступéнна** 'паступова' (Гарэц.). У выніку кантамінацыі лексем бел. *поступ* (гл.) і рус. *постепенно* 'паступова'.

**Паступова**[1] 'паволі, патроху' (КЭС, лаг.; Бяльк.). Укр. *поступово* 'тс'. Да *паступовы*<*поступ* (гл.). Сюды ж *паступовасць* 'павольны рух наперад' (ТСБМ, Бяльк.).

**Паступова**[2] 'прагрэсіўна' (Гарэц.). З польск. *postępowy* 'прагрэсіўны'.

**Пастýх** 'той, хто пасе статак' (ТСБМ, Яруш., Юрч., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), 'статак' (Юрч.). Укр., рус. *пастýх*, польск. *pastuch*, чэш. *pastuch(a)*, балг. *пастух* 'пастух'; славен. *pastúh* 'каварны чалавек'; 'жарабец', серб.-харв. *пàстух*, макед. *пастув*, н.-луж. устар. *pastuch* 'тс', ст.-слав. **пастоухъ** 'пастух, правадыр'. Прасл. *pastuxъ* утворана ад дзеяслова *pasti* 'пільнаваць, даглядаць скаціну на пашы' і *pasti* 'coire (cum equa)' пры дапамозе суфікса *-uxъ*, пашыранага экспрэсіўным *-t-*, якое паходзіць ад дзеясловаў на *-tati*, *-ъtati*, напрыклад, *šepъtati*~рус. *шептýха* (Слаўскі, SP, 1, 74). Мсцісл. *пастýх, пустýх* 'статак' звязваецца са значэннем 'жарабец (як самец, правадыр статку)'.

**Пастухóва** *сýмка* 'стрэлкі звычайныя, *Capsella Medic.* bursa-pastoris L.' (добруш., браг., Мат. Гом.), *пастýшая сýмка* 'тс' (Бейл.). Кніжная назва — пераклад з лац. Аналагічна ўкр. *калитник, мішочки, мошоночник*, польск. *tasznik* (<чэш. *taška* 'сумка'), *tobołki, kaletnik, kaletka*, славац. *pastušia kapsička, pastierska kapsička* і рус. *пастушья сумка*, адкуль, відаць, і была назва запазычана.

**Пастýшачка** 'пліска, Motacilla alba L.' (воран., Сл. ПЗБ). Калька-пераклад з польск. *pasterka, pastyrka, pastereczka* 'тс', *pliszka pasterka* 'Motacilla flava L.' Параўн. таксама і *pastuszek* 'пліска белая' (Струтыньскі, Nazwy, 26—27 і 109). Матывацыя: птушка гнездзіцца (жыве) на пашах паблізу скаціны. Параўн. таксама ўкр. гуц. *пастирка, пастушка* 'пліска жоўтая'.

**Пасты́каць** 'пакалоць у многіх месцах' (Нас.). Да *ты́каць* (гл.).



**Пасты́ласць** 'назалянне, дадзяванне' (Яруш.), *пастыля́цца, апастыля́цца* 'лаяцца, сварыцца, задзірацца, рабіцца нязносным' (ТСБМ, Нас.), *пасты́льства* 'ахаладжэнне, нелюбоў', 'прыкрасць', 'абрыдласць, нянавісць' (Нас., Бяльк.), *пасты́ліць* 'рабіць каго-н. абрыдлым', *пасты́ленне* 'непрыязь' (Нас.), *пастылю́жны* 'надакучлівы' (ветк., Мат. Гом.), *пасты́лы(й)* 'агідны, абрыдлы', 'нікчэмны' (Нас., Бяльк., Ян.). Рус. кур. *пасты́лица, посты́лость, посты́леть, посты́лый* 'нялюбы, нянавісны, агідны, брыдкі'. Усх.-бел.-рус. ізалекса; узыходзіць да *стыць* (гл.), рус. *стыть*, роднасных са словамі *стыд, прастуда* (Фасмер, 3, 789; Аткупшчыкоў, Из истории, 138—139).

**Пасты́р,** *пáстырь, пáстар, пáстэр, пáсцір* 'пастух', 'старшы пастух' (ТСБМ, Яруш., Др.-Падб., Сл. ПЗБ, Гарэц., Бяльк.; докш., маладз., Янк. Мат.). З ц.-слав.<ст.-слав. **пастырь** 'пастух' (рус. кніжн. *пастырь* 'тс'), якое з'яўляецца адзіным прыкладам з суфіксам *-tyrʼь* ад *pasǫ* 'пасу' (Фасмер, 3, 215), дзе *-t-*, як і ў суфіксах *-telʼь, -tъlъ, -tuxъ, -tajь* (Слаўскі, SP, 2, 29). Фасмер (там жа) лічыць няпэўным выводзіць гэту лексему з лац. *pāstōrem* праз пасрэдніцтва герм. формы на **-turio* (як ст.-в.-ням.*pfistūr* з лац. *pistōrem*, гл. (Mee, Études, 186; Вондрак, Vergl. Gr., 1, 159). Больш імаверным можна лічыць меркаванне Мартынава (Язык, 64—65), які прасл. *pastyrь* лічыць інфільтрацыяй італійскага *pāstōr-io-s*, у якім *ō* дало протаслав. *ū*, якое ў праслав. мове перайшло ў *y*, (г. зн. у *ы*). Сюды ж *пастыранка* 'пастухова пуга' (паст., Сл. ПЗБ).

**Пастырчáк** 'тое, што выдаецца, вытыркаецца і за якое можна зачапіцца' (Сержп.). У выніку кантамінацыі лексем *старчак* і *патырчáка* (гл.).

**Пастэ́рка** 'жаночы капялюш' (Касп.). З польск. *pasterka* 'саламяны дамскі капялюш з нізкім верхам і вялікім брылем' (Варш. сл., 4, 79). Да *пастар, пастыр* 'пастух' (гл.).

***Пастэўка,** брэсц. *пастэвка* 'кармавая морква' (Сл. Брэс.). З польс. *pastewka*<*pastwa* 'корм'.

**Пасувáць** 'пасоўваць' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Да *сóваць* (гл.), якое да прасл. *sovati* (<*sou-a-ti), значэнне якога пазней змянілася ў 'паволі пасоўвацца, рухацца'. Роднаснымі да яго было прасл. *sunǫti* 'бегчы, хутка ісці' (Махэк$_2$, 592—593). Суфікс *-ува-* ў бел. слове можна растлумачыць уплывам польск. *posuwać, posuwny* і інш. Сюды ж экспрэсіўнае *пасувáйла* 'такі, якога трэба падштурхоўваць да працы' (Нас.), суфікс якога з балт. моў (параўн. літ. адпаведнік *-aila*).

**Пасýда,** *посýда* 'посуд' (ТСБМ, ТС). Да *посуд* (гл.).

**Пасукáсты** 'кучаравы' (лід., Сцяшк. Сл.) Да *сукáць* 'звіваць' (гл.)<прасл. *sukati*.

**Пасулíць** 'аценіць', 'запрапанаваць (паесці)', 'паабяцаць' (Др.-Падб.; КЭС, лаг.; Касп., Сл. ПЗБ), *пасýлка* 'прапанаван-

не цаны за купляемы тавар' (Нас.). Укр. *сулити* (у Фасмера, 3, 801), рус. *посулить, посулять, посуловать, посуливать* 'абяцаць, прапанаваць падарунак, паслугу, не выконваючы абяцання да пэўнага часу', *посул(ка)* 'сумніўнае абяцанне', *посулы* 'гасцінцы, хабар'; польск. *posuła, posuł* 'хабар' з укр. мовы (Варш. сл., 4, 773). Усх.-славянскае. Узыходзіць да ст.-слав. **соулѣи** 'лепш' (Фасмер, 3, 800).

**Пасулотацца** 'запэцкацца', *пасулотаць* 'палізаць, зрабіць абы-як' (паст., Сл. ПЗБ). Літуанізм. Параўн. літ. *sulótis* 'сачыцца' (Грынавяцкене, там жа, 3, 437).

**Пасумна** 'трохі небяспечна, сумніцельна' (Нас.). Да *сумны* (гл.). Прэфікс *па-* абазначае невялікую меру якасці (аб гэтым гл. ESSJ SG, 1, 187).

**Пасупіць** (вочы) 'апусціць, насупіць' (Бяс.), *пасупіцца* 'нахмурыцца' (Бяльк.). Укр. *посупитися* 'тс', *посупити* 'нахмурыць', 'апусціць галаву', рус. пск., цвяр. *посупа* 'той, хто ходзіць насупіўшыся', *посупить* 'нахмурыць', польс. *nasępić* (*się*), чэш. (*na*)*supiti se* 'тс', *posupný* 'хмурны'. Паўн.-славянскае. Узыходзіць да паўн.-праслав. *sǫpъ* 'сіп' (рус. *сип*, польск. *sęp*, н.-луж., чэш., славац. *sup* 'тс'), роднаснага з прасл. *sopěti* (Голуб—Копечны, 361).

**Пасурміцца** 'нахмурыцца' (паўн.-усх., КЭС). У выніку перастаноўкі складу *-сму-* слова⁺*смурыцца* 'хмурнець' пад уплывам лексемы *сурміцца* 'фарбаваць сурмой валасы, бровы'. Да *пасмурнець* (гл.).

**Пасуш**, *пасушнік*, хойн. *пасуш* 'леташняя сухая трава' (КЭС, лаг.; раг., Сл. ПЗБ; гом., Шатал.; Мат. Маг., Касп., Янк. 2), карэліц. *пасушнік* 'сухое месца на ўзгорку' (Сцяшк. Сл.). Укр. палес. *пасуш* 'падсцёл', 'засохлае дрэва ў лесе'. Утварылася пасля распаду прасл. моўнага адзінства паводле прасл. мадэляў з *pa-* ад *sušь*<*sux-jь* 'сухі' (Слаўскі, SP, 1, 80—81; Борысь, Prefiks., 32). Аналагічна і тады ж утворана *пасуш* 'рамка без мёду' (браг., Мат. Гом.).

**Пасха**, *паска* 'Вялікдзень', 'пасвянцоныя прадукты, пірог, які свяцяць на Вялікдзень для разгаўлення' (ТСБМ, Вешт., Янк. 1, Маш., Нас., Шат., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *пасха*. Укр., рус. *пасха, паска* 'тс'. Са ст.-слав. **пасха**, якое праз ст.-грэч. *πάσχα* 'тс' са ст.-яўр. *pēsah* 'пераход' як памяць аб адыходзе яўрэяў з Егіпту (Праабражэнскі, 2, 26; Фасмер, 3, 216; Голуб—Ліер, 361).

**Пасхаротваць** 'паламаць' (карэліц., Шатал.). Славен. *hŕdati* 'грызці, моцна біць', 'есці с хрустам', серб.-харв. лікск. *ŕdati* 'тс', 'сварыць', дуброўніцк. *hŕdati* 'біць, моцна грукаць'. Узыходзяць да прасл. *skъrditi/skorditi*, роднаснымі да якіх з'яўляюцца літ. *skardýti* 'разгрызаць', 'разрываць', 'таўчы', лат. *skãrdît* 'драбіць, таўчы' (Трубачоў, 8, 147).



**Пасцел** 'пастух' (паўн.-усх., КЭС). Да *пасці* (гл.). Суфікс *-ел*, як у рус. *петел* 'певень'. Пра *-ц-* (якое з *-т-*) гл. *пастыр*.

**Пасцелень**, *пасцілень* 'матрац' (Касп.). Да *па-слаць*<*слаць* (гл.)<прасл. *stьlati*. Аб суфіксе *-ень* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38.

**Пасцелка** 'прасціна', 'цыноўка з вярбовых прутоў, якой пакрывалі сані' (Шат.; асіп., Сл. ПЗБ). Рус. *постилка* 'усё, што падаслана, падкладзена', укр. херсонск. *постилка* 'пасцілка'. Да *па-слаць*. Параўн. таксама *пасцілка* (гл.).

**Пасцель**, *постель, постіль, пасцеля, посцеля* 'ложак', 'тое, што падсцілаецца для спання' (ТСБМ, Грыг., Сцяшк., Бір., Зян., Касп., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Бяльк., ТС; КЭС, лаг.; паўн.-бел., зах.-палес., ДАБМ, к. 285), 'пасцельная бялізна' (Мат. Гом., ТС), 'раскладка снапоў для малацьбы' (ДАБМ, к 285; Выг., Касп., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), 'разасланы лён для скручвання ў кудзелю' (карэліц., талач., Шатал.; пух., Сл. ПЗБ), 'насціл з дошак у возе' (Бір.), 'саламяны адонак, стажар'е' (Выг.), 'месца ў хляве, дзе ляжыць карова' (паст.), 'суцэльны слой сала са ўсёй тушы' (чэрв., Сл. ПЗБ), *пасцель, посьцельнік* 'насціл з дошак у санях' (Шатал.). Укр. *постеля, постіль*, рус. *постель, постеля*, арханг. *постлань*, польск. *pościel*, ст.-польск. *pościela*, палаб. *püstil'a, pöstil'a*, н.-луж. *postola*, устар. *postoła*, чэш. *postel*, славац. *postel'*, славен. *póstelj, póstelja*, серб.-харв. *пòстеља*, макед. *постела*, балг. *постеля*, ст.-слав. **постелга**. Прасл. *postel'a* ўтворана ад *stьlati*>*слаць* (гл.). Падобна ўтворана ст.-інд. *upa-star-aṇa* 'цыноўка, матрац на ложак' (у якім *-star-* раўняецца прасл. *-stel-*), арм. *pastaṙ* 'посцілка, кілім'. Прэфікс *-po-* узыходзіць да і.-е **upo* 'пад'; у такім выпадку *postel'a* — 'падклад пад ляжачага чалавека' (Махэк₂, 474; Фасмер, 3, 341). Магчыма, сюды ж *пасцель* 'паслед у каровы' (Сл. ПЗБ; карэліц., Шатал.; гродз., Сцяшк. Сл.).

**Пасценак** 'у вуллі-калодзе наўзы, налітыя мёдам' (КЭС, лаг.). Беларускае. Утворана ад *сцяна, сценка* (гл.) і прэфікса *па-* (<прасл. *pa-*). Сюды ж *пасцень*'?' (Грыг.).

**Пасцепаць** 'пазбіваць' (ТС), 'пакляпаць касу' (докш., Сл. ПЗБ), *пасцёбаць* 'тс' (барыс., смарг., Сл. ПЗБ), *пасцепвацца* 'пацепвацца ад марозу', 'абтрасацца (пра вераб'я)' (Янк. 3). Да ⁺*цяпці*, роднаснага да *цяпаць* (гл.). Узыходзіць да прасл. *te(p)ti, tepǫ*: укр. *тепти*, рус. *тепти* 'бить', н.-луж. *šepaś*, в.-луж. *ćepać* 'тс', чэш. *tepati, dĕbati* 'біцца, стукаць', славац. *tepat'* 'тс', 'чаканіць', славен. *tépsti* 'біць, грукаць', серб.-харв. *тèпсти* 'біць, малаціць', 'булькаць', *тèпсти се* 'біцца, тузацца', макед. *тепа* 'біць, збіваць', *тепа се* 'біцца адзін з другім', *тепаница* 'бойка', *тепач* 'задзіра', балг. *тепам* 'валяць, трамбаваць, біць', ст.-слав. **тепѫ, тети** 'біць бізуном, удараць'.

Паводле Махэка$_2$ (640), корань *tep-* — гукаперайманне. Форма *-сцёб-* пад уплывам рус. *стебáть*.

**Пасцéрць** 'абцерці, сцерці' (Бяльк.). Да *церці* (гл.). Прэфікс *-па-* абазначае працяглую дзею, якая ўжо завяршылася.

**Пасцёбка** 'лёгкае пакаранне розгай' (Нас.). Рус. пск., цвяр. *постёбка* 'прымус, панукванне, падганянне'. Бел.-рус. ізалекса. Да *сцябáць* (гл.).

**Пасцёл,** *посцёл* 'подсціл', 'ніжні слой саломы на страсе' (ТС). Да *слаць* 'пакрываць паверхню чым-н.' (гл.). Прэфікс *па-* (<прасл. *po-*) мае значэнне шматразовай дзеі, якая адбываецца на працягу доўгага часу. Суфікс *-ёл* з'яўляецца працягам прасл. *-ьlъ*.

**Пасцёнка** 'мата' (калінк., Сл. ПЗБ). Палескае. Да *сцянá* (гл.). Дэмінутыўная функцыя фарманта *pa-* (...*k-a*) мае другасны характар.

**Пáсці,** *пáстэ, пáсты* 'упасці, быць пераможаным', 'апусціцца', 'здохнуць', петрык. 'пахудзець' (ТСБМ, Шатал., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.; кам., Шатал.), *пáсціся* 'кінуцца пад ногі (аб сабаку)' (воран., Сл. ПЗБ). Укр. *пáсти (падý)*, рус. *пасть, падать,* польск. *paść*, н.-луж. *padaś*, в.-луж. *padać*, ст.-чэш. і зах.-чэш. *pásti (padu)*, чэш. *padati*, славац. *padat'*, славен. *pásti (padem)*, серб.-харв. *пȁсти (пȁднем)*, макед. *падне* 'упасці', 'зайсці (аб сонцы, месяцы)', *паѓа* 'падаць', 'заходзіць', балг. *падна*, ст.-слав. **пасти (падѫ)** 'пасці, падаць'. Прасл. *pasti (padǫ)* (з і. -е. **pōd-*); паводле Махэка$_2$ (425), прасл. аснова *pad-* узнікла ў выніку налажэння асновы *ped-* (ст.-інд. *pādayatē* 'падае, ідзе', авест. *avapasti-* 'падзенне', *pasta-* 'які загінуў', ст.-в.-ням. *gi-feʒʒen* 'упасці') і *pōl-* (літ. *pùlti, púolu*, лат. *pult, puolu*, ст.-в.-ням. *fallan*, суч. *fallen* 'падаць, пасці'). Мюленбах — Эндзелін (3, 206) збліжаюць з *под*, з лац. *pēs, pedis* 'нага', ст.-грэч. πώς, гоц. *fōtus* 'тс'.

**Пасці**$_1$, *пасьць, пасті, пáстэ* 'пасвіць' (Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ), 'сцерагчы' (Мат. Гом.), *пасці вóка* 'назіраць, цешыцца' (КЭС, лаг.), *пáсьціся* 'пасвіцца' (Бяльк.,), *пáстысь* 'лётаць за ношкай' (Нікан.). Укр., рус. *пасти́*, польск. *paść*, палаб. *post*, н-., в.-луж. *pasć*, чэш. *pásti*, славац. *pást'*, славен. *pásti*, серб.-харв. *пȁсти*, макед. *пасе*, балг. *паса*, ст.-слав. **пасти, пасѫ**. Прасл. *pasti* 'пасці' з'яўляецца інфільтрацыяй італ. *pas-* 'тс', а італ. *pāstōr-io-s* 'пастух' дало прасл. мове *pastyrь* (гл. *пастýр*), выцесніўшы ў гэтым значэнні балтыйскія па паходжанню *goniti, gonъ* (параўн. ст.-прус. *guntwei*, лат. *giñti, ganýti*, лат. *dzīt, ganît* 'гнаць', 'пасці', літ. *gãnas*, лат. *gans* 'пастух') (Мартынаў, Язык, 64—65). Іншыя версіі, якія выводзяць прасл. лексему з і.-е. **pā(s)*-гл. у Міклашыча (232), Голуба — Копечнага (256), Брукнера (398—399), Фасмера (3, 215), Скока (2, 614—615), ці з **poH-s-/-sk-* (Іванаў, Обще-



индоевр., прасл. и анатол., 172—174). Каралюнас (Балтослав. сб., 281—288) даводзіць, што адпаведнікамі прасл. *pasti* з'яўляюцца лац. *pāscō*, тах. А pās-, В pāsk- і хец. *paḫš-*, а таксама літ. *pósėti* 'шанаваць (ідалы)', *pōselėti, púoseleti* 'карміць (клапатліва даглядаючы)', 'пялегаваць', лат. *pâsêt* '(празмерна) карміць', *pāsêt* 'пялегаваць, песціць, шкадаваць, ахоўваць, адстойваць', *pàst* 'пялегаваць, клапаціцца'.

**Пасці**$_2$, *пасьці* 'амаль' (бялын., Янк. 3; Юрч., Бяльк.). З рус. *почти*, якое з'яўляецца формай 2-й ас. загаднага ладу дзеяслова *почитать* (Праабражэнскі, 2, 118; Фасмер, 3, 349), пры гэтым *-чт'->-чц'->-с'ц'-*.

**Пасцілка** 'посцілка' (ТСБМ, Касп., Грыг., Бяльк.; КЭС, лаг.), 'прасціна' (Нас., Яруш., Гарэц., Касп., Мат. Маг.), 'подсціл саломы для скаціны' (Нас.). Да *(па)слаць (па-сцялю)*<<прасл. *po-stьlati* 'пасыпаць, рассяваць, раскідаць'. Семантычна блізкім да яго будзе лат. *tilināt, talināt* 'распрасціраць, пашырацца, быць раскладзеным'. Гл. таксама *пóсцілка*.

**Пáсціць** 'пасвіць' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. ПЗБ). Да *пасці*$_1$ (гл.). Другі канчатак інфінітыва па аналогіі з *пáсцівіць* (гл.). Сюды ж *пасціцца* 'пасвіцца' (воран., паст., Сл. ПЗБ).

**Пáсцівіць** 'пасвіць' (Яруш., Бяльк., Янк. 2; паўн.-усх., КЭС). Утворана ад *пáства* (гл.).

**Пáсьцьва** 'пасьба скаціны' (Касп.). Другасны назоўнік, утвораны па ўзору *паства* ад *пáсцівіць* (гл.).

**Пасцюшка** 'доўгая пуга ў пастуха' (Выг.). Да *пасці*$_1$ (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 72—73. Аналагічна *свістушка, габлюшка, вітушка.*

**Пасць** 'пашча жывёлы, рот чалавека' (Нас.), *пáсці* 'тс' (Бел. казкі). З прасл. *pad-tь*, якое з *pasti*>*пáсці*$_1$ (гл.).

**Пáсця** 'пасьба' (паст., Сл. ПЗБ). Рэгіяналізм, утвораны ад дзеяслова *пасці*$_1$ і суфікса *-ьje*.

**Пасцякáць** 'зрабіцца кволым' (ст.-дар., Сл. ПЗБ; браг., петрык., Шатал.), бяроз. *постэкáты*, драг. *постікаты* 'тс' (Шатал., Выг.; Клімчук, вусн. паведамл.). Укр. валын. *стéклий* — пра дрэва ці іншую сцеблаватую расліну, якая расце ў густым зарасніку: тонкую і высокую, бойк. *стеклий* 'шалёны'. Да *па-с-цячы́*<*цячы́* (гл.). Гэтаксама польск. *wściekły*, н.-луж. *šćakły*, в.-луж. *sćekły*, чэш. *vzteklý* 'шалёны' — апошняе, паводле Шмілаўэра (гл. Махэк$_2$, 706), звязваецца з дзеясловам ст.-чэш. *vztéci sě* — пра цячэнне, плынь вады, а ў выпадку семантыкі, звязанай з шаленствам,— пра раптоўны прыплыў, як меркавалася, крыві ў галаву.

**Пасцярóжка** 'засцярога, абачлівасць' (Нас., Бяльк.), *пасцерóга* 'перасцярога' (ТС), *пасцеражавáць* 'пасцерагчы' (Ян.). З польск. *postroga* 'лёгкая перасцярога, напамінанне', 'апека, клопат, ахова'. Падобна чэш. *postraha* 'ахова'.

**Пасчва́нне,** *посчванье* 'цкаванне сабакамі' (Гарб.). Са ст.-польск. мовы, параўн. *poszczwać* 'нацкаваць'.

***Пасшыме́чваць,** драг. *посшымэ́чуваты* 'паскідваць, параскідаць' (Клім.). Генетычна да *шамаце́ць* 'шумець, шапацець', але семантыкай бліжэй да рус. кур., дан. *шемотну́ться* 'кінуцца'. Паходзіць з аргатычнай прыстаўкі *ше-* і *мета́ть* 'кідаць' (Гараеў, 421; Фасмер, WuS, 3, 200; ён жа, 3, 427).

**Пасыкну́цца**₁ 'паімкнуцца што-н. зрабіць' (бераст., Сцяшк. Сл.), *пасыка́цца* 'выклікацца на якую-н. справу', 'кідацца' (Нас.), *пасыка́нне* 'парыў', *пасыка́ць* 'выстаўляцца наперад' (Нас., Дад.), 'соваць нос', *пасы́кнуцца* 'вытыркнуцца' (Грыг.). Балтызм. Параўн. літ. *síekti* 'імкнуцца', *pasíekti* 'дасягнуць (дасягнуць) мэты'. Сюды ж укр. *сі́катися* 'кідацца', 'прыдзірацца', 'спрабаваць зрабіць што-небудзь'.

**Пасыкну́цца**₂ 'пахіснуцца' (ТС). Да **сікну́ць*, напрыклад, у выразе драг. *спэ́на сыкну́ла* ' прастрэл у спіне' (Лучыц-Федарэц). Відаць, з *seknǫti*<прасл. *sěkti* 'сячы'.

**Пасылка** 'прысланая ці высылаемая запакаваная рэч' (ТСБМ), як і ўкр. *поси́лка* 'тс' з рус. *посы́лка* 'тс'. Неалагізмамі з'яўляюцца серб.-харв. *по̀шиљка* і славен. *pošiljka* 'тс'. Больш старое *пасы́лка* 'пасыланне', польск. *posyłka* ў выразе *chłopiec na posyłki* 'хлопец на пабягушках', чэш. *posílka* 'пасыланне каго-н. для выканання дробных даручэнняў', у бел. мове адбылася намінацыя выразу з прыметніка і назоўніка ў *пасы́льнік* 'рассыльны' (Нас.). Усе да *па-сылаць*<прасл. *po-sьlati* 'пасылаць'.

**Па́сынак**₁, *па́сыньнік* 'няродны сын для мужа ці жонкі ў сям'і' (ТСБМ, Нас., Маш., Клім., Касп., Бяльк., Ян.; КЭС, лаг.; Яшк. Назвы), *пасынчовы* 'прыёмны сын' (Мат. Гом.). Укр. *па́синок,* рус. *пасынок* 'тс', 'прыёмны сын', ст.-рус. *пасынъкъ* 'тс'; 'член княжай дружыны', чэш. рэдкаўжыв. *pasynek* 'пасынак', серб.-харв. *по̀синак,* макед., балг. *пасинок* 'тс'. Прасл. *pasynъkъ*, якое складаецца з прэфікса *pa-* (са значэннем 'под') і назоўніка *synъ-*, разам азначаючы 'несапраўднае тое, што называе другі член', як і ў балт. мовах (ст.-прус. *possons,* літ. *posūnis*) — 'нібыта сын, сапраўдны сын' (Борысь, Prefiks., 48; Фасмер, 3, 216). Сюды, відаць і *па́сынак* 'гарлавіна ў нераце, якая не дае магчымасці рыбе выбрацца з сеці' (Тарн.).

**Па́сынак**₂, *па́сыньнік, па́сынькі,* ст.-дар. *па́сын,* драг. *пасэ́ньне* 'бакавы атожылак дрэва, памідораў, вазона' (ТСБМ, Нас., Мат. Гом., Бяльск., Бір., Клім., Сл. ПЗБ; Лучыц-Федарэц), 'зародак у качана капусты паміж ніжнімі лістамі' (Нас.), 'бакавы адростак сланечніка' (Ян.), 'прыток ракі, ручая' (Клім.), пух. 'адростак рога ў аленя', ст.-дар. *па́сыньне* 'параснік' (Сл. ПЗБ), *пасынкава́ць* 'абчышчваць адросткі ў пазухах раслін' (Інстр. II). Да *па́сынак*₁ (гл.).



**Па́сыр** 'драўляны вялікі штангенцыркуль, якім вымяраюць таўшчыню ствала' (Інстр. III; чач., Мат. Гом.) — скарочаная форма тэхнічнага тэрміна *пасаме́тра*, ці *пасі́метра* 'тс'.

***Пасы́ртухі,** *посы́ртухі* 'блочкі, чапёлкі для падвешвання нітоў' (Уладз.). Паводле Петлевай (Этимология-1985, 18), рэканструюецца як прасл. *(po)-sьrt-uxa*<*sьrt-*, якое абазначае рух і паходзіць з і.-е. **ser-* 'цячы, рухацца', параўн. серб.-харв. *s̑rtati* 'несціся, імкнуцца', 'нападаць', 'бадзяцца', балг. *присрѐтам* 'марудна і карпатліва рабіць нешта', макед. *сртам* 'углядвацца, чакаць', польск. *siertać się* 'кідацца', каш. *sãrnǫc* 'уцячы', рус. *се́ртать* 'пераступаць з адной нагі на другую' (Варбат, Этимология — 1975, 32—34). Сюды ж і ушацк. *сярто́ліцца* 'выконваць доўга цяжкую работу' (Нар. лекс.). Бел. лексема *посы́ртухі* адлюстроўвае ідэю руху — 'абарачальныя колцы'.

**Пасыха́ць** 'сохнуць параўнальна невялікі час' (Шат.). Укр. *посиха́ти* 'высыхаць, засыхаць', рус. *посыха́ть* 'засыхаць'. Да *сохнуць* (гл.). Семантыка бел. дзеяслова адрозніваецца ад укр. і рус. дзякуючы прэфіксу *-ра*, які ў іх мае значэнне поўнай закончанасці дзеі безадносна да яе працяглacці, а ў бел. дзея працягвалася ў невялікім прамежку часу.

**Пасышчы** у сказе: *На што гэты дзеткі? Свінкі пасышчы* (мін., Шн.). Няясна.

**Пась** 'пашча' (шум., Сл. ПЗБ). З формы *пасць* (гл.)< прасл. *pastʼь*<*pad-tь*<*pasti, padǫ* — гл. *пасці*₁, у якой *с'ц'*> *с'с'* (пра гэта гл. Карскі, 1, 360).

**Пась-пась-пась** — падзыўныя словы для авечак (маг., ДАБМ, к. 305). Гукапераймальнае. Пра генезіс падзыўных гл. Смаль-Стоцкі, Приміт., 66—67.

**Па́сьбіска** 'паша' (шальч., Сл. ПЗБ) — калька з бел. *пасьбі́шча* (там жа) на ўзор польск. *pastwisko* 'тс'.

**Пасэсар** 'арандатар' (Шат.), ст.-бел. *посесоръ, поссессоръ* 'уладальнік, арандатар' (1598 г.) запазычаны са ст.-польск. *posesor* 'тс', якое з лац. *possessor* 'тс' (Булыка, Запазыч., 254).

**Пасю́ль** 'дасюль' (Шпіл., Нас.), *посю́ль* 'тс' (ТС), *по́сюль* 'тс' (ельск., Мат. Гом.; Янк. 2, Ян.). Утвораны з прыстаўкі *па-(по-)*<прасл. *po-* і прыслоўя *selě/seli* тут з карэнным *-'и-*, якое пад уплывам вакалізму сіноніма *s(j)ud-*<*sǫdě* (ESSJ SG, 2, 576).

**Пасюта́ць** 'згубіць што-н. па дурноце, недагляду' (Калосьсе, 1938, 4). Літуанізм. Параўн. літ. *pa-siùsti* 'ашалець, уз'юшыцца' (Вяржбоўскі, 879; Урбуціс, Baltistica, 1969, 5(1), 67; Лаўчутэ, Балтизмы, 70).

**Пасявáць** 'сеяць (доўга)', 'высяваць' (Ян.). Дуратыўны дзеясłоў, утвораны ад *сéяць* (гл.); пашырэнне суфікса *-ва-* ў сувязі з тым, што аснова дзеяслова заканчваецца на галосны (параўн. *быць—бываць, чуць—чуваць*). Прыстаўка *па-* тут мае значэнне 'вы-'.

**Пасядáць,** *поседати* 'валодаць' (Гарб., Нас.), ст.-бел. *посядати, поседати* 'тс' (1486 г.) запазычаны са ст.-польск. *posiadać* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 34). Сюды ж *посéсці* 'мець, атрымаць' (ТС).

**Пасяджэ́нне,** *пасéжанне, пасяжэнне* 'сход, нарада' (ТСБМ, Юрч., Яруш.) — калька з польск. *posiedzenie* 'тс', якое ад дзеяслова *posiedzieć* 'пасядзець'. Да *па-* і *сядзéць* (гл.).

**Пасядзéльня** 'памяшканне для збруі калгасных коней' (смарг., Сцяшк. Сл.). Да *сядло* (гл.). Аб суфіксе *-ня* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 165). Прыстаўка *па-*, відаць, ад слова *па-мяшканне*, з якім +*сядзéльня* магло ўступіць у кантамінацыйныя адносіны.

**Пасядзéня** 'пасяджэнне' (шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *posiedzenie* 'тс'.

**Пасядзéнне,** *пасядзéнніко* 'спакойная работа', 'бяседа' (Нас.). Утвораны ад дзеяслова *пасядзéць*<*сядзéць* (гл.). Сюды ж *пасядзéнкі, пасядýшкі* 'наведванне каго-н. з мэтай прабавіць вольны час у размовах' (ТСБМ), маг. *пасядзёлкі* 'вячоркі дзяўчат-папрадух' (Жакава — Блінава, Пытанні бел. дыял.), *поседáнье, поседзéнькі, поседзёнкі* 'тс' (ТС).

**Пасядры́ць** 'пастарэць' (б.-каш., Мат. Гом.). Утворана ад прэфікса *па* (<прасл. *po-*) і +*сядрыць;* апошняе з'яўляецца, магчыма, балтызмам, параўн. літ. *sidābras* 'серабро', *sidabrúoti* 'серабрыць' пры ад'ідэацыі рус. *поседéть* 'пасівець'.

**Пася́к,** *пасякí* 'суконная посцілка, вытканая ў шырокія палосы' (смарг., ваўк., івац., Сл. ПЗБ; івац., Сл. Брэс.). Да *пас*$_1$ (гл.). Аб суфіксе *-як* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 146.

**Пасялдá** 'пасялуха' (лаг., Сл. ПЗБ). Утворана ад выразу *па сялу* (параўн., *пасялýха*) пры дапамозе суфікса *-да* (аб ім. гл. Сцяцко, Афікс. наз., 34—35). Да *сялó* (гл.). Аналагічна ўтвораны: *пасялéнь* 'гультай, які любіць хадзіць з хаты ў хату' (докш., Янк. Мат.; круп., бяроз., Сл. ПЗБ), *пасялýн* 'тс' (КЭС, лаг.; маст., Сл. ПЗБ), *пасялýха* 'пахатуха, пляткарка' (КЭС, лаг.; Некр.), віл., шчуч. *пасялушніца,* чэрв. *пасёльніца* (Сл. ПЗБ), *пасялéнда* 'асоба, якая любіць вечарам схадзіць да суседа пагаварыць' (КЭС, лаг.), а таксама *пасяльны́* 'пасялень' (Клопава, Филол. сб., 1966, 146).

**Пася́ньні,** *пыся́ньні* 'да сягонняшняга дня' (Яруш., Нас., Бяльк.). Утворана ад прыназоўніка *па* і *сянні* 'сёння' (гл.).

**Пасярóд,** *пасярёд, посерэ́д, пысярёд(ку), пасярóдкі, пасярóдку, пасярэ́дзіня, пасярэ́дзіне,* даўг. *пасярэ́дня* 'сярод, у сярэдзіне' (ТСБМ, Грыг., Нас., Гарэц., Шат., Касп.; КЭС, лаг.;



трак., даўг., Сл. ПЗБ; Мат. Гом., Ян., ТС). Укр. *посерéд,* рус. *посредú,* старое *посеред;* польск. *pośród,* ст.-польск. *pośrzod,* н.-луж. *posrjeź, posrjeźa,* ст.-чэш. *postřed, postřied,* славац. старое *postred,* славен. старое *posrêdi,* серб.-харв. *посрȅд, posrȉd,* ст.-слав. — серб.-харв. **посрѣдь,** ст.-слав. **посрѣдѣ, посрѣди, посрѣдоу.** Прасл. *po-serd-*. Да *па-* і *сярэдзіна* (гл.).

**Патаéмны** 'схаваны ад іншых' (ТСБМ, Нас., Шат.; КЭС, лаг), *патаёмна* 'тайна, скрыта' (Гарэц., Касп.), *патаéмне* 'употай' (смарг., шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *potajemny, potajemnie* 'тс' (Шат., 207); формы *патаёмна,* як і *патаенна* 'употай' (Шат.), з'яўляюцца кантамінацыямі з польск. *potajemne* і рус. *затаённо, потаённый.*

**Патаéнь** 'вялікі камень, якога не відаць з зямлі' (КЭС, лаг.). Уласна беларускае. Да *таíць, патаéмны* (гл.). Аб суфіксе *-ень* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 99—100. Сюды ж *патайнíк* 'тс' (іўеў, Сл. ПЗБ), роднасным да якога з'яўляецца рус. арханг., сіб. *потайник* 'падводны камень; града, грыва падводных камянёў, нябяспечная для караблёў'.

**Патáй** 'тайна' (Нас.), *патáйкі* 'употай' (раг., Сл. ПЗБ). З *упатáй* або *у потай.* Да *таíць, таíцца* (гл.).

**Патайнíк** 'паралюш' (Касп.), 'эпілепсія' (бярэз., Сл. ПЗБ). У выніку семантычнага пераносу 'нешта патаемнае, скрытае'>'загадкавае, няяснае'>'невядомае'. Табу. Да *тáйна* (гл.) або, магчыма, рус. *потайной* 'патаемны'.

**Пáтака,** *пáтыка* 'густое, цягучае, слодкае рэчыва' (ТСБМ, Нас.), 'нектар' (Анох.), 'рэдкі мёд' (Вешт., Маш.), слаўг., шчуч. 'чысты мёд, які выцек з сотаў' (Яшк., Бел. лекс., 167). Укр., рус. *пáтока* 'цукровая патака', 'мёд без воску', польск. *patoka* 'мёд, які выцек з воску', 'патака', чэш. *patoky* 'благое піва, якое ўжо выдыхалася', 'гушча з соладу', славен. *pátoka* 'слабое віно', серб.-харв. *пȁтока* 'слабая (апошняя) самагонка', балг. *патока* 'слабая ракія, сівуха'. Прасл. *patoka,* утворанае пры дапамозе прыстаўкі *pa-* (<прасл. *po-*) ад *tekti*>*цячы́* (гл.) (Мее, Études, 255; Міклашыч, 347; Фасмер, 3, 217; Махэк$_2$, 438).

**Патакáць**$_1$ 'паблажліва, нястрога адносіцца да каго-н., патураць каму-н.' (ТСБМ), *патáкнуць* 'кіўнуць сцвярджальна' (Яруш.), *патáкаваць* 'згаджацца' (КЭС, лаг.), *патакóўнік* 'патуральнік' (Нас.), *патáчка* 'паблажка' (ТСБМ). Укр. *потáкатися* 'згаварыцца', *потакáйло, потакáч* 'той, хто паддаквае', *потáкувати* 'паддакваць'; рус. *потáкáть* 'патураць', *потака* 'прытворства, прыкідванне', ст.-рус. *потаков(ь)никъ* 'уступчывы, падатлівы', польск. *potakiwać, potakać, potaknąć* 'патакаць', чэш. *potakací slovo* 'слова, якімі мы пацвярджаем'. Утворана ад сцвярджальнай часціцы *так (такъ, тако)* пры дапамозе прыстаўкі *па-* (<прасл. *po-*) (Праабражэнскі, 2, 115; Фасмер, 3, 343; Варш. сл., 4, 801).

**Патака́ць**₂ 'ткаць іншым матэрыялам' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Відаць, з *падтыка́ць*<*падаткнуць* (гл.).

**Патакачы** 'паплаўкі' (бых., Мат. АС). З +*патакач* 'той, хто патакае', а ў дадзеным выпадку паплавок хістаецца так, як тузае і хістаецца рыба. Да *патака́ць*₁ (гл.).

**Патала́ніць** 'пашанцаваць, пашчасліціцца' (ТСБМ; акц., Мат. Гом.), *патала́ніла* 'пашчэнціла' (Нас.). Укр. *поталани́ти* 'тс', рус. *патала́нить* 'паспрыяць, паслужыць'. Усх.-славянскае. Да *тала́н* 'шчасце, знаходка, прыбытак', *тала́нить* 'удавацца', якія з цюрк. моў (параўн. тур., чагат. *talan* 'здабыча', казах. *талан* 'шчасце' (Міклашыч, Türk. El. Nachtr., 2, 169; Фасмер, 4, 14).

**Па́талач** 'пасеў, вытаптаны свойскімі жывёламі' (Нас.), *паталочышча* 'выкачанае, вытаптанае месца на траве, пяску або снезе' (Сцяшк.), гом. *потолочы́ць* 'памяць рунь, траву, пасевы' (Выг.). Укр. *па́толоч, потоло́ччя* 'вытаптанае засеянае поле', 'месца, дзе драпежнік з'еў сваю ахвяру', 'складзеныя для прасыхання каноплі', лемк. *патолоча* 'маленькае возера', рус. *па́толока* 'вытаптаныя пасевы'. Nomen acti да прасл. *potelkti*> патаўчы (гл.). рус. *потолочь*, укр. *потовкти́* 'патаптаць, патаўчы' (Борысь, Prefiks., 19, 32—34).

**Паталачы́цца** 'пацягнуцца, пайсці, пасунуцца' (Касп.), 'паваліцца' (нясв., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі з *таўчы́ся* і *павалачы́цца*.

**Патала́шкаць** 'скруціць' (жытк., Мат. Гом.). Відаць, да рус. *потолкать* з дэмінутыўным суфіксам *-аш-*.

**Патал́іць** 'наталіць', 'насыціць', *паталя́ць* 'насычаць вадой', 'спачувальна адносіцца да больш слабых' (ТСБМ). Да *-талі́ць, наталі́ць, патоля* (гл.).

**Патало́к,** *потоло́к, патало́ка,* 'столь' (жлоб., Мат. Гом.; тарн., Анім.), светлаг. 'верхняя частка рамачнага вулля', рэч. 'вышкі' (Мат. Гом.), рус. *потоло́к, потоло́ка* 'тс'. Фасмер (3, 345) найбольш імавернай лічыць версію паходжання гэтага слова з **потолъкъ,* якое з *тьло* 'дно' і ў якасці роднасных прыводзіць літ. *pãtalas* 'ложак', ст.-прус. *talus* 'падлога', ст.-інд. *talam* 'раўніна', ст.-в.-ням. *dilla* 'дошка, масніца', лац. *tellūs* 'зямля', ірл. *talam* 'тс' (аналагічна Траўтман, 321; Зубаты, AfSlPh, 16, 417 і інш.). Пізані (RL, 1, 1950, 271) намагаецца вытлумачыць форму *потолок* з **полатокъ* (якое з **полатъ* — адпаведнік лац. *palātum* 'скляпенне'); Паэта (Atti della Accademia nazionale dei Lincei, 359, серыя 8, Roma, 1973, 7—12) слова *потолок* выводзіць з **pod- tolokъ*, якое ад *толо́чь* 'таўчы'— непераканаўча.

***Патана́,** *патона́* 'пляткар, балбатун', *патоні́зти* 'вярзці недарэчнасці, бязглуздзіцу', 'балбатаць' (Бес.). З венгерскай мовы, параўн. венг. *pattanás* 'трэск, шчоўк' *pattani* 'трашчаць, шчоўкаць, ляскаць'.



**Патапе́ц,** *потопе́ц, потопо́к* 'грузіла', 'паплавок' (ТСБМ, Крыв.; паўн.-усх., КЭС; Касп.), *патапы́* 'грузіла' (лід., Сл. ПЗБ). Да *тапі́ць — тану́ць* (гл.). Ізасема або семантычная калька з літ. *grim̃ždas* ці *gramždiklis* 'грузіла', якія ад *gramždinti* 'тапіць, пагружаць', *grimždėti* 'загразаць, тануць, тапіцца'.

**Патапе́ча,** *патопе́ча* 'багна, забалочанае месца' (Яшк., Бяльк., Інстр. I, Мат. Гом.). Да *тапі́ць, тапі́цца* (гл.). Параўн. іншыя семантычна блізкія лексемы: *тапіла, тапі́лы, тапіна́* (Талстой, Геогр., 169—170). Аб суфіксе *-еча* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 40.

**Пата́пцы,** *пота́пцы, пота́пці,* адз. *пота́пец; пота́пыць* 'крышаныя ў ваду, малако, квас, боршч кавалачкі хлеба ці сухароў' (Вешт., Маш.; глус., Янк. Мат.; Сержп., Грам.; ганц., калінк., Мат., Сл. ПЗБ; пін., лун., Сл. Брэс.). Укр. палес. *пота́пци* 'тс'. Відаць, да +*патопец* 'тое, што патоплена' — кавалачкі хлеба топяцца ў вадкасці. Да *тапі́ць (тану́ць)* (гл.). Канчаткова лексема набыла форму пад уплывам слова (імя) *Патап* (параўн. *іва́нчык* 'вантрабянка').

**Патара́ніць** 'панесці' (карм., Мат. Гом.). Да *патарыба́ніць* (гл.).

**Патарґава́ць** 'нацерці (бульбы)' (трок., Сл. ПЗБ). Да *торгаць* 'драць' (гл.). Наяўнасць узрыўнога **ґ** можа сведчыць на карысць запазычання з польск. *potargać* 'надраць'.

**Патаро́йкацца** 'паспрачацца' (докш., Янк. Мат.). Да *таро́йкацца* (гл.), якое, магчыма, звязана з прасл. *terti* (гл. Куркіна, Этимология-1980, 24—25), параўн. польск. *tarać* 'балбатаць' ці рус. *тарары́ка* 'балбатун'. Суфікс *-ойк-* надае семантыцы экспрэсіўнасць, і з-за дыфтонга можна меркаваць аб балтыйскім паходжанні слова — параўн. літ. *tar̃ti* 'гаварыць', *tarýti* 'тс'. Параўн. таксама бел. *дзейкаць* 'плявузгаць'.

**Патаркну́ць,** *патархну́ць,* 'крануць' (Сцяшк.). Да *торкаць* (гл.)<прасл. *tъrk-ati* (Фасмер, 4, 83); роднаснае да яго літ. *tùrkterėti* штурхнуць' (Буга, РФВ, 75, 151).

**Патармасі́ць** 'патрэсці за валасы', 'пацягаць', 'паштурхаць' (Нас.). Да *тармасі́ць* (гл.), якое не мае канчатковай этымалогіі (гл. Фасмер, 4, 84; Скок, 1, 441; Махэк₂, 651).

**Патароча**₁ 'здань, пудзіла, міфічная істота з жудасным тварам і вытрашчанымі вачыма' (чач., Нас. Сб., Бір. Дзярж.), 'пудзіла', 'лупаты чалавек' (Нас.). Укр. *поторо́ча* 'прывід, страшыдла'. Напрошваецца суаднясенне з рус. *вы́-таращить* (глаза), польск. *wytrzeszczyć*, чэш. *třeštiti* 'вытрашчыць вочы', якія Махэк₂ (657) супастаўляе з генетычна роднасным літ. *pastérti* 'уставіцца (вачыма)'. Можна дадаць яшчэ *pa-stėrti* 'скарчанець, адубець'. Паводле Махэка, у славян была аснова

*ster-* з суфіксам *-sk-ati* (інтэнсіў), у якой пачатковае *s-* адпала ў выніку дысіміляцыі са *-sk-* і **ter-skati* перайшло ў групу на *-iti*>*terščiti*; рус. *таращить* паходзіць з окаючых гаворак<*торощить*.

***Патароча**2, драг. *потороча* 'той, хто настойліва працяглы час гаворыць пра адно і тое ж' (Лучыц-Федарэц). З дзеяслова *торочытэ* 'гаварыць доўга пра адно і тое ж, несці лухту', укр. *торочити* 'тс', якія можна суаднесці з рус. наўгар., цвяр. *торощиться* 'дарма збірацца' і з серб.-харв. *тра́скати* 'несці лухту'. Праславянскі архаізм.

**Патароча**3 'няшчасце ў дарозе' (усх.-маг., КЭС), рус. кур. *потороча* 'сустрэча, выпадак, падзея, прыгода', смал. 'выскачка, які ўсюды ўткне свой нос', пск. *поторочье* 'перашкода', цвяр. *торчаться* 'перашкаджаць сваёй прысутнасцю', чэш. містршыцк. *trči to do tvého*? 'гэта табе перашкаджае?', — усе ўзыходзяць да прасл. *tъrčati* 'стаяць, вытыркаючыся уверх ці наперад', 'цягнуцца ўверх'>*тырча́ць* (гл.) (Варбот, Этимология-1979, 5—6).

**Патароча**4 'бура' (Сержп.), рус. арханг. *то́рок, то́рох* 'бура ў моры, шквал'. Міклашыч (359), Фасмер (4, 84) звязваюць гэта слова з *торкаць* (гл.).

***Патарчка,** ст.-бел. *потарчка, потаржка* 'сутычка' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *potarczka* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 66); *потаржка* — у выніку кантамінацыі слоў *потарчка* і *поражка* 'паражэнне'.

**Патарча́ка,** *патырча́ка* 'кол, палка, якія тырчаць у плоце, з зямлі' (ТСБМ, Янк. 2; КЭС — Сачанка), 'стрэмка' (глыб., Сл. ПЗБ), 'замінка', 'непатрэбная рэч' (Бір. Дзярж.), *патарча́чына* 'невідочная з зямлі ці з багна абгніўшая дзеравіна' (КЭС, лаг.). Да *тырча́ць* (гл.). Роднасныя рус. усх. *пото́рча,* пск. *пото́рчевина* 'палка, ражон, шост, уваткнутыя ў зямлю'.

**Патарыба́ніць** 'бегчы' (Інстр. III). Да прасл. *terti* (Куркіна, Этимология-1980, 24)>*terati* 'гнаць, бегчы' (в.-луж. *ćerić* 'лавіць', ст.-чэш. *poteřiti, vtěřiti* 'неадступна ісці, бегчы за кім-н.', славен. *térjati*), якое пазней набыло экспрэсіўныя суфіксы — *патара́ніць* (гл.), *патараба́ніць* — магчыма, пад уплывам цюрк., параўн. тат. *daraban* 'барабан'>*тарабан* 'тс', *тараба́ніць:* вяц. 'біць, барабаніць', бел. 'моцна стукаць', 'хутка несці нешта вялікае', польск. *potarabanić* 'ісці з цяжкасцю', усх.-чэш. *tarabit* 'несці з намаганнем'. Аб мене *а*>*ы* гл. Карскі, 1, 103.

**Патасёк** 'частка нямецкага калаўрота, да якой прымацоўваецца кудзеля' (Уладз.). Да *по́тась* (гл.).

**Патаску́ха**1 'публічная жанчына' (Мядз.), добр. 'пасялуха' (Мат. Гом.). Відаць, з рус. *потаску́ха;* параўн. яшчэ *потаскна́я, потаску́ша, потаску́нья* 'тс'.



**Патаску́ха**2 'парушэнец парасоністы, Chimaphila Pursh. umbellata (L.)' (ігн., Сл. ПЗБ). Відаць, да *патаску́ха*1. Матывацыя: паўзучае карэнішча расліны цягнецца, па-руску «тащится».

**Патату́й** 'удод, Upupa epops L.' (Інстр. II) прымыкае да рус. *потату́йка* 'тс'. Фасмер (3, 343) услед за Гофманам (379) і Гараевым (1901, Дад. 1, 37) дапускае анаматапеічнае паходжанне, параўн. τυτῶ γλαύξ 'разнавіднасць савы' (Гесіхій), літ. *tūtúoti* 'дудзець', *tutlys, tutùtis* 'удод', новав.-ням. *tuten* 'дудзець'.

**Патахці́ць** 'упіхнуць' (шальч., Сл. ПЗБ). Да *тахці́ць* 'гаціць, пракладваць дарогу праз балоцістае месца' (ТСБМ), якое да прасл. *patiti* — глухога варыянта прасл. *batiti*/*batati* 'стукаць, ударыць' (гл. SP, 1, 194; Трубачоў, Эт. сл., 1, 164—165) — з устаўным суфіксам *-х-* аднаразавага значэння, параўн. +*pataxati*.

**Пата́ш** 'рэчыва са шчолачнымі ўласцівасцямі' (ТСБМ), ст.-бел. *поташъ* 'тс' (1605 г.) запазычаны са ст.-польск. *potasz, potaż* 'тс', якія з ням. *Pottasche*: *Pott* 'гаршчок' і *Asche* 'попел'— у гаршках са спаленых раслін вывարвалася соль (Булыка, Лекс. запазыч., 141; Клюге-Гётцэ, 453). Сюды ж *паташо́ўка* 'вялізная бочка для збожжа' (лях., Янк. Мат.) — раней, відаць, у такіх бочках захоўваўся паташ.

***Патвар,** ст.-бел. *потваръ, потварь* (XV ст.) 'паклёп', *потварца, потворца* (1507 г.) 'паклёпнік', *потварить* 'паклёпнічаць' (Гарб.) запазычаны са ст.-польск. *potwarz* і *potwarca* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 38 і 125), якія да прасл. *potvorъ, tvoriti*>*тварыць* (гл.).

**Патво́р,** *потву́р* 'паблажлівасць,', 'пяшчота' (в.-дзв., Рам. 8; рэч., Маш.), *патво́ра* 'паблажка, патуранне, песты, свавольства, дудыкі' (Гарэц., Юрч., Нас.), 'свавольнік' (Юрч.), 'упарты' (Нас.), *патво́рства* 'упартасць', 'паблажка', *патвара́ць* 'патураць' (Шат.), *патво́рыць* 'разбэшчваць, псаваць'(Нас., Гарэц.), 'упарціцца пры выхаванні' (Нас.), *патворыцца* 'псавацца ад паблажак' (Гарэц.). Укр. *потві́р, потвора* 'страшыдла, бэба', рус. *потво́ры* 'чары', *потвори́ть* 'зачараваць, змяніць', ст.-рус. *потворити* 'палепшыць, стварыць нанава', 'зачараваць' *потворъ* 'вядзьмарства'; польск. *potwór, potwora,* чэш. *potvora* 'пачвара'. Да *па-* (<прасл. *po-*) і *тва́рыць* (<прасл. *tvoriti* 'рабіць незвычайнае'). Аналагічна літ. *padaraĩ* 'чары'<*darýti* 'рабіць' (Праабражэнскі, 2, 116; Фасмер, 3, 344). Гл. таксама *пачва́ра.*

**Патза́х** 'каша з ячных круп' (бар., Сл. Брэс.). Відаць, з *панца́к* (гл.).

**Патка́нне** 'ніткі ў чаўнаку для ткання' (нараўл., Мат. Гом.). Утворана з прыстаўкі *па-* (прасл. *po-* са значэннем заканчэння дзеі) і *тканне*<*ткаць* (гл.).

**Паткáць** 'сустрэць' (Яруш., Нас.), *паткáнне* 'сустрэча' (Нас.). Польск. *potkać (się), spotkanie,* чэш. *-tkati (potkati, setkati se)* 'тс', ст.-чэш. *potka* 'сустрэча'. Да прасл. *tъk-* (<і. -е. **tukh-*): чэш. *se-tkati se* 'сустрэць' (<*sъ-tъk-*) — ст.-грэч. *συν-τυγχάνω* 'сустракаю', у якім само *τυγχάνω* азначае 'выпадкова сустрэцца' (Брукнер, 571; Махэк₂, 644).

**Патлáты** 'кудлаты, калматы' (ТСБМ, Некр.). Укр. *пáтла, патлáтий,* рус. паўд. *пáтла,* мн. лік *пáтлы,* сеўск. *пáдла,* 'тс', *пáтлать* 'матляць'. Можна меркаваць, што крыніцай паходжання гэтага слова ці пасрэднікамі з'яўляюцца цюрк. мовы, параўн. тур. *patlak* 'разбіты, трэснуты, расколаты'.

***Патлáчаны,** *потлаченъ* 'разбіты' (Карскі, Труды, 338). Да ц.-слав., ст.-рус. *по-тлачити* 'выраўняць', польск. *tłoczyć,* чэш. *tlačit,* славац. *tlacit'* 'націскаць, выціскаць, цiснуць'. Прасл. *tolčiti* (Махэк₂, 644)/*tъlkti/telkti* >*таўчы* (гл.).

**Патлýміць**₁ 'пабалакаць, пагаварыць' (Нас.). Да *тлýміць* 'празмерна дакучаць гаворкай, шумам', 'марочыць, задурваць галаву', *тлýмны* 'шумны, гаманлівы', *тлум.* 'шум, гоман' (Шамякін), якія да польск. *tłumić, tłumny, tłum*<прасл. *tъlp-m* (Брукнер, 572), роднаснага да польск. *tłopić*<прасл. *tъlpa/ tьlpa*>бел. *на-тоўп.* Семантычны пераход 'натоўп'>'шум, гоман', як у *гоман* (прасл. *gomonъ*<гоц. *gaman* 'натоўп') (Мартынаў, вусн. паведамл.).

**Патлуміць**₂, *-цца* 'падавіцца (у праклёнах)' (Шат.). Укр. *потлумúти* 'заглушыць, задавіць', 'пабіць', 'знішчыць'. Да *тлýміць* (гл.). Запазычаны з польск. *tłumić* (чэш. *tlumiti* з польск.). Польск. і славац. *tlmit'* з прасл. *tъlmiti,* роднаснага да літ *stel̃bti* 'заглушаць ценем (аб раслінах)', *stil̃bti* 'слабець, гінуць ад заглушэння', якое адпавядала б літ. фактытыву **stilbinti* 'рабіць, каб што-небудзь слабела' (Махэк₂, 646).

**Патляя́** 'чапяла' (мазыр., Мат. Гом.). У выніку кантамінацыі лексем *патэльня* і *чапляя́* (гл.).

**Патóк,** *патóка* 'ручай, рака з вузкім рэчышчам і бурным імклівым цячэннем', 'струя' (ТСБМ, Нас.). Укр. *потік,* рус. *поток,* польск. *potok,* чэш., славац. *potok,* славен. *pôtok, pótok,* ст.-слав. **потокъ**. Прасл. *potokъ.* Да *цячы́* (гл.). Жан. род у *патока,* як *затóка* ці *ракá.*

**Патóля** 'спагада, спачувальныя адносіны да слабейшых', 'патуранне, воля, свабода', 'задаволенасць, заспакоенасць' (ТСБМ, Шат.; стаўб., Сл. бел. фраз.; лях., шчуч., Сл. ПЗБ), 'палягчэнне', 'міласць, ласка' (Яруш.), 'непрыемнасць, скруха' (Сцяшк.), *патолíй* 'патуранне' (Зяньк.). Утворана пры дапамозе прыстаўкі *па-* ад прасл. *toliti* (укр. *у-толúтися* 'здаволіцца', рус. *у-толúть* 'тс', 'напатоліць', славен. *tóliti* 'уціхамірваць, суцішаць', серб.-харв. *у-тòлити* 'сціхнуць', балг. *утоля́вам* 'суцішаць', ст.-слав. **оу-толити** 'угаворваць, спакушаць, сціляць', 'слухацца, падкарацца'), роднаснага да літ. *tìlti* 'змоўкнуць', *tìldyti* 'прымусіць маўчаць', *tylėti* 'маўчаць', *tylà* 'маўчанне', лат. *tilinât* 'патураць (дзіцяці)', ст.-ірл. *tuilim* 'сплю', ст.-в.-ням. *stilli* 'ціхі' (Фасмер, 4, 71).

**Патóм**₁, *потым,* драг. *потóм* 'але, але ж, усё ж, аднак, а ўсё ж' (Янк. 1, Шат., Сл. ПЗБ; докш., Янк. Мат.), 'потым' (Шат., Янк. 1). Укр. *пóтім,* рус. *потóм,* польск. *potym,* луж. *pótym, potymzo* н.-луж. *potu,* чэш. *potom, poté,* славац. *potom, poton, potemáj,* славен. *potém,* серб.-харв. *пòтом,* балг. *пóтем.* Прасл. *potomь,* утворанае з *po* і М. скл. займенніка *to* 'тое' (ESSJ, SG, 2, 578). Бел. *патым* — кантамінаваная форма з *патом* і польск. *potym* Сюды ж *патомны* 'будучы' (Касп.).

**Патóм**₂ 'стамленне' (Касп.). Аддзеяслоўны назоўнік. Да *пà-таміцца* 'стаміцца', як *патоп* ад *патапіцца* і да таго пад.

**Патóмак** 'нашчадак' (ТСБМ), *патомства* 'маладое пакаленне', 'людзі будучых пакаленняў' (ТСБМ, Інстр. I, чэрв., глыб., віл., Сл. ПЗБ). Рус. *потомок,* ст.-рус. *потомъкъ,* польск. *potomek,* чэш. *potomek,* славац. *potomok,* балг. *потомък* 'тс'. Утворана ад прасл. словазлучэння *po tomь* 'пасля таго' (Младэнаў, 498; Праабражэнскі, 2, 117; Голуб — Копечны, 288; Фасмер, 3, 345). Махэк₂ (475) выводзіць гэта слова з прыметніка *potomní* (як *dnešní*>*dnešek*), якое з *potom.*

**Патóні** 'грузіла' (брасл., Сл. ПЗБ) — назоўнік (мн. л.) ад *патóнуць* 'затапіцца' (докш., в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *тапíць/ танýць* (гл.).

**Патóп** 'разводдзе, паводка', *патопа* 'патоп, непралазная гразь' (Нас., Бір. Дзярж.), 'балоцістае месца' (Нас.). Укр. *потоп* 'патоп', *потопа* 'паводка', рус. *потóп,* пск., цвяр. *пóтопь* 'разліў, паводка', польск. *potop,* чэш., славац. *potopa,* славен. *potòp,* серб.-харв. *пòтоп,* макед., балг. *потоп* 'патоп', 'разводдзе'. Прасл. *potop(a)*<*potopiti*<*topiti*>*танýць* 'патанаць' (гл.).

**Патóп**₂ 'стаптаны агарод' (ганц., Сл. ПЗБ). Да *(па-)таптаць* (гл.).

**Патóпіч** 'грузіла' (віл., Сл. ПЗБ). Да *па-тапíць (па-таплáць).* Аб суфіксе *-іч* (са значэннем 'прадмет дзеяння') гл. Сцяцко, Афікс. наз., 45.

**Патóпічы** 'багна' (пух., Сл. ПЗБ). Да *па-тапíць*<*тапíць/ танýць* (гл.). Аб суфіксе *-іч-* са значэннем 'прадмет — вынік дзеяння' гл. Сцяцко, Афікс. наз., 45.

**Патóргаць** 'патрэсці, патузаць, пашморгаць' (Нас.), 'пацягаць' (віл., Сл. ПЗБ), 'паштурхаць' (Нас.), *паторхаць* 'пакалыхаць' (круп., Сл. ПЗБ), *поторкаты* 'брыкнуць (аб кані)' (Сцеп.). Да прасл. *tъrgati*>*торгаць* (гл.).

**Патóркаць,** *патýркаць, патóрнуць* 'пасадзіць (расаду, цыбулю)' (даўг., брасл., в.-дзв., рас., Сл. ПЗБ). Семантычная

калька з літ. *padiegti* 'пасадзіць' і 'калоць'. Генетычна адносіцца да *tъrk-ati*>*торкаць* (гл.).

**Патос** 'пласт (сена)' (ветк., Мат. Гом.). Роднаснае да *стос* (гл.), у якім *с-* разумелася як прэфікс і змянілася на *па-*.

**Патоўпіць,** *-цца* 'змясціць, -цца' (Шат.). Балтызм. Параўн. літ. *talpà* 'аб'ём, ёмістасць', лат. *talpa* 'памяшканне', літ. *tilpti* 'змяшчацца, уваходзіць', *tùlpinti* 'даваць месца, змяшчаць', лат. *tilpt* 'тс'. Роднаснае з прасл. *tъlpa*/*tьlpa* 'натоўп'.

**Патрабізна** 'неабходнасць' (Нас.), ст.-бел. *потребизна* 'патрэба' (1388 г.) запазычана са ст.-польск. *potrzebizna* 'тс'. Параўн. таксама ўкр. *потребизна* 'тс'.

**Патрабіць** 'пакараць смерцю' (Шн. 2). Параўн. ст.-рус. *потрѣбити*/*потребити* 'знішчыць', рус. *ис-требить* 'тс', якія звязаны з дзеясловам *трѣбовати:* серб.-харв. *триjèбити* 'чысціць', славен. *trébiti* 'чысціць, карчаваць', польск. *trzrebić* 'тс', в.-луж. *trjebić* 'пакладаць', н.-луж. *třebiś* 'карчаваць, расчышчаць'. Да прасл. *terb-*, якое на ўсх.-слав. моўнай тэрыторыі дало *тереб-*, параўн. рус. *теребить* 'церабіць', а формы з *треб-* запазычаны з ц.-слав. мовы.

***Патрабілка,** брэсц. *потробілка* 'магазін' (Сл. Брэс.). У выніку намінацыі рус. словазлучэння *магазин потребительской кооперации.*

**Патрабляць** '**вык**арыстоўваць' (Нас.). З рус. *потреблять* 'тс'.

**Патрабяскі** 'косткі з якіх абрэзана мяса' (бар., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі лексем: польск. *podroby* 'вантробы', бел. *вантробы* і польск. *drobiazgi* 'дробязі'.

**Патрава**₁, *потрава* 'знішчэнне травы, пасеваў жывёлай' (ТСБМ, Нас., Грыг., Мядзв., Касп., ТС; лаг., в.-дзв., Сл. ПЗБ), брэсц. *потрáвляный* 'з'едзены' (Сл. Брэс.). Рус. *потрава* 'патрава', ст.-рус. *потравити* 'паспасваць пасевы', серб.-харв. *пȍтра* 'тс'. Да *трава* (гл.)<прасл. *trava*, якое спачатку абазначала 'харч, страву для людзей', корм для жывёлы', а пасля 'трава', 'пэўныя віды траў' (Брукнер, 575; Скок, 3, 494), а 'корм для чалавека' — *страва* (гл.). Лексема *trava* — аддзеяслоўнае ўтварэнне (ад *truti, trovǫ,* як *slava*<*sluti, slovǫ*). Пазней ад *travą* ўтварылася *traviti*: польск. *trawić* 'знішчаць', 'выдаваць', 'percтраўляць', 'цкаваць' і інш., а таксама іншая ступень чаргавання — серб.-ц.-слав. **трыти, трыж** 'церці, сціраццa', балг. *трия* 'тру, выціраю', ц.-слав. *троути* 'знішчаць'. З *traviti* пры дапамозе прыстаўкі *па-*/*по-* і ўтварыліся *патравіць* 'знішчыць', *патрáва* 'знішчэнне'.

**Патрáва**₂ 'страва, ежа (пераважна з травы)' (ТСБМ, Мядзв., Яруш., Шпіл., Гарэц., Касп., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС), 'вадкая ежа' (Сл. ПЗБ), 'скаромная ежа' (Шн. 3), 'вараная (гатаваная) ежа' (Нас.), 'блюда' (бяроз., Сл. Брэс.). Укр. *потрáва* 'ежа, блюда', рус. зах., калуж.-маск. *потрава* 'страва, ежа', якое Даль (3, 934) выводзіць з польск.; ст.-рус. *потрава* 'збіранне сена, корму'; польск. *potrawa* 'ежа, блюда', *potraw* 'атава (трава)'; чэш., славац. *potrava* 'ежа, харчаванне', 'прадукты', 'корм (для жывёлы)', серб,-харв. *пòтравнина* 'плата за выпас'. Да *патравіць,* якое з *po-traviti* 'percтравіць, ужыць', 'карміць травой', 'знішчаць'. Гл. таксама *патрáва*₁.



**Патрактавáць** 'пачаставаць' (Шат.). З польск. *potraktować* 'тс', 'зрабіць, уладкаваць', якое да *traktować*<італ. *trattare* 'пачаставаць' (якое з лац.<*trahere, tractum* 'цягнуць'), *tratto* 'шлях', *trattoria* 'карчма (ля дарогі)'. Гл. таксама *патрахтаваць.*

**Патранáт** 'апякунства; выхаванне дзяцей-сірат пад кантролем дзяржаўных органаў' (ТСБМ), ст.-бел. *патронатъ* 'апякунскае таварыства' (XVII ст.). Запазычана са ст.-польск. *patronat* 'тс', якое з лац. *patrōnātus* 'патранат, правы патрона'.

***Патрандэля,** пін. *потрондэля* 'балбатуха' (Сл. Брэс.). Параўн. чэш. *trandati* 'разбалабоніць', якое ўтворана пры дапамозе суфікса *-nd-ati* ад **tratořiti* — яму адпавядае рус. *тараторить*<прасл. *tor-tor*; параўн. літ. *tar̃ti* 'прамаўляць', 'гаварыць', хецк. *tar-* 'гаварыць' (Махэк₂, 649). *Потрондэля* — экспрасіўнае слова, як і драг. *тарандоха* 'балбатуха'.

**Патрантáш** 'сумка з гнёздамі для патронаў' (ТСБМ). З польск. *patrontasz* ці з рус. *патронташ,* якія з ням. *Patronentasche* (Варш. сл., 4, 88) ці *Patrontasche* (Фасмер, 3, 218).

**Пáтрапкі,** *патрóпкі, патрэпкі* 'пакулле' (нараўл., ветк., Мат. Гом.), калінк. *пáтрубкі* 'тс' (Сл. ПЗБ). Рус. *патрепки* 'адыходы пры трапанні льну', укр. чарніг. *потріпки* 'кавалкі льну, якія адпадаюць пры трапанні яго траплом'. Параўн.-усх.-славянскае. Узнікла паводле мадэлі *pačesъ* (якое ад *počesati*) з сінанімічнымі варыянтамі на *-ъkъ, -ъka, -ьje* (Борысь, Prefiks., 29) ад *potrepati* (там жа, 33). Да *трапáць, патрэп'е,* (гл.).

**Патрáта** 'выдатак' (ТСБМ, Яруш.). Укр., рус. *потрáта* 'тс', польск. *potrata* 'страта, шкода', чэш., славац. *potrat* 'выкідыш, аборт'. Паўночнаславянскае. Утворана ад *po-tratiti* пры дапамозе суфікса Nomen acti *-a*. Да *трáціць* (гл.).

**Патрáўка** 'страва, яда', 'верашчака' (ТСБМ, Некр.; ганц., Сл. Брэс.), 'мачанка' (Янк. 2), 'соус, прыгатаваны з рэшткаў валовага мяса' (Нас.), 'рэдкая страва з мясам, падкалочаная мукой', ганц. 'падліўка' (Сл. ПЗБ). Як і ўкр. *потрáвка* 'блюда з розных кавалкаў мяса з дадаваннем кавалкаў каўбасы' — з польск. *potrawka* 'адваранае мяса пад соусам'. На ўсходзе Беларусі *патраўка* адрозніваецца значэннямі: хойн. 'зацірка', рэч. 'бульён', браг. 'суп з мукой і ягадамі або грыбамі', хойн. 'халадзец', хойн. *потраўка* 'цура' (Мат. Гом.).

***Патрáўна,** *потрáўно* 'крута (асадзіць касу)' (ТС). З *пад траву* — тады каса рэжа траву ніжэй.

***Патрахáць**, *потрохáты* 'патрэсваць бараной пры баранаванні' (Выг.). Новаўтварэнне ад *трэ́сці* (гл.), якое да прасл. *tręsti, tręsǫ*: укр. *потряхáти* 'патрэсваць', рус. *тряхнýть, тряхáть*, польск. *potrząchnąć, potrząchać* (Сабалеўскі, РФВ, 64, 104; Брукнер, KZ, 43, 304; Фасмер, 4, 113). Аднак нельга растлумачыць дублетнасць *х/с*.

**Патрахí**, *пáтрахі, пóтрахі, пóтрохі, пóтрох* 'вантробы' (маладз., глус., Янк. Мат.; КЭС, лаг.; ТС; Чач.), *пáтрашыць* 'выварочваць вантробы' (Касп., Нас.; КЭС, лаг.), *патрашы́ць* 'вымаць вантробы' (ТСБМ, Шат.), даўг. *патрушы́ць* 'патрашыць (курыцу)' (Сл. ПЗБ), віц. *патыршы́ць* 'раздзяляць тушу на часткі' (Шн. 2). Укр. *пóтрух, потрушóк, потрухи́, потрушити, патрохáти*, рус. *пóтрох, потроши́ть*, польск. *patrochy* 'тс'. Да *троха, трошкі, трохі* (гл.). Аналагічна польск. *podrobki, podróbce* 'патрахі'>*drobny* 'дробны', ням. *Gänseklein* 'гусіныя патрахі'<*...klein* 'малы' (Брукнер, 576; ён жа, KZ, 43, 304; Праабражэнскі, 2, 117; Фасмер, 3, 346). Сюды ж кам. *потрошáнка* 'вантрабянка' (Сл. Брэс.).

**Патрáхнуць** 'згніць, спарахнець' (Ян.). Відаць, да *труха, трухнуць* (гл.), аднак цяжка растлумачыць *-ра-* замест *-ру-*. Можна дапусціць уплыў рус. *дряхнуть* 'старэць'.

**Патрахтавáць** 'пачаставаць' (трок., Сл. ПЗБ). Да *патрактавáць* (гл.). Аб мене *к*>*х* гл. Карскі, 1, 373—375.

**Патрон**$_1$ 'апякун свабодных, бедных грамадзян', 'абаронца горада, абшчыны', 'адвакат-абаронца', 'гаспадар фірмы, начальнік', 'святы', 'дзень анёла' (ТСБМ, Нас.), ст.-бел. *патронъ* 'заступнік, абаронца' (1556 г.). Запазычана са ст.-польск. *patron*, якое з лац. *patrōnus* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 23).

**Патрон**$_2$, ветк. *патрона* 'гільза з капсулем, зарадам і куляй або шротам' (ТСБМ, Мат. Гом.). З польск. *patron, patrona* 'тс'. Не выключана магчымасць другаснага запазычання з рус. *патрон* 'тс', якое праз ням. *Patron* прыйшло з франц. *patron*< с.-лац. *patrōnus* 'абалонка снарада'. Этымалагічна тоеснае з *патрон*$_1$ (гл.).

**Пáтрубак**$_1$ 'кароткая труба, адвод ад асноўнага рэзервуара' (ТСБМ). З рус. *пáтрубок* 'меншае адгалінаванне трубы'. Утворана на рус.-моўнай тэрыторыі пры дапамозе прыстаўкі *па-* (<прасл. *-pa*) і суфікса *-ъkъ* ад *трубá* (гл.).

**Патрубак**$_2$ 'салавей заходні' (Інстр. II). Няясна.

**Пáтрубля** 'вотруб'е (ігн., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі балтызму *пасéі* і бел. *вотруб'е* (гл.). У канцы слова *-л-* з *-й-* (<прасл. *-ьje*).

**Патрудáць** 'перахварэць' (паст., Сл. ПЗБ). Да *трудзíць* (гл.). Прэфікс *па-* па ўзору літ. *pa-sir̃gti* 'пахварэць (пэўны, працяглы час)' — *sir̃gti* 'хварэць'.

**Патрýль** 'невялікі ўзброены атрад або судна, самалёт для нагляду за парадкам і бяспекай' (ТСБМ), 'вартавы' (брасл., Сл. ПЗБ). З устарэлага польск. *patrul* або з рус. *патрýль* 'тс', якія праз ням. *Patrul* прыйшлі з франц. *patrouill* 'дазор'.



**Патрупяшы́ць** 'пагнісці' (ваўк., Сл. ПЗБ), *патрупéхнуць* 'струхлець' (ветк., Мат. Гом.). Генетычна роднасныя з *трухá* (гл.), тады *-пе-* можна ўспрымаць як экспрэсіўны дзеяслоўны суфікс. Ёсць падставы таксама суаднесці бел. лексемы з *труп*, якое, паводле Зубатага (AfslPh, 16, 416), Младэнава (там жа, 36, 132), Бугі (РФВ, 75, 151), Брандта (там жа, 25, 31), Мюленбаха — Эндзеліна (4, 226 і 248), суадносіцца са словам *труха*. У такім выпадку *па-трупéхнуць* можна разглядаць як кантамінаванае ўтварэнне (з *патрухнуць* і $^+$*трупець*<*труп*.

***Патрýсіны**, пін. *потрýсыны* 'канец вяселля' (Сл. Брэс.). Магчыма, з укр. лубенск. *потрусини* 'збор вялікай колькасці гасцей, асоб вельмі блізкіх сям'і на другі дзень гулянкі, каб даесці і дапіць рэшткі са ўчарашняга дня'. Утвораны ад *потрусити* 'патрэсці, праверыць, зрабіць труску, праверку'.

**Пáтруха** 'пацяруха' (бар., шчуч., карэліц., смарг., іўеў., астрав., віл., швянч., даўг., в.-дзв., брасл., докш., паст., Сл. ПЗБ; сверж., З нар. сл.), гродз. *пóтруха* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *патрýха, патрухá* 'дробна пацёртае сена, дробная салома, адпадкі сена', 'дробязь, вымалачаныя каласы' (Грыг., Сцяшк., Гарэц., Мат. Маг., Юрч., Нас., Касп., Др.-Падб., Шат.; в.-дзв., Шатал.). Укр. чаркас. *пóтрух*, польск. дыял. (з Варш. сл.) *patrucha, potrucha* 'тс'. Відаць, самай старой з вышэйпададзеных форм, утворанай паводле ўзору аналагічных балт. слоў: *pā-biros, pā-kritos, pā-šiupos*, лат. *pabiras* 'тс', будзе *пáтруха* — на гэта ўказвае яе пашырэнне: зах. і паўн.-зах. бел. гаворкі, утвораныя пры дапамозе прыстаўкі *па-* (<прасл. *pa-*) ад *трухá* (гл.). Форма *патрухá* — у выніку кантамінацыі лексем *пáтруха* і *трухá*, а *патрýха* — вынік кантамінацыі лексем *пацярýха* (гл.) і *пáтруха*.

**Патрухіня́ць** 'пайсці паспешліва' (Сцяшк. Сл.). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *трухаць* 'бегчы подбегам, трухам' (гл.). Аднак суфіксацыя няясная.

**Патрушанка** 'зельц' (жытк., Мат. Гом.), *потрошáнка* 'вантрабянка' (лун., Шатал.). Да *патрахі* (гл.). Аб суфіксе *-анка* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 29.

**Патрушчэ́ліць** 'паламаць у многіх месцах' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Паводле пашырэння можна аднесці да балтызмаў,— параўн. літ. *triuškė́ti* 'хрусцець'. Не выключана магчымасць растлумачыць паходжанне на слав. глебе: параўн. рус. *труск* 'трэск, хруст; сухое галлё', ст.-рус. *трускъ* 'трэск', які Фасмер (3, 110) лічыць глухім варыянтам лексемы *друзг*>*дрýзгаць* (гл.). Суфікс *-эл-* з экспрэсіўным значэннем шматразовага дзеяння.

**Патрыбу́шніца** 'сала з падчарэўя' (гродз., Сл. ПЗБ). З *падтрыбушніца,* якое з *пад-* і *трыбу́х* (гл.). Аналагічна *падчаровіна* 'тс'.

**Патрыёт** 'той, хто любіць сваю радзіму, свой народ' (ТСБМ). Праз польскую (*patriota*) ці рус. мову з ням. *Patriot,* якое з франц. *patriote* 'сын бацькаўшчыны'<с.-лац. *patriōta*<ст.-грэч. πατριώτης 'зямляк, суайчыннік' (Праабражэнскі, 2, 27; Фасмер, 3, 217; SWO, 1980, 558).

**Патры́сціць** 'пакрышыць, падрабніць, пашчыпаць' (Гарэц.). Балтызм. Параўн. літ *triùšti, triušėti* 'абломвацца, крышыцца'.

**Па́трыца,** ст.-бел. *патрица* 'кляймо на дрэве' (1586 г.) запазычана са ст.-польск. *patryca* 'тс', якое з ням. *Patrize* 'патрыца, рэльефная, выпуклая форма для друкавання' (Булыка, Лекс. запазыч., 93).

**Патры́цый** 'прадстаўнік родавай знаці (у Рыме)', 'багаты бюргер (у Германіі)', ст.-бел. *патрицый* (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *patrycyjusz* 'тс', якое з лац. *patricius* 'старажытнарымскі шляхціц' (Булыка, Лекс. запазыч., 26).

**Па́трыць** 'шукаць, выглядаць' (браг., Шатал.). Укр. *па́трати* 'ачышчаць птушак ад пер'яў, свіней ад шэрсці', рус. кастр. *па́трать* 'даражыць, берагчы', польск. *patrzeć* 'глядзець, звяртаць увагу, выглядаць, сачыць, клапаціцца', чэш. *patřiti* 'належыць', *opatrovati* 'ахоўваць, пільнаваць', славац. *patriť* 'тс', *pátrať* 'сачыць, вышукваць', серб.-харв. *па̏трити* 'тс', 'быць карысным', *pȁtriti* 'выпадаць на долю', *opatriti* 'забяспечыць чым-н.', балг. *патря* 'варажыць, загаворваць ад уроку'. Прасл. *patriti* 'глядзець, клапаціцца, берагчы', роднаснае са ст.-інд. *pāti* 'ахоўвае, сцеражэ', *patar* 'захавальнік' (Лекаў, SOc, 1933, 12, 138—140; Фасмер, 3, 217), з'яўляецца раннім скіфа-сармацкім запазычаннем, параўн. ст.-іран. *paϑrai* 'ахоўваць, сцерагчы, валодаць' (Трубачоў, Этимология-1965, 47—50; Мартынаў, Язык., 47). Гэты іранізм пашырыўся ў асноўным у зах.-слав. мовах, уступіўшы ва ўзаемадзеянне з тагачасным абсалютным сінонімам прасл. *bl'usti,* пашыраным на ўсходзе і поўдні Славіі, параўн. бел. *блюдкі* 'беражлівы', 'які заўсёды можа і мае чым пачаставаць госця'. Можна згадзіцца з Булыкам (Лекс. запазыч.., 127) у тым, што ст.-бел. *патрити* 'глядзець' (1501 г.) было запазычана са ст.-польск. *patrzyć* 'тс'.

**Патрыя́рх** 'кіраўнік роду', 'стары, паважаны чалавек у калектыве', 'вышэйшы духоўны тытул праваслаўнага служыцеля' (ТСБМ). Са ст.-рус. *патриархъ, патриархъ* 'прабацька', 'патрыярх, свяціцель', якое са ст.-слав. **патриар(ъ)хъ**<ст.-грэч. πατριάρχης 'родапачынальнік, прабацька' (Фасмер, 3, 217). Адпаведна ст.-бел. *патриархия, патрыярхия, патриярхия* 'патрыярхія' (1597 г.) праз ц.-слав. *патриархиа* з с.-грэч. πατριαρχία 'патрыяршы сан' або з πατριαρχεῖον рэзідэнцыя патрыярха' (там жа; Булыка, Лекс. запазыч., 183).



**Патрэ́ба,** *патрэ́б, потрэ́ба* 'неабходнасць чаго-н., патрэбнасць' (ТСБМ, Мал., Яруш., Гарэц., Нас., Шат., Сцяшк., ТС, Сл. ПЗБ), 'пільнае пажаданне' (КЭС, лаг.), 'просьба' (Сл. ПЗБ), *патрабава́ць* 'прасіць, дамагацца, прымушаць, загадваць, мець патрэбу' (ТСБМ, Гарэц., Шат., Касп.; КЭС, лаг.), *патрабава́нне* 'патрэбнасць', 'нястача, неабходнасць', *патрэбішча* 'тс'; *патрэбнік, патрэбніца* 'неабходны чалавек', 'праснак, спечаны на патэльні' (Нас.). Укр. *потре́ба* 'неабходнасць', 'справа, бітва', рус. *потре́бный* 'патрэбны', *потре́ба, потре́б* 'патрэба', *потребовать,* ст.-рус. *потрѣба, потреба* 'неабходнасць', 'служэнне', 'ахвяраванне', *трѣбъ* 'патрэбны', польск. *potrzeba* 'неабходнасць, патрэба', 'патрабаванні', 'бітва', 'справа', н.-луж. *potrjeba* 'неабходнасць', *potřěbnosć* 'патрэба', в.-луж. *potrjeba, potřěbnosć* 'тс', *potrjebowač* 'патрабаваць', чэш. *potřeba, potřebovati, potřebný,* славац. *potreba, potrebný, potrebovať* 'тс', славен. *potréba, potrebováti, potrében, potrébnost,* серб.-харв. *по̏треба, по̀требовати, по̏требан, по̏требност* 'тс', макед. *потреба* 'неабходнасць', 'патрэба', *потребен* 'неабходны, патрэбны', балг. *потре́ба, потре́бен, потребност.* Слова *potrěba* ўтворана з выразу *trěbě byti* 'быць патрэбным', які быў дапоўнены прыназоўнікам *po,* таму што *trěbě* разумелася як М. скл., а М. скл. ужываўся толькі з прыназоўнікам. З *po trěbě* рэканструяваўся Н. скл. *potreba.* Ад гэтага назоўніка — *potrěbovati, potrěbьnъ* і інш. (Махэк$_2$, 656). Гл. таксама *трэба.* Пра *патрэбна* гл. Плотнікаў (Бюлетин, 1976, 72).

**Патрэ́п'е,** *па́трэп'е, па́трап'е, па́тріп'я, патрэ́п'я, па́трупя* 'пачассе, ачоскі, горшы гатунак ільну, канапель, якія адыходзіць пры трапанні' (Янк. 2, Юрч., Бяльк., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Мат. Маг.; КЭС, лаг.; ушац., КЭС; паўн.-усх., КЭС, бялын., Янк. 3), 'першы ачос ільну' (Касп.). Утворана пры дапамозе суфікса *-ьje* ад *патрапаць* (Борысь, Prefiks., 33). Параўн. таксама *па́трапкі* (гл.). Сюды ж *патрапя́ны* (пра нітку), 'недабраякасны' (светлаг., Мат. Гом.).

**Пату́га$_1$,** *поту́га* 'туга, журба' (ТС). Да *туга́* (гл.). Прыстаўка *па-* і націск на *-у́-* пад уплывам семантычна блізкай лексемы *пату́гі$_2$* 'цяжкасці фізічныя'.

**Пату́га$_2$,** *пату́гі* 'напружанне ўсіх сіл, напружанае скарачэнне мышцаў', 'напружаныя намаганні, спробы зрабіць што-н.', 'хвароба пры родах' (ТСБМ, Нас.). Укр. *поту́га* 'сіла моц', 'войска', якое, магчыма, з польск. *potęga,* рус. *поту́ги* 'напружанні', *по́туг* 'цеціва', кур. *поту́жный* 'парывісты (вецер)', *ту́жить* 'нацягваць', польск. *potęga* 'сіла, моц', *tężeć* 'цвярдзець', чэш. *tužiti,* славац. *tužiť* 'умацоўваць'. Паўночна-славянскае. Да *тугі́* (гл.)>*ту́жыцца* 'напружваць мускулы', *тужэ́ць* 'станавіцца тугім', *патужэ́ць* 'пацвярдзець' (ТСБМ, Некр.). Утворана, як і літ. *pāstangos* 'патугі, намаганні' (<*pastìngti* 'застыць,

замерзнуць, задубець'), пры дапамозе прыстаўкі *па-* (<прасл. *po-*). Сюды ж *патужні* 'цяжкі, няўдалы (пра зіму)' (Доўн.-Зап., Песні), *патужны* 'моцны (вецер)', 'шматводны ад поўных прытокаў', воран. 'ладны, бойкі' (Сцяшк. Сл.), *патужнасць* 'сіла, моц' (Нас.).

**Патýга₃,** *патýжнасць* 'дапамога' (Нас.), *патýжнік, потýжникъ* 'саўдзельнік, памочнік', 'здаровы работнік' (Гарб., Нас.). Семантычна-словаўтваральны сінонім з лексемай *пó-мач* (<прасл. *pomogtь*~паўн.-слав. *tǫgъ/tęga*). Да *патýга₁* (гл.).

**Патýкаваць** 'патураць' (пух., Сл. ПЗБ). Паланізм. Параўн. польск. *potucha* 'патуранне' (Мацкевіч, там жа, 3, 453).

**Патýль,** *патýле* 'дасюль', 'да таго часу' (Мал., ТСБМ, Мядзв., Нас., Шат.). Рус. *потуль, потуля, потуле,* славац. *pot'úl, pot'ul.* Да прасл. *po-* (>*па-*) і *toli/tolě*, якое ў бел. і інш. слав. мовах змяніла карэннае *-о-* на *-и-* пад уплывам сіноніма *tudy* (як *пакуль* пад уплывам вакалізму сіноніма *kudy*) (ESSJ SG, 2, 578). Сюды ж: *патуль-таго* ў выразе *патуль-таго і быў*= рус. *и был таков* (Анім., Дад.).

**Патýльны** 'ціхі, лагодны, ласкавы' (ТСБМ). З польск. *potulny* 'тс', 'сціплы, павольны, слухмяны, цярплівы'.

**Патуля́ка** 'чалавек, які туляецца па цёмных закануpках, нешта падглядвае ці падслухоўвае' (КЭС, лаг.). Да *туля́цца* (гл.). Аб суфіксе *-'ака* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 25.

**Патункóвы** 'злы, шкодны' (гродз., Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Патýпіць,** *патупíць* 'апусціць уніз (вочы, галаву)' (ТСБМ, бялын., Янк. Мат.). Рус. *потýпить (взор)* 'тс'. Усх.-бел. — руская ізалекса. Да *тупы́* (гл.); *патýпіць* — г. зн. 'нібы прытупіць погляд' (Фасмер, 3, 346).

**Патурáць** 'паблажліва адносіцца' (ТСБМ, Гарэц., Яруш., Сцяшк., ТС; навагр., Шн.), 'ва ўсім згаджацца' (быx., Янк. Мат.), 'не перашкаджаць у шкодных звычках і дзеяннях' (КЭС, лаг.). Балтызм. Параўн. літ. *pritur̃ėti* 'падтрымаць', лат. *uzturēt* 'тс'.

**Патуравíць** 'падагнаць (прымусіць хутчэй ісці, рабіць што-н.' (в.-дзв., Шатал.), *патуры́ць* 'пагнаць, выгнаць' (ТСБМ), *патурыцца* 'пайсці, накіравацца' (ваўк., Сцяшк. Сл.). Рус. чарапавецк. *туровить* 'падганяць'. Да *туры́ць,* якое можа быць праславянскім (Скок, 3, 525). Маер (G. Mayer. Alban. studien, 3, 1896) параўноўвае з ім алб. *turr, turrem* 'бегчы, рынуцца'. Аб пашырэнні дзеяслоўнай асновы з суфіксам *-ав-* (параўн. *кладавіцца, садавіцца*') гл. Карскі, 2—3, 58.

**Патýх** 'певень' (стол., Сл. Брэс.). Да *пятýх* (гл.). Ацвярдзенне губных перад *е* (<*ě*), *я* мае месца ў вузкай паласе паміж паўдн.-зах.-бел. і зах.-палес. гаворкамі, напрыклад: *баліцiса* 'мыць бялізну', *пáмаць, дзéваць* (ДАБМ, к. 19).

**Патýха,** ст.-бел. *потуха* 'надзея' (пач. XVII ст.) запазычана



са ст.-польск. *potucha* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 134). Параўн. таксама роднаснае польск. *otucha* 'бадзёрасць', чэш. *tušiti* 'прадчуваць'.

**Патýхляць** 'зрабіцца тухлым' (Шат.). Да *тýхлы, тýхнуць* (гл.). Прэфікс *па-* (<прасл. *po-*) указвае на пашырэнне дзеі.

**Патхáння** 'унушэнне' (горац., Яруш.). Утворана ад той жа асновы, што і блізкае па значэнню *натхнéнне*<*на-тх-ня́ць* (гл.)<прасл. *-dъxnǫti.* Так серб.-харв. *надахњúвати* азначае 'унушаць' і 'натхняць', а літ. *įkvėpìmas* — 'унушэнне' і 'натхненне'. Прыстаўка *па-,* магчыма, ад лексемы *павучанне* (<ст.-рус. *по-учение*), блізкай семантычна да *патхання.*

**Паты́к** 'кавалак палкі ці дубца без галін' (Бес.), брэсц. *паты́ка* 'палка' (Сл. Брэсц.), воран. *паты́чкі* 'тонкія палачкі' (Сцяшк. Сл.). Укр. *патúк* 'палка, кол', *патúка* 'палка', польск. *patyk, potyk, patyka,* чэш. ляш. *patyk* 'кій', валаш. *partyka,* славац. *patýk, patyč, patyča* 'дубіна, друк, палка', *patyčie* 'дробныя тычкі', *patík* 'дубец', *pateka* 'пугаўё'. Заходнеславянскае. Да *tyka* 'тычка', роднаснага з прагерм. **stukka-z*: ням. *Stock* 'палка, ствол, друк, палена, калода'; менавіта *-ukk-* з'явілася слав. асновай *-ык* (Махэк₂, 663). Брукнер (399) сцвярджае, што польск. *patyk* паходзіць не ад *tyka,* а ўтворана ад асновы *pa-*, якую знаходзім у *пá-лец.* Прыстаўка *па-* з прасл. *pa-.*

**Патыкáцца,** *патыкáць, потыкáць,* навагр. *патыкавáць* 'дражніць, злаваць, дражніцца', 'прыставаць', 'жартаваць' (Янк. 1, ТС; жытк., Мат. Гом.; навагр., Сцяшк. Сл.). Паланізм. Параўн. ст.-польск. *potykać* 'чапаць, чапляцца, прыдзірацца', 'падазраваць, абвінавачваць', *potykać się* 'змагацца (ў рукапашным баі)'. Гл. таксама *паты́чка.*

**Патыкáць₁** 'даравáць за дрэнныя ўчынкі, пакідаць непакараным' (бялыніц., Янк. Мат.; ветк., Мат. Гом.), 'патураць' (пух., Сл. ПЗБ). Да *патакáць* (гл.).

**Патыкáць₂** 'сустракаць' (Нас.). З польск. *potykać (się)* 'тс'. Сюды ж ганц. *патыкáць* 'рабіцца блага, млосна' (Сл. ПЗБ).

**Патыкáць₃,** *патыкáцца* 'утыкаць нос (не ў сваю справу)' (Нас.), 'рабіць спробу зайсці' (КЭС, лаг.), з'яўляцца, паказвацца на вочы' (хойн., Мат. Гом.), *паткнýцца* 'сунуцца, паказацца куды-н.' (ТСБМ), *потыкáць* 'тыцкаць, соваць' (ТС). Да *тыкаць*<прасл. *tykati (sę),* роднаснага з лат. *tûkât, tûcît* 'мясіць, цiснуць', ст.-в.-ням. *dûhen* 'ціснуць'. Чаргаваннем галосных кораня звязана з *ткаць* (Фасмер, 4, 130).

**Патыкáць₄** 'ткаць па аснове рознакаляровым утком' (лід., віл., бар., шум., швянч., Сл. ПЗБ), драг. *натыкáты* 'тс' (Клімчук, вусн. паведамл.), *патыкáнка* 'дыван з ільняной асновай, патыканы рознакаляровымі ніткамі' (смарг., Сцяшк. Сл.). Магчыма, сюды ж польск. *potykaczka* 'спадніца, тканая ў чаты-

ры полкі'. Параўн. н.-луж. *potykaś* 'зацыраваць'. Да *па-*< прасл. *ро-* і *ткаць*<прасл. *tъkati*.

**Патылак** 'задняя частка галавы' (гом., Мат. Гом.). Рус. *потылок* 'удар па патыліцы'; пск., цвяр. 'патыліца, карак у скаціны', серб.-харв. *пòтиљак* 'патыліца'. Прасл. архаізм *potylъkъ*. Да *тыл* (гл.).

**Патыліца,** *потыліця, потэлыца* 'задняя частка галавы' (ТСБМ, Нас., Грыг., Гарэц., Мат. Гродз., Мядзв., Яруш., Бес., Мал., Булг., Шпіл., Дразд., Шат., Касп., Сл. ПЗБ. Растарг.). Укр. *потилиця,* польск. *potylica*. Бел.-укр.-польск. ізалекса *po-tyl-ic-a*. Да *тыл*<прасл. *tyti* 'становіцца тоўстым, тлустым, тлусцець'.

**Патынéць** 'патлець, патрухнуць' (Юрч.). Да *тынéць* 'тлець, прэць' (там жа), якое, відаць, з'яўляецца балтызмам. Параўн. літ. *trunė́ti* 'трухлець, гніць, раскладацца', лат. *trunēt* 'тлець'. Хаця семантыка бездакорная, сумненне выклікае *-r-* у аснове. У такім выпадку больш блізкім будзе літ. *tū́noti* 'ляжаць схаваным, схаваўшыся'.

**Патынка** 'металічная талерка', 'дыскас' (Нас.), ст.-бел. *патына, патыня, патина* 'металічная талерка, якую выкарыстоўваюць у час абедні' (1583 г.) запазычаны са ст.-польск. *patyna* 'тс', якое з лац. *patina* 'міска, нізкая каструля, патэльня' (Булыка, Лекс. запазыч., 180). Параўн. таксама *паціна* (гл.).

**Патынкі** 'туфлі' (Бес.), 'саматробныя тапкі' (малар., Сл. Брэс.), *патýнкі* 'жаночыя туфлі' (Федар. 7). З польск. *patynek, patynki* 'плыткія жаночыя туфлі', якое з італ. *pattino* 'сандалі' (Брукнер, 399) або франц. *patin* 'полаз', 'башмак' (Варш. сл., 4, 92).

**Пáтыркы,** *патэркí* 'пацеркі' (драг., пін., Сл. ПЗБ). Праз польск. *pacierki* з лац. *pater* (у выразе *Pater noster* 'Ойча наш'). Пасля адчытання малітвы адкладвалася адна пацерка з цэлай нізкі пацерак, якую вернік трымаў у руках. Гл. *пáцеркі*. Цвёрдае *-т-* другаснае: выраўноўванне паводле законаў ц.-палескай фанетыкі (*ц'*>*т*).

**Патырчака** 'ражон' (б.-каш., Мат. Гом.; ТСБМ). Да *патарáчка* (гл.).

**Патыхáць** 'веяць, слаба дзьмуць', 'пахнуць', 'быць адчувальным' (ТСБМ, Сцяшк.). Да *тхаць* 'тс', якое з прасл. *tъxati*, роднаснага з *dъxati, duxъ*>*дух* (гл.). Сюды ж экспр., перан. віл. *патыхáць* 'наведвацца' (Сл. ПЗБ).

**Патычка** 'спрэчка, сутычка' (Нас.). Відаць, паланізм. Параўн. польск. *potyczka* 'сутычка, бітва'.

**Патэлька,** *пітэлька* 'прарэшак' (трак., шальч., Сл. ПЗБ; жабін., стол., Сл. Брэс.). Да *пятля* (гл.). Аб другасным ацвярдзенні *п* (губных) гл. Карскі, 1, 326.

**Патэльня,** *патэльна, патэліна, пэтэльня, пятэльня* 'скарада' (ТСБМ; докш., Янк. Мат.; Др.-Падб., Сцяшк., Гарэц., Шпіл., Касп., Сл. ПЗБ) 'бляха (у пліце)' (Шат.), ст.-бел. *пателя (пательня, петелня)* 'металічная талерка', 'патэльня' (XVI ст.) запазычаны са ст.-польск. *patela, patelnia* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 103), якія з нар.-лац. ці з сярэдневяковага кніжн. лац. *patella* 'патэльня'<*patina* 'тс' (Трубачоў, Ремесл. терм., 298).



**Патэнт** 'пісьмовае пасведчанне або грамата на права' (Нас., ТСБМ). З польск. *patent* ці з рус. *патент,* якія праз ням. *Patent* былі запазычаны з франц. *lettre patente,* а апошняе з с.-лац. *litterae patentes* 'адкрыты ліст' (Фасмер, 3, 216; SWO, 1980, 556).

**Патэнтáт,** ст.-бел. *потентатъ* 'магнат' (1615 г.) запазычана са ст.-польск. *potentat* 'тс', якое з с.-лац. *potentatus* 'вышэйшая ўлада, панаванне' (Булыка, Лекс. запазыч., 73).

**Патэнцыя,** ст.-бел. *потенция* 'дзяржава, магутнасць' (пал. XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *potencja*, якое з лац. *potentia* 'моц, сіла' (Булыка, Лекс. запазыч., 32). Сучаснае бел. *патэнцыя* магло быць яшчэ раз запазычаным праз рус. мову.

**Пáтэр,** ст.-бел. *патеръ* 'духоўны айцец' (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *pater,* якое з лац. *pater* 'бацька' (Булыка, Лекс. запазыч., 173). Сюды ж ст.-бел. *патерица* 'посах архірэя' (XVII ст.), якое праз ц.-слав. са с.-грэч. *πατερικόν* (Булыка, там жа, 183).

**Патэс**$_1$ 'гульня ў арэхі' (маг., Рам., Детские игры). З яўр. мовы (там жа, 137).

**Патэс**$_2$ 'страха' (слонім., Сцяшк. Сл.). Відаць, да *пацёс* (гл.) з другасным ацвярдзеннем *т' (ц')*>*т*.

**Патэфóн** 'апарат для прайгравання пласцінак' (ТСБМ). З франц. *pathéphone,* якое складаецца з *pathé*<з прозвішча *Ch. Pathé*, прамыслоўца, заснавальніка (у 1890 г.) фірмы, і ст.-грэч. *φωνή* 'голас, крык, мова',— праз польск. і рус. мовы.

**Паýк** 'рыбападхватнік' (жытк., Мат. Гом.). Генетычна да *павýк* (гл.) у выніку семантычнага пераносу.

**Паў-** 'палова, палавіна', 'папалам', не зусім, амаль' (ТСБМ, Шпіл., Нас.). Да прасл. *polъ* (укр. *пів-*, рус. *пол-, пол,* польск., н.-луж. *pół*, в.-луж. *poł*, палаб. *pöl-a*, чэш. *půl*, славен. *pôl*, серб.-харв. *пô*, макед. *пол*, балг. *пол, полът*, ст.-слав. **полъ**. Прасл. *polъ,* роднаснае да алб. *palë* 'бок, партыя, раздзел', іран. *pahl* 'бок', рашорвск. *pa$^h$alaw* 'бок, край, рабро', а таксама марыйск. *pәlak,* удмурцк. эрзянск. *pel'* 'палавіна', макшанск. *pjale*, эст. *pool*, фін. *puoli* 'тс', 'бок'. Настратычнае. Махэк (499) лічыць слова «праеўрапейскім». Гл. таксама Фасмер (3, 306).

**Паўверстáць** 'невялікі прымітыўны ткацкі станок' (ТС). Да *вярстат* і *паў-* (гл.).

**Паўлóчча** 'мера зямлі ў 1/2 валокі' (Нас.), жлоб. *паўвалока* 'мера зямлі 0,9 га' (Мат. Гом.). Першае слова з *паў-* (гл.) і польск. *włóka+ьje*, гл. *валока*$_1$.

**Паўгалóвы**, *паўгалóўкаваты* 'недарэчны, неразумны' (карэліц., слонім., Сцяшк. Сл.). Калька з польск. *półgłówek* 'дурны, прыдуркаваты', як, відаць, і літ. *pùsgalvis* 'тс'. Параўн. рус. (*полоýмный*) 'тс'...

**Паўгодкі** 'паўгодзе' (Нас.), 'паўгода пасля смерці' (Яшкін, вусн. паведамл.). Да *паў-* і *год* (гл.). Суфікс, як у *памінкі*.

**Паўдзевятá**, *поўдзевятá* 'мера вагі=8,5 кг' (навагр., Сл. ПЗБ). Параўн. літ. *pusdeviñto* 'восем з паловай', лат. *pus'deviņi* 'палавіна дзевятай'. Больш падрабязна гл. *паўтарá*.

**Паўдзéнне** 'поўдзень' (Нас., Касп.). Прасл. форма была б *polъ dьnьje*. Да *паў-* і *дзень* (гл.).

**Паўдзéла** 'драўніна, якая часткова ідзе на будаўніцтва, часткова на дровы' (Інстр. II), *паўдзелавы́ лес* 'лес другога гатунку'//*паўстрой* (Мат. Гом.). Да *паў-* (гл.) і *дзéла* 'справа, рамяство, мастацтва', роднаснае да літ. *dailė̃* 'тс', параўн. ст.-слав. **дрѣводѣлꙗ** 'цясляр'. Тут у слова *-дзела* семантычны перанос: 'справа, рамяство'>'матэрыял, з якім работнік працуе'.

**Паўдзесятá** 'дзевяць з паловай' (гродз., Сцяшк. Сл.). Аналагічна літ. *pusdešim̃to* 'тс', лат. *pus'desmit* 'паўдзесятай (гадзіны)'. Пра ўтварэнне гл. *паўтарá*.

**Паўдзён** 'пастаўнік' (круп., ДАБМ, 784). У выніку семантычнага пераносу з *паўдзён* 'поўдзень' (Грыг.; в.-дзв., брасл., Сл. ПЗБ; слаўг., Яшк.; браг., Мат. Гом.), якое першапачаткова азначала 'палавіна дня'>*на паўдзён* (прыганялі скаціну ў двор) (Касп.), *паўдзёнкі* 'час у сярэдзіне дня, на які ўлетку прыганяюць з поля кароў' (бялын., Янк. Мат.) або заганяюць у пастаўнікі'. Параўн. таксама *дзяннік* 'пастаўнік'.

**Паўдзённік** 'дэкаратыўная расліна іпамея пурпуровая, Ipomoea purpurea (L.) Roth.' (Янк. 2), 'насякомае, якое ў гарачы поўдзень гудзе ў вышыні, як пчала' (Янк. 3), *паўдзёнышак* 'пярэсна еўрапейская, Trollius europeas L.' (паўн.-усх., Кіс.). Да *паўдзён* 'поўдзень' (гл.).

**Паўдня́** 'поўдзень' (КЭС, лаг.; Нас., Касп.; паст., смарг., ашм., Сл. ПЗБ). Да *паў-* і *дзень* (гл.), які тут у Р. скл.

**Паўёў** *хвост* 'рагулькі палявыя, Delphinium consolida L.' (Бейл.). Да *пава* і *хвост* (гл.). Матывацыя: расліна, што цвіце, сваім сінім колерам кветак нагадвае распушчаны хвост паў.

**Паўз**, *поўз, пыўз* 'па', 'уздоўж', 'непадалёку', 'каля', 'міма', 'праз', 'вакол' (ТСБМ, Кар., Шат., Гарэц., Мал., Чуд.; чэрв., ДАБМ, к. 221; пух., раг., чэрв., бярэз., Сл. ПЗБ), *пôз* 'побач, міма, каля' (Нікан.). Укр. *повз* 'міма', рус. у прысл. *поз-доль, поз-дол, повздоль* 'уздоўж, паралельна'. Да *па-* (<прасл. *po-*) і *vz-*,— апошняе з прасл. *ъz*, да якога пазней далучылася *v-* як вынік зіяння (Мее, MSL, 20, 111; Гуер, Sb. filolog., 7, 23). Слав. *vъz* адпавядаюць літ. *už-*, лат. *uz-* (ESSJ SG, 1, 276—281). Сюды ж *паўзбоч, поўзбоч* 'каля, уздоўж' (ТС), 'у баку, каля' (іўеў., Сцяшк. Сл.), а таксама *паўзбóчча* 'месца на схіле канавы, узгорка' (Яшк.) і *поўзверх* 'па-над, блізка пад верхам' (ТС).



**Пáўза** 'кароткі перапынак у гучанні' (ТСБМ). Праз польск. (*pauza*) ці рус. (*пáуза*) мову з ням. *Pause*, якое з лац. *pausa*< ст.-грэч. *παῦσις* 'перапынак'<*παύω* 'канчаю, прыпыняю' (Варш. Сл., 4, 93; Фасмер, 3, 218).

**Паўзгáліцца** 'выказаць моцнае жаданне' (Гарэц., Др.-Падб., Яруш.). Да *па-*, *-уз-*, *гáліцца* (гл.).

**Паўзкóм** 'паўзучы, прыпадаючы тулавам да паверхні' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб.), дзятл. *пóўзікам* (Сцяшк. Сл.), *пóўзеком, поўзекóм* 'тс' (ТС). Рус. *ползком*, балг. *пълзешком* 'тс'. Такі ж самы канчатак у форме Тв. скл. мае ўкр. *поповзом, плазом*. Прасл. *polz-ъkъ, polz-ьkъ*, якія ўтвараюць прыслоўе ў форме назоўнікаў Тв. скл. адз. ліку. Больш падрабязна аб гэтым гл. Карскі, 2—3, 75—76.

**Паўзóры** 'стужкі, шнуркі' (іўеў., Сцяшк. Сл.) — скажоная форма пад уплывам лексемы *ўзóры*. Да *паўрóзы* (гл.).

**Паўзпрáсілле**, *паўзпрáснічча* 'месца ў сярэдзіне абгароджанага ўчастка' (слаўг., Яшк.). Да *паўз-* і *прáсла* (гл.). Аб суфіксе *-ьje* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 160.

**Паўзці́**, драг. *поўзтэ́* 'павольна перамяшчацца па паверхні, рухаючыся ўсім целам, на жываце, на карачках; слацца па паверхні, чапляючыся за што-н.' (ТСБМ, Шат., Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *повзти́*, рус. *ползти́*, польск. *pełzać, pełznąć*, чэш. *plazit se, plznouti*, славац. *plazit' sa*, славен. *pólzati* 'паўзці', *plêzati* 'узбірацца', *polzéti* 'коўзацца', *pláziti* 'датыкацца, кратаць што-н.', серб.-харв. *пу̏зати, пу́зити*, макед. *позлзи*, балг. *пълзя́, плéзя*, ст.-слав. **плъзати, плъзати, плѣсти, плѣсти**. Прасл. *pьlzti (polziti sę, pelzati)*<і.-е. **pel-ĝh-/*polĝh-/*pl̥ĝh-*, якія маюць іншыя варыянты гэтага кораня: **plou̯-* (ст.-слав. **плоути** 'плыць', літ. *plústi* 'паплыць', ст.-інд. *plávate* 'плыве, ляціць') і з суфіксам *-g-* **plou̯g-* (прасл. *plugъ* 'плуг', чэш. *plouhati* 'цягнуць па зямлі', ст.-польск. *płużyć* 'швэндацца'). І.-е. варыянты **pel-ĝh-/*pleu̯-gh-* адлюстраваны ў формах: прагерм. *felgan/flogan* (ст.-англ. *fielg*, ст.-в.-ням. *felga* 'ўзаранае поле', 'барана' — бел. *паўзýха* 'плуг', ст.-ісл. *fliuga* 'ляцець' і інш. — гл. В. Мартынаў, Лекс. ўзаім., 175—178). Беручы пад увагу семантычную прыкмету 'слізганне па паверхні, пакіданне следу', Анікін (Этимология-1980, 41—49) суадносіць прасл. *pelz-/polz-/pьlz-* з герм. **fulge-* 'ісці ўслед', 'ісці

па следу'<'след'<'паўсці, коўзацца' і з кельц. (брыцк.) **olg(os)* 'след, ісці па следу', новабрэтонск. *heul* 'вынік, працяг', кімрск. *ol* 'след, тыл', *olaf* 'апошні'. Сюды ж *паўзун* 'дзіця, якое яшчэ не ходзіць, а толькі поўзае' (ТСБМ, Нас.), 'земляная жаба' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'вазон' (раг., Мат. Гом.), 'бярозка палявая, Convolvulus arvensis L.' (Касп.), 'плывун' (шврянч., Сл. ПЗБ), *паўзун палявы*, кам. *пувзун* 'вязель стракаты, Coronilla varia L.' (брэсц., гродз., Кіс.; Выг.), *паўзуха* 'павітуха, Cuscula L.' (шум., Сл. ПЗБ), *паўзучнік* 'гарлянка. Ajuga reptans L.' (петрык., Мат. Гом.), *паўзунцы* 'вазон' (Ян.).

**Паўзяцце** 'адвага, дзёрзкасць', *паўзяць* 'набрацца (смеласці, ахвоты)', *паўзяцца* 'хутка набыць навыкі ў рабоце, налажыцца', 'стаць адважным аж да дзёрзкасці' (Нас.). Паланізм. Параўн. польск. *powziąć* 'прыняць, задумаць, намеціць', 'адчуць (упэўненасць), *powzięcie (się)* — дзеянне ад *powziąć (się)*. Да *ўзяць* (гл.).

**Паўкашак** 'негустая каша' (КЭС, лаг.). Першая частка слова *паў-* — у выніку народнай этымалогіі за *па-* ў рэгіяналізме $^{+}$*пакашак* (<прасл. **pa-kašьkъ*, дэмінутыўны суфікс якога мае значэнне 'другасны, не стопрацэнтны, падобны' (Борысь, Prefiks., 53—54). Аналагічна ўтворана *пасітак* 'рэдкае сіта' (гл.).

**Паўлін** 'стракатая птушка з веерападобным хвастом, Pavo cristatus' (ТСБМ). З рус. мовы, у якой *павлин* з с.-н.-ням. *paw(e)lûn* 'тс' (Фасмер, 3, 182). Звычайна больш пашыранай з'яўляецца назва *пава* (гл.).

**Паўлонне** 'мера пры куплі-продажу' (Інстр. III), 'паўахапак' (Шат.). Да *паў-* 'палавіна' і *лона* (гл.).

**Паўлюк** 'слімак' (воран., Сл. ПЗБ). Да імя *Паўлюк*< *Павел*. Параўн. адыменныя назвы божай кароўкі (Coccinella septempunctata): *Курыўка, Пятро, Тодар, Андрэйка, Федарка, Іванька, Кандратка, Сідарка* (Шаталава, З жыцця, 156—178).

**Паўміць** 'падумаць, уцяміць, зразумець' (Юрч.; бялын., Янк. Мат.). Да *па-* (<прасл. *po-*) і $^{+}$*уміць*<$^{+}$ум 'розум'< прасл. *umъ*, роднаснага з літ. *aumuõ* 'розум', усх.-літ. *aumenis* 'памяць', *ōmenà, ōmyne, omenis* 'свядомасць, пачуццё' <і.-е. **au-* (гэты корань і ў прасл. *aviti sę*>*(з')явіцца, ухо*>вуха) (Фасмер, 4, 161; Скок, 3, 544).

**Паўната** 'таўшчыня, сытасць', 'дастатковая ступень, колькасць чаго-н.' (ТСБМ), 'поўня' (Ян.). Укр. *повнота*, рус. *полнота*, балг. *пълнота*. Са ст.-слав. **плънота**. Аналагічна ст.-в.-ням. *fullida*, ст.-інд. *pūrṇatā* 'тс' (Фасмер, 3, 312).

**Паўночнік** 'кветка паўночнік палявы, Knautia arvensis (l.) Coult' (гродз., Кіс.). Да *поўнач* (гл.). Аднак матывацыя застаецца няяснай.



**Паўношнік** 'міфічная істота, якая турбуе ці палохае позна ноччу' (ТС). Да *поўнач* (гл.). Утварылася ў выніку намінацыі словазлучэння *паўночны нячысцік* (ці інш. назоўніка). Аб мене *чн*>*шн* гл. Карскі, 1, 389.

**Паўня** 'поўдзень' (гродз., Сл. ПЗБ). З *паўдня*<прасл. *polъ-dьne*. Пра выпадзенне *-д-* гл. Карскі, 1, 352.

**Паўпасітак** 'сіта' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Да *пасітак* (гл.). *Паў-* далучылася ў выніку дзеяння народнай этымалогіі пры незразумелай ўжо форме *пасітак*. Аналагічна *паўкашак* (гл.).

**Паўпеч** (шврянч.), *паўпечак* (паст.) 'лаўка каля печы' (Сл. ПЗБ). З *папеч, папечак*, якія з бел. *прыпеч, прыпечак*, пад уплывам балтыйскіх моў, параўн. літ. *pa-* (дзеяслоўны прэфікс) адпавядае таксама бел. прэфіксу *пры-*: *padìdinti, pakélti* 'дадаць, прыбавіць', *padẽginti* 'прыпячы' і інш.

**Паўпіраць** 'параздаваць' (Шат.). Няясна.

**Паўпліца** 'паўпрыца' (жлоб., Мат. Гом.). Да *паўпрыца* (гл.). Аб пераходзе *р*>*л* гл. Карскі., 1, 315.

**Паўпруга** 'пояс' (бых., Мат. Маг.). Да *папруга* (гл.). *Паў-* (замест *па-*) у выніку дзеяння народнай этымалогіі.

**Паўпурык**, в.-дзв. *паўпура* 'мера вагою ў 1 пуд 10 фунтаў' (Касп., Шатал.), *паўпурак* 'мера сыпкіх цел ≃ 20 кг' (Мат. Гом.). Да *пура*, якое з літ. *pūras* 'пур (24 гарнцы)'.

**Паўпрыца**, *попрыца, парпліца, поўпрыца, поўпрыца*, драг. *пупрыця* 'металічная пята з воссю, жалезным шворанем, на якім круціцца верхні камень жорнаў, і якая рэгулюе, мяльчэй ці буйней малоць' (Дразд., Сержп. Грам., Сцяшк., Бір., Ян., ТС, Сл. ПЗБ, Мат. Гом.; КЭС, лаг.; асіп., Шатал.), 'млён' (Янк. 3), хоц. 'упарты чалавек' (Мат. Маг.), 'дэталь у ветраку' (Маш.). Балтызм. Параўн. літ. *pumpùrė, pumpurẽ* 'паўпрыца' (Зданцэвіч, LP, 8, 1960, 347). Лаўчутэ (Балтизмы, 49) удакладняе: крыніцай запазычання з'явіліся дэмінутыўныя формы *pumpurìkė, pumpurýtė* 'тс'.

**Паўлачоны**, ст.-бел. *повлочоный* 'пацягнуты тканінай' (XVI ст.). З польск. *powłóczony* 'надзеты, нацягнуты на што-н.' (Булыка, Лекс. запазыч., 203). Аднак наяўнасць ст.-бел. *повлѣчоный* можа прамаўляць на карысць апошняй крыніцы запазычання — ст.-чэш. *povlečený* 'тс'.

**Паўроза**, *паўрозы, паўрузы, поўрас, поўроз, паўроз, паўроза, поврозы* 'матуз, шнур', 'абора' (ТСБМ, Янк. 1, Мат. Гом., Сл. Брэс., ТС; лях., смарг., слуц., бярэз., Сл. ПЗБ), брасл. *паўрос* 'повад' (Сл. ПЗБ), *поўроз* 'рага' (ТС), *поврозы, поўразка* 'завязкі ў фартуху' (смарг., Сл. ПЗБ; Мат. Гом., Ян.), *поўразы* 'петлі для гузікаў' (Ян.), *паўрозы* 'махры' (івац., Сл. Брэс.; Мат. Гом.), ст.-бел. *поврозъ, паврозъ* 'вяроўка' (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *powróz* 'тс', 'шнур' (Булыка, Лекс. запазыч., 103; Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 4, 29).

**Паўро́кі** 'сурокі, урокі' (віл., Крачк.), *поўро́чыць* 'сурочыць' (ТС). Да *па-* і *суро́кі, суро́чыць, уро́кі* (гл.).

**Паўрубе́нь** 'рубель для прыціскання снапоў або сена на возе' (ДАБМ, 882). З *па́рубень, парубе́нь* 'тс' (глыб., віл., докш., мядз., лаг., смаляв., маладз., ДАБМ, к. 289) пад уздзеяннем народнай этымалогіі. Да *рубе́нь, рубе́ль* (гл.). Аб суфіксе *-ень* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38.

**Паўскра́й** 'ля, каля' (ТСБМ). Да *паўз* і *край*$_1$ (гл.).

**Паўста́нак** 'невялікая чыгуначная станцыя' (ТСБМ, Касп.). З рус. *полустанок*, якое з *полустанция* 'дадатковая станцыя чыгункі без правоў сапраўднай станцыі' і аформілася пад уплывам слова *стан* (а магчыма, і польск. *przystanek kolejowy*).

**Паўста́нец** 'бунтаўшчык' (Нас., Шат.; шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *powstaniec* 'тс' (Даль, 3, 374). Гл. *паўстаць*$_2$.

**Паўста́ць**$_1$, *паўстава́ць* 'уставаць', 'хутка найсці, наляцець (аб ветры)' (Нас.). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *уста́ць, устава́ць* (гл.). Параўн. ст.-рус. *повставати* 'паднімацца (аб ветры)' (XVI ст.), серб. *поўстајати* 'паўставаць'.

**Паўста́ць**$_2$, *паўстава́ць* 'узняцца на барацьбу', 'узнікнуць у памяці, з'явіцца', 'адрадзіцца', 'вырасці' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Яруш.; шальч., стаўб., Сл. ПЗБ), шчуч. 'набухнуць (пра жылы)' (Сл. ПЗБ), 'запрацівіцца гвалту' (КЭС, лаг.). З польск. *powstać* 'тс'.

**Паўстро́й** 'лес другога гатунку' (жытк., Мат. Гом.). Да *паў-* і *строй*, якое (з'яўляючыся прафесійным словам) паходзіць з рус. *стро́ить* 'будаваць'.

**Паўстрэ́ссю** 'пад стрэхамі' (круп., Сл. ПЗБ). З ⁺*падстрэссю*, якое замест *падстрэшшу*. Аб мене *ш*>*с* гл. Карскі, 1, 386.

**Паўсуке́нак** 'паўсукно' (Касп.; ашм., Сл. ПЗБ). З польск. *półsukienko*, якое з *półsukno* 'паўсукно, лёгкае сукно, кашамір'.

***Паўсцягаць**, ст.-бел. *повстегати, повстягати* 'стрымліваць' (1529 г.) запазычана са ст.-польск. *powściagać* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 197).

**Паўсю́дна** 'усюды' (ТСБМ). Укр. *повсю́дно* 'тс'. Утвораны ад прыметніка *паўсю́дны*, які да *па-* і *ўсю́ды* (гл.). Апошняе з зыходнай формы *vьxǫdy* (ESSJ SG, 2, 738).

**Паўсю́дых** 'усюды' (Нас.). Да *па-* (гл.) і *ўсюдых*. У апошнім канчатак *-ых* — гэта форма Р. скл. мн. ліку слова *ўсюды* (гл. Карскі, 1, 67).

**Паўсягды́** 'заўсёды' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Укр. *повсегда́, повседа́*, рус. *повсегда́*, ст.-рус. *повьсьгда* 'тс'. Да *па-* (<прасл. *po-*) і *vьxъkъde* (укр. *всі́гди, всагде, всягди, всюгди*), рус. *всегда́, всегды́*, польск. *wszegdy*, в.-луж. *wsehdźe*, чэш. рожнаўск. *vśáhdě*, славен. *vsigde*, серб.-харв. *сва̏где, svagdi, svugdje, svugdi*, макед. *сегде*, ст.-слав. **вьсегда**). Канчатак



*-ы*, магчыма, адпавядае літ. *-os* у *visadōs* 'заўсёды' (Фасмер, 1, 362).

**Паўсядзённы** 'штодзённы, пастаянны' (ТСБМ). З *па-* (<прасл. *po-*), *-усё* (<прасл. *vьsь-*) і *-дзённы* (<прасл. *dьn'ьnьjь*). Параўн. ст.-рус. *повседенный (повьсьдньныи)* 'тс'.

**Паўсяно́ўваць** 'назапашваць сена' (навагр., Сл. ПЗБ). Да *па-* і ⁺*усенаваць*<*се́на* (гл.).

**Паўтара́** (м. і н. род), *паўтары́* (ж. род), 'адзін з палавінай', ст.-бел. *полуторы гривны* (1229 г.). Укр. *півтора́*, рус. *полтора́*, ст.-рус. *полтора*, польск. *półtora*. Паўн.-прасл. *polъ vъtora* 'тс'. Да *паў-* (гл.) і прасл. *vъtorъ* 'другі', роднаснага да ст.-інд. *vítras* 'які вядзе далей', *vitarám* 'далей', авест. *vitara-* 'тс' (Педэрсан, KZ, 38, 395; Младэнаў, там жа, 44, 371). Аднак Мее (Études, 407; Мікала, BB, 22, 253), Траўтман (10) імкнуліся рэканструяваць прасл. *vъtorъ* як ступень рэдукцыі да літ. *añtras, añtaras*, лат. *ùotrs* 'другі, іншы', ст.-прус. *antars*, ст.-інд. *ántaras, anyás* 'другі', асец. *ændær*, гоц. *anþar* (Фасмер, 1, 364—365). У іншых слав. мовах у другой частцы выступае *drugъjь*: чэш. *půl druhého*, славац. *poldruha*, славен. *poldrúgi*, серб.-харв. *pódrug*, рус. *полъ друга* 'паўтара' (XVIII ст.). Слова *паў-* у літар. бел. мове і сучасных бел. гаворках яшчэ актыўна ўдзельнічае ва ўтварэнні іншых лічэбнікаў: *паўтраця́* 'два з паловай', *паўтраці́, паўтраці́на* 'тс' (ТСБМ, Сцяшк., Яруш., Шат.; швянч., воран., Сл. ПЗБ); *паўчвартá* 'тры з палавінай' (ТСБМ, Сцяшк., Нас., Шат.; гродз., Сл. ПЗБ), 'адна восьмая' (Касп.); *паўпятá* 'чатыры з паловай' (Сцяшк.); *паўшастá* 'пяць з паловай' (Сцяшк.; навагр., Сл. ПЗБ); *паўсямá* 'шэсць з паловай' (лід., Сцяшк. Сл.); *паўсядзьмá, поўсядзьмá* 'тс' (ігн., Сл. ПЗБ). Такія лічэбнікі былі пашыраны і ў ст.-рус. мове: *полчета, полчети, полчеть* (XVI ст.) '$3^1/_2$', *полчетверта* 'тс' (XV ст.), *полчетвертадесять* '35', *полчетвертанадцата* '$13^1/_2$' (XV ст.) і інш., а таксама і ў іншых слав. мовах: чэш. *půl třetího, půl čtvrta*, польск. *półpięta, półpiąta*, '$4^1/_2$', в.-луж. *połtřeča* '$2^1/_2$', *połštwórta* '$3^1/_2$', *połpjata* '$4^1/_2$', *połšesta* '$5^1/_2$', *połdwanata* '$11^1/_2$', *połsta* '50'; н.-луж. *połtera* 'паўтара', *połtśeša* '$2^1/_2$', *połštworta* '$3^1/_2$', *połpěta* '$4^1/_2$', *połsta* '50'. Есць аналагічныя ўтварэнні ў літ. (*pusañtro* 'паўтара', *pustrēčio* '$2^1/_2$', *pusketvir̃to* '$3^1/_2$', *pusšēsto* '$5^1/_2$', *pusseptiñto* '$6^1/_2$' і лат. (*pusótra* 'паўтара' *pusótras* 'паўтары', *pus'treša, pus'trešas* '$2^1/_2$', *pus'četri* 'палавіна чацвёртай', *pusseši* 'паўшостай', *pus'septiņi* 'паўсёмай'. Сюды ж *паўтарні́к* '(добры) сорт ільну' (шум., Сл. ПЗБ), 'паўтарацалёвая дошка' (там жа), *паўтарак* 'прадмет паўтарачнага памеру' (ТСБМ), *паўтарачка* 'дошка ў 1,5 цалі', 'бутэлька ў 1,5 л' (ТСБМ, Шат., Мат. Гом.).

**Паўтара́ць** 'гаварыць ці рабіць яшчэ раз тое самае', 'поўнасцю ўзнаўляць' (ТСБМ). Укр. *повторя́ти*, рус. *повторя́ть*, польск. *powtarzać*, балг. *повтарям*. Да прасл. *po-vьtoriti*<*vъtorъ* 'другі', этымалогію якога гл. у артыкуле *паўтара́*. Сюды ж *паўторны* 'другі, у другі раз', 'паўтаральны' (Нас., ТСБМ), *паўтара́ка* 'асоба, няспрытная на размовы, якая часта перапытвае і паўтарае словы таго, з кім гаворыць' (КЭС, лаг.).

***Паўтора**, ст.-бел. *повторе, повтуре, повтурне* 'паўторна' (1513 г.) запазычаны са ст.-польск. *powtóre, powtórnie* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 200).

***Паўторка**, беласт. *повтўорка* 'паўтарэнне' (Сл. ПЗБ) паходзіць з польск. *powtórka* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 4, 30).

**Паўтрéхваць** 'патраціць' (івац., Сл. ПЗБ). Відаць, з рус. *повытряхивать* 'павытрэсваць'.

**Паўхéніч** 'удар па вуху; аплявуха' (Нас.). Спачатку +*паўхень* (з *па* і *вýха*), пазней далучыўся суфікс аддзеяслоўных назоўнікаў *-іч* (параўн. *пацягавіч, перабірыч*), таму што ў слове скрытна існуе дзеянне, яго вынік.

**Паўхíр** 'пухір, пухліна' (іўеў., Сцяшк. Сл.), дзятл. *паўгíр* 'тс' (Сл. ПЗБ), *паўхíр* 'мачавы пузыр' (Касп.). Укр. *пухир(ь), пухíр* 'пузыр', 'пухір', польск. *pęcherz*, ст.-польск. *pęchyrz*, каш. *pąchyř*, н.-луж. *puchoř*, в.-луж. *pucheř*, чэш. *puchýř*, серб.-харв. *пӯха* 'пузыр'. Прасл. *pǫxyrь* (Патабня, РФВ, 4, 187). Наяўнасць *-аў-* на месцы *-у-* — уплыў балтыйскіх гаворак. Да *пýхнуць, пух* (гл.).

***Паўць**, *паўть* 'пушок, які аддзяляецца ў працэсе ткання пры руху бёрда ад недастаткова глянцаванай і моцнай асновы' (Уладз.). Лексема ўзнікла ў выніку скрыжавання слоў *павуціна* і *поўсць* (гл.).

**Паўчыхураваца** 'прагалададаца' (Ян.). Няясна. Магчыма, да *чýхацца* 'свярбець', укр. *чíхрати* 'церціся', 'драпаць', *чухраться* 'драцца, драпацца', якія Слаўскі (1, 124) выводзіць з *czesać* 'часаць'. Слова магло першапачаткова абазначаць 'стан, калі нешта дзярэ, паліць, як кіслата ў пустым страўніку'.

**Паўшаркé** 'збруя на тулаве каня' (гродз., Сцяшк. Сл.). Да *паў-* і *шóры* (гл.). Сюды ж *паўшóры, паўшóркі* 'шлеі ў вупражы' (шальч., смарг., Сл. ПЗБ; Шат.). Параўн. таксама польск. *półszorek* 'тс'.

**Паўшурóнак** 'адна шостая сажня дроў' (Шат., Мат. Гом.), *паўшýркі* 'мера дроў' (Мат. Гом.). Да *паў-* і *шурка* (гл.). Апошняе праз польск. *szar, szur* з ням. *Schar* 'куча'.

**Паўшчуўля́ць** 'абуць' (Ян.). З +*па-ўстшаўляць*, якое, відаць, з польск. +*po-ustrzewiać* 'абуць у чаравікі'<польск. *trzewik* 'чаравік'. Апошняе — да прасл. *červьjь* 'тс'. Адносна словаўтварэння параўн. ст.-рус. *въступьни* (<*въступать*).



**Паўшыбуваць** 'выгнаць' (Ян.). Скажонае рус. *повышибáть* 'павыкідваць, павыганяць'.

**Паўшэ́да** 'неадукаваны чалавек, хам' (КЭС, лаг.). З польск. *powszedni, powszedny* 'звычайны, штодзённы, будзённы, ардынарны, неэлегантны, нявытанчаны' ці са ст.-бел. *повшедний, повшедный* 'паўсядзённы' (1552 г.), якое са ст.-польск. *powszedni* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 194).

***Паўшэхны**, ст.-бел. *повшехный, повшохный, повшэхный* 'усеагульны, паўсюдны, пагалоўны' (1563 г.) запазычаны са ст.-польск. *powszechny* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 38).

**Паўю́ха** 'павітуха, Cuscuta L.' (ваўк., Сл. ПЗБ). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *віцца* (гл.). Аб суфіксе *-юха* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 71.

**Па́фас** 'уздым, запал, натхненне, энтузіязм', 'асноўная ідэя' (ТСБМ). З рус. *пáфос* 'тс', якое з с.- ці новагрэч. πάθος 'страсць' (Фасмер, 3, 220).

**Пах** 'адчуванне органамі нюху лятучых рэчываў і субстанцый' (ТСБМ, Нас., Грыг., Гарэц., Яруш., Касп., Шат., Сл. ПЗБ, ТС; КЭС, лаг.), 'дух; дыханне' (Нас.), *пáхнуць, пáхнуті, пáхці* 'пахнуць' (Яруш., Сл. ПЗБ, ТС; КЭС, лаг.), *пахýчы, пахнýчы, пахню́шчы(й)* 'духмяны', 'пахучы', 'смярдзючы' (Гарэц., Сл. ПЗБ; ТС; карм., Мат. Гом.; укр. *пах, пáхати* 'нюхаць', *пáхнути*, рус. *пахнуть*, польск. *pach, pachnąć* і *pąchać*, чэш. *pach, páchnouti*, славац. *pach* 'смурод', *páchnuť* 'смярдзець', 'аддаваць пахам чаго-н.'. Паводле Праабражэнскага (2, 29), Младэнава (415), Голуба (188),— гукапераймальнае. Махэк$_2$ (426) лічыць гэта слова экспрэсіўным дзеясловам з суфіксам *-х-* (ст.-чэш. *páchati*, в.-луж. *pachać* 'пыхкаць (люлькай)', н.-луж. *pachaś* 'дыміць, курыць'), які ўзыходзіць да *pálati* 'гарэць, палаць', што для Трубачова (гл. Фасмер, 3, 221) з'яўляецца недастаткова пераканаўчым. Сюды ж дзятл. *пáхат* (<*pax*+*ъtъ*) 'пах' (Сл. ПЗБ) і *пáхоць* 'вялікі пах' (ТС).

**Паха**, *пáхва, пахвá*, драг. *похвá, пáхвіна, пахвíна, паховіца, пахвó* 'унутраная частка плечавога выгібу, падпаха' (ТСБМ, Нас., Грыг., Мядзв., Дразд., Бум., Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Сцяшк., Касп., ТС, Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Сл. Брэс.), 'сама рука' (Нас.), петрык. 'частка рукава ў сарочцы пад пахай' (Шатал.), 'падуздышная ўпадзіна ў жывёл' (даўг., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.), 'пасма валасоў, лёну' (Касп.), *пахвíны* 'частка цела ад ног да рэбраў', *пáхі* 'крылцы або верхнія лапаткі ў чалавека' (Нас.), *пах* 'падпаха' (Мат. Гом.). Укр. *пахá, пахвá* 'тс', рус. *пах, пахá* 'упадзіна', 'пазуха', ст.-рус. *пахъ* 'падуздышная ўпадзіна', польск. *pacha*, 'пазуха, падпаха', *pachwina*, чэш. *pach* 'пахвіна', в.-луж. *podrach* 'падпаха', серб.-харв. *пȁхуљ, пȁхуља* 'пучок', 'пасма', балг. *пах* 'тс'. Можна, відаць,

дапусціць прасл. *рахъ* ці *paxu* (Р. скл. *рахъve*), якія будуць роднаснымі да ст.-інд. *pakṣás* 'плячо, бок, палавіна', *pákṣas* 'бок', *pājasyám* 'брушная поласць'. Аднак некаторыя зах.-слав. формы (чэш. *paždí*, славац. *podpažie*, н.-луж. *podpaža* 'падпаха') сведчаць пра зыходнае *разь* (гл. *пазуха*), якое з **paz-duxa*, параўн. славен. *pázduha*, лат. *padusē* 'падпаха'. Такім чынам, можна гаварыць пра прасл. дублет *рахъ/разъ*. Першы з іх узводзіцца да і.-е. **pāk'*- (ст.-інд. *pāśaḥ* 'пятля, сувязь, вяроўка', *pákṣás* 'плячо, бок, палавіна', ст.-англ. *fōegan* 'звязваць', ст.-грэч. πέσσω 'умацоўваю') (Педэрсэн, IF, 5, 49 і 60; Ільінскі, ИОРЯС, 20, 3, 111), другі да **pāg'*- (лац. *compāges* 'сувязь, сутык', *pango* 'ўмацоўваю', ст.-грэч. πάγη 'пятля') (Мартынаў, Слав. акком., 126). Менш імавернымі здаюцца меркаванні Брукнера (389) і (KZ, 43, 309), Мукі (2, 98) пра скарачэнне слова *razuxa* ў *рахъ*. Няма патрэбы гаварыць пра запазычанне з польск. мовы (Кюнэ, 84).

**Пахáбны** 'непрыстойны, бессаромны' (ТСБМ). З рус. *похáбный* 'тс', пск., цвяр. 'дрэнны, мізэрны' (параўн. рус. *хáбить*, рус.-ц.-слав. *хабити*, укр. *охáбити* 'жаваць', ц.-слав. *похабъ* 'вар'ят, дзікі', польск. *chaba* 'кляча', *chaby* 'косці, што вытыркаюцца з-пад скуры', чэш. *ochabiti* 'знясіліць', *ochabnouti* 'зрабіцца вялым', паўд.-чэш. *vochabnout* 'змізарнець', мар. *ochápalý* 'хворы', 'напалоханы', чэш. і славац. *chabý* 'вялы, млявы', 'малы', 'баязлівы', славен. *hábiti*, серб.-харв. *ха̏бити* 'пашкоджваць, зношваць', балг. *хабя, изхабя* 'псую', ц.-слав. *охабьнъ* 'кепскі'. Прасл. *xabъ*, роднаснае да ст.-грэч. κωφός 'млявы, бездапаможны, нямоцны (пра стралу кепскага стралка)', 'бязгучны, тупы на слых'>'глухі', 'упалы духам'> 'неразважлівы', да літ. *kàpti* 'рабіцца млявым'<і.-е. **kōphos* (Махэк₂, 194—195), у якім *k*>*x*, а *-b-* з семантычна блізкага *slabъ* 'слабы'. Пры гэтым ён указвае на нерэгулярнае і.-е. **ph*. Младэнаў (664) і Петарсан (KZ, 47, 286) таксама звязваюць іх з і.-е. адпаведнікамі, якія абазначаюць цялесную слабасць: лац. *hebes*, арм. *xul* 'глухі', але рэканструююць і.-е. **khābh-/*qhōbl-* 'знямоглы, абыякавы'.

***Пахадáнькі**, драг. *походáньке, походэ́ньке* 'бадзянне, гулянне, хадня' (Сл. Брэс.). З укр. *походéньки* 'тс', якое з *похóда* (>*похóдонька*)<прасл. *po-xoditi*<*xoditi*>*хадзіць* (гл.).

**Пахадзéнька** 'прыстасаванне, з дапамогай якога вучаць дзяцей хадзіць' (лях., Янк. Мат.). З ⁺*пахадня́*. Да *па-* і *хадзіць* (гл.). *Па-* мае значэнне 'невялікай меры'.

**Пахадзíцца** 'пабыць у злучцы' (Касп.). Калька з літ. *pa-si-eĩti* 'тс'.

***Пахадзюшчы**, *походзю́шчы* 'хуткі, хуткі ў хадзьбе' (ТС). Палескае. Суфікс *-ушч-(-юшч-)* характэрны для аддзеепрыметнікавых прыметнікаў (параўн. драг. *пыку́шчы* 'пякучы', *помыту́шчы* 'з добрай памяццю', *выдю́шчы* 'які добра бачыць', *нысу́шчы* 'курыца', якая часта нясецца'. Да *па-хадзіць* (гл.).



**Пахадзя́ка** 'старац, бадзяга' (Касп.), 'пасялуха' (шум., Сл. ПЗБ), смарг. *пахадыка* 'тс', паст. 'жабрак' (там жа). Да *пахаджаць*<*хадзіць* (гл.). Аб суф. *-яка* гл. Сцяцко, Афікс. наз.

**Пахадны́** 'шпаркі, хуткі', 'зручны, ёмкі', *пахаднó* 'цёпла, добра' (лід., слонім., Сцяшк. Сл.). Да *па-* і ⁺*ходны*: ц.-слав. *ходьнъ*, серб.-харв. *hȍdan* 'праходны, дасягальны', славен. *hóden* 'ходкі', 'праходны', в.-луж. *khódny* 'ходкі', польск. *chodny* 'тс', прасл. *xodьnъ(jь)*.

**Пахадня́**, *пахаду́ха, походу́ха* 'непаседлівая жанчына', 'пасялуха, пахатуха' (беласт., Сл. ПЗБ; бяроз., івац., Сл. Брэс.; в.-дзв., Шатал.). Да *па-* і *хадзіць* (гл.). Аб суфіксе *-ня́* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 58). Параўн. серб.-харв. *по̀ходница* 'госця, наведвальніца'.

***Пахаду́нка**, кам. *походу́нка* 'склеп' (Сл. Брэс.). Заходнепалескае. Да *па-* і *-хаджаць* хадзіць (гл.). Суфікс *-ун-к-а* (а не *-унак*, які ў *ладу́нак, паку́нак*).

***Пахаду́шка**, лун. *походу́шка* 'прыстасаванне, пры дапамозе якога дзеці вучацца хадзіць' (Шатал.). Да ⁺*паход* 'хадзьба'< *xoditi*>*хадзіць*. Аб суфіксе *-уха* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 71.

***Пахаду́шкі**, *походу́шкі* 'прасніца з днішчам' (Уладз.). Не зусім ясна. Магчыма ад ⁺*паход*<*пахаджаць*<*хадзіць* (гл.) — з такой прасніцай хадзілі на папрадухі (вячоркі).

**Пахады́** 'дарожкі' (пух., Сл. ПЗБ), 'глухія патаемныя мясціны, сцежкі' (ст.-дар., Яшк.). Да ⁺*пахóд*<*пахаджáць*< *хадзíць* (гл.). Сюды ж *пахадня́* 'падмосткі, лесвіца-дошка' (глыб., Сл. ПЗБ). Параўн. *хадня́* 'дарожка' (Сцяцко, Афікс. наз., 59).

**Пахажáлы** 'будні (пра адзенне)', 'паходны (чалавек)' (Нас.). Да *паход, пахаджáць*<*хадзíць* (гл.). Параўн. серб.-харв. *пȍхођани* 'перазоў, госці ў маладой'.

**Пахаль** 'араты' (Булг.). Да *пахáць* (гл.). Аб суфіксе *-аль* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 25.

**Пáхань** 'ворыва, ворная зямля' (Яруш.; КЭС, лаг.), 'выкарчаваны ўчастак сярод лесу' (ганц., Сл. ПЗБ), *пáханіца* 'ворыва' (віл., Сл. ПЗБ). Да *пахáць* (гл.). Аб суфіксе *-нь* (са значэннем 'прадмет, вынік дзеяння') гл. Сцяцко, Афікс. наз., 58.

**Пахáплівы** 'які крадзе хутчэй за іншых' (Нас.). Да *па-* і *хапáць* 'хватаць' (гл.). Параўн. *пахапáць* 'пакрасці' (Нас.). Іншае ж значэнне ў *пахáплівы* 'лёгкі на пад'ём', відаць, з ⁺*падхоплівы* 'які хутка падхопліваецца' (Нас.).

***Пахáпач**, драг. *похáпач* 'чапяла' (Сл. Брэс.). Да *па-* і *хапáць* (гл.). Аб суфіксе *-ач*, які з прасл. *-ak-jь*, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 31.

***Пахапі́ць**, *похопі́ць* 'уздумаць, зразумець' (ТС), чэш. *pochopit*, славац. *pochopiť* 'зразумець', а яшчэ ў ст.-чэш. *pochopiti* першаснае значэнне 'схапіць',— усе з прэфікса *po-* і *chop-*, які перадае паняцце хуткага руху (параўн. ст.-польск. *pochopny* 'хуткі', *pochopiać* 'схопліваць, пахапа́ць', *pochop* 'цяга', 'імпульс', 'здольнасць, паняцце, зразуменне'), аналагічны з *kap-* у лац. *capiō* 'бяру', літ. *kàpt!* 'раптоўна схапіць' (Махэк$_2$, 203). Сюды ж *паха́пны, похапны́* 'хуткі, руплівы ў працы' (Нас., ТС), свісл. 'ёмкі для работы' (Сцяшк. Сл.). Параўн. таксама *хапа́ць*.

**Паха́пываць** 'быць крыху падобным' (Юрч.). Да *хапа́ць* (гл.) у сэнсе 'схапіць трохі рыс падабенства'.

**Па́хар** 'араты' (калінк., Сл. ПЗБ). Відаць, з рус. *пахарь* 'тс' (ад старавераў).

**Пахараньі́цца** 'схавацца' (смарг., Сцяшк. Сл.). У выніку кантамінацыі бел. *пахароны* і польск. *schronić się* 'схавацца'.

**Пахарон**, *пахароны* 'пахаванне' (Сл. ПЗБ) як і *пахара-не́нне* 'тс' (Ян.) з ц.-слав., рус. *похороны, захоронение*<*(по-)хоронить*<ст.-слав. **хранити** 'ахоўваць, сцерагчы'<прасл. **xorniti*, роднаснага да лац. *servō, -āre* 'ратаваць, захоўваць', авест. *haraitē pairi* 'сцеражэцца', *haurvaiti* 'сцеражэ' (Фасмер, 3, 266). Лексема *пахаронкі* 'пахаванне' (Сл. ПЗБ) — беларуская; яна мае суфікс *-к-* і (як *дажынкі, дакопкі, памінкі*) — аб ім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 48.

**Па́хат** 'араты' (круп., Сл. ПЗБ). Да *паха́ць* (гл.). Беларускае. Другаснае (не праславянскае) аддзеяслоўнае ўтварэнне з суфіксам *-tъ*, як у слове $^+$*здзіт* 'муляр, будаўнік' (адсюль назва вёскі Здзітава ў Драгічынскім р-не).

***Пахаткі**$_1$, *похоткі́* 'частка пчалінай сям'і, якая выконвае разведвальную функцыю' (Анох.). Да *паход, ход*<*хадзіць* (гл.). Параўн. іван. *ходкы́* 'работа пчол па разведцы'.

**Пахаткі**$_2$ 'зручны для работы' (паст., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі *хваткі* і *пахватны* 'тс' (гл.).

**Паха́тная**, *паха́туха, похо́тніца, паха́тніца, похо́тныца, паха́туха* 'жанчына, якая любіць пабегаць па хатах, каб пачуць ці расказаць навіны, плёткі' (глус., Янк. Мат.; Янк. 1, Некр.; Сл. ПЗБ; лун., Шатал., ТС, Сл. Брэс.). Утвораны са словазлучэння *па хатах (бегаць)* і суфіксаў *-уха, -іца, -ная*. Да *ха́та* (гл.).

***Пахатны́**, *похотны́* 'ахвочы да жартаў з жанчынамі', *по́хоць* 'хаценне, сквапнасць', *похо́чваць* 'мець ахвоту, хацець' (ТС). Укр. *похоті́ти* 'пажадаць', рус. *по́хоть* 'пажадлівасць', ст.-рус. *похотъ* 'савакупленне', 'воля', 'жаданне', 'прыхамаць', 'страсць', 'юр', польск. старое *pochoć, pochodź, pochuć* 'пажадлівасць', чэш. старое *pochotný* 'смачны, прыемны', *pochoutka* 'слодыч', 'дэлікатэсы', славен. *pohôta*, серб.-харв. *по̏хота*,



макед. *похотен, похотлив* 'пажадлівы', балг. *по́хот* 'пажадлівасць'. Прасл. *po-xotь, po-xotьnъ(jь)*<*xotěti*>*хаце́ць* (гл.).

**Пахатрава́ць** 'патынкаваць' (карм., Мат. Гом.). Відаць, генетычна звязана з рус. смал. *ха́трасьтя* 'лахманы', чэш. *chátrati* 'рабіцца непрыдатным, старэць', *chatrný* 'слабы, нягеглы', славец. 'хваравіты, кволы'. Трубачоў (Эт. сл., 8, 22) выводзіць праформу *xatra*, якая са **skatra*, роднаснага з літ. *skė̃trioti, skėtrióti* 'растапырваць рукі'. Семантычна, аднак, карм. *пахатрава́ць* абазначае процілеглы працэс ('абнаўляць, рабіць лепшым'), як зах.-слав. *chátrati, chatrný* 'старэць, слабець'.

**Пахаце́нне** 'жаданне' (Нас.). У выніку кантамінацыі лексем *похаць* і *хаценне* (гл.).

**Паха́ць**, *пыха́ць* 'араць сахой' (Касп., Яруш., Сл. ПЗБ), 'баранаваць засеянае поле' (Бір. Дзісн.; глыб., Хрэст. дыял.; в.-дзв., Шатал.; Касп., Мат. Маг.), 'месці хату' (Касп.), 'разводзіць, сеяць, вырошчваць' (ТС), калінк. 'прыносіць мёд' (Сл. ПЗБ). Рус. *паха́ць* 'араць, абрабляць зямлю' (кур., арл.), паўн. 'рэзаць хлеб', ярасл. 'сеяць', паўн.-дзв. 'месці падлогу', 'падмятаць мякіну', алан. 'абмятаць магілу', цвяр. 'ісці, хадзіць, ступаць', 'дзьмуць'; польск. *pachać* 'капаць', 'рабіць зло', чэш. *páchati* 'рабіць, учыняць', 'пасці скаціну', славац. *páchať* 'рабіць, вырабляць', серб.-харв. *па̏хати, па̀јати* 'махаць', 'абмятаць пыл, змятаць павуціну, абдзьмухваючы чысціць'. Прасл. *paxati* 'месці, чысціць', якое звычайна звязваецца з прасл. *paxnǫti* 'пахнуць'. Для прасл. *paxati* 'месці' Ваян (RÉS, 43, 90—91) у якасці і.-е. паралеляў прапануе літ. *puõšti*, лат. *pùost* 'чысціць, аздабляць', ст.-ісл. *fága* 'тс', ст.-сакс. *fegōn*, ст.-фрыз. *fēgia*, гал. *vagen* 'месці, чысціць', што дае магчымасць узвесці прасл. *paxati* да і.-е. **pēk'/pōk'* (Мартынаў, Слав. акком., 125). Сюды ж *па́хата, па́хота* 'ворыва, узараная зямля' (Нас., Грыг., Сл. ПЗБ, Выг., ТС), 'аранне сахой' (Касп.), лях. *па́хаць*, тураў. *па́хоць*, глыб. *па́хаця* 'ворыва' (Сл. ПЗБ, ТС). Гл. таксама *пашні́на, па́шня́*.

**Пахвала́** 'добры водзыў, адабрэнне' (ТСБМ). Да *па-* (< прасл. *po-*) і *хвала, хвалі́ць* (гл.). Сюды ж *пахвальба́* 'выхваляванне, самахвальства' (ТСБМ), *пахвале́йко* 'хвалько' (зэльв., Сл. ПЗБ), ашм. *пахвалі́ўка* 'тс' (Сцяшк. Сл.).

**Пахва́лка** 'пахвальба', 'пагроза' у выразе *пахва́лку дзе́лаіць пабі́ць мяне́* (Нас.), ст.-бел. *похвалка, пофалка* 'пагроза' (1478) запазычаны са ст.-польск. *pochwałka* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 38).

**Пахва́т** 'месца, якое часта трывожыцца' (КЭС, лаг.). Не зусім ясная семантыка. Да *па-* (<прасл. *po-*) са значэннем паступовасці і шматразовасці дзеяння і *хватацца* 'хапацца'< прасл. *xvatati*, якое з *sue-*>*svojь*>*свой* (гл.).

**Пахватное** 'дэфіцыт' (ваўк., Сл. ПЗБ). Да *пахватаць* 'пахапаць'<*хватáць* (гл.).

**Пахвáтны** 'зручны для карыстання, лёгкі, спрытны' (ТСБМ; хойн., Мат. Гом.; Ян.). Да *па-* і *хватáць* (гл.).

**Пахвацíць** 'зразумець' (браг., Мат. Гом.). Дыялектная калька з *пахапіць* (гл.).

**Пахвíна** 'месца на нізе жывата, дзе жывот сходзіцца са сцегняком' (КЭС, лаг.; Шат.; Сл. ПЗБ). Да *пáха* (гл.).

**Пáхі** 'выемка ў дошках' (Ян.). У выніку семантычнага пераносу 'упадзіна пад рукой'>'выемка'>'пазы', а таксама пры ад'ідэацыі лексемы *пазы* — ад *пáха* (гл.).

**Пахíба** 'недахоп, недаробка' (ТСБМ), *пахíбіць* 'не ўдацца' (Шат.). У выніку кантамінацыі лексем *памылка* і *хіба* (гл.).

**Пахíл** 'пакатая паверхня, схіл, нахіл' (ТСБМ), *пахíлы, похíлы* 'нахілены, сагнуты, згорблены', 'хваравіты', 'пакаты' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Яруш., Касп., Сл. ПЗБ, ТС). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *хíлы, хілíць*<прасл. *xylъ(jь)*. Сюды ж *пахінáць, пахінáцца* 'нагінацца, нахіляцца' (Нас., Яруш., Др.-Падб.), пух. *пахінýцца* 'пахіснуцца' (Сл. ПЗБ). Параўн. польск. *chynąć* 'нахіляць', *ochynąć się* 'патануць, апусціцца', рус. пск., цвяр. *хúнуться* 'нахіляцца' (Фасмер, 3, 238).

**Пахíраць** 'памучыцца' (карэліц., Марц.). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *хíра* 'хвароба, кволасць', драг. *хы́рыты* 'доўга хварэць'< прасл. *xyrati, xyrěti*<*xyrъ(jь)*, генетычна звязанае з *xvorъ* (Трубачоў, Эт. сл., 8, 158—159). Гл. *хíрэць, хворы*.

**Пахíстка** 'акравак каляровай тканіны, ейны пруг, якія выкарыстоўваюцца як стужка ці аблямоўка' (Шн. 3, Касп.). Да прасл. *xystati (sę)* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 8, 159). Паводле семантыкі, бел. лексема з'яўляецца роднаснай з укр. *похистúти* 'схаваць, абараніць', *хистúтися* 'абгароджвацца, хавацца, прыкрывацца', *зáхист* 'абарона'.

**Пахíсціць** 'украсці' (чач., Мат. Гом.). Запазычана з рус. (ц.-слав.) *по-хищать* 'тс', якое узыходзіць да прасл. *xytati* 'хапаць, лавіць', а бел. форма — да інтэнсіва (на *-st-*) *xystati* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 8, 159).

**Пахітáцца** 'пахадзіць, пагуляць' (Ян.). Да ўкр. *по-хитатися* 'пахістацца'. Семантыка, як у рус. *по-шататься*. Параўн. таксама польск. *chytać się* 'хістацца', 'бадзяцца, швэндацца'. Усе да прасл. *xytati (sę)*, якое з **хй-t-*>*xy-t-* (Мее, MSL, 14, 1907, 388).

**Пахітлівы** 'хісткі, неакрэслены; блытанны' (Гарб.). Да *хітáць* (гл.).

**Пáхкаць** 'пыхкаць (пра курэнне)' (ТС). У выніку кантамінацыі гукапераймальнага *пах*! 'бах!' і *пы́хкаць* 'раскурваць'.

**Пахлапéнь** 'лапаць, падшыты вяровачнай пляцёнкай' (Нас.), *пахлапні, похлапні* 'плецяны абутак з вяровак' (Малч., Дэмб. 2, Касп., Мат. Маг., Мат. Гом.; бых., Рам. 8), 'лапці касога пляцення, падплеценыя вітушкамі пянькі або тонкімі вяровачкамі' (Бел. нар. адзенне, Мн., 1975, 70). Утворана ад *хлоп, ахлопак* 'касмык, шкумат, шматок' (Нас., Бяльк.) пры дапамозе суфікса *-ень* (аб ім гл. Сцяцко. Афікс. наз., 38—39), да якога пад уплывам лексемы *пасталы́* далучылася прыстаўка *п(а)-*. Сюды ж пераноснае *пáхлапень* 'неакуратны' (Сл. ПЗБ).



**Пахлéбства** 'ліславасць' (Яруш.), *пахлéбствываць* 'дагаджаць' (Грыг.), ст.-бел. *пахлебца* 'лісlівец' (1517) запазычаны са ст.-польск. *pochlebca* (Булыка, Лекс. запазыч., 125); дзеяслоў, відаць, запазычаны з рус. мовы, параўн. *похлéбствовать* 'лісlівіць, дагаджаць', хаця ст.-бел. *пахлебавати* 'лісlівіць' (1517), паводле Булыкі (там жа, 134), са ст.-польск. *pochlebować*. Аднак, калі ўлічыць укр. *похлібувати*, рус. *похлебить*, чэш. *pochlebovati, pochlebiti* 'тс', славац. *pochlebovat'* і шмат вытворных, можна меркаваць пра паўн.-слав. *poxlěbovati*, якое ўзнікла з выразу *po xlěbě iti* 'ісці за сваім хлебам, за сваёй выгодай' (Міклашыч, 424; Брукнер, 179; Фасмер, 3, 347). Махэк₂ (468) крыніцай слова лічыць *chalbat* 'тс'.

**Пахлёбка** 'рэдкая страва, поліўка' (Сцяшк.; лях., Сл. ПЗБ). Утворана ад гукапераймальнага дзеяслова *хлёбаць, хлябтаць* (гл.)<прасл *xlebati/xlepati*, параўн. польск., *chłapać* 'быць скнарай', чэш. *chlapati* 'тс', славен. *hlápati* 'праглынуць', серб.-харв. *хлȁпити, хлȁпнути* 'схапіць' (Міклашыч, 87; Патабня, 4, 204; Бернекер, 1, 387).

***Пахлудавáць**, *похлудовáць* 'адлупцаваць (кіем)' (ТС). Да *па-* і *хлуд* 'палка, жардзіна, дубіна, галіна' (гл.). Другую частку *-хлудавáць* можна супаставіць з калькай *-дубасіць* (*аддубáсіць*).

**Пахлы́скаць** 'паесці' (віл., Сл. ПЗБ), *пахлястáць* 'пахлябтать' (Ян.), *хлыстáты* 'хлябтаць, піць' (Клім.), *хлы́снуты* 'глынуць' (драг., Сл. ПЗБ). Да прасл. *xlystati/xlyskati*, параўн. укр. *хлистати* 'хлябтаць, піць', польск. *chlystać* 'тс', славен. *hlístati* 'хапаць ротам' (Трубачоў, Эт. сл., 8, 42) — якія з'яўляюцца гукаперайманнямі.

**Пахлю́стаць** 'памыць (грыбы)' (гродз., Сл. ПЗБ). Да *па-* (<прасл. *po-*) і прасл. *xl'ustati* — гукапераймальнага дзеяслова (Трубачоў, Эт. сл., 8, 35). Параўн. бел. швянч. *хлюшчэць* 'моцна цячы (пра ваду)', рус. пск., цвяр. *хлюстать* '(пра дождж) моцна біць у вокны', славінск. *xlústac* 'ліцца, цячы з шумам', польск. *chlustać* 'біць струменем', н.-луж. *kluskaś*, в.-луж. *khluskać* 'ліцца з плёскатам' і інш. Гл. таксама Слаўскі, 1, 67; Фасмер, 3, 248.

**Пáхмýрны**, *похмýрны* 'хмарны', 'хмурны', 'з хваравітым выглядам' (Касп., ТС, Сл. ПЗБ), чач. *пóхмарны* 'сумны, маркотны' (Мат. Гом.), *пахмáрна* 'пахмурна' (Др.-Падб., Мат.

Гом., ТС), *пáхмурак, похмарак, пóхмарок* ’хмарка, воблака (летам у добрую пагоду)’ (ТС; лельч., Мат. Гом.), *пахмáрваць* ’зацягваць хмарамі’ (ТС, Ян.; светлаг., Мат. Гом.). Укр. *похмари́ти, похмáрити(ся), похмарíти, пóхмарний, пóхмарно* ’тс’; рус. *похмýра* (пск., цвяр.) ’суровае надвор’е’, *похмýрый* (пск.) ’хмурны (дзень)’ (пск., цвяр.), ’шэры’ (кузбаск., бран., арл.), *хмáрый* ’тс’. Польск. *pochmurny, pochmury, pochmarny, pochmurowaty*, в.-луж. *pochmurjeny* ’тс’, *pochmurić* ’зацямніць, пахмурнець’, н.-луж. *pochmuriś* ’тс’, *pochmurny*, чэш. *pochmurný*, ходск. *pošmourný* ’пакрыты хмарамі’. Паўн.-прасл. *(po-)xmurьnъjь, (po-)xmarьnъjь*. Да *хмáра, хмýра* (гл.).

**Пахмéлкі** ’частаванне пасля хрэсьбін’ (чач., Мат. Гом.), *пóхмелкі* ’другі дзень хрэсьбін’ (Ян.). Рэгіяналізм. Адназоўнікавае ўтварэнне з суф. *-к-і* (аб ім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 243) і прыстаўкай *па-*. Да *па-* і *хмéлле*<*хмель* (гл.).

**Пахмыз** ’зараслі, хмыз’ (Федар. 7). Рэгіяналізм. Да *па-* (<прасл. *pa-*) і *хмыз*, для якога Трубачоў (Эт. сл., 8, 45) выводзіць прасл. *xmyzъ* (бел. смарг. *хмызнік*, укр. *хмиз*, рус. *хмыз* ’дробны кустарнік, параснік’, бран. *хмыс*, хмызá ’дробны дождж’), роднаснае да *smyzъ*<і. -е. **smū-g’-/*smeu̯-g’-* (ням. *Schmauch* ’густы дым’, англ. *smoke* ’дым’).

**Пахмы́ла,** *пахмы́лішча* ’пануры чалавек’, ’які не размаўляе’ (астрав., Сл. ПЗБ). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *хмы́ліць* (гл.)< прасл. *xmyliti (sę)* (Трубачоў, Эт. сл., 8, 45).

**Пахнó** ’смурод’, ’кал’ (Яруш., Нас., Нас. Сб.). Да *пах* (гл.). Суфікс *-н-ó*, як у *govьno* ’кал’. Параўн. укр. *пахно* ’пах’, у якім суфікс *-н-о* мае іншае, павелічальнае значэнне — параўн. укр. прозвішча *Махнó* ’вялізны чалавек’, а таксама драг. *ступнó* ’вялікая ступа’, *пічнó* ’вялікая печ’, *качнó* ’вялізная качка’, *чоборнó* ’вялізны бот’ (вусн. паведамл. Ф. Клімчук).

**Пахóвіны** ’пахаванне’ (гродз., Сцяшк. Сл.). Калька з рус. *похороны* ’тс’ (*хорони́ть=хавáць*).

**Пахóд**$_1$ ’перамяшчэнне атрада з пэўнымі мэтамі’, ’ваенныя дзеянні’ (ТСБМ, Шат.), ’бойкае месца, дзе ходзяць і ездзяць’ (слаўг., Яшк.), *пахады́* ’дарогі, сцежкі’ (гл.). Укр. *похід* ’шэсце’, ’паходка’, рус. *поход* ’рух войска’, ’кампанія’, ’ход касяка рыб’, ’лёт пчалы’, ст.-рус. *походъ* ’вайна’, ’выступленне на вайну’, ’выхад на лоўлю рыбы’, польск. *pochód* ’паход, марш’, ’працэсія’, ’рад, ланцуг, смуга’, ’крок’, ’паходня, дошка на плыце’, н.-луж. *pochod* ’паходжанне, эвалюцыя’, ’марш’, в.-луж. *pochod* ’марш’, чэш., славац. *pochod* ’тс’, ’паходны рух’, ’шэсце’, ’працэс’, славен. *pohòd* ’марш’, ’адведзіны, візіт’, серб.-харв. *пòход* ’тс’, ’ад’езд, выезд, выхад’, макед., балг. *пóход*. Прасл. *poxodъ* ’апраўленне, выхад, выезд’<*poxoditi*. Да *па-*<прасл. *po-* (са значэннем пачатку дзеяння) і *хадзíць* (гл.). На бел. тэрыторыі *па-* набыло значэнне ’паступовае запаўненне пэўнай плошчы дзеяннем’.



**Пахóд**$_2$ ’невялікі лішак (у вадзе, суме, ва ўзросце)’, тураў. *похóд* ’тс’ (ТСБМ, Яруш., Шат., ТС). Укр., рус. *поход* ’тс’. Усходнеславянскае. Да *паходзіць* ’выходзіць з чаго-небудзь’> ’выходзіць з лішкам’. Іншае развіццё значэння ’выходзіць з чаго-небудзь, аднекуль’, параўн. у бел. *паходзіць* ’мець падабенства, быць родам адкуль-небудзь’ (Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), *похóдзіць*’тс’>*похóджы* ’падобны’ (ТС), ’належаць паводле нараджэння да якога-небудзь класа, нацыі’, ’узнікаць, утварацца’ (ТСБМ). Да першага значэння *паходзіць* ’выходзіць з чаго-небудзь’ і суадноснага з ім *паход* ’лішак’ можна прывесці паралель з літ. *pértekėti* ’працякаць’, ’перацячы, пераліцца’, *pértekti* ’мець у дастатку, удосталь’ і *pe͂rteklius*’лішак’, у той час як літ. *atliekà, ãtliekas, atlaikà, liẽkana* ’лішак’ суадносяцца з *lìkti* ’заставацца, пакідаць’, якое (як і бел. *лíшак*< прасл. *lixъ*) узыходзіць да і.-е. **leikʷ-so-* ’пакідаць’ (Трубачоў, Эт. сл., 15, 91).

**Паходаць** ’асілець, адужаць, бароцца’ (Шат.). Параўн. польск. *pochodzić* ’перамагчы’, ст.-польск. ’тс’, ’зламаць, сагнуць’. Бел. лексема — вынік кантамінацыі польск. *pochodzić* і бел. *уходаць* ’забіць’, ’змардаваць, знясіліць’,— апошняе, відаць, можа ўзыходзіць да ст.-герм. *handus* ’рука’, параўн. *hǫdugr* ’моцны’. Цяжкасці выклікае рэфлекс *-ǫ-*: у рус. *художник* яно перайшло ў *-у-* (<ст.-слав. **хѫдожьникъ**<прасл. *xǫdogъjь*).

**Паходка** ’хада, манера хадзіць’ (ТСБМ). Запазычана з рус. *походка* ’тс’.

***Пахóдны,** *похóдны* ’прыдатны, выгодны’ (ТС), драг. *походнó* ’зручна, добра, выгодна для хадзьбы’ (Клім.). Узыходзіць да прасл. *xodьnъ(jь)*: славен. *hôden* ’лёгкі на ногу, ходкі’, чэш. *chodný*, в.-луж. *khódny*, н.-луж. *chódny*, польск. *chodny* ’ходкі’, балг. *ўрéмиту й ходну* ’самы час ісці’,— якое пазней кантамінавала з *poxodъ* ’паход, выхад, гулянне’.

**Паходня**$_1$ ’пераносная свяцільня’ (ТСБМ). Відаць, запазычана з польск. *pochodnia* ’тс’, якое са ст.-чэш. *pochodně* (сучаснае *pochodeň*); апошняе ўзыходзіць да прыметніка *pochodní* ’паходны’ (<’паходны сродак асвятлення’) (Брукнер, 423; Махэк$_2$, 468). Да *паход*$_1$<*ход* (гл.). Гл. таксама *пахадня́*.

**Пахóдня**$_2$ ’палавік, дарожка’ (Касп.). Утворана ад *паход* ’дарога, сцежка’. Аб суфіксе *-ня* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 165. Блізкія значэнні таксама ва ўкр. *похідня́* ’перакідны масток’, у рус. кастрам. *пóходни* ’трап з лодкі на бераг’, цвяр. *похóдня* ’масток для пешых’.

**Пахожа** ’паводзіны’ (Мал.). Рэгіяналізм. З $^+$*po-xod-ja*< прасл. *xodja* ’ход, хадзьба’. Да *хадзíць* (гл.). Магчыма, да сло-

ва *пахожа* адносіцца меркаванне пра тое, што паводле *хады* чалавека можна пазнаць ягоны характар.

**Пахожы** 'смачны, чысты (аб вадзе)' (фалькл.) (Федар., 7). Да *пахадзіць*<*хадзіць* (гл.). Спачатку ў лексемы *пахожы* было, відаць, значэнне 'праточны — які не стаіць, а ідзе, цячэ', пазней 'чысты'.

**Пахолік,** *пахолак, пахолачак* 'бедны селянін', 'сялянскі хлопец' (Нас., Грыг.), *пахóлок* 'парабак' (ТС), *пахолятко* 'лёкай' (брэсц., КЭС). Булыка (Лекс. запазыч., 185) мяркуе, што ст.-бел. *пахолокъ* (*пахолекъ, пахоликъ, похоликъ, похолокъ, пахолэкъ*) 'слуга', 'салдат' (з 1516 г.) былі запазычаны са ст.-польск. *pacholek*. Аднак наяўнасць слова ў рус. аланецкіх, вяцкіх гаворках (*пáхолок* 'хлопец, хлопчык, дураслівец, свавольнік', *пахóлок* 'дзіцё') дае повад сумнявацца, прынамсі, часткова: толькі некаторыя з гэтых ст.-бел. слоў з'яўляюцца паланізмамі ці аформлены пад польскія. Борысь (Prefiks., 25) лічыць гэту лексему паўночнапраславянскай (*paxolъ*: *paxolъkъ* 'хлопец, слуга'), утворанай ад дзеяслова *xoliti* 'пясціць, акружаць апекай, клопатамі; трымаць у чысціні'; аднак няяснай застаецца першасная функцыя прэфікса *pa*-. Махэк$_2$ (426—427) мяркуе, што *pa*- надавала іранічны характар слову *pa-xol-ę*. Фасмер (3, 221) таксама вылучае прэфікс *pa*-, а -*xolkъ* супастаўляе з серб.-ц.-слав. *хлакъ* 'нежанаты', ст.-рус. *холокъ* і звязвае іх з *холóп, холýй*.

**Пахóннасць** 'адхон, спад гары, берега' (нясв., слаўг., Яшк.). Беларускае. Відаць, утварылася шляхам кантамінацыі лексем *пахілы* і *наклоннасць* ці $^+$*склоннасць*.

***Пахоп,** *пахопам* 'спешна', ст.-бел. *похопъ* 'ахвота, жаданне' (1538) запазычана са ст.-польск. *pochop* 'імклівасць', 'руплівасць, ахвота, жаданне', 'пачатак', 'імпульс', 'пачынанне' (Булыка, Лекс. запазыч., 134). Аналагічна *пахопна* 'похапкам, спешна' (в.-дзв., Сл. ПЗБ; КТС — Сагановіч) з польск. *pochopnie, pochopno* 'хутка, лёгка, кемліва'.

**Пахоў,** *паховы* 'пахаванне нябожчыка', 'пограб, склеп' (Др.-Падб., Гарэц.; гродз., Яшк.; Нік., Очерки). З польск. *pochów, pochowa* 'тс'. Ашм. *паховіны* 'пахаванне' (Сл. ПЗБ) і *паховы* (вышэй) утвораны паводле мадэлі бел. неафіцыйных, прыватных святаў (*адведзіны, мyровіны* і інш.). Да *па*-<прасл. *po*- і *хавáць* (гл.).

***Пахоўрыць,** *похóўрыць* 'абыякава папрасці' (ТС). Да рус. пск., цвяр. *хóвра* 'разява', 'неахайны', пск. 'непаваротлівая жанчына', якое Фасмер (3, 252) звязвае з *ховря, хавронья* 'свіння'<ад імя ўласнага *Хавронья, Февронья*, якія з с.-грэч. *Φεβρωνία*.

**Пахрáка** (зневаж.) 'нахабнік' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Да *па*- (<прасл. *po*-) і рус. *хряк* 'кныр' (<гукапераймальнае — ад *хрю-хрю*>*хрюкать* 'рохкаць'.



**Пахрáпаць** 'паламаць' (Касп.). Да *па*- і *храпаць* 'біць ламаць', якое з гукапераймання *храп*! Паводле Гараева (Доп., 1, 54), яно генетычна звязана з *хруп, хрупкий* 'крохкі'.

**Пахрасні́,** *пъхрясні́* 'лыкавыя лапці з заплеценым верхам' (віц., Хрэст. дыял.; Інстр. III, Малч.). Да *па*- і *хрэст* (гл.). *Пахрасні́* — лапці касога пляцення: *коса*='накрыж'.

**Пахрасці́цца** 'прарасці, папускаць храсткі да ўсходу' (КЭС, лаг.; ганц., карэліц., дзятл., віл., ст.-дар., слуц., Сл. ПЗБ). Да *па*- і *храсток* 'парастак (бульбы, гуркоў і інш.)'.

**Пахт** 'арэнда (кароў, саду)' (Др.-Падб.). З польск. *pacht*, якое з ням. *Pacht*, а апошняе з народнай лаціны *pacta* (мн. л.) 'дагавор', 'падатак' (SWO, 1980, 540)<лац. *pactum* 'дамоўленасць, дагавор'.

**Пахтáць** 'біць масла' (маст., Сцяшк. Сл.). З рус. (паўн., усх.) *пáхтать* 'тс', арханг. *пёхтать* 'тс', якія з фін. *pyöhtää*, алан. *püöhtä*- 'тс' (Каліма, Ostseefin., 184) або з фін. *pahtaa* 'згушчаць, застываць' (Праабражэнскі, 2, 30).

**Пахýк** 'яечка' (віл., Сл. ПЗБ). З $^+$*пахвук*, якое да *пахвá*, *пáхвіна*<*пáха* (гл.).

**Пахулі́ць** 'даручыць' (б.-каш., Мат. Гом.). Да *па*- і рус., ц.-слав. *хулити* 'абвінавачваць, ганіць, знеслаўляць', *хулá* 'паклёп, абгавор', якія, аднак, на беларускай тэрыторыі набылі працілеглае значэнне, параўн. *хулá табе, Божа* 'хвала, слава' (Касп.)<прасл. *xula* (*xuliti*), роднаснае з *xvala*<і.-е. **sou-l-*: *su̯-ŏ-l*- (гл. Трубачоў, Эт. сл., 8, 115), гл. *хвалі́ць*. У б.-каш. *пахулі́ць* таксама маецца перанос значэння ў станоўчы рэгістр 'даручыць, дазволіць (пільнаваць сад)' (гл. крыніцу).

**Пахутравáць** (вокны) 'забіць' (браг., Мат. Гом.). З $^+$*пафутравáць* — *зрабіць футрыну*; апошняе з польск. *futryna*<*futro*<ням. *Futter* 'кажух'.

**Пахýчка** 'мята вадзяная, Mentha aquatica L.' (маг., Кіс.; глус., Янк. Мат.; Касп.; шчуч., Сцяшк. Сл.), 'мацярдушка звычайная, Origanum vulgare L.' (лельч., Мат. Гом.). Да *пáхнуць* (гл.). Аналагічна ўтвораны, напрыклад, польск. *pachnotka* 'Perilla', 'Pervillea', *pachniotka* 'Triguera', чэш. *voňavka* (<*voněti* 'пахнуць') 'дзерачка пахучая, Asperula', 'пахучы каласок, Anthoxanthum' і інш.

**Пáхці** 'смярдзець' (раг., Сл. ПЗБ). Да *пах* (гл.). Аб суфіксе -*ці* (замест -*чы*) гл. Карскі, 2—3, 276—279.

**Пахцюрэ́** 'кіпцюры' (Сцяшк.; шчуч., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі лексем *пазногці* і *кіпцюры* (гл.).

**Пац**$_1$ 'аплявуха' (Нас., Гарэц.), *пáцаць* 'біць', *пáцнуць* 'ударыць па твары' (Нас.). Укр. *пáцати* (*ногами*) 'лежачы на жываце, біць нагамі', польск. *pac, paca, pacnąć* 'аб удары', чэш. *pác, pácat, pácnouti* 'біць', славац. *páckat'* 'наносіць удары', серб.-харв. *пăцка* 'розга, дубец', 'біццё па руцэ лінейкай',

*пацкати* 'секчы дубцом, розгай', славен. *pacáti* 'няправільна іграць'. Для апошніх Скок (2, 583) крыніцай запазычання называе баварсканям. *Batzen* 'удары па руцэ'. Аднак Махэк₂ (425) чэш. *pácnout* і інш. разглядае як варыянт звонкага чэш. *bácnouti*, мар. *bácat* 'грукаць, біць' і выводзіць для іх прасл. інтэнсіў *bacati*, якое ўтварылася ад прасл. *batati* (пры дапамозе *-s-*), роднаснага з лац. *battuo* (>італ. *battere*, франц. *battre*) 'біць' (гл. Махэк₂, 41). Але звонкі варыянт распаўсюджаны шырэй: Трубачоў (Эт. сл., 1, 118—119) уключае ў гняздо *bacati (sę)* таксама *bocati (sę)*, рус. *буцать*, укр. *буцати*, серб.-харв. *бецати*, славен. *bôdcati*, *bacníti* 'біць, штурхаць', славац. *bicat'* 'біць, бухаць', а таксама балг. *бóцам* 'калю, паколваю'<ст.-балг. *бодьцаж*, якое Геаргіеў (БЕР, 1, 70) рэканструюе як прасл. *bodьcati* і супастаўляе яго з лац. *fodico* 'паколваць'(<і.-е. **bhod-ik-ājō*). ЕСУМ (1, 154) услед за Махэкам выводзіць прасл. форму як *s*-інтэнсіў (*bat-s-ati*) ад асновы *bat-* 'біць', прызнаючы мала пераканаўчым тлумачэнне *бац* як гукапераймальнае (Бернекер, 1, 37; Праабражэнскі, 1, 20).

**Пац₂**, *пацýк* 'грызун Rattus rattus і Rattus norvegicus' (ТСБМ, Нас., Мядзв., Мал., Яруш., Гарэц., Шат., Касп., Сцяшк.; КЭС, лаг.; воран., Шатал.; слонім., Арх. Бяльк.; чэрв., смарг., шальч., Сл. ПЗБ; Мат. Гом.; ТС). Укр. *пацюк, боцýк* 'вадзяны пац', бойк. *пацá морське* 'марская свінка', рус. паўд. *пац, пацю́к, пасю́к* 'вялікі хатні пацук, Mus decumanus'; польск. *bac* 'тс', серб.-харв. *пáцов* 'пац', н.-луж. *batś, batšo* 'пакладаны вяпрук', славен. *pâce, pácek* 'парасё', *pâčej* 'кабан'. Не зусім ясна. Фасмер (3, 222) услед за Праабражэнскім (2, 30) выводзіць рус. лексему *пацю́к* з гукапераймання. Трубачоў (Происх., 68—69) мяркуе, што назвы парасяці, свінні, кабана ва ўкр. і паўд.-слав. гаворках звязаны з падзыўнымі словамі: укр. *паць*, славонск. *packo*, далмац. *páce*. На думку аўтараў ЕСУМ (1, 154), гэта слова паходзіць ад прасл. асновы *bat-* з першасным значэннем 'збіты, звалены'; прыводзіцца аналогія з рус. *боров*, якое ад *борóть*. Назва з парасят была перанесена на пацукоў паводле знешняга падабенства. Гл. яшчэ Зданцэвіч (LP, 8, 1960, 345). Сюды ж кам. *пацáнка* 'кавалак сала на дубчыку, спечаны на агні' (Сл. Брэс.)<*пацá* 'свінка, парасё'. Аналагічна польск. *pacanka* 'сала, падсмажанае над агнём'.

**Пацалýйка** 'той, хто любіць цалавацца' (Нас.), *пацалýйкі* 'дзень на пасхальным тыдні, калі дзяўчаты прыходзяць з падарункамі да сваіх павітух' (маг., віц., Нас.). З рус. *поцелуй*, якое паходзіць з формы 2-й асобы загаднага ладу ад *поцеловать*. Аб суфіксе *-ка* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 46; аб суфіксе *-кі* там жа, 48.

**Пацалýнак** 'дакрананне вуснамі' (ТСБМ, Касп.). З польск. *pocałunek* 'тс', якое з дзеяслова *po-całować*, а гэта — з прыметніка *cały* 'цэлы'<прасл. *cělъ*>*cělovati* 'вітаць, здароўкацца'.



**Пацалýшніца** 'улюбчывая жанчына' (ашм., Сл. ПЗБ). Утворана з дзеепрыметніка +*пацалýшчы* (параўн. *пахадзюшчы*); аб суфіксе *-ніца* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 55. У спалучэнні *-шч-ніца -ч-* выпала.

**Пацáн** 'малое' (Яшк., Назвы). З рус. жаргоннага (прастамоўнага) *пацáн* 'падлетак', якое, паводле Трубачова (гл. Фасмер, 3, 222), утворана пры дапамозе экспрэсіўнага суфікса *-ан* ад паўд.-рус. *пацю́к* 'парасё', 'пацук'. Больш імаверна Абаеў (Зб. Леру-Сплавінскаму, 9), які выводзіць рус. *пацáн* 'хлопчык' з арм. *patani* 'падлетак'. Сюды ж кантамінаванае тураў. *пацанéц* 'хлапец' (ТС).

**Пацапéшка** 'кошык, кашолка' (Касп.). Рэгіяналізм. З рус. (?) *пацапíць* 'пачапіць' (>+*пацапеха*), якое з прасл. *cěpiti* II 'чапляць'<*cěpiti* I 'расшчапляць' (Трубачоў, Эт. сл., 3, 185—186)<і.-е. **skoip* (Петарсан, KZ, 46, 1914, 130).

**Пацвярджэ́нне** 'тое, што пацвярджае' (ТСБМ), *пацвяржэ́нне* 'тс' (Нас.). Кніжнае слова, якое прыйшло з ц.-слав. *подътвердити (подътвержѫ)*. Не выключаны і ўплыў польск. *potwierdzenie* 'тс'.

***Пáцебнік**, *пáцібнік* 'дровы з тонкага лесу, не таўсцей, як калок' (КЭС, лаг.), слаўг. *пóцябнік* 'драбналессе' (Яшк.). Да *пáцепнік* (гл.).

**Пáцеж**, *пáцеч* 'прамывіна ў лёдзе на стрыжні ракі' (ТС). З польск. *pacierz* 'хрыбетнік'. Другое слова *пацеч* аформлена пад уздзеяннем народнай этымалогіі да *цячы*, параўн. рус. *течь* (назоўнік).

**Пацелю́паць**, *пацялю́паць* 'папаласкаць' (добр., Мат. Гом.). Прыйшлі, відаць, з рус. (паўд., зах.) *телепáться* 'матляцца, звісаць' ці з укр. *потелепáти* 'патрэсці', *потелепáтися* 'пацягнуцца, пайсці куды-небудзь', якія Фасмер (4, 38—39) тлумачыць гукаперайманнем, звязваючы са *шлёп, шлёпаць* (гл.).

**Пацеміць** 'заўважыць, прыкмеціць здалёку' (Яруш.). У выніку семантычнага пераносу ў дзеяслова *ця́міць* 'разумець'. Як і рус. *тя́мить* 'тс', *тям* 'розум, памяць', а таксама ўкр. *тя́мити* 'кеміць' пад уплывам *кéміць* 'тс'. Гараеў (383); Петарсан (Ar. Arm. St., 136); Фасмер (4, 141) лічаць роднаснымі да ўсх.-слав. лексем ст.-грэч. τημελέω 'клапачуся, ахоўваю', τημελής 'дбайны, руплівы'.

**Пацéпваць** 'час ад часу злёгку сцепаць, рабіць сутаргавыя рухі (звычайна плячамі)' (ТСБМ), *пацéпацца* 'чухацца' (пух., Сл. ПЗБ), *цéпацца* 'уздрыгваць' (ТС), драг. *тыпстэ́* 'настойліва трэсці' (Лучыц-Федарэц). Да *па-* і +*цепці, цепаць*, параўн. укр. *тíптися* 'трэсціся (едучы на возе)', *тептú*, рус. *тептú* 'біць', польск. *tepać*, н.-луж. *śepaś*, в.-луж. *ćepać*, чэш. *tepati* 'біцца,

стукаць, пульсаваць', 'чаканіць', славац. *tepat'*, славен. *tepsti* 'біць, таўчы, ударацъ', 'душыць адзін аднаго', 'біць бізуном, дубцом', серб.-харв. *по̀тепати се* 'пабіцца з кім-небудзь', *потѐпсти се* 'тс', 'спаткнуцца', ц.-слав. *тети (тепу)*. Прасл. *te(p)ti, tepǫ*. Гукапераймальнае: аснова *tap-* маецца ў цюркскіх і ўграфінскіх мовах, (з перастаноўкай зычных) у ст.-грэч. πατάξω 'біць, ударацъ', 'разбіваць (войска)' (Фасмер, 4, 44—45; Махэк$_2$, 640).

**Пацéпліць** 'вытапіць (грубку)' (Нас.; мядз., паст., Сл. ПЗБ). Рус. *потéплить* (свечку перад іконай) 'запаліць, каб свечка пагарэла, а потым пагасіць яе'. Да *цяпло́, цёплы* (гл.). Магчыма, гэта калька-балтызм, параўн. літ. *šìldyti, apšìldyti* 'апальваць, тапіць' — *šil̃tis, šilumà* 'цяпло'.

**Пáцепнік,** *пáціпнік, пáцапнік, пáцяпнік, пáцемнік, пацэпнік, поцепнíк* 'драбналессе, хмызняк, кусты', 'густы невялікі лес' (Нас., Мядзв., Юрч., ТС), слаўг. *поцябнік, поцяпнік* 'тс' (Яшк.), 'дробныя, абцярэбленыя сукі; дробныя дровы з парасніку' (Нас.; маг., Яшк.), 'дробны лес, які застаўся на месцы высечанага лесу' (Касп.). Беларускае. Утворана, як і *па-рас-нік* 'малады лес'. У якасці роднасных іншаславянскіх лексем можна ўказаць польск. *ciepać, cierpnąć, ćpać, ćpić* 'кідаць, кінуць, ціснуць', 'ударыць', 'махнуць' (параўн. фразу: *Глядзі, які лес вымахаў!*), якія можна зблізіць семантычна са значэннем бел. слова 'дробныя, абцярэбленыя сукі, дровы'. Другая група значэнняў 'драбналессе, густы, невялікі лес на месцы высечанага' працягвае семантыку літ. *stiẽptis* 'выцягвацца, цягнуцца ўверх', лат. *stiepties* 'тс', 'расці' пра хуткі рост. У гэтым выпадку можна бачыць балтызм.

**Пáцер,** *пáцеры, пáціры* 'малітва наогул і асабліва «Ойча наш»' (Нас., ТСБМ, Яруш., Кліх, Мядзв., Др.-Падб.; мін., гродз., Шн. 2; Сл. ПЗБ), 'ружанец, пацеркі, з якімі моляцца' (Сцяшк.), ст.-бел. *пацеръ, патеръ* 'тс' (1516 г.) запазычаны са ст.-польск. *pacierz, pacierze* 'тс', якое прыйшло (у X ст.) са ст.-чэш. *páteř*, дзе азначала лац. малітву, што пачынаецца словамі *pater noster* 'Ойча наш'. Пазней, калі малітваў чыталі некалькі, іх адлічвалі на ружанцы — пацерках (шарыках з ружовага дрэва, нанізаных на нітку). Таму пазней *pater noster* стала азначаць 'адна пацерка', а выраз скараціўся да *pater*. Адсюль паходзіць і *пáцерка* (гл.) (Насовіч, 395; Брукнер, 390; Махэк$_2$, 437; Шцібер, RÉS, 1961, 39, 8; Булыка, Лекс. запазыч., 180).

**Пáцерка,** *пáцаркі, пáцеркі, пацёркі, пацюркі, пáтэркі,* малар. *пацёры* 'каралі з бурштыну ці шкла' (ТСБМ, Нас., Шпіл., Гарэц., Яруш., Дзмітр., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.; слонім., кобр., гродз., Шн. 3), бяроз. *патёркі* 'сукаратка' (Шатал.), *пацюровáти* 'маліцца па-яўрэйску' (Бес.). Да *пáцер* (гл.).



**Пацéрхнуць** 'здранцвець' (іўеў., Сл. ПЗБ). Узнікла ў выніку кантамінацыі літ. *tir̃pti (tirpstù)* 'дранцвець' (параўн. і лат. *tirpt, tìrpstu* 'нямець') і бел. *шэрхнуць* (гл.).

**Пацéха,** *потéха, уцéха* 'забава, задавальненне, смех, весялосць' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Касп., ТС; бяроз., Шатал.), *пацéшыць* 'парадаваць', 'падгадаваць, выкарміць вепрука' (Юрч., Касп., Ян.; дзятл., Сцяшк. Сл.), *пацяшэ́нне* 'суцяшэнне' (Нас.). Укр. *потíха*, рус. *потéха, утéха* 'радасць', польск. *pociecha, uciecha*, чэш. *těcha, útěcha*, славац. *techa, útecha*, славен. *utȇha*, серб.-харв. *ӱтјеха, ӱћеха*, макед., балг. *утеха*, ст.-слав. **оутѣха** 'суцяшэнне', 'заахвочванне, перакананне, угаворванне'. Прасл. *-tě̂xa* (якое ад *tě̂šiti*<і.-е. *tois-ī-tei*), роднаснае з прыметнікам *tixъ*>*ціхі* (гл.). (Фасмер, 4, 54; Махэк$_2$, 642). Гл. таксама *цéшыць*.

**Пацёгаць** 'падаіць' (астрав., Сцяшк. Сл.). Да польск. *ciągać* 'цягнуць, цягаць (за цыцкі каровы, казы)' з выпадзеннем насавога элемента [ŋ].

**Пацёк,** *пацёкі, поцёк* 'рагі, струменьчыкі, ручаі', 'зацёкі', 'крованадцёкі' (Нас., Грыг., Юрч., Сл. ПЗБ, Ян., ТС; в.-дзв., Шатал.), *пацёкі, поцяк(і), поцягі, пацягвіны* 'мокрае месца, тонкія ручайкі на крынічным месцы' (слаўг., Яшк.). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *цячы* (гл.). У лексемах з *-г-* (замест *-к-*) уплыў народнай этымалогіі — ад'ідэацыя з *цягну́цца*.

**Пацёмак** у выразе *ў пацёмку* 'цемра, цемната' (бялын., Янк. Мат.), *пацёмкі* 'тс' (Грыг.), *пацёмку* 'на змярканні, цёмна' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Укр. *пóтемки* 'у цемнаце', рус. *потёмок, потёмки, потёменки, потемёнки* 'тс', 'ноч', польск. *pociemek* 'цемра, змрок, цень' (прыклады з «Бібліі Брэсцкай» і «Статута Літоўскага» (1698 г.), *pociem* 'цемра, змрок, цень' паўн.-слав. *po-tьm-ъkъ, po-tьm-ъ*. Да *па-* (<прасл. *po-*) і *цьм-: цьмяны, цёмны* (гл.). Можна дапусціць, што з польск. *pociem* мог утварыцца прыметнік $^{+}$*pociemny*, ад якога ваўк. *пацёмнік* (Сл. ПЗБ). А іўеў. *пацёмкаваты* 'маўклівы, пануры' (Сцяшк. Сл.) — да *пацёмак*.

**Пацёнґлавы** 'прадаўгаваты' (астр., гродз., Сл. ПЗБ). Паланізм. Параўн. польск. *pociągławy* 'трохі выцягнуты, прадаўгаваты'. Гэтаксама шчуч. *пацёнглы* 'худы' (Сцяшк. Сл.) з польск. *pociągły* 'падоўжаны, выцягнуты'.

**Пацёркі** 'мальва пагрэбаваная, Malva neglecta Wallr.' (брэсц., Кіс.), *пацёрнік* 'мальва лясная, Malva silvestris L.' (Бейл.). Укр. *пацорки*, чэш. мар. *páterčí, paternuze*. Да *пáцеркі, пацер* (гл.). Аб называнні расліны словамі, якія абазначаюць невялікія, круглыя прадметы, гл. Махэк, Jména rostl. 147.

**Пацёс** 'столь' (Сцяшк., слонім., Арх. Бяльк.; маст., Сл. ПЗБ; бар., Сл. Брэс.; зэльв., свісл., Шатал.). Да *па-* (<прасл.

*ро-* са значэннем 'пашырэнне выніку дзеяння') і *цёс*, якое з ⁺*цясáць* (замест яго ў бел. літар. мове замацаваўся дзеяслоў *часáць*, і ад якога засталіся *цясак, цяслá, цясляр* і да таго пад.). Да прасл. *tesati*. І.-е. адпаведнікі: літ. *tašýti* 'часаць (дрэва)', ст.-інд. *tákṣati, takṣṇóti, tā́ṣṭi* 'ачэсвае, цяслярыць', *tákṣā* 'цясляр', авест. *tašan-*, ст.-грэч. τέκτων 'тс', лац. *texō-, -ere* 'ткаць, плясці, будаваць', ст.-в.-ням. *dehsala*, ірл. *tāl* (<**tōkslo-*) 'цяслярская сякера' (Фасмер, 4, 50). Сюды ж свісл. *пацёсіна* 'дошка ў столі' (Шатал.).

**Пацёхціся** 'пачаць расці' (пух., Сл. ПЗБ). З пух. *цёхці* 'цягнуць' (там жа), якое з *цёгці* 'тс'. Да прасл. *tęg-nǫ-ti*> бел. *цягнýць*. Форма *цёгці* ўтварылася паводле ўзору *могці* 'магчы', *лягці* 'легчы'. Спрацаваў у адваротным кірунку закон якання: *-я-* (у *цягнуць*) у І складзе перад націскам і *-ё-* пад націскам, хаця гістарычна тут павінна было б быць *-я-* (з прасл. *-ę-*), як *пяць, мяса, цягнуць* і інш. Развіццё семантыкі: 'цягнуцца'>'пачаць расці'.

**Пацілягаць** 'памыць абы-як' (віл., Сл. ПЗБ). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад рус. *телéга*. Семантычна *пацілягаць* адэкватнае рус. *повозúти*, напр., у выразе *повозить тряпкой туда-сюда* 'нядбайна памыць'.

**Пáціна** 'зеленаваты налёт на паверхні прадметаў з медзі і бронзы' (ТСБМ). Праз рус. *(пáтина)* з італ. *patina* 'тс'. Роднаснае да *патына* (гл.).

**Пацінік** 'асоба, якая падслухоўвае, падглядвае' (КЭС, лаг.). Утварылася ад ⁺*патаéмнік*, якое пры ад'ідэацыі выразу *па цямнé* 'калі цёмна' відазмянілася ў ⁺*пацямнік*>*пацінік*.

**Пацíра** 'страта' (чэрв., Сл. ПЗБ), кліч. *пацір* 'страта парасят ад недагляду' (Жыв. сл.). Утворана ад дзеяслова ⁺*пацірáць*, параўн. в.-дзв. *пацірáць* 'згубіць' (там жа), у якім *-і-* узнікла ў выніку рэдукцыі *-е-*: рус. *потерять*, укр. *теряти*, ст.-рус. *терѧти* 'разбураць, спусташаць', *потерѧти* 'загубіць, знішчыць'. У якасці роднасных слоў Фасмер (4, 50) прыводзіць серб.-ц.-слав. *тѣряти* 'праследаваць, праганяць, абвінавачваць, імкнуцца', балг. *терам* 'ганю, падганяю', славен. *terati* 'катаваць', серб.-харв. *тjȅрати* 'забіваць', чэш. *těr*: крканошск. 'рэз ствала ўпоперак', *potěr* 'малькі', 'апалонікі', 'крухмаленне', а таксама *potři-ti* 'перамагчы, пабіць, адольваць, знішчыць'. Да *церці, тру* (гл.). Сюды ж карм. *паціранка* 'згубленая рэч' (Мат. Гом.).

**Пацірáч** 'ручнік' (Мат. Гом.), смарг. *пáцірык* 'тс' (Сл. ПЗБ), *пацірáха* 'тс', 'ануча для мыцця падлогі' (Мат. Гом.), *пацірка* 'ануча, ручнік для посуду' (Касп.). Утвораны ад дзеяслова *po-tira-ti* 'выціраць', у якім *ро-* мае значэнне 'паступовасць і шматразовасць дзеяння'. Да *цéрці* (гл.).

**Пацíхай** 'ціха' (слуц., Сл. ПЗБ). Да *па-* і *ціха* (гл.). Канчатак (суфікс) *-й*, відаць, пад уплывам прыслоўя *ўпотай*. Не выключана, што гэта суфікс параўнальнай ступені прыслоўя (як *пярвей, няйначай, раней, лепей*).



**Пáцкаць** 'пэцкаць, мараць' (Нас.), *пацкацца* 'пэцкацца' (ТС). Да *пац, пáцаць* 'біць' (гл.). Параўн. польск. *pacać* 'ляснуць, ляпнуць (фарбай)'. Утворана пры дапамозе памяншальнага суфікса *-k-*.

**Пацмéнкі** 'басаножкі' (глус., Мат. Маг.). Няясна. Відаць, кантамініраваная назва, першая частка якой з'яўляецца роднаснай да польск. *patynka, patynek* 'туфлі' ці рус. *ботинок* 'чаравік'.

**Пáцнуцца** 'стукнуцца, трэснуцца' (ТС). Да *пац*₁, *пáцаць* (гл.). Параўн. таксама польск. *pacnąć* 'ляснуцца, упасці на зямлю, плюхнуцца'.

**Пацóпаны** 'дурнаваты' (хойн., Мат. Гом.), а таксама ў выразе: *мяшком пацопаны* 'тс' (Ян.). Да *цопаць* 'стукнуць', 'ударыць плазам, далоняй' (гл.), якое на Палессі семантычна некалькі адрозніваецца ад бел. літар. *цопаць* 'хуценька хапаць рукамі і пад.' (ТСБМ). Гукапераймальнае (ад *цоп!*).

**Пацубáйла,** *паціпáйла, пацюпáйла, пачупáйла* 'гультаяваты, марудлівы' (паст., лаг., пух., ігн., гродз., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *račiupáila* 'маруда' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 472).

**Пацубéнькаць** 'пагаманіць' (добр., Мат. Гом.). Гукапераймальнае. Параўн. аналагічныя гом. *падудýкаць, пакугíкаць* 'тс' (там жа), а таксама ўкр. *поцвéнькати* 'пагаварыць на незразумелай мове', *поцвірíнькати* 'пацвыркаць'.

**Пацугáцца** 'пагушкацца' (дзятл., Сл. ПЗБ). Да *цугайкі* 'арэлі' (там жа). Утварэнне, аналагічнае да драг. *гóйдашка, гóйдалка* 'тс' — *погóйдатыся*. Прэфікс *па-*<прасл. *ро-* са значэннем меры.

**Пацýка** 'крупнік' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Не зусім ясна. Магчыма, у выніку кантамінацыі лексем *пасока* (гл.) і *цюра*, якое з балт. моў (параўн. літ. *tỹrė* 'каша') — пра апошняе гл. Трубачоў (Slavia, 29, 1960, 28).

**Пацýпаць** 'падрабіць зубамі' (А. Усціновіч, вусн. паведамл.). Да *па-* і ⁺*цупаць*, апошняе — гукаперайманне, параўн. дзятл. *цýпацца* 'гойдацца' (Сцяшк. Сл.), чэш. *cupati* /*dupati*/ *ťupati* 'чаканіць крок', славен. *cipati* 'цяжка ступаць'.

**Пацурбáлак** 'цурбалак' (стаўбц., Нар. сл.). Да *па-* і *цурбáлак* 'тс', *цурýбалы* 'сцёблы раслін' (гл.).

**Пацýрыць** 'прагнаць' (стаўб., Нар. сл.). У выніку кантамінацыі лексем *турыць* 'гнаць', *цýрыць* 'кідаць' і, магчыма, *цýрка* 'палка'.

**Пацурыць,** ушац. *пъцурыць* 'паразбіваць на дробныя асколкі' (Нар. лекс.). Да *па-* і *цурыць* 'кідаць', якое з'яўляецца род-

насным да літ. *kiáuras* 'дзірка', лат. *caũrs* 'дзіравы', с.-н.-ням. *schore* 'трэшчына, пералом' (Мюленбах — Эндзелін, 1, 365; Фасмер, 4, 387).

**Пацухмо́ліць** 'памусоліць' (слонім., Сцяшк. Сл.). Да *па-* (<прасл. *po-* са значэннем 'пашырэнне дзеяння па ўсёй плошчы') і *цух-мол-іць*, у якім першая частка ўзыходзіць да ням. *zucken* 'торгаць, біцца, дрыжэць, матляцца', а другая складаецца з экспрэсіўнага нарашчэння асновы *-м-* і *-ол-*, параўн. *крамзолі — крэмсаць, мусоліць*.

**Пацые́т,** *пацыя́т* 'франтон' (Сл. Брэс.; свісл., Сцяшк. Сл.; пін., Шатал.; драг., іван., пін., лельч., нараўл., мазыр., ДАБМ, к. 230). Праз польскую мову (параўн. польск. *facjata* 'мансарда', 'сярэдняя частка франтальнай сцяны будынка, высунутая за гзымс', 'твар, морда', ст.-польск. 'выгляд') з італ. *facciata* 'фасад'. Аб мене *ф*>*п* у бел. гаворках гл. Карскі, 1, 343.

**Пацые́нт** 'хворы ў адносінах да ўрача' (ТСБМ). Праз польск. *pacjent* ці рус. *пацие́нт* з лац. *patiens*, Род. склон *patientis* 'які пакутуе'<*patior* 'цярплю' (Сл. иностр. слов, 1988, 377; SWO, 1980, 540).

**Пацыка́ць** 'злаваць' (жытк., НС), *пацыка́ць* 'дражніць' (хойн., Мат. Гом.), *пацыка́цца* 'дражніцца' (Некр.). Да *па-* і *цы́каць* (укр. *ци́кати,* рус. *цы́кать, цыц!* 'прымушаць маўчаць', польск. *cykać* 'цікаць (пра гадзіннік)', н.-луж. *cykaś* 'шыпець', чэш. *cikati* 'цвыркаць', славен. *cíkati* 'пішчаць, цырыкаць', серб.-харв. *ци̑к* 'шыпенне', *ци́кнути* 'крыкнуць', макед. *цика* 'павісквaць, пішчаць', балг. *ци́кам, ци́кна* 'шчабятаць', 'крычаць', 'плакаць'). Гукапераймальнае (Бернекер, 1, 129; Фасмер, 4, 305—6; Слаўскі, 1, 111).

**Пацырка́ць** 'падаіць' (рэч., Нар. сл.), укр. *ци́ркати* 'доячы, выціскаць струю малака' і інш. слав. матэрыял гл. SP, 2, 92—93. Прасл. *cъrkati*. Гукапераймальнае.

**Паце́пніца** 'памылка, дапушчаная пры ўвядзенні асновы ў бёрда' (пух., Сл. ПЗБ). Магчыма, паланізм. Параўн. малапольск. *pocep, pocepa, podcepnica, pocepka, pocepicha*, малапольск., маз., падляшск. *pocepnica* 'тс'. Не выключана, што гэта архаізм, які генетычна можна аднесці да прасл. *čepati* 'расшчапляць', 'калоць', *cěpъ*: рус. *цеп* 'зеў у аснове, дзе ходзіць чаўнок пры тканні', цвяр. *цепы* 'ніт', польск. *cep* 'памылка, выкліканая тым, што праз ніт разам праходзяць дзве ніткі асновы; славен *cȇp* 'расколіна', балг. *цеп* 'планачка паміж ніткамі асновы пры тканні', *цап* 'планачка для ўтварэння зева ў кроснах' (Трубачоў, Эт. сл., 3, 184—186).

**Пацэтны** 'смешны, мілы' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Відаць, з $^{+}$*facetny*, якое са словазлучэння *facet wesoły* 'тс'.

**Пацюлёзаць** 'памыць абы-як' (паст., Сл. ПЗБ). Экспрэсіўнае ўтварэнне, пабудаванае на незвычайным спалучэнні



гукаў, першасную форму якога цяжка вызначыць. Параўн. падобныя: *цюлю́нкаваты* 'непаваротлівы, марудны, павольны ў рухах', *цюмцяля́й, цямцялёй* 'тс'. Можна дапусціць генетычную сувязь з літ. *tìlžti* 'мокнуць, размакаць', семантыка якога, аднак, аддаленая ад разглядаемага.

**Пацю́паць** 'патаўчы, пацiскаць' (Варл.). Да *па-* і *цю́паць* 'размешваць што-н.', 'павольна ісці', у якім Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 5, 380) бачыць балтызм, параўн. літ. *čiupénti* 'павольна ісці', *ciupà* 'марудны'. Сюды ж *пацюпе́нька* 'нерухавая, няручая дзяўчына' (Варл.).

**Пацю́піцца** 'скурчыцца (ад холаду)' (ваўк., Сл. ПЗБ). Відаць, з $^{+}$*пацюпціцца,* параўн. ваўк. *цю́пціцца* 'імкнуцца да цяпла, укрывацца цёплым' (Сл. ПЗБ),— апошняе Грынавяцкене генетычна звязвае з літ. *čiupà* 'марудны' (там жа, 5, 380), *čiupnà* 'капун'.

**Пацю́хаць** 'пайсці ў роздуме' (карэліц., Сцяшк. Сл.), *пацю́хаць* 'патрухаць' (ТС). Да *па-* і *цю́хаць*, якое з'яўляецца гукапераймальным утварэннем.

**Пацяг$_{1}$** 'імкненне, незалежнае ад волі чалавека' (Варл.). Укр. кіеўск. *по́тяг* 'тс'. З польск. *pociąg* 'тс'.

**Паця́г$_{2}$,** *паця́га* 'тоўстая жэрдка, якая кладзецца паверх шулаў або на падсошкі, ці на козлы пад вільчак' (Юрч.). Польск. вялікапольск. *pociąg* 'маціца, тоўстая бэлька пад бэлькамі столі', серб.-харв. *по̏тег* 'жэрдка, палка'. Прасл. *potęgъ* 'доўгая жэрдка, палка'. Да *цягну́ць* (гл.).

**Паця́г$_{3}$** 'той, хто любіць пацягвацца' (Шат.). Укр. валынск. *по́тяги* 'пацягванне'. Да *паця́гвацца*<*цягну́ць* (гл.).

**Паця́гавіч,** *паця́жывіч* 'адмысловая палка, якой пакручваюць навой пры тканні на кроснах' (КЭС, лаг., Касп.; віл., Сл. ПЗБ; мсцісл., Жыв. сл.; віл., Шатал.; Дэмб. 2). Утворана ад *пацягваць* пры дапамозе суфікса *-авіч*. Параўн. польск., вялікапольск. *pociągacz* 'кій для прытрымлівання навою з асновай'. Сюды ж ганц. *па(ц)цяжка* 'кола з зубцамі ў пярэднім навоі красён' (Сл. ПЗБ).

**Пацяга́нец** 'кажух, пацягнуты сукном' (карэліц., Сцяшк. Сл.), рэч., *пацяга́нка* 'тс', гом. 'аблямоўка ў кажусе' (браг., Нар. словатв.; Мат. Гом., Ян.). Утворана ад *пацягну́ць*<*цягну́ць* (гл.) пры дапамозе суфікса *-анец* (аб ім. гл. Сцяцко, Афікс. наз., 26—27).

**Пацягну́ць$_{1}$** 'ударыць', 'слізгануць па паверхні', 'заступіцца', 'патрабаваць адказу', 'прымаць чый-н. бок' (ТСБМ, Нас., Юрч., Ян.). Да *цягну́ць* (гл.).

***Пацягну́ць$_{2}$,** кам. *потягну́ті* 'патачыць касу' (Выг.). З польск. *pociągnąć* 'тс'.

***Пацягці́,** *поцегці́* 'пацягнуць', 'паплесціся' (ТС). З укр. *потягти́* 'тс'.

**Пацягу́ха** 'дзераза, Lycopodium L. (даўг., Сл. ПЗБ), звязана з паняццем 'цягнуцца, рассцілацца', як і *поцягу́шка* 'спарышнік, Polygonum aviculare L.' (ТС). Аналагічна мар. *vlčoun* (ад *vléci* 'цягнуць').

**Пацяжка** 'паленца' (Шат.). Да *цягну́ць* (гл.), параўн. *пацягну́ць*1 'ударыць' (Юрч.). У такім выпадку *паця́жка* — 'вынік удару'>'абрубак'>'паленца'.

**Паця́жына** 'лагчына, нізкае месца падоўжанай формы' (стаўб., Прышч., дыс.), як і *паця́жкі* 'бакавыя вяроўкі ў сасе, прымацаваныя да аглабель' (Касп.), да *пацягну́ць*<*цягну́ць* (гл.).

**Пацяме́шыць** 'пачухаць' (ашм., паст., Сл. ПЗБ). Да *па-* і *цемя́шыць* 'тс', *цемя́шыцца* 'чухацца', 'варушыцца', 'перавярочвацца з боку на бок' (брасл., ашм., трак., паст., астрав., Сл. ПЗБ), якія збліжаюцца з *це́мя, ця́міць*, а таксама з укр. *тем'я́жити* 'давіць', рус. *темя́шить* 'біць кулаком', польск. *ciemiężyć* 'прыціскаць, душыць' (Міклашыч, 356; Брукнер, 62; Фасмер, 4, 41 і 140).

**Пацяне́чнік** 'гультай' (ганц., Жыв. нар. сл.). Да *па-* і *цянёк, цень* (гл.).

**Паця́піць** 'прызвычаіцца' (смарг., Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Па́цярка** 'божая кароўка' (ваўк., Сцяшк. Сл.). Ад імя *Пётр, Пётра, Пятрук,* +*Петарка,* параўн. аналагічныя назвы ў Шаталавай (З жыцця, 166—178). Назва відазменена паводле знешняга падабенства божых каровак да пацерак, ці нават да пацерак у пацерах (ідэя боскасці).

**Пацяроб,** *па́цераб, поцяраб, поцераб,* стол. *пацярэбак* 'выцераблены лясок, хмызняк' (лях., Янк. Мат.; раг., чэрв., бярэз., Сл. ПЗБ), 'сенажаць, ачышчаная ад кустоў' (Шат., Касп.), *пацяробкі* 'рэшткі, абрэзкі ад бульбы, капусты' (барыс., Сл. ПЗБ). Да *па-* і *церабіць*, якое з прасл. *terbiti* 'чысціць', 'карчаваць' (Міклашыч, 354; Голуб — Копечны, 393; Мюленбах — Эндзелін, 4, 165; Фасмер, 4, 45; Скок, 3, 501—2).

**Пацярпе́нне** 'устрыманне, цярпенне' (Нас.). Паланізм, параўн. устарэлае польск. *pocierpienie*, якое з *pocierpieć* 'пабыць цярплівым, цярпліва пачакаць'.

**Пацяру́ха**, *поцеру́ха* 'пацёртае сена, салома, тытунь', 'дробязнае, не вартае ўвагі' (ТСБМ, Янк. 1, Мал., Гарэц., Кольб., ТС; КЭС, лаг.; беласт., чэрв., Сл. ПЗБ), брэсц., драг. *потыру́ха, путэру́ха* 'адыходы ад сена, саломы' (Сл. Брэс.). Укр. валынск., падольск. *потеру́ха* 'тс'. Да *паце́рці*<*це́рці* (гл.). Аб суфіксе *-уха* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 71.

**Пацярэ́біны,** кобр. *потырэ́быны* 'пахмелле, пахмелкі' (Нар. лекс.). Да *пацяроб* 'рэшткі' (>'спажываць тое, што засталося пасля частавання').

**Пацярэбнік,** (фалькл.) *пацярэбнічак* 'спажывец' (Нас.). Да *церабіць* (гл.), параўн. песню: *Ой, прыехалі пацярэбнічкі, ды цярэбяць, цярэбяць зубочкі.* Фармальна лексеме *пацярэбнік* адпавядае рус. *потребитель.*



**Паця́цца** 'падацца назад' (валож., Сл. ПЗБ), 'хутка габегчы' (ашм., Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, у выніку кантамінацыі дзеяслова *цяць* 'моцна, хуткім рухам ударыць' і дзеяслова *пада́цца* (гл.).

**Пацяўпе́шка** 'тугадумны, някемлівы чалавек' (дзятл., Сцяшк. Сл.; полац., Нар. лекс.). Да *па-* і *цяўпсці́, цяўпці́* 'гаварыць недарэчна', якія з літ. *čiaũpti* 'тс', 'выдумляць', *čiupénti* 'марудна рабіць' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 5, 380 і 394).

**Пачаве́ць** 'раздавіць' (нараўл., Мат. Гом.), *пачаві́ць* 'паціснуць, падушыць' (свісл., Сцяшк. Сл.). Да *па-* і +*чавіць*, параўн. драг. *чавэ́тэ* 'ціснуць', беласт. *чаві́ті* 'душыць, забіваць', 'моцна біць', укр. *чави́ти* 'давіць, мяць', якія з'яўляюцца старым балтызмам, параўн. літ. *čiáupti* 'сціскаць (губы)'.

**Па́чай** 'лепш' (Шат.). Са ст.-слав. **паче** ці царк.-слав. *паче* — параўнальная ступень ад +*пакъ, паки,* ст.-слав. **пакы** 'назад, зноў', якія звязваюцца генетычна з *opaku, opako* 'наадварот', *па́кость,* роднасныя да ст.-інд. *ápākaś* 'збоку, ззаду' (Праабражэнскі, 2, 6; Фасмер, 3, 188).

**Па́чак** 'невялікі пакет чаго-н., складзенага разам', 'карабок запалак' (ТСБМ), пін. *па́чок* 'скрынка' (Сл. Брэс.), ветк. *па́чка* 'запалкі' (Мат. Гом.), *пачо́к* 'пачак' (Ян.), ст.-бел. *пачка* 'пакет' (XVII ст.), якое запазычана са ст.-польск. *paczek, pak* 'тс', 'скрыня'<ням. *Pack, Packen* 'пакет, - звязка' (Булыка, Лекс. запазыч., 193)<флам. *pak*, якія Васэрцыер (166) адсылае да лац. *bāiulus* 'грузчык'<**bagiolos* (Сольмсэн, KZ, 37, 22).

**Пачака́льня** 'чакальня' (ТСБМ). З польск. *poczekalnia* 'тс', 'прыёмная'.

**Пачака́нка** 'чаканне' (Шпіл., Нас.), *пачака́нне* 'тс' (Яруш., Нас.). Да *чака́ць* (гл.). Прыстаўка *па-* пад уплывам польск. *poczekać, poczekanie* 'тс'.

**Пачапа́ць** 'начапляць, нанізаць, панавешваць' (Нас.). З польск. *poczepiać* 'паначапляць адно за адным, папрычапляць'. Канчатак беларускі (*-аць*).

**Пачапе́йка** 'прывязка, якою прымацоўваецца біч да цапільна' (арш., ДАБМ, 829). Утворана ад дзеяслова *пачапі́ць*, а не *чапля́ць*, параўн. *пачапі́ць* 'прывязаць почапку' (Варл.), пры дапамозе суфікса *-ей(ка)*. Параўн. таксама *пачапе́й* 'почапка ў адзенні' (навагр., Нар. сл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 37.

**Пачапе́нь** 'каромысел' (Касп.). Да *пачапі́ць*<*чапля́ць* (гл.). Аб суфіксе *-ень* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38.

**Пачапе́нька** 'кошык' (лун., Сл. Брэс.). Не зусім ясна (невыразная ілюстрацыя запісу). Можна меркаваць, што да *пача-*

*піць*<*чапляць* (гл.). У такім выпадку гэта быў першапачаткова спецыфічны кошык.

**Пачарэжня** 'чарга пасвіць кароў' (хойн., Мат. Гом.). Утворана ад прыслоўя *пачарэжна* 'па чарзе' (Ян.), як рус. *по-очерёдно*.

**Пачасава́ць** 'пачакаць': у выразе *пачасуй* 'пачакай' (пін., Сб. 1866, Нас.), рус. пск., цвяр. *почасить* 'пачакаць, патрываць з гадзінку', серб.-харв. *по̀часити* 'тс'. Беларуска-руска-сербска-харвацкая ізалекса. Да *па-* і *час* (гл.).

**Па́часваць** 'хвастаць, сцёбаць' (Шат.) — пераноснае з *па́часаваць* 'часаць лён'. Да *па́чассе* (гл.).

**Па́чассе**, *па́часся, па́часі, па́часы, па́часкі, пачоскі, пачосы, па́чосэ, па́часніна, па́часніца* 'другі, горшы гатунак ільну', 'адыходы пры часанні льну, канапель', 'грубы матэрыял з ільну хатняга выра́бу', 'лён пасля апрацоўкі' (ТСБМ, Нас., Гарб., Гарэц., Др.-Падб., Шат., Касп., Уладз., Сл. ПЗБ, Варл., Мат. Гом., Ян.; віц., Шн. 3; гродз., Мат. АС; драг., Лучыц-Федарэц; малар., лун., Сл. Брэс.). Укр. *па́чо́си, пачіскú*, рус. *па́чеса, па́чесь, па́чеси, па́чески*, пск. *па́чесье;* польск. *pacześ, paczesie, paczesi, paczosy, paczeski*, в.-луж. *pačosy* 'тс', чэш. *pačes(y)* 'кудлы', *pačíska* 'пачассе', славац. *pačesy* 'адыходы пры часанні льну'. Паўночнаславянскае. Да *па-* і *часа́ць* (гл.)<прасл. *česati*<*česti* (Трубачоў, (Эт. сл., 4, 85—87; Трубачоў, Ремесл. терм., 83).

**Пачасту́нак** 'частаванне', 'тое, чым частуюць' (ТСБМ). З польск. *poczęstunek* 'тс', якое да *czestować*<*cześć* 'гонар' (параўн. рус. *чествовать* 'ушаноўваць'), але ўжо ў XV ст., *cze-* змянілася ў *czę-* пад уплывам *część* (Патабня, РФВ, 3, 181).

**Пача́ся** 'спазніўся' (Варл.). З польск. *po czasie* 'са спазненнем, пасля ўсяго'.

**Пача́так,** *пача́ток* 'месца, з якога што-н. пачынаецца, першы момант дзеяння, з'явы', 'аснова, крыніца, сутнасць чаго-н.' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Шат., Касп.; ашм., Сл. ПЗБ), 'незапячатаны мёд' (Анох.), 'верацяно, цалкам запоўненае напрадзенымі ніткамі, на якое наматваюцца ніткі з меншага верацяна' (Нас., Уладз.), 'суквецце з кветкай ці пладом' (ТСБМ). Укр., рус. *поча́ток*, польск. *początek*, в.-луж. *počatk*, чэш., *počátek*, славац. *počiatok*, серб.-харв. *поче́так*, макед. *почеток*, ст.-слав. **на-чѧтъкъ**. Утворана ад прасл. дзеепрыметніка на *-tъ*, дзеяслова *-čęti* і суфікса *-ъkъ*. Да *чыніць* (гл.)< і.-е. **ken-*.

**Пачаткава́ць** 'пачынаць' (Нас.). З польск. *początkować* 'тс'.

**Пачаўпіць** 'патаўчы' (паст., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *čiáupti* 'сціскаць'.

***Пачахліць,** *почэхліць* 'хутка пайсці, пашыбаваць' (ТС). Да *па-* і *чахаць*<прасл. *čaxati* 'знікаць' (Мартынаў, Слав. акком., 124), у якім суфікс *-л-* мае значэнне імгненнасці.



***Пачахры́цца,** лун. *почохры́цца* 'пачасацца', бяроз. *почухры́ць* 'пачасаць' (Шатал.), драг. *почухрэ́тэ* (Лучыц-Федарэц). Параўн. таксама брасл., ігн., даўг., астрав., шальч., трок. *чахра́ць, чохраць* 'часаць (воўну)', *чохры* 'машына для часання воўны' (Сл. ПЗБ), укр. *чухра́н* 'тс', укр. гуц. *чіхра́тий* 'калматы', *чіхра́тися* 'часацца, але не грэбенем', *чу́хати(ся)* 'тс', рус. арханг. *че́хор* 'задзіра', *че́хорный* 'задзірака', польск. *czochrać się* 'калмаціць', чэш. *čechrati*, славен. *čeh(lj)áti, čóhati* 'тс', серб.-харв. *че́хати* 'абшчыпваць, абрываць'. Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *česati*>*часа́ць* (гл.), параўн. валаш. *čechlat'* 'расчэсваць воўну', славац. *čechrat' sa* 'прачосваць валасы', *czechry* 'пачассе' (Махэк₂, 96), польск. *czochrać* 'часаць жывёл'.

**Пачачу́й** 'хвароба капыта каня ад удару' (паўн.-усх., КЭС). З рус. *почечуй* 'ранка', якое Сабалеўскі (РФВ, 66, 347) выводзіць з *потечуй*<*течь* 'цячы'.

**Пачва́ра** 'казачная, страшная істота вялікіх памераў', 'жудасны твар', 'непрыгожы чалавек' (ТСБМ, Нас., Касп., ТС; ваўк., Сл. ПЗБ; барыс., Шн. 2), 'жартаўлівы' (шальч., ігн., брасл., Сл. ПЗБ). Укр. *почва́ра* 'прывід', зах. *по́чвар* 'паскуднае дзеянне, выхадка', паўд.-рус., укр. *прочва́ра* 'тс', польск. *kočwara* 'пачвара', *očwiara, očwiera* 'тс', 'чарадзейка', *poczwara* 'агідная істота, пачвара, страшыдла' (з XV ст.), каш. *počvara* 'тс', 'нягоднік, амаральны чалавек'. Наяўнасць прэфіксальных варыянтаў дае магчымасць разглядаць лексему як *па-чвара*, другая частка якой атаясамліваецца з прасл. *čvariti/čvěriti* 'вярзці лухту, балбатаць, гаварыць незразумела', параўн. бел. *чва́рыць, чво́рытэ, чвэ́рыты, чвэ́рыцца, чвэ́рыць, чвара́* 'паскудства' (гл.), ст.-серб.-харв.*čvara* 'чараванне, варажба', славен. *čvęriti* 'плявузгаць, несці лухту', ст.-польск. *očwiernica* 'нешта страшнае, пачварнае'. Борысь — Слаўскі (SP, 2, 299) дапускаюць гукапераймальнае паходжанне прасл. *čvariti*, а паводле ст.-польск. *poczwa* 'страшыдла', наводзіць на думку пра першасны элемент *čьv-*, які да і.-е. **keu-*. Патабня (РФВ, 3, 171) збліжаў слав. лексемы з літ. *kvaĩsti* 'здагадвацца'. Аднак надзейная этымалогія адсутнічае (Слупскі, ZfslPh, 35(2), 1971, 314). Гл. таксама *патво́р*.

**Пачворны** 'памножаны ў чатыры разы' (Дуж.-Душ.). З польск. *poczwórny* 'тс'.

**Па́чка,** *пачо́к* (м. р.) 'пачак', 'пасылка' (ТСБМ, Сцяшк.), 'група' (ТС). Да *па́чак* (гл.).

**Пачка́** 'нырка' (браг., Мат. Гом.). Да *почка*. Параўн. рус. *почка* 'нырка', якое з *печь* 'пячы', як каш. *povarka*<прасл.

*variti* 'варыць'. Націск на *-ka*, відаць, пад уплывам укр. мовы (параўн. *почки*, Р. скл. *почок* 'ныркі', 'насенне гарбуза').

**Пачканос** 'лілія стракатая, Lilium martagon L.' (Шат.), 'лілія чырвоная, Lilium bulbiferum L.' (мін., Кіс.). Калька з лац. назвы — цыбуляносная, у якім (паводле падабенства) слова *цыбуля* заменена словам *почка*.

**Пачкі** 'амаль' (в.-дзв., доўг., брасл., Сл. ПЗБ; дрыс., Хрэст. дыял.). З рус. *почти* 'тс' (Сл. ПЗБ, 3, 472). Мена *т'*>*к'* адбылася ў сувязі з тым, што ў субстратных балтыйскіх гаворках, як, напрыклад, у сучаснай літоўскай мове, *t'*, *d'* выступалі толькі як алафоны фанем [t], [d], абыякавых да палаталізацыі, таму і замяняліся найбольш блізкімі паводле месца ўтварэння (*k*, *g*), параўн. *гірса — дзірса*.

**Пачманіць** 'пагуляць' (бераст., Сцяшк. Сл.). Балтызм. Параўн. літ. *žmonẽtis* 'гасцяваць'.

**Пачны** 'стравы' (зэльв., Сцяшк.). Не зусім ясна. Відаць, утворана пры дапамозе суфікса *-ь-no* (Слаўскі, SP, 136) ад назоўніка *печ* (<прасл. *pekть*). Мена *пе-* ў *па-* характэрная сакаючым гаворкам: галосная *е* (<*ě*) пасля губных пераходзіць у *-а-*, напр., *баліціса* (з-пад Белавежскай пушчы) 'мыць бялізну' <*běliti sę*, нават *е* (<*e*)>*a*: лун. *пачаніна* 'апёк' (Сл. Брэс.).

**Пачом** 'адкуль, чаму' (Нас.), 'колькі' (бар., Сл. ПЗБ). Відаць, уплыў рус. мовы, параўн. рус. *почём* 'тс'. Узыходзіць да *па-* (<прасл. *po-*) і *чьто* (<прасл. *čьto*, М. скл. *četь*)>*што* (гл.). Параўн. серб.-харв. *почем* 'колькі, па якой цане'.

**Пачонка** 'прыбудова' (пруж., Сл. Брэс.). Няясна.

**Пачопка,** *почапка, почыпка* 'дужка, вяроўка, якая звязвае два вухі ў вядры' (Нас., Мядзв., Грыг., Яруш., Касп., Чач., Гарэц., Некр., Янк., Мат. Гом.; маг., Шн. 2; круп., докш., Сл. ПЗБ; шкл., Мат. Маг.), 'ручка ў карзіне' (Касп.; паўн.-усх., КЭС), 'вяроўкі ў зыбцы' (Нас., Мат. Маг., Мат. Гом.), 'лямка' (Ян.), 'прывязка, якой прымацоўваецца біч ды цапільна' (в.-дзв., лаг., ДАБМ, 829). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *-чапіць*< прасл. *čapati* (аднароднае з *capati* і *xapati*), у якім пачатковае *ča-* ўзыходзіць да *ka-* (Трубачоў, Эт. сл., 4, 17—18). Гл. таксама *чапляць*.

**Пачопісты** 'спрытны' (гродз., Сл. ПЗБ). Відаць, семантычна аформлена пад уплывам польск. *poczepić się* '(з энтузіязмам) узяцца рабіць што-н.'

**Пачоска** 'цяганне за валасы, лупцоўка' (Нас.). Да *часаць* (гл.) у пераносным сэнсе.

**Пачослівы** 'гасцінны' (Касп.). Ст.-бел. *почестливый* (1478 г.) 'шаноўны'. Да *по-чьсть* 'пашана'<прасл. *po-čьstiti* 'аказаць пашану'.

**Пачостка,** *почастка, почостка, почостка* 'частаванне з гарэлкай і закускай, пачастунак' (ТСБМ, Нас., Касп., Кольб., Шат., Варл., Янк. БП, ТС; іўеў., Сл. ПЗБ), круп. *пачоска* 'тс' (Сл. ПЗБ). Укр. *почестка* 'прынашэнне, дар', 'гонар, слава', рус. пск. *почёстка, почёстки* 'пачэснае частаванне'. Усходнеславянскае. Утворана ад прасл. *po-čьstь* (бел. *почасць*, укр., рус. *почесть*, чэш. *počest*, серб.-харв. *пȍчаст*, макед., балг. *почест* 'тс') пры дапамозе дэмінутыўнага суфікса *-ъka*.



**Пачот,** ст.-бел. *почетъ, почтъ, почшть* 'вайсковае падраздзяленне' (пач. XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *poczet, poczt* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 67). З прасл. *po-* і *čьt-*, апошняе да *čisti* 'лічыць' (<*čit-ti*<даслав. **kitō*, **keit-tet* або **skitō*, **skeit-tei*, роднасных да лат. *šķietu, sķist* 'меркаваць', літ. *skaitýti* 'лічыць, чытаць', ст.-інд. *cétati* 'назірае, думае, пазнае, разумее' (Бернекер, 1, 175; Брукнер, 83; Махэк$_2$, 104; Фасмер, 4, 374; Трубачоў, Эт. сл., 4, 119). Гл. таксама *почэт*.

***Пачубаць,** *почубаць* 'пашкодзіць, папсаваць' (ТС). Да *чуб* (гл.); параўн. таксама *чубацца* 'чубіць адзін аднаго', *чубіць* 'біць, тузаць' (ТС).

**Пачуваць** 'адчуваць сябе, прадчуваць' (ТСБМ, Гарэц., Нас., Шат.), *пачуванне* 'адчуванне' (ТСБМ, Нас.). Укр. *почувати, почування*, польск. *poczuwać, poczuwanie*, серб.-харв. *чувати* — ітэратыў прасл. *čuti*>*чуць* (гл.). Прасл. форма з'яўляецца працягам і.-е. **(s)kēu-* 'звяртаць увагу на што-н., слухаць, адчуваць, прыкмеціць, выявіць' (Міклашыч, 37; Бернекер, 1, 162—3; Трубачоў, Эт. сл., 4, 134—136; SP, 2, 295—297).

***Пачугаць,** кам. *почугаты* 'памазаць' (Жыв. нар. сл.). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *чугаць*, генетычна роднаснага да ўкр. *човгати(ся)* 'шоргаць', 'плесціся, цягнуцца', польск. *czołgać się* 'паўзці', каш. *čålgac są*, славен. čω'kac 'тс', прасл. *čьlgati (sę)* 'паўзці, рухацца, як плазуны', да якога роднаснымі з'яўляюцца: літ. *klãgoti* 'ісці цяжка апранутым', англасакс. *hylc* 'паварот', с.-ірл. *celg* 'хітрасць', 'здрада'<і.-е. **kelg-* 'віцца', 'паварот' (SP, 2, 219; Трубачоў, Эт. сл., 4, 141).

**Пачунець** 'папраўіцца' (Касп.). У выніку кантамінацыі лексем *ачунець* (гл. *ачуняць*) і *па-правіцца*. Параўн. таксама *вычуняць* 'тс'.

**Пачура,** *пычура* 'невялікая выемка ў печы' (ганц., Сл. Брэс.). Укр. *пічурка*, рус. *печурка* 'ніша ў печы', польск. *pieczura* 'тс', 'ямка ля коміна для попелу і вугалля', якое, відаць, з усх.-слав. *печура*, утворанага ад *печ* (гл.) пры дапамозе экспрэсіўнага суфікса *-ура* (<прасл. *-ura*). Пачатковае *па-* замест *пе-* (ці *пі-*) — вынік ацвярдзення губных перад *е*(<*ě, e*).

**Пачурацца** 'адмовіцца, адцурацца' (Касп.). Да *цурацца* (гл.). Аб мене *ц*>*ч* гл. Карскі, 1, 363. Пристаўка *па-* замест *ад-* — уплыў балт. моў, параўн. *pa-šaũkti — адклікаць, paneigìmas — адмаўленне, pa-sitráukti, pa-eĩti — адысці.*

**Пачу́ркі**, *пачу́ркы, поцёркы* 'скручаныя вузлы на крутой нітцы' (Уладз.). З польск. сілез. *paczury* 'адходы валакна пры першым часанні жмені льну з боку галовак', якое з **pacz-*, параўн. маз. *paczewie* 'кастрыца'. Далей няясна. Лексема *поцёркы* — у выніку падабенства з пацеркамі.

**Пачу́так** 'адчуванне, настрой' (Сцяшк.) — аддзеепрыметнікавае ўтварэнне з суфіксам *-ак* (аб ім Сцяцко, Афікс. наз., 23 і 82), як *абу́так, збы́так* 'збытае'. Беларускае.

**Пачу́чарыць** 'грызці, абгрызаць што-н. (пра мышэй, трусоў, зайцоў)' (дзярж., Нар. сл.). Да *чу́чарыць* (гл.). Няясна. Магчыма, да прасл. *čučati* 'сядзець на кукішках, сагнуўшы калені', параўн. каш. *čuča* 'верхняя частка завязанага мяшка', 'валасы на галаве жанчыны, сабраныя ў гугель' (<і.-е. *keu-k-* 'крывіць, згінаць, зварочваць'), абцяжаранага суфіксам *-ч-і-* (Борысь, SP, 2, 278). Можна таксама дапусціць утварэнне ад *чу́чарапак* 'ракавіна малюска', 'шкарлупіна выліўка' — гэтак выглядаюць абгрызеныя, паедзеныя караняплоды.

**Пачці́** 'амаль' (вільн., Сл. ПЗБ). З рус. *почти́* 'тс'.

**Пачці́вы**, *пацці́вы* 'паважаны, шаноўны', 'значны' (ТСБМ, Гарэц., Яруш., Грыг., Нас., Касп.). З польск. *poczciwy, poćciwy* 'тс'. Да *po-* і *čьt-/čet-/čit-* (гл. *чэсць, чыта́ць*).

**Пачы́вішча** 'спакой, адпачынак (ад чаго-, каго-н.)' (Нас.), серб.-харв. *почи̏валиште* 'месца адпачынку', 'месца спачыну'. Да *адпачываць* (гл.)<прасл. *počiti*, ітэратыў *počivati* (параўн. укр. *спочива́ти* 'спать', рус. *почива́ть*, польск. *odpoczywać*, н.-луж. *wótpocywaś*, в.-луж. *wotpočować*, чэш. *odpočinouti*, славац. *odpočinúť*, славен. *počíti*, серб.-харв. *по̀чинути*, макед. *почива*, балг. *почи́вам (си)*, ст.-слав. **по̀чити**), якія звязаны чаргаваннем з *pokojь*>*пакой* (гл.). Аб суфіксе *-ішч-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 45—46.

**Пачыгу́ннец** 'пасівераць' (Ян.). Да *па-* і *чыгун* (гл.).

**Пачы́м** 'чаму, адкуль, як' (Нас.). З рус. *почём*, перакладзенага на бел. мову.

**Пачы́н** 'пачатак, зачынанне' (Нас.), слаўг. 'першая сяліба, выселак, вёсачка' (Яшк.). Укр. *почи́н* 'пачатак', рус. *почи́н* 'тс', 'ініцыятыва', чэш., славац. кніжн. *počin* 'тс', 'дзеянне', 'учынак', 'пачынанне', балг. *по́чин* 'пачын'. Утворана ад прасл. дзеяслова *počęti* пры наяўнасці ўжо існаваўшай лексемы *činъ*, якая ўзыходзіць да і.-е. **kᵘei̯-n-u-* 'укладанне пластамі, упарадкаванне'. Паводле Трубачова (Эт. сл., 4, 114), суфікс *-n-* у *činъ* мае выгляд і функцыі першаснага іменнага фарманта, як і *konъ*. Больш падрабязна пра *činъ* гл. SP, 2, 200—201.

**Пачы́на**₁ 'вясло' (бых., ветк., чэрык., Мат. Маг., Мат. Гом.). Да *апа́чына* (гл.).

**Пачы́на**₂ (а магчыма, і *пачы́н* паводле ілюстратыўнага матэрыялу: *Насек на лугу 30 пачынаў лазы*) 'вязка лазы' (добр., Мат. Гом.). Рус. *почи-н-ок* 'расчыстка лесу'. Утворана пры дапамозе суфікса *-n-* ад асновы **kei-*, а не ад **ken-*, з якой народная этымалогія звязвае лексему *починок* (Аткупшчыкоў, Из истории, 141, 157 і 172).



**Пачы́нак**₁ 'пачатак' (светлаг., Мат. Гом.), 'новае поле на месцы ляда', 'закладка новага поля на лядзе, а пасля і пасялення', 'расцяроба гушчэвіны, падсека', 'булачка з хлебнага цеста' (навагр., Сцяшк. Сл.). Укр., рус. *почи́нок* 'пачатак', пск. 'першы кавалак хлеба, адрэзаны ад буханкі', ст.-рус. *починъкъ* 'пачатак', 'навасёлак', польск. *poczynek* 'учынак', н.-луж. *pocynk* 'тс', 'справа, дзеянне', *pocynki* 'звычкі', в.-луж. *počink* 'паводзіны', 'дзеянне', чэш. *počinek* 'пачатак', 'першая купленая рэч', ст.-слав. **починъкъ** 'пачатак'. Да прасл. *po-čęti*, бел. *пача́ць, пачына́ць* (гл.).

**Пачы́нак**₂, драг. *почы́нок*, астр., браг. *пачы́нка* 'пража, наматаная на верацяно або знятая з яго' (ТСБМ, Мядзв., Серб., Бір., Бес., Маш., Варл., Дэмб. 2; гродз., Шн. 2), 'дзве ручайкі, перавітыя на адно верацяно' (лях., карэліц., Янк. Мат.; слуц., Нар. словатв., дзярж., ст.-дар., Нар. сл.; Уладз., Федар. 6, Др.-Падб., Янк. 1, Сцяшк., Гарэц., Чач., Сл. Брэс.), 'вялікае верацяно, на якое перамотваюць пражу з малых верацёнаў' (Нас., Шат., Сл. ПЗБ; браг., навагр., З нар. сл.), 'верацяно з пражай' (Касп., Мат. Гом., Ян., ТС), 'клубок нітак, наматаны з адной вітушкі' (дзярж., Нар. сл.). Укр. *почи́нок* 'поўнасцю запоўненае верацяно', рус. кур. *почи́нок* 'тс', польск. паморск., сілез. *poczynek* 'вялікае верацяно з пражай', 'звітая пража з аднаго або з некалькіх верацён'. Усходнеславянска-польскае. Да *пача́ць*> *пачына́ць* (гл.): напрадзеная пража была нібыта асноваю будучага палатна, пачаткам — для асновы яе з пачынкаў звівалі ў клубкі, а для ўтоку — у маткі на матавіле. Аб суфіксе *-ак* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 23.

**Пачына́ць** — дзеяслоў незакончанага трывання ад *пача́ць* (гл.). Прасл. *počinati*<*počęti*<*čęti, čьnǫ* (Трубачоў, Эт. сл., 4, 109). Сюды ж *пачына́льнік* 'кіраўнік валачобнікаў; зачыншчык, запявала' (Нас., Грыг.), 'заснавальнік' (ТСБМ, Гарэц., Яруш.). Аб суфіксе *-льнік* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 52.

**Пачыні́ць** 'выпатрашыць' (хойн., Мат. Гом.), 'пачысціць рыбу' (карэліц., Нар. словатв.). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *чыні́ць* (<прасл. *činiti* 'укладваць па парадку'>'упарадкаваць'< прасл. *činъ* 'парадак, работа, належны спосаб').

**Пачыта́й** 'амаль', 'здаецца' (Нас.). З рус. *почитай* 'тс'. Семантычнае развіццё прасл. *čisti* 'меркаваць'>'лічыць'> 'чытаць' гл. *пачот*.

**Пачэ́каць** 'пачакаць' (воран., брасл., Сл. ПЗБ), петрык. *почэ́кать* 'тс'. З польск. *poczekać* 'тс' (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 473).

**Пачэ́пацца** (неадабр.) 'пасварыцца' (ваўк., Сцяшк. Сл.). З польск. *poczepić (się)* 'счапіцца'.

**Пачэ́пліць** 'прапасці' (жытк., Мат. Гом.). Відаць, да *чапа́ць*, параўн. валож. 'знішчаць' (Сл. ПЗБ).

**Пачэ́сны** 'ганаровы, які карыстаецца пашанай', 'які робіць гонар каму-н.' (ТСБМ; КЭС, лаг.; Нас.). Укр. *почéсний, почéстний*, рус. *почéстно́й*, польск. *poczesny*, н.-луж. *pocny*, в.-луж. *počestny*, чэш., славац. *počesthý*, серб.-харв. *пȍчасни*. Варыянт (магчыма, праславянскі) да прасл. *čьstьnъjь*< *čьstь*>*чэсць, чэсны* (гл.).

**Пачэ́рпаць** 'паесці' (экспр.), 'змясціць рой у раёўню' (воран., Сл. ПЗБ). Да *па-* і *чэрпаць* (гл.).

**Па́ша** 'выган, месца, дзе пасецца жывёла; выпас' (ТСБМ, Нас., Яруш., Др.-Падб., Бяс., Маш., Булг., Гарэц., Чуд., Мал., Шат., Касп., Варл., Сл. ПЗБ), 'трава на пашы' (Клім., Бес., ТС), 'аранне, ворыва' (Нас.), 'соты' (кіраў., Нар. сл.), 'корм для пчол' (раг., З нар. сл., Сл. ПЗБ), *па́жа* 'трава на папасе' (глус., Янк. 1; ТС). Укр. *па́ша* 'корм для скаціны', рус. *па́ша́*, бран., смал., і ёнаўск., прэйльск. 'луг, паша', зах.-бран. 'ворыва', польск. *pasza (pasia, paś, paśń, pasznia, pasidło, pastwa)* 'корм траваедных жывёл, лугавая расліннасць', 'паша', славац. *páša* 'паша', 'корм (падножны)', 'пасьба', славен. *páša*, серб.-харв. *па̏ша* 'тс', макед., балг. *паша* 'паша'. Прасл. *paša*< *pas-ja* (Праабражэнскі, 2, 31; Фасмер, 3, 223; Махэк$_2$, 436; Скок, 2, 614). Да *пасці, пасвіць, пастух* (гл.). Палес. *па́жа* — у выніку кантамінацыі лексем *паша* і *ежа*. Кюнэ (86) выводзіць бел. лесему з польск. *pasza*. Няма падстаў. Значэнне 'соты', 'корм пчол' — табу.

**Пашабанцава́ць** 'параскідаць' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Гукаперайма́льнае. Да *па-* (<прасл. *po-*), прэфармант *ша-* і *бэнцнуць* (гл.) (польск. *bęcnąć*<*bęc* 'бах!'). Параўн. прэфармант у *пашамата́ць* (гл.).

**Пашавэ́лак** 'неахайны' (астр., Сл. ПЗБ). Экспрэсіўнае ўтварэнне, якое, можна меркаваць, з *па-*<прасл. *po-* 'псеўда-' (параўн. укр. *па́кінь* 'нікудышні конь, шкапа, здыхляціна') і *шавяліцца*>'слаба шавеліцца'>'неахайны' (?).

**Пашало́хіваць** 'шалясцець' (Нас.), *пашаляхце́ць* 'патрэсці' (шчуч., Сл. ПЗБ). Да *шалахце́ць* 'мітусіцца, сноўдаць' (паст., там жа), *шалясце́ць* 'шастаць, шамацець, шапацець', *шаластуны́, шалястунэ́, шэлестуны́* 'шамкі' (Сл. ПЗБ) — (гл.). Усе — гукаперайма́льныя ўтварэнні, як укр. *шелестíти*, рус. *шелесте́ть, шелести́ть*, польск. *szelest, szeleścić*, 'чэш. *šelestiti*, славац. *šelestit'* і да т. п., а таксама ўкр. *шерестíти*, рус. *шорох*. Гэта інтэнсівы з суфіксам *-st-* ад гукаперайма́ння, якое перадае 'шамаценне, шастанне' (Міклашыч, 337; Махэк$_2$, 604; Фасмер, 4, 423).



**Пашалыга́ць** 'пачыкільгаць' (ашм., Сцяшк. Сл.). Відаць, гукаперайма́льнае. Магчыма, звязана з прасл. *čьlgati* 'поўзаць' (праз польск. *czołgać się* 'тс').

**Пашамата́ць**, драг. *пошымытáтэ* 'пазакідваць' (Нар. лекс.). З польск. *szamotać się* 'кідацца, рвацца, біцца', якое з прэфарманта *ше-* (*sze-*) і **мята́ць* (<прасл. *metati* 'кідаць'. Гл. яшчэ Брукнер, 540.

**Паша́на** 'павага' (ТСБМ, Гарэц.), *пашанаванне* (у выразе: *мець у пашанаванні*) 'шанаваць' (Нас.), дзярж. *пашанота* 'пашана, дагляд' (Нар. сл.), *пашанотны* 'шаноўны, прыстойны' (Нар. сл.). Да *шанава́ць* (гл.), якое з польск. *szanować*< ст.-польск. *szonować*<ням. *schonen* 'прыгожа з кім-н. абыходзіцца'<*schön* 'прыгожа' (Брукнер, 540).

**Пашанцэвік** 'баравік, Boletus edulis' (Сцяшк., Інстр. II), *пашанцэйкі* 'апенькі, Armillariella mellea' (Сцяшк.). Да *шанава́ць, шанціць, пашанціць* (Нас.; карэліц., Сл. ПЗБ), якія з польск. *poszańcować, poszansować* 'пашанцаваць'<*szansa* 'шанц'<ням. *Schanze* (с.-ням. *schanze, schantz*)>франц. *chance* 'тс' (Брукнер, 540).

**Пашано́тка** 'плётка' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Відаць, з *пашамотка*, якое з польск. *(po-)szamotać się* 'трымцець, біцца, пляскацца'. Канчатак, як у *плётка*.

**Паша́рак** 'рад, парадак' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Да *шар* 'рад' (гл.). Утворана паводле мадэлі *пара́дак*.

***Пашаро́шыцца**, бяроз. *пошоро́шыцца* 'зрабіцца шурпатым (пра цела)' (Шатал.). Да *па-* і *шарош, шэраш, шэрхнуць* (гл.)<прасл. *sьrx-/sorx-, sьrš-* (Махэк$_2$, 572; Фасмер, 4, 431—432).

**Паша́рпаць** вільн. 'паскубсці (пер'е)', ваўк., шvянч. 'падраць', шчуч. 'пакусаць' (Сл. ПЗБ). З польск. *poszarpać* 'раздзіраць адно за адным', 'рваць', 'тармашыць' (Мацкевіч, там жа, 3, 474).

**Пашару́нак** у выразе: *у адном пашарунку* — пра гаспадарчыя будынкі, якія ў адзін рад стаяць разам з хатай, пад адной страхой' (слонім., Шн. 3). Утворана пры дапамозе суфікса *-унак* ад $^+$*паша́рыць* 'паставіць у рад'<ням. *Schar* 'рад' (Мацэнаўэр, Cizí sl.,). Параўн. лоеў. *шар* 'бок вуліцы' (Ян.).

**Па́шары** 'кармы' (шальч., Сл. ПЗБ). Літуанізм. Параўн. літ. *pãšaras* 'корм для скаціны', *pašarai* 'кармы' (Грынавяцкене, там жа, 3, 474).

**Пашасну́ць** 'пахістаць' (Нас.). Да *па-* і *шаста́ць* 'хістаць, калыхаць', якое (як і ўкр. *ша́стати*, рус. *ша́стать* 'веяць зерне', польск. *szastać* 'рухацца з шумам'), паводле Праабражэнскага, (Труды ИРЯ, 1, 90) з'яўляецца гукаперайманнем.

**Пашаты́рыць** 'пацерці, памыць' (Ян.). Да *па-* і *шаты́рыць*, якое, відаць, утварылася ў выніку кантамінацыі лексем *шара-*

*ваць* і *церці* (гл.). Галосны *-ы-* прыдае экспрэсіўнасць, як бел. *удырыць* 'ударыць'.

**Пашвэ́ндзіць** (экспр.) 'пашанцаваць' (кругл., Жыв. нар. сл.). Скажонае *пашчэнціць* (<польск. *poszczęścić* 'тс') і *швэ́ндацца* (гл.) — параўн. ілюстрацыю: *Сёння майму каню пашвэндзіла: цэлы дзень пръгуляў.*

**Па́шка**₁, *па́шкі* 'расшчэпленыя дубчыкі, прыгатаваныя для пляцення кашоў' (свісл., Навагр., Сл. ПЗБ), 'скручаная лаза для прывязвання паплёту да крокваў', 'малады лісточак аеру, які дзеці ядуць' (свісл., Шатал.). Літуанізм. Параўн. літ. *pāšinas* 'стрэмка', *paškéti, pāškinti* 'трашчаць', *paškesỹs* 'трэск' (Арашонкава і інш., Весці, 4, 1969, 126).

**Па́шка**₂ 'падпаха' (сураж., Шн. 2). Укр. *па́шка,* рус. смал. *па́шка* 'падпаха', дан. 'наросхрыст'. Да *па́ха* (гл.).

**Пашкеліць** 'сварыцца' (Яруш.). Да *пашколіць* (<*па-* і *школа, шко́ліць* 'вучыць'). Аб мене *о*>*е* гл. Карскі (1, 154—158).

**Пашкода** 'шкода', 'псаванне', *пашкоднік* 'шкоднік' (Шпіл.). Беларускі рэгіяналізм. Да *па-* (<прасл. *pa-*) і *шкода* (гл.). Магчыма, гэта ўплыў балт. субстрату. Параўн. літ. *pagedìmas* і *gadìnimas* 'шкода' — *gadìnti* 'псаваць'. Аб семантычным супадзенні балтыйскіх і славянскіх дэрыватаў з прыстаўкамі *па-* (<прасл. *pa-*) і літ. *pa-, pó-,* лат. *pa-* гл. Борысь, Prefiks., 47.

***Пашкрэ́бач,** малар. *пошкры́бач, пушкры́бач* 'паскрэбак, апошняе дзіця' (Сл. Брэс.), *пушкрі́птач* 'тс' (Нар. лекс.), лун. *пошкрэ́бэц* (Шатал.), *пашкрэ́бка* 'тс' (ТС). Да *паскробак* (гл.) у выніку пераносу значэння паводле функцыянальнага падабенства. Параўн. таксама польск. *szkrab* 'карапуз'.

**Пашлэмаць** (іран.) 'пачыкільгаць' (свісл., Сцяшк. Сл.). Гукапераймальнае. Параўн. драг. *шлём! шлёматэ* 'шлэпаць' (Лучыц-Федарэц), *шлёпаць*<*шлёп!* (Чарнышэвіч). Параўн. бел. *шлэпаць.*

**Пашлюхтава́ць**₁ 'апрацаваць ніткі адварам ільнянога семя' (дзятл., Сцяшк. Сл.). З польск. *szlichtować* 'насычаць аснову тканіны спецыяльным крухмальным клеем'<ням. *schlichten* 'тс', 'згладжваць'.

***Пашлюхтава́ць**₂, *пошлюхтова́ць* 'пачысціць кішкі' (ТС). У выніку кантамінацыі *пашлюхтаваць*₁ і слова (магчыма, з ідыш), роднаснага да ням. *Schlick* 'ціна, гразкі іл'.

**Пашлямава́ць** 'пачысціць кішкі нажом' (гродз., Сцяшк. Сл.). Да *па-* і *шлямава́ць,* якое з польск. *szlamować* 'тс'< ням. *schlämmen* 'прамываць, ачышчаць'<*Schlamm* 'іл, гразь' (SWO, 730).

**Пашні́ца,** *пашны́ца,* пін. *пашны́ця; па́шня, пашня́,* зэльв., карэліц. *пашыня́* 'збажына, збожжавыя' (Булг., Выг., ТС, Янк. 1, Бір., Сл. ПЗБ; Доўн.-Зап., Пін.; вілен., барыс., Шн.; пін., Нар. лекс., ст.-дар., бялын., Нар. сл.; мазыр., Шн. 3), 'збожжа, рассыпанае для прасушкі' (Ян.), 'усе пасеяныя культуры', 'ворыва, ворная зямля, ралля' (Нас., Шат., Сл. ПЗБ), 'паша' (навагр., Сл. ПЗБ); 'збіраць мёд' у выразе: *Пчолы вядуць пашню* (Маш.). Укр. *пашня́, пашни́ця* 'збожжа', рус. *па́шня* 'поле', 'аранне', 'час ворыва', 'збожжавыя на корані', 'неабмалочаныя снапы', *пашни́ца* 'баразна', 'збожжавыя', 'час ворыва і жніва', ст.-рус. **пашьнꙗ.** Усходнеславянскае. Да *паха́ць* (гл.). Утворана пры дапамозе суфікса *-ьн'а* (Слаўскі, SP, 1, 138).



**Па́шпарт** 'дакумент для пасведчання асобы', 'пасведчанне з асноўнымі звесткамі пра прадмет, машыну' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'білет, пропуск' (Шпіл.), ст.-бел. *пашпортъ* 'пашпарт' (1638 г.) запазычаны са ст.-польск. *paszport,* якое са ст.-франц. *passeport* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 35; Кюнэ, 86).

**Пашпа́рыць**₁ 'хутка пайсці' (в.-дзв., Шатал.). Да *па-* і *шпаркі* (гл.). Аналагічна літ. *skúosti* 'хутка пайсці' (<*skubùs* 'паспешны, шпаркі', *paskubà* 'паспешнасць').

**Пашпа́рыць**₂ 'кінуць, шпурнуць' (дзярж., Нар. сл.). Балтызм (?) Параўн. брасл. *шпа́рґацца* 'кідацца', раг. *шпа́рґаць* 'кідаць чым-н., шыбаць, шпурляць' (Сл. ПЗБ), роднасным да якіх Грынавяцкене (там жа, 5, 495) лічыць літ. *spirgė́ti* 'кідацца'. Галосны *-á-* з *-i-,* дзякуючы наступнаму *-r-.*

***Пашпудзі́ць,** драг. *пошпуды́ты* 'шпурнуць, кінуць з размаху' (Клім.). Да *па-* і ⁺*шпу́дзіць,* якое ўтварылася ў выніку кантамінацыі лексем *шпурну́ти* 'шпурнуць' і *пу́дыты* 'пудзіць, гнаць', параўн. і драг. *пэ́ндыты* 'імкліва бегчы, ляцець'<польск. *pędzić* 'тс'. Да прасл. *pǫditi*>*пу́дзіць (гл.). Больш падрабязна гл. Фасмер, 3, 402; Махэк*₂, 497.

**Пашпэ́ціць** 'сцягнуць, паморшчыць' (ваўк., Сцяшк. Сл.). Да *па-* і *шпэціць* 'рабіць непрыгожым, брыдкім'<польск. *szpecić* 'псаваць выгляд, брыдзіць' (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 5, 498), *(o)szpacić*<ням. *Spath* (Брукнер, 553). Махэк₂ (620) жа звязвае чэш. *špatný* (з першасным значэннем 'слабы') паходжаннем з літ. *pèsti, pentù* 'знясільвацца, стамляцца', да якога дадавалася ўзмацняльная прыстаўка *š-.*

**Пашо́ччы** 'пайшоўшы' (Нас.). З кароткага дзееприметніка жан. роду *по-шьдъши.* Да *хадзі́ць* (гл.).

**Паштакава́ць** (экспр.) 'аблізаць' (нараўл., Жыв. нар. сл.). Відаць, з *пакаштава́ць* 'паспытаць на смак'.

**Пашта́мт** 'галоўная пошта горада' (ТСБМ). Праз рус. *почтамт* або праз польск. *pocztamt* з ням. *Postamt* 'тс'. Спалучэнне *-чт-* на бел. глебе змянілася ў *-шт-* (як у *пошта*).

**Пашталтне́ць** 'набыць страшнейшы выгляд' (Варл.). З польск. ⁺*po-kształtnieć*<*kształt* 'форма, выгляд, від'.

***Паштáр,** *поштáр* 'званец летні, Rhinantus L. aestivalis (Zing)', 'званок на дузе' (ТС). Да *пошта* (гл.). Краска названа паводле падабенства формы кветкі да званочка, прымацаванага на дугах вупражы паштовых карэт.

**Паштó** 'нашто' (Касп.; ашм., Сл. ПЗБ; браг., Шатал.). Рус. паўн., сіб. *поштó* 'тс'. Бел. лексема можа быць не толькі запазычаннем з рус. мовы, але і калькай з польск. *po co* 'тс', 'чаму'.

**Паштоўка** 'адкрытае пісьмо' (ТСБМ). З польск. *pocztówka* 'тс'.

**Паштырыць,** *вы́штырыць, праштырыць, штырыць* 'гнаць; выганяць, выправоджваць сілай' (дзярж., Нар. лекс.). Лексема *штырыць* генетычна роднасная з такімі, як *(вы-)турыць, штурхаць,* рус. *тóркать* 'штурхаць, біць', якія да прасл. *tъrk-, stъrk-* гукапераймальнага паходжання (Фасмер, 4, 83).

***Паштыхавáць,** *поштыховáць* 'адцягнуць каваннем' (ТС). З польск. *posztychować<sztych* 'вастрыё', 'шво, строчка', з якога (ст.-польск.) і ст.-бел. *штыхъ* 'вастрыё' (XVI ст.). Усе з с.-в.-ням. *stich* 'тс' (Брукнер, 556; Булыка, Запазыч., 371).

**Паштэ́т** 'страва, працёртая да пастападобнага стану' (ТСБМ), ст.-бел. *паштэтъ* 'тс' (1645 г.) запазычана са ст.-польск. *pasztet* 'тс', якое з ням. *Pastete* 'тс', 'піражок' (Брукнер, 398; Булыка, Лекс. запазыч., 116)<італ. *pastetto* 'тс' (Даль, 3, 63). Апошнія разам са ст.-франц. *pastée* (>франц. *pâté*) узыходзяць да с.-лац. *pastāta* 'ежа з мяса, загорнутага ў цеста' (Клюге$_{12}$, 434).

**Пашуґáць** 'пакалыхаць' (в.-дзв., Шатал.), *пашýгаць* 'пакалыхаць' (свісл., Сцяшк. Сл.). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *шугаць* 'люляць, калыхаць' (ваўк., шчуч.), ганц. *шугацца* 'гушкацца', маст. *шугалка* 'арэлі' (Сл. ПЗБ), якія можна генетычна суаднесці з літ. *šukúoti* 'часаць' (<'рабіць рух туды і назад').

**Пашýпіцца** 'пашанцаваць, удацца' (Чач.). Да *па-* і *шýпіць* 'разумець', *зшýпіць* 'скеміць', *шýпкі* 'кемлівы', якія Насовіч (719) генетычна супастаўляе з літ. *spėti* 'паспяваць', лац. *sapere* 'быць памяркоўным, разумным'.

**Пашурмавáць,** *шурмавáць* 'выказваць незадавальненне, лаяцца' (дзярж., Нар. сл.). Балтызм. Параўн. літ. *šurmulỹs* 'шум, гамана, крык', *šurmuliúoti* 'шумець'.

**Пáшча** 'рот звера, рыбы' (ТСБМ). Укр. *пашча* 'ляпа, зяпа'. Бел.-укр. ізалекса. Утворана пры дапамозе суфікса *-t'a* ад назоўніка *pas-tь* 'пастка' (першасная форма *pad-tь*)<*pasti*> *пáдаць, упáсці* (гл.), параўн. рус. *прóпасть* 'прорва, бездань', паўн.-сіб. *пащь* 'пастка на пясца'. Гл. таксама *пáстка.*

**Пáшчака** 'ніжняя сківіца' (Нас.), малар. *пáшчэка* 'сківіца ў воўка' (Нар. лекс.), *пáшчыкі* 'сківіцы' (нараўл., Мат. Гом.). Укр. *пащéка* 'пашча, скулы на твары', рус. *пáщеки, пащекú*



'сківіцы', ярасл. 'латкі на кажусе', польск. *paszczeka* 'пашча, зеў', чэш. *paštěka* 'пашча, жарало'. Паўн.-славянскае. Да *па-* (<прасл. *pa-*) і *ščeka* 'шчака', якое з'яўляецца роднасным да ст.-ісл. *skegg* 'барада, нос судна', *skagi* 'мыс' (Педэрсэн, MPKJ, 1, 171; Брукнер, AfslPh, 28, 569; Фасмер, 4, 499). Гл. таксама *пашчэнка.*

**Пашчаля́ць** у выразе: *зубы пашчаля́ць* 'павыбіваць' (Ян.). З польск. *po-strzelać* 'пастраляць'.

***Пашчáўвацца,** *пошчáўвацца* 'сплюшчыцца' (ТС). Да *па-* і +*с-чаўлівацца* 'пасціскацца'. Да **чавíць, чавóтэ* 'ціснуць' (гл.).

**Пашчока** 'аплявуха' (Нас.). Са словазлучэння *па шчацэ.* Гл. *па* і *шчака.*

**Пашчопка** 'дрывотня', 'месца, дзе рэжуць, колюць, а часам і складаюць дровы' (Бір.; чырвонасл., З нар. сл.). Да *па-* і *шчапáць* 'шчапаць лучыну', 'калоць дровы' (гл.), якое да прасл. *ščep- (/skoip-/skeip-/skip-).* Параўн. роднасныя і.-е. паралелі: літ. *skẽpsnė* 'акравак', *skẽpeta, skẽpetas* 'ануча', 'хустка', лат. *šķẽpele* 'асколак', ст.-грэч. σκάπτω 'рубаю', ст.-в.-ням. *skaft* 'дзіда' (Фасмер, 4, 503).

**Пашчóтаваць,** *пашчоґаць* 'палічыць' (Нас.). Да +*шчоты* 'лічыльнікі'<рус. *счёты* 'тс'. Гл. таксама *пачот.*

**Пашчулáкаць** 'вылушчыць' (віл., Сл. ПЗБ). Да *па-* і *шчалукáць*<*шчалкáць* 'лушчыць' (валож., Сл. ПЗБ), рус. *щелкать,* якое, паводле Гараева (428), ад *щель* 'шчыліна'. Фасмер (4, 501) дапускае гукаперайманне (<*щёлк!*).

**Пашчы́на** 'рошчына' (ветк., Мат. Гом.). Утварылася ў выніку кантамінацыі лексем *рошчына* і *пачын* +'пачатак хлеба'.

***Пашчэ́дрыцца,** *пошчэ́дрыцца* 'памножыцца' (ТС), *пашчэдраць* 'тс' (смал., маг., Бяс.). Да *па-* і *шчадрыцца*<*шчадрэц* 'шчодры вечар'. Звязана з павер'ем, што калі на шчодры вечар кладуць грошы пад абрус і сена на стале, то ў новым годзе яны будуць множыцца (гл., напрыклад, ілюстрацыю ў ТС, 5, 343).

**Пашчэ́нка,** *пáшчанка, пашчэ́нька, пашчомка, пашчэ́мка, пашчэ́мкі* 'сківіца, сківіцы' (Чач., Др.-Падб., Гарэц., Сцяшк., Сл. ПЗБ; гродз., Мат. АС; слон., Нар. сл.; навагр., З нар. сл.; смарг., воран., Шатал.; гродз., КЭС; маладз., Янк. Мат.), навагр. *пасцéнкі,* шчуч. *пашчэ́нкі* 'тс' (КЭС), *пáшчэнга* 'сківіца ў воўка' (малар., Сл. Брэс.), *пашчэнка* 'пашча' (Бес.). З польск. *paszczęka* 'пашча, зеў', якое з першаснага *paszczeka* 'тс'. Гл. таксама *пáшчака.*

**Пашшáк** 'чарвякі ў заднепраходняй кішцы ў коней' (Нас.). Відаць, да *пастка* (гл.)>*пастчак*>*пашчак*>*пашшáк.* Аб суфіксе *-'ак* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 146.

**Пáшыбак** 'палка' (калінк., Мат. Гом.), навагр. *пашыбáк* 'палка, якой можна кінуць' (З нар. сл.). Рус. пск., цвяр. *пáши-*

*бок* 'асколак, абломак чаго-н.', 'рэзкі удар'. Да *па-* (<прасл. *pa-*) і *шыбáць* (<прасл. *šibati* 'біць, кідаць'), адпаведнікам якога з'яўляецца літ. *šiùpės* 'дробныя кавалкі, крошкі', *šiupěti* 'крышыцца, драбіцца'. Суфікс *-ъkъ* надае значэнне выніку дзеяння (Борысь, Prefiks., 30).

**Пашыбáць** 'быць падобным на каго-н.' (рэч., Мат. Гом.). З рус. *пошибáть* 'тс'.

**Пашыбéнь** 'ухабістая дарога' (вілен., Яшк.). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *шыбáць* 'кідаць, шпурляць' (гл.). Аб суфіксе *-ень* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 39.

**Пашыбні** 'галушкі' (смарг., Сл. ПЗБ). Да *па-шыбáць* 'біць, збіваць'. Утворана аналагічна (па семантыцы), як літ. *kukùlis* 'галушка' ад *kùkti* 'гнуцца, згінацца', *gražùlis* 'тс' ад *grąžýti* 'выкручваць, выціскаць', 'круціць'. Аб суфіксе *-ень* (са значэннем 'вынік дзеяння') гл. Сцяцко, Афікс. наз., 39.

**Пашыбнýць** у выразе *ліха яго пашыбі!* 'ударыць' (пух., Сл. ПЗБ; Грыг.). Да *па-*(<прасл. *po-*) і *шыбáць* 'біць, ударацъ, кідаць' (гл.)>прасл. *šibati* (Фасмер, 4, 435; Махэк₂, 607).

**Пашы́на,** *пашы́ннік, пашы́нік, пашэ́нік* 'галлё, якім усцілаецца дарога ў нізкіх месцах' (Клім.; паст., Сл. ПЗБ), 'галлё, якім накрывалі лён пры замочванні' (рас., Шатал.; Жыв. нар. сл.; віц., навагр., ДАБМ, 879), 'сукі дрэва або зрубленыя маладыя дрэвы з галінамі' (Касп.). З польск. *faszyna* 'звязка галля', якое з ням. *Faschine*<італ. *fascina* 'тс'<лац. *fascis* 'пучок' (Мацэнаўэр, Cizí sl., 155; Брукнер, 119; Фасмер, 4, 188). Шчуч. *пашына* 'хваёвая і яловая ігліца' (Сл. ПЗБ) названа паводле функцыі ('галлё'), магчыма, з *пашыпá* (гл.) ці *+па+шып'ё*.

**Пашыпá** 'ігліца' (іван., Сл. Брэс.). Да *па-* і *шыпá* (*шып'ё, шыпýль*), роднаснымі да якога будуць літ. *šiùpės* 'дробныя кавалачкі', *šiupěti* 'крышыцца'. Параўн. таксама палес. *шыпотá* 'шыпулька, ігліца'.

**Пашыпулíць** 'пайсці малымі крокамі' (свісл., Сцяшк. Сл.). Да *па-* і *шыпýліць* 'дробна шчапаць, калоць дровы'<*шыпуль* 'трэска, аскепак'<літ. *šipulỹs* 'тс'.

**Пашыхавáць,** *пошыховáць*, драг. *пошыхувáтэ* 'пашанцаваць' (астрав., Сцяшк. Сл.; ТС; Лучыц-Федарэц). Праз польск. *poszykować* 'тс' з ням. *Schickung* 'лёс'.

**Пашы́цца** 'пабегчы', 'падлезці', 'панамятацца (пра снег)' (ганц., Сл. ПЗБ). Укр. *пошúтися* 'лезці, праслізгваць, нырнуць', польск. *pomknąć* 'паімчацца', 'убіцца, зашыцца паміж чым-н.'. Да *па-* і *шыць, шы́цца* (гл.).

**Пашэ́ндзіць,** *пашэ́нціць, пашэ́ньціць* 'пашанцаваць' (Нік., Очерки; Шат.; паст., смарг., Сл. ПЗБ; петрык., Мат. Гом.; астрав., Сцяшк. Сл.; Яруш., Касп.). Утварылася ў выніку кантамінацыі лексем польск. *poszczęścić* і *шанц* (гл.).



***Пашэ́ўля,** лун. *пошэ́ўля* 'салома на вільчыку' (Нар. сл.). Палескае. Да *па-шы́ць, па-шывáць*<*шыць* (гл.). Суфіксу *-эў-ля* ў літаратурнай мове адпавядае *-оўля: галадоўля, гадоўля,* у ц.-палес. гаворках *-іўля:* драг. *годúўля, зымíўля, купíўля.*

**Паэзія** 'вершаваная творчасць, вершаваныя творы', 'прыгожае, узвышанае' (ТСБМ). З польск. *poezja* 'тс' (пасля XVIII ст.), якое з лац. *poēsis*<ст.-грэч. ποίησις 'творчасць'<ποιέω 'раблю, ствараю' (Фасмер, 3, 350). Варш. сл. (4, 452) падае франц. *poésie* ў якасці крыніцы запазычання польскай лексемы.

**Паэт** 'аўтар вершаваных твораў' (ТСБМ). З рус. мовы (магчыма, у XX ст.), у якой слова *поэт* праз франц. *poète* ці ням. *Poet* паходзіць з лац. *poēta*<ст.-грэч. ποιητής 'вытворца, стваральнік, складальнік (вершаў)'. Аднак ст.-бел. *поета, поэта* 'паэт' (1540) — праз ст.-польск. *poeta* з лац. *poēta* (Булыка, Лекс. запазыч., 159).

**Паюргóнія** 'герань, вазон' (мядз., Жыв. сл.) — скажонае (пад уплывам *юргíня*) *пеларгóнія*, якое паходзіць са ст.-грэч. πελαργός 'бусел'.

**Пáюсны** (аб ікры) (ТСБМ). З рус. *пáюсный,* якое з *пáюс* 'торбачка з ікрой у рыбы'<ст.-рус. *паюзъ*<прасл. *pa-ǫzъ*< *vęzati*>*вязаць* (гл.) — Трубачоў, ЭИРЯ, 2, 1962, 32—34; Этимология-1976, 168; Борысь, Prefiks., 18—20.

**Пая́ва** 'з'яўленне' (чач., Мат. Гом.). Да *па-* (<прасл. *po-*) і *я́ва*<прасл. *ava*> прыслоўе *avě*>*aviti* 'з'явіцца, адкрыць, паказаць', найбліжэйшым і.-е. адпаведнікам для якіх будуць літ. *ovytis* 'з'яўляцца', 'з'яўляцца ў сне', ст.-інд. *āvíḥ*, авест. *āviš* 'адкрыта' (Міклашыч, 101; Бернекер, 1, 34; Слаўскі, 1, 527; Махэк, 178; Фасмер, 4, 540—541; Трубачоў, Эт. сл., 1, 94—95).

**Паядáць** 'з'есці, паесці' (дзярж., Нар. сл.). Да *па-* (<прасл. *po-*) і ітэратыўна-дуратыўнага дзеяслова *ядáць*<прасл. *ědati*<*ěsti, ědmь* 'есці, ем' (<і.-е. **ēd-*)>*éсці* (гл.).

**Паядзінка** 'аднаствольная стрэльба' (хойн., Мат. Гом.). З польск. *pojedynka* 'тс'.

**Пая́дзісты** 'смачны' (свісл., Сцяшк. Сл.) паводле ўтварэння можна параўнаць з літ. *pavalgùs* 'які шмат есць'. Да *па-* і *éсці* (гл.).

**Паядýха** 'вадкая страва' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *па-ядáць*< *éсці* (гл.). Аналагічнае аддзеяслоўнае ўтварэнне — рус. *похлёбка* (<*по-хлебáть*).

**Паяды́нак** 'баявая сутычка двух праціўнікаў' (ТСБМ), ст.-бел. *поединокъ, поедынокъ* (XVII ст.) 'тс' запазычаны са ст.-польск. *pojedynek* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 66).

***Паядынкам,** ст.-бел. *поединкомъ, поедынкомъ* 'паасобку,

асобна' (1578 г.) запазычаны са ст.-польск. *pojedynkiem* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 200).

**Паядынкі** 'лёгкія сані' (ваўк., Сцяшк. Сл.). З польск. *pojedynka* 'аднаконная брычка'. Множны лік пад уплывам лексемы *сані*.

**Паядынчы** 'аднаконны, адзіночны' (бераст., Сцяшк. Сл.). З польск. *pojedynczy* 'на 1 асобу'.

**Паязд** 'воз з рысорным сядзеннем', 'вясельны поезд — усе вазы з вясельнікамі' (Касп.), дзярж. 'воз, павозка' (Нар. сл.). З польск. *pojazd* 'тс'<*(po)jeździć* 'ездзіць' (гл.).

**Паязджане**, *паязжане* 'дружына жаніха' (Інстр. II, Касп.). Да *паязд* (гл.). Аб суфіксе *-ěn-inъ, -jan-inъ* гл. Слаўскі, SP, 1, 119.

**Паяздка** 'паездка' (шчуч., Сл. ПЗБ). З польск. *pojazdka* 'тс'.

**Паязды** 'выязны конь' (віл., Сл. ПЗБ). З польск. *pojeździć*>*pojazd*>*паязд* (гл.).

**Паяндорыць** 'пацягнуцца, пайсці' (брасл., Сл. ПЗБ). Няясна. Сувязь з рус. чалябінск. *ёндать* 'швэндацца, хадзіць без справы' з'яўляецца праблематычнай.

**Паянціна**, *панціна* 'выступ з доўгай шэрсцю на назе каня ззаду над капытом' (гродз., Нар. сл.), *паянчына* 'клок поўсці, напрыклад, каля капыта' (шчуч., Сл. ПЗБ). З польск. *pajęczyna* 'павуціна'. Перанос значэння паводле падабенства. Гл. таксама *пайць*.

**Паянчына**, *паянчыня* 'павуціна' (ігн., швянч., Сл. ПЗБ). З польск. *pajęczyna* 'тс'.

**Паярак**, *паяркі* 'вясенняя воўна ад першай стрыжкі ягнят', 'ягняты, якіх стрыгуць упершыню', 'маладыя авечкі' (ТСБМ, Уладз., Касп.). Укр. *поярок* 'воўна з маладых ягнят', рус. *поярок* 'воўна ягнят першай стрыжкі'. Усходнеславянскае. Узнікла з выразу **поарѣ** 'пасля вясны'. Да *па* (<прасл. *po-*) і *яравы* (гл.). Магчыма, калісьці было пашырана і ў іншых славян, параўн. польск. *jary* 'вясенні, першай стрыжкі (пра воўну)' (Фаліньска, Pol. sl. tkackie, 1, 87).

**Паярываць** 'даіць' (браг., Мат. Гом.). Да *па-* і *ярыць*< прасл. *jariti (sę)*, з якім разглядаемая лексема звязваецца значэннем 'пеніцца, бурліць', якое мае славен. *jariti se*.

**Паяс**, мн. л. *паясэ* 'пояс', 'перакладзіна ў драўляным ложку', 'брус паміж кроквамі' (ст.-дар., Нар. сл.; Сл. ПЗБ), воран. 'клінападобны папярочны драўляны брусок для змацоўвання дзвярных дошак' (Шатал.). Да *пояс* (гл.). Пад уплывам лексемы *пас* націск на *-я-*. Сюды ж *паясясты* 'паласаты' (астрав., Сл. ПЗБ) — пад уплывам польск. *pasiasty* 'тс', а воран. *паясаваты* (Сл. ПЗБ) 'тс' — пад уздзеяннем польск. *pasowaty* 'тс'.

**Паясніца**, *поясньца, поясніца, паесніца* 'частка спіны крыху-



ніжэй пояса', 'паласа тканіны, пояс у спадніцы, штанах' (ТСБМ, Бес.; пух., бяроз., кам., стаўб., навагр., арш., мазыр., хойн., КЭС; Касп.), 'нашыйнік (у жывёл)' (карэліц., Сл. ПЗБ). Да *пояс* (гл.). Аб суфіксе *-ніц-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 164.

**Паяц** 'блазен, клоўн' (ТСБМ). З рус. мовы *(паяц)*, куды трапіла з франц. *paillasse* 'тс'<італ. *pagliaccio* 'тс'>'мех саломы'<лац. *palea* 'салома'. Назва пайшла ад касцюма блазна ў неапалітанскай народнай камедыі (Мацэнаўэр, LF, 12, 184; Праабражэнскі, 2, 32; Фасмер, 3, 224).

**Паяць** 'злучаць металічныя часткі пры дапамозе расплаўленага металу' (ТСБМ). Укр. *паяти*, рус. *паять* 'тс', ст.-рус. *паяти* 'каваць'. Узыходзіць да прасл. *sъ-pojiti*, параўн. польск. *spoić*, чэш. *pojiti, spojiti* 'злучаць', славен. *spojiti*, серб.-харв. *спојити*, ц.-слав. **съпоити** 'злучаць, звязваць, спаяць' (Фасмер, 3, 224). Далей зближаюць з *паіць, піць* (Махэк₂, 427; Кіпарскі, ВЯ, 1956, 5, 135), пацвярджаючы наступнымі паралелямі: фін. *juottaa*, эст. *joota* абазначаюць 'паіць' і 'паяць' — метафарычна гэта выражалася такім чынам: абодва кавалкі нібыта «напойваліся» кроплямі растопленага металу.